УДК 821.161.3-3
ББК 84 (4Беи)
С 11

Укладанне, прадмова і каментар
Уладзіміра Конана

ISBN 978-985-6852-66-7



# РЫЦАР БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

Адам Станкевіч належыць да тых слаўных рыцараў рэлігійнага і нацыянальнага адраджэння Беларусі, якія апошнімі вяртаюцца ў нашу культурную традыцыю. Бальшавікі помсцілі яму пры жыцці за ахвярную службу Беларусі, замучыўшы ў далёкай расійскай глыбінцы. Помсцілі і пасля пакутніцкай смерці паклёпамі і лаянкай, а найбольш — «інфармацыйнай блакадай», забаронай навуковай і літаратурнай спадчыны, замоўчваннем самога імя Адама Станкевіча. Бальшавікі ды іхнія сённяшнія спадкаемцы не могуць даравацца яму найперш трох рэчаў: беларускага каталіцтва, беларускага патрыятызму і службы Маці-Радзіме ў трагічныя 1939–1945 гг.

Адам Станкевіч прыйшоў у гэты свет на Куццю 1891 года, 24 снежня паводле старога стылю, у сям'і сялян-паўвалочнікаў вёскі Арляняты Крэўскай воласці Ашмянскага павета. Шчодрая на таленты Нальшчанская зямля лучыць цяперашнія Ашмянскі, Астравецкі, Смаргонскі раёны, частку суседскіх раёнаў. Зямля летапіснай Літвы дала беларускаму народу шмат выдатных людзей, у тым ліку ксяндзоў і пісьменнікаў Кастуся Стаповіча (Казіміра Сваяка), Аляксандра Астрамовіча (Андрэя Зязюлю), Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага), Янку Семашкевіча (Янку Быліну). З тых жа Арлянятаў падаліся ўвысь аж тры беларускія дзеячы Станкевічы: Адам, Янук і Станіслаў. Тры арлы з аднаго гнязда! Арляняты абкружаны слаўнымі ў беларускай гісторыі мясцінамі: ад гэтай вёскі сем кіламетраў да Крэва, дванаццаць — да Вішнева, сем — да Багданава, дванаццаць да Гальшан, шэсць — да Барунаў, дваццаць шэсць на ўсход ад Ашмянаў.

«Бацькоўская сядзіба Адама, — успамінаў Ян Шутовіч, — з краю вёскі. Ягоную радню звалі завыганскімі. Гэтае аднаселле ляжыць над тэй жа рэчкай Ластаёй, у вяночку ліпаў, клёнаў, бярозаў,

вольхаў»*. Бацька ягоны Вінцэнт умеў чытаць і пісаць па-польску і па-руску, маці Антаніна з Дасюкевічаў, паводле характарыстыкі таго ж Я. Шутовіча, «з натуры бойкая, інтэлігентная, глыбока рэлігійная, уражлівая», чытала па-польску. З дзяцінства ў душы Адама складвалася тонкае адчуванне ўсходнеславянскай культуры. Сам ён прызнаваўся, што жывей адчувае малітвы славянскія, з якімі практычна не мае нічога супольнага, чым лацінскія, з якімі штодня спатыкаецца.

Усё жыццё Адам моцна любіў сваю зямлю, глыбока адчуваў яе красу. Лес, рэчка, луг, ніва — вось што яго заспакойвала і вяртала яму страчаныя сілы. Калі надарыцца вольная часіна, ехаў у свае Арляняты. «Прыпомніш мінулае, — успамінаў ён, — паходзіш па старых, так знаёмых сцежках, абыдзеш па некалькі разоў у дзень усе тыя палі, гаі, а нават паасобныя кусты і дрэвы, якія хараством сваім парывалі мяне ў краіну нейкага нязнанага, страшнейшага і лепшага жыцця...»**.

Летам малы Адась пасвіў кароў з кніжкаю ў руках, зімою вучыўся ад вясковых грамацеяў. Ад сваіх бацькоў і вяскоўцаў пераняў культ свайго роду, містыку штодзённай працы. На дзесятым годзе паступіў у Барунскую царкоўнапрыходскую школу. У школе выбівалі з дзіцячых галовак кожнае беларускае слова. Адась жа атрымаў аплявуху ад настаўніка за тое, што перахрысціўся па-каталіцку ўсёй пяцярнёю. Але вучыўся старанна, у царкоўным дзіцячым хоры спяваў стройным дыскантам.

Праз год па прапанове мясцовага ксяндза і са згоды бацькоў Адась перавёўся ў народную школу пры касцёле ў Гальшанах, вучыўся там у 1902–1904 гг. Вельмі дзівіўся, што і тут па загаду цара вучылі па-расейску. Жыў у сям'і шаўца, людзей ціхіх, працавітых і набожных. Яны палюбілі добрага хлопчыка і даглядалі яго, як сына. Вечарамі чытаў гаспадарам кніжкі і газеты. Вось як характарызуе Адася-вучня ягоны біёграф: «Быў ён хлопец працавіты, старанны і пільны да навукі, але разам дужа жывы, шалаўлівы, вяртлявы і таварыскі. Тады ж у школе захапіўся містэрыяй касцельнай службы, любіў набажэнства і паслугоўваў на імшы. У 1904 годзе добра здаў экзамены ў суседняй Багданаўскай школе»***.

Няпоўную сярэднюю адукацыю А. Станкевіч атрымаў у Ашмянскай гарадской вучэльні (1904–1908).

* Шутовіч, Я. На пройдзеным шляху // Адам Станкевіч: У 25-я ўгодкі сьвятарства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.1.1915–10.1.1940). — Вільня, 1940. — С. 14.

** Тамсама. — С. 21–22.

*** Stankievič, A. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys. — Vilnia, 1939. — S. 60–61.



Летам 1908 года юнак працаваў на бацькоўскай гаспадарцы, начлежнічаў з вясковай моладдзю, у вольную часіну чытаў кніжкі, дапамагаў у набажэнствах ксяндзам крэўскага і гальшанскага касцёлаў. Пазнаёміўся са студэнтам Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі ксяндзом Адамам Лісоўскім, пад яго ўплывам пачаў рыхтавацца да святарства. У 1909–1911 гг. здаў у Маскве экзамен за чатыры класы гімназіі і ўступныя экзамены ў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю.

Гады вучобы ў Вільні (1910–1914) — цэнтры беларускага адраджэнскага руху — канчаткова далучылі ўражлівага юнака да роднай культуры. «Наша ніва», творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, палымяная публіцыстыка і агітацыя Вацлава Ластоўскага, Івана і Антона Луцкевічаў моцна захапілі Адама. Беларускаму адраджэнню дапамагалі віленскія біскупы Юргіс Матулявічус і Эдвард Роп. З дазволу рэктара семінарыі Адам заснаваў беларускі гурток і бібліятэчку, наладжваў беларускія вечарыны.

Каталіцкая духоўная семінарыя ў Вільні на пачатку XX ст. была, як казаў А. Станкевіч, «цвярдыняй польскасці». Але туды паступалі вучыцца беларускія сялянскія сыны. Тут вучыліся вядомыя беларускія адраджэнцы — ксяндзы Ф. Грынкевіч, Я. Семашкевіч, У. Талочка, рэдактары-выдаўцы першай беларускай каталіцкай газеты «Беларус» (1913–1915) А. Бычкоўскі і Б. Пачопка. «Прыбыў я ў семінарыю, — успамінаў А. Станкевіч, — ужо цалкам свядомым беларусам»*.

З-за маладых гадоў выпускніка семінарыі Адама не адразу паставілі ў ксяндзы. Семінарскія настаўнікі рэкамендавалі яму паступіць у Петраградскую каталіцкую акадэмію. Ваеннай восенню 1914 года ён выехаў у Петраград цягніком, які быў абстраляны нямецкай артылерыяй. У акадэміі адразу ж далучыўся да Беларускага гуртка, створанага студэнтамі В. Гадлеўскім, А. Цікотам, П. Пякарскім, С. Шырокім, Я. Жаўняровічам. Гурток афіцыйна аформіўся ў кастрычніку 1913 года (старшыня П. Пякарскі, сакратар В. Гадлеўскі). Агульныя сходкі адбываліся на кватэры ксяндза Ф. Будзькі, на іх бывалі не толькі акадэмісты, але і свецкая моладзь (Б. Тарашкевіч, К. Душ-Душэўскі, Тамаш Грыб, Лявон Заяц, Язэп Варонка). Княгіня Магдалена Радзівіл падарыла гуртку 100 рублёў на беларускую бібліятэку. Прафесар Б. Эпімах-Шыпіла выкладаў старагрэцкую мову ў каталіцкай Акадэміі і лацінь на агульнаадукацыйных курсах Чарняева, быў навуковым кіраўніком Беларускага гуртка, бываў на яго сходках, памагаў студэнтам кансультацыямі, а бяднейшым і грашыма.

У 1916–1918 гг. Беларускім гуртком кіраваў Адам Станкевіч. Ён пашырыў асветніцкую працу гуртка, заснаваў секцыі гісторыі Бела-

* Stankievič, A. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys. — S. 60–61.

русі, літаратуры, музыкі і песні. Асветная праца вялася пад дэвізам «З Богам, для народа!». Ужо тады пачалася напрацоўка ідэй філасофіі, сацыялогіі, тэалогіі і палітыкі беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху.

У Каталіцкай акадэміі А. Станкевіч публічна абараніў тэзісы па тэалогіі, здаў экзамены на кандыдата багаслоўя. Там жа рыхтаваў магістэрскую дысертацыю «Doctrina S. Thomas Aquinatis de familia respectu habito modernate theoriae liberae unionis» («Вучэнне св. Томаша Аквітанскага пра сям’ю параўнальна з сучаснай тэорыяй вольнага саюза»). Аднак страціў цікавасць да гэтай тэмы і не закончыў яе, застаўся ў званні кандыдата тэалогіі. Грунтоўна вывучаў філасофію, сацыялогію, гісторыю, прыродазнаўства, нямецкую, французскую і літоўскую мовы.

У 1917 годзе біскупам віленскім быў гуманны Эдвард Роп. Сваё служэнне ён пачаў з наведвання касцёлаў дыяцэзіі летам таго ж года. Сярод іншых беларускіх ксяндзоў яго візітацыю на Віцебшчыну суправаджаў А. Станкевіч. Першая біскупская імша адбылася ў Дзісненскім касцёле 21 ліпеня. Вернікі рыхтаваліся пачуць беларускае слова з амбоны, сабралася шмат народу — не толькі католікоў, але і праваслаўных. На пытанне дзісненскага ксяндза, ці можна гаварыць да народа па-беларуску, біскуп адказаў: «Не толькі можна, але і трэба». Казанне даручылі ксяндзу, студэнту Каталіцкай акадэміі Адаму Станкевічу.

Вось як успамінаў ён пазней гэтую падзею: «Радасць мая была неапісаная. Хацелася плакаць, як малому дзіцяці, якое, згубіўшы радню сваю, доўга бадзялася па чужых руках, зносячы ўсю паняверку чужацкіх сэрцаў, аж урэшце знайшло свайго дарагога, роднага, добрага бацьку! Мне было цяжка сабраць свае думкі ў парадак і паддаць іх пад закон логікі. Тоўпіліся яны, мітусіліся ў галаве маёй, як пшчолкі ў роі сваім, а радасць балюча ціснула маё сэрца [...]. Ідучы на амбону праз народ, якім біткам быў набіты касцёл і якога было поўна за касцёлам, праз адчыненыя вокны слухаючага набажэнства і слова Божага, я толькі помню тое, што бадай нічога не помню; я не ведаў, аб чым я гаварыць маю [...]. Урэшце, на амбоне, помню, зачаў ад слоў псалмісты Божага Давіда: “Не ўмру, але жыць буду і разглашаць буду хвалу Божую” (Пс. 117)» (А. Станкевіч цытуе Псалом 117, верш 17 у сваім перакладзе).

Сэнс 117-га псалма А. Станкевіч развіваў у тэму беларускага нацыянальнага адраджэння, духоўнага і сацыяльнага ўваскрэшання беларусаў. Вось як, паводле ўспамінаў А. Станкевіча, вернікі ўспрынялі першае ў іхнім жыцці беларускае казанне ў Доме Божым: «Пачуўшы словы мовы роднай, так пагарджанай дагэтуль, твар слухачоў ажывіўся, заяснеў. Запанавала святая цішыня. Кожнае слова слухачы, здаецца, жыўцом глыталі. Узрушэнне маё сардэчнае хутка ўдзялілася ўсёй велізарнай грамадзе слухаючых, і нямую ціш у касцёле замяніў нічым не ўстрыманы плач галосны. Ліліся слёзы ручаём з вачэй гаротнага, паднявольнага беларуса, слёзы дзяцей пры баку свайго роднага бацькі...»*



Так пачынаўся масавы рух за вяртанне роднае мовы ў святыні, і каля яго вытокаў быў студэнт Каталіцкай акадэміі Адам Станкевіч. Ён ніколі, да сваёй пакутніцкай смерці ў расійскай глыбінцы, не пакідаў гэтага духоўнага адраджэння, а ў Заходняй Беларусі быў яго лідэрам і летапісцам: апублікаваў шмат артыкулаў, пасылаў у розныя царкоўныя і свецкія інстанцыі лісты, мемарандумы ды іншыя дакументы, арганізаваў масавыя акцыі ў абарону Маці-Беларусі і матчынай мовы. Урэшце, апублікаваў даследаванне «Родная мова ў святынях» (1929).

Неардынарная асоба А. Станкевіча сфармавалася пад уплывам хрысціянскага голасу сумлення, бо яно абавязвае абараняць пакрыўджаных, зняважаных людзей і народаў. Гэтаму моцна паспрыяла беларуская культурна-нацыянальная і дзяржаўная традыцыя — ад Ф. Скарыны і князя Вітаўта да «Нашай нівы», якая і сёння не страціла сваёй духоўнай сугестыўнасці, здольнасці перадаваць сваім чытачам энергію адраджэнскага зараду. Зусім верагодна, што А. Станкевіч быў карэспандэнтам «Нашай нівы» падчас вучобы ў Вільні і Пецярбургу. Пра гэта сведчыць ягоная сёння вядомая першая публікацыя «Віншаванне «Нашай нівы» ў 8-ю гадавіну яе жыцця»... Пасадзейнічаў гэтай справе духоўна-псіхалагічны клімат Пецярбургскай каталіцкай акадэміі, дзе вучыліся сыны беларускай вёскі. Якраз сярод іх узнікла ідэя выдання трыбуны беларускага каталіцкага адраджэння — штотыднёвіка «Крыніца», самай жывучай заходнебеларускай грамадска-палітычнай, літаратурнай і рэлігійнай газеты: яна праіснавала з перапынкамі ў непамерна цяжкіх умовах дваццаць тры гады (1917–1940). Напрацаваныя ў ёй А. Станкевічам ідэі, канцэпцыі, багатыя фактычныя матэрыялы леглі ў аснову яго навукова-асветніцкіх і тэалагічных кніг і брашур.

Адам Станкевіч разам з Фабіянам Абрантовічам, Вінцэнтам Гадлеўскім, Браніславам Эпімах-Шыпілам дый з усім Беларускім гуртком Пецярбургскай каталіцкай акадэміі быў ля вытокаў Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці (ХДЗ), пераўтворанай пазней у партыю Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД). Гэты рух пачаўся ў Мінску: 24–25 траўня 1917 года ў Катэдральным касцёле адбыўся Першы з’езд беларускіх ксяндзоў (30 дэлегатаў), падрыхтаваны В. Гадлеўскім, Л. Хвецькам, А. Астрамовічам, А. Цікотам. Літаратурнай і палітычнай трыбунай БХД стала «Крыніца». У лютым – сакавіку 1918 года тры выпускі «Крыніцы» выйшлі ў Мінску. Пасля Брэсцкага міру і з прыходам бальшавікоў выданне яе было перапынена. Аднавілася 24 жніўня 1919 года ў Вільні. Яе кірунак і беларускі воблік

* Stankievič, A. Rodnaja mova u światyniach. — Vilnia, 1929. — S. 99–100.

сфармаваў А. Станкевіч, першы віленскі рэдактар. Пад націскам кіраўнікоў польскага касцёла ён, як ксёндз, быў вымушаны адмовіцца ад пасады афіцыйнага рэдактара. Але заставаўся ідэйным кіраўніком гэтага выдання аж да яго спынення ў 1940 годзе. Афіцыйнымі рэдактарамі «Крыніцы» (з 1925 года «Беларуская крыніца») у розныя гады былі блізкія да яе заснавальніка У. Знамяроўскі, Б. Туронак, Я. Пазняк, іншыя дзеячы. Свае вострапалемічныя і апазіцыйныя да польскага ўрада публікацыі Адам Станкевіч падпісваў псеўданімам Ігнат Папараць.

У лістападзе 1927 года адбыўся Другі з'езд Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Гэта была вяршыня адкрытай палітычнай, асветнай і журналісцкай дзейнасці А. Станкевіча. З'езд пачаўся з імшы. «З казаннем на беларускай мове, — паведамляла газета, — выступіў кс. Станкевіч. Як заўсёды ў нядзелю, толькі больш урачыста, лілося з амбоны ў Касцёле св. Мікалая наша беларускае роднае слова, зразумелае, чысцюсенькае — проста ў душу прыбыўшага з вёскі беларуса»*. А. Станкевіч аднагалосна быў выбраны старшынёй з'езда. Ён жа выступіў там з асноўным дакладам «Беларуская хрысціянская дэмакратыя і яе ідэалогія». З'езд зацвердзіў курс на рэарганізацыю партыі ў кірунку яе ператварэння з каталіцкай у агульнахрысціянскую. Адносную стабільнасць беларускіх палітычных і асветных арганізацыяў Заходняй Беларусі падтрымлівалі беларускія паслы (дэпутаты) і сенатары Сейма Польскай Рэспублікі, аб'яднаныя ў Беларускі пасольскі клуб. А. Станкевіч у 1922–1928 гг. быў дэпутатам і ўплывовым лідэрам беларускай апазіцыі, часта выступаў з інтэрпеляцыямі — абгрунтаванымі і дасціпнымі запытамі да польскага ўрада і яго міністраў з мэтай абмеркавання дыскрымінацыі беларусаў у іх спрадвечнай краіне. Гэтыя творы вострапалемічнага красамоўства публікаваліся ў «Беларускай крыніцы».

Пасля шматлікіх папярэджанняў (1924–1927) арцыбіскуп Р. Ялбжыкоўскі спецыяльна па прэцэдэнце грамадска-палітычнай дзейнасці ксяндза А. Станкевіча 10 снежня 1928 года апублікаваў пасланне да каталіцкага духавенства і вернікаў, у якім БХД і «Крыніца» абвінавачваліся ў абыякавасці да рэлігіі. Пасланне канчалася такой пастановай: «У сувязі з гэтым і ў адпаведнасці з Кодэксам Права Кананічнага (Каноны 1386, 1395, 1399, 1405 і інш.) абвяшчаем, што католікам, а тым больш каталіцкім капланам да гэтай арганізацыі БХД нельга належаць альбо інакшым чынам падтрымліваць. Не вольна таксама католікам выпісваць, чытаць, распаўсюджваць, супрацоўнічаць альбо інакш падтрымліваць часопіс «Беларуская крыніца». Асабіста да А. Станкевіча арцыбіскуп паслаў ліст, у якім па тых жа матывах загадваў яму: «...Каб зараз жа пакінуў арганізацыю «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» і каб устрымаўся ад усякага супрацоўніцтва і спрыяння як адносна да названай арганізацыі, так і да часопіса «Беларуская крыніца»*.

* Беларуская крыніца. 1927, № 47, 18 лістапада.



Але і пасля гэтага не закончыўся ўдзел А. Станкевіча ў друкаваных органах БХД, яго духоўны ўплыў на яе захаваўся. Каб засцерагчы сябе ад канфесіянальнага ўмяшальніцтва («вызваліць беларускую палітычную думку з чужацкіх рэлігійна-палітычных цянётаў», — гаварылася ў рэдакцыйным артыкуле «Беларускай крыніцы» ад 9 лютага 1936 года), кіраўніцтва БХД паскорыла яе трансфармацыю ў грамадска-палітычную партыю на грунце агульнахрысціянскай ідэалогіі. Рэдактарам «Беларускай крыніцы» ў 1929–1936 гг. быў свецкі дзеяч Ян Пазняк, выдаўцом Янка Шутовіч. Пазней газету рэдагавалі Адам Станкевіч і Адольф Клімовіч. Нарэшце ў лютым 1936 года БХД была абноўлена і ператворана ў Беларускае нацыянальнае аб'яднанне (БНА). Газета «Крыніца» выходзіла да 12 ліпеня 1940 года, спынілася пасля акупацыі Вільні савецкай арміяй. А. Станкевіч не пакідаў газеты да канца, стаўшы ўрэшце яе летапісцам. Паводле ягонага падліку, газета мела 58 канфіскацый, адзін толькі Ян Пазняк вытрымаў 35 рэдактарскіх судовых праследаванняў, шмат хто быў асуджаны на штрафы і арышты.

Лідэры БХД і рэдакцыя «Беларускай крыніцы» былі не з тых памяркоўных беларусаў, якія адступалі пад націскам дзяржаўнай і касцельнай цэнзуры. Адам Станкевіч ад імя ЦК БХД 11 снежня 1928 года паслаў у Рым да Апостальскай Сталіцы тэлеграму, а пазней шырока апрацаваны мемарыял, даказваючы згоднасць БХД з каталіцкай сацыяльнай дактрынай і касцельнай практыкай. Аднак з Рыма адказу не было, верагодна, там занялі нейтральную пазіцыю адносна канфлікту арцыбіскупа з беларускімі лідэрамі, хутчэй палітычнага, чым рэлігійнага. А. Станкевіч ды іншыя ксяндзы часова і фармальна выйшлі са складу ЦК БХД, але працягвалі супрацоўніцтва з «Беларускай крыніцай» і з партыяй напаўлегальна. А. Станкевіч апублікаваў у гэтай газеце за 1931 год нарыс «У дзесятыя ўгодкі смерці Андрэя Зязюлі» пад псеўданімам А. Сакалінскі** і, верагодна, шэраг праграмных артыкулаў ананімна («Культура і палітыка», «У справе рэлігійнай уніі», «Капіталізм, камунізм і хрысціянскі светапогляд», «Шлях да народаўладдзя: Да ідэалогіі БХД»), удзельнічаў у падрыхтоўцы матэрыялаў, якія выкрывалі жорсткія рэпрэсіі бальшавіцкай улады ў СССР супраць беларускай інтэлігенцыі і сялянства.

На чарговым з'ездзе БХД (13 снежня 1931 года) Адама Станкевіча зноў выбіраюць у ЦК БХД разам з рэдактарам газеты Янам Пазняком, доктарам С. Грынкевічам, студэнтам Янкам Шутовічам

* Stankievič, A. Biełaruski chryścijanski ruch: histaryčny narys. — S. 202.
** Беларуская крыніца. 1931, № 8, 27 лютага.

ды іншымі свецкімі асобамі. Загад арцыбіскупа Ялбжынскага страціў актуальнасць, а пасля перайменавання БХД у Беларускае народнае аб'яднанне аказаўся беспрадметным.

Кіраўніцтва абноўленай партыі, «Беларуская крыніца» і часопіс «Калоссе» наладзілі Адаму Станкевічу ў студзені 1940 года навукова-літаратурную канферэнцыю, прысвечаную 25-м угодкам ягонага святарства і беларускай нацыянальнай дзейнасці (10.01.1915–10.01.1940). Юбілейныя матэрыялы былі апублікаваны ў двух нумарах «Крыніцы» (12 і 16 студзеня 1940 года) і ўвайшлі ў апублікаваную тым жа годам кнігу «Ксёндз Адам Станкевіч», пра якую ўжо гаварылася ў пачатку гэтага нарыса. У апошніх выпусках «Крыніцы» юбіляр надрукаваў свае артыкулы «Сям'я і народ», «Юбілей беларускага патрыярха Францішка Багушэвіча» (аўтарства верагоднае, крыптонім А. — ski) і выдатнае эсэ «На свята Маткі: Увагі аб дастойнасці і значэнні Маткі»*, якое было апублікавана асобнай брашурай**.

Аўтарытэт А. Станкевіча, яго ахвярнасць і маральная вышыня былі вядомыя не толькі беларусам, але і каталіцкай іерархіі. У жніўні 1927 года віленскі арцыбіскуп дазволіў яму выдаваць непалітычны рэлігійны часопіс «Хрысціянская думка». Першы нумар яго выйшаў у 1928 годзе. Пратрымаўся часопіс аж да савецкай акупацыі Вільні ў 1940 годзе.

Заслугі А. Станкевіча як гісторыка беларускай дзяржаўнасці і культуры доўгі час былі забытыя не толькі грамадствам, але і савецкай і замежнай гістарычнай навукай. Яго навукова-папулярныя даследаванні, напісаныя на аснове аналізу і ацэнкі ўсіх захаваных першакрыніц, аж да 1990-х гадоў знаходзіліся ў аддзелах спецзахавання савецкіх бібліятэк і архіваў. Доступ да іх абмяжоўваўся спецыяльнымі дакументамі, забаранялася іх перавыдаваць, цытаваць, аб'ектыўна аналізаваць, заахвочвалася толькі ганьбаванне і «выкрыццё». У гэтакіх умовах даследчыкі часам выкарыстоўвалі фактычны матэрыял кніг, артыкулаў і брашур А. Станкевіча па гісторыі беларускага вызваленчага руху, літаратуры XIX — пачатку XX ст. без спасылак на «арыштаваныя» крыніцы.

Манаграфія Адама Станкевіча «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» (1934) спачатку друкавалася асобнымі раздзеламі ў заходнебеларускім часопісе «Шлях моладзі» на працягу двух гадоў, а пасля, перагледжаная і дапоўненая аўтарам, выйшла асобнай кніжкай. Яна не страціла сваёй каштоўнасці не толькі як праўдзівы летапіс беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, але і з гледзішча яе актуальных сёння метадалагічных ацэнак і высноў.

* Крыніца. 1940. №№ 42–45, 25 мая — 7 чэрвеня.
** Stankievič, A. Na śviata Matki. — Vilnus, 1940.



Актуальнасць тэмы вынікае ўжо з уступных заўваг: «Палітычная незалежнасць і грамадска-эканамічная самастойнасць — гэта абавязковыя варункі памыснасці і поўнага развою кожнага народа. Беларускі народ, падлягаючы няўхільным законам жыцця і яго логіцы, а таксама ідучы за прыкладам іншых народаў, 25.III.1918 праз лепшых сваіх сыноў усяму свету заявіў аб сваіх правах на палітычную незалежнасць і аб сваёй няўхільнай да гэтага волі»*.

Можна меркаваць, што Адам Станкевіч ведаў расійскую філасофію, чытаў не толькі творы Уладзіміра Салаўёва, на думкі якога спасылаўся, але і тэарэтыка расійскай імперыі Мікалая Данілеўскага, паводле якога кожны тып цывілізацыі развіваецца накшталт жывога арганізма, «мае сваё дзяцінства і юнацтва, прадуктыўную сталасць, урэшце, перыяд завяршальнага плёну, пасля чаго наступае заняпад — гістарычная смерць і растварэнне ў новых, маладых цывілізацыях**.

Ёсць, пэўна, хутчэй фармальная, чым сэнсавая, аналогія паміж гэтай асноўнай ідэяй М. Данілеўскага і ўступнай заўвагай А. Станкевіча да сваёй кнігі: «У жыцці духоўным звычайна бывае так, як і ў жыцці арганічным. Спярша паяўляюцца зародкі, якія паволі растуць і развіваюцца, а ўрэшце даспяваюць і даюць пажаданы плод». Аднак канчатковая выснова А. Станкевіча адваротная той, якую сфармуляваў натураліст па адукацыі М. Данілеўскі: беларускі асветнік і святар кажа нам не пра смерць культуры і ейнага носьбіта народа, а пра іх уваскрэсенне, адраджэнне; не пра небыццё духоўнай творчасці, а пра яе вечнае абнаўленне для новага жыцця. «І народ кожны, — гаворыць наш адраджэнец, — пачынаецца ад якога племяннога зародку, перажывае час свайго дзяцінства, маладосці, даспеласці, старасці, заняпаду і *адраджэння*» (падкрэслена мною.— *У. К.*). М. Данілеўскі падзяляў народы на гістарычныя і негістарычныя, апошнім адводзіў незайздросную ролю этнаграфічнага матэрыялу, «глебы» для росту першых. Не прызнаваў нацыянальнай і культурнай самастойнасці ўкраінцаў і беларусаў, на ягоную думку, адгалінаванняў «единого русского народа»*** — канцэпцыя, пазней узятая на ўзбраенне вялікарасійскімі чарнасоценцамі.

Адам Станкевіч сваім жыццём, творамі і святарскім служэннем адхіляў гэтую імперскую ідэалогію. Усе яго творы сведчаць пра тысячагадовую традыцыю беларускай дзяржаўнасці і культуры. Загаловак раздзела «Беларускі народ жыў, жыве і будзе жыць» засвед-

* Станкевіч, А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. — Вільня, 1934. — С. 3.
** Данилевский, Н. Я. Россия и Европа: Взгляд на культурные и политические отношения славянского мира к германо-романскому. — 4-е изд. — СПб., 1889. — С. 74–90.
*** Данилевский, Н. Я. Россия и Европа. — С. 107.

чыў агульны пафас яго творчасці і жыццёвага подзвігу. Беларускі народ жыў «самастойным дзяржаўным жыццём і з аружжам у руках бараніў сваю гэтую самастойнасць» ужо ў IX–XIII стст., сфармаваўшыся з трох сваяцкіх плямёнаў — крывічоў, радзімічаў і дрыгвічоў. «Праўда, — зазначае даследчык, — яшчэ ў гэтым перыядзе беларускай гісторыі народ наш і наш край не завецца беларускім, а пераважна крывіцкім, але назва не змяняе справы».

А. Станкевічу ў 1920-х — пачатку 1930-х гадоў яшчэ не была вядома гісторыя летапіснай Літвы ў цэнтральна-заходніх рэгіёнах Беларусі. Этнонім *літвіны* і палітонім *Літва* ён ідэнтыфікаваў з этна-літоўскім паходжаннем. Толькі пазней ягоны зямляк Ян Станкевіч, а ў наш час гісторык Мікола Ермаловіч даказалі, што летапісная Літва, каланізаваная беларускімі продкамі крывічамі і дрыгвічамі ў VI–X стст., знаходзілася ў верхнім Панямонні на захад ад Мінска. Беларускае насельніцтва гэтага рэгіёна называла сябе літвінамі да канца XIX ст. У той час этнонім Беларусь датычыўся Магілёўшчыны і часткі Віцебшчыны. «Толькі на пачатку XX ст., — справядліва зазначаў М. Ермаловіч, — калі завяршыўся працэс утварэння беларускай нацыі, назва «Беларусь» замацавалася і за беларускім Панямоннем, выцесніўшы адтуль назву «Літва», якая з таго часу стала адносіцца толькі да сучаснай Літвы»*.

У канкрэтных ацэнках А. Станкевічам некаторых гістарычных падзей ёсць пэўная аднабокасць, характэрная, бадай, для кожнай занадта агульнай канцэпцыі, якая часам не ўлічвае шматфарбнасці і супярэчлівасці рэальнага жыцця. Недакладны быў ён у ацэнцы Люблінскай уніі 1569 года як пачатку занядбання беларускага народа і «поўнага пераходу асвечаных шляхецкіх класаў у польскасць». Памыляўся таксама, калі яму здавалася, быццам пасля смерці Льва Сапегі (1633) дзея палітычнай гісторыі нашага краю часова замерла аж да К. Каліноўскага. Па сутнасці, А. Станкевіч папраўляў самога сябе, калі крыху далей прызнаў, што нашае адраджэнне «прыйшло з паваротам да народа ад людзей з тых жа шляхецкіх класаў, праўда, ужо абяднеўшых і збліжаных да народа»**.

Асноўная частка кнігі «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» прысвечана станаўленню нацыянальна-адраджэнскага руху XIX — пачатку XX ст. Наш гісторык і філосаф нацыянальнай гісторыі ўпершыню вызначыў агульнаеўрапейскія і рэгіянальныя вытокі гэтага вызвольнага руху, яго сацыяльныя і духоўна-культурныя карані. Яму ўдалося «ўпісаць» гэты рух у агульнаеўрапейскі

* Ермаловіч, М. І. Па слядах аднаго міфа. — 2-е выд. — Мінск, 1991. — С. 29.

** Станкевіч, А. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. — С. 10–11, 22.



прававы і палітычны кантэкст: абгрунтаванне еўрапейскай навукай прынцыпу дзяржаўнай суверэннасці народаў, тварэнне дзяржаўнасці на аснове дамовы і волевызнання народа, ідэя федэралізму. Дзеячам беларускага палітычнага вызвалення А. Станкевіч прысвяціў раздзелы сваёй манаграфіі і асобныя брашуры. Упершыню дакладна вызначыў сутнасць ідэалогіі К. Каліноўскага і ягонай «Мужыцкай праўды» — ідэю адраджэння Вялікага Княства Літоўскага як складовай часткі федэрацыі двух народаў.

А. Станкевіч быў першым даследчыкам, які паспрабаваў раскрыць сацыяльна-псіхалагічныя перадумовы шляхецка-каталіцкага этапу культурна-адраджэнскага і нацыянальна-вызваленчага руху XIX ст., што спарадзіў лідэраў паўстання 1794, 1831, 1863 гадоў. Упершыню даследаваў на аснове першакрыніц народніцкі рух у Беларусі, біяграфію і светапогляд Ігната Грынявіцкага, Кастуся Каліноўскага. Заключны раздзел сваёй манаграфіі А. Станкевіч прысвяціў аналізу вызвольных ідэяў пачатку XX ст.: ад Беларускай сацыялістычнай грамады да Усебеларускага з'езду ў снежні 1917 года, удзельнікам якога быў сам, вітаў абвяшчэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года. Урэшце, ён падвёў вынік гэтага руху, апісаў яго пад'ёмы і драмы пасля Рыжскай дамовы паміж Савецкай Расіяй і адроджанай Польшчай у 1921 годзе.

Адам Станкевіч верыў у будучыню роднай Беларусі. Для яго БССР была толькі драматычным этапам «да поўнай незалежнасці беларускага народа і яго агульнанароднай культуры». Даследаванню і прэзентацыі яе для беларусаў і агульнаеўрапейскай грамадскасці ён прысвяціў сотні артыкулаў, нарысаў. Яны змяшчаліся ў штотыднёвіку «Беларуская крыніца», часопісах «Хрысціянская думка», іншых перыядычных выданнях, у манаграфіях, брашурах, урэшце, у сеймавых прамовах. У «Крыніцы» за 1924 год друкаваліся яго нарысы «Беларуская мова ў школах Беларусі XVI—XVII стст.». Пазней гэтае унікальнае ў беларусазнаўстве даследаванне было апублікавана асобнай кніжкай*. А. Станкевіч быў першым гісторыкам роднай мовы і культуры, які згледзеў беларускую моўную арыентацыю праваслаўнага асветніцтва да сярэдзіны XVII ст., вывучэнне беларускай мовы ў каталіцкіх школах XVI ст., шырокае яе выкарыстанне ва уніяцкім набажэнстве і асветніцтве той эпохі.

У шматлікіх даследаваннях беларускай культуры і літаратурнай спадчыны А. Станкевіч развіваў беларусазнаўчую традыцыю «Нашай нівы», «Гомона», выданняў БНР. У руху за нацыянальнае адраджэнне беларускага народа немалую ролю адыгралі яго навукова-папулярныя нарысы «Доктар Францішк Скарына — першы друкар

* Stankievič, A. Biełaruskaja mova u škołach Biełarusi XVI–XVII st. — Wilnia: Biełaruskaja Krynica, 1928.

Беларусі» (Вільня, 1925), «Францішак Багушэвіч: Ягонае жыццё і творчасць: У трыццатыя ўгодкі смерці» (Вільня, 1930), «Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцця і працы» (Вільня, 1934), «Магнушэўскі. Паўлюк Багрым. Баброўскі: Да вытокаў беларускага адраджэння» (Вільня, 1937), «Казімір Сваяк: Нарысы аб ягонай ідэалогіі» (Вільня, 1931), «З жыцця і дзейнасці Казіміра Сваяка: У дзесятыя ўгодкі ягонай смерці» (Вільня, 1936). Літаратурна-крытычны талент А. Станкевіча раскрыўся ў шэрагу нарысаў аб творчасці іншых выдатных беларускіх пісьменнікаў, апублікаваных у часопісе «Калоссе»: «У палоне паэзіі Якуба Коласа» (1936, № 2), рэцэнзія на паэму Максіма Танка «Нарач» («У аспекце сацыяльнай справядлівасці», 1937, № 4), рэцэнзія на манаграфію Станіслава Станкевіча «Pierwiastki białoruskie w polskej poezii romantycznej», Вільня, 1936 (1936, № 3), нататкі «З літуанізмаў у беларускай мове» (1938, № 1–3; 1939, № 3).

Майстэрства А. Станкевіча-крытыка і публіцыста ярка выявілася ў нарысе «Міхал Забэйда-Суміцкі і беларуская народная песня» (Вільня, 1938). На думку даследчыка, у жыцці і творчасці гэтага адукаванага спевака, яго сучаснікаў — творцаў нашай літаратуры выявіўся іхні «праметаізм — самаахвярная барацьба за культуру і светлае шчасце беларускага народа». Гэтая хрысціянская самаахвярнасць жыла ў душы самога Адама Станкевіча. У рэфераце «Вітаўт Вялікі і беларусы», апублікаваным асобнай брашурай, ён шукае архетыпы нацыянальнай ідэі ў геапалітычных праектах і дзеях гэтага рыцара. Заключны раздзел рэферата «Вітаўт Вялікі і будучыня Беларусі, Літвы і Украіны» — гэта ўжо прагноз на далёкую будучыню: «Здаецца нам — а думкі нашы пацвярджае гісторыя народаў агулам і гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, — што шлях да самастойнасці культурнай і палітычнай народаў на ўсходзе Еўропы, асабліва для беларусаў, вядзе не праз усход, а праз захад»*.

Яшчэ адна праблема беларускага нацыянальнага адраджэння, у вырашэнні якой Адам Станкевіч выявіў сваю навуковую, тэалагічную і душпастырскую кампетэнтнасць, — гэта *хрысціянства наогул і каталіцкая традыцыя ў святле беларускай ідэі*. Яна была ў цэнтры ўвагі рэлігійна-асветніцкага часопіса «Хрысціянская думка» (1928, студзень; 1939, 1 верасня). Кожны нумар часопіса меў на тытульным лісце эпіграф: «Не адным хлебам жыве чалавек, але і ўсякім словам, якое выходзіць з вуснаў Божых» (Мц. 4:4). Часопіс гэты ўвасобіў мару ягонага заснавальніка і рэдактара — злучаў філасофію і этыку хрысціянства з беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам, тэалогію з роднаю мовай, літаратурай і навукай. Поруч з рэлігійна-асветнымі і тэалагічнымі творамі самога рэдактара і ягоных супрацоўнікаў (Дамінік Аніська, Пётр Татарыновіч, Віктар Шутовіч, іншыя ксяндзы, публікацыі якіх дзеля міру ў Касцёле пад-

* Станкевіч, А. Вітаўт Вялікі і беларусы. — Вільня, 1930. — С. 26.



пісваліся псеўданімамі і крыптонімамі) часопіс змяшчаў літаратурныя творы Міхася Машары, Сяргея Новіка-Пяюна, Вінцука Адважнага (ксяндза Язэпа Германовіча), Казіміра Сваяка (ксяндза Кастуся Стаповіча), іншых пісьменнікаў.

У гэтым часопісе А. Станкевіч публікаваў сваю манаграфію «Родная мова ў святынях» (1929), якая ў тым жа годзе выйшла ў свет асобнай кніжкай. Спачатку яе аўтар даў адказ на спрэчныя да нашага часу пытанні пра суадносіны паміж кананічнымі (латынь і царкоўна-славянская) і нацыянальнымі мовамі ў богаслужэнні. Кананічныя мовы патрэбныя, каб захаваць аўтэнтычны змест першакрыніц імшы ў каталіцтве і літургіі ў праваслаўі. Нацыянальныя ж мовы патрэбныя ў хрысціянскім абрадзе і асветніцтве, каб данесці Слова Божае да свядомасці і сэрца ўсіх народаў. Паводле запавету Хрыста: «Дык ідзіце, навучайце ўсе народы...» (Мц. 28:19). Неабходнасць роднае мовы ў рэлігійным жыцці абгрунтавана актамі царкоўных сабораў і вердыктамі Апостальскай Сталіцы.

Да канца XVII ст. уніяцкая царква і каталіцкі касцёл карысталіся беларускай моваю як сродкам зносінаў, у афіцыйных дакументах і для хрысціянскай асветы. Але і ў XVIII — пачатку XIX ст. выдаваліся уніяцкія катэхізісы на беларускай мове, рассылаліся загады ксяндзам, каб па-беларуску гаварылі казані і беларускаю моваю карысталіся пры катэхізацыі. Другая частка манаграфіі «Родная мова ў святынях» — гэта цікавы летапіс змагання за беларусізацыю Касцёла і Царквы ў эпоху беларускага нацыянальнага адраджэння з кароткімі біяграфіямі герояў гэтага руху.

Праз дзесяць гадоў пасля выхаду кніжкі «Родная мова ў святынях» А. Станкевіч апублікаваў грунтоўную манаграфію «Беларускі хрысціянскі рух: Гістарычны нарыс» (1939) у выдавецтве ўсё таго ж часопіса «Хрысціянская думка». Асноўная частка кніжкі асвятляе станаўленне і развіццё беларускай хрысціянскай дэмакратыі: А. Станкевіч быў сярод яе заснавальнікаў, тэарэтыкаў, урэшце, — яе летапісцам. Як і папярэднія даследаванні, новая кніжка грунтуецца на дакументальнай аснове і вопыце ўласнага ўдзелу ў гэтым руху. Цяпер аўтар зрабіў важныя карэктывы да ранейшых занадта агульных высноў пра «поўны заняпад» беларускай культуры ў XVII–XVIII стст. З беларускай уніяцкай, пазней каталіцкай (заходнерымскай паводле хрышчэння) шляхты выйшлі пачынальнікі новай беларускай літаратуры — ад Яна Чачота і Яна Баршчэўскага да Францішка Багушэвіча і Янкі Лучыны. З гэтага ж асяроддзя пазней прыйшлі ў літаратуру Карусь Каганец (К. Кастравіцкі), урэшце, Янка Купала і Алесь Гарун, Алаіза Пашкевіч (Цётка), іншыя пісьменнікі і беларускія дзеячы, сярод якіх першым быў Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Усе яны былі творцамі беларускай літаратуры, культуры, грамадска-палітычнай і філасофскай думкі — рэвалюцыйнай (К. Каліноўскі, І. Грынявіцкі і іншыя нарадавольцы) і эвалюцыйна-дэмакратычнай (штотыднёвікі

«Наша ніва», «Беларус», «Гомон», выданні БНР, іх заснавальнікі, пісьменнікі, публіцысты, грамадскія дзеячы). Да апошняга накірунку належала і Беларуская хрысціянская дэмакратыя.

Тэалагічныя і гісторыка-культурныя погляды А. Станкевіча падсумаваны ў яго манаграфіі «Хрысціянства і беларускі народ» (1940). Гэтая кніга — адна з вяршыняў нашай філасофіі, гісторыі, грамадскай думкі. Аўтар раскрыў духоўна-творчую ролю хрысціянства ва ўзгадаванні спачатку беларускага этнасу, а пазней і беларускай нацыі. У асноўнай частцы манаграфіі ёсць заснаваны на шматлікіх фактах аналіз трох асноўных хрысціянскіх канфесій Беларусі — праваслаўя, каталіцтва і уніяцтва ў кантэксце гістарычнага лёсу беларусаў. Наяўнасць глыбока прадуманых і дакладна ацэненых, сістэматызаваных фактаў гісторыі нашай культуры, рэлігіі, вобразны, публіцыстычны, часам філасофскі выклад яе набліжае кнігу да падручніка па гісторыі рэлігіі і нацыянальнай культуры Беларусі. Тут каталіцкі асветнік падняўся над канфесіянальнымі супярэчнасцямі, аб’ектыўна ацаніў ролю праваслаўя ў духоўным узгадаванні беларускага народа, асабліва з канца X ст. да сярэдзіны XVII ст., калі беларуская праваслаўная царква няшмат залежала ад царкоўнай епархіі Маскоўскага царства, пазней Расійскай імперыі.

Тэалагічная спадчына Адама Станкевіча вартая асобнага выдання. Яшчэ ў 1922 годзе на першым этапе свайго душпастырскага служэння ён выдаў у сваім перакладзе з лацінскай на родную мову беларусаў кнігу ксяндза і доктара тэалогіі Ідэльфонса Бобіча (дарэчы, беларускага пісьменніка, супрацоўніка штотыднёвікаў «Наша ніва» і «Беларус», які выступаў пад псеўданімам Пётра Просты) «Нядзельныя Эванэліі і навукі» (1919). У 1938 годзе А. Станкевіч выдаў сваю кнігу «Божае Слова: Лекцыі, Эванэліі і Прамовы на Нядзелі і Святы». Яна і сёння застаецца выдатным падручнікам па экзегетыцы і царкоўным красамоўстве. Пра асветніцкі талент аўтара сведчаць гэтыя казані, асабліва казань на эсхалагічнае прароцтва Хрыста (Мц. 24:15–35) «Аб сканчэнні свету», іншыя глыбокія па сэнсу, даступныя і простыя па форме творы. Аўтар звяртае ўвагу на гіпотэзу пра цеплавую, або энергетычную, смерць сонечнай сістэмы, якая пазней набыла значэнне фізічнай тэорыі пра сусветную энтрапію. Кніга «Божае Слова» мае пяцьдзесят нядзельных і сорак чатыры святочныя лекцыі. Кожная з іх пачынаецца евангельскімі і апостальскімі чытаннямі і працягваецца адпаведнымі казанямі тэалагічнага, маральна-асветніцкага, часам актуальнага сацыяльна-палітычнага зместу. Цеплыня Божай ласкі да людскіх спраў раскрываецца ў казані «Жанімства — вялікі сакрамант».

У гады Другой сусветнай вайны (1939–1945) і ў першыя пасляваенныя гады Адам Станкевіч, іншыя беларускія асветнікі і грамадскія дзеячы перажылі вялікую нацыянальную і асабістую драму з трагічным фіналам для тых, хто не пакінуў Радзіму, застаўся ў пасляваеннай Віленшчыне для пашырэння там беларускай культурна-нацыянальнай прысутнасці. Адразу пасля акупацыі Вільні савецкімі войскамі ў верасні 1939 года органы НКУС СССР арыштавалі Антона Луцкевіча і Уладзіміра Самойлу, іншых беларускіх асветнікаў. Адам Станкевіч, іншыя дзеячы БХД ратаваліся ў Каўнасе, які заставаўся пад кантролем літоўскага ўрада. Пасля перадачы Вільні літоўцам А. Станкевіч вярнуўся ў гэты цэнтр беларускай культуры, выдаў там сваю апошнюю манаграфію «Хрысціянства і беларускі народ». Часова аднавілася выданне «Беларускай крыніцы» (12 ліпеня 1940 г.). Былі адноўлены ў горадзе беларуская гімназія і настаўніцкая семінарыя.



У гады вайны (1941–1945) А. Станкевіч шчыраваў на ніве адраджэння школьнай адукацыі на беларускай мове, рыхтаваў падручнікі па гісторыі Беларусі, аднаўляў працу Віленскага беларускага музея і, як заўсёды, праводзіў душпастырскае і асветніцкае служэнне ў касцёле св. Мікалая. Трэба было ратаваць беларускі народ ад яго шматлікіх ворагаў. Гэтым займаўся адноўлены раней забаронены польскім урадам (студзень 1938-га) Беларускі нацыянальны камітэт (іншая назва — Віленскі нацыянальны беларускі камітэт) — прадстаўнічы орган беларускіх партыйных і арганізацый нацыянальна-дэмакратычнай арыентацыі.

Якраз за ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху, за што раней праследавалі беларускіх дзеячаў сілавыя структуры польскага «санацыйнага» ўрада, 7 снежня 1944 года (пасля ўваходу ў Вільню савецкага войска) органы савецкага НКУС арыштавалі А. Станкевіча. Можна здагадвацца, што тады яны яшчэ «не владели проблемой», не захапілі віленскіх архіваў, а да таго ж павінны былі лічыцца з літоўскай адміністрацыяй горада. Рыцара беларускага нацыянальнага адраджэння часова адпусцілі. І гэтым манеўрам увялі ў зман беларускіх лідэраў, якія хацелі працаваць для свайго народа ў цяпер ужо літоўскай сталіцы. За гэты давер яны заплацілі жыццём.

31 красавіка 1949 года бальшавіцкія «нкусаўцы» зноў арыштавалі Адама Станкевіча. Амаль паўгода «вывучалі» паводле архіваў і агентурнай інфармацыі ягоную грамадска-палітычную, асветніцкую і душпастырскую дзейнасць. Захаваліся пратаколы допыту: яго вялі не на беларускай і не на літоўскай мовах, а на расійскай. І не літоўцы, а спачатку «капитан МГБ Трубочистов» (7.06.1949), а пасля «капитан МГБ Тэлицин» (27.06.1949). У першым выпадку «Допрос начат в 20 час. 32 мин. Допрос окончен в 3 час. 30 мин.». У другім выпадку «Допрос начат в 11 часов. Допрос окончен в 17 час.». Вынік — па дзве старонкі тэксту. Факты, верагодна, узятыя з архіваў, якія не мог адмаўляць ахвяра допыту. Але ацэнкі гэтых фактаў — не беларускага патрыёта, а ягоных ворагаў. У канцы пратаколаў ёсць графа: «Протокол допроса с моих слов записан верно, мне вслух прочитан». Але няма подпісаў А. Станкевіча.

Урэшце, трэці допыт праводзіў «начальник отдела следчасти капитан Голицин» 1 ліпеня 1949 года. Пытанні тыя ж самыя — пра кіраўнікоў Беларускага нацыянальнага камітэта. Ацэнкі іх дзейнасці — у інтэрпрэтацыі «эмгэбістаў». Дзве старонкі машынапісу. А допыт вёўся з 12 гадзін дня да гадзіны ночы. І 18 верасня таго ж 1949 года ў таго ж капітана Галіцына — абвінавачванне па «славутым» артыкуле 58-м. Дарэчы, не па законах Літоўскай дзяржавы, а па «Уголовному кодексу РСФСР». На ахвяру бальшавіцкага генацыду ўзведзены паклёп: «Во всех вышеизложенных фактах антисоветской преступной деятельности Станкевич виноватым себя признал. По показаниям Станкевича арестованные Петюкевич Марьян Иосифович и Богданович Иван Антонович...»

Вось такія прыёмы бальшавіцкага КДБ: Адам Станкевіч гаварыў гэбістам пра сваю і сваіх сяброў дзейнасць дзеля ратавання беларусаў, беларускае культуры, роднай краіны ў патрыятычным Беларускім нацыянальным камітэце. А яму прыпісалі данос на сяброў і на самога сябе паводле артыкула 58 крымінальнага кодэксу РСФСР.

Урэшце — прыпіска таго ж «капитана Голицина»: «31 августа 1945 года Станкевич Адам Викентьевич Особым Совещанием при Министре Государственной Безопасности Союза ССР осужден по ст. 58-4 и 58-10 часть II-я УК РСФСР на двадцать пять годов»*.

Дваццаць пяць гадоў катаргі 60-гадоваму, хвораму на сэрца, спрацаванаму ксяндзу, даследчыку і пісьменніку — гэта была бальшавіцкая альтэрнатыва расстрэлу. З выдатным асветнікам і дзеячам Беларускага нацыянальнага камітэта Станіславам Грынкевічам (1902–1945) расправіліся яшчэ больш жорстка: па сфальсіфікаваных пратаколах допыту яго засудзілі да расстрэлу «Военным Трибуналом Белорусско-Литовского военного округа». Расстрэл адбыўся 25 чэрвеня 1945 года**.

Ксёндз А. Станкевіч, пакутуючы ў астрозе папярэдняга зняволення і чакаючы яшчэ большых пакут (бо не толькі ж энкэвэдысты сачынялі дзве старонкі сваіх пратаколаў на допытах ад 12 гадзін дня да 3 гадзін ночы!), пісаў запіскі савецкаму ўраду, прасіў дазволіць беларускі Касцёл у БССР і вызваліць сваіх арыштаваных супрацоўнікаў. Адразу ж пасля арышту (7.12.1944) ён пасылае савецкаму ўраду дакумент з дзевяці тэзісаў пад назвай «Праблемы Каталіцкага Касцёла ў БССР» з прапановай вызваліць яго з-пад улады Польшчы і заснаваць беларускую дыяцэзію, бо імперскім амбіцыям Польшчы не ўдалося паланізаваць беларусаў за дваццаць гадоў свайго панавання. А «беларускі народ застаўся верным сваёй мове, звычаям, сваёй

* Letuvos Jpatingasis Archyjas. F. K-1. Ap. 58/ T. 2, b 26495/5, 32–73.
** Тамсама. B. 26495/3-10. Л. 128–132; 204–206.



нацыянальнасці» (25.10.1944)*. Мусіць, паводле заступніцтва сваіх літоўскіх сяброў, яго часова вызваляюць.

Кс. А. Станкевіч яшчэ выконваў сваё святарскае і асветнае пакліканне і праз два гады пасылае запіску — амаль цэлую манаграфію «Католическая проблема в БССР: К сведению правительства СССР» (Вільня, сакавік 1947-га). Ідэя беларускага Касцёла, духоўнага і палітычнага адраджэння Беларусі тут ужо глабальна абгрунтавана тэарэтычна і гістарычнымі фактамі**. У заключэнні гэтай запіскі А. Станкевіч у дыпламатычным запытанні просіць вызваліць з астрога ксяндза Віктара Шутовіча.

Трэцяя манаграфічная запіска А. Станкевіча — гэта дакладна абгрунтаваны план беларусізацыі Касцёла ў Беларусі пад назвай «Католический вопрос в БССР и проект его разрешения» (Вільня, сакавік 1947-га). Свой мемарандум кс. Станкевіч закончыў дасціпна: «Рымскі сенатар Катон кожную сваю прамову заканчваў словамі: «Ceterum censeo Carthaqinem esse delendam» — «Ва ўсім іншым лічу, што Карфаген павінен быць разбураны». Так і я лічу, што Беларуская каталіцкая Царква павінна быць створана для дабра беларускага народа і ўсяго СССР». Другі (ці трэці, пяты?) раз ён дыпламатычна просіць вызваліць засуджанага на 10 гадоў ГУЛАГа Віктара Шутовіча ды іншых беларускіх ксяндзоў, у тым ліку Фабіяна Абрантовіча, Андрэя Цікоту, Восіпа Германовіча, Тамаша Падзяву***.

Узнікае пытанне: ці ведаў Адам Станкевіч інфернальна-д'ябальскую прыроду бальшавікоў? Верагодна, ведаў; але, як ягоны папярэднік па пакутах Ян Хрысціцель, звяртаўся да бальшавіцкіх ірадаў, заклікаў да хрысціянскага сумлення.

Ксёндз Адам Станкевіч памёр праз тры месяцы пасля сваёй высылкі: 4 снежня 1949 года ад хваробы сэрца. Паводле інфармацыі начальніка аддзела Озерлага Іркуцкай вобласці, пахаваны на могілках гэтага лагера ля вёскі Шаўчэнка (бедны ўкраінскі Кабзар!). Захаваліся ўспаміны Віктара Сікоры пра пахаванне нашага асветніка і Божага слугі. «Вырашыў я, — успамінае В. Сікора, — што пахаваю ксяндза Адама, правяду яго ў апошнюю дарогу. Узяў сані, палазы якіх былі з дрэва зроблены. Вёз іх на сабе, бо коней не было. Дагэтуль не магу забыць таго, што адбылося ў Тайшэце. Падвозім сані да варотаў. Яны адчыняюцца. З дзяжуркі выходзіць «мяснік» з «кішнёй», што рыбакі зімой лёд прабіваюць. І ёю ксяндза ўдарыў у грудзі. А пасля другі выходзіць з кувалдай і б'е яго па галаве. Праламаў яе,

* Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Ф. 4, воп. 1, адз. зах. 22. Л. 1–10.
** Тамсама. Л. 16.
*** Тамсама. Адз. зах. 123. Л. 1–110.

паляцелі мазгі. Я ледзь не самлеў. Ляжыць ксёндз у труне заліты крывёю...»*

У аддзеле рукапісаў нашай акадэмічнай бібліятэкі захоўваюцца чарнавыя варыянты неапублікаваных даследаванняў А. Станкевіча, у тым ліку «Расказы з гісторыі Беларусі для школ і народа». Гэта — папулярныя лекцыі, якія выкарыстоўваліся ў беларускіх гімназіях (111 аркушаў, напісаных ад рукі, часткова надрукаваныя на машынцы, або падклейкі карэктурных лістоў ранейшых публікацый). Яшчэ адзін рукапіс «Гісторыя Беларусі: Сістэматычны нарыс» — гэта ўжо часткова падрыхтаваны да друку тэкст на 155 старонках. Апрача прадмовы і выкладання гісторыі Беларусі, беларускай культуры ёсць раздзел «Паняцце і сутнасць народа агулам і народа беларускага».

Мабыць, частка гэтых рукапісаў лягла ў аснову выдадзенай Чаславам Будзькам папулярнай гісторыі Беларусі пад загалоўкам «Пазнайма нашую мінуўшчыну» В. Будзіловіча (ЗША, Чыкага, 1944). Паводле бібліяграфічных даследаванняў Вітаўта і Зоры Кіпеляў, В. Будзіловіч — псеўданім А. Станкевіча**. Гэтая кніжка — перадрук артыкулаў, апублікаваных у тыднёвіку «Беларускі работнік» (Берлін, 1944, № 17–46). Выяўленне невядомых прац і вывучэнне ўсёй творчай спадчыны Адама Станкевіча без сумнення будзе працягнута новымі даследчыкамі.

Шматграннымі здольнасцямі вызначыліся бадай што ўсе дзеячы беларускага каталіцкага адраджэння. Яны былі першымі ў Беларусі, каму ўдалося злучыць навуку і тэалогію, душпастырства з народнай асветай, касцельнае красамоўства з прыгожым пісьменствам, пропаведзь Слова Божага з грамадскай і палітычнай дзейнасцю. У духоўным абліччы Адама Станкевіча гэтыя якасці настаўніка, пісьменніка, даследчыка і палітыка выявіліся з найбольшай паўнатою і моцна паўплывалі на праграму і практыку самай паслядоўнай ў нас народнай партыі — Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Ад іх пачыналася злучэнне Касцёла з беларускай мовай і, шырэй, — нацыянальнай традыцыяй. Драма іх жыцця, найбольш з трагічным фіналам, не дазволіла ім здзейсніць свае ідэалы — нацыянальнае і хрысціянскае адраджэнне Беларусі, канчатковае злучэнне Касцёла і Царквы з беларушчынай. Але закладзены імі моцны духоўны падмурак у сапраўды хрысціянскім кірунку дазваляе з надзеяй глядзець у будучыню.

*Уладзімір Конан*

---

* «Наша ніва». 1939, 13 снежня.

** Кіпель, В., Кіпель, З. Беларускі друк на Захадзе: бібліяграфія / пад рэд. Ю. Гарбінскага і Л. Юрэвіча. — Нью-Ёрк–Варшава, 2006. — С. 290.

# *ХРЫСЦІЯНСТВА І БЕЛАРУСКІ НАРОД*

(СПРОБА СІНТЭЗУ)

* * *

*У 1938/9 г. прыпадаў юбілей 950-годдзя хрышчэння «Русі», гэта значыць: Украіны, Беларусі і Расеі. У чэсць гэтага вялікага юбілею шмат пісалі ўкраінцы і расейцы. Не асталіся ад іх і мы, беларусы. Доказам гэтага, не лічачы большых і меншых артыкулаў у беларускай перыядычнай прэсе, — служыць таксама і гэтая скромная праца.*

*Мае яна сваю гісторыю. Перадусім вырасла яна з праектаванага большага артыкула ў літаратурна-навуковы журнал «Калоссе». У самым, аднак, працэсе пісання аказалася, што рамы артыкула для гэтай працы вузкія, і замест артыкула паявілася кніжка. Калі праца гэта збольшага была скончана, 15.XII.38 г. польская паліцыя даручыла мне загад віленскага ваяводы Бацянскага аб высяленні мяне на пяць гадоў з граніц Віленскага ваяводства.*

*27.XII.38 г., захапіўшы з сабой між іншым рукапіс працы «Хрысціянства і беларускі народ», апынуўся я ў Слоніме. Тут, не маючы адпаведнай бібліятэкі, не меў я магчымасці належна рукапіс праверыць і паправіць.*

*Галоўнай мэтай гэтай працы было: маючы на ўвеце беларускую духовую разрозненасць, крытычна карыстаючы з расейскіх і польскіх адпаведных крыніц, у форме папулярна-навуковай папрабаваць шукаць «беларускай праўды», беларускай рэлігійнай і нацыянальна-культурнай сынтэзы і прадставіць ролю ў гэтай справе хрысціянства ў Беларусі. Наколькі гэта мне ўдалося — няхай судзе грамадзянства.*

*Прыходзілася чуць закід, што я дзіўна многа прыпісваю хрысціянству ў Беларусі нейкай асаблівай сінтэзуючай сілы і сілы,*

*творачай народнасць, калі гэта хрысціянства ў нас пераважна было і ёсць далей хутчэй сілай, дзелячай і дэнацыяналізуючай народ. Закід гэты праўдзівы, калі разважаць у нас хрысціянства паддзельнае, палітычнае — расейскае і польскае, і зусім беспадстаўны, калі разважаць хрысціянства ў самай яго сутнасці, аб што мне ў гэтай працы перадусім і ішло.*

*17.IX.39 г. здарыліся вялікія падзеі: савецкая чырвоная армія заняла землі Заходняй Беларусі, якія ўвайшлі ў склад Савецкай Беларусі. Польшча адышла да Нямеччыны і як незалежная дзяржава існаваць перастала. 28.X.39 г. Вільню, як адвечную сталіцу Літвы, заняла літоўская армія. Я, як жыхар Вільні і літоўскі грамадзянін, з Слоніма пераехаў у Вільню.*

*Бадай уся праца «Хрысціянства і беларускі народ» друкавалася ў часопісе «Хрысціянская думка». У новых абставінах часопіс гэты выходзіць перастаў і два-тры канчатковыя аркушы прыйшлося дадрукаваць асобна.*

*Кніжка гэта прызначалася для шырокіх беларускіх кругоў перадусім Заходняй Беларусі і затым надрукавана гражданкай. Сёння яна ўжо была б пажадана лацінкай. Але сталася: тых падзеяў, якія адбыліся ў верасні і кастрычніку 1939 года на беларускіх і літоўскіх землях, ніхто не мог прадбачыць.*

*АД. СТ.*
*Вільня, 14.XI.39.*

## І. ВЕЛІЧ І ЗНАЧЭННЕ ХРЫСЦІЯНСТВА

*Сонца і жыццё. Хрысціянства і душа чалавека. Хрысціянства і культура. Хрысціянства па-над часам і прасторай. Агульнае значэнне хрысціянства. Скромная гэта праца — у чэсць 950-годдзя Хросту Беларусі.*

Сонца — яго свет і цяпло — з’яўляецца першай і найважнейшай умовай жыцця на свеце. Без яго быў бы застой і бязладдзе. Без сонца не можам мы сабе і прадставіць жыцця ў прыродзе. Дзеля ж гэтага яно шчодра дарыць сваімі дзіўнымі дарамі ўсю прыроду, не вылучаючы і чалавека. Яно на ўсіх і на ўсё свеціць, усіх і ўсё грэе, яно ўсіх і ўсё сваім цяплом і святлом пранікае, паклікае да жыцця і ўсяму жывому стварае ўмовіны, у якіх яно можа жыць, развівацца і гэтак спаўняць сваю таемную жыццёвую ў прыродзе мэту. Так дзіўна ёсць шчодрым сонца, што яно і тады дарыць нас сваімі дарамі, калі мы гэтага не заўважаем і не спасцерагаем і аб гэтым не думаем. Яно рассеяна ў прыродзе, яно там існуе спосабам нават таемным, укрытым. Бо ж і агонь, які чалавек у рознай форме і розным спосабам дабывае на свае жыццёвыя патрэбы, — гэта ўкрытае сонца. Толькі да таго не даступныя дары сонца, хто ад яго хаваецца[1].



Тое, што наглядаем у адносінах сонца да прыроды, мае дзіўнае падабенства, аналогію ў адносінах хрысціянства да душы чалавека, у адносінах да яго духовага жыцця. Нікога яно не вылучае, ад нікога не крыецца, прад нікім не зачыняе сваіх дароў, усім свеціць, усіх і ўсё грэе. Не было і няма на свеце такой тэорыі, такой навукі, такой духовай тэарэтычнай сістэмы, якая была б так універсальнай і так разам індывідуальнай, так простай і так складанай, так звычайнай і так бяздонна глыбокай, так блізкай і так далёкай, так чалавечай і так разам надчалавечай, так штодзённай і так вечнай, як навука ўбогага Назарэйчыка Ісуса Хрыста. Хрысціянства толькі да таго не дастаецца і не пранікае, хто свядома яго не хоча і свядома ад яго стараніцца. Але і гэткія, несвядома для сябе, як жа многа карыстаюцца дарамі хрысціянства, аддыхаюць ім, яго вечна жывымі сокамі кормяцца! Нават самыя ярыя яго ворагі не могуць выйсці з арбіты яго ўплываў і як жа часта самі да таго ж імкнуцца, што прыносе хрысціянства і з чым яны борацца. Ці ж летуценні марксістаў аб справядлівым, без дамешкі крыўды, сацыяльным на свеце ладзе не ёсць адгалоскам Хрыстовага валадарства?![2]

Вялікае значэнне хрысціянства ў духовым жыцці чалавецтва. Сведчыць аб гэтым уся гісторыя людской культуры. Дайшлі да нас здабыткі культуры класічнай — скарбы старадаўняй навукі і мастацтва, бо гэта ўсё перахаваў Касцёл і абараніў, каб не знішчылі дзікія народы, што падчас вандровак нахлынулі на Еўропу. Ды Касцёл не абмежаваўся абаронай і перахоўваннем гэтых здабыткаў — ён гэта ўсё развіваў і дапаўняў і на гэтым тварыў ужо сваю хрысціянскую культуру. Чым быў Каталіцкі Касцёл для культуры ў Зах. Еўропе, тым была Праваслаўная Царква ў бліжэйшай Азіі і на ўсходзе Еўропы.

Айцы Царквы-Касцёла, як усходнія, так і заходнія: Клеменс Александрыйскі, Тэртульян, Арыгенэс, Атаназы, Базыль Вялікі, Рыгор з Ніссы, Рыгор з Наз’янзу, Геронім, Аўгустын і інш., як жа прыгожа пераварылі ў духу хрысціянскім галоўныя прынцыпы грэцкіх і рымскіх філосафаў! Было таксама хрысціянства крыніцай натхнення і арыгінальнай філасофіі. Прыкладам гэтага, між іншым, з’яўляецца ў сярэднявеччы такі волат філасофскай думкі, як св. Тамаш Аквінскі[3], а з новых вялікі расейскі хрысціянскі мысліцель Уладзімір Салаўёў[4].

Агулам найвялікшыя мысліцелі і мастакі слова, гукаў і формы чэрпалі сваё натхненне з хрысціянства. Што ж бы асталося, напрыклад, з Гётавага «Фаўста»[5], калі выкінуць з гэтага твора ўсе хрысціянскія (каталіцкія) элементы? А што ж бы асталося ў найвялікшых галерэях свету, калі б з іх забраць усе шэдэўры рознага роду мастацтва, якія створаны пад уплывам хрысціянства?

Як жа абяднеў бы Беларускі музей, калі б забраць з яго здабыткі, якія стварыла хрысціянская ідэя! Не пазнаў бы тады яго і ягоны тварэц: закладчык і збіральнік Іван Луцкевіч. Як жа збяднела б наша мастацтва, калі б забраць ад яго хрысціянскую архітэктуру, разьбу, малярства! Як жа выглядалі б сёння гарады, як на захадзе Еўропы, так і на ўсходзе, калі б забраць з іх мастацкія касцёлы і цэрквы, вобак якіх павырасталі чыны хрысціянскай асветы і дабрадзейнасці: школы, шпіталі, прытулкі! Няма, бадай, ніякай галіны культуры, дзе б хрысціянства не выказала свайго творчага, дадатнага ўплыву.

Снежныя высокія горы, здаецца, усцяж падымаюцца вышэй у меру таго, як мы ад іх далей адходзім. Па іх мы арыентуемся ў дарозе, яны ўсцяж прад нашымі вачыма. Так і з хрысціянствам: мінаюць вякі, праносяцца яны часта над чалавецтвам, як буры вялікія, якія выварочваюць уверх дном і нішчаць народы, дзяржавы, выказваюць аджытасць і недарэчнасць сістэм чалавечай мудрасці, руйнуюць грамадскі, часта вякамі ўстаноўлены і традыцыяй асвечаны грамадскі лад. А хрысціянства, у гэтай завірусе, з-пад гэтай руіны і грузаў, выглядае яшчэ больш прынадным, яшчэ больш свежым і новым, яшчэ больш жыццятворчым. Зуб часу, які ўсё з'ядае, руйнуе і змяняе, хрысціянства не датыкае — яно над час і над прасторы. Яно, як тыя высокія беласнежныя горы, яшчэ больш высокім і стройным нам прадстаўляецца, чым далей у часе і прасторы ад нас адыходзе.

У 1938–1939 годзе спаўняецца 950 гадоў, як хрысціянства паявілася на землях беларускага народа. 986 — 9-ты год нашай эры ёсць тым годам, калі над Беларуссю заззялі светлыя касулькі Евангелля, несучы нашаму народу новую эру, новую праўду, новае жыццё, несучы культуру.

Вось жа дачакаліся беларусы вялікага юбілею — 950-годдзя свайго хрышчэння. Святкуем мы гэты вялікі юбілей, на жаль, толькі тут, па гэтай старане савецка-польскай граніцы, бо там, у БССР, святкаваць гэтага юбілею няможна, так як няможна вызнаваць, верыць і служыць Хрысту, няможна там усяго гэтага, бо там — о, іронія! — «найбольшая на свеце свабода, бо там найідэальнейшая на свеце дэмакратыя!» Дык тым больш шчыра і хоць скромна, але з вялікай верай і любоўю святкуем мы тут гэты так вялікі, гэты так рэдкі юбілей.



## II. ЧАС І АБСТАВІНЫ ПАЯЎЛЕННЯ ХРЫСЦІЯНСТВА: ГРЭКА-ЛАЦІНСКАЯ КУЛЬТУРА, БЕЛАРУСЬ І БЕЛАРУСКІ НАРОД

*Геапалітычныя абставіны, у якіх прыйшоў на свет Хрыстос. Беларусы: іх прагісторыя, паходжанне, рассяленне беларускіх плямён; назоў: беларускі; Полацкае княства — апора і асяродак палітычнай самастойнасці беларускіх княстваў у IX–XIII стст.*

Калі з'явіўся на зямлі сярод людзей Хрыстос (за часаў рымскага цара Аўгуста: 30 г. да нар. — 14 па нар.)[6], над тагачасным светам панавала магутная і вялікая Рымская імперыя. У склад яе тады ўваходзілі землі ўсёй паўдзённай і заходняй Еўропы, землі Малой Азіі, а таксама ўзбярэжжа Афрыкі з Егіптам. Усе незлічоныя народы гэтых зямель, — апрача славян, з якіх паўстаў народ беларускі, а аб якіх яшчэ тады гісторыя не ведала нічога, — былі падданымі гэтай сапраўды вялікай і магутнай Рымскай імперыі.

Вось жа на прасторах гэтай дзяржавы спярша панавала вялікая грэцкая (Грэцыя заваявана рымлянамі ў 146 г. да нар. Хр.) культура, а пасля не менш вялікая культура лацінская. У далейшым сваім развіцці гэтыя культуры спярша ўзаемна не выключаліся, аднак пад уплывам гістарычных абставін свайго далейшага развіцця яны паволі зусім разышліся і разгранічыліся — лацінская затрымалася перадусім на Захадзе і часткова на поўдні Еўропы, а грэцкая — на поўдні Еўропы і ў Малой Азіі.

Такое разгранічэнне гэтых культур асабліва пачало паглыбляцца ад таго часу, калі рымскі імператар Хвядос Вялікі імперыю сваю (395) падзяліў між сваімі сынамі на ўсходнюю і заходнюю і калі ўрэшце (476), пад напорам германскіх дзікіх плямён, імператар заходняй Рымскай імперыі Ромул Аўгуст быў скінуты з трона, а землі гэтай імперыі былі заваяваны, і на іх з бегам часу паўсталі новыя народы і новыя дзяржавы[7].

Усходняя ж частка Рымскай імперыі, гэта тая частка, дзе панавала грэцкая культура, званая Візантыяй, існавала далей, аж пакуль не была заваявана туркамі ў 1453 г. Асяродкам галоўным дзейнасці культуры лацінскай быў Рым, а культуры грэцкай — Канстанцінопаль, ці, як тады звалі, — Царград.

Дык зразумелая рэч, што хрысціянства, сеянае на землях гэтых дзвюх культур, адно што да сваёй сутнасці, вырастала, аднак, рознае што да яго разумення і што да формы. Праменні Хрыстовай навукі як бы пераломліваліся ў душах народаў з рознымі культурамі і цалком розна, а часам нават супярэчна праяўляліся.

Урэшце, у VI в. па нар. Хр. ужо гісторыя пачынае гаварыць аб славянах, якія, з прычыны вандроўкі народаў (IV–IX стст.), прыйшоўшы на змену скіфаў, сарматаў, фінаў, балтаў (літоўцы і латышы) і інш., або і не застаючы нікога, займалі ўсходнія і паўднёва-ўсходнія землі Еўропы, якія ўжо нападалі на суседнюю Візантыю і з усходняй часціны якіх, як убачым ніжэй, паўстаў у сваім часе і народ беларускі.

Народ беларускі сваё гістарычнае жыццё на цяперашніх беларускіх землях пачынае з VIII–IX стст., калі паўстаюць ужо ведамыя сярод беларускіх плямёнаў княствы. Яны займалі прастор усіх цяперашніх беларускіх зямель. Найсільнейшым з іх было княства Полацкае, дайшоўшае найбольшай славы, магутнасці і самастойнасці пры слаўным беларускім князю Усяславе (1101). Час гэты — гэта першы, так званы полацкі перыяд у беларускай гісторыі, перыяд самастойнага палітычнага жыцця беларусаў.

Затрымаліся мы крыху над гісторыяй, геаграфіяй і культурай тагачаснага чужога свету, каб пасля лягчэй зразумець гістарычныя падзеі хрысціянства агулам, а перадусім частку яго — гісторыю хрысціянства на беларускіх землях, на лёсы якой гэты старадаўні свет меў і мае сёння сапраўды вялікі ўплыў.

Але дзеля гэтага трэба таксама крыху бліжэй запазнацца і з мінуўшчынай беларускага народа.

Беларускі народ паходзіць ад славян, а славяне паходзяць ад племені, якое завецца арыйскім, або індаеўрапейскім. Калыскай арыйцаў быў Іран (сённяшняя Персія і Афганістан). Арыйцы, разросшыся ў сваёй бацькаўшчыне ў вялікі народ, мусілі шукаць для сябе новага месца. Вось жа адны з іх пайшлі на ўсход і поўдзень — у Індыю, а другія — на захад, у Еўропу. Сярод гэтых апошніх былі славяне і літоўцы, якія займалі ўсходнія прасторы паміж Карпатамі і Балтыйскім морам. Пераход гэты адбываўся паступова і паволі. Пачатак яго сягае на некалькі тысяч гадоў прад нараджэннем Хрыста, а канчатак на тысячы дзве перад Хрыстом. Славяне, жывучы між Карпатамі і Балтыкай, на захад ад сябе мелі германцаў, на ўсход скіфаў і сарматаў, на поўнач фінаў. Закінутыя далёка ад культурных цэнтраў, вялі яны жыццё прымітыўнае, некультурнае. Ніякай ролі сярод іншых народаў яны яшчэ тады не ігралі, і гісторыя аб іх тады яшчэ нічога не знала. Але здарылася падзея, якая зрушыла славян з месца і парушыла іх дагэтулешні супакой. Гэтая падзея ведамая ў гісторыі як вялікае перасяленне народаў, якое трывала ад IV да IX ст. па нарадж. Хрыста. У часе гэтага перасялення ці вандровак народаў непакоілі славян дзікія народы гуны, авары, а найбольш готы, якія праходзілі праз славянскія землі ад мора Балтыйскага аж да Чорнага, дзе ў IV ст. заснавалі сільную дзяржаву. Нямала даваліся ў знакі славянам таксама і фінскія мадзяры, або вугры, якія нешта ў IX ст. занялі славянскія землі, дзе асталіся і да сёння.



Вось жа славяне, дзеля націску на іх сваіх суседзяў і далейшых чужынцаў, а таксама дзеля цеснаты на сваёй прабацькаўшчыне (землі між Карпатамі, Дняпром, Прыпяццю і Віслай), павінны былі пасоўвацца далей, у іншыя стораны. Такім чынам, адна частка з іх пайшла на поўдзень, за Дунай, на Балканы і пад Адрыятыцкае мора, — гэта паўдзённыя славяне: балгары, сербы, харваты або крааты, і славенцы. Іншыя ж славяне пацяснулі на захад — гэта заходнія славяне: славакі, чэхі, маравяне, сербы лужыцкія, або палабскія, люцічы, памаране. Да гэтай заходняй групы належаць таксама і польскія, або як іх называлі — ляшскія плямёны: вісляне, мазуры, паляне, слязане, з якіх пазней утварыўся польскі народ.

На ўсход падаліся плямёны ўкраінскія: паляне панадднепроўскія, северане, драўляне, дулебы, бужане, угліч. Далей на паўночны ўсход пайшлі вяцічы, з якіх, змяшаных пасля з фінамі, паўстаў народ расейскі, а проста на поўнач пайшлі: крывічы, радзімічы, дрыгавічы, а часткова северане і вяцічы, з якіх утварыўся народ беларускі. Украінскія, расейскія і беларускія плямёны належаць да групы славян усходніх.

Гэты разыход славянскіх плямёнаў адбываўся паступова, пачынаючы ад IV і да якога VIII ст. У VIII–IX стст. усе славяне ўжо былі размясціўшыся на тых землях, якія яны займаюць і сёння. Паўднёвыя і заходнія славяне выходзяць на гістарычную арэну ўжо ў VII–VIII стст., а ўсходнія толькі ў IX.

Запытаемся ж цяпер, каго засталі ці каго змянілі беларускія плямёны, калі прыйшлі на сённяшнія свае землі? Магчыма, што некалі, прынамсі часткова, засялялі беларускія землі скіфы, пасля сарматы, а па іх літоўцы і фіны, якіх і змянілі нашы плямёны. Асабліва гэта датычыцца крывічоў і радзімічаў. Можа, адны толькі дрыгавічы былі аўтахтонамі (першымі насельнікамі) свайго краю, беларускай часткі сённяшняга Палесся.

Дзе ж пасялілася кожнае беларускае племя? Крывічы на абшары паміж Нёманам, Вяллёю, Дняпром, горнаю Волгаю аж пад Ноўгарад і Пскоў. Радзімічы пасяліліся на ўсход ад Дняпра па берагох ракі Сож (даўнейшая Магілёўская губерня). Дрыгавічы занялі ўвесь

поўдзень Беларусі: усю даліну Прыпяці разам з паўночнымі яе прытокамі па Бабруйск, Менск, Наваградак, Горадню. Вось з гэтых галоўных трох беларускіх плямёнаў утварыўся беларускі народ. У склад беларускага народа ўвайшлі яшчэ, прынамсі часткова, таксама севяране, што жылі па рацэ Дзісне (частка Чарнігаўшчыны) і вяцічы, што жылі ўверсе ракі Акі.

Асяданне славянскіх плямёнаў, продкаў успомненых народаў, а таксама ўкраінскага, беларускага і расейскага, на тых землях, на якіх яны сядзяць і сёння, адбывалася на працягу пары вякоў — ад VII да IX ст. За гэтых пару сот гадоў наступіла дыферэнцыяцыя адзінага славянскага племені. Сутнасць гэтай дыферэнцыяцыі ў тым, што гэтае некалі адно славянскае племя распалася на славян заходніх, усходніх і паўдзённых і што гэты працэс дыферэнцыяцыі прадаўжаўся і далей. Сярод усходніх славян сваім парадкам адбываецца гэты працэс і паяўляецца цэлы рад асобных славянска-«рускіх» плямён, з якіх паўстаюць тры асобныя народы на сучаснай беларускай, украінскай і велікарускай тэрыторыі. Рассяленне гэта аканчальна зацвердзілася ў IX ст. У гэтым часе, ад IX да XIII ст., на сучасных беларускіх этнаграфічных землях былі ўжо настала асеўшы славянскія сваяцкія плямёны: крывічы, дрыгавічы, радзімічы, часткі севяран і частка вяцічаў, якія зліліся ў адзін народ, што пазней стаўся звацца беларускім.

Чаму наш народ завецца *«беларускім»*? Чаму «белым» — навука дагэтуль не вырашыла. Адны кажуць: затым, што «белы» значыла некалі тое, што вольны, а беларускі народ ніколі не быў у татарскай няволі, дык затым яго і яго край называлі белым. Іншыя гэты назоў выводзяць ад белага колеру вопраткі, які даўней беларусы дужа любілі, іншыя ад светлых валасоў у беларусаў і г. д. А часам наш народ апрача «белы» завецца *«рускім»*, дык тут справа вось у чым. Калі ўсе вышэйапісаныя славянскія плямёны занялі сённяшнія свае землі, скандынаўскія (нарманскія) ваякі-варагі з племя «рус», дзеля гандлю і звычайнай нажывы, з поўначы часта праз славянскія землі прабіраліся на поўдзень аж да сталіцы Візантыі Царграда, па дарозе заваёўвалі славян, а заваяваўшы, тварылі ў іх дзяржаўнае жыццё[8]. Такім чынам, першыя князі, якія пачалі арганізоўваць славян, былі князі паходжання варага-рускага, ад якіх і ўсе ўсходнеславянскія плямёны атрымалі агульную назову: рускіх. Гэтыя заваёўнікі, якіх агулам, у параўнанні з славянамі, было мала, хутка, можа, у якім ужо другім пакаленні, праз жаніцьбу змяшаліся з славянамі, асіміляваліся і зусім, можна сказаць, сталіся славянамі, пакідаючы толькі назоў: *рускі, русінскі, расейскі, беларускі, беларусінскі*.



Украінцы, як ведаем, закінулі цалком гэты сапраўды чужы назоў і завуцца ўкраінцамі. Расейцы трымаюцца яго. Магчыма, што некалі і нам, беларусам, прыйдзецца гэты чужы назоў пакінуць іназвацца *крывічамі*, як гэта ўжо некаторыя беларускія вучоныя робяць[9], а гэта праз увагу на тое, што крывічы — гэта найвялікшае племя, якое ўвайшло ў склад нашага народа і што князі гэтага племені, князі крывіцкай зямлі, на пачатку беларускай гісторыі найбольш выказалі імкненняў да незалежнасці, найбольш гэтай незалежнасці баранілі, найдаўжэй незалежна трымаліся і агулам тварылі самабытны беларускі цэнтр: палітычны, эканамічны, сацыяльны, культурны. Але справа назову — гэта справа будучыні. Нас тут далей цікавіць што іншае. Вось жа гэтыя варагі-русы, бадай, першы найсільнейшы славянскі палітычны цэнтр стварылі сярод плямён украінскіх. Першыя гэтыя іх князі-арганізатары: Рурык, Алег, Ігар былі іменна варагі-русы. З іх жа паходзіў ужо саславяншчаны і Уладзімір Вялікі, за якога часаў і з якога прычыны прыйшло да гэтых славян святло Хрыстовай навукі.

Спярша паўставалі паасобныя славянскія княствы. Пасля некаторыя князі з гэтых розных самастойных княстваў пачалі тварыць суцэльную адну дзяржаву. Адным з галоўных гэткіх князёў быў той жа Уладзімір, які княствы ўсіх гэтых усходнеславянскіх плямён стараўся злучыць у адну вялікую дзяржаву са сталіцай у Кіеве. За яго часаў існавалі ўжо гэткія беларускія самастойныя княствы: Полацкае, з горадам Полацак, аб якім ужо гісторыя ўспамінае ў 862 г., Смаленскае, з горадам Смаленскам з IX ст., Віцебскае, Менскае, Тураўскае, Аршанскае, Друцкае, Лукомльскае, Мсціслаўскае, Ізяслаўскае, Лагойскае, Слуцкае, Наваградскае, Нясвіжскае, Турава-Пінскае, Мазырскае, Клецкае, Свіслацкае, Барысаўскае і інш. Уладзімір прыгортваў гэтыя княствы да Кіеўскага княства, якое назваў вялікім, і замацоўваў іх за сабой тым спосабам, што раздаваў іх сваім сыном як удзелы, ад якіх дамагаўся даніны. Беларускія, аднак, княствы не паддаваліся Уладзіміру і баранілі сваёй незалежнасці. Смаленскае і Турава-Пінскае Уладзіміру ўрэшце ўдалося зламаць, далучыць да Кіева як удзелы і змусіць іх плаціць Кіеву даніну. Але гэтага зрабіць не ўдалося Уладзіміру з княствам Полацкім. Гэтае княства па-геройску бараніла беларускай незалежнасці, астаючыся бадай заўсёды незалежным ад Кіева. Пры гэтым трэба адцеміць, што полацкія князі, бароначы незалежнасці самога Полацкага княства, гэтым самым баранілі таксама і княствы меншыя, суседнія, асабліва што знаходзіліся на зямлі крывічоў і былі залежныя ад Полацка. Гэтыя самастойніцкія полацкія імкненні асабліва сільна праявіліся пачынаючы ад XI ст. З гэтага часу Полацкае

княства на паўночным захадзе, так як Кіеўскае на паўдзённым захадзе, пастаянна забірае пад сваю ўладу дробныя беларускія ўдзелы. Словам, полацкі князь іграе такую ролю адносна паўночназаходніх дробных удзельных княстваў, якую іграе кіеўскі адносна кіеўскіх ці паўднёва-заходніх удзельных княстваў.

Ужо ў 980 г. у Полацку знаходзіцца самастойны беларускі князь Рагвалод, паходжання, здаецца, таксама варага-рускага. Рагвалод і яго сыны былі забітыя на вайне з тым жа ўсё кіеўскім князем Уладзімірам. Па Рагвалоду асталася дачка яго Рагнеда, якую Уладзімір узяў сабе за жонку. А ад гэтай жонкі быў у яго сын Ізяслаў. Гэты Ізяслаў, сын Рагнеды, быў закладчыкам полацкага беларускага княжацкага дому, полацкай беларускай княжацкай дынастыі. Пасля Ізяслава, сына Уладзіміра (каля 980 г.), полацкім князем быў яго сын Брачыслаў (1044), пасля — яго сын слаўны Усяслаў (1101)[10], унук Ізяслава. Гэты ведамы ў гісторыі Беларусі пад назовам Чарадзея з прычыны сваёй адвагі, баявой славы і памыснасці ў кіраванні Беларуссю. Ён вёў доўгую і ўпорыстую, крывавую вайну з кіеўскімі князямі Яраславічамі, памысна баронячы незалежнасці Беларусі. Страшная была між імі бітва над ракой Нямігай, пад Менскам, аб чым успамінаецца таксама і ў песні аб Палку Ігаравым. Гэты вялікі беларускі князь княжыў 57 гадоў і ўтрымаў незалежнасць Беларусі аж да канца свайго жыцця (1101). Па смерці беларускага Чарадзея полацкім княствам кіравалі яго сыны, а пасля ўнукі, за якіх ад XIV ст. пачаўся ў гісторыі Беларусі так званы перыяд беларуска-літоўскага палітычнага сужыцця.

(Літаратура: Е. Карскій. Бѣлоруссы, I, Вильна, 1904; А. Киркор. Бѣлорусское Полѣсье (Живописная Россія, т. III). Москва, 1882; Ст. Томашівський. Українська Історія, I. Старинні і Середні віки. Львів, 1919; Д. Багалѣй. Русская Исторія, I. Княжеская Русь. Москва, 1914; A. Sanders. Um die Gestaltung Europas. München, 1938.)

## III. ХРЫСЦІЯНСТВА І НАРОДЫ; СВ. УЛАДЗІМІР І ХРЫШЧЭННЕ РУСІ: УКРАІНЦАЎ, БЕЛАРУСАЎ І МАСКОЎЦАЎ

*Адносіны хрысціянства да розных народаў. Славяне і іх пісьменства. Апосталы славян Кірыл і Мяфодзій: іх праца і значэнне. Св. Уладзімір. Хрышчэнне: украінцаў, беларусаў і маскоўцаў. Адкуль Уладзімір прымаў хрысціянства і адносіны яго да Апостальскай Сталіцы. Адзінства хрысціянства.*



Лёгка дадумацца, што апосталы хрысціянства, несучы ў свет слова Св. Евангелля, неслі яго, перадусім, у мове і форме грэцкай і лацінскай, бо гэтыя мовы былі падставай, як ведаем, тагачаснага культурнага жыцця на свеце. Нават жыды, расцерушыўшыся па ўсёй грэка-рымскай дзяржаве, мову сваю старадаўнюю пазабываліся цалком і ўжо Біблію мусілі тлумачыць на мову грэцкую і ёю карыстацца ў сінагогах. Але апосталы гэтыя хутка напаткалі народы, для якіх гэтыя мовы былі ўжо няведамы або, прынамсі, мала ведамы і да якіх прамаўляць і якіх вучыць, і для якіх арганізаваць хрысціянскае жыццё трэба было ў іх роднай, зразумелай мове.

Гэтак і рабілася. Ужо ў II ст. паяўляюцца пераклады святых кніг на мову сірыйскую, у пал. ст. IV — пераклады на мову абісінскую і гоцкую, у ст. V — на армянскую, у VI — на грузінскую, у VII — на арабскую, а ў ст. IX мелі ўжо ў сваёй мове святыя кнігі і літургію: персы, туркі, хазары і іншыя.

Гэтага ж самага трэба было і для славян, і гэта сапраўды было роблена. Патрэбу гэтую для славян здавольваюць вялікія святыя апосталы Кірыл і Мяфодзій.

Паводле візантыйскіх і арабскіх пісьменнікаў і даследчыкаў VIII–IX стст., славяне, яшчэ будучы паганцамі, ужо мелі пісьменства. Пісалі яны тады знакамі, якія называліся «рысы» і «нарэзы», якія абазначаліся пры помачы вострай палачкі на дрэве, на дошках, на кусках кары, на камянях і служылі толькі для звычайных і неабходных запісаў і для варажбы.

Пазней паяўляецца ў іх ужо нармальная абэцэда[11], так зв. «глаголіца», якая паўстала з абэцэды грэцкай пад уплывам гэтых жа славянскіх пісьменных знакаў — рысаў і нарэзаў. Глаголіца ў старадаўнасці ўва ўсіх усходнеславянскіх народаў, а значыць, і ў беларусаў, мела шырокае практычнае застасаванне. Глаголіцай беларускія князі пісалі розныя граматы, дагаворы і іншыя дакументы.

Але абэцэда-глаголіца была яшчэ дужа непрактычная, занадта складаная і цяжкая пры ўжыванні. Добра, відаць, гэта зразумелі апосталы славян святыя браты Кірыл і Мяфодзій, калі яны, праняўшыся думкай несці навуку Хрыста да славянскіх народаў, спярша прыступілі да пераробкі гэтай старой нязручнай абэцэды. І сапраўды, гэтыя апосталы стварылі абэцэду новую, славянскую, якая пасля была празвана «кірыліцай», бо апрацаваў яе фактычна Кірыл (будучы свецкім чалавекам называўся Канстанцін), які быў высокаадукаваным і вучоным.

Браты Кірыл і Мяфодзій былі родам з Македоніі. Бацька іх Леў быў высокім грэцкім ураДоўцам і пражываў у Македоніі ў горадзе Салунь (Тэсалонікі). Македонія была густа заселена сла-

вянамі-балгарамі, і мясцовыя грэкі добра былі азнаёмлены з балгарскай мовай. Добра яе знал змалку і Канстанцін і Мяфодзій. Абодва, атрымаўшы добрае выхаванне і высокую асвету, да якой, як сказана, асабліва гарнуўся і якой асабліва адзначаўся малодшы Канстанцін, займалі высокія ўрадавыя становішчы. Аднак хутка пакінулі гэта ўсё, паступілі ў манастыр і пасвяцілі сябе апостальскай хрысціянскай справе.

У 861 г. у Канстанцінопаль (Царград) явілася пасольства з Хазарскай зямлі прыслаць да хазар вучонага багаслова дзеля пашырэння сярод іх хрысціянства. Выбар паў на святых братоў. Па дарозе да хазар яны затрымаліся ў Корсуні, дзе праз некаторы час бліжэй пазналі славянскі язык усходніх славян, які дужа быў падобны да балгарскага. Тут яны найшлі Евангеллю і Псалтыр, напісаныя «парусску», гэта значыць, языком усходнеславянскім, які дзеля ўспомненых ужо варага-русаў называлі рускім. Напісаны яны былі, найхутчэй, глаголіцай.

Паяўленне гэтых пераводаў аб'ясняецца тым, што сярод варагаў былі ўжо хрысціяне, добра знаючыя грэку і лаціну. Вось жа яны, відаць, і зрабілі гэты пераклад.

Гэтыя кнігі мелі вялікае значэнне ў далейшай працы святых братоў. У той час у хрысціянскай Царкве панавала перакананне, што царкоўнымі (касцельнымі) языкамі могуць быць толькі тры: старажыдоўскі, грэцкі і лацінскі, а фактычна гэтыя два апошнія, як языкі дзвюх галоўных вялікіх культур. У гэтым перакананні выражалася фактычнае панаванне гэтых дзвюх старых культураў, якія не лічылі патрэбным рахавацца з языкамі народаў, якія стаялі культурна ніжэй. Вось жа факт існавання Евангеллі і Псалтыра ў мове ўсходніх славян, а таксама факт існавання службы Божай і Святога Пісання ў мовах многіх іншых усходніх народаў, аб чым мы ўжо ўспомнілі, павінен быў аслабіць у душы святых апосталаў сілу гэтага пануючага перакананне.

Навярнуўшы нямала хазараў на хрысціянства, Кірыл і Мяфодзій вярнуліся ў Візантыю. Па дарозе, каля таго ж Корсуня (Херсон), яны знайшлі мошчы-рэліквіі (астанкі) мучаніка св. Клімента, Папы Рымскага, і прывезлі іх у Візантыю. Але чакала іх новая місія, місія сярод заходніх славян у Маравіі, куды яны і адправіліся каля 863 г.

Каб лягчэй было ім там сеяць зерне праўды Хрыстовай, яны адправіліся туды, апрацаваўшы славянскую абэцэду і пераклаўшы на славянскую мову Святое Пісанне і кнігі літургічныя, кладучы такім чынам моцныя асновы для далейшага пашырэння хрысціянства і агулам прасветы на ўсіх славянскіх землях.



Такая праца гэтых апосталаў была цяжкой і небяспечнай. Народ, разумеючы ў роднай мове слова Божае, валам ішоў за сваімі апосталамі. А тым часам караніліся ўжо там немцы. Нямецкае духавенства для палітычных мэтаў накідала там славянам чужую нямецкую мову. А цяпер немцы, убачыўшы, што праца іх дарэмная, пачалі рознымі спосабамі змагацца з славянскімі апосталамі. Прыйшлося святым братом нямала зазнаць ад нямецкага духавенства і фальшывых даносаў да Папы, і здзекаў, а нават і турмы ад нямецкіх уладаў за сваю апостальскую працу.

Урэшце Папа Мікалай I († 867), каб даведацца, што сапраўды робяць гэтыя апосталы, выклікаў іх у Рым. Гісторыкі пішуць, што святыя браты прыбылі туды на пачатку 868 г., калі Папам быў ужо Адрыян II. Цяжкія тут былі дні для апосталаў. Мелі яны і тут многа ворагаў. Аднак праўда зваявала. Папа аднёсся да іх дужа добра, справу разгледзеў і прызнаў слушнасць за славянскімі апосталамі. Галава хрысціянства мове славянскай прызнаў права ў святынях хрысціянскіх. Гэта быў выпадак, маючы вялікае гістарычнае значэнне як для жыцця рэлігійнага, так і агулам для ўсей славянскай культуры.

Праца св. Кірыла і Мяфодзія была для ўсяго славянства сапраўды вялікай. Яна славянскі язык паставіла нароўні з габрэйскім, грэцкім і лацінскім, у якіх толькі тады і можна было маліцца. Да гэтых, такім чынам, языкоў прыбыў і язык славянскі. Вось што аб гэтым казаў Папа Адрыян II, пацвярджаючы працу славянскіх апосталаў: «Выдуманае Канстанцінам-філосафам славянскае пісьмо, на якім належным спосабам узносіцца хвала Богу, мы пацвярджаем і загадваем, каб у гэтай мове выкладалася верным навука і дзеі Госпада нашага Ісуса Хрыста, бо Божая ўлада вучыць нас хваліць яго не ў трох толькі языках, гэтак кажучы: «Хваліце Госпада ўсе народы, хваліце яго ўсе людзі». І апосталы, напоўненыя Св. Духам, прапаведавалі веліч Госпада ўва ўсіх языках. І апостал Павал — гэтая труба Госпадава — нам паказвае, што кожны язык няхай славіць Госпада нашага Ісуса Хрыста на славу Айца. І ў першым пасланні да карынчыкаў[12] ён даволі нас павучае, каб мы, гаворачы рознымі языкамі, тварылі Хрыстовую Царкву. І зусім не праціўна ні веры, ні навуцы Хрыста, калі будзе ў гэтым жа славянскім языку чытацца і аб'яснацца Святое Пісанне Старога і Новага Запавету, належна пераложанае і вытлумачанае, адпраўляцца літургія ці іншае набажэнства, бо хто стварыў тры першыя языкі: іудзейскі, грэцкі і лацінскі, той стварыў і ўсе іншыя для большай славы сваёй».

Цяпер ясна, што святло Хрыстовай навукі дасталася да беларускіх плямёнаў праз грэкаў з Візантыі, а перадусім праз паўдзён-

ных славян, у IX–X стст., дзякуючы працы славянскіх апосталаў святых Кірыла і Мяфодзія. Яны, выдумаўшы ці толькі папраўіўшы ўжо існуючы альфабэт для славянскага пісьменства, пералажыўшы Св. Пісанне і літургічныя кнігі на славянскую мову, гэтым палажылі моцныя асновы для пашырэння хрысціянства і агулам прасветы па ўсіх славянскіх землях.

Мова, у якой св. апосталы тлумачылі святыя кнігі, завецца царкоўнаславянскай. Гэта дзеля таго, што яна з часам сталася мовай памерлай і агранічылася толькі да ўжывання ў літургіі, якая і сёння ўжываецца ў рэлігійным жыцці беларусаў праваслаўных і уніятаў. Але ў навуцы гэтую мову прынята называць старабалгарскай. Гэта затым, што мова, якой святыя славянскія апосталы карысталіся, найбольш была зблізкана да мовы тагачаснай балгарскай.

Мова гэта ў той час мала рознілася ад моваў, якімі гаварылі ўсе іншыя славяне, і агулам была для іх зразумелай. Праз кірыламяфодзіеўскую працу сталася яна мовай літаратурнай для ўсіх славян. Пры помачы гэтай мовы хрысціянства ў IX–X стст. дасталася да ўсіх славянскіх народаў: да мараваў, да балгараў, сербаў, харватаў, чэхаў, украінцаў, беларусаў, расейцаў, а магчыма, што да палякаў і славенцаў.

Але хрысціянства на Беларусь спярша дасталася толькі да адзінак, а да мас, да народа яно дайшло за часаў св. Уладзіміра, вялікага кіеўскага князя.

За часаў Уладзіміра, вялікага князя кіеўскага, і яго стараннем пашырылася масава хрысціянства як сярод народа ўкраінскага, расейскага, так і беларускага. Вось жа належыцца нам хоць збольшага пазнаёміцца з гэтым слаўным князем, дзякуючы якому свет праўды Хрыстовай дайшоў і да нас і які, як у праваслаўных, так і ў каталікоў, уважаецца за святога і называецца роўнаапостальскім.

Як аб хросце, так і аб самім Уладзіміру даведваемся з розных старых дакументаў і ад пісьменнікаў, па якіх асталіся аб гэтым усім для нас весткі. Маем апавяданне манаха Якуба ці Нестара, пахвальнае слова ў чэсць Уладзіміра, напісанае кіеўскім святчэннікам, пазней мітрапалітам Украіны, Беларусі і Масквы Іларыёнам, маем таксама апавяданне св. Брунона, што гасціў у св. Уладзіміра і прапаведаваў хрысціянства ў лацінскім абрадзе сярод дзікіх стэпавікоў на поўдні Украіны — печанегаў. Маем таксама весткі Цітмара, біскупа места Мерсебурга ў Нямеччыне, апавяданні грэцкіх пісьменнікаў і інш. Урэшце, дайшлі да нашых часаў запіскі, зробленыя ў Кіеве за часаў Уладзіміра. Яны захаваліся ў розных старых летапісных зборніках, як, напр., адзін з іх, які называецца «Ніканаўскі летапіс».



З гэтых вестак даведваемся, што інакш тады выглядала і жыццё на нашых землях і самыя гэтыя землі. Непраходныя лясы былі ўсюды. Адчасці дарогі сухапутныя, а перадусім рачныя былі галоўнымі шляхамі зносінаў нашых продкаў з людзьмі і са светам. Па Дняпры, Зах. Дзвіне, Нёмане і Вяллі вялі яны гандаль і мелі зносіны з усім цывілізаваным светам як на ўсходзе (Візантыя), так і на захадзе (Заходняя Еўропа). Праз наш край па гэтых рэках вёў вялікі шлях «из варяг в греки», як яго тады называлі. Але зносіны гэтыя былі трудныя, небяспечныя і даступныя не для многіх. Не спрыяла, такім чынам, гэта ўсё і пашырэнню ў нас хрысціянства. Аднак яно хоць паволі, але ўжо задоўга да св. Уладзіміра, пашыралася, дастаючыся спярша, наколькі яно ішло з усходу і паўдня, — да ўкраінцаў, а адтуль і да беларусаў. Аднак гэта хрысціянства вызнавалі яшчэ толькі князі, дружына князя, купцы і іншыя, што мелі сутычнасць з хрысціянскім светам. Так, напрыклад, па смерці кіеўскага князя Ігара яго жонка ўдава св. Вольга († 969) сталася хрысціянкай, якая прабавала ахрысціць таксама і ўвесь народ, але гэта ёй не ўдалося. Хрысціянства было тады адно, не было ў ім падзелу, хоць ужо існавалі розныя абрады. І так, св. Вольга сама была хрысціянкай усходняга абраду, а народ свой была гатова хрысціць паводле абраду лацінскага. З гэтай мэтай яна паразумелася з нямецкім царом Атонам. Гэты выслаў у Кіеў св. Адальберта, місіянера, немца лацінскага абраду. Але тады княжыў у Кіеве яе сын Святаслаў, дужа варожы да хрысціянства, і дзеля гэтага місія св. Адальберта не ўдалася.

Урэшце, вялікая справа хрышчэння ўсяго народа, як сказана, украінскага, беларускага і расейскага (маскоўскага) наступіла за часаў Уладзіміра св. Вялікі гэты князь добра зразумеў, што аставацца самому паганцам і такім жа пакідаць народ — гэта значыла быць у поўным раз'яднанні з культурным хрысціянскім (усходнім і заходнім) светам. І ён, зважыўшы гэта добра, рашыўся на вялікі гістарычны шаг, — на прыняцце хрысціянства.

За часаў Уладзіміра, як мы ўспомнілі, асабліва ў Кіеве, ужо было нямала хрысціян сярод вышэйшага асвечанага слою грамадзянства. Многія мелі з іх нагоду пазнаць і прыняць хрысціянства ці ў Царградзе (Візантыя) у ўсходнім, грэцкім абрадзе, ці ў Швецыі (адкуль пераважна паходзілі першыя князі: варага-русы), дзе шырылася тады хрысціянства ў лацінскім абрадзе, а таксама многія, асабліва купцы, прымалі хрысціянства лацінскае ў Зах. Еўропе. А гэтыя хрысціяне не аставаліся без свайго духавенства — яны мелі пры сабе і сваіх святчэннікаў, як грэцкага, так і лацінскага абраду, а таксама абраду славянскага, з Балгарыі — пасля таго, як там завялі хрысціянства св. Кірыл і Мяфодзій. І сам Уладзімір меў за

жонку балгарку і чэшку, таксама хрысціянкі, з якімі былі іх духоўнікі. Ад жонкі балгаркі былі ў іх сыны: Барыс і Глеб, святыя мучанікі за хрысціянскую веру. Такім чынам, Уладзіміру аставалася толькі бліжэй зацікавіцца гэтай справай і рашыцца на прыняцце хрысціянства. І гэта сталася: спярша ў Кіеве каля 987 г. ахрысціўся ён сам, а пасля прыступіў да хрышчэння ўсяго народа.

Паўстала толькі пытанне: ад каго і ў якім абрадзе прыняць і пашыраць хрысціянства? Найдагаднейшымі і найбліжэйшымі для гэтага былі два краі: Корсунь (цяперашні Крым) і Балгарыя. І ў Корсуні і ў Балгарыі было ўжо такое духавенства, што магло лёгка паразумявацца са славянамі. Тагачасная балгарская мова была зразумелай яшчэ для ўсіх славян. Балгары мелі ўжо тады сваю самастойную царкву, якая была ў еднасці з Рымам (сталіцай яе была Ахрыда ў зах. Балгарыі, сённяшняй Македоніі), дзе быў асобны балгарскі патрыярх. Царква гэтая мела ўжо гатовы славянскі абрад са славянскім языком у службе Божай, патрэбныя кніжкі, а таксама і сваё духавенства.

У Крыме (Корсуні) таксама было нямала духавенства, што разумела па-славянску, нягледзячы на тое, ці гэта былі грэкі ці славяне. Адгэтуль таксама можна было ўзяць свяшчэннікаў, але не епіскапаў, бо корсунская царква іерархічна падлягала Царграду.

Пра Царград, аднак, не прыходзілася і думаць, бо ад смерці Святаслава, бацькі Уладзіміравага, між Кіевам і Візантыяй адносіны былі напружаны, затым, што грэкі былі наслаўшы печанегаў і тыя замардавалі Святаслава. Далей, візантыйская (царградская) царква бадай зусім не займалася місіямі сярод паганцаў, яна не мела для гэтага адпаведна прыгатаванага духавенства, ані царкоўных кніг. Ды браць адтуль духавенства: свяшчэннікаў і епіскапаў, — гэта значыла б аддаць у рукі сваіх ворагаў найвызначнейшыя месцы ў дзяржаве. Рабіць так не было ніякага сэнсу.

Вось жа з гэтых усіх краёў Уладзімір выбраў перадусім Корсунь. На гэта злажыліся наступныя прычыны. У Візантыі выбухнуў бунт. Цэсары (было іх тады там двух) звярнуліся па помач да свайго непрыяцеля Уладзіміра. Гэты згадзіўся, але з умовай, што цэсары гэтыя выдадуць за яго замуж сваю сястру Ганну. Іншага выхаду не было, і яны згадзіліся. Уладзімір памог: бунт быў здушаны. Уладзімір дамагаўся спаўнення ўмовы. Цэсары, аднак, пачалі круціць. Уладзімір, каб змусіць іх, пайшоў вайной на Корсунь. Корсунь падлягаў Візантыі, але толькі з мусу, заўсёды карсуняне былі гатовы гэтай няпрошанай апекі пазбыцца. Цяпер надаралася ім добрая нагода. Нават і сярод карсунян знайшліся, што памагалі Уладзіміру здабыць Корсунь. Сярод такіх было нямала і духавенства. Такім



чынам Уладзімір здабыў Корсунь і адтуль меў духавенства, патрэбнае для хрышчэння свайго краю. Корсунь для Візантыі быў дужа важным гандлёвым і стратэгічным пунктам. Цэсары змяклі і Ганну аддалі Уладзіміру за жонку. Шлюб адбыўся ў Корсуні. Пасля гэтага Уладзімір вярнуўся ў Кіеў, везучы з сабой духавенства, што яму спрыяла, а таксама і тое духавенства, якое было ў пашане ў Ганны. Гэтае духавенства ахрысціла яго і правяло хрышчэнне Украіны, пасля Беларусі і Расеі.

Але самім толькі хрышчэннем справа яшчэ не была скончана. Трэба было падумаць аб мітрапаліце і епіскапах, якія арганізавалі б царкву і ёю ўпраўлялі б. Яшчэ падчас прабывання Уладзіміра ў Корсуні прыбылі туды паслы ад Папы з Рыма. Гэтыя паслы прывезлі яму мошчы (рэліквіі), галаву св. Клімента, Папы Рымскага, які памёр у Крыме на выгнанні ў канцы першага стагоддзя па Хрысце. Гэткім чынам, між Уладзімірам Вялікім і Папам Рымскім навязаліся зносіны, якія не перарываліся і далей. Пасольствы ішлі з Кіева ў Рым і з Рыма ў Кіеў. Ясная рэч, што гэтыя пасольствы датычылі найважнейшых дзяржаўных спраў, а ў іх ліку і справы епіскапата для новаахрышчаных краёў. Уладзімір, такім чынам, як бачым, быў у еднасці з Апостальскай Сталіцай, дык з яе ведама і згоды ўзяў сабе і епіскапаў. З Корсуня ўзяў свяшчэннікаў, а епіскапаў з Балгарыі.

З Балгарыі ў Кіеў прыбыў першы мітрапаліт Міхал з некалькімі епіскапамі. Яны прынеслі з сабой богаслужэбныя кнігі, а таксама зборнік царкоўнага права, крыху адменнага ад права, якое абавязвала ў візантыйскай царкве. Славянская мова прапаведнікаў значна памагала ў пашырэнні хрысціянства ў дзяржаве Уладзіміра, а таксама і ў дзяржавах суседніх славян. З Кіева хрысціянства пашыралася і на Беларусь. І сюды прыйшло яно ў форме балгарскай. І сюды неслі яго місіянеры (грэкі і балгары) у старабалгарскай мове. У гэтай жа мове былі кнігі і богаслужэнне.

Уладзімір св. падумаў таксама і аб будучыні хрысціянства. Для яго было ясным, што пасля смерці першых свяшчэннікаў-місіянераў — балгараў і грэкаў — трэба ўжо мець сваіх уласных. Для гэтай мэты ён закладаў школы і загадаваў браць дзяцей у знатнейшых бацькоў і аддаваць іх у гэтыя школы на навукі. І сапраўды, праца Уладзіміра ў гэтым кірунку не пайшла намарна. Ужо на пачатку панавання Яраслава Мудрага бачым у Кіеве ўкраінца мітрапаліта Івана, а пасля яго наступіў Іларыён, таксама ўкраінец.

З Кіева, з Украіны, хрысціянства дасталася на Беларусь. Неслі яго сюды балгарскія, грэцкія і ўкраінскія свяшчэннікі, прамаўляючы да беларусаў у зразумелай тады яшчэ для ўсіх балгарскай (з

дамешкай часта ўкраінскай) мове. У гэтай жа мове і да нас прыйшлі таксама царкоўныя кнігі і богаслужэнне. Уладзімір св. быў у еднасці з Апостальскай Сталіцай. І наша беларускае хрысціянства ў гэтым часе таксама было яшчэ адзіным і непадзельным.

(Літаратура: Ks. Ad. Stankevič. Rodnaja mova u śviatyniach. Vilnia, 1929; Власов фон Вальденберг. Исторія Россіи (862–1920). Харбин, 1936; Т. Коструба. Великий Будовничий Української Держави. Станіславів, 1937; Т. Коструба. Католицька Правовірність Володимира Вел. («Нова Зоря». 21.VIII.38.)

## IV. ХРЫШЧЭННЕ БЕЛАРУСІ

*Уладзімір Вялікі, Ізяслаў Полацкі і хрышчэнне Беларусі. Першае епіскапства ў Полацку. Святая беларуская князёўна Еўфрасіння Полацкая. Роля балгарскай мовы ў хрысціянізацыі і культуры Беларусі.*

Святло Хрыстовай навукі даставалася да Беларусі яшчэ задоўга да Уладзіміра Вялікага. Існуе нават легенда, што першы прынёс яго сюды сам апостал Андрэй. Даставалася яно ў Беларусь перадусім у землі крывічоў, праз якія праходзіла дарога з Нармандыі ў Візантыю: «из варяг в греки». Зямля крывічоў, пасля Полацкае княства, займала шырокія прасторы. Яна цягнулася з паўдня на поўнач ад Прыпяці да Балтыйскага мора, а з усходу на захад ад Дняпра да Нарвы і да ўтокаў Нёмна. Полацак — гэта найстарэйшы беларускі горад, аб ім у скандынаўскіх сагах задоўга да Рурыка ўжо ўспамінаецца, як аб багатым і сільным горадзе. У Полацку, так як і ў Кіеве, яшчэ да Уладзіміра св. было нямала хрысціян. Але хрысціянства масава ў беларускім краі пашыралася за часаў Уладзіміра. Гэты вялікі князь пасля свайго хрышчэння горача ўзяўся за хрышчэнне не толькі зямель украінскіх, але таксама і беларускіх.

Уладзімір св. старанна пашыраў хрысціянства, бо зразумеў яго веліч унутраную, а таксама, як выбітны валадар, разумеў і тыя вялікія як палітычныя, так і агульнацывілізацыйныя вартасці хрысціянства. Ён добра разумеў, што праз хрысціянства яго ўласны і ягоных суседзяў народы ўваходзяць у сям'ю цывілізаваных хрысціянскіх народаў і што аставацца далей у паганстве — гэта быў бы вялікі анахранізм і вялікая для гэтых народаў шкода. Добра гэта ж разумелі і беларускія князі, валадары беларускіх самадзельных княстваў: полацкага, смаленскага і турава-пінскага. Дзеля гэтых



прычын і яны ахвотна ставаліся хрысціянамі і жарліва пашыралі хрысціянства сярод беларускіх плямёнаў у сваіх княствах.

У Полацку быў тады Ізяслаў, сын Уладзіміра і полацкай князёўны, дачкі Рагвалода, Рагнеды. Вось жа за часаў гэтага беларускага князя і прыняла хрост уся беларуская зямля. Даканалі гэтага свяшчэннікі, якіх прысылаў св. Уладзімір. Сведчыць аб гэтым бадай сучасны Уладзіміру мітрапаліт кіеўскі Іларыён, а таксама крыху пазнейшы мніх Якуб, які ў сваёй пахвале Уладзіміру не раз кажа, што ён «хрысціў усю рускую зямлю ад канца да канца... усю зямлю рускую і ўсе гарады ўбраў святымі цэрквамі»... Рускай жа зямлёй, як ведаем, называлі ўсе тыя ўсходнеславянскія землі, дзе былі князі з племя варажскага Русь. А з гэтага ж племя былі і князі беларускія полацкія, за часаў якіх хрысцілася Беларусь. З летапісу відаць, што Уладзімір не толькі пасылаў усюды епіскапаў і свяшчэннікаў, каб хрысціць народ, але і сам асабіста часта ездзіў з епіскапамі дзеля падтрымання Евангельскай праўды. Пасля хрышчэння ўсіх рускіх зямель, як кажа летапісец, Уладзімір яшчэ жыў 25 гадоў. А значыць — меў яшчэ дастаткова часу, каб усе гэтыя землі сапраўды прывесці да Хрыста. Такім чынам, няма сумніву, што яшчэ пры Уладзіміру ў Полацку сцвердзілася хрысціянства, а беларускі князь Ізяслаў, якога летапісцы хваляць за «благочестие», быў галоўным дзеячам у гэтай святой справе. У гэтым жа часе сцвердзілася хрысціянства і па ўсёй беларускай зямлі.

Але калі ж тут паўстала епіскапства? Летапіс першага з полацкіх епіскапаў успамінае Міна, пасвечанага ў 1105 г. Але маўчанне летапісаў аб полацкіх ранейшых епіскапах, быўшых прад Мінам, не даказвае, што іх не было. Паводле «Книги Степенной», мітрапаліт Лявонцій устанавіў 6 епархій, у ліку якіх, праўда, полацкая не ўспамінаецца, але беспасярэдна дадаецца, што Лявонцій «і во іные многіе грады разосла епіскопы». Але ў якія гарады? Аўтар «Книги Степенной» часткова раз'ясняе гэтае пытанне. Ён кажа, што раздзяленне «рускай» царквы на епархіі адбывалася адначасна з раздзяленнем «рускага гасударства» паміж сынамі св. Уладзіміра. Далей мітрапаліт Іларыён у пахвальным слове Уладзіміру кажа, што ён у дзесяці важнейшых гарадох стварыў епіскапствы. У апісанні жыцця св. Лявонція, епіскапа растоўскага, сказана, што св. Уладзімір паслаў епіскапаў, між іншым, і ў Полтэск, гэта значыць у Полацак. Зноў жа ў «Книге Степенной», у апісанні жыцця св. Еўфрасінні, гаворыцца, што за часаў полацкага князя Барыса, роднага дзядзькі Еўфрасінні, каторы памёр у 1128 г., полацкі епіскап Ілля ўступіў ёй для манастыра аселішча Сяльцо, блізка Полацка, што належала да епіскапа, і, уступаючы яго, сказаў, што ў гэтым Сяльцы: «братія

наша лежат, прежде нас бывшии епископы». Адгэтуль можна зрабіць вывад, што ў епіскапа Іллі быў не адзін папярэднік Міна, але было іх аж некалькі. Полацак і Тураў — кажа праф. Галубінскі — належаць да тых гарадоў, у якіх дужа праўдападобна, што заснаванне там епархій адбылося за часаў Уладзіміра св. Гэты ж Галубінскі заснаванне полацкай епархіі адносіць да 992 г. Польскі гісторык Нясецкі цвердзіць, што гэтая епархія была заснавана каля 1000 года. Тое ж самае кажа і другі польскі гісторык Стабельскі.

Словам, хрысціянства, паявіўшыся масава ў Полацку, як у галоўным горадзе беларускай зямлі, хутка пашырылася і на ўсе беларускія землі. Паявілася яно хутка ў Смаленску, так жа зямлі крывічанскай, у Тураве, зямлі дрыгавічоў, і ў інш., дзе закладаліся епіскапскія кафедры.

У XI–XII стст. уся беларуская зямля была пакрыта хрысціянскімі святынямі, а таксама і манастырамі, з якіх выходзілі святыя людзі, што Беларусі пасвячалі сябе цалком і праславіліся на ўсе вякі. З гэткіх былі перадусім: Кірыл Тураўскі, Параска, беларуская святая князёўна Еўфрасіння Полацкая.

Св. Еўфрасіння, будучы свецкай, называлася Прадславай. Была яна праўнучкай Уладзіміра св., унучкай полацкага князя Усяслава Брачыславіча († 1101) і дачкой малодшага з сыноў гэтага апошняга, Юрыя-Святаслава. Яшчэ будучы малой яна выказвала вялікі нахіл да глыбейшага хрысціянскага жыцця, да святасці, да навукі. Але бацькі яе, аднак, ужо меркавалі аб яе замустве. І вось, калі яна аб гэтым даведалася, тайком пакінула бацькаўскі дом і пайшла ў манастыр, дзе прабывала законніцай яе родная цётка, жонка князя Рамана Усяславіча, і тут сталася манашкай пад імем Еўфрасінні. Прабыўшы некаторы час у гэтым манастыры, яна выпрасіла ў полацкага епіскапа Іллі, каб ён дазволіў ёй жыць адной у цэлі, прыбудаванай пры кафедральным саборы. Замкнуўшыся ў гэтай цэлі, святая наша вяла дужа суровы спосаб жыцця, доўгія гадзіны прабываючы на малітве, а таксама посцячы і пасвячаючыся розным добрым учынкам. У вольныя часіны перапісвала святыя кнігі, вышывала аблачэнні, пасылаючы гэта ўсё бяднейшым беларускім цэрквам і манастырам. А калі за гэтую сваю працу выручала якія грошы, дык аддавала іх убогім. Пашырала таксама сярод беларусаў грамату, вучачы чытаць і пісаць беларускіх дзетак. Але гэта ўсё адцягвала яе ад яшчэ больш дакладнейшай службы Богу, і яна шукала больш адпаведных абставінаў для сваіх намераў. І вось, атрымаўшы дазвол ад полацкага епіскапа, перасяляецца ў Сяльцо пад Полацкам, дзе была цэркаўка ў чэсць Спаса. Гэта ўсё Сяльцо, якое было ўласнасцю кафедральнай царквы, епіскап падарыў Еўфрасінні, каб яна там залажыла жаночы манастыр. Гэта было ў прысутнасці бацькі яе Юрыя і яе дзядзькі, тагачаснага полацкага князя Барыса. Гэты манастыр нашая святая сапраўды залажыла і назвала яго Спасаўскім. Манастыр развіваўся памысна і павялічваўся. У гэтым манастыры хутка апынуліся сваячніцы св. Еўфрасінні: родная яе сястра Гардзіслава (у манастве Аўдоцця), стрыечная сястра Звеніслава (у манастве Пракседа) і яшчэ дзве далейшыя сваячніцы з дазволу полацкага епіскапа Дзяніса († 1183), з якіх у манастве адна называлася Агатай, а другая Яўхімяй. Хутка нашая святая збудавала тут на месцы старой драўлянай царквы мураваную ў чэсць Спаса, якая захавалася аж да часаў бальшавіцкіх, а ці цяпер існуе — немаведама[13]. Паставіўшы на ногі свой жаночы манастыр, св. Еўфрасіння недалёка збудавала другі, мужчынскі, таксама з муравай царквой у чэсць Маці Божай.



Урэшце, калі абодва манастыры развіваліся памысна і нічога ім не бракавала, нашая святая, пакінуўшы ім падрабязны закон, паводле якога мелі жыць манахі, сама, з сваякамі сваімі Давідам і Параскай, пайшла адведаць Іерусалім, гроб Спаса. Пабыўшы тут, праз некаторы час св. Еўфрасіння занемагла і, прахварэўшы 24 дні, там жа і памерла 23.V.1173 г., дзе і была пахаваная. Цела яе там, аднак, аставалася нядоўга. У хуткім часе туркі заўладалі святой зямлёй, дазваляючы, аднак, хрысціянам свабодна адтуль выязджаць і забіраць свае святасці. Вось жа і цела нашай святой было з Іерусаліма перавезена ў Кіеўскую пячорскую лаўру, дзе яно нятленным праляжала аж да 1910 г. пад апекай Праваслаўнай Царквы. У 1910 г. яно было перавезена ў родны Полацак. Цела нашай святой везла праваслаўнае духавенства з Кіева да Оршы (695 вёрст) па Дняпры на параходзе, ад Оршы да Віцебска (65 вёрст) шашой і ад Віцебска да Полацка (125 вёрст) звычайнай дарогай. Падчас падарожжа на параходзе адпраўлялася набажэнства, а таксама і на прыстанях, дзе спатыкалі сваю святую масы беларусаў. Падарожжа па дарозе адбывалася ва ўрачыстай працэсіі пры вялікім удзеле беларускіх народных мас.

Такім чынам св. Еўфрасіння, аднолькава ўважаная святой як у праваслаўнай, так і ў каталіцкай Царкве, вялікая святая, апосталка і прасвяціцелька Беларусі, вярнулася ў родны беларускі Полацак. Дзе сёння гэта такая дарагая беларуская святасць і які яе лёс? Хто ж гэта згадае!..[14]

І так, Беларусь у X–XI стст. сталася хрысціянскай. Прыйшло яно да нашага народа і з Візантыі і з Балгарыі ў старaславянскай ці, вярней, — балгарскай мове. Украінскі гісторык Томашівський[15], ацэньваючы, ведама, дадатна сам факт хрысціянства ў нас і яго вялікае для нас значэнне, у некаторых абставінах яго ў нас паяўлення

калі адбывалася хрышчэнне св. Уладзіміра, Папа Рымскі пасылае яму ў Корсунь мошчы святых. Брунон Баніфацый па дарозе да печанегаў быў гасцінна прыйманы ў Кіеве (1007).

Вось жа трэба тут сцвердзіць, што ўсе тагачасныя (ад пачатку існавання да палавіны XI в.) хрысціяне, як грэкі, лаціняне, так і ўсе народы славянскія, а ў іх ліку і народ беларускі, у першым гэтым перыядзе сваёй гісторыі станавілі адну Царкву-Касцёл, якая, як гэтага вымагае воля Хрыста, выражаная ў Св. Пісанні Новага Запавету, была пад найвышэйшай уладай наступнікаў св. Пятра — рымскіх епіскапаў, — пад уладай Апостальскай Рымскай Сталіцы.

Самі Рымскія епіскапы-папы заўсёды былі свядомыя гэтай улады і заўсёды яе выконвалі.

Аб гэткай уладзе папскай сведчаць таксама многія Айцы Царквы-Касцёла, як грэцкія, так і лацінскія.

Аб найвышэйшай уладзе папскай не менш таксама вымоўна гаворыць і тое, што сусветныя царкоўныя саборы заўсёды адбываліся з блаславенства Рымскага Папы, а пастановы гэтых сабораў заўсёды патрабавалі папскага зацверджання. На саборах гэтых заўсёды старшынствавалі таксама пераважна папскія дэлегаты.

Не менш, урэшце, выразна сведчаць аб папскім старшынстве ў Хрыстовай Царкве і некаторыя богаслужэбныя кнігі самой Праваслаўнай Царквы.

Дык нічога дзіўнага, што ўсе хрысціянскія народы ад часу паўстання хрысціянства да палавіны XI в., іменна да 1054 г., аб чым гутарка ніжэй, належалі да адной Хрыстовай Царквы на чале з Рымскім Папам. У гэтым часе ані грэкі, ані лаціняне, ані славяне не сумняваліся ў гэтым главенстве Папаў і жылі ў брацкай любові, згодзе і еднасці. Значыць, паўстала, узрасла і развілася беларуская царква таксама ў еднасці з Рымам.

Але на свеце заўсёды так бывае, што дабро мяшаецца са злом. Таксама сталася і з гэтай хрысціянскай еднасцю на беларускіх землях у першым перыядзе беларускай гісторыі. Зрыванне еднасці пачалося з Царграда, ад грэкаў. Галоўнай прычынай разрыву была вялікая розніца культуры Усходу і Захаду.

Справа ў тым, што Візантыйская імперыя пасля ўпадку Заходняй Рымскай Імперыі, як мы ўспаміналі вышэй, з бегам часу ад яе цалкам аддзялілася і жыла цэлыя доўгія стагоддзі сваім асобным жыццём, паглыбляючы ўсцяж далей і далей культурныя, духовыя і сацыяльныя розніцы з Захадам.

Вось жа на гэтай асноведзі пачаўся вялікі раздзел адзінай Хрыстовай Царквы на Усходнюю — грэцкую і на Заходнюю — лацінскую. Пачаў яго царградскі патрыярх Фоцій яшчэ ў IX ст. На шчасце, раздзел гэты шырокіх размераў тады ў грэцкай Царкве яшчэ не прыняў і зусім не даткнуў Царквы беларускай, і еднасць хрысціянская яшчэ трымалася ад гэтай сумнай спробы зрыву гадоў паўтараста.



Падзелу Царквы даканаў у палавіне XI ст. патрыярх царградскі Міхал Керулары. Фармальна стаўся гэты сумны факт 16 ліпеня 1054 г., калі папскія паслы з патрыярхам адступнікам і бунтаром, не могучы дагаварыцца, аб'явілі яму папскую анафему, кладучы яе публічна на алтары ў саборы св. Сафіі ў Царградзе.

Раздзел гэты Цела Хрыстовага — Царквы быў, на жаль, трывалы і з бегам часу пусціў глыбокія карэнні перадусім у Візантыі, а ў скорым часе дакаціўся таксама і да недалёкіх ад сябе зямель усходнеславянскіх агулам, а ў іх ліку і да зямель беларускіх.

Імператары Візантыйскія скарысталі з гэтага раздзелу, падтрымлівалі яго, лёгка выкарыстоўваючы адарваную ад роднага цэнтра — Рыма — грэцкую Царкву для палітычных сваіх мэтаў.

Але, нягледзячы на гэты зрыў еднасці царкоўнай у пал. XI ст. праз Візантыю, еднасць гэта на Русі агулам, а таксама і на землях беларускіх яшчэ даволі доўга трывала. Гісторыкі даказваюць, што беларуская Царква яшчэ была ў еднасці з Рымам аж да пач. XII ст.

І сапраўды. Вось пасланцы Папы Лявона IX, кінуўшы анафему на патрыярха-адступніка Керулара ў Царградзе, варочаліся праз Кіеў, дзе былі гасцінна прыйманыя, і з Кіева, на жаданне Візантыйскага імператара, выслалі яму копію гэтай анафемы. З гэтага ясна, што тагачасны Кіеўскі мітрапаліт Гіляры аставаўся яшчэ і далей у еднасці з Рымам, а тым больш была ў гэтай еднасці залежная ад кіеўскай мітраполіі Царква беларуская.

Наступныя мітрапаліты кіеўскія: Юры, Іван, Яфрэм і Мікалай (1068–1105), нягледзячы на тое, што былі самі грэкамі і назначаны патрыярхам царградскім адступнікам, не пашыралі яшчэ раздзелу, бо ў гэтым самым часе кіеўскія вялікія князі, як Ізяслаў Яраславіч і Усевалад Ізяславіч, былі ў прыязных адносінах з Апостальскай Сталіцай.

Ізяслаў Яраславіч у 1075 г. пасылае да Папы Рыгора VII свайго сына і праз гэтага ж сына сваё княства аддае ў апеку папе.

Зноў жа Усевалад Ізяславіч, калі Папа Урбан II у 1091 г. мошчы святога Мікалая загадаў перанесці з грэцкага горада Міры-Лікійскія ў горад італійскі Бары, устанавіў на памяць гэтых пераносінаў свята і данёс аб гэтым праз адмысловае пасольства ў Кіеў, — разам з мітрапалітам Яфрэмам прызнаў гэтае свята і завёў на ўсей Русі, а ў тым ліку і на землях беларускіх. Сталася ж гэта тады, калі патрыярх царградскі дэкрэт папскі аб гэтым свяце адкінуў.

І так, Царква беларуская, належачы да кіеўскай мітраполіі, ад пачатку свайго існавання — стст. IX–X і да XII ст., гэта значыць праз гадоў якіх сто, была ў еднасці з Рымам.

Стагоддзі XII, XIII, XIV і першая палавіна ст. XV — гэта час раз'яднання беларускай Царквы з Рымам. Праўда, і ў гэтым часе не бракавала асоб і фактаў, якія сведчаць, што вялікая справа царкоўнай еднасці цалком не замёрла, а ўсцяж жыла ў Беларусі, каб у адпаведным часе зноў уваскрэснуць.

Як знак гэтага хрысціянскага адзінства ў беларусаў Усходняй і Зах. Царквы, з'яўляюцца супольныя ў праваслаўных і каталікоў святыя: Кірыл і Мяфодзій, Вольга, св. мучанікі Тодар і Іван, Уладзімір Вялікі, Барыс і Глеб, Антоні Пячорскі, Хвядос Пячорскі, Еўфрасіння (Прузына) і Параскевія (Параска) Полацкія, Кірыл Тураўскі.

Паасобных падобных фактаў, гаворачых аб некаторай яшчэ ў гэтым часе лучнасці на беларускіх землях з Рымам, можна прытачыць і шмат больш, але гэта ўсё было б цалком лішнім, бо гэта ўсё належыць да выняткаў у беларускай Царкве, бо Царква гэтая як цэласць, у еднасці з Апостальскай Сталіцай у стст. XII, XIII, XIV і ў палавіне ст. XV ужо не была.

Цікава тут адзначыць, што час еднасці беларускай Царквы з Рымам роўна прыпадае на першы перыяд беларускай гісторыі, калі нараджалася яшчэ беларуская народнасць і калі яе палітычная самастойнасць у асобе Полаччыны, асабліва за часаў слаўнага Усяслава (1044–1101), была дайшоўшы да высокага развіцця.

(Літаратура: Власов фон Вальденберг. Історія Россіи; Т. Коструба. Католицка правовірність Володимира Вел., Київський Митрополит Іван (ок. 1007 — ок. 1020), Генеза Українського церковного права, Митрополит Іляріон (1051), Олексій Болгарин, Київський Митрополит (1021 — ?), Перша автокефалія української Церкви («Нова Зоря». 1938. №№ 63, 65, 69, 71, 75, 79); Ks. Edw. Likowski. Historya Unii Kościoia Ruskiego z Kościoiem Rzymskim. Poznań, 1875 і — Unia Brzeska (1596). Poznań, 1896.)

## VI. ШТО ТАКОЕ НАРОД І ХРЫСЦІЯНСТВА Ў ПРАЦЭСЕ ТВАРЭННЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА Ў ПЕРШЫМ ПЕРЫЯДЗЕ ЯГО ГІСТОРЫІ

*Што такое народ. Розныя тэорыі. Наш пагляд. Руйнуючая роля паганства. Будуючая роля хрысціянства.*

У XI–XII стст. увесь народ беларускіх княстваў ужо быў хрысціянскім. Хрысціянства пранікала спярша да вышэйшых класаў, а



пасля і да шырокіх народных мас. Прыгледзімся ж, якую ролю адыграла хрысціянства ў гэтым часе ў працэсе тварэння беларускай нацыянальнасці.

Але прад тым не адрэчы тут будзе запытацца, якія дзейнікі ўплываюць на тое, што паўстае нацыянальнасць, ці проста — што становіць нацыянальнасць? Звычайна адну нацыю ад другой выдзяляюць і адрозніваюць: язык, тэрыторыя, звычаі і абычаі, рэлігія. Часта можна спаткацца з паглядам, што гэтыя іменна асаблівасці якога народа і з'яўляюцца ягонай нацыянальнай сутнасцю. Але пагляд гэткі няпэўны. Усе гэтыя нацыянальныя асаблівасці якога народа ў сваю чаргу патрабуюць выяснення, адкуль яны бяруцца і ці без іх магчыма нацыя?

Аб тым, што такое народ, у навуцы існуюць гэткія пагляды: аб'ектыўны, суб'ектыўны і кампрамісны, які гэтыя два пагляды годзе між сабой і лучыць у адну цэласць.

Кірунак *аб'ектыўны* апірае паняцце народа ці нацыянальнасці на прыкметах верхніх, якія можна даследаваць доследам, якія можна абсерваваць, наглядаць. Гэткімі прыкметамі з'яўляюцца: раса, язык, рэлігія, супольныя абычаі і звычаі, супольная тэрыторыя і звязаныя з ёй: клімат, геапалітычнае палажэнне і, урэшце, супольны для дадзенай нацыянальнай групы назоў, розны ад іншых суседніх нацыянальных групаў. Паводле гэткага разумення, народ ёсць супольнасцю грамадскай натуральнай, прыроднай, якую стварыла сама прырода.

Кірунак *суб'ектыўны* ў азначэнні народа адкідае рашучае значэнне дзейнікаў натуральных і кладзе націск на сувязь маральную, на агульную волю сужыцця, на свядомасць супольнасці.

Кірунак, урэшце, *кампрамісны* годзе гэтыя два кірункі і лучыць іх у адзін. Паводле яго для існавання якога народа патрэбныя як натуральныя гэтыя прыкметы, так і маральныя, псіхічныя, патрэбная свядомасць, якая ёсць вынікам гэтых прыкметаў ці лепш дзейнікаў натуральных.

Да ўсіх гэтых кірункаў прыгледзімся бліжэй і па парадку. Кірунак аб'ектыўны на першы план высоўвае *расу*, як першую прыкмету народа. Раса — гэта ёсць супольнасць паходжання з аднаго пня. Ці, аднак, сучасныя народы сапраўды паходзяць ад аднаго пня і маюць супольную кроў? Сучасныя навуковыя ў гэтай галіне доследы паказваюць, што не. Гістарычныя варункі прычыніліся да таго, што сёння сярод цывілізаваных народаў чыстай расы няма. Уся Еўропа, уся Амерыка — гэта сёння мешаніна разнаякіх этнічных элементаў. Сучасныя цывілізаваныя народы — гэта мешаніна розных расаў, якія між сабой палучыліся, дзякуючы featured рознага роду пад-

зеям гісторыі. Пэўне, у старадаўнасці, калі паўставалі народы, многія з іх паходзілі з супольнага пня, і гэта ў вялікай меры спрыяла нацыянальнаму працэсу, але раса, аднак, не была істотнай прыкметай іх нацыянальнасці. Трэба таксама ведаць, што існуюць і сёння расы, якія не паддаліся аж да сёння асіміляцыі, як раса чорная, жоўтая, а таксама ў вялікай меры семіцкая. Але і для іх прыкмета расы не ёсць істотным нечым, бо і яны ў працэсе гістарычным могуць асіміляваціца, могуць пазбывацца сваёй расы, але адначасна аставацца асобнымі народамі. Прыкладам гэтага ёсць жыды. З гэтага бачым, што раса не ёсць нечым абавязковым у паняцці нацыянальнасці, але яна ўсё ж ёсць тым матэрыялам, з якога пазней гісторыя твора народ. І чым больш захавалася ў якім народзе асобнасці расавай, асобнасці яго супольнага паходжання ад аднаго пня, тым выразнейшая яго нацыянальная індывідуальнасць. Беларускія плямёны прад тым, як з іх стварыўся беларускі народ, пэўне ж, мелі ўжо дамешку крыві чужых ім плямёнаў, як, напрыклад, — скіфаў, сарматаў, готаў, фінаў, літоўцаў, аднак, асеўшы там, дзе жыве сёння беларускі народ, яны ўжо дамешкі чужой да сваёй крыві мелі дужа мала і далей разрасталіся ўжо з аднаго сваяцкага пня. Пазней, аднак, да беларускага народа даходзіла дамешка крыві маскоўцаў, украінцаў, палякаў, літоўцаў. З гэтага бачым, што і аб беларускай расе як такой, як чыстай расе, гаварыць не прыходзіцца. Значыць, супольнасць расы, супольнасць паходжання не ёсць нечым канечным для паўстання, для стварэння народа, а таксама яна не ёсць крытэрыем, які адрозніваае адзін народ ад другога.

*Язык* таксама не становіць сутнасці *народа*, нацыі. Язык можа астацца, а нацыя можа згінуць. Напрыклад грэкі: этнаграфічны склад пелапанесу быў зменены цалкам наездам албанцаў і славян. Этнаграфічная непарыўнасць магла тут захавацца, можа, толькі на берагох. Але захаваўся народны дыялект, і сённяшнія грэцкія патрыёты як мага стараюцца прыблізіць яго да старагрэцкага. І такіх прыкладаў можна знайсці ў гісторыі шмат. І наадварот — бывае і так, што язык гіне, а нацыя астаецца. Класічным гэтага прыкладам з'яўляюцца жыды. Далей, некалькі нацыянальнасцяў у Лацінскай Амерыцы гавораць языком іспанскім і партугальскім, языком заваёўнікаў і каланістаў. Амерыканцы, жыхары Зл. Шт. Амерыкі, гавораць па-англійску, але змяняюць яго на свой лад, не прызнаюць яго сваім і не прызнаюць сябе ангельцамі. Швейцарцы гавораць па-французску, нямецку, італьянску, чужым языком, але лічаць сябе швейцарцамі. Значыць, язык сам па сабе таксама не становіць нацыянальнасці.

Далей, *тэрыторыя* (і злучаны з ёй клімат і геапалітычнае палажэнне) таксама яшчэ не творыць нацыянальнасці. На адной тэрыторыі, якая ёсць цалкам аднароднай, жывуць розныя народы, як Бельгія і Францыя, беларусы і расейцы. І наадварот — на розных тэрыторыях жывуць зусім аднолькавыя ці падобныя народы. Каб не гаварыць аб народах Еўропы, відаць гэта на народах некультурных. Так, напр., папуасы і малайцы вякамі жывуць вобак сябе, у тых жа трапічных краёх, а самі астаюцца зусім рознымі. Ёсць таксама нацыянальнасці і зусім без тэрыторыі, як тыя ж жыды і цыганы.

*Звычаі і абычаі* гэтаксама не з'яўляюцца сутнай асаблівасцю нацыянальнасці. Гэтыя асаблівасці найбольш зменныя і лёгка сціраюцца пад уплывам культурнага развіцця і моды, але сама нацыянальнасць ад гэтага не змяняецца.

Не ёсць, урэшце, прыкметай нацыянальнасці і *рэлігія*. Гэта зусім ясна. Каталіцкія іспанцы, італьянцы, французы, немцы і г. д. аніяк не прызнаюць сябе адным народам, хоць яны вызнаюць адну веру. Не становяць адной нацыянальнасці расейцы, беларусы, сербы, румыны, украінцы і інш., хоць яны праваслаўныя.

Некаторыя вучоныя яшчэ цвердзяць, што *назоў* таксама ёсць складовай, бадай істотнай, прыкметай нацыі, народа. Але гэтая прыкмета ёсць найменш важнай. Кожны народ такі ці іншы назоў сабе мае. Але мае яго таксама і кожная, не толькі этнічная, але нават звычайная рэгіянальная група, як у палякаў: курпы, куявякі, кракавякі і г. д., у беларусаў: палешукі, сакуны, у літоўцаў: жмудзіны, дзукі. Але ж гэтыя групы не ёсць асобным народам. Трэба, аднак, прызнаць, што адпаведны назоў якога народа, асабліва таго, які нараджаецца ці адраджаецца, як мы, беларусы, мае хоць не істотнае значэнне, але вялікае, і дзеля гэтага нам, беларусам, трэба добра прызадумацца, ці не замяніць чужога нам назову «рускі» на ўласны «крывіч». Але гэта, як мы ўжо раз у гэтай працы гаварылі, належыць да будучыні.

Гэтак вучыць тэорыя кірунку так званага аб'ектыўнага. Яна, уважаючы народ за твор чыста прыродны, усей праўды аб народзе не кажа, яна шмат у чым мыляецца[16].

Кірунак суб'ектыўны, як мы ўжо адцемілі, за сутнасць народа ўважае толькі вязь маральную, псіхічную, толькі свядомасць, толькі супольную волю. Але і гэтая тэорыя, маючы шмат у сабе праўды, шмат у чым таксама і мыляецца. А памылка яе ў тым, што яна недаацэньвае прыродных дзейнікаў і сутнасць нацыі тлумачыць выключна толькі дзейнікам псіхічным, дзейнікам гісторыі і культуры.

Адгэтуль ясная выснова, што народ становяць прыкметы натуральныя, хоць усе яны яшчэ істотнага значэння не маюць, і што апрача іх патрэбная ёсць супольная свядомасць і супольная воля, як дзейнік завяршаючы паняцце народа. Пры гэтым трэба адцеміць, што гэтая псіхічная, маральная прыкмета не ёсць вытвор гэтых натуральных

дзейнікаў, як гэта многія ўважаюць, а наадварот — гэты псіхічны маральны дзейнік, ці элемент, хоць спачатку несвядома, існуе раней ад гэтых дзейнікаў прыроды або разам з імі існуе ў душы чалавека, а які прырода і абставіны жыцця толькі выклікаюць і ўспамагаюць яму развівацца. Агульнай асновай гэтага правіла з'яўляецца прынцып: homo est animal sociale — чалавек стварэнне сацыяльнае, грамадскае, а знача — у далейшым сваім гістарычным працэсе — стварэнне і нацыянальнае. Тыя групы людзей, якія мы сёння называем народамі, не з'яўляюцца нейкім раптоўным плодам прыроды. Іх паяўленне — гэта вынік павольнай і доўгай эвалюцыі. Яны не ёсць плодам сужыцця прыпадкам сабраных людзей, але вынікам арганічна развіваўшайся супольнасці, адзінства, маючай сваё асаблівае жыццё зверхняе і ўнутранае. Народныя прыкметы, ці народная асабовасць, не тады паявіліся, калі людзі сабраліся разам, бо ж яны фактычна і сабраліся, кіраваныя гэтым сацыяльна-духовым інстынктам, унутраным наказам сваёй душы, каб жыць разам, дзеля бліжэй ім яшчэ нязнанай супольнасці. Значыць, народ ёсць пярвейшым за гэтую сваю нацыянальную свядомасць, бо спярша трэба быць, а толькі пасля ўсведаміцца.

Вось жа развіццё грамадскага інстынкту людзей, якіх гэты інстынкт панукае збірацца ў групы і жыць супольна, у апошнім сваім выніку пры помачы дзейнікаў прыродных твора нацыянальнасць, твора народ. Пачуццё супольнасці — гэта як бы завяршэнне гэтага творчага сацыяльнага нахілу ў чалавека. Але каб гэтае пачуццё стварылася і пачало існаваць, мусяць быць нейкія дзейнікі, праводзячыя гэтую работу і служачыя матэрыялам. Такімі дзейнікамі, такім матэрыялам з'яўляюцца ў большай ці меншай меры ўсе, ці некаторыя, — гэтыя дзейнікі натуральныя і псіхічныя, якія так ці інакш прычыняюцца да стварэння народа. Адным з галоўных, а можа, найгалоўнейшым з іх, ведама, з'яўляецца язык. Ён ёсць злучвом і праваднікам супольнасці нацыянальнай кожнага народа. Вялікую таксама гэткую ж спалучаючую ролю, прынамсі, у многіх выпадках, іграе так жа і рэлігія. У тварэнні беларускай нацыянальнасці ў гэтым значэнні вялікую ролю адыграла рэлігія хрысціянская. Да разгляду чаго далей і прыступаем.

Вось жа хрысціянства, як новая рэлігія, што прыйшла на змену паганству сярод беларускіх плямён, вобак з іншымі дзейнікамі, што ў гэтым першым перыядзе беларускай гісторыі прычыняліся да працэсу паўставання беларускай нацыянальнасці, іграла ў гэтым кірунку выдатную, а мо і галоўную ролю. Праўда, прычынялася да паўстання беларускай нацыянальнасці лучнасць між бел[арускімі] плямёнамі геаграфічная — яны былі даволі добра ізаляваныя ад суседніх плямён рэкамі, лясамі і балотамі. Была між імі таксама геаграфічная лучнасць і ўнутраная: яны, жывучы адны вобак другіх, мелі больш



між сабой супольнай сутычнасці, як з плямёнамі далейшымі. Безумоўна, была між імі і лучнасць этнаграфічная, расавая, гэта ёсць: была свядомасць супольнага паходжання, языка і быту. Існавала таксама між імі і сувязь палітычная: такой былі — спярша аб'ядноўваючыя іх уласныя князі, а пасля варагі-русы. Усё гэта мела ўплыў на паўставанне беларускай нацыянальнасці. Але калі паявілася ў Беларусі хрысціянства, яно сапраўды аказалася ў гэтым кірунку дзейнікам асабліва важным і, бадай, адзіным у сваім родзе.

Хрысціянства, перадусім, прынесла ў Беларусь граматнасць. Праўда, гісторыя кажа, што ў нашых продкаў ужо нейкая граматнасць і раней была. Але гэта была граматнасць прымітыўная і ізаляваная цалкам ад тагачаснага культурнага свету. Хрысціянства ж прынесла Беларусі граматнасць, з аднаго боку, дапасаваную да патрэб і душы беларускіх плямён, а з другога — абапёртую на класічнай грэцкай і часткова лацінскай культуры. Гэтая граматнасць давала нашым продкам магчымасць сутыку і ўдзелу ў дарах тагачаснай культуры і цывілізацыі. А гэта ўсё пабуджала творчы інстынкт народа і развівала яго нацыянальную асаблівасць, прычыняючыся гэтым да большага зліцця гэтых нашых плямён у адно цэлае нацыянальнае. Праз граматнасць нашы продкі мелі магчымасць раўняць сваё жыццё з жыццём цывілізаваных народаў і імітаваць яго або проста ісці за яго прыкладам.

Далей, хрысціянства, як рэлігія, лучыла і яднала беларускія плямёны ў адно цэлае і нацыянальна-асобнае, вытвараючы супольную ў народзе веру, пагляды, традыцыі, культуру, супольную народную душу. Праўда, хрысціянства шырылася ў мове супольнай спярша і для іншых усходніх славян, але яно, нягледзячы на гэта, было магутным сродкам супольнага яднання ўнутранага, а з бегам часу, сягаючы да душы народа, вытварала і закрапляла нацыянальныя, свомыя толькі беларусам, асаблівасці.

Асабліва ў працэсе тварэння беларускай нацыянальнасці хрысціянства рашучую іграла ролю ў тым, што тварыла родную інтэлігенцыю, якая была мозгам і памяццю народа, што, пры свайго роду дэмакратычным ладзе нашых продкаў у гэтым часе, давала магчымасць хрысціянству пранікаць ад слаёў вышэйшых у шырокія народныя масы. Бо трэба ведаць, што ні князі, ні баяры не маглі яшчэ тварыць нацыянальнасці. Яны толькі як бы абдумвалі нацыянальную народу еднасць, ставілі нацыі супольную мэту, падгатаўлялі гэтым спосабы і сродкі далейшага супольнага аб'яднання. Але сапраўдны нацыянальны рух паяўляецца толькі тады, калі ўвесь гэты аб'ядноўваючы працэс ахоплівае масы. А гэта бывае звычайна тады, калі ў галаве і ў сэрцы кожнага сябра нацыі запальваецца агульная

ідэя. Такой ідэяй у гісторыі народаў бывае звычайна ідэя рэлігійная. У нас, у першым ужо перыядзе нашай гісторыі, такой ідэяй была ідэя хрысціянская, якую ў масы народныя нёс вышэйшы асвечаны клас: ваякі, баяры, духавенства.

Паганства ж падобнай ролі адыграць не магло.

Рэлігія паганская ў беларусаў была разнаякая, раздробленая, з многімі прымітыўнымі і наіўнымі абрадамі і багамі. Гэта рэлігія служыла не паўстанню і ўзросту беларускай нацыянальнасці, але, наадварот, — яе раздрабленню і расцярушанню. Зусім што іншае хрысціянства. Яно праз сваё адзінства, праз свой высокі ідэалізм, праз сталасць і аднаякасць і сваёй навукі і абраду, праз прасветную сваю дзейнасць было *на зары беларускай гісторыі* магутным сацыяльным дзейнікам, злучаючым беларускія плямёны, беларускія княствы, беларускія нацыянальна яшчэ не аформленыя масы ў адзін суцэльны народ.

Гэткую ж ролю адносна беларускай нацыянальнасці хрысціянства іграла і пазней. За часаў у беларускай дзяржаве *літоўскай дынастыі*, калі ў нас ужо панавала праваслаўе, беларускі народ, баронячыся ад наступу на Беларусь лацінізму і паланізму, бараніў не толькі сваю рэлігію, але таксама і нацыянальнасць, ажыўляючы і паглыбляючы ў масах яе супольнасць і адзінства.

Зноў жа, за часаў *уніі*, калі культурныя і багатыя класы пакінулі народ, пераходзячы ў лацінізм і польскасць, і калі гэтыя апошнія штораз больш насядалі на народ, ён, баронячы сваю уніяцкую веру, свой усходні абрад, бараніў і цэментаваў далей і беларускую сваю нацыянальнасць.

Калі ж уся Беларусь у канцы XVIII ст. знайшлася *пад царскай Расеяй*, калі царская палітыка унію пераявяла ў праваслаўе і зрабіла з яго палітычнае аружжа, звернутае проціў беларусаў, калі настаў для нашага народа найгразнейшы час, — і тады хрысціянства аказалася апорай беларускай нацыянальнасці. Лацінскае каталіцтва тады ў Беларусі падтрымлівала і зберагала да лепшых часаў беларускую нацыянальную ідэю.

Факт, што хрысціянства з'яўляецца ў нашай гісторыі творывам і апорай беларускай нацыянальнасці, тлумачыцца перадусім тым, што яно ўводзіць дужа блізкі і глыбокі духовы кантакт у народных гушчах, які, часта несвядома, падтрымлівае і твора нацыянальнае пачуццё і якога знішчыць не могуць ніякія палітычныя махінацыі, бо да яго не дасягаюць. Гэтым іменна тлумачыцца і тое, што і за панаванне над беларускім народам расейскіх цароў праваслаўная царква, нягледзячы на навязванне ёй ролі вынарадаўлямня беларусаў, цалкам іх не зрусіфікавала і яны далей асталіся беларусамі.



Гэткім, як бачым, хрысціянства ў Беларусі ў першым перыядзе яе гісторыі было магутным і ўсестаронім дзейнікам, аб'ядноўваючым беларускія плямёны ў адзін асобны самастойны народ, уводзячы яго апрача гэтага ў сям'ю цывілізаванага свету і асвячаючы беларускую народную мову, як мову рэлігіі, культуры і агулам асвечанага жыцця, назаўсёды. Гэткім яно было адносна бел. народа і пазней. Але аб гэтым далей.

(Літаратура: П. Милюков. Національный вопрос. Прага, 1925; St. Kodź. Zasada narodowości. Wilno, 1932; A. Maceina. Tautinis Auklėjimas. Kaunas, 1934; Д. Багалѣй. Русская Исторія; В. Липинский. Релігія і Церква в історіі Украіни. Львів, 1933.)

## VII. БЕЛАРУСЬ З ЛІТВОЙ. ПРАВАСЛАЎЕ АПОРА І ТВОРЫВА БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ *(XIII–XVI)*

*Агульная характарыстыка беларуска-літоўскага перыяду. Аддаленне Беларусі ад шкодных і варожых уплываў. Праваслаўе — пануючая вера Беларусі. Рэфармацыя. Езуіты і Праваслаўная Царква. Праваслаўе бароніць «веру бацькоў» і беларускую нацыю. Узрост беларускай культуры. Культура свецкая і хрысціянства. Наступ Польшчы. Спын беларускай культуры.*

У гісторыі беларускага народа пасля існавання паасобных княстваў, пасля так зв. полацкага перыяду, калі сярод гэтых княстваў верхаводзіла і пераважна незалежна трымалася Полацкае, настаў так зв. перыяд беларуска-літоўскі, ці мо лепш — перыяд суцэльнага беларускага дзяржаўнага жыцця з дынастыяй літоўскіх князёў. Час гэты прыпадае на XIII–XVI стст. Для беларускай нацыянальнасці час гэты, прынамсі, спачатку быў даволі памысным. На поўдні ўкраінскія і адчасці маскоўскія плямёны і іх дзяржаўнае і культурнае жыццё руйнавалі спярша дзікія народы — печанегі і полаўцы, а пасля з большымі ці меншымі перарывамі на працягу гадоў двухсот (1237–1480) татарскія орды. Дзякуючы іх нападам, Кіеў у 1240 г. быў збураны. Культурны і царкоўны цэнтр быў перанесены ў Маскву. Туды перанёсся кіеўскі мітрапаліт у 1328 г. У 1341 г. Масква сталася сталіцай новага маскоўскага гаспадарства. У 1589 г. у Маскве заложаны патрыярхат. Тым часам землі беларускія, дзякуючы перадусім іх геаграфічнаму палажэнню, бо ляжалі далёка ад гэтых дзікіх народаў, былі пакрыты лясамі і ад паўдня былі заслонены пінскімі балотамі, аставаліся па-за іх уплывамі і наездамі.

Калі землям украінскім і маскоўскім найбольш гразіла татарская навала ў XIII ст. і калі ўжо ў XIV ст. напірала на Беларусь Польшча і Маскоўскае княства, Беларусь у гэтым часе ўжо, разам з большай часткай зямель украінскіх, апынулася ў аб'яднанні з Літвой, на якую ў свой чарод напіралі рыцары ордэнаў Лівонскага і Тэўтонскага.

Аб'яднанне Беларусі з Літвой аддзяляла наш народ не толькі ад паўдня і забяспечвала ад нападаў і ўплываў гэтых дзікіх народаў, але таксама і ад Масквы, якая ўжо пачынала заяўляць свае прэтэнзіі на ўсе ўсходнеславянскія землі і народы, апіраючыся адно толькі на чужацкай, накінутай усім гэтым народам, назове «Русь» — дзеля варагаў-русаў — і на адзінстве хрысціянскай, усходняга абраду, веры. Гэткае аддзяленне Беларусі ад паўдня і ад поўначы і палітычнае аб'яднанне з Літвой мела вялікае значэнне дзеля далейшага выраблення і кансалідацыі беларускай нацыянальнасці. У гэтым жа перыядзе, ужо ў XIII–XIV стст., беларуская нацыянальнасць і беларуская мова злажылася ў нацыянальнасць суцэльную і самабытную, якая пазней развілася да даволі вялікіх, як на той час, памераў. На гэты час прыпадае перыяд росквіту беларускай культуры, а ў XVI ст. перыяд залатой яе пары.

У 1386 г., як ведама, дзеля палітычных мэтаў наступіла унія Беларусі і Літвы з Польшчай. Дзякуючы, аднак, злітнасці і цвёрдай самастойнасці беларускай нацыянальнасці і беларускай культуры, унія гэта асталася уніяй толькі на паперы, бо нашая дзяржава далей асталася фактычна зусім незалежнай. І нічога дзіўнага: беларуская мова панавала ва ўрадзе, у судзе, у палацах і канцылярыі вялікіх князёў, была мовай культуры, навукі, школы, царквы. У архівах цяпер знаходзіцца вялікі запас розных культурных памятак беларускіх з гэтага часу. Каб аслабіць беларускую самастойнасць (і літоўскую) з боку польскага, уніі панаўляюцца і на паперы ўрэзваюць беларускую самастойнасць, але толькі на паперы, бо жыццё беларуская стыхія і культура перамагаюць. У 1413 г. адбываецца ведамая унія Гарадзельская, якая фармальна моцна аграніваче беларускую самабытнасць нацыянальную, але жыццё гэтаму і далей не паддаецца.

Галоўнай апорай у гэтым часе беларускай нацыянальнасці і культуры было праваслаўнае хрысціянства. Як мы ўжо адзначылі вышэй, у XIII ст. Беларусь ужо была з Рымам у раз'яднанні, была праваслаўнай. Гэтага раз'яднання даканала Візантыя ў сябе між іншым таксама і дзеля палітычных мэтаў і такое ж раз'яднанне несла і на беларускія землі. Сэнс гэтай палітыкі ў тым, што ўсходнеславянскія землі (у іх ліку і беларускія), пасвараныя з Рымам, лягчэй утрымаць у блізкасці і залежнасці ад Візантыі, чымся тады, калі б яны былі з Рымам у еднасці. Словам, так ці інакш, але праз увесь беларуска-літоўскі перыяд (XIII–XVI стст.) бел. гісторыі пануючай верай у Беларусі было праваслаўе, якое служыла апорай і творывам у гэтым часе беларускай нацыянальнасці і культуры. Праўда, у гэтым часе, як убачым ніжэй, падымалася ідэя уніі, ідэя аб хрысціянскім адзінстве, аб лучнасці з Рымам, што і было даканана ў канцы XVI ст. Але да гэтага часу ў Беларусі, калі не лічыць стасункава нязначнага яшчэ лацінскага каталіцтва, панавала бадай непадзельна праваслаўе.



У палавіне XV ст. (1439) наступіла царкоўная унія між усходам і захадам, падпісаная ў Фларэнцыі. Пранікла яна і у Беларусь, дзе гадоў да ста, як убачым ніжэй, пратрывала. Аднак, не захапіўшы шырокіх мас, заняпала.

У пал. XVI ст. у беларускім жыцці здарыліся выпадкі, якія ўзварушылі жыццё і змусілі Царкву яшчэ больш зблізіцца да народа і зліцца з ім. Паявілася рэфармацыя, дзякуючы якой аж да нізоў узрушыўся беларускі народ. З нагоды гэтай рэфармацыі ў пач. XVI ст. паявіліся езуіты ў Беларусі, якія, пакanaўшы рэфармацыю, павялі абдуманы і планавы наступ і на праваслаўную веру, імкнучыся завесці ў Беларусі царкоўную унію. Пачалася вялікая і дужа вострая рэлігійная барацьба, якая прабудзіла нацыянальнае пачуццё і самых нізоў нашага народа. Тады культурна-нацыянальны рух у нас прыняў вялікія формы і скора прывёў беларускі народ да шырокай культурнай працы дзеля ўратавання бацькаўскай веры і нацыянальнасці. Паўстала густая сетка брацтваў па ўсей Беларусі, а пры гэтых брацтвах школы, у якіх вучылі царкоўнаславянскай, а таксама і беларускай грамаце.

Паўстала многа па ўсей Беларусі друкарняў. Гэткія былі: у Вільні, Полацку, Менску, Магілёве, Нясвіжы, Любчы, Заслаўі, Слуцку, Пінску, Заблудаве, Супраслі, Іўі, Лоску і інш. Гэткі лік друкарняў вымоўна гаворыць аб культуры нашага народа ў гэтым перыядзе. У той час наша культура стаяла вышэй за польскую: першая польская друкаваная кніжка паявілася толькі ў 1533 г., а нашая ў 1525 г. (Апостал Скарыны). Не адрэчы тут будзе ўспомніць, што і беларусы-каталікі, якія былі ўжо тады, у сваім рэлігійным жыцці карысталіся беларускай мовай аж да якога веку XVI, калі ім накідалася ў касцёле мова польская. Беларусы-каталікі сёння павінны ведаць, што польская мова ў касцёлах сярод беларускага народа — гэта справа пазнейшая, прад тым была мова беларуская. Была нават адпаведная беларуская каталіцкая літаратура, але аб гэтым будзе ніжэй.

Найвялікшай славай беларускай культуры ў гэтым часе — гэта законы — літоўскія статуты, пісаныя беларускім языком, якія з'ўля-

юцца як на той час кодэксамі права вялікай важнасці. Ярашэвіч, выдатны даследчык культуры нашага краю, кажа, што гэтых законаў мог бы тады пазайздросціць не адзін край нават у Еўропе. Вялікай такжа важнасці, як дакумент беларускай культуры, была таксама беларуская Біблія, якой язык датарнаваў да жывой беларускай мовы наш слаўны Скарына, доктар з Полацка. Была гэта ў роднай мове народа трэцяя Біблія на свеце: першая нямецкая, другая чэшская, трэцяя нашая і толькі чацвёртая польская, а расейская (маскоўская) яшчэ пазней на свет паявілася. Былі і іншыя беларускія рэлігійныя кніжкі і пераклады Св. Пісання, як, напр., пераклад часці Новага Закона Цяпінскага. Час гэты беларускія гісторыкі дзеля вялікага развіцця беларускай культуры называюць «залатою парою».

Польшча, аднак, насядала. Дайшло да уніі палітычнай 1569 г. і ўрэшце да уніі царкоўнай 1596 г. У уніі палітычнай былі выкарыстаны тадышнія палітычныя цяжкія абставіны для беларускага народа. Унія ж царкоўная, калі ідзе аб шырокія народныя масы, была заведзена таксама часта пад прымусам. Народ наш, як ужо сказана, сваёй бацькаўскай верай лічыў праваслаўе. Ён, у барацьбе з уніяй, загартаваў, умацаваў і паглыбіў сваю беларускую нацыянальнасць.

Народ бароўся і за сваю веру і за нацыянальнасць, бо народ інстынктыўна чуў, што яму унія нясе паланізацыю і чужое яму лацінства. І гэтая барацьба прынесла яму вялікія нацыянальныя вартасці. Урэшце гэтая яго стойкасць была зламана. Прадчуццё яго пачало спраўджвацца. Пачала насядаць лацінізацыя і паланізацыя. У 1697 г. быў выданы закон, што «пісар земскі польскім языком і літарамі ўсё мае пісаць». Прыйшоў на змучаны ў барацьбе няроўнай народ заняпад у яго культуры і ў яго палітычным жыцці, каб пасля некаторага часу спячкі пачаў ён будзіцца зноў. Трэба тут таксама прыпомніць, што ў Маскве, як сказана вышэй, у 1589 г. паўстаў патрыярхат, які таксама ўжо з'яўляецца пагрозай для беларускага нацыянальнага жыцця.

І так, напор Польшчы спыніў буйны развой беларускага народа. Каб ды не гэты польскі сільнейшы ад Беларусі напор, сёння мы былі б ужо ў сваім культурным і палітычным падарожжы зайшоўшы далёка, надта магчыма, што сёння беларускі народ быў бы народам у сям'і культурных і вольных народаў Еўропы. Былі на гэта ўсе дадзеныя.

Але што ж у гэтым перыядзе было галоўным дзейнікам такога культурнага разросту і развіцця беларускага народа? Былі такія дзейнікі розныя. Вылічаць іх тут не будзем. На маю думку, аднак, вобак з іншымі, такім дзейнікам была хрысціянская рэлігія, была Праваслаўная Царква. Так, хрысціянства, як даўней, было ў беларускім народзе і цяпер галоўным сродкам маральнай і грамадскай супольнасці, сродкам яднання беларускага народа. Праўда, ад 1453 г. фармальна, а фактычна куды раней, зазначаецца ўпадак і палітычны і культурны Візантыі, галоўны цэнтр і культурны і юрыдычны Царквы перастаў фактычна быць цэнтрам, у беларускай Царкве адчуваўся штораз большы недахват жывых сіл, і яна таксама хілілася да ўпадку. Але, нягледзячы, аднак, на гэта, і далей Царква мела магутны ўплыў на культурнае і грамадскае жыццё беларускага народа і далей служыла яму сапраўды жывым і магутным сродкам яднання, яго кансалідацыі і узросту. Баяры, войска, духавенства — вось галоўныя дзейнікі гэтага яднання ў беларускай нацыі, гэта памяць народа і яго гісторыі і традыцыі. Але баяры ў гэтым часе, гонячыся за шляхоцкімі прывілеямі, народ свой паздраджвалі. За імі ішлі і вайсковыя, бо і яны ж былі з гэтых баяр, з гэтай беларускай шляхты. Вышэйшае духавенства агулам рабіла тое ж. Але духавенства ніжэйшае, сялянскае, звязанае беспасярэдна з народам, аставалася далей з ім, аставалася далей яму верным, далей будучы памяццю народнай, сродкам сапраўды жывым і дзейным яднання, узаемнага ўнутранага спалучэння беларускай нацыі. Падкрэсліваю, што гэтае духавенства было з народам, з нізамі народнымі, і хрысціянства, такім чынам, якое гэта духавенства пашырала, кансалідавала беларускую нацыю і яе выробляла, сягаючы аж да нізоў, пранікаючы яе наскрозь.



Агулам трэба сказаць, што культура ў беларуска-літоўскай дзяржаве была беларускай і хрысціянскай. Хрысціянства было галоўным матывам беларускай культуры. Іншыя кірункі ўмысловыя, хоць і даходзілі часам да нас, малую ігралі ролю. Так, напрыклад, ідэі гуманізму, ідэі рэнесансу, безумоўна, да Беларусі пранікалі, але і яны, хоць у сваёй крыніцы да хрысціянства варожыя, у нас праяўляліся ў форме хрысціянскай. Яркім гэтага прыкладам служыць вялікі наш Ф. Скарына з беларускім сваім перакладам Бібліі і з дапіскамі да яе.

Словам, беларуская культура тады была так сільнай і вялікай, што панавала цалком, што ёй паддаваліся і літоўскія князі і агулам асвечаныя літоўскія класы. Яны мала таго, што прысвойвалі беларускую мову і гэтай мовай гаварылі, але яны пераважна прымалі праваслаўе і сваім парадкам з'яўляліся таксама хрысціянскім адчасці сродкам яднання беларускай нацыі, самі асімілюючыся на карысць беларусаў. Агулам, з літоўцамі тады ў нас сталася, што, напрыклад, з балгарамі ў Балгарыі: асяліўшыхся там паўдзённых славян балгары заваявалі і самі асіміляваліся; сёння ад іх, апрача назову, не асталося нічога. Нешта падобнае сталася таксама з русамі-варагамі, ад якіх для нас у спадку астаўся толькі назоў, а якія

самі цалкам асіміляваліся і следу па іх не засталося[17]. На літоўцаў так дзеяла беларуская хрысціянская культура, што аб гэтым вось што піша ведамы даследчык літоўскай культуры, успомнены Ярашэвіч у II т. сваёй працы «Obraz Litwy»:

«Калі б, — кажа ён, — гэткае палажэнне яшчэ даўжэй без прорвы магло патрываць, дык Літва, прысвоіўшы сабе рускі язык, рускія звычаі і адчасці рускае права, прымаючы рускую веру з духоўнай уладай рускай веры і уходзячы ўрэшце ў штораз стульнейшыя адносіны з цэлай Руссю праз фамілійныя звязкі сваіх князёў, — Літва, кажа, замяніла бы з часам сваю паганска-літоўскую на руска-хрысціянскую нацыянальнасць. Але сутычнасць дзвюх вер — усходняй і заходняй — і збліжэнне Літвы да Польшчы, дзякуючы палітычным здарэнням, змяніла гэта ўсё»[18].

Я ўжо ўспомніў, што і ідэі пастаронніх, а нават часам і варожыя хрысціянству, прыходзілі таксама ў форме хрысціянскай, як павевы гуманізму (выдавецкая і друкарская праца Скарыны)[19].

Гэта ёсць доказам, якое вялікае было значэнне хрысціянства і культурнае і грамадскае, а гэтым самым які гэта быў магутны сродак беларускай нацыянальнай супольнасці.

Вялізарнае, безумоўна, значэнне для гэтага ж яднання беларускай нацыі служыла і свецкая культура, пісьменства, асабліва законы. Але і яны ў значнай меры паўсталі пад уплывам хрысціянскіх ідэяў і часткова гэтыя ж ідэі праводзячы. Беларускія тагачасныя грамадзяне вось як глядзелі на гэтыя свае слаўныя законы, як кажа той жа Ярашэвіч: «Яны праканаными былі, што Статут падняў іх народнае значэнне, асвабадзіў іх ад феадальных уціскаў, засланяў ад самаволі судовых уладаў, адсунуў паноў ад неагранічанага валадання справядлівасцю, абмежыў лішнія працэсавыя аплаты і агранічыў гордасць усёмагутных магнатаў, зраўняўшы з імі перад правам адплужную шляхту».

Ідэі ў абароне правоў адзінкі ў гэтым праве — гэта дух хрысціянства. Той жа Ярашэвіч кажа, што ў нашых тагачасных законах можна даследзіць уплывы законаў старадаўняй Украіны «Рускай Праўды». А дух яе, ведама, хрысціянскі, ды і яна сама паўстала пад уплывам хрысціянскіх законаў Візантыі. Праўда, гэтыя нашы законы былі прызначаны выключна для шляхты ад найвышэйшай аж да дробнай, «адплужнай», як кажа Ярашэвіч, а народ быў вылучаны, народныя масы былі па-за правам, яны ўжо былі пад паншчынай, але гэта ў гэных законах не выключае іх добрых хрысціянскіх старон, што хоць убочна, пасрэдна магло таксама мець уплыў дабрадзейны і на іх цяжкі лёс[20].

Палітычныя уніі рваліся. Іх трэба было аднаўляць або, прынамсі, аб іх прыпамінаць. Найбольшай перашкодай у гэтым была Царква, была беларуская ўсходняя хрысціянская культура. Дзеля гэтага пасля апошняй уніі палітычнай была паднята ідэя уніі рэлігійнай, між іншым з мэтай палітычнай — праз унію прывесці беларускі народ да лацінства і да паланізацыі.



Настаў заняпад, культура наша пачала хіліцца да ўпадку. Але пасля заняпаду пачаўся, як убачым ніжэй, і рэнесанс. Пачаўся ж ён з гэтых самых хрысціянскіх традыцыяў.

(Літаратура: Документы, объясняющіе исторію Западно-Русскаго Краю. СПБ. 1865; М. Довнаръ-Запольскій. Бѣлорусское Прошлое (Изслѣдованія и Статьи. Т. 1. Кіевъ, 1909); Е. Карскій. Бѣлоруссы, I; А. Сапунов. Историческія отношенія Руси Бѣлой и Великой (Памятн. книжка Витебской губ. на 1898 г.). Витебск, 1898; Е. Карскій. Бѣлорусская рѣчь. Очерк народнаго языка с историческим освѣщеніем. Петроград, 1918; Е. Карскій. Бѣлоруссы, III, 2; Старая Зап. Русская письменность. Петроград, 1921; А. Сапунов. Историческія судьбы Полоцкой Епархіи; J. Jaroszewicz. Obraz Litwy od czasów najdawniejszych do końca w. XVIII. Wilno, 1844–45.)

## VIII. ІДЭЯ ХРЫСЦІЯНСКАГА АДЗІНСТВА Ў БЕЛАРУСІ АД ПАЧАТКУ ДА БЕРАСЦЕЙСКАЙ УНІІ Ў 1596 Г.

*Вітаўт Вялікі і яго роля ў справе царкоўнай уніі. Кіеўскія мітрапаліты, спрыяючыя ідэі уніі. Ферара-Фларэнцкі Сабор і беларуская Царква. Мітрапаліт Сідар — уніят. Лёс гэтай уніі ў Беларусі і лёс Сідара. Наступнікі Сідара і справа уніі. Упадак Візантыі, узвышэнне Масквы і яе варожасць да уніі. Упадак праваслаўя і шуканне апоры ў злучэнні з Апост. Сталіцай. Сіноды праваслаўных епіскапаў у Беларусі: 1590, 1594 і 1596 г. Перамога Уніі ў Беларусі вялікая, але няпоўная. Унія — канечнасць для беларускай Царквы і нацыі. Унія і польская палітыка.*

Палажэнне Беларусі ў беларуска-літоўскім перыядзе, безумоўна, спрыяла жыццю яе царкоўнаму агулам і аб'яднанню яго з Царквой Рымскай. У гэтым часе Беларусь, будучы палітычна і культурна як бы адгароджанай ад разлучанай з Рымам Візантыі, а таксама абароненай і заслоненай ад татарскай няволі, ужо гэтым самым збліжалася да Рымскай Апостальскай Сталіцы.

Дзякуючы гэтаму, ідэя аб павароце да адзінства Хрыстовай Царквы сярод беларусаў у гэтым часе аджыла нанава, усцяж адзывалася, рабіла спробы ажыццявіцца і — ці на кароткі, ці на доўгі час — нанава закаранілася.

Вялікі князь літоўскі — слаўны Вітаўт, маючы у граніцах сваёй дзяржавы ўсе беларускія землі, а таксама большасць зямель украінскіх, зоркім вокам вялікага чалавека бачачы ненармальнае палажэнне хрысціянскай царквы ў дзяржаве і хочучы гэтыя землі зблізіць з Літвой, а таксама шукаючы спосабу адгарадзіцца ад умешвання ў беларускія і ўкраінскія справы царкоўныя Масквы, — таксама меў унійныя планы і прабаваў іх увесці ў жыццё.

І так ведаем, што Вітаўт пасылаў полацкага беларускага епіскапа Хвядоса ў Канстанцінопаль, каб тамтэйшы патрыярх назначыў яго на кіеўскага мітрапаліта і каб Русь усю, што ўваходзіла ў склад яго дзяржавы, назаўсёды звольніў ад маскоўскіх мітрапалітаў. Бо трэба ведаць, што сталіца кіеўскіх мітрапалітаў пасля разгрому Кіева татарамі ў 1240 г. была перанесена спярша ў Уладзімер Суздальскі, а ад года 1328, як сказана вышэй, у Маскву, і улада гэтых мітрапалітаў сягала таксама і на царкву ўкраінскую і беларускую. Патрыярх на прапазіцыю Вітаўта не згадзіўся. Тады Вітаўт у 1414 г. склікаў беларускіх і ўкраінскіх князёў, баяр і епіскапаў на сінод у Навагрудак. Сінод скінуў з пасада тагачаснага мітрапаліта Фоція, які варожа адносіўся да беларусаў і ўкраінцаў, а спрыяў Маскве, і выбраў на яго месца Рыгора Цэмвляка, балгара[21]. Канстанцінопальскі патрыярх выбараў гэтых не прызнаў. Тады ў 1415 г. тыя ж епіскапы сабраліся ў тым жа Навагрудку яшчэ раз, напісалі пастырскі ліст, у якім аб'яснілі ўсёй Беларусі і Украіне прычыны, дзеля якіх яны, не зважаючы на пратэст патрыярха, Фоція скінулі з пасада мітрапаліта. Такім чынам Цэмвляк стаўся мітрапалітам беларускай і ўкраінскай царквы. Сталіца была ў Кіеве, але мітрапаліт прабываў часта ў Навагрудку і Вільні. Цэмвляк, як кажуць гісторыкі, спрыяў уніі. Ён з ведама Вітаўта ў 1416 г. ездзіў у Канстанцінопаль і там дабіўся згоды на унію як ад цара, так і ад патрыярха. Згода гэта была, праўда, больш палітычнай, бо на Візантыю ўжо нападалі туркі, дык помачы ад еўрапейскіх дзяржаў і князёў трэба ёй было канечна. У кожным выпадку цар і патрыярх даручылі Цэмвляку і дваццаці іншым усходнім епіскапам у 1418 г. паехаць у Канстанцыю, дзе адбываўся тады сабор, каб на ім падпісалі унію. Паездка гэта, праўда, адбылася, але да уніі беларускай Царквы не давяла.

Вярнуўшыся з Канстанцінопаля, Цэмвляк хутка памёр. Наступнікам яго стаўся Герасім, епіскап беларускага Смаленска, адзін з пасланцоў у Канстанцінопаль, якога таксама гісторыкі ўважаюць за староніка уніі.

Урэшце патрыярх Язэп, сам староннік уніі, прыслаў на мітрапаліта беларускай і ўкраінскай Царквы балгара Сідара, якому разам з мітраполіяй Кіеўскай даручыў таксама і мітраполію Маскоўскую. Было гэта зроблена дзеля мэтаў унійных — каб давесці да царкоўнай еднасці не толькі беларуска-ўкраінскія землі, але таксама і Маскоўшчыну, бо Сідар быў адкрытым староннікам уніі.



Тым часам у Ферары меўся адбыцца царкоўны сабор. Візантыйскі цар і тагачасны патрыярх, бачачы грозьбу з боку туркаў, і далей былі за унію з Рымам. Кандыдатам на гэты сабор быў намечаны той жа кіеўскі і маскоўскі мітрапаліт Сідар. Пасланць яго на сабор пад уплывам візантыйскага цара і патрыярха згадзіўся таксама і вялікі князь маскоўскі Базыль II.

Калі Сідар прыбыў на сабор у Ферару, застаў там ужо візантыйскага цара, царградскага патрыярха, 700 усходніх епіскапаў з розных краёў, многа духавенства ніжэйшага і людзей свецкіх. Сабор пачаўся шчасліва. Доўга вяліся разважанні аб спрэчных пунктах між Царквой усходняй і заходняй: аб першынстве і найвышэйшай уладзе ў Царкве Рымскага Папы, аб паходжанні Св. Духа, аб чыстцы, аб адпраўленні святой літургіі на хлебе квашаным ці няквашаным. Урэшце, усе дэлегаты ўсходняй Царквы, апрача епіскапа эфескага Марка, былі за прыняцце аб гэтых справах навукі сусветнай Рымскай Царквы як навукі сапраўды згоднай з Хрыстовай Царквой.

Тым часам у Ферары выбухнула пошасць, і сабор быў перанесены ў Фларэнцыю, дзе нарады шчасліва былі дакончаны і Унія падпісана 6.VII.1439 г. Ад імя Царквы беларускай, а таксама ўкраінскай і маскоўскай унію падпісаў кіеўскі і маскоўскі мітрапаліт Сідар.

Пашырэнню, аднак, гэтай уніі ў Візантыі стаялі на перашкодзе гэткія прычыны. Перадусім не было там на унію поўнай згоды ў вышэйшым духавенстве, а найгоршай, можа, перашкодай дзеля пашырэння там гэтай уніі было заваяванне Візантыі туркамі, якія да уніі з Рымам не дапускалі, добра разумеючы, што Візантыйская Царква, аддзеленая ад галавы Хрысціянства, будзе паслушнейшай у руках іхняй палітыкі.

Затое з ружовымі надзеямі варочаўся на Русь мітрапаліт Сідар. Ехаў сюды ён з тытулам папскага легата на ўсе землі беларускія, украінскія і маскоўскія, а таксама ехаў з тытулам кардынала. Быў гэта першы кардынал ад Царквы нашага краю.

Яшчэ з дарогі мітрапаліт гэты пасылае пастырскі ліст да духавенства і верных сваёй мітраполіі, у якім абвяшчае аб уніі і заклікае да яе духавенства і народ, а таксама заклікае хрысціян-лаціннікаў да любові ўсходніх братоў сваіх.

Адразу Сідар прыбыў у Маскву, але тут, аднак, згоды на унію не атрымаў ды і сам быў арыштаваны і пасаджаны ў манастыр. Пасля гэтага маскоўскі цар Базыль на маскоўскага мітрапаліта сам назначыў нейкага Ёну. Ад гэтага часу маскоўская Царква назаўсё-

ды была аддзелена ад мітраполіі Кіеўскай, а значыць і ад царквы беларускай і ўкраінскай у Вялікім Княстве Літоўскім.

Сідар тым часам патрапіў жывым уцячы з маскоўскага манастыра і прыбыў у Кіеў, каб тут прыступіць да пашырэння Уніі ўжо ўва ўсей беларуска-літоўска-ўкраінскай дзяржаве. Вось жа ў кіеўскай мітраполіі, за малымі выняткамі, справа Уніі была прызнана, а такім чынам, рэч ясная, Унія была прызнана і Царквой беларускай, якая гэтак зноў вярнулася да хрысціянскай еднасці.

На жаль, Сідар дзеля бліжэй няведамых прычын у Кіеве доўга не аставаўся і ад'ехаў у Рым у 1443 г., дзе ў 1463 г. памёр. На яго месца прыйшоў Рыгор, які кіраваў Царквой беларускай і ўкраінскай на працягу 30 гадоў і які за гэты час нямала папрацаваў для Уніі, якая тут ужо была даволі глыбокія пусціўшы карэнні.

Гісторыя кажа, што ў гэтым часе ў Вялікім Княстве Літоўскім прыступіла да Уніі восем беларускіх і ўкраінскіх епіскапаў. Унію тут прызнавала таксама і ўлада свецкая, якая надала уніятам роўныя правы з лаціннікамі.

Падтрымлівалі таксама Унію на нашых землях і мітрапаліты кіеўскія, наступныя па Рыгорыю, як Місаіл (1477), Ёна Глезна, Макарый. У 1498 г. мітрапалітам кіеўскім быў Язэп Балгарыновіч, епіскап смаленскі, таксама гарачы староннік Уніі і дзейны працаўнік дзеля яе, які памёр у 1501 г. Асабліва дзейна працаваў для Уніі на нашых землях мітрапаліт кіеўскі Солтан, які аб'язджаў беларускія і ўкраінскія землі сваёй вялікай мітраполіі і ўцвярджаў хрысціян у Уніі. Дзеля рэформы царкоўнага уніяцкага жыцця ён нават быў склікаўшы ў 1510 г. правінцыйны сінод у Вільні.

Далей, аднак, развівацца Фларэнційскай уніі на нашых землях не было суджана. Пратрываўшы тут гадоў да сотні, ужо на пачатку XVI ст. яна ў Кіеўскай мітраполіі, а значыць, і на землях беларускіх, бадай цалком выгасае.

Першай прычынай гэтага ўпадку Уніі было блізкае суседства Маскоўскага царства, якое, змацаваўшыся, скінула з сябе татарскае панаванне ў 1480 г. і ў якім ужо прабуджалася нацыянальна-імперыялістычнае пачуццё да нашых зямель і да нашай Царквы. Маскоўскае царства землі беларускія і украінскія пачало ўжо зваць сваёй вотчынай, не жадаючы дапусціць, каб народы гэтых зямель, як зьліжаныя да маскоўцаў сваім паходжаннем, аддзяляліся ад Масквы верай.

Нацыянальная гордасць Масквы пасля заваявання Візантыі туркамі ў 1453 г. узрасла ўрэшце да таго, што яна звала сябе трэцім Рымам*, які мае быць пакліканы ўсе ўсходнеславянскія землі аб'ядпаць і палітычна і рэлігійна. Гэтак Масква гаварыць магла асабліва смела, калі ў 1589 г. аддзялілася ад Канстанцінопаля і ўстанавіла маскоўскае патрыяршаства. Пасля гэтага беларуская Царква, не злучаная з Рымам, мусіла ўжо быць залежнай выключна ад Масквы.

* Першы Рым — праўдзівы, другі — Канстанцінопаль, трэці — Масква.



Другой прычынай, якая стаяла на перашкодзе пашырэнню ў беларускіх землях Уніі, была польская палітыка, уплывы якой у Вялікім Княстве Літоўскім, як аб гэтым сведчыць вымоўна Гарадзельская унія 1413 г., ужо недвухсэнсоўна былі варожыя да беларускай усходняй Царквы і да яе вызнавальнікаў. Унія гэта, хоць, праўда, і далей не касавала палітычнай незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, але яна беларусаў і ўкраінцаў, як не лаціннікаў, агранічвала ў палітычна-грамадскіх правах і дзеля гэтага проста ўжо тады адстрашала ад Уніі і дапамагала прыхільна ўглядацца на заступаючуюся за іх дызуніцкую Маскву.

Такім чынам, як бачым, беларуская Царква ў гэтым ужо часе мусіла знайсці такую апору і такую арганізацыйную форму, каб як найбольш была незалежнай ад чужых варожых уплываў, каб як найбольш была з'яднаная з народам і з патрэбамі душы ягонай, каб была, урэшце, у пэўным значэнні больш-менш Царквой сапраўды беларускага народа. Бо, як бачым, польска-маскоўскія ўплывы на беларускае царкоўнае жыццё ў гэтым часе настолькі ўзмагліся, што ўжо яны пачалі ўводзіць у Царкву раздваенне і падпарадкоўваць яе сабе. Лёгка дадумацца, што такой верай для беларусаў магла быць унія з сусветнай Рымскай Царквой.

Праўда, XVI в. мы, беларусы, называем векам залатым. Але гэта не зусім так. Век гэты сапраўды залаты ў сэнсе развіцця беларускай мовы, літаратуры і культуры палітычна-грамадскай. І гэта зразумела. Быў жа гэта час вялікай палітычнай і культурнай самастойнасці беларускага народа, які, будучы вольным палітычна, мог тварыць свае культурныя вартасці. Быў таксама гэта час гуманізму, які, дастаўшыся з цёплай Італіі і на нашы беларускія землі, абуджаў зацікаўленне да ўсяго таго, што больш канкрэтнае, людское. Быў гэта, урэшце, час рэфармацыі, якая выклікала рэлігійную барацьбу і на нашых землях і, што за гэтым ідзе, узбагаціла беларускую народную літаратуру. Усяму ж гэтаму спрыяла як не трэба лепш штука друкарская.

Гэта ўсё праўда, аднак для жыцця царкоўнага XVI в. векам залатым не быў. Каб сапраўды добра было тады і з жыццём царкоўным, дык бы гэты век наш залаты быў бы яшчэ залацейшым. Але, на жаль, справы Царквы былі тады расстроены цалком.

Беларуская Царква праз раздзел яе з Рымам была аддалена ад заходу і ад яго культуры і зближана да Масквы, якая сама, будучы

адарванай не толькі ад Рыма, але таксама і ад сваёй найбліжэйшай і натуральнай крыніцы культуры — Візантыі, па ўпадку якой у 1453 г. усяўладна панавалі там туркі, была фармальна спавіта цемрай беспрасвецця. Дык не дзіва, што сярод беларускага народа панавала тады таксама поўная цемната і забабоннасць, як агулам, так і ў справах веры. Асвечанага духавенства, бадай, не было зусім. Нават на сталіцах епіскапскіх засядалі тады часта малаграматныя людзі. Духоўныя агулам і епіскапскія пасады багатыя паны часта тады куплялі за грошы, а магнаты і князі, не пытаючыся епіскапаў, самі назначалі духоўных на прыходы. Было і так, што гэтыя ж князі і магнаты гэтаксама паступалі і з епіскапамі. Дзеля гэтага здаралася часта, што высокія царкоўныя пасады займалі яўныя гвалтаўнікі права прыроднага, Божага і царкоўнага.

Праўда, проціў гэткага сумнага стану беларускай Царквы зрэагавалі людзі свецкія, арганізаваўшыся ў так званыя брацтвы, з якіх на беларускіх землях выдатна працавалі: віленскае, менскае, магілёўскае і інш., але брацтвы гэтыя былі бяссільны направіць так вялікае зло і, як людзі свецкія, не заўсёды кампетэнтныя ў царкоўных справах, справы гэтыя часта яшчэ больш псавалі.

Словам, прыйшоў упадак на беларускую Царкву, а разам з ім, у тым жа часе, прыйшоў таксама ўпадак і на палітычную і культурную самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага, а гэтым самым і беларускага народа. Масква штораз смялей гразіла яму з усходу, туркі з паўдня, а немцы з заходу. Польшча гэта выкарыстала і накінула яму Люблінскую унію 1569 г., на моцы якой гаспадарства ўсё гэта і з яго народамі беларускім, украінскім і літоўскім ужо мела станавіць складовую частку Польшчы і польскага народа[22].

Пасля Люблінскай уніі пачынаецца для Беларусі новы перыяд — польскі, які, як убачым ніжэй, ёсць таксама новым перыядам і для справы беларускай царкоўнай Уніі.

Дык вось жа беларускай Царкве ў гэтым новым перыядзе беларускай гісторыі нічога іншага не аставалася, як успомніць старадаўнія традыцыі ўсецаркоўнай еднасці, асабліва ж не так далёкую яшчэ унію Фларэнційскую, і да гэтай традыцыі, да гэтай уніі вярнуцца з паваротам. Так яна і зрабіла.

Мітрапаліт Міхал Рагоза ў 1590 г. склікаў у Берасце на сінод усіх беларускіх і ўкраінскіх епіскапаў, прадставіў ім цяжкое і проста бязвыхаднае палажэнне іх Царквы і запытаўся, каго гэта Царква, маючы на воку дабро сваё, павінна слухаць: патрыярха царградскага, патрыярха маскоўскага, дзевяць гадоў таму ўстаноўленага, ці, урэшце, Папу Рымскага? Біскупы аднагалосна пастанавілі ўзнавіць Фларэнційскую унію.



На другім жа такім сінодзе ў 1594 г., таксама ў Берасці, былі ўжо выбраны дэлегаты ў Рым у асобе Кірылы Тарлецкага, епіскапа луцкага, і Гіпацага Пацея, епіскапа берасцейскага. У 1595 г. дэлегаты былі ўжо ў Рыме, дзе ад сябе і ад імя ўсей Царквы беларускай і ўкраінскай злажылі вызнанне веры паводле пастаноў сабора Фларэнційскага. Пасля гэтага Папа напісаў ліст да епіскапаў усей беларуска-ўкраінскай мітраполіі, у якім радзіць, каб яны сабраліся яшчэ на трэці сінод у тым жа Берасці і ў прысутнасці сваіх паслоў урачыста паўтарылі тое самае вызнанне веры. Напісаў таксама Папа ліст і да караля польскага Зыгмунта III, у якім прасіў яго, каб уніяты агулам, а таксама і уніяцкае духавенства, былі ўва ўсім што да грамадскіх правоў роўныя з лаціннікамі.

Вось жа гэты трэці сінод, згодна з воляй Папы, сабраўся ў Берасці 1596 г. 6.X. У гэтым саборы апрача епіскапаў Царквы ўкраінскай былі ад Царквы беларускай і прынялі унію: Гермаген, архіепіскап полацкі і віцебскі, і Іван Гогаль, епіскап пінскі і тураўскі. Ад імя караля на саборы былі прысутнымі Мікалай Крыштоф Радзівіл і ведамы канцлер Леў Сапега.

Аднак поўнага аднадумства не было і тут. Епіскап львоўскі Балабан і епіскап пярэмыскі Капысценскі, нягледзячы на тое, што раней на унію былі згадзіўшыся, цяпер пайшлі проціў уніі.

Пад іх верхаводствам і ўкраінскага магната К. Астрожскага ў той жа час, у тым жа Берасці, яны сабралі сабор проціўунійны і пачалі адкрытую з Уніяй барацьбу.

Як бачым, проціўунійная праца пачалася на землях украінскіх. Адтуль жа барацьба гэта перакінулася і на землі беларускія, дзе з Уніяй змагалася асабліва віленскае царкоўнае брацтва, а за ім менскае і іншыя. Аднак гэта проціўунійнае змаганне ў Беларусі аказалася бяссільным. З бегам часу на ўсіх беларускіх землях, з выняткам епіскапства мсціслаўскага ў Магілёўшчыне, Унія прынялася і пусціла глыбокія карэнні. Унію не прыняла толькі епархія мсціслаўская, якая адна толькі ў Беларусі станавіла проціўунійны асяродак і да якой належалі ўсе дызуніты ўсей Рэчы Паспалітай польскай. На землях жа ўкраінскіх за гадоў сто ад Берасцейскай уніі злучыліся таксама з Рымам і ўспомненыя епархіі — львоўская і пярэмыская.

Берасцейская унія трымалася і развівалася на беларускіх землях, як убачым пазней, 243 гады. За гэты так вялікі час яна настолькі зраслася з беларускай душой, што, ужо смела можна сказаць, сталася сапраўды народнай беларускай верай. Але прыгледзімся бліжэй да яе.

Як беларусы духоўныя, так і многія светлыя адзінкі свецкія згадзіліся на унію для дабра сваёй Царквы, бо сапраўды іншага выхаду яны не мелі. Калі б яны гэтага не зрабілі, то ў будучыні як для бела-

рускай Царквы, так і для беларускай нацыі было б яшчэ горш. Згадзіўся на унію таксама і польскі ўрад — ды больш таго: ён яе пажадаў, падтрымліваў і адчасці праводзіў дзеля сваіх палітычных мэтаў. Праўда, палітычна тады ўжо беларускія і ўкраінскія землі належалі да Польшчы, але прыналежнасць гэта была больш вонкавая, бо жыхары іх душой былі цалком для Польшчы чужыя. Праваслаўная рэлігія і вынікаючая з яе культура гэтых народаў выразна дзяліла іх ад палякаў і не дазваляла з палякамі зліцца. Унія Берасцейская мела ў планах польскага ўрада і польскага тагачаснага грамадзянства запоўніць і гэты недахоп у тагачаснай польскай палітыцы. Палітыка гэта ясна здавала сабе справу, што беларуская (і ўкраінская) Царква, адарваная ад Масквы і злучаная з Рымам, сілай свайго палажэння паддасца пад уплыў польскі, паволі спольшчыцца, пакіне нат свой абрад і мову.

(Літаратура: Е. Голубинский. Исторія Русской Церкви. Т. II, ч. I. Москва, 1900; Д. Багалѣй. Русская Исторія; Ст. Томашівський. Украінська Історія, I; Г. Кипріановичъ. Историческій Очерк Православія, Католичества и Уніі въ Бѣлоруссіи и Литвѣ съ древнѣйшихъ до настоящаго времени. Вильна, 1899; Ks. Edw. Likowski. Historya Unii Kościoła Ruskiego z Kościołem Rzymskim. Poznań, 1875; Ks. Biskup Edw. Likowski. Unia Breska (r. 1596). Poznań, 1896.)

## IX. УНІЯЦКАЯ ЦАРКВА — АПОРАЙ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ Ў XVII–XVIII СТСТ.

*Унія Люблінская і Берасцейская. Перыяд заняпаду Беларусі. Палажэнне уніяцкай Царквы. Адносіны да яе польскіх палітыкаў, грамадзянства, духавенства. Унія — «мужыцкая» вера. Унія — беларуская гістарычная канечнасць. Унія — творыва і апора беларускай нацыянальнасці.*

Пасля перыяду ў гісторыі Беларусі, які трываў ад XIII да XVI ст. уключна, у якім прыпадае беларуская залатая пара, што ёсць доказам не толькі скансалідавання беларускай нацыі, але і яе вялікай творчай здольнасці, да чаго так магутна прычынілася беларуская Праваслаўная Царква як сродак злучнасці і гэтым самым тварэння беларускай нацыянальнасці, — настаў перыяд цалком новы, званы часта польскім[22]. Гэты новы перыяд трываў ад другой палавіны XVI ст., калі ў 1569 г., дзякуючы Люблінскай уніі, Беларусь фармальна страціла сваю палітычную самастойнасць, — да разбору Польскай Рэчы Паспалітай у самым канцы XVIII ст.[23]. Люблінская унія, а па ёй Берасцейская — касцельная — сапраўды гэта тыя слупы, ад якіх фармальна, а хутка па іх і фактычна, пачынаецца дэкадэнцыя беларускага палітычнага і культурнага жыцця. У гэтым перыядзе беларуская нацыянальнасць страціла сваю палітычную і культурную самастойнасць. Гэты перыяд — гэта час заняпаду Беларусі.



Але што ж у гэтым так зв. польскім перыядзе жыцця беларускага народа сталася з ім, з яго нацыянальнай асаблівасцю? Ці гэты народ перастаў існаваць і ці яго нацыянальнасць расцерушылася і згінула? Не. Народ астаўся народам, і яго нацыянальнасць асталася непарушанай, але народ гэты апынуўся тады ў такіх умовах свайго жыцця, што не меў ніякай магчымасці быць дзейным, развіваць далей сваю культуру, будаваць сваю грамадскасць і развівацца і жыць сваім уласным нацыянальным жыццём. Дзеля гэтага народ тады наш як бы абмёр, застыў у бяздзейнасці, заснуў. Тым больш тады нашаму народу было цяжка, бо ўжо тады ён цалком быў пакінуты сам сабе. Вышэйшыя асвечаныя класы яго пакінулі, гонячыся за прывілеямі, за ўрадамі, за ўласным самалюбным дабрабытам. Праваслаўе, з якім народ зжыўся і якое ўжо было яго нацыянальнай верай, пасля доўгай і ўпорыстай барацьбы ўступіла месца Уніі, якой спярша народ так баяўся і ад якой так заўзята бараніўся.

І вось жа і ў гэтым перыядзе беларускай гісторыі, у перыядзе вялікага заняпаду беларускага народа, народ гэты не згінуў. І мала таго, што не згінуў, але паціху жыў і паціху далей, прынамсі, аберагаў сваю нацыянальнасць і яшчэ нават даваў пакрысе адзнакі свайго жыцця ў форме сякіх-такіх культурных здабычаў. Дык што ж тут аберагала беларускую нацыю, што было тут гэтым сродкам яднання і апоры? Як ні дзіва, але гэтым і тут было хрысціянства, гэтым сродкам была Уніяцкая Царква, нягледзячы на сваё цяжкое палажэнне з прычыны дзякуючы навязвання ёй часта чужых антынародных заданняў і трактавання яе, як нешта ліхое і «мужыцкае».

Польскі ўрад і польскае грамадзянства, пераважна з палітычных мэтаў, падтрымлівалі Унію і яе праводзілі. І так, пасля ўвядзення Уніі, Зыгмунт III адкрыта стаў на яе старане. Часта сілай, процiў волі беларусаў, забіралі для Уніі цэрквы і царкоўную маёмасць, што ў выніку на Уніі адбівалася толькі адʼёмна. Праўныя адносіны да уніятаў былі яўна аднабокія і несправядлівыя. Нягледзячы на просьбы і дамаганні Папаў Рымскіх зраўняць у палітычна-грамадскіх правах уніятаў з лацiннікамі, зроблена гэта не было ніколі. Епіскапы, напр., уніяцкія ніколі не былі дапушчаны да сенацкіх крэслаў, з чаго карысталіся біскупы лацінскія.

Духавенства лацінскае адносілася да Уніі таксама варожа. Унію і яе духавенства, не вылучаючы нават і епіскапаў, яно яўна ненаві-

дзела і пагарджала. Гэтая нянавісць і пагарда асабліва ўглыбляліся ў меру таго, як вышэйшыя асвечаныя беларускія класы, пад гэткім напорам лацінізму і паланізму, паволі пакідалі Унію, — што яны з тых жа прычын рабілі ўжо аддаўна, — пакідалі свой абрад і мову, польшчыліся і пераходзілі ў польскае лацінства.

Сапраўды, палякі праз Берасцейскую унію дапялі таго, што слушна ім закідаюць расейскія гісторыкі праваслаўныя, а таксама — што і сёння часта можна пачуць ад беларускай праваслаўнай інтэлігенцыі, асабліва ўзгадаванай на расейскай гістарычнай літаратуры, а іменна тое, што унія Берасцейская — гэта была вера не самастойная, а толькі праваднік, масток, які вядзе да польскасці і лацінства.

Праўда, лепшыя сыны беларускай Царквы Уніяцкай і беларускай нацыі бачылі гэтую фальшывую старану ў уніі, бачылі таксама небяспеку, згэтуль вынікаючую як для самай Уніі, так і для беларускага народа, і ў меру магчымасці гэтаму проціўстаўляліся. Аднак яны прад гэтым яўным паходам на іх Царкву і народ былі бяссільны. Небяспеку гэту і свае вялікія крыўды яны часта прадстаўлялі Папам, а тыя, правам забараняючы пераходзіць уніятам з свайго абраду ў лацінства, часта зварочваліся да польскіх каралёў з просьбай не пазваляць на гэта беларускай арыстакратыі. Але гэта ўсё было лішнім і дарэмным. Польскія палітыкі і нават самі каралі прыракалі паслухаць Папаў, але прырачэння ніколі не спаўнялі і далей Унію выкарыстоўвалі для сваіх мэтаў палітычных як толькі ўмелі і хацелі. У рэзультаце палякі праз Унію забралі ад беларусаў усё лепшае, забралі тое, што забраць хацелі: асвечаны клас людзей і іх абшары зямельныя, а таксама пакрысе забіралі і агулам ад беларусаў-уніятаў іх абрад і мову.

У рэзультаце такой польскай палітыкі Унія на беларускіх землях у XVIII ст. была ўжо выключна верай сялянскай, прычым многа ўжо злаціненая і спольшчаная. Найбольш яскрава аб гэтым сведчаць пастановы уніяцкага сінода ў Замосці 1720 г.

Дык што ж дала беларусам Берасцейская царкоўная унія і ці варта было прымаць яе, калі гэтулькі, толькі збольшага да яе прыгледзеўшыся, бачым у ёй заган, недахопаў, а нават і яўнай шкоды як для беларускай Царквы, так і для беларускага народа? Вось жа, нягледзячы на ўсе гэтыя недахопы і на ўсе тыя благія вынікі для нашай Царквы і народа, якія былі звычайным наступствам Берасцейскай уніі, Унія гэта ўсё ж такі мела рацыю свайго быту. Унія гэта — з пункту гледжання беларускага — гэта гістарычная неабходнасць і для беларускай Царквы і для беларускага народа. Надта магчыма, што калі б не гэтая унія, дык сёння ўжо не было б беларускай нацыі,



яна ці такім ці іншым чынам патанула б у маскоўскім нацыяналізме і імперыялізме, куды гразнейшым для нас, як такі ж нацыяналізм і імперыялізм польскі.

Вось жа праз Унію Беларусь, праўда, шмат страціла, але, трэба прызнаць, здабыла значна больш — праз Унію яна захавала веру айцоў сваіх на працягу 243 г. і, прынамсі, у сваёй аснове захавала таксама і сваю нацыю. Унія дала беларусам правільную царкоўную арганізацыю, вынікаючую з апоры аб Рымскі Прастол, у меру тагачасных палітычных варункаў адрадзіла царкоўнае жыццё, падняла асвету духавенства і народа, спрыяла развіццю беларускай народнай літаратуры. Уніяцкая літаратура — гэта літаратура з натуры сваёй беларуская, бо ж яна мела на мэце выключна шырокія сялянскія масы, якіх, дзякуючы гістарычным абставінам, і была яна верай. Словам, Унія, як бачым, гэта такая на нашых землях форма хрысціянства, якая найбліжэй сваёй натурай да натуры беларускай, якая сапраўды з'яўляецца апорай нацыянальнай і культурнай гэтага народа.

Калі б жыццё беларускай Праваслаўнай Царквы, шукаючы выхаду з свайго цяжкога палажэння ў XVI ст., пакіравалася якімсь чынам на ўсход, на Маскву, ці, працей кажучы, калі б яна не пайшла на Унію і асталася праз гэтыя 243 г., праз якія была ў Уніі, у духовай прынамсі еднасці з Масквой, — вынікі для яе і з боку веры і з боку нацыянальнага былі б незраўнана горшыя. Было б гэта дужа грозна для веры, бо душа беларуская, будучы ў доўгіх сталых зносінах з Масквой і адтуль чэрпаючы маральнае і культурнае падтрыманне, штораз больш і больш праймалася б, насупроць істоце хрысціянства, маскоўскім абсалютызмам і ў сэнсе хрысціянскім штораз больш раскладалася б. Гэткі ж паварот беларускай царкоўнай гісторыі быў бы таксама больш шкодны і для нацыі, бо ясна, што праз залежнасць царкоўную, праз блізкія адносіны рэлігійныя з Масквой раскладалася б і беларуская нацыя, лёгка паддаючыся маскоўскай асіміляцыі.

Не трэба забывацца, што мова беларуская больш розная ад мовы польскай, як ад маскоўскай, дык і ўплывы польскія праз Унію на беларускую Царкву і нацыю менш шкодныя і менш небяспечныя, чым гэта было б з уплывамі маскоўскімі.

Не трэба таксама забывацца і аб тым, што маскоўскія цары, хоць беларускія землі былі і за палітычнай мяжой Масквы, аднак жа, пачынаючы ад якой палавіны XVII ст. і праз усё бадай ст. XVIII, усцяж забіралі голас у абароне пакрыўджаных беларусаў-праваслаўных і нават уніятаў, проста ўмешваючыся ў іх царкоўнае і нацыянальнае жыццё. Заступніцтва ж гэта, рэч ясная, мела на мэце не выпусціць беларусаў, якіх Масква заўсёды лічыла сваімі роднымі,

з сваёй апекі і пры аказіі прылучыць іх да сябе і цалком з сабой асіміляваць. Дык вось жа, паўтараем, калі б Беларусь у XVI ст., дапусцім, асталася праваслаўнай і паддалася б уплывам рэлігійным і нацыянальным Масквы, яна б, адышоўшы ў канцы XVIII ст. да Масквы, — не гаворачы ўжо аб тым, што было б, калі б яна да Масквы палітычна адышла раней, — дык яна б на зары свайго рэнесансу, свайго адраджэння была б пазбаўлена і тых, сапраўды ўбогіх, сіл, чэрпаных, трэба ведаць, перадусім з традыцыі, звязанай з уніяй, сіл, з якімі яна выступіла на арэну свайго сучаснага ўжо больш-менш свядомага нацыянальнага жыцця. Словам, Берасцейская унія — гэта вялікая і неабходная бачына ў гісторыі нацыянальнай і царкоўнай беларускага народа. Не трэба забывацца таксама і таго, што калі б не Унія — дык палякі ўсё роўна цягнулі б беларусаў у лацінства і тут больш згінула б іх і была б большая шкода беларускаму народу.

На шчасце, беларускія праваслаўныя масы пасля завядзення Уніі замест праваслаўя агулам даволі хутка да яе прывыклі. Справа ў тым, што калі гэтыя масы Уніі баяліся, дык думалі, што яна беспасярэдна нясе польскасць і лацінства. Калі ж убачылі, што гэтага няма, што страх не такі вялікі, як яго сабе прадстаўлялі, што ў Царкве па-даўнейшаму астаецца царкоўнаславянская служба Божая і пропаведзь у іх роднай беларускай мове, хутка да Уніі пачалі прывыкаць, уважаючы часта, што фактычна не зайшло ніякай вялікай змены. Бо ў справах дагматычных праваслаўя і Уніі масы разбіраліся зусім мала або і нічога з гэтага не цямілі. Гэтыя справы належалі да духавенства і то пераважна да вышэйшага, бо і духавенства ніжэйшае, працуючае на сялянскіх прыходах, агулам было цёмнае і культурна стаяла даволі нізка. Тым часам вышэйшае духавенства — епіскапы — прынялі Унію і ў яе запісвалі і масы, зусім іх аб гэта не пытаючыся. Такі тады быў час, такая пара, што з масамі не лічыліся і аб волі іх ні ў чым не пыталіся.

Унія існавала ў Беларусі даволі доўга, бо аж 243 гады, з гэтых якіх гадоў 197 (1596–1793) прыпадае на перыяд польскі, перыяд беларускага заняпаду. Ужо і за гэты польскі перыяд і за гэтыя гады Унія прынялася і сталася беларускай нацыянальнай верай, бадай, яшчэ глыбей, як у перыядзе папярэднім, бо тут у ёй не было ўжо ніякіх, бадай, вышэйшых і асвечаных класаў, і якая сталася выключна верай беларускай і сялянскай. Гэтаму памагала лацінскае польскае каталіцтва, якое, як сказана вышэй, Уніі не любіла і ёй пагарджала. Польскае лацінскае каталіцтва ўжо тады для беларусаў-каталікоў было завёўшы ў Касцёле ў дадатковых набажэнствах мову польскую і гэтага ж самага чакала і ад Уніі і гэтай апошняй ненавідзела, наколькі тая не здавалася. І не здавалася сапраўды. Так, як праваслаўе ваявала за сябе і за беларускую нацыянальнасць, таксама, агулам беручы, паступала і Унія, якая сталася адзінай апорай беларускай нацыянальнасці і беларускай культуры. Уніяцкая Царква сталася адзіным сродкам беларускага нацыянальнага яднання ў сваёй сучаснасці і сталася адзіным злучвом беларускай сучаснасці з беларускай нацыянальнай мінуўшчынай. Гэтых абодвух мэтаў яна дасягала, карыстаючыся славянскім языком у Службе Божай, а таксама карыстаючыся языком родным, жывым, навучаючы уніятаў-беларусаў аднаго і другога ў Царкве і ў школе, наколькі гэтая існавала. Не адрэчы тут будзе прыпомніць, што праваслаўе ўжо ставалася аружжам маскоўшчыны і, наколькі даставалася да беларусаў, якія не прынялі Уніі, — а такіх было агулам нямнога, бо агулам уся Беларусь, з нязначнымі выняткамі, была уніяцкай, — несла з сабой маскоўскія палітычныя ідэі і маскоўскую культуру.

(Літаратура: Документы, объясняющіе исторію Западно-русского края. СПБ, 1865; Ст. Томашівський. Українська Історія; У. Ігнатоўскі. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Вільня, 1927; А. Сапунов. Историческія судьбы Полоцкой Епархіі. Витебскъ, 1889; Ks. Edw. Likowski. Unii Historya i Unia Breska.)

## X. УНІЯЦКАЯ ЦАРКВА Ў РАСЕЙСКІМ ПЕРЫЯДЗЕ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ (XIX СТ.) І ЯЕ РОЛЯ АДНОСНА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАСЦІ

*Беларусь пад царскай Расеяй і яе доля. Маскоўскае праваслаўе і лацінска-польскае каталіцтва. Уніяцкая Царква — апора беларускай народнасці і культуры. Маскоўскія цары: Кацярына, Павал I, Аляксандр I і Мікалай I і іх адносіны да Уніі. Год 1839 і уніяцкія епіскапы-здраднікі. Роля ў ліквідацыі Уніі еп. Сямашкі, яго характарыстыка і адносіны да беларускай народнасці і культуры.*

І так царкоўная Унія ў першай палавіне перыяду заняпаду, у перыяд польскі, была злучвом беларускай нацыянальнасці. Праўда, тое, чаго так беларусы ў сваім часе баяліся, — польскасць і лацінства насядала моцна на Унію, але яна спачатку з гэтым усім баролася з добрым вынікам. Пасля ж пачала здавацца. Унія ўжо ў XVIII ст. была сільна спаланізаваная і злацінізаваная. Але і цяпер

Уніяцкая Царква прынцыпова не пераставала быць гэтай апорай і сродкам яднання беларускай нацыянальнасці.

Урэшце, прыйшла ў самым канцы XVIII ст. другая палавіна перыяду заняпаду беларускага народа, пара расейская, калі ўсе беларускія землі пасля разбору Польшчы адышлі да Расеі. Цяпер лёс беларускай нацыі аказаўся яшчэ цяжэйшым. Вышэйшыя слаі беларускага грамадзянства аканчальна пакінулі народ і перайшлі на старану Польшчы, змяняючы нават сваю беларускую нацыянальнасць на польскую[24]. Інтэлігенцыя таксама цалком спольшчылася. Уніяцкая Царква хоць не цалком, але мала без чаго, была таксама ўжо спольшчанай і злацінізаванай. Тым часам перад беларускім народам паўстала новая грозная небяспека з боку расейскага імперыялізму і нацыяналізму, які Беларусі несла, упрэжаная ў расейскую палітыку, расейская Праваслаўная Царква. Трэба памятаваць, што цяпер ужо было не тое праваслаўе, што існавала ў Беларусі ад раздзелу цэркваў (1054) аж да Берасцейскай царкоўнай уніі, — тады праваслаўе было вольным і незалежным, а гэтым самым і беларускім. Беларускім фактычна было праваслаўе, якое не прыстала да Уніі, — і якое ўсцяж заставалася ў Беларусі, хоць у нязначным ліку, існаваць вобак Уніі. А зусім іншае праваслаўе цяпер ішло з Масквы — гэта было праваслаўе расейскае палітычнае, заборчае. Гэтакім яно рабіла і тыя астаткі праваслаўя беларускага, якога фрагменты ўсцяж у Беларусі аставаліся. Гэтае праваслаўе агулам было ўжо тым, чым фактычна ў Беларусі было і польскае лацінскае каталіцтва.

І як ні дзіўна — і ў гэтай цёмнай беларускай пустыні зоркай праводнай, што крыху свяціла ў цемры, была... Уніяцкая Царква.

Беларуская культура ў пач. XIX ст. мела яшчэ хоць, праўда, незавіднае, але пэўнае прыпынішча ў зацішшы ўбогай, як і сам народ, Уніяцкай Царквы. Культура гэта нават у той час, калі Унія ўжо была спаланізаваная, усё ж яшчэ апіралася на той жа Уніі, падтрымлівалася яе традыцыяй, падтрымлівалася яшчэ запасамі сіл даўняй яе мінуўшчыны, бо Унія вякамі тварыла беларускую культуру ў форме кніг літургічных, малітоўнікаў, трэбнікаў, кніг зместу рэлігійнага і агулам прасветнага. Унія ў гэтым часе на нашых землях — гэта была сапраўды адзіная апора беларускай культуры, бо яна адна адзіная была звязана арганічна з народам і з патрэбамі яго душы, адна-адзіная гэтай душы як магла і чым магла служыла. Усё ж іншае тады было пастаўлена проціў гэтага народа. Гуляла паншчына на беларускіх землях, і адбывалася між палякамі і маскоўцамі барацьба за душу беларускую. І толькі аж на дне свайго ўпадку душа беларуса, падтрымана крыху Уніяй, трымалася пры жыцці, не трацячы ніколі надзеі на лепшыя часы, на сваё адраджэнне.



Аднак і на гэты раз не было яшчэ Уніі суджана на беларускіх землях развівацца і жыць далей. Дзве сілы — Польшча і Масква — у сваёй палітычнай барацьбе за нас у той час у першую чаргу, як мы бачылі, хваталіся за рэлігію, робячы з яе аружжа сваёй палітыкі. Ад гэтай палітыкі з боку Польшчы Унія яшчэ сяк-так магла бараніцца, хоць бы дзеля таго, што за яе ўступаўся Папа Рымскі і што народ беларускі агулам сваёй мовай і народнай псіхікай, як мы ўжо ўспомнілі, значна розны ад народа польскага. Але шмат трудней было змагацца, ды, бадай, цалком немагчыма, з Расеяй. Маскоўскае царства, сіла якога ўсцяж расла, урэшце, у канцы XVIII ст., між іншымі, усе беларускія землі далучыла да сябе, забіраючы іх ад Польшчы.

Пасля далучэння Беларусі да Расеі пачынаецца для яе гісторыі новы перыяд — расейскі. Вось жа і Унія, будучы цесна звязана з беларускім народам пасля ўплыву 243 гадоў свайго існавання, як убачым, разам з народам дзеліць свой лёс.

У 1795 за часоў царыцы расейскай Кацярыны наступіў аканчальны падзел Польшчы, і уся Беларусь была далучана да Расеі[25].

Пасля гэтага пры той жа Кацярыне проціў Уніі павёўся ўжо выразны і цяжкі пераслед. Усе уніяцкія епархіі, апрача адной, так званай беларускай, у Полацку былі скасаваны. Расейскі ўрад уважаў тады, што ў Расеі маюць рацыю быту веры — праваслаўная, зразумелая рэч, — і каталіцкая, лацінскага абраду, а Унія аставацца не павінна, бо з яе, праўда, пераходзілі ў лацінства, што яшчэ Кацярына магла цярпець, але магло стацца і так, што з праваслаўя маглі пераходзіць у Унію. У рэзультаце расейскай у гэтым часе палітыкі за ўвесь час царствавання Кацярыны з Уніі ў праваслаўе было пераведзена да двух мільёнаў беларусаў і ўкраінцаў.

За часоў цароў Паўла І і Аляксандра І палажэнне уніятаў значна палепшылася. Так, напр., у 1806 г. у Полацку была яшчэ нават заложана уніяцкая духоўная семінарыя.

Аднак агулам націск расейскіх цароў на Унію ўсцяж узмагаўся, і гады яе там існавання былі ўжо палічаны. Рашучы для Уніі момант настаў за часоў цара Мікалая І і епіскапа адступніка уніяцкай літоўскай (віленскай) епархіі Язэпа Сямашкі. У гэтым часе Уніяцкая Царква мела яшчэ дзве беларускія епархіі: віленскую, з сталіцай епіскапскай у Жыровіцах, і полацкую.

Мікалай І быў адкрытым ворагам Уніі і усякімі спосабамі імкнуўся да яе ліквідацыі. Скрыта, але таксама рашуча памагаў яму ў гэтым успомнены Сямашка з такімі ж адступнікамі, як і сам, — епіскапамі уніяцкімі — Ант. Зубко і Васілём Лужынскім. Гэтая даб-

раная тройка, апіраючыся перадусім на паліцэйскіх уладах, ліквідавала Унію ўсімі сіламі.

Унія, як мы ўжо ўспаміналі, за ўвесь час свайго на Беларусі існавання так зраслася з беларускім народам, што ліквідаванне яе магло адбыцца ўжо толькі пры помачы гвалтаў, што сістэматычна і рабілася. Вось жа і сапраўды ліквідацыі Уніі супраціўлялася як духавенства, так і людзі свецкія, а перадусім беларускія сяляне. У гісторыі ліквідавання Уніі асаблівымі жорсткасцямі паліцэйскія расейскія ўлады адзначыліся ў Дзярновічах (Віцебшчына), у Поразаве, Кляшчэлях (Горадзеншчына), Селішчы, Святлілава, Пузырэва (Магілёўшчына) і г. д.

З гэтага бачым, што ліквідаванне Уніі сапраўды не пайшло царскаму ўраду так лёгка, як ён гэтага жадаў і як пазнейшыя ўрадавыя расейскія гісторыкі гэта даказвалі. Фактам ёсць гістарычным, што народ беларускі сваёй веры шмат дзе актыўна бараніў проціў расейскіх гвалтаў.

Каб зламаць гэтую апазіцыю уніяцкую, паводле плана Сямашкі, пры ліквідацыі Уніі ўжываліся грубыя паліцэйскія спосабы. І так, апорныя уніяцкія свяшчэннікі пераводзіліся ў горшыя прыходы або і зусім іх часта пазбаўляліся, назначаліся замест на святарскія — на пасады псаломшчыцкія, ссылаліся ў Расею, замыкаліся ў манастыры. Спосабы Сямашкі наварочвання уніятаў на праваслаўе былі так нехрысціянскія і так гвалтоўніцкія, што нават выклікалі яны агіду і ў лепшых уладыкаў праваслаўных. Так, напрыклад, як кажа свяшч. М. Марошкін, некаторыя з іх не сцясняліся выражаць Сямашку адкрыта сваю пагарду, а епіскап палтаўскі Гедэон называў яго проста Юдам-здраднікам.

Нягледзячы, аднак, на ўсё гэта, Сямашка сваіх мэтаў у адносінах да Уніі дапяў. Унія ў 1839 г. была ўрэшце зломлена. 1839 г. цар Мікалай на падставе акта адступніцтва ад Уніі, падпісанага Сямашкам, Зубкам і Лужынскім, а таксама зламаным духавенствам уніяцкім, афіцыяльна Унію скасаваў і ўсіх уніятаў далучыў да Царквы расейскай. Расейскі ўрад такім чынам дапяў таго, аб чым Масква летуцела ўжо спрадвеку.

Гэтак перастала Унія існаваць у Беларусі. Але асталася яна ў украінскай Холмшчыне, дзе пазней была скасавана яшчэ большымі гвалтамі, як у Беларусі, і асталася ў Галіччыне, адышоўшай ад Польшчы да Аўстрыі, дзе яна працвітае і сёння і з'яўляецца сапраўднай нацыянальнай апорай каля чатырох мільёнаў украінцаў-уніятаў, з'яўляючыся адначасна як бы злучвом мінуўшчыны унійнай з сучаснасцю.



І так, адвечная мрыя маскоўская далучыць да сябе землі беларускія і беларускую Царкву, як свае вотчыны, збылася. А выканаў [гэта], як бачым, адступнік ад Уніі і народнасці Я. Сямашка, родам украінец. Што яго да гэтага накіравала? Мо кар'ера, ласкі цара, слава? Пэўне, што і гэта. Па сваім характары, як гэта ясна відацца з яго запісак, Сямашка кар'ерыстам быў сапраўды. Але не трэба забывацца, што калі дзеіць у гісторыі адзінка, то яна дзеіць не толькі дзеля сваіх чыста самалюбных прычын, але дзеіць яна і дзеля прычын культурна-сацыяльных, у асяродку якіх адзінка гэта жыве і несвядома яму паддаецца. Вось жа надта магчыма, што ў Сямашкі адазвалася старадаўняя родная мінуўшчына. Надта магчыма, што праз зліквідаванне Уніі, якая ўжо ў сваёй, перадусім, вонкавай форме шмат у чым ад гэтых традыцыяў была адхіліўшыся, і то ў бок польскі, і праз перавядзенне яе вызнаўцаў у расейскае праваслаўе Я. Сямашка думаў прыблізіцца да формы рэлігійна-культурнай, сапраўды роднай, цалком згоднай з душой украінскага і беларускага народа, зварочваючы гэтыя народы на сапраўды іх уласны гістарычны шлях. Усё можа быць. Але факт астаецца фактам, што проціўунійная дзейнасць Сямашкі не па гістарычнай дарозе пакіравала як беларускую Царкву, так і беларускі народ. Акт гэты ў беларускай гістарычнай перспектыве памылковы і шкодны.

Тым часам не касаваць Сямашка павінен быў Унію, калі Беларусь апынулася ў Расеі, але падтрымліваць яе, бараніць ад маскоўскага націску на яе і адначасна старанна яе ачышчаць ад усякіх на яе наростаў чужацкіх, як польскіх, так і маскоўскіх, аддаляючых Унію як ад старадаўніх хрысціянскіх традыцыяў і царкоўных litstaradaўніх формаў і правілаў, таксама і ад родных народу каранёў. З пункту гледжання беларускага, гістарычнай мэтай Сямашкі павінна было быць за ўсякую цану, за цану нават свайго жыцця, бараніць Унію. Праўда, як відаць з тагачасных палітычных настрояў да Уніі расейскай палітыкі, Унія ўсё роўна была б зламанай, але ў кожным выпадку пры старанным за яе змаганні з боку Сямашкі, замест змагання з ёй, Унія магла б пратрываць даўжэй і яшчэ выдатнейшую адыграць ролю ў часе для беларусаў найгразнейшым, якую яна іграла для народа ў мінуўшчыне. Калі б беларускі уніяцкі епіскапат, замест здрады Уніі, акружыў яе сапраўды хрысціянскай любоўю, як гэта так часта рабілі беларускія сяляне, дык тады б Унія, хоць бы ў рэзультаце зламана царскай паліцыяй, цяпер была б у нашай духовай уяве яснейшай, чым гэта ёсць сёння, — была б тым, чым яна сёння на дзеле ёсць для ўкраінскага народа ў Галіччыне. Апрача гэтай Галіччыны, бадай яшчэ лепшым доказам праўдзівасці

нашых думак з'яўляецца сённяшняя Расея, як з пункту гледжання рэлігійнага, так і нацыянальнага беларускага.

Акт скасавання Уніі на беларускіх землях у 1839 г. быў супярэчны з усей мінуўшчынай беларускай, як царкоўнай, так і народнай. Акт гэты рваў перадусім з той хрысціянскай еднасцю беларускага хрысціянскага жыцця, якая была асвечана першымі вякамі паўстання ў нас хрысціянства, далей рваў з абнаўленнем гэтай еднасці — з уніяй Фларэнційскай і Берасцейскай, — а ў выніку ўсяго гэтага рваў ён і з культурай агулам і культурай беларускай.

Не адрэчы тут будзе таксама ўспомніць тое, што той жа Сямашка беларускія уніяцкія кнігі, як сам да гэтага прызнаецца, нішчыў і паліў, як і езуіты ў XVII ст. Ды і ўся палітыка расейскіх цароў ад іх пачатку аж да ўпадку ў 1917 г. была палітыкай яўнага знішчэння беларускага народа, беларускай душы і культуры, была гэта палітыка з свайго боку простым натуральным наступствам знішчэння Уніі, як веры сапраўды беларускай, была натуральным наступствам зрыву з Рымскім Прастолам.

(Літаратура: тая, што і ў папярэднім раздзеле, а таксама: Ks. Ad. Stankevič. Rodnaja mova ŭ śviatyniach. Акты, изд. Виленскою Археограф. Комиссіею. Т. XVI. Докум., относящ. к исторіи Церк. Уніі в Россіи. Вильна, 1889.)

## XI. АДКУЛЬ УЗЯЛІСЯ БЕЛАРУСЫ-КАТАЛІКІ-ЛАЦІННІКІ

*Беларусы-лацiннiкi напачатку ў Беларусі хрысціянства. Беларусы-лацiннiкi ў беларуска-літоўскім перыядзе гісторыі Беларусі. Ягайла, Вітаўт і беларусы-лацiннiкi. Рэфармацыя, езуіты і беларусы-лацiннiкi. Царкоўная унія, расейская палітыка і беларусы-лацiннiкi. Сучаснасць і беларусы-лацiннiкi.*

Дагэтуль, гаворачы аб значэнні для беларускага народа хрысціянства, бралі мы пад увагу спярша праваслаўе, а пасля Унію. Пры гэтым мы ўсцяж напатыкаліся і на лацінскае каталіцтва, якое таксама паявілася ў сваім часе ў Беларусі і якое таксама мела дадатны і нат выдатны ўплыў на беларускую нацыянальнасць. Мы на яго аж цяпер звяртаем увагу затым, што яно ў параўнанні з праваслаўем і Уніяй менш у Беларусі пашырылася і што яно найбольш пашырылася іменна пазней іх, а нават пасля. Аднак жа лацінскае каталіцтва ў Беларусі, асабліва ў апошніх трох стагоддзях — XVIII, XIX і XX, — у значнай меры было таксама творывам і падпорай беларускай нацыянальнасці. Дзеля гэтага затрымаемся цяпер крыху даўжэй над лацінскім каталіцтвам у нас, даследжваючы, адкуль і калі яно ў нас узялося.



Хрысціяне лацінскага абраду паявіліся ў Беларусі дужа рана, яшчэ тады, калі хрысціянства было адзіным і непадзеленым, калі ў догматах яшчэ не было ніякіх розніцаў між усходам і захадам і калі розныя абрады — грэцкі, лацінскі і інш. — не ўводзілі сярод хрысціян ніякай духовай розніцы. Праўда, усходнія славяне, а ў іх ліку і беларусы, прымалі хрысціянства масава ў абрадзе грэка-славянскім, але яны гэта рабілі затым, што Візантыя была бліжэй і што ад яе, перадусім, яны і запазычалі культуру, а не затым, што абрад лацінскі для іх быў нейкім горшым і нехрысціянскім. Коратка гаворачы: нашы продкі прымалі хрысціянства ў усходнім абрадзе, бо ён, дзякуючы геапалітычным, гістарычным і культурным абставінам, быў для іх бліжэйшы.

Вось жа ў Беларусі даўно прад тым, як масава пашыралася ўсходняе хрысціянства ў X ст., было ўжо і хрысціянства лацінскае. Ішло яно са Скандынавіі, ад варага-русаў, дзе яно тады ўжо пашыралася значна, ішло з Нямеччыны, Польшчы і з самога Рыма, з якімі валадары ўкраінскіх і беларускіх княстваў агулам часта падтрымлівалі зносіны. Лаціныства, аднак, у масы спярша не пранікала. Лацiннiкамі-хрысціянамі былі спярша ў нас толькі чужынцы-купцы, місіянеры, а з часам са сваіх які баярын, ваяка-дружыннік і інш.

Значна больш было пашырыўшыся ў Беларусі лацінскае хрысціянства, ужо як каталіцтва, пасля падзелу яго, калі ўсход ад хрысціянскага адзінства адышоў, — у XIII–XIV стст., за часаў Гедыміна і Альгерда. Але і цяпер таксама яно было пашырана, бадай, выключна сярод вышэйшых слаёў народа, да самых народных мас яшчэ, аднак, не даходзячы. Так, напр., у XII–XIII стст. ужо былі каталіцкія лацінскія касцёлы ў Кіеве, Пераяславе, Смаленску, Полацку, Ноўгарадзе. Былі таксама ў XIV ст. манастыры францысканаў у Полацку, Навагрудку і ў інш. мясцох, былі таксама манастыры ў нас у гэтым часе і дамініканаў.

Аб тым, што ў час Гедыміна былі ўжо беларусы-каталікі, ведаем з наступнага. Гэты ж самы вялікі князь Гедымін летам 1323 г. звярнуўся да нямецкіх францысканаў саксонскае правінцыі з просьбай прысланаць у Вільню і Навагрудак для абслугі манастырскіх касцёлаў чатырох духоўнікаў, якія ўмелі б гаварыць і па-беларуску, такіх, якія «цяпер ёсць і даўней былі».

Далейшае пашырэнне сярод беларусаў лацінскага каталіцтва, ужо сярод беларускіх народных мас, адносіцца да часаў Ягайлы, калі ён хрысціў Літву ў 1386 г. У гэтым часе многія беларусы, каб споўніць волю вялікага князя Ягайлы, пакідалі сваё хрысціянства ўсходняе (праваслаўе) і пераходзілі ў лаціныства.

Аб хрышчэнні Літвы Ягайла выдаў у лацінскай мове дакумент, так званы універсал, у якім ён між іншым кажа: «каб прычыніцца да ўзросту каталіцкай веры ў Літве і Русі, пастанаўляем, загадваем, абяцаем, прыракаем і на святыя сакраманты прысягаем: усе літоўскія народы, без розніцы плоці і стану, што знаходзяцца ў Літве і Русі, да каталіцкай веры і да паслухмянасці Святому Рымскаму Касцёлу прывесці, прыцягнуць, намовіць, ды больш таго — змусіць, калі б да якой секты належалі». Далей вялікі князь, каб новыя каталікі не мелі перашкод у сваёй веры, кажа: «выразна забараняем, каб ніхто з літоўцаў абодвух плоцяў не жаніўся з русінам таксама абедзвюх плоцяў прад тым, як выкажа сваю ўлегласць Рымскаму Касцёлу, а калі б такое жанімства сталася, дык яго не разлучаць, але некаталіцкую старану да каталіцтва, хоць бы карай цялеснай, але давесці трэба». Урэшце, у тым жа універсале Ягайла надае розныя прывілеі каталіцкім лацінскім касцёлам, як у Вільні, так і па ўсім нашым краі. Гэткая воля вялікага князя значна прычынілася ў нашым краі да пашырэння лацінскага каталіцтва і сярод мас беларускага народа.

Гісторык Энэаш Сільвіюс, пазнейшы Папа Піус ІІ, даведаўся, што Ягайла давёў да каталіцкай веры «розныя народы, галоўна народ літоўскі і рускі, першы ўвесь, а другога вялікую часць, а гэта там, дзе той жыў сярод літоўцаў або ў суседстве іх бліжэйшым, воддаль ад біскупстваў усходнегрэцкіх».

Кс. Я. Фіалэк кажа аб Ягайлу, што ён «многа схізматыкаў прывёў да праўдзівае, якую і сам вызнаваў, веры». Гэта значыць — праваслаўных беларусаў прывёў да лацінскага каталіцтва.

Значна таксама пашыралася лацінства сярод беларускага народа і за часаў Вітаўта Вялікага. Праўда, гэты мудры валадар асцярожней з гэтым паступаў, чымся Ягайла: ён у універсале сваім, выданым таксама ў справе хрышчэння літоўцаў і русінаў, кажа: «Калі які русін захоча па сваёй волі хрысціцца, дык няхай сабе хрысціцца, а які не хоча, няхай астаецца ў сваёй веры». З гэтага відаць, што ён мякчэй адносіўся да беларусаў праваслаўных і быў больш талеранцыйны, як Ягайла, але прынцыпова і ён тую ж самую праводзіў палітыку, бо ж і ён быў рашучым заходнікам і лацfolнікам. Ён дужа многа фундаваў касцёлаў і манастыроў сярод беларускага насельніцтва, што, зразумела, прычынялася да далейшага пашырэння ў нас лацінства, ды і сам факт фундавання лацінскіх касцёлаў і манастыроў ужо дапускае сваім парадкам існаванне лацыннікаў і іх рэлігійныя патрэбы. Каталіцкі лацінскі Касцёл за часаў Ягайлы і Вітаўта ўжо меў многа вызнавальнікаў не толькі сярод вышэйшых слаёў — баяраў і магнатаў, але таксама і сярод народных беларускіх мас.



Навaрот беларусаў на лацінскае каталіцтва адбываецца праз усё XV, XVI ст. і далей. У 1501 г. Папа Аляксандр VI у буле да віленскага біскупа дае спосаб прынятку беларусаў праваслаўных да каталіцтва. Справа была ў тым, што ў лацыннікаў была нават думка аб няважнасці праваслаўнага хросту і аб патрэбе хрышчэння нанава праваслаўных, прымаючы іх да каталіцтва. Вось жа на гэта Папа ў гэтай буле, між іншым, рашуча забараняе аднаўленне хрышчэння людзей праваслаўнае веры, якія хочуць злучыцца з Каталіцкім Касцёлам.

Палітыка навароту праваслаўных беларусаў на лацінскае каталіцтва яўна таксама відаць і з актаў Гарадзельскай уніі ў 1413 г. Ягайла і Вітаўт, закрапіўшы унію літоўскіх, беларускіх і ўкраінскіх зямель з Польшчай, пастанавілі, што «...толькі тыя, якія належаць да Каталіцкага Касцёла і якія прынялі польскія гербы князі і баяры Вял. Кн. Літ., маюць права карыстацца markознымі прывілеямі, якія існуюць у Польшчы, а таксама займаць высокія пасады і атрымліваць розныя годнасці могуць толькі тыя, якія паходзяць з родаў, прыняўшых лацінскую веру; такжасама ў дзяржаўную раду могуць быць дапушчаны толькі вызнавальнікі лацінства, а ніколі схізматыкі і іншыя няверныя». Ясна, што гэтакі закон адносна «схізматыкаў» (праваслаўных беларусаў) дужа спрыяў пашырэнню лацінства ўжо не толькі сярод народных беларускіх мас, але, як бачым, перадусім сярод высокіх слаёў народа. Ведаем, што дзеля гэткіх законаў многія беларускія праваслаўныя князі і баяры пераходзілі ў лацінства, каб скарыстаць з розных грамадскіх і дзяржаўных прывілеяў.

У пач. XVI ст. у нашым краі паявілася вызнанне, так званае Евангелісцкае, а перадусім кальвінства і адчасці сацыянства. Вось жа многія беларускія вышэйшыя слаі пакідалі праваслаўе і пераходзілі ў кальвінства, а пасля, калі кальвінства перастала шырыцца і быць модным, пераходзілі ў лацінства каталіцкае.

Узноў жа далейшым дзейнікам, пашыраючым у нас лацінства, былі езуіты, якія ў нашым краі паявіліся ў XVI ст. дзеля барацьбы з рэфармацыяй. Езуіты, баручыся з кальвінізмам, які масава пашыраўся ў нас сярод паноў, часта наварочвалі ў лацінства не толькі паноў, але таксама і народныя масы, цалкам ад гэтых апошніх залежныя. Пад уплывам дзейнасці езуітаў здараліся выпадкі, што і праваслаўныя ўсходнія беларускія паны прымалі лацінскае каталіцтва.

Калі ж у 1596 г. наступіла царкоўная Унія, якая трывала 243 г., перацягванне беларусаў-уніятаў у лацінства яшчэ больш пашырылася і прыспешылася. Так, напр., уніяцкі мітрапаліт Вельямін Руцкі ў 1623 г. інфармуе Рым аб тым, што уніятам з боку лацыннікаў ро-

бяцца крыўды і што іх перацягваюць у лацінства. На гэта ў 1624 г. Папа Урбан VIII выдаў булу, у якой забараняе пераход у лацінства. Палякі гэтаму спрацівіліся. Тады гэта була была агранічана толькі да духавенства. Так хацеў кароль Сігізмунд III. Адносіны праўныя, грамадскія і таварыскія з боку польскага да беларусаў-уніятаў былі благія і нават несправядлівыя. Вось жа нічога дзіўнага, што яны нават гэтым самым былі прымушаны пакідаць свой усходні абрад і пераходзіць у лацінства.

У 1623 г. праваслаўная шляхта Вялікага Кн. Літоўскага падала Сенату Рэчы Паспалітай скаргу, так званую «супліку», у якой між іншым чытаем: «...Вольнасці народу рускаму належацца дваякія: таму народу рускаму, які ёсць веры рымскае, паслушнасці заходняе, і таму народу рускаму, які ёсць веры грэцкае, паслушнасці ўсходняе. Русь рымскае веры пры сваёй вольнасці астаецца, а нам, Русі веры грэцкае, вольнасць выдзерта...»

З гэтага дакумента бачым, што не толькі было шмат беларусаў-лацiннікаў, але і як беларуская шляхта, якая тады прадстаўляла народ, адносілася да іх. Вось жа бачым, што тагачасныя праваслаўныя беларусы беларусаў-каталікоў лічылі беларусамі такімі самымі, як і яны, праваслаўныя.

Націск лацінізму і паланізму на беларусаў-уніятаў урэшце да таго ўзрос, што ў 1717 г. у польскім грамадзянстве паўстаў праект і уніятаў і праваслаўных беларусаў аканчальна перавесці ў лацінства.

Асабліва многа пераходзіла беларусаў з Уніі ў лацінства пасля падзелу Польшчы[26], калі беларусы апынуліся пад панаваннем расейскіх цароў і калі з боку расейскіх уладаў ішоў выразны і часта грубы націск на уніятаў з мэтай пераводжання іх на праваслаўе. І так, дзеля гэтых прычын за часаў царыцы Кацярыны II (1796 г.) многія беларусы-уніяты, жадаючыя захаваць веру сваіх бацькоў, пакідалі Унію і далучыліся да Касцёла лацінскага, адлучыць якіх ад каторага расейскім уладам было значна трудней, як ад Уніі. Тое ж самае было і за часаў цара Паўла, як сведча аб гэтым уніяцкі полацкі архіепіскап Іраклі Лісоўскі.

Гэткія ж зноў адносіны расейскай царскай палітыкі да уніятаў са свайго боку правакавалі і заахвочвалі палякаў цягнуць да сябе ў лацінства рэшту уніятаў, якія асталіся уніятамі і далей трымаліся веры сваіх бацькоў. І ў гэтым часе цэлыя масы уніятаў пераходзілі ў лацінства, бо — з прычыны паншчыны — яны былі цалкам залежныя ад польскіх паноў і ад ксяндзоў.

Расейскія палітыкі спасцераглісі і, жадаючы да сябе прыгарнуць беларусаў-уніятаў, стараліся пераходу іх у лацінства проціўстаcца. Так, напр., у 1796, 1797 і 1799 г. былі выданы царскія ўказы, забараняючыя пераходзіць з уніі ў лацінства. Але нічога гэта не памагала, і палякі уніятаў-беларусаў цэлымі масамі пераводзілі далей у лацінства. У 1806 г. быў таксама выданы царскі указ, каб тыя ўсе цэркві і прыходы, якія з Уніі перайшлі ў лацінства, зноў вярнуць у унію. Адбываліся даўгалетнія вялікія судовыя працэсы і нічога з гэтага не выходзіла: не толькі што не варочаліся быўшыя уніяты ў Унію, але далей у лацінства пераходзілі цэлыя прыходы з усіх беларускіх губерняў. Так, напр., у 1809 г. у адной толькі Віленскай губерні з Уніі ў лацінства перайшло да 20 тысяч беларусаў.



Нямала таксама, а можа найбольш, як калі, уцякала беларусаў-уніятаў у лацінства ў 1839 г., калі вышэйшае уніяцкае духавенства, здрадзіўшы Унію, не пытаючыся верных, часта пры помачы паліцыі, перапісвала іх у праваслаўе. Не хочучы быць сілай запісанымі ў праваслаўе, яны масава ўцякалі ў лацінскае каталіцтва.

Урэшце, за часаў першых у нашым краі расейскіх генерал-губернатараў, жывучых у Вільні, асабліва ж ведамага з сваёй жорсткасці М. Н. Мураўёва, цэлыя масы быўшых уніятаў з праваслаўя ўцякалі ў лацінства. Да гэтага часу адносяцца слаўныя словы праваслаўнага віленскага архіепіскапа Макарыя, сказаныя Мураўёву на яго раду архіепіскапу знайсці спосабы ўтрымаць пераход беларусаў-праваслаўных у каталіцтва: «Дзеля таго, што чыноўнікі іх наварочвалі на праваслаўе, дык няхай жа яны знойдуць спосабы і утрымаць іх пры праваслаўі», — казаў гэты духоўнік.

Спрыяла далейшаму пашырэнню ў нас лацінства і далейшая расейская палітыка. Расейскі ўрад на працягу першай палавіны, калі не больш, XIX ст. усіх каталікоў у нашым краі ўважаў за палякаў, Каталіцкі Касцёл з усімі яго вернымі называў «інаверчаскім і інародным». Зразумелая рэч, што гэткая палітыка яшчэ больш спрыяла ўтрываленню не толькі каталіцтва, як такога, але каталіцтва ўжо польскага, і адгароджанню яго ад беларускай стыхіі.

Калі ж, урэшце, у другой палавіне XIX ст., асабліва пасля польскага паўстання ў 1863 г.[27], расейцы дадумаліся, што ў Каталіцкім Касцеле ёсць многа беларусаў, і калі зажадалі зрабіць з іх «чыстых рускіх», у грамадскай іх думцы паўстала вялікая спрэчка аб тым, ці даць супакой гэтым беларусам дазволіць ім далей карыстацца мовай польскай у Касцёле і даць ім магчымасць спакойна польшчыцца, ці — наадварот — узяць іх пад высокую расейскую апеку і беларусам, як рускім, даць мову расейскую. Урэшце перамагла гэтая апошняя думка, і у 1869 г. наступіў «высачайшы дазвол» карыстацца ў Касцёле расейскай мовай. Зразумелая рэч, што царскі «дазвол» раўняўся загаду. Гэтак яго і зразумелі: урад, чы-

ноўнікі, паліцыя, праваслаўнае духавенства. Ад гэтага «дазволу» аж да 1905 г. распачалася самая гарачая, часта зусім дзікая, барацьба ўрада ў кірунку ўвядзення ў касцёлы ў дадатковае набажэнства мовы расейскай замест польскай. І гэткая палітыка сцвярджала беларусаў у лацінстве і беларусаў-каталікоў рашуча адгароджвала ад беларусаў-праваслаўных, творачы ўжо нават недарэчнае паняцце «польскай» і «рускай» веры.

Урэшце, калі наступіла сякая-такая свабода сумлення ў 1905 г., многія масава з праваслаўя пераходзілі ў лацінскае каталіцтва. Былі гэта тыя беларусы, былыя уніяты, якім дзеля тых ці іншых прычын раней перайсці ў каталіцтва не ўдалося. І цяпер пераход гэты быў значны, масавы. Былым уніятам-беларусам імпанавала лацінскае каталіцтва і тым, што было ўціснутае і што гэта была вера іх дзядоў. У 1908 г., напр., у адной толькі Магілёўскай губерні беларусаў-каталікоў было 59 тысяч.

Вось гэткім чынам паявіліся ў Беларусі беларусы-каталікі-лацціннікі. Гэта, як бачым, тыя ж беларусы, продкі якіх належалі да абраду ўсходняга: спярша усходнекаталіцкага, а пасля праваслаўнага.

Сёння таксама паволі павялічваецца лік беларусаў-каталікоў, бо і сёння многія беларусы-праваслаўныя дзеля розных прычын, пераважна асабістага характару, пакідаюць праваслаўе і пераходзяць у лацінскае каталіцтва. Здараецца гэта пры жанімствах, пры шуканні дзяржаўнай пасады і інш. жыццёвых абставінах.

Сёння беларусаў-каталікоў на беларускіх землях Рэчы Паспалітай Польскай ёсць больш мільёна, а на ўсім свеце: СССР, Латвія, Літва, Сібір, Злуч. Шт. Амерыкі — будзе яшчэ мільён. Усіх беларусаў-каталікоў, і на землях беларускіх і на эміграцыі, сёння будзе мільёны два.

Усе беларусы, як праваслаўныя, так і каталікі, — гэта, як бачым, адзін суцэльны беларускі народ, да якога 950 гадоў таму з усходу ў грэка-славянскім абрадзе заглянула святло праўды Хрыстовай.

(Літаратура: Документы, объясняющіе исторію Западно-Русскаго Края. СПБ, 1865; Документы, относящіеся к исторіи церковной Уніи в Россіи. Т. XVI: (Акты Изд. Виленск. Археогр. Ком. Вильна, 1889); Ks. J. Kurczewski. Kościył Zamkowy, II. Wilno, 1910; Иван Беляев. Исторія Полотска. Москва, 1872; Prof. Dr. Wł. Abraham. Polska, a Chrest Litwy (Polska i Litwa w dziejowym stosunku); Ks. Dr. J. Fiałek. Uchrześcijanienie Litwy przez Polskę (Polska i Litwa w dziejowym stosunku); Ks. Ad. Stankevič. Rodnaja mova u światyniach. Vilnia, 1929.)



## XII. ЛАЦІНСКАЕ КАТАЛІЦТВА — АПОРА БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ Ў XIX СТ., АСАБЛІВА ПАСЛЯ ЛІКВІДАЦЫІ УНІІ

*Роля адносна народнага беларускага языка языкоў царкоўнаславянскага і лацінскага. Беларусы-лаціннікі часткова стала карысталіся беларускай мовай. — Беларуская мова ў касцельным жыцці ад пачатку да XVIII ст. уключна. — Беларуская мова ў Касцёле ў XIX ст. — Хрысціянства і пачаткі беларускага нацыянальнага адраджэння.*

І так, як бачылі мы ў папярэднім раздзеле, лацінскае каталіцтва, пранікаючы ў Беларусь павольна, дайшло ўрэшце да значных размераў і адыграла цалкам пазітыўную ролю ў тварэнні і падтрымліванні беларускай нацыянальнасці, асабліва ў часе панавання над Беларуссю расейскіх цароў. Можна нават сказаць, што гэтая роля лацінскага ў Беларусі хрысціянства, у граніцах, пэўне ж, сваіх сіл і размераў, была ў некаторым значэнні больш выразнай і рашучай, як праваслаўе, а нават і як Унія. Справа вось у чым: мова старабалгарская, якая пазней, дзеля свайго чыста рэлігійнага служэння, стала называцца царкоўнаславянскай, у якой у Беларусі спярша, бадай, выключна пашыралася хрысціянства, была ў некаторым значэнні на перашкодзе жывой народнай беларускай мове. І гэта зусім зразумела і натуральна: гэтая мова спярша дужа мала рознілася ад мовы беларускага народа на зары яго гістарычнага жыцця. Зноў жа пазней, калі жывая народная беларуская мова развілася больш, а мова старабалгарская сталася мовай нежывой, мовай толькі рэлігійнага культу, то і тады і аж да апошняга часу не сталася цалкам незразумелай, яе і сёння беларус у службе Божай крыху разумее. І вось жа гэта разуменне гэтай старой і чужой мовы, безумоўна, шкодна адбівалася на мове народнай. Беларус прывыкаў у жыцці царкоўным абходзіцца без сваёй народнай мовы і гэтым, безумоўна, несвядома прычыняўся да стрымання яе развіцця.

Зусім што іншае спатыкаем у беларусаў-лаціннікаў: яны, не разумеючы нічога ў лацінскай літургіі, мусілі мець нейкае яе тлумачэнне ў народнай мове, а таксама ў гэтай мове і ўсякае дадатковае набажэнства. Нават і казанні да беларусаў-лаціннікаў мусілі гаварыцца ў народнай мове, бо ж лацінскіх тэкстаў яны разумець не маглі, тагды як пропаведзі беларусам-праваслаўным і уніятам звычайна перасыпаліся старой балгаршчынай, што нават дзеецца і сёння.

І сёння беларусы-каталікі-лаціннікі ў сваіх рэлігійных друках чысцейшай беларускай народнай мовы ўжываюць, як праваслаў-

ныя і нават як уніяты. Аб'ясняецца гэта тым, што лаціннікі да свайго языка нічога не могуць дамяшаць (можа, толькі крыху паланізмаў, як нешта неабходнае і патрэбнае толькі часова), а праваслаўныя ніяк не могуць абараніцца ад стараславянскага і часта дужа да яго зблiжанага языка расейскага.

Вось жа гэткі характар лацінізму сярод беларускага народа спрыяў цалком пазітыўна развіццю беларускай нацыянальнасці і часта быў моцнай яе апорай. Апрача ж гэтага, лацінскае хрысціянства ў Беларусі было часта апорай беларускай нацыянальнасці, дзякуючы таксама сваёй арганізацыйнай структуры: кананічная залежнасць ад Апостальскай Сталіцы, у сутнасці наднацыянальнай і не звязанай нацыянальна з ніякай дзяржавай, чаго ніяк няможна сказаць аб праваслаўі, доказам чаго царскае паняволенне Царквы, а апошнім часам спробы стварэння польскага праваслаўя.

Але пачнём з пачатку. Беларусы-лаціннікі, у большай ці меншай меры, але заўсёды ўжывалі ў сваім рэлігійным жыцці, апрача літургічнай лаціны, таксама і сваёй народнай мовы. Гэтак было за часаў літоўскай дынастыі, гэтак і пазней — аж да канца ст. XVII, калі беларускі язык у Вялікім Княстве Літоўскім перастаў быць урадавым і спярша (1697) фармальна, а пасля і фактычна быў заменены польскім, хоць таксама, як убачым далей, не цалком і не ўсюды.

На пачатку беларуска-літоўскага перыяду гісторыі, калі ўжо каталіцтва лацінскае ў Беларусі паяўлялася масава, была ва ўжытку і беларуская мова. У XV ст. ужо была нават і беларуская каталіцкая літаратура.

Успомнім хоць найбольш ведамую, як: аб Муцы Хрыстовай, Повесць аб Трох каралёх, Плач Маткі па Сыне, Аб уваскрашэнні Хрыстовым, Бяседы Рыгора Папы Рымскага, Імша ў чэсць Маці Божай з тлумачэннем. Кніжкі гэтыя пісаны рукой, славянскімі літарамі. Мова іх жывая, абразовая і чыста беларуская.

У кнізе «Materjały do dziejów Akademji Połockiej i szkół od niej zależnych» спатыкаем вестку, што адзін з полацкіх езуітаў у другой палавіне XVI сталецця, айцец І. Алянд, навучыўшыся мовы беларускай, гаварыў у гэтай мове народу казанні і катэхізаваў яго.

Гісторыкі школ у нашым краі Лукашэвіч і Харлампович, апіраючыся на штогодніх справаздачах езуітаў аб іх установах («Litterae annuae» з XVI–XVII стст.), у сваіх працах цвердзяць, што ў езуіцкіх школах вучылі мовы народнай, што ў гэтай мове пялі рэлігійныя гімны і што сярод беларускага народа па касцёлах карысталіся мовай беларускай.

У Віленскай Езуіцкай Акадэміі, як відаць з апісання 1645 г. езуітам у Вільні жыцця і смерці св. Ёзафата, вучылі мовы беларускай.



Існавалі ўжо катэхізмоўкі як падручнікі для навучання каталіцкай рэлігіі па-беларуску. І так, у 1585 г. у Вільні быў выданы катэхізм, пераложаны з лацінскай на беларускую мову. Езуіт Пасэвін, які ў Беларусі і у Расеі працаваў над спалучэннем праваслаўя з Каталіцкім Касцёлам, у 1587 г. пісаў да Папежа, што абавязкова трэбаператлумачыць рэлігійныя кнігі на родную мову народа, аб выданні каторых ён сам будзе старацца ў Вільні. Вось жа, відаць, успомнены катэхізм і быў надрукаваны, як вынік захадаў Пасэвіна і прызначаны як для абслугі беларусаў-каталікоў, так і для пашырэння каталіцтва сярод праваслаўных. Катэхізм гэты пісаны кірыліцай.

У XVI ст., з невялікімі выняткамі, блізу ўсе вышэйшыя пасады ў Каталіцкім (лацінскім) Касцёле ў нашым краі (у Віленскай дыяцэзіі) пераважна займалі беларусы і літоўцы. Ад пачатку існавання ў нас Касцёла аж да XVII ст. усіх каталіцкіх біскупаў у Вільні было 18 чалавек; з іх: першы, трэці і чацвёрты — палякі, а рэшта літоўцы і беларусы.

У канцы XVI ст. Віленская Капітула (Біскупская рада) спрацівілася каралю і Папежу з прычыны назначэння на віленскага біскупа паляка Б. Мацiеўскага. Справа цягнулася ад 1591 да 1600 г. У 1600 г. назначаны быў краёвец Война. Гавораць аб гэтым акты Віленскай Капітулы. З тых жа актаў відаць, што на Сойме ў Вільні 1597 г. паслы нашага краю (літоўцы і беларусы) баранілі права мець біскупам у Вільні чалавека сваёй народнасці.

Праз XVI і пач. XVII ст. каталіцкае лацінскае духавенства ў Беларусі ў урадавай і прыватнай перапісцы карысталася мовай беларускай. Каралеўскі прывілей, у 1567 г. дадзены Віленскай Капітуле, напісаны па-беларуску.

Ад канца XVII ст. (1697), асабліва ж у ст. XVIII, мова беларуская ў жыцці рэлігійным лаціннікаў (уніятаў) усцяж агранічваецца, усцяж спыняецца на карысць мовы чужой народу польскай, але цалком з святыняў не выводзіцца і астаецца там надалей.

У 1682 г. віленскі біскуп Ст. Пац загадаў у нядзелі і святы выясняць Эванэлію[28], або выкладаць катэхізм «папросту». А лёгка дадумацца, што вучыць папросту — гэта значыць па-беларуску і палітоўску.

У 1742 г. Папеж Бенядыкт XIV булай *«Etsi Minime»* загадаў духавенству звярнуць асаблівую ўвагу на навучанне народа праўдаў св. веры. У звязку з гэтым загадам віленскі біскуп Зянковіч склікаў дыяцэзальны Сінод, які адбыўся ў Віленскай Кафедры 10.II і 12.II. Сінод, між іншым, пастанавіў гаварыць да народа навукі паводле старога звычаю ў народнай мове.

З другой палавіны XVIII ст. дайшлі да нас таксама беларускія рэлігійныя паасобныя песні, як «О, мой Божа, веру Табе», а таксама зборнік такіх песняў пад загалоўкам: «Kantyčka, abo nabožne pieśni w narzeczu połockim» (Połock, w drukarni Soc. Jezu, 1774), уложаная, як відаць, і выданая полацкімі езуітамі.

У канцы XVIII ст., ужо пасля падзелаў Польшчы (1772, 1793, 1795)[29], калі Беларусь адышла да Расеі, у 1794 г. магілёўскі лацінскі арцыбіскуп Богуш-Сестранцэвіч выдаў да падуладнага сабе духавенства ліст, у якім кажа: «Wszystkim w Archidyecezji plebanom zalecić i zaleca się, aby ludowitym językiem, jaki on rozumie, po skończonym nabożeństwie z ambon po kościołach kazania miewali»[30].

Такім чынам, як бачым, ад пачатку ў Беларусі хрысціянства то ў большай меры, то ў меншай, аж да канца XVII веку, беларуская мова ў каталіцкіх святынях лацінскіх ужывалася даволі шырока. Ужывалася яна таксама, як трэба судзіць з загадаў тагачаснай духоўнай улады, у тых жа святынях лацінскіх праз увесь XVIII век, хоць ужо ў агранічанай меры.

Век жа XIX агулам для мовы беларускай у святынях — асабліўшы. У ім вялася заядлая барацьба палітыкі польскай і расейскай за ўплывы на беларускую мову, беларускую душу і культуру.

Галоўнай, аднак, апорай беларускай народнасці ў XIX ст. была Унія, бо да яе належала вялізарная большасць народу, а да лацінства толькі частка. Беларускі народ такім чынам згуртаваўся каля Уніяцкай Царквы, як каля сваёй галоўнай і адзінай духова-нацыянальнай апоры. І не памыліўся. Яна гэткай для яго была сапраўды. Відаць гэта дужа выразна падчас касавання Уніі ў 1839 г. Касаванне яе было такой, як і заводжанне — рабілася гэта прымусам, сілай, нават часта звычайным гвалтам. За 243 гады існавання ў Беларусі Уніі — Унія гэта сталася сапраўды беларускай нацыянальнай Царквой, верай бацькоў, мужыцкай, сялянскай верай. Народ з ёй зжыўся. І так, як яму балела, калі ад яго забіралі праваслаўе, так цяпер не менш балела, калі гвалтам забіралі ягоную уніяцкую, «рускую» веру.

Урэшце сталася. Хрысціянства ў Беларусі і ўсходняе (праваслаўе) і заходняе (каталіцтва) у XIX ст., не гаворачы аб ранейшым часе, ужо было звычайным прыладдзем польскасці і расейскасці. Аднак, як ні дзіўна, знайшлася частка хрысціянства, якая рабіла далей тую ж самую работу адносна беларускай нацыянальнасці, што і даўней, — была сродкам, хоць слабым, непрыкметным і кволым, але сродкам спалучэння і тварэння беларускай нацыянальнасці. Праваслаўе гэтым не было. У той час гэтым яно і быць не



магло. Яно было цалкам падпарадкавана царызму і расейскаму нацыяналізму і імперыялізму. Уніі не стала, яна была сілай змецена з паверхні зямлі. Гэтым «цудоўным» сродкам — часткова і нязначна — было лацінскае каталіцтва, наколькі яно вырывалася з абоймаў польскага нацыяналізму. А вырывацца з гэтых абоймаў яно пакрысе магло, бо цэнтрам яго не пераставаў быць Рым, Апостальская Сталіца, як пункт наднацыянальны, як пункт, якога цалкам паканаць і абняць нязздольны ніякі мясцовы нацыяналізм. Вось жа гэтая наднацыянальнасць каталіцтва агулам давала беларускай нацыянальнасці сякую-такую змогу быць хоць слабенькай апорай насупроць польскасці. Ані неспрыяючыя варункі гістарычныя, ані спрыт польскае палітыкі, ані магутнасць Расейскай імперыі не здушылі цалкам і не замарылі на смерць нашай мовы. Зберог яе ў грудзях сваіх народ наш і, колькі мог памагчы ў той час, памог захаваць яе Касцёл Каталіцкі. Ён, будучы вольны ў сваёй арганізацыі, маючы свой цэнтр на скале Пятровай у Рыме, незалежны ад усякай свецкай палітыкі, з вышыні Апостальскай Сталіцы, з міласцю Маткі, апякуецца кожным народам, кожнай душой чалавека і яго патрэбай духовай. Дык вось, у Касцёле Каталіцкім мова наша, хоць у дужа малой меры, дзеля цяжкіх варункаў палітычна-грамадскіх, аднак мела сабе яшчэ месца.

1825 год Папеж Лявон XII абвясціў як год юбілейны. На нашых землях юбілей гэты быў святкаваны ў наступным 1826 г. Галоўным кіраўнікам юбілею ў Беларусі быў дамініканін Карнелій Рапчынскі, які ўмеў па-беларуску. Юбілей гэты адпраўлялі разам лацліннікі і існуючыя яшчэ уніяты. Аб працах юбілейных агулам і аб мове, у якой гаварылі казанні, усё было запісана ў асобны дзённік (Дыярыуш), які вёў той жа кс. Рапчынскі. У Беларусі юбілей зачаўся ад Полацка 28 лютага і трываў праз цэлы сакавік. Вось жа ў Полацку ў касцёле францысканскім падчас гэтага юбілею казанні былі гавораны па-беларуску. Народу бывала гэтулькі, што, як піша кс. Рапчынскі, касцёл не змяшчаў іх.

На правінцыі падчас гэтага юбілейнага года былі таксама беларускія казанні і па-беларуску рахунак сумлення ў наступных сёлах і местах Беларусі, асабліва Віцебшчыны: у Гарбачове, у Кляcіцах, у Ушачы (былі па-беларуску навукі, рахунак сумлення, а таксама чыталі катэхізм па-беларуску), у Забяле, у Тамасіне, у Халопенічах, Мікалаеве, у Таболках.

У Альбрыхтове ў касцёле, як піша той жа «Дыярыуш», па ражанцы, канторка, умеючая чытаць, напалавіну спяваючы, гаварыла з народам катэхізм па-беларуску, які ўсе добра ўмелі.

У 1835 г. у Вільні выходзіць «Krótkie zebranie nauki chrześcjańskiej dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego» з апрабатай віленскага каталіцкага (лацінскага) біскупа І. Б. Клангевіча і з дазволу свецкай улады. Катэхізмоўка гэта, нягледзячы на яе польскі загаловак і на некалькі польскіх малітваў і на ўспамін аб нейкай польска-рускай мове, на бачынах 24-х напісана даволі чыстай віленска-менскай беларускай мовай.

У 1845 г. у той жа Вільні зноў выйшаў «Katechizm o czci cesarza Wszech Rossyi, czyli objaśnienie czwartego przykazania Boskiego w stosunku do żwierzchności krajowej. Za Najwyższym rozkazem, dla użycia po szkołach i kościołach Rzymsko-Katolickich wiejskich wydrukowany. Nakład i druk T. Glusberga księgarza i typografa szkół białorusk. nauk, okr.». Частка гэтага катэхізму напісана па-беларуску. Бачыць яго нам не ўдалося. Судзячы з загалоўку (даволі дзіўнага) і з выдаўца, належыць думаць, што друк гэты выданы ўрадам або блізкімі да яго людзьмі. Аднак аб патрэбе нашай мовы ў жыцці рэлігійным і аб ужывальнасці яе ў гэтым жыцці, прынамсі, у пэўнай меры, і ён гаворыць.

У 1862 г. выйшаў «Elementarz dla dobrych dzietok katolikoŭ», друкаваны ў Варшаве, з апрабатай духоўнай і з дазволам свецкай улады. Усе 40 старонак друкаваны па-беларуску. Апрача кароценькага лемантара змешчаны ў ім каталіцкі катэхізм, пацеры, некалькі малітваў, песня «O moj Boža, vieru Tabie» і ў канцы «tablička množenia». Мова беларуская даволі чыстая, дужа падобная да мовы ў катэхізмоўцы з 1835 г., а магчыма, што тая самая.

Помнячы, што ў гэтым часе беларускіх кніжак лацінкай друкаваць няможна было, можна дагадацца, што духоўныя ўлады прапхнулі гэты «Elementarz» праз расейскую свецкую цэнзуру як польскі, друкуючы яго лацінкай.

З успомненых друкаў агулам бачым, што ў тым часе адчувалася патрэба вучыць праўдаў веры католікаў-беларусаў у іх роднай мове. Дзеля гэтай жа мэты і былі друкаваны гэтыя катэхізмы.

У 1866 г. у часопісе «Вѣстник Зап. Россіи» К. Гаворскі піша, што з беларускай літаратуры яму ведамы катэхізм, навукі парафіяльныя ды пяць-шэсць песняў рэлігійнага зместу. Пэўне ж, гутарка тут аб беларускай літаратуры каталіцкай, бо праваслаўнай падобнай па-беларуску цалкам не дапускалася.

У 1866 г., калі ўрад расейскі ўжо рабіў спробу ўвядзення ў касцёлы расейскай мовы, група ксяндзоў-беларусаў з Магілёўшчыны і Віцебшчыны звярнулася з просьбай да ўрада аб дазвол



пэратлумачыць ім агульнаўжываныя казанні Філіпецкага і Белабрэскага на беларускую мову. Тагачасны генерал-губернатар нашага краю К. П. фон Каўфман (1865–1866) уважаў, што казанні трэба гаварыць у касцёлах не па-беларуску, а па-расейску. Обер-пракурор Сінода гр. Д. А. Талстой звярнуўся ў гэтай справе з запытаннем да праваслаўных біскупаў літоўска-беларускага краю. Сінод просьбу гэтых ксяндзоў адкінуў. Цікавыя адказы біскупаў праваслаўных Д. А. Талстой пераслаў генерал-губернатару. Найцікавейшы адказ быў русіфікатара Міхала, біскупа Менскага і Бабруйскага. Ён быў праціўнікам беларускай мовы ў касцёле дзеля таго, што, як пісаў, за часаў паншчыны ў мову беларускую закралася многа слоў і выражэнняў польскіх, дык хто заручыць, што ксяндзы будуць гаварыць па-беларуску, а пакрысе будуць адначасна падтрымліваць мову польскую ў касцёле... «Маю гістарычную падставу, — пісаў ён далей, — адносіцца з падазрэннем да просьбы лацінскіх ксяндзоў пэратлумачыць на мову беларускую казанні. Езуіты, асеўшы ў гэтым краі, спярша вучыліся мовы народнай і з ёй зводзілі праваслаўных...»

Цікава таксама адзначыць, што ў гэтым жа 1866 г. успомненыя вышэй каталіцкія ксяндзы з Магілёўшчыны і Віцебшчыны, якія прасілі ўладу дазволіць ім тлумачыць на беларускую мову казанні польскія, просьбу сваю, між іншым, падтрымліваюць тым, што ў іх часе ў нашым краі многа дзе казанні па касцёлах ксяндзы гаварылі па-беларуску.

Не адрэчы тут будзе таксама ўспомніць і аб Санчыкоўскім. Быў гэта каталіцкі (лацінскі) ксёндз у Меншчыне, з паходжання беларус, які, забыўшыся аб сваім ксяндзоўстве і аб сваім народзе, надта сардэчна дапамагаў і дараджаў на працягу пару дзесяткаў гадоў (1860–1880) царскаму ўраду ў справе замены ў Касцёле мовы польскай мовай расейскай. Аднак з працы Жыркевіча «Изъ-за русскага языка» выглядае, што Санчыкоўскі сам сябе лічыў беларусам, з народам гаварыў па-беларуску, а таксама часта па-беларуску гаварыў казанні ў касцёле.

Быў гэта ў значнай меры кар'ерыст і заблудзіўшы самалюб, які калі і ўспамінаў аб патрэбе ў жыцці касцельным мовы беларускай і калі і сам гэтай мовай гаварыў, дык, судзячы з яго супрацоўніцтва з урадам, была гэта толькі тактыка, часовы русіфікатарскі манеўр, які недвухзначна імкнуўся да ўвядзення ў жыццё рэлігійнае каталікоў-беларусаў мовы не беларускай, а расейскай.

Санчыкоўскі — паслушнае аружжа русіфікацыі Беларусі ў руках расейскага ўрада. Дапамагалі яму стаць на гэту дарогу тагачас-

ныя палітычна-грамадскія варункі на Беларусі. У значнай меры Санчыкоўскі — дзіця трагедыі свайго часу.

Аднак, нягледзячы на схаваныя планы ў працы Санчыкоўскага што да мовы ў Касцёле, няма падстаў не верыць яму, што як ён сам, так і многія іншыя ксяндзы ў ліку 46, як ён кажа, у аднэй толькі Менскай дыяцэзіі сапраўды шмат дзе карысталіся ў казаннях да каталікоў-беларусаў мовай беларускай. Трэба таксама думаць, што вышэйшая духоўная ўлада, калі сапраўды бачыла ўжыванне тады ў касцёлах мовы беларускай, мовы роднай народу, а не расейскай, гэтаму прынамсі афіцыйна не праціўілася, як не праціўіўся гэтаму, а нават радзіў магілёўскі арцыбіскуп Сымон.

Тым больш праўдападобныя цверджанні аб мове беларускай у касцёле Санчыкоўскага, бо і ў архіве канцылярыі Віленскага Генерал-Губернатарства (1867–1870) ёсць спісы ксяндзоў, гаворачых па касцёлах беларускія казанні.

Але найлепшымі гэтага довадамі служаць дакументы. Затрымаемся тут над імі бліжэй. Кс. праф. Ал. Навіцкі (Латвія) у сваім часе перадаў Бел. Каталіцкаму Выдавецтву ў Вільні рукапісныя беларускія каталіцкія казанні.

У гэтым рукапісе спатыкаем чатыры казанні ў чатырох сшытках, пісаныя на палавіне канцылярыйнага аркуша на абедзвюх бачынах. У адным сшытку, на 64-х бачынах памешчана навука на 17-ю нядзелю па Зялёных Святках[31]. На першай бачыне зазначана, што навука гэта гаворана была ў 1860 і 1864 г. у Посіне, 1863 г. у Лянцкароне, 1868 г. у Савейках, 1870 і 1872 г. у Уле.

Другі сшытак на 72-х бачынах змяшчае казанне на дзень Непавіннага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Гаворана яно, як відаць з зацемак, таксама на першай бачыне: 1865 і 1867 г. у Лянцкароне, 1871 і 1872 г. у Уле.

У трэцім сшытку на 40 бачынах напісана казанне на ўрачыстасць Божага Цела, гаворана 1861 і 1863 г. у Посіне, 1866 і 1869 г. у Лянцкароне і ў Савейках, 1870 і 1872 г. у Уле.

Чацвёрты сшытак становіць казанне на Дзень Задушны, напісанае на 32 бачынах і гаворана ў 1862 г. у Посіне, 1868 г. у Лянцкароне, у 1870 і 1872 г. у Уле.

Усе гэтыя мясцовасці знаходзяцца ў быўшай Віцебскай губерні. Вылічаныя гады, мясцовасці і дні, калі якое казанне было гаворана, надпісаны па-польску, як відаць з пісьма, пазней, але той самай рукой, што і самыя казанні.

Цытаты з Святога Пісання, з Айцоў Касцёла, ці якія іншыя, паданы таксама па-польску. Рэшта ўсё пісана па-беларуску.



Як бачым, былі ў Каталіцкім Касцёле на беларускіх землях праўдзівыя пастыры, якія і ў гэтыя цяжкія гады патрапілі быць блізка да народа і карыстацца яго мовай у святынях.

Патрэбу карыстання роднай мовай у Касцёле разумела не раз тады таксама і вышэйшае каталіцкае духавенства. Так, напрыклад, калі пад канец XIX ст. барацьба царскіх урадаў з польскай мовай па касцёлах дужа завастрылася, магілёўскі каталіцкі арцыбіскуп Сымон запрапанаваў ураду згадзіцца завесці ў Касцёл у беларускіх парафіях замест расейскай мову беларускую, мову, родную народу. З прычыны гэтай прапановы пачалася перапіска між урадам і Апостальскай Сталіцай. У выніку гэтай перапіскі папескі сакратар кардынал Рамполля, ад імя Папежа Лявона XIII, паведаміў арцыбіскупа (ужо Казлоўскага), што Апостальская Сталіца дае яму права дазволіць пробашчам карыстацца ў казаннях мовай беларускай там, дзе карыстаецца гэтай мовай народ. Дакумент гэты падпісаны 8.V.1897 г. за № 37. 522.

Праўда, з найвышэйшага гэтага дазволу, мусіць, мала хто скарыстаў, бо арцыбіскуп Казлоўскі, з аднаго боку, баючыся русіфікацыі і праваслаўя, а з другога — рахуючыся з напорам польскага грамадзянства і духавенства, якое агулам стаяла толькі за мову польскую ў Касцёле, не дапускаючы туды ані мовы беларускай, ані літоўскай, у жыццё гэтага дазволу Апостальскай Сталіцы не ўвёў.

Аднак дакумент гэты мае для нас вялікае значэнне. Ён яшчэ раз, ужо лішні раз, сцвярджае тую праўду, што адносіны Св. Айца да кожнага народа — гэта адносіны сапраўды бацькаўскія, што кожная мова мае поўнае права ў каталіцкай святыні і што калі дзе да гэтага не даходзе, дык гэта дзеецца з прычын пераважна палітычных, з прычын цалком незалежных ад Апост. Сталіцы.

Але маем яшчэ таксама падставу цвердзіць, што і ў апошнім дзесятку XIX ст. і па ім беларускія казанні дзе-нідзе па каталіцкіх касцёлах Беларусі былі гавораны. Цвердзе аб гэтым Д. Н. Чыхачоў у сваёй кніжцы «Вопрос располяченія Костела», а, урэшце, аб гэтым у беларускім народзе ёсць яшчэ жывыя традыцыі. Так, напрыклад, старэйшыя ксяндзы Магілёўскай дыяцэзіі расказваюць, што ў канцы XIX ст. і аж да часу выбуху сусветнай вайны ў некаторых парафіях беларускіх агулам, асабліва ж Віцебшчыны і Магілёўшчыны, усцяж гаварыліся беларускія казанні.

Ведамы адзін з піянераў беларускага руху кс. Фр. Будзька († 1920), з Магілёўскай дыяцэзіі, які быў дужа блізка да магілёўскага біскупа Данісевіча, беларуса, — расказваў мне, што казанні беларускія і песні рэлігійныя беларускія былі ў Уле (Віцебшчына), у

Фашчоўцы (Магілёўшчына) і ў іншых мясцох Беларусі аж да апошніх дзён.

Гэта былі адны, казаў бы, з ручайкоў, якія неслі на сваіх немнагаводных фалях [хвалях] нашу мову з касцельнага зацішша веку XIX у шырокія воды ўсестаронняга беларускага адраджэння XX ст.

Словам, у найцяжэйшы час для беларускай нацыянальнасці адзінай апорай яе аказалася усё ж такі хрысціянства. Агулам хрысціянства па сваёй натуры ёсць такім, аб якім трэба сказаць наступнае. Нягледзячы на тое, ці яно польскае ці расейскае ў значэнні палітычным, у значэнні той чужой мовы, якой яно змушана да беларусаў прамаўляць, і, нягледзячы на тыя чужыя народу тэндэнцыі, якія яго часта змушана праводзіць, — усё ж такі ў некаторай меры не перастае быць апорай беларускай нацыі і сродкам яе кансалідацыі і супольнасці. А гэта затым, на маю думку, што вобак з чужымі ідэямі і чужой мовай яно вырабляе і закрапляе праз блізкія між вернымі сардэчныя духовыя суадносіны, адзінства, блізкасць, сваяцтва, а таксама асвячае гэта павагай Божай. Чужая афіцыяльна форма так афіцыяльнай і астаецца, а гэтая блізкасць, гэтыя традыцыі, гэтая ўзаемная супольнасць і адзінства самі праз сябе народ кансалідуюць і надаюць яму беларускі нацыянальны стыль. Ведама, гэткага характару творывам беларускай нацыянальнасці не можа мець ніякая іншая свецкая грамадская ўстанова.

Калі прыйшоў аканчальны занепад беларускага народа: занепад палітычны і культуральны, як на дзіва — прыйшло і адраджэнне. Да зярнятак апоры беларускай нацыянальнасці беспасярэдна хрысціянскай далучыліся пасрэдныя — рамантызм. На пачатку XIX ст. у Еўропе рамантызм пачаў новую эру людской думкі. У палавіне гэтага ст. рамантызм дакаціўся і да Беларусі. Сутнасць яго ў тым, што запладняць людскую думку ў галіне літаратуры, а таксама і грамадскага жыцця пачало пачуццё, мінуўшчына, нацыянальнасць. Ідэалы гэтыя заактуалізавала Французская рэвалюцыя, а жаўнеры Напалеона разнеслі іх па ўсёй Еўропе. Такім чынам дайшлі яны і да Беларусі. А сутнасць рамантызму як жа многа мае супольнага з хрысціянствам!

Урэшце ручайкі беларускага хрысціянскага нац[ыянальнага] адраджэння зліліся з агульным ручаём і сталіся ракой сучаснага агульнага беларускага нацыянальнага руху. Хрысціянства, такім чынам, сваю адвечную ролю адносна бел[арускай] нацыі споўніла. Спаўняе яе, як убачым, і сёння.

(Літаратура: Abraham і Fiołek (як у раздзеле XI); Ks. Ad. Stankevič. Rodnaja mova ŭ śviatyniach; В. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі.)



## XIII. ХРЫСЦІЯНСТВА І СУЧАСНЫ АДРАДЖЭНСКА-ВЫЗВОЛЬНЫ ПЕРЫЯД БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ (XX СТ.)

*Беларуская сучаснасць, Ф. Багушэвіч і акт 25.III.1918. — Беларускі хрысціянскі рух у параўнанні з нехрысціянскім. Галоўныя мэты беларускага хрысціянства. — Хрысціянства — апора нацыянальнасці. — Папскія энцыклікі і камунізм, нацыяналізм, расізм і фашызм. — У. Салаўёў, Карэль. — Народ — частка чалавецтва. — Хрысціянства — простая, стройная і пэўная дарога беларускага народа.*

Астаецца ўрэшце глянуць нам на ролю хрысціянства адносна беларускага народа ў сучаснасці. Гэты перыяд гісторыі беларускага народа можна назваць перыядам адраджэнска-вызвольным. Праўда, зародкі адраджэння нашага з заняпаду ўжо спатыкаюцца ў першай палове — і раней — XIX ст., але гэта былі яшчэ сапраўды толькі зародкі, рамантычныя летуценні. Няма там яшчэ свядомага нацыянальнага элемента, а толькі пачуццёвасць, рамантычнасць. Свядома нацыянальны элемент у беларускае адраджэнне прынёс Ф. Багушэвіч у прадмове да сваёй «Dudki»[32]. Там ён сказаў аб беларускім народзе ўсё. Як ён прагаварыў аб беларусах, так да яго яшчэ не гаварыў ніхто. Ён там сказаў: беларусы — гэта асобны народ і, як усе іншыя, мае правa на сваё самабытнае і самастойнае існаванне. Вось жа ад Багушэвіча, ад яго «Dudki», або проста ад самага пачатку XX ст. можна пачынаць лічыць гэты апошні найнавейшы перыяд гісторыі беларускага народа, перыяд, як ужо сказана, — адраджэнска-вызвольны.

Нацыянальны беларускі прынцып у сучасным разуменні падкрэсліў Ф. Багушэвіч. Гэты ж прынцып асабліва сільна заактуалізаваўся падчас сусветнай вайны і вялікай расейскай рэвалюцыі. Вялікую, гістарычную ў гэтым кірунку адыграў ролю акт 25.III.18, акт абвешчання Радай Беларускай Народнай Рэспублікі незалежнасці Беларусі. Як загаварыў гэты акт, так да яго аб Беларусі дагэтуль яшчэ не гаварыў ніхто. У гэтым жа духу, у гэтым кірунку і ідзе далей сёння беларускі адраджэнска-вызвольны рух. 25.III.18 — гэта сімвал гэтага руху.

Якая ж у гэтым сучасным беларускім нацыянальным руху роля хрысціянства? Вось жа, вобак з іншымі кірункамі і дзейнікамі гэтага руху развіваецца і дзеіць таксама і кірунак хрысціянскі і імкнецца да таго ж агульнабеларускага нацыянальнага ідэалу. А нават можна сказаць, што гэты хрысціянскі кірунак у сучасным беларускім нацыянальным жыцці часта і перавышае кірункі іншыя. Нехрысціян-

скія кірункі ў беларускім жыцці часта ломяцца, рвуцца, паўстаюць і ўпадаюць, а то і зусім заміраюць, не пакідаючы па сабе паважнага следу, не творачы традыцыі і мала або і зусім не прычыняючыся да большай кансалідацыі і ўмацавання беларускай нацыянальнасці. Хрысціянскі кірунак, як паказвае гісторыя і сучаснасць, працуе звычайна стала, больш вытрывала, цягла. Добрым гэтага прыкладам можа быць БХД і яе наступніца БНА[33] і агулам уся дзейнасць беларуская хрысціянская, як грамадская, так і культуральная.

Гэткая беларуская хрысціянская праца пакідае па сабе глыбейшы след, стварае традыцыю і з'яўляецца творчым дзейнікам у кансалідацыі беларускай нацыянальнасці. Сучасны хрысціянскі беларускі кірунак, як і, бадай, усе іншыя беларускія нацыянальныя кірункі, — гэта ўжо кірунак беларускі нацыянальнасведамы. Гэты кірунак — гэта ўжо яўная антытэза да хрысціянства ў Беларусі афіцыяльнага — польскага ці расейскага, якое і сёння яшчэ ёсць дзейнікам адносна нашага народа антынацыянальным. Беларускае сучаснае хрысціянства мае такім чынам вялікае гістарычнае заданне — асвабадзіць хрысціянства, даць яму натуральны доступ да беларускага народа, асвабадзіць душу беларуса ад фікцыі хрысціянскай: ад «польскай» і «рускай» веры, мае заданне абараніць душу беларускага народа і абараніць цэласць і адзінства беларускай нацыі.

Гэтулькі можна сёння сказаць аб сучасным беларускім хрысціянстве. Але не забываймася, што гэтае беларускае хрысціянства — гэта дужа малая частка хрысціянства, як цэласці, як такога. І ўсё тое, што дзеецца з гэтым хрысціянствам агулам, адбіваецца таксама і на духовым жыцці беларускага народа. Вось жа тыя ўсе адносіны хрысціянства да розных сучасных праблемаў дужа цэнныя і маюць сваё значэнне і для беларускага народа, тым больш што хрысціянства носіць у сабе адвечныя Божыя і агульналюдскія ідэалы.

Самыя хрысціянскія прынцыпы, самая гэта навука ёсць з натуры сваёй вялікай маральнай абаронай і апорай нацыянальнага жыцця агулам, а гэтым самым і беларускага народа. Права на ўласную мову, рэлігію і культуру кожнай нацыі вынікае не толькі з права прыроднага, але таксама іменна і з навукі хрысціянскай. Галоўны прынцып хрысціянскай навукі — гэта прызнаваць, сцвярджаць і паглыбляць асабовасць чалавека як першага і адзінага асяродка поступу і культуры. Гэткія адносіны хрысціянства да людской асабовасці не нішчаць у ёй нічога прыроднага, а значыць, і яе нацыянальнай асаблівасці і рознасці, але гэта ўсё выраблююць, паляпшаюць, дасканаляць. Такім чынам кожная нацыянальнасць у святле Хрыстовай навукі ёсць матэрыялам не для знішчэння яго, але для тварэння з яго культурных вартасцяў.



Апрача гэтай прынцыповай агульнай хрысціянскай падставы праvoў народаў на іх культурна-нацыянальны развой у той жа хрысціянскай навуцы у гэтай жа справе знаходзім нормы ўжо не толькі характару прынцыповага, але таксама і практычнага. Вынікае гэта з загаду Хрыста навучаць усе народы (Мат. 28, 19–20), а таксама з факту Дароў Св. Духа (Апост. Дз. 2, 4–11), дадзеных апосталам, каб яны мелі магчымасць апавядаць Евангеллю ў родных мовах розным народам. Дужа дабітна выясняе гэтую думку хрысціянства, з якой гэтулькі дабра плыве і для беларускага народа, вялікі расейскі філосаф Уладзімір Салаўёў, які словы Хрыста «навучайце ўсе народы» — пастараславянску *«вся языки»* — аб'ясняе гэтак: «Вся языки — ни один не исключен, но ни один и не назван; ибо отныне уже не теократія* пріурочена к одной національности, а к единой теократіи пріурочены все народности. Однако не отвергнуто различие и особенное значеніе народов; ибо сказано вся языки — не сказано просто: всех людей или весь род человеческій, а все народы. Не к безразличной человеческой толпе, не к смешенію людей посылает Хрыстос своих апостолов, а к целым народам. Словом *языки* признано національности, словом *вся* упразднен націонализм»[34].

Пад словам «нацыяналізм» Салаўёў, як бачым, разумее нацыянальны эгаізм, па-сённяшняму — нацыянальны таталізм, фашызм, расізм.

Так, з самых прынцыпаў хрысціянства яўна выплывае права кожнага народа на яго нацыянальнае жыццё і асуджэнне нацыянальнага эгаізму. Але відаць гэта таксама з пазітыўнага аднашэння да падобных фактаў хрысціянскіх афіцыяльных дзейнікаў.

Аб камунізме няма тут чаго і гаварыць. Ён, адкідаючы Бога, хрысціянства, асабовасць чалавека і яго душу, кансеквентна адкінуў таксама і нацыянальнасць і ў святле Евангеллі асудзіў сам сябе. Асудзіла яго неаднакратна і Апостальская Сталіца і ўсё агулам хрысціянства.

Рознага роду расізмы, фашызмы і скрайнія нацыяналізмы, розным спосабам маскуючы свой праўдзівы воблік ад гэткага афіцыяльнага асуджэння, доўга хаваліся. Але ўрэшце прыйшло гэта і на іх. Паслухаем, што кажа Св. Айцец Пій XI у энцыкліцы «Mit brennender Sorge» — з пякучым клопатам — аб расізме: «...Хто згодна з думкай уроеных старагерманскіх і прадхрысціянскіх вераванняў асабістага Бога заступае панурым неасабістым лёсам, — пярэчыць мудрасці і агляду Божаму. Хто расу або народ, або дзяр-

* Божая ўлада.

жаву, або пэўны лад дзяржавы, або прадстаўнікоў дзяржаўнай улады, або якую-небудзь іншую засадніцую вартасць людской грамадскасці — займаючай бессумніўна істотнае і годнае месца ў парадку натуральным — з гэтай іерархіі вартасцяў вылучае, да найвышэйшай нормы рэлігійнай падносіць і па-балвахвальску абагаўляе, той адварочвае і фальшуе натуральны парадак, створаны Богам... Толькі павярхоўны розум можа трапіць у памылковы домысл народнага бога або народнай рэлігіі. Толькі гэткі розум можа адважыцца на шалёную думку замыкаць Бога ў граніцах аднаго народа, у этнічнай цеснаце адной расы, таго Бога, які ёсць Тварцом Сусвету, Валадаром і Праваўдаўцам усіх народаў... У Евангеллі Ісуса Хрыста аб'ява асягнула найвышэйшую і назаўсёды абавязуючую норму. Гэтая аб'ява не дапускае ніякіх паправак рукі людской і не прызнае ніякіх падробак або заступніцтва іншымі самазванымі «аб'явамі», якія некаторыя павадыры сучасныя высноўваюць з так зв. міфу крыві і расы...»

Не менш ёсць важным у гэтым самым сэнсе і выступленне Кангрэгацыі Семінарыяў і Універсітэтаў проціў тэорыі расізму. У лісце з 13.IV.38 да ўсіх рэктараў каталіцкіх універсітэтаў Кангрэгацыя радзіць ім, карыстаючыся па магчымасці доказамі з біялогіі, гісторыі, філасофіі, апалагетыкі, права і этыкі, бароцца з наступнымі фальшывымі расістоўскімі тэзамі: 1) расы людскія сваёй уроджанай і нязменнай прыродай так многа розняцца між сабой, што між найніжэйшай з людскіх рас і вышэйшай расай ёсць большая розніца, як між той найніжэйшай расай і вышэйшым гатункам звярат, 2) сілу расы і чыстату крыві трэба зберагаць і падтрымліваць за ўсякую цану; усё, што толькі вядзе да гэтай мэты, ёсць добрае і дазволенае, 3) з крыві, у якой месціцца сутнасць расы, выплываюць, як з найдасканалейшай крыніцы, усе духовыя і маральныя прыкметы чалавека, 4) найважнейшая мэта выхавання — гэта развіваць сутнасць расы і разаграваць душы гарачай любоўю да ўласнай расы, што ёсць найвышэйшым дабром, 5) рэлігія ёсць падпарадкавана праву расы і мусіць дастасавацца да гэтага права, 6) першай крыніцай і найвышэйшай меркай праўнага ладу — гэта расавы інстынкт, 7) няма нічога, акрамя аднаго космасу, аднаго ўсясвету, аднаго жывога быту; усе рэчы, разам з чалавекам, гэта не што іншае, як толькі разнародныя формы — праявы гэтага жывога ўсясвету — явішчы, што развіваюцца ў часе доўгіх перыядаў, 8) людскія адзінкі існуюць толькі дзякуючы дзяржаве і для дзяржавы, усякае іхняе права мае аснову ў факце, што гэтае права выдала дзяржава.

Не менш таксама важнае і выступленне Апостальскай Сталіцы проціў фашызму італьянскага ў канцы ліпеня 1938 г. падчас прыняцця студэнтаў-клерыкаў 37 нацыяў з місіянерскай калегіі Propaganda Fidei, перасцерагаючы іх прад тэорыяй расізму. Адзначыўшы паняцце універсальнасці Каталіцкага Касцёла, Св. Айцец востра выступіў проціў напасцяў на каталіцкую акцыю за тое, што яна ёсць антырасістоўская і антыфашыстоўская, і заявіў: «Не хочам нікога вылучаць з сям'і людской, універсалізм каталіцкі не выключае нікога дзеля паходжання або нацыянальнасці: увесь род чалавечы ёсць адной універсальнай расай і няма месца на расы спецыяльныя». Прамову сваю Св. Айцец закончыў увагай, што праўдзівы расізм можна знайсці ў калегіі Propaganda Fidei, дзе «зграмаджаныя разам гадунцы 37-х народаў. Усе яны сыны той самай маткі, той самай сям'і і ўсе гадуюцца пры тым самым стале і ў той самай праўдзе».

І так, як бачым, Хрысціянства проціў сучаснага татальнага неапаганізму. Проціў гэтага і святлейшыя адзінкі, прадстаўнікі часта выдатныя навукі. Для прыкладу ўспомнім толькі Karrel'а, ведамага вялікага сучаснага амерыканскага біёлага, які ў сваёй цікавай і галоснай кнізе «Чалавек — нязнаная істота» крытыкуе сённяшнюю цывілізацыю, у якой чалавек чуецца нявольнікам, падкрэслівае рашуча, што апрача інтэлекту, якому сучасны чалавек так аднабока і безаглядна заверыў, цывілізацыя мусіць апірацца таксама на прынцыпах этыкі, эстэтыкі і рэлігіі. Гэта голас адзін з многіх аб тым, што ўсякі эгаізм павінен рэгулявацца альтруізмам і наадварот, бо інакш — руіна грамадскага жыцця і нават цэлай цывілізацыі. А каму ж не ведама, як магутным тут ёсць творчым дзейнікам хрысціянства!..

І беларускага народа дарога да яго святлейшай долі, да яго культурнага нацыянальнага жыцця вядзе таксама там, дзе эгаізм не ёсць добрасцю, дзе прызнаецца права асабовасці адзінкі чалавека і права асабовасці нацыянальнасці. А гэтай дарогай, на наш пагляд, галоўнай між іншымі, ёсць хрысціянства; хрысціянства, ведама, чыстае і вольнае ад смецця дэмагогіі і палітыкі. Значыць, хрысціянства — гэта цэннасць, якой беларусы павінны трымацца і бараніць і паводле яго жыць і прыватна і публічна.

Гэткі хрысціянскі шлях павядзе беларускі народ па дарозе штораз большага нацыянальнага аб'яднання і кансалідацыі, гэткі наш шлях будзе шляхам нашых беларускіх хрысціянскіх традыцыяў, так шчыльна звязаных з беларускім жыццём, гэта будзе шлях, дастойны 950-годняй у нас хрысціянскай традыцыі, пашанай гэтага вялікага юбілею і парукай нашай светлай будучыні.

Хрысціянства дае народам маральную магчымасць развівацца нацыянальна і будаваць іх нацыянальную самастойнасць, а, з другога боку, ганячы ўсякі нездаровы эгаізм, яно ганіць скрайні нацыяналізм

і гэтым самым аблягчае народам іх узаемнае супрацоўніцтва. А гэта ж дарога і беларускага народа... Праўду кажа вялікі Салаўёў: «Народ павінен прызнаць сябе тым, чым ён ёсць сапраўды, — часткай усябыту. Ён павінен прызнаць сваю салідарнасць з усімі іншымі жывымі часткамі гэтага цэлага — салідарнасць дзеля вышэйшых агульналюдскіх ідэалаў і служыць не сабе, а гэтым ідэалам у меру сваіх нацыянальных сіл і адпаведна да свайго нацыянальнага характару...»

(Літаратура: Энцыклікі Папы Пія XI: проціў камунізму і проціў расізму; Вл. Соловьев. Полн. собр. соч. Т. IV і інш.; A. Maceina. Tautinis auklėjimas; Ад. Станкевіч. Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення; Яго ж. Fr. Bahuševiš, Jaho žyćcio i praca.)

## XIV. СПРОБА БЕЛАРУСКАГА РЭЛІГІЙНАГА, НАЦЫЯНАЛЬНАГА І КУЛЬТУРНАГА СІНТЭЗУ

*Рэлігійная разрозненасць беларусаў. Тэарэтычныя магчымасці Уніі стацца сінтэзам беларускай душы. Права кантрасту ў аб'яднанні беларускай народнай душы. Фактычнае брацкае сужыццё беларусаў праваслаўных і каталікоў без націску на афармленне гэтага. Талеранцыя, супольныя хрысціянскія вартасці, апалітычнасць. Кліч св. Аўгустына.*

Тут падыходзім да аканчальных высноваў аб адносінах між хрысціянствам і беларускай нацыянальнасцяй. Але ж хрысціянства цяпер у беларускім народзе не адзінае, а падзеленае на праваслаўе і на лацінскае і ўсходняе (уніяцкае) каталіцтва. Вось жа над кожным з іх затрымаемся і пашукаем такіх адносінаў народа да гэтых хрысціянскіх, так сабе блізкіх, вызнанняў, каб гэтыя адносіны тварылі беларускі нацыянальны і рэлігійны сінтэз.

Пачнём ад Уніі, якая ў сваёй прынцыповай ідэі іменна і носіць гэты сінтэз.

У рэлігійным жыцці беларускага народа спатыкаем сапраўды дзіўнае і сумнае з'явішча: адзін і той самы народ верыць у аднаго і таго самага Хрыста Спаса свайго і ў яго навуку, але верыць і славіць яго неаднолькава, розным спосабам. Адзін і той самы народ беларускі ў жыцці сваім рэлігійным раздвоены на праваслаўных і каталікоў, якія інакш завуць свае святыні — адны кажуць царква, а другія касцёл, — якія службу Божую маюць у розных мовах — адны ў стараславянскай, а другія ў лацінскай, якія слова Божага і звычайнай гутаркі іх духавенства слухаюць таксама ў розных і да таго ў чужых мовах: адны ў расейскай, а другія ў польскай, якія,



урэшце, падзелены таксама часткова і верай: для адных, не выключаючы ўсіх розніцаў, Рымская Епіскапская Сталіца — гэта з волі Хрыста Галава сусветнага хрысціянства, гэта найвышэйшая ўлада Св. Царквы ягонай, а для другіх усё гэта такога вялікага значэння не мае.

І вось жа, калі б у беларускім народзе падзел гэты быў толькі вонкавы, толькі ў самым абрадзе службы Божай, дык гэта было б яшчэ нічога. Але, як бачым, падзел гэты нашага народа ўнутраны, духовы — чужая мова па-за літургіяй у рэлігійным жыцці народа, і розныя некаторыя асновы веры ці яе догмы. А гэта ўжо зусім нядобра.

Праўда, мы да гэтага сапраўды сумнага і дужа для беларускага народа шкоднага з'явішча прывыклі і ўжо мала на яго зварочваем увагі, але гэта тым горш для нас, калі мы ўжо перастаём рэагаваць на падзел Цела Хрыстовага — Царквы-Касцёла, а праз яго на падзел душы беларускай, на той пункт у гэтай душы, дзе спрадвеку робіцца, — то больш раздражненая, то больш загоеная — цяжкая, грозная рана гэтага народа.

Але, на шчасце, ніколі не бракавала беларусам светлых людскіх адзінак, як сярод духавенства, так і людзей свецкіх, якія хварэлі душой над гэтай хваробай свайго народа і якія думалі даўней і думаюць сёння аб зла гэтага, направе, аб брацкім злучэнні на беларускіх землях дзвюх часцін адзінай Хрыстовай Царквы ў адну стройную, непадзельную цэласць.

Сёння на беларускіх землях ужо бадай усюды можна пачуць слова Унія. Слова гэтае — для многіх прыводзячае трывогу ў душу, многім зноў узбуджаючае ясны прамень надзеі на светлую будучыню справы Хрыстовай і народа — сёння ўжо перадаецца з вуснаў беларускіх у вусны.

Унія, а па-лацінску — unio, як ведаем, значыць адзінасць, аб'яднанне, злучэнне, брацкае рэлігійнае сужыццё беларусаў-праваслаўных і беларусаў-каталікоў пад кіраўніцтвам Рымскага Першасвяшчэнніка, пад кіраўніцтвам Пятровай Апостальскай Сталіцы, як гэта было ў нас на пачатку хрысціянства і як гэта павінна быць заўсёды з волі Хрыстовай.

Пасля скасавання Уніі ў 1839 г. першая паважная спроба аднаўлення яе рабілася ў 1908-9 г. Каля гэтай справы рупіўся тады мітрапаліт украінскай Галіччыны[35] (тады пад Аўстрыяй) і піянер беларускага сучаснага руху Іван Луцкевіч. У Барысаўскім пав. Менскай губ. быў двор (12 тысяч дзесяцін) графа Тышкевіча Дзядзілавічы. Двор гэты мітр. А. Шаптыцкі меў адкупіць, распарцэляваць і асадзіць там эмігрантаў украінцаў-уніятаў з Галіччыны. З гэтых эмігрантаў паўстаў бы уніяцкі прыход, які быў бы асяродкам далей-

шай працы уніятаў у Беларусі. Ужо былі кандыдаты на уніяцкіх свяшчэннікаў лацінскія ксяндзы-беларусы: Язэп Зэльба і Вінцэсь Герасімовіч (абодва ўжо адышлі з гэтага свету). Царскі ўрад, аднак, да гэтага не дапусціў, і з гэтых вялікіх і сапраўды цікавых планаў не выйшла тады нічога. («Przegl. Wileński», 25.VI.37, art. A. Ł. «Tempora mutantur»)[36].

Уніяцкая, аднак, ідэя не замёрла і за якіх гадоў 10 пасля гэтага зноў стала рэалізавацца.

Вось прыйшлі для Беларусі часы найнавейшыя. Наступіла вайна, расейская рэвалюцыя, бальшавізм, а за імі ўслед прыйшоў падзел Беларусі ў Рызе 20.III.1921 г. У той часці Беларусі, катораяя асталася пад бальшавікамі, дзе спрадвеку найбольш сільна дзеялі ўплывы «маскоўскага Рыма», хрысціянства бадай зусім збурана. Царква ж Праваслаўная, будучая ў раз’яднанні з Рымам, сама ў сабе падзелена на дробныя часткі, хоць бы маральна памагчы гэтай вялікай мучаніцы Царкве расейскай бяссільна. Забірае голас за Царкву-мучаніцу Папа Рымскі, хоць Царква гэта і не прызнае яго сваёй Галавою.

У той частцы Беларусі, якая паводле гэтага ж рыжскага дагавору адышла да Польшчы, як надзіва, зноў пачала аджываць Унія, якая ўжо многім выглядала памёршай і аб якой ужо многія зусім забыліся. На ніве аб’яднання Цэркваў-сёстраў у нашым краі паявілася многа апосталаў-місіянераў, а сярод якіх спатыкаем таксама і беларусаў.

І так, пасля сотні гадоў ад часу скасавання расейскім царом на нашых землях царкоўнай уніі, яна ўваскрасае тут нанова. І дзіва! Уваскрасае на нашых землях Унія, — як яна жыла і гінула, — разам з уваскрашэннем-адраджэннем беларускага народа.

І хто ж праціў яе? Як і даўней — найбольш расейцы і палякі, а найменш свядомыя, пазбыўшыяся абрусення і апалячання беларусы, шчырыя барацьбіты за справу адраджэння свайго народа. Яны інстынктыўна адчуваюць яе блізкасць, яе духовае з сабой сваяцтва.

І слушна. Гісторыя і геаграфія даканалі таго, што праваслаўе на беларускіх землях — гэта перадусім вера расейская, даючая адзнакі апошнім часам, як гэта было і за часоў царскіх у Расеі, стацца верай казённай, польскай. Зноў жа лацінскае каталіцтва на нашых землях, дзякуючы тым жа гістарычным і геаграфічным варункам, гэта перадусім вера польская. Вось жа наша вера, вера беларуская, як выглядае з нашай мінуўшчыны і як аб гэтым недвухзначна гаворыць наша сучаснасць, ёсць Унія.

Унія — злучэнне Царквы Праваслаўнай з сусветнай Царквой Рымскай, як гэта было ў нас на пачатку хрысціянства, магла б адрадзіць народ наш у жыцці царкоўна-рэлігійным, а таксама ў жыцці народным, бо Праваслаўную Царкву адарвала б ад маскоўшчыны і злучыла б яе з душой народа.



Адарваўшыся гэтак ад гэтага «расейскага Рыма», Унія, у сваю чаргу, як гэтага многія слушна баяцца, у наш час ужо не пападала б і ў «Рым польскі» і польскія ўплывы, як гэта было ў уніі Берасцейскай, ужо не паўтарыліся б. На перашкодзе гэтаму стала б беларуская народная свядомасць, якая ўжо не дапусціла б, каб Унія замест быць самастойнай рэлігійна-культурнай вартасцяй ды сталася зноў толькі пераходным мостам да польшчыны ці ў змененых палітычных варунках — да маскоўшчыны. На перашкодзе гэтаму сталі б таксама і варункі сучаснага праўна-грамадскага палажэння людской адзінкі агулам, калі ўжо няможна, як гэта было даўней, народныя масы пераганяць і перапісваць без іх волі ў тую ці іншую веру.

Але, на жаль, гэта, бадай, выключна толькі тэорыя. Пачаткі Уніі ў нас шмат у чым былі не такія, якімі яны быць павінны. Унія сярод беларусаў нават у нядаўняй Польшчы не мела свайго асобнага ўсходняга епіскапа беларуса, а ўлада над уніятамі належала да епіскапаў лацінскіх (усе палякі!). Унію гэту праводзілі сярод беларусаў часта свяшчэннікі не беларусы і не па-беларуску і не ў народным беларускім духу. Галоўную ролю ў праводжанні Уніі ў беларускім народзе ігралі езуіты, пераважна палякі, да якіх праваслаўны народ не мае даверу. Кіраўнічыя кругі унійнай справы ў нас зусім не рупіліся аб беларускай унійнай літаратуры. Няможна ж уважаць за «літаратуру» месячніка «Da Złučeńnia» (лацінкай!), якога, дзеля яго прымітывізму і ўбогасці, саромеліся нават самі уніяты, кажучы, што гэта езуіты на смех яго выдаюць!..[37] Дзеля гэтага і вынікі працы унійнай былі ў нас зусім нязначныя. Урэшце, адыход ад Польшчы ў палове верасня 1939 г. земель Зах. Беларусі да Саветаў справу Уніі перакрэсліў надоўга.

Праваслаўе таксама не стварыла дагэтуль беларускага праваслаўнага кірунку. У гэтым сэнсе яно слабейшым ёсць ад Уніі, у якой усё ж былі яўныя асяродкі беларускія. Тым часам праваслаўе афіцыяльна ўпорыста трымаецца маскоўшчыны і нават рабіла спробы завядзення польшчыны. Вінаваты гэтаму палітычныя абставіны, іерархічная будова Царквы і гістарычныя Царквы прывычкі. Аднак фактычна ў праваслаўі, як сярод свецкіх, так і духавенства, ёсць многа беларускай нацыянальнай свядомасці. Дзякуючы гэтаму і дзякуючы самой натуры Царквы, як грамадскаму творыву, аб чым вышэй мы казалі, праваслаўе ўсё ж ёсць дадатным дзейнікам адносна беларускай нацыянальнасці.

Сярод беларусаў-праваслаўных і уніятаў значна выдзяляюцца беларусы-каталікі-лацiннікі. Яны стварылі цэлы кірунак беларускі каталіцкі і, можна сказаць, надаюць тон беларускаму рэлігійнаму і нацыянальнаму жыццю агулам, развіваючы ідэю аб беларускім сінтэзу, аб адзінстве рэлігійным і нацыянальным. Вось што пісаў яшчэ ў 1921 г. аб гэтых справах беларускі паэт, нацыянальны і рэлігійны ідэолаг, кс. К. Стаповіч (Казімер Сваяк, † 1926)[38]:

«Я хацеў бы, каб гэтых слоў некалькі праз «Крыніцу» дайшлі да ксяндзоў-беларусаў. Я прачытаў нядаўна ў той жа «Крыніцы», што нехта асмеліўся публічна нашых духоўных прыраўняць да няпраўдзівых прарокаў. Няхай жа гэтыя словы паслужаць яму адказам, а нам... чым хочаце. Сучасны момант у гісторыі Каталіцкага Касцёла на Беларусі гатовіць, мабыць, найважнейшыя змены ў душы народа. Народ беларускі стаіць на парозе свайго адраджэння на ўсіх палях культуры. Тварэнне розных форм адбываецца ў шыбкім тэмпе ў кожнай галіне жыцця, так паасобнага, як і сацыяльнага. Рэлігія, як адна з найважнейшых галін культуры, не можа астацца на задзе за агульным рухам. Гора таму ксяндзу-беларусу, каторы не адчуе псіхікі, якая ствараецца агульным правам народнай эвалюцыі. Мы павінны асцярожна, але станоўча згадзіцца, што ў Беларусі форма адносін рэлігійных ужо змяняецца, і пайсці смела на спатканне новых патрэб. Тая смешная ўрадовасць і палітыканства спольшчанай часці духавенства нашага краю найлепшым служыць доказам, што гэты дух, так папулярны за часаў расейскіх, ужо загавеў на адсталасць. Ксяндзы паланізатары кідаюцца цяпер як у малігне, бо чуюць, што грунт з-пад ног іх асоўваецца. Не будзем ім даказваць, хто мыліцца (час пакажа), трэба толькі пусціць іх у палітыканстве аж да абсурду, вучачыся, як самім сцерагчыся шавінізму і сякцярства. Трэба нам выступаць як ксяндзом Касцёла міжнароднага і міжпартыйнага, а не спецыяльна адной народнасці або партыі. Такое становішча прымусіць нас для кожнай народнасці тварыць жыццё рэлігійнае роднымі формамі, а не пазычанымі ад чужацкага панавання. Касцёл наш інстытуцыя каталіцкая, і затое ў ім можа змясціцца кожны народ, хоць бы культурна слабы і загнаны. Наш абавязак, як ксяндзоў каталіцкіх, паднасіць духу народнага да зразумення тых праўд, якія даў нам Хрыстос. А чым больш народ апушчаны, тым болей павінен узяць ад нас сэрца і... *працы*. З абсервацыі сучаснага палажэння ў нашым краі кожны ксёндз-беларус павінен:

1. Пільна спасцерагаць — сачыць — працэс народнага даспявання беларусаў, каб не адстаць ад агульнага культурнага розвітку душы народнай.



2. Старацца ўвесці ў свае парафіі калі не заўсёды, то перыядычна ў большыя святы навуку па-беларуску, а таксама арганізаваць беларускі спеў рэлігійны на хоры.

3. Прычыняцца як мага да выдавецтва рэлігійнага, каб мець гатовы матэрыял у запатрабаванні на нашу творчасць.

4. Быць у жыцці народнікам і карыстацца мовай беларускай згодна з псіхікай нашага народа і паводле засады: «Не прымушай, але пераканай».

5. Працаваць у імя ідэі каталіцызму, а не нацыяналізму, пад дэвізам: «З народам для Бога».

Ксёндз беларус.

(«Крыніца». № 24, 1921.)

Словам, сёння, калі святкуем 950-годдзе хросту Беларусі, хрысціянства ў беларускім народзе бачым не адзіным, як тады, але падзеленым на дзве часткі: на праваслаўе і каталіцтва двух абрадаў — лацінскае і усходняе (Унія). Вось жа, маючы на ўвеце вялікую вартасць хрысціянства агулам, самога ў сабе для душы чалавека, а таксама і для тварэння і падтрымання беларускай нацыі, мусім шукаць такіх формаў сужыцця гэтых часцей хрысціянства, каб яно не толькі не паглыбляла гэтага падзелу, але таксама каб між праваслаўнымі і каталікамі наступіла адзінства рэлігійнае, прынамсі да тых граніц, да якіх, у сучасных жывучы абставінах, здабыцца можна і трэба. Шуканне, прынамсі, мінімальнага адзінства ў беларускім народзе — гэта наша гістарычнае заданне. Гэтыя спробы Уніі і фактычнае яе сцвярджэнне ў сваім часе ў гісторыі, — гэта быў іменна гэны праяў гістарычнай патрэбы душы нашага народа і натуральны праяў самай сутнасці хрысціянства. І тыя сілы, якія так ці інакш гэтае наша нацыянальнае і рэлігійнае адзінства руйнавалі, гэта былі сілы варожыя і чужыя гэтай гістарычнай беларускай ідэі.

Калі Візантыя была ў 1453 г. заваявана туркамі, калі наступіла катастрофа і для вялікай візантыйскай культуры і для ўсходняй Царквы, наступіла таксама катастрофа і для беларускай Царквы. Гэтая Царква (а таксама ўкраінская і расейская) завісла ў паветры. З рымскай заходняй культурай звязкі Беларусі аж да якога XVI ст. агулам былі дужа невялікія, у адасабленні гэтым іменна і трымала нас візантыйская культура і дзяржава і залежная ад іх наша Царква. Гэтым тлумачыцца адсталасць наша культурная. Тады, калі ў Еўропе адбывалася барацьба папства з цэзарствам, адбываліся крыжовыя паходы, адраджэнне, рэфармацыя, якія гэтак важнае займаюць месца ў ідэйным і грамадскім жыцці Еўропы, Беларусі бадай зусім не даткнулі, а прынамсі, надта не многа. Затое нідзе не было такой

заўзятай барацьбы за зверхнія культурныя формы: за абрад, каляндар, азбуку, за словы, як іменна ў верных усходняй Царквы.

Вось жа не дзіва, што на межах, дзе стыкаліся два тыпы хрысціянскай культуры — усходні і заходні, усходні пастаянна траціў тэрыторыю і людзей, аднолькава ці ў царкоўнай ці ў нацыянальнай дзялянцы жыцця. Гэта даводзіла да масавага вынарадаўлення вышэйшых слаёў грамадзянства і да цяжкога становішча загнанага і пакінутага сялянства і не маючага не толькі дзяржаўнай, але і ніякай абароны і падтрымання. У гэткіх абставінах жыцця мусіла дайсці да вытварэння пасярэдняга культурнага тыпу. Асновай для гэтага была ідэя царкоўнай уніі: захаваць, зберагчы сваю старадаўнюю культуру, яе форму і традыцыі і ўліць у гэта ўсё жыццё і новыя жывыя сокі, якія плылі з захаду. Барацьба за гэтую пасярэднюю форму, за гэты сінтэз нашай культуры, як ведаем, была і ёсць сёння дужа вострая і заўзятая і агулам заўсёды вялася і вядзецца па сярэдняй лініі між Захадам і Усходам, дакладней кажучы, між Масквой і Варшавай.

Кантраст — гэта агульная сістэма жыцця, гэта агульнае права прыроды. Адзінка і грамадзянства, мужчынская і жаночая плоць, цела і душа, змыслы і розум, воля і сумленне, дасярэдзінная і адсярэдзінная сіла, якая нармуе рух нашай зямлі, падобныя ж сілы ў будове кожнага атама, пазітыўная і негатыўная электрыка — і гэтак без канца і меры. Нават Хрыстова навука і яна сістэма кантрастаў: гэты свет і гэны, жыццё і смерць, шчасце і цярпенне, чалавек і Бог, і г. д. Значыць, паняцце права кантрастаў — гэта ключ, які сапраўды надаецца для развязкі розных жыццёвых праблемаў.

Вось жа гэты ключ, гэтае паняцце кантрастаў, павінен прыдацца і беларускаму народу. Нацыянальная ідэя беларускага народа выплывае, як ведаем, з палітычна-культурнай супярэчнасці Захаду і Усходу, з кантрасту, які заходзіць між гэтымі дзвюма суседнімі з намі сіламі, якіх падкладам з'яўляюцца рознасці праваслаўя і лацінскага каталіцтва. Першае дзеіць у форме маскоўскай, а другое ў польскай. Вось жа, як сутнасць дзейнасці права кантрасту ў прыродзе агулам у тым, што яно захоўвае раўнавагу, апіраецца як бы на восі, так і ў гэтай беларускай духовай праблеме — і тут мусіць вытварацца пасярэдні тып культуры, які, трымаючыся на сваёй нацыянальнай восі, лучыў бы і асіміляваў бы элементы ўсходнія і заходнія, бо калі б задалёка пахінуўся ўбок, — на ўсход ці на захад: страціў бы раўнавагу і згінуў бы. У гэтым іменна і беларуская нацыянальная і культурная адсталасць. Час гэта зразумець і прыступіць да направы. Прыгожым і вымоўным гэтага прыкладам — украінская уніяцкая царква. І ў нас зрэалізаванне ідэі уніі рэлігійнай



вяло б да гэтага, але, як ужо мы сказалі, сёння і, магчыма, надоўга, гэта толькі тэорыя. Гэтыя ідэалы — гэта *maximum*, а нам трэба сёння тварыць *minimum* нашага, узложанага на нас гісторыяй, нацыянальнага і рэлігійнага сінтэзу, адзінства рэлігійнага і нацыянальнага.

Словам, беларускі народ, будучы раздвоены рэлігійна, духова, мусіць шукаць адзінства, мусіць шукаць свой рэлігійны і нацыянальны сінтэз. Фармальнае спалучэнне ў рэлігійнай уніі, як паказвае мінуўшчына і сучаснасць, фактычна не спалучала, але яшчэ больш уводзіла ў народ закалот і раз'яднанне. Дзеля гэтага, ніколі не спускаючы з памяці слоў Спаса: каб усе былі адно, у брацкай любові разважаючы гэтую праблему і молячыся за адзінства рэлігійнае ў беларускім народзе, адзінства гэтае належыць перадусім праводзіць у плошчы гарманійнага нацыянальнага і рэлігійнага сужыцця беларусаў каталікоў і праваслаўных, афармленне чаго адкладаючы да таго часу, калі яно сапраўды даспее.

Перадусім беларусы павінны помніць, што хрысціянства — гэта дарагі перл, якім маем даражыць і трымацца. І не павінен нас адвярнуць ад яго і той факт, што яно ў нас ужо сёння не адзінае, як было 950 гадоў таму, а падзеленае. Бо ж і цяпер часці яго, — гэта таксама перлы, і цаны сваёй яно не страціла, і падзел гэты — гэта маленькая толькі шчарбінка.

Вось жа, рахуючыся з гэтай сапраўднасцю, беларусы-каталікі-лаціннікі, беларусы-праваслаўныя і беларусы-грэка-каталікі, ці уніяты, у ўзаемных да сябе адносінах павінны трымацца *талеранцыйна*, з брацкай узаемнай спагаднасцю. Мо гэта лібералізм, рэлігійная нядбайнасць, незацікаўленне сутнасцю хрысціянства? Не. Гэта сардэчная брацкая дбайлівасць аб тое, каб наш рыгарызм вонкавы і суровыя ўзаемныя ў галіне рэлігійнай адносіны не дзялілі і не аддалялі нас узаемна яшчэ далей, гэта стараннасць, каб мы па магчымасці былі да сябе як найбліжэй і, нягледзячы на розніцы, каб як найлепш узаемна зналіся. Мы павінны памятаць, што ўсе мы дзеці аднаго Айца нябеснага, браты Сына Божага дзеля яго ўчалавечанняня, дзеці аднаго беларускага народа.

Далей, мы ў нашых узаемных адносінах павінны больш звярачваць увагі *на тое, што нас лучыць у хрысціянстве, чым на тое, што нас дзеліць*. Мо гэта індыферэнтызм? Не. Гэта таксама шчырае хрысціянскае імкненне не разыходзіцца і не дзяліцца далей, гэта сардэчнае жаданне ў любові Хрыстовай збліжацца да сябе, пазнавацца і гэтым аслабляць, выжываць і нішчыць існуючыя падзелы.

Урэшце, у жыцці нашым хрысціянскім павінны мы ўсе *выжываць чужы і хрысціянству і народу элемент палітычны*, стараючыся карыстацца сваёй беларускай мовай. Мо гэта шавінізм, фа-

шызм, таталізм? Не. Гэта расчышчэнне дарогі хрысціянству ў душу беларускага народа, гэта скіроўванне беларускага народа на яго прыродныя пункты апоры, каб ён захаваў раўнавагу і марна не згінуў. Шуканне і тварэнне беларускага нацыянальнага і рэлігійнага сінтэзу — гэта наш беларускі абавязак, узложаны на нас гісторыяй і самім Богам.

Усякая палітыка ў жыцці рэлігійным хрысціянскім, — без розніцы: свая ці чужая, — гэта дзікі нараст на целе Хрыстовым, гэта рак, які раз'ядае і нішчыць у народзе хрысціянскае жыццё. І на гэта трэба зварочваць асаблівую ўвагу. Звычайна абедзве стараны: Царква і дзяржава дрэнна выходзяць, калі гэтая апошняя для сваіх палітычных мэтаў упрагае на свае паслугі Царкву. Асабліва ж дрэнна на гэтым выходзіць жыццё хрысціянскае рэлігійнае, бо яно ў такіх выпадках звычайна гібее і замірае.

У 1054 г. наступіў падзел хрысціянства, перадусім, з прычын палітычных: візантыйскія патрыярхі адарваліся ад рымскай Апостальскай Сталіцы не толькі дзеля розніцы іншага разумення некаторых дагматаў хрысціянскіх, але і дзеля падтрымання візантыйскіх імператараў проціў Рыма. Унія 1596 г. мела ў сабе палітычную заразу, якая яе ела ўсцяж і ўрэшце заела на смерць у 1839 г. Паленне беларускіх культурных здабыткаў у Вільні езуітамі, як некаталіцкіх, і паленне такіх жа беларускіх здабыткаў і кніжак Сямашкам, як неправаслаўных, — гэта работа гэтай палітычнай заразы. А і сёння той факт, што справа Уніі не магла пад Польшчай у Зах. Беларусі стаць на належныя торы, — тлумачыцца палітыкай.

Але канчаем. Праграмай дзеля тварэння беларускага нацыянальнага і рэлігійнага сінтэзу, які можа і павінен даць пазітыўныя вынікі, павінен нам служыць гэткі сказ вялікага мысліцеля св. Аўгустына[39]: *«In dubiis — libertas, in necessariis — unitas, in omnibus — caritas»*, што значыць па-беларуску: у сумнівах — свабода, у канечных справах — адзінства, ува ўсіх — любоў.

Гэтая праграма, калі яе будзем выконваць і праводзіць у жыцці, сапраўды дапаможа беларускаму народу стварыць яго адзінства, яго рэлігійны і нацыянальны сінтэз і ў апошнім выніку давядзе да таго духовага хрысціянскага адзінства ў Беларусі, якое было 950 гадоў таму...

*1940*

# *РОДНАЯ МОВА Ў СВЯТЫНЯХ*

## ПРАДМОВА

У беларускім народзе існуюць часта самыя неразумныя і проста фантастычныя погляды што да адносінаў Каталіцкага Касцёла, да правоў жывых народных моваў у жыцці касцельным. Ёсць гэта плод векавой цемры нашага народа і паняволення яго з боку нашых сільнейшых суседзяў, на працягу цэлых вякоў карыстаючыхся рэлігіяй для сваіх палітычных мэтаў.

Вось жа мэтай маёй было змясціць некалькі артыкулаў у «Хрысціянскай думцы» і выясніць у іх падставовыя асновы адносінаў Каталіцкага Касцёла да правоў у Касцёле народных моваў агулам, а гэтым самым і правоў мовы беларускай. Думаў жа я зрабіць гэта дзеля таго, каб народ наш, які адраджаецца да новага жыцця і змагаецца за свае правы, ведаў таксама аб праве сваёй мовы ў Касцёле і, ведаючы гэта, каб імкнуўся да здабыцця гэтага права.

Пішучы гэтыя агульныя ў гэтай справе артыкулы, я напаткаў багаты матэрыял і агулам багатую літаратуру не толькі што да агульных адносінаў Касцёла да народнай мовы, але таксама што да мовы беларускай.

Гэтае багацце матэрыялу змусіла мяне пашырыць рамкі маёй скромнай працы, а таксама пашырыць думкі — выказаць агульныя падставы адносінаў Касцёла да народных моваў, у тым ліку і да беларускай, далучылася таксама думка, якая сталася думкай галоўнай маёй працы, каб выказаць беспрарыўнасць ужывання беларускай мовы ў святынях, перадусім у Каталіцкім Касцёле абодвух абрадаў на працягу ўсей нашай гісторыі.

Зменай галоўнай ідэі падчас пісання працы «Родная мова ў святынях», адсутнасцю сталага, згары ўложанага плана, тлумачыцца ў

пэўнай меры і тая часта хаатычнасць у апісванні падзеяў роднай мовы ў святынях. Пры гэтым трэба помніць, што «Родная мова ў святынях» — гэта адбітка з часопіса «Хрысціянская думка». Падчас пісання гэтай працы не раз здаралася спаткаць якую цэнную вестку, належачую да цэласці працы тады, калі той раздзел, да якога гэта вестка найбольш падыходзіла б, ужо быў аддрукаваны. Тады прыходзілася прылатаць яе на іншым, можа, часам цалком не на сваім месцы.

Вузкія рамкі двухтыднёвага часопіса, які ёсць «Хрысціянская думка», і папулярны яго характар не дазволілі мне метадам навуковым выказаць галоўныя тэзы маёй працы аб беспрарыўнасці ўжывання беларускай мовы ў святынях на працягу ўсей нашай гісторыі, а змусілі мяне спосабам звычайнай публіцыстыкі падаць прынамсі больш-менш упарадкаваныя факты, якія ўдалося мне на працягу некалькі месяцаў сабраць і якія ўсё ж служаць доказамі маёй галоўнай тэзы.

Словам, што я мог, тое зрабіў, — няхай іншыя зробяць што лепшае. А можа — дасць Бог — да справы «Роднай мовы ў святынях» і я яшчэ вярнуся!

*Кс. Ад. Ст.*
*Вільня.*
*У Дзень Усіх Святых*
*1.XI.1929.*

## ЖАРОЛЫ І АГУЛАМ ЛІТАРАТУРА, ЯКІМІ АЎТАР КАРЫСТАЎСЯ:

Брокгаузъ и Ефронъ. Энциклопедическій словарь. С.-Петербургъ, 1890–1907.

«Biełarus». Wilnia, 1914.

«Беларуская думка». Вільня, 1919.

Чихачевъ Д. Н. Вопросъ о располяченіи Костела въ прошломъ и настоящемъ. С.-Петербургъ, 1913.

Chotkowski Wł. Ks. Dr. Dzieje Zniweczenia Św. Unii na Białorusi i Litwie. Kraków, 1899.

Харламповичъ К. Западно-русскія православныя школы XVI і начала XVII вѣка. Казань, 1898.

«Homan». Wilnia, 1916–1918.

Falkowski Cz. Ks. Dr. O jubileuszu na Litwie i Rusi w 1826 r. Wilno, 1925.

I. G. Materjały do dziejów Akademji Połockiej. Kraków, 1905.



I. P. B. Ks. Czasy Nerona w XIX w. pod rządem moskiewskim czyli ostatnie chwile Unji w dyecezji Chełmskiej. Lwów, 1878.

Кипріановичъ Г. Я. Историческій очеркъ Православія, Католичества и Уніи въ Бѣлоруссии и Литвѣ. Вильна, 1899.

«Kryniсa». Wilnia, 1924–1929.

Kurczewski J. Ks. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912.

Likowski Edm. Ks. Historja Unji Kościoła Ruskiego z Kościołem rzymskim. Poznań, 1875.

Likowski Edm. Ks. Unja Brzeska. Poznań, 1896.

Likowski Edm. Ks. Dzieje Kościoła Unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX w. Część I i II. Warszawa, 1906.

Łukaszewicz J. Historja Szkół w Koronie i w Wielkiem Księstwie Litewskiem od najdawniejszych czasów do r. 1794. Tom I–IV. Poznań, 1949.

Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926.

«Маладая Беларусь». Пецярбургъ, 1913. Seryja 1. Sšytok 3.

Nowodworski M. Ks. Encyklopedja Kościelna. Warszawa, 1873–1911.

Огієнко Ів. проф. Костянтин і Мефодій. Їх життя та діяльність. Частина 1. Варшава, 1927.

«Przegląd Katolicki». Warszawa, d. 17 marca 1929 r. № 11. Art. «Kościół Katolicki a prawo do mowy ojczystej».

Przyałgowski Win. Ks. Żywoty biskupów wileńskich. T. I–II. Petersburg, 1860.

Сапунов А. Историческія судьбы Полоцкой Епархіи съ древнѣйшихъ временъ до половины XIX вѣка. Витебскъ, 1889.

Wasilewski Leon. Litwa i Białoruś. Kraków.

Владиміровъ А. П. Исторія располяченія Западно-русскага Костела. Москва, 1896.

Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кніга 2. (Выд. Інст. бел. культуры.) Менск, 1928. Art. Al. Šlubskaha: «Адносіны расейскага ўраду да беларускае мовы ў XIX ст.» С. 303–337.

Записки Іосифа Митрополита Литовскага. Т. I–III. Санкт-Петербургъ, 1883.

Жиркевичъ А. В. Изъ-за Русскага языка. Часть I–II, Вильна, 1911.

Апрача вышэй пералічаных жарол у апрацаванні «Родная мова ў святынях», асабліва ў XX веку, аўтар карыстаўся з дакументаў, якія знаходзяцца ў архіве пры бібліятэцы Т-ва «Беларускага каталіцкага выдавецтва» ў Вільні, а таксама ў многіх выпадках падаў тое, што чуў ад навочных сведкаў, што сам помніў, перажываў і чаго быў сам навочным сведкам і ўчаснікам.

## I. МОВА Ў ЖЫЦЦІ РЭЛІГІЙНЫМ АГУЛАМ

*Мова і духовае жыццё. Прырода мовы і правы яе. Мова старажыдоўская або габрэйская. Мова грэцкая. Мова лацінская. Св. апосталы славян Кірыл і Мяфодзій. Мова стараславянская і Апостальская Сталіца.*

Чалавек складаецца з дзвюх галоўных часцін: з душы — часціны невідомай і з цела — часціны відомай. Дзеля гэтага ён не толькі думае, шукае праўды, пажадае дабра, узносіць да Бога мольбы спосабам невідомым, чыста духовым, але таксама ўсе свае гэтыя духовыя імкненні патрабуе выявіць у форме відомай, у форме цялеснай.

Духовае сваё жыццё чалавек выяўляе пры помачы мовы. Не ўсе на свеце людзі маюць адну, аднолькавую мову. На свеце ёсць многа групаў людзей, што карыстаюцца рознымі мовамі.

Група людзей, маючая асобную ад іншых, сабе ўласную, мову, маючая таксама асобны характар духовы, часта розніцу ў будове цела, а таксама свае звычаі, сваю мінуўшчыну і сваю зямлю, на якой жыве спрадвеку, завецца народам.

Чалавека, а таксама і ўвесь свет, стварыў Бог. Прырода чалавека, з яе асаблівасцямі, паходзе ад Бога. Адной з гэтых асаблівасцяў чалавека, пры помачы розных прычын, што знаходзяцца за чалавекам, як клімат, гісторыя, варункі, палітычныя і інш., з'яўляецца здольнасць тварыць розныя мовы, розныя народнасці.

Такім чынам, мова кожнага чалавека, якой гаварылі яго даўнейшыя прадзеды і якой цяпер гаворыць ён сам, ёсць чалавеку цалком прыроднай і патрэбнай. Кожны чалавек мову свайго народа, да якога ён належыць, павінен шанаваць, любіць і развіваць, стараючыся, каб яна была як найбольш прыдатнай да выяўлення нашага духовага жыцця.

Чалавек, рэч зразумелая, найлягчэй можа думаць, гаварыць, пісаць, маліцца ў сваёй роднай мове. Гэтак ужо збудавана прырода чалавечая. Да сваёй мовы кожны чалавек, кожны народ мае прыроднае, святое права.

Людзі, народы павінны шанаваць адны адных мову і правы карыстацца гэтай мовай. Дзеля таго, аднак, што чалавек, дзякуючы грэху першароднаму, агранічаны ў сваім розуме, а таксама мае склоннасці да злога, ён вельмі часта, дзеля розных няслушных прычын, адну якую мову, пераважна сваю ўласную, уважае за мову адзіную, найлепшую, а мовам іншых народаў адмаўляе нат права існавання.

Найбольш важным і патрэбным з'яўляецца карыстанне роднай мовай у святынях, у дамах малітвы, дзе адбываецца гутарка душы чалавека з Богам. Але і тут чалавек, дзеля толькі што ўспомненых прычын, чалавеку перашкаджае.



Дзеля справы адкуплення роду людскога Бог выбраў, як ведаем, народ жыдоўскі. Гэтаму народу паверыў Бог сваю месіянскую думку. Гэты народ захаваў найчысцейшае, у параўнанні з іншымі прад прыходам Хрыстуса народамі, паняцце Бога і найбольш дасканальны спосаб малітвы і агулам набажэнства.

Стварылася, такім чынам, з бегам часу ў жыдоўскім народзе перакананне, што мовай, якой трэба карыстацца ў святыні, ёсць мова толькі жыдоўская, габрэйская, бо ёй гаворыць выбраны Богам народ, бо ў ёй напісаны святыя кнігі.

Але гэткія думкі жыдоў аб сваёй мове не былі слушны. Няслушнасць іх паказала само жыццё і практыка самых жа жыдоў. Жыды, папаўшы ў вавілонскую няволю, пачалі там забывацца старую родную габрэйскую мову, а на яе месца пачалі прымаць мову арамейскую ці халдзейскую. Часць жыдоў асталася на чужыне назаўсёды і была прымушана карыстацца агулам у жыцці, а таксама і ў святынях гэтай чужой, але ўжо прысвоенай, новай. Другая часць жыдоў вярнулася на бацькаўшчыну. Гэтыя жыды, праўда, Біблію мелі ў сваёй мове і ёй карысталіся ў святынях, але ўжо не ўсё з яе разумелі і былі прымушаны для выяснення карыстацца таксама гэтай мовай новай арамейскай.

Урэшце жыды расцерушыліся па ўсей Грэка-Рымскай дзяржаве. Мову сваю старадаўнюю пазабываліся цалком. Біблію ўжо мусілі тлумачыць на мову грэцкую і ёй карыстацца ў сінагогах.

За часаў Хрыста ўсюды на аграмадных землях Рымскай дзяржавы панавала пераважна мова грэцкая, мова заваяванай рымлянамі ў 146 г. прад Хр[ыстом] краіны. Гэта была мова навукі і культуры, мова грамадскага жыцця агулам. У гэтай мове, за выняткам Евангелля св. Матэвуша, былі напісаны кнігі Новага Закона. Гэтая мова сталася таксама мовай службы Божай не толькі на ўсходзе, але і на рымскім заходзе.

Хрысціянства пачало шыбка пашырацца. Яно хутка пачало не мясціцца ў межах грэцкай культуры і мовы. Яно дастаецца туды, дзе грэцкай мовы не разумелі, — на землі мовы лацінскай. Паўстала патрэба перакладу святых кніг, а таксама і агулам набажэнства на мову лацінскую. У палове ці пад канец II веку такія пераклады ў гэтай мове паяўляюцца.

Вось жа, заместа адной, гэтыя тры мовы: габрэйская, грэцкая і лацінская здабылі сабе галоўнае права доступу ў святыні. Знайшліся людзі, якія права гэтых моваў у жыцці рэлігійным хацелі зрабіць выключным. Яны гэтых правоў адмаўлялі іншым мовам,

апіраючыся таксама і на тым, што надпіс над укрыжаваным Хрыстом: — Езус Назарэнскі Кароль Жыдоўскі — Пілат загадаў зрабіць у гэтых жа трох мовах.

Але жыццё ламала быццам непарушныя, выключныя правы гэтых трох моваў. Хрысціянства шырылася штораз далей. Апосталы, місіянеры неслі сцяг навукі Хрыста ўсцяж да новых народаў. А тут прыходзілася забывацца аб прынятых ужо ў жыцці рэлігійным мовах і замест іх карыстацца зразумелай, роднай мовай кожнага народа.

Прыйшла чарга на мову славянскую. Святыя браты Кірыл і Мяфодзій, родам з грэцкага места Салуня, дзе было многа славян і дзе мова славянская была шырока ведама, апрача сваёй вялікай працы місійнай у іншых краёх, як сярод хазараў, каля 863 г. цалком пасвяцілі сябе працы сярод заходніх славян у Маравіі. Святое Пісанне, а таксама і кнігі літургічныя пераклажылі яны на славянскую мову. Слова Божае таксама гэтыя вялікія славянскія апосталы казалі па-славянску.

Такая праца гэтых апосталаў была цяжкой і небяспечнай. Народ, разумеючы ў роднай мове слова Божае, валам ішоў за сваімі апосталамі. А тым часам караніліся ўжо там немцы. Нямецкае духавенства для палітычных мэтаў накідала там славянам чужую нямецкую мову. А цяпер немцы, убачыўшы, што праца іх дарэмная, пачалі рознымі спосабамі змагацца з славянскімі апосталамі. Прыйшлося святым братом нямала зазнаць ад нямецкага духавенства і фальшывых даносаў да Папежа, і здзекаў, а нават і турмы ад нямецкіх уладаў за сваю апостальскую працу.

Урэшце, Папеж Мікалай († 867), каб даведацца, што сапраўды робяць гэтыя апосталы, выклікаў іх у Рым. Гісторыкі пішуць, што святыя браты прыбылі туды на пачатку 868 г., калі Папежам быў ужо Адрыян II. Цяжкія тут былі дні для апосталаў. Мелі яны і тут многа ворагаў. Аднак праўда званяла. Папеж аднёсся да іх дужа добра, справу разгледзеў і прызнаў слушнасць за славянскімі апосталамі. Галава хрысціянства мове славянскай прызнаў права ў святынях хрысціянскіх. Гэта быў выпадак, маючы вялікае гістарычнае значэнне як для жыцця рэлігійнага, так і агулам для ўсей славянскай культуры.

Мы вышэй сказалі, што мова кожнага народа, як прыродная здольнасць выяўляць духовае жыццё чалавека, а гэтым развіваць яго, і як спосаб падносіць гэтага чалавека да Бога, — мае прыроднае права ў святыні. Праўду гэту, як бачым, пацвердзіў Хрыстоў наменік, галава ўсяго хрысціянства, Папеж Адрыян II, прызнаючы за святымі апосталамі Кірылам і Мяфодзіем поўнае права карыстацца ў жыцці рэлігійна-народным жывой славянскай мовай.



Аб гэтым усім мы, беларусы-каталікі, павінны заўсёды помніць. Мы, жадаючы правоў у нашых святынях для сваёй беларускай мовы ў дадатковых набажэнствах, адначасна павінны развіваць у сабе штораз большую міласць да сусветнага Каталіцкага Касцёла, які, моў, добрая маці сваіх дзетак, усе народы і ўсе мовы прызнае, шануе і гадуе пад сваёй мудрай і добрай апекай.

## II. МОВЫ ПАМЁРШЫЯ І ЖЫВЫЯ

*Мовы габрэйская, грэцкая, лацінская як памёршыя і жыццё рэлігійнае. Новыя мовы жывыя і памёршыя. Мовы памёршыя і жывыя і адносіны да іх Касцёла. Жывыя мовы сучасных народаў і Касцёл.*

Першай мовай, на першы погляд, маючай поўнае і святое права ў святыні, была старажыдоўская, габрэйская мова. Гэта была мова выбранага народа. Гэта была мова, у якой былі напісаны святыя кнігі Старога Закона і якой быў хвалены Бог адзіны і праўдзівы.

З бегам часу старажыдоўская мова цалком выйшла з жыцця свецкага, з жыцця культуры і палітыкі, перастала быць жывой мовай і сталася сапраўды мовай памёршай. У жыцці свецкім мова гэта цалком перастала жыць, а перайшла выключна да жыцця рэлігійнага, да жыцця малітвы і агулам набажэнства. Дзеля гэтага яшчэ больш у многіх тады стварылася перакананне, што габрэйская мова адна толькі і здатная да жыцця рэлігійнага.

Аднак жыццё гаварыла што іншае. Нават самі жыды, якія, з аднаго боку, заядла баранілі старадаўняй сваёй мовы ў набажэнстве, з другога боку, адарваныя ад сваёй бацькаўшчыны, саткнуўшыся, яшчэ падчас вавілонскай нявол, з чужынцамі, а пасля расцярушаны па Грэка-Рымскай імперыі, пазабываліся родную мову, панавучаліся чужой. Святыя кнігі ўжо паперакладалі на мову грэцкую.

За якіх гадоў 130 да нараджэння Хрыста паўстаў ужо поўны пераклад Бібліі з мовы старажыдоўскай на грэцкую. Пераклад гэты, прыняты таксама і ў Каталіцкім Касцёле, завецца перакладам 72-х перакладчыкаў, або *Septuaginta*.

Гэткім чынам, апрача мовы габрэйскай, якая сталася мовай так званай нежывой, памёршай і якая адна толькі мела быць мовай малітвы, у рэлігійнае жыццё ўвайшла таксама мова грэцкая. Мова гэта ўвайшла ў рэлігійнае жыццё не толькі Старога Закона, але таксама і Новага. Мовай грэцкай, з выняткам Евангелля св. Матэву-

ша, напісаны ўвесь Новы Закон, мовай грэцкай выключна, у пачатку хрысціянства, як на грэцкім усходзе, так і на лацінскім заходзе, адбывалася бяскроўная ахвяра Новага Закона Імша святая.

Такім чынам, паволі грэцкая мова, як і габрэйская, таксама сталася мовай літургічнай, мовай святой, асабліва ад таго часу, калі на абшарах грэцкай мовы і культуры паўсталі новыя мовы і новыя народы і калі мова грэцкая застыла ў сваіх формах, перастала развівацца, выйшла з шырэйшага ўжыцця і сталася, так як і мова габрэйская, мовай нежывой, памёршай.

Урэшце, больш-менш пачынаючы з II–III веку па Хрысце, яшчэ за часаў палітычнага панавання на грэка-рымскіх абшарах рымлян, на захадзе Рымскай імперыі развілася і запанавала мова лацінская. Грэцкая мова ўжо была не ўсюды і не ўсім даступная. Зарадзілася патрэба кніг святых у лацінскай мове, якія і паяўляюцца: у II в. пераклад, які зваўся *Itala*, а ў пачатку в. V — *Vulgata*. Лацінская мова ў паўдзённай і заходняй Еўропе ў хуткім часе сталася мовай культуры, навукі, палітыкі, а таксама і мовай набажэнства. Стварылася перакананне, што мова гэта таксама святая, літургічная. Асабліва сільна гэта перакананне пашырылася, калі па ўпадку Заходняй Рымскай імперыі (476) на землях лацінскай культуры паявіліся новыя мовы, новыя народы, новыя дзяржавы і калі мова лацінская ўжо ў веку VII сталася мовай памёршай, нежывой, як габрэйская і грэцкая[1].

З пашырэннем хрысціянства, пры помачы вялікіх і святых апосталаў славян Кірыла і Мяфодзія, славянская мова, як ведаем, таксама сталася літургічнай. На абшарах агульнаславянскай мовы паўсталі паволі розныя асобныя народы з асобнымі мовамі. Мова стараславянская таксама сталася мовай памёршай, мовай толькі малітвы, мовай літургіі, службы Божай. Завецца яна цяпер царкоўнаславянская. Паўстала гэтак, як бачым, чацвёртая мова, здабыўшая сабе права ў святыні.

Але не канец на гэтым. У меру таго, як шырылася хрысціянства і напаткала на сваёй пераможнай падарожы новыя народы, паўставала патрэба ўжывання ў жыцці рэлігійным новых народных моваў.

Так яшчэ ў якім II в. паяўляюцца пераклады святых кніг на мову сірыйскую, у пал. IV в. — пераклады на даўнейшую егіпецкую мову каптыйскую, у веку IV — на мову эфіопскую, ці абісінскую, у тым жа IV в. — на мову гоцкую, у веку V — на армянскую, у VI в. — на мову грузінскую, за часаў Магамета ў веку VII на арабскую. Мелі таксама ў в. IX кнігі святыя і літургію ў роднай мове: персы, туркі, хазары і інш.

Некаторыя з гэтых моваў, калі на іх месца выраслі новыя, з часам таксама выйшлі з штодзённага ўжыцця і ўжо ў в. IX сталіся памёршымі, і ўжыванне іх агранічана таксама толькі да літургіі, як мова сірыйская, каптыйска, эфіопская ці абісінская і армянская. Усе вышэй азначаныя памёршыя мовы з жыцця штодзённага выйшлі, адышлі бадай выключна да жыцця рэлігійнага, і то ў значэнні агранічаным. Толькі ў гэтых памёршых мовах можна сёння адпраўляць св. Імшу і спаўняць святыя сакраманты. Да гэтых святых чыннасцяў моваў жывых, моваў цяпер істнуючых народаў, касцельнае права не дапускае.



Гэткага права Касцёл св. трымаецца перадусім дзеля таго, каб праз нежывыя мовы, якія ўжо не змяняюцца, асабліва праз мовы старых вялікіх культур, лацінскую і грэцкую, захаваць відомую лучнасць і еднасць між вернымі розных народаў і розных краёў, а таксама каб праз гэтыя нязменныя мовы захаваць аднастайнасць істоты хрысціянскага набажэнства і чыстасць яго зместу. Каб усе каталіцкія народы, якія знаходзяцца ўва ўсіх пяцёх часцях свету, пачалі адпраўляць набажэнства кожны па-свойму, то, зразумелая рэч, што не было б еднасці, і змест, самыя думкі малітваў, дзеля зменнасці кожнай жывой мовы, хутка былі б занячышчаны і маглі б нават адбегчы ад праўды, ад навукі апостальскага, адзінага, Каталіцкага Касцёла. Труднасць жа тая, што верныя, слухаючы набажэнства ў незразумелай мове, не карыстаюць з яго, не ёсць труднасцю. На гэта Св. Касцёл дае права, каб тое ўсё ў набажэнстве, што незразумелае з прычыны незразумелай мовы, было выяснена і тлумачана роднай мовай кожнага народа.

Недапусканне жывых моваў да самой літургіі і сакрамантаў не ёсць, праўда, догматам, асновай веры, якой змяніць ніхто не можа, але ёсць праўнай практыкай, якой Апостальская Сталіца дзеля вышэйвымененых прычын здаўна трымалася і трымаецца сёння і, рэч зразумелая, далей будзе трымацца.

Але, як мы ўжо сказалі, Касцёл дапускае жывыя мовы ўсіх народаў у так званыя дадатковыя набажэнствы. Гэта значыць, што на кожную мову можа быць пераложана Св. Пісанне, напісаны малітвеннікі, спеўнікі, у кожнай мове можа быць гаворана казанне ў святыні.

Азначыўшы такім чынам месца ў святыні як для нежывой, так і для жывой мовы, Касцёл захаваў сярод сваіх верных і адзінства і разнароднасць, што ёсць дужа мудрым, справядлівым і прыгожым.

Народы паўстаюць і гінуць, родзяцца і ўміраюць — як усё на свеце. Народаў на ўсей зямлі ёсць дужа многа. Вось жа кожнага з іх мове Касцёл прызнае права ў дадатковых набажэнствах. Аднак бываюць такія мясцовыя варункі, што правесці гэтае права ў жыццё нялёгка. Каб гэтага дабіцца, шмат трэба намазоліцца і нацярпецца.

На перашкодзе гэтаму стаіць ані Касцёл, ані яго навука, але звычайнае людское самалюбства і прыземныя людзей і народаў інтарэсы. Звычайна так бывае, што народ дужэйшы, дзеля звычайнай нізкай палітыкі, не дапускае ў Касцёл мовы народа слабейшага. Але калі які народ сапраўды хоча пазнаць навуку Хрыстуса і дзеля гэтага сапраўды жадае сваёй мовай карыстацца ў святыні ў дадатковых набажэнствах і слухаць у сваёй мове казання, навук, то, пры помачы галавы Касцёла, Св. Айца, права гэтае здабудзе.

Яшчэ бадай на нашых вачах атрымалі права ў Касцёле розныя народы, якія былі заснуўшы, а пасля пачалі адраджацца. Нашы суседзі літоўцы, якія мусілі доўга карыстацца ў Касцёле мовай польскай, сёння ўжо карыстаюцца мовай сваёй роднай. Чэхі, якія вякамі мусілі карыстацца чужой нямецкай мовай, а славакі вугорскай, сёння маюць сваю. Здабылі таксама не так даўно права сваёй мовы ў святыні славенцы, харваты, краваты, часткова ўкраінцы і інш. Жадаюць сваёй мовы ў святыні і працуюць у гэтым кірунку македонцы ў Грэцыі, каталонцы ў Іспаніі. Каталонцы астатнім часам, з блаславенства Св. Айца, права сваёй мовы ў Касцёле, агулам кажучы, здабылі ўжо, а толькі яшчэ дробныя непаразуменні з іспанцамі маюць у гэтай справе.

Св. Айцец Піус XI, цяпер шчасліва кіруючы Св. Касцёлам, мае вялікую пашану для кожнай мовы. Прыкладам гэтага можа служыць хоць бы тое, што ён не толькі пасылае ў далёкія паганскія краі місіянераў, знаючых тамтэйшыя мовы, што Касцёл рабіў заўсёды, але таксама ў новапаўстаўшых там дыяцэзіях на біскупаў свяціць людзей з тамтэйшых народаў, як у Індыі, Хінах [Кітаі], Японіі.

Мы, беларусы, пачаўшы астатнімі гадамі адраджацца агулам, жадаем таксама сваёй мовы і ў Касцёле. Права для сваёй мовы ў Касцёле атрымаем, можа, і неўзабаве. Але пры гэтым мы павінны помніць, што абавязкова для гэтага патрэбна з нашага боку любоў і вернасць Касцёлу і жыццё паводле яго святой навукі.

## III. РОДНАЯ МОВА Ў СВЯТЫНЯХ І СВЯТОЕ ПІСАННЕ

*Стары Закон. Евангелле. Апакаліпсіс. Апостальскія дзеі. Св. Павал апостал.*

З усяго раней сказанага мы пазналі, што агулам мова кожнага народа, як духовая здольнасць яго выяўляць думкі і праз іх узносіцца да Бога, мае права ў святыні.

Пазналі мы таксама, што дзеля захавання відомай еднасці між вернымі Касцёла і дзеля захавання чыстаты і праўдзівасці зместу



самога набажэнства, паводле касцельнага права Імша св. і св. Сакраманты павінны адбывацца толькі ў якой ўжо сёння нежывой мове, а ўсё іншае набажэнства, так званае дадатковае, а таксама і навукі ў Касцёле могуць адбывацца ў жывой мове кожнага народа.

Снуючы ж далей думкі аб праве ўжывання роднай мовы ў святыні, прыгледзімся, што аб гэтым знаходзім мы ў Св. Пісанні.

Святое Пісанне — гэта кнігі, напісаныя спрадвеку з натхнення Божага. Кнігі гэтыя падаюць чалавеку неабдымную, праўдзівую навуку аб тым, як чалавек мае жыць, у што мае верыць, каб асягнуць сваю астатнюю мэту — Бога. Перахаваць чыстай навуку Св. Пісання і неабмыльна падаваць яе людзям з волі Хрыстуса належыць да святога Каталіцкага Касцёла.

Прыгледзімся спярша, што аб роднай мове ў святыні кажуць нам святыя кнігі, напісаныя да прыходу Хрыстуса, а якія завуцца Старым Законам.

І так, у псалмах спатыкаем мы гарачы заклік да ўсіх краёў, да ўсіх народаў, да зямлі ўсей служыць Богу, аддаваць Яму чэсць і праслаўляць Яго:

Зноў жа ў кнізе прарока Ісая спатыкаем прароцтвы аб тым, што народы прыйдуць да Хрыстуса як да Збаўцы святой і служыць Яму будуць верна.

«Уся зямля няхай табе кланяецца і няхай пяе табе, няхай псалом пяе твайму іменню» (Пс. 65, 4).

«Пяіце Пану песню новую, пяіце Пану ўся зямля» (Пс. 95, 1).

«Слаўце Пана ўсе краі, слаўце яго ўсе народы» (Пс. 116, 1).

«І будуць яму пакланяцца ўсе валадары, усе народы служыць яму будуць» (Пс. 71, 11).

«І пойдуць многія народы і скажуць: ідзём і ўступім на гару Пана Бога Якубовага і навучыць нас дарог сваіх і хадзіць будзем дарогамі яго» (Із. 2, 3).

«У гэты дзень роду Есэ, што ёсць на знак народаў, народу маліцца будуць» (Із. 11, 10).

Тыя ж самыя думкі аб роднай мове ў набажэнстве, што і ў Старым Законе, толькі ўжо шмат ясней выражаныя, спатыкаем мы ў кнігах Новага Закону. І так, напрыклад, у Евангеллях чытаем:

«Ідучы ж навучайце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца, і Сына, і Духа Святога» (Мат. 28, 29).

«І казаў ім: ідучы на ўвесь свет, апавяшчайце Евангелле ўсяму стварэнню» (Мрк. 16, 15).

«Каб у імя Езуса хілілася ўсякае калена: нябесных, зямных і падземных, каб усякая мова вызнавала, што Пан Езус Хрыстус ёсць у хвале Бога Айца» (Філіп. 2, 10).

«...Няма паганца і жыда... чужынца і татарына, нявольніка і вольнага, але ўсё і ўва ўсім Хрыстус» (Колос. 3, 11)[2].

«...Эваннелле, каторае вы чулі, апавяшчаецца ўсім у стварэнні, што ёсць пад небам, а якой я Павал слугой стаўся» (Колос. 1, 23).

А як прыгожа і выразна аб роднай мове ў набажэнстве гаворыць кніга Апакаліпсіс (аб'яўленне) св. Яна:

«І пяялі песню, кажучы: годны ёсць, Пане, узяць кнігу і адчыніць пячаць яе, бо ёсць Ты забіты і адкупіў нас Богу праз кроў тваю — з усяго пакалення і мовы, і плямёнаў і народаў» (Апак. 5, 9).

«І сказаў мне: мусіш зноў праракаваць плямёнам і народам, і языкам, і валадарам многім» (Апак. 10, 11).

«Пасля бачыў натоўп вялікі, якога злічыць ніхто не мог, — з усіх народаў, і пакаленняў, і языкоў, стаячых прад тронам, і прад тварам Баранчыка, адзетыя ў белае адзене і пальмы ў руках іх» (Апак. 7, 9).

«І бачыў я другога анёла, лятучага праз сярэдзіну неба, маючага вечнае Евангелле, каб апавяшчаў яе на зямлі прабываючым і ўсяму народу, і пакаленню, і языку і племені» (Апак. 14, 6).

Нямала кажуць нам таксама аб роднай мове ў святыні «Апостальскія Дзеі», якія апісваюць нам зыход на апосталаў Духа Святога і надзяленне іх дарамі прамаўляць нязнанымі ім дагэтуль мовамі:

«...І ўсе напоўніліся Святым Духам і пачалі гаварыць рознымі мовамі паводле таго, як даваў ім прамаўляць Дух Святы. Былі ж у Іерусаліме прабываўшыя жыды, людзі пабожныя з усіх народаў, якія ёсць пад небам. Калі стаўся гэты шум, збеглася грамада і астаўбянела, бо кожны чуў іх гаворачых яго мовай. І здумеліся яны ўсе, дзівіліся і казалі: ці ж вось гэтыя ўсе, што гаворать, не ёсць галілейцы? Дык як жа мы кожны чуем нашую мову, у якой мы нарадзіліся? Парты і меды, і эляміты, і каторыя жывуць у Месапатаміі, у Іудзеі і Кападоцыі, у Понце і Азіі, у Фрыгіі і Памфіліі, у Егіпце і ў краёх Лівіі, што каля Цырэны і прыбыўшыя з Рыму, таксама жыды і празэліты, крэты і арабы, — чуеш ты іх гаворачых нашымі мовамі вялікія справы Божыя» (Ап. дз. 2, 4–11).

«А калі Павал усклаў на іх рукі, зышоў на іх Дух Святы і гаварылі мовамі і праракавалі» (Ап. дз. 19, 6).

Ужо з гэтых слоў Св. Пісання, якія так заклікаюць усе народы да Бога і якія праракуюць, што і тыя народы, якія Бога не знаюць, прыйдуць да Яго і пакланяцца Яму, ясна бачым, што кожны народ у жыцці сваім рэлігійным мае права карыстацца сваёй роднай мовай. Чалавек істота разумная. Праслаўляць Бога і лепш пазнаваць, маліцца да Яго, жыць жыццём сапраўды Божым, апавяшчаць Бога другім — можна толькі карыстаючыся роднай зразумелай мовай.



Гэта ўсё сапраўды ясна. Аднак мусім тут яшчэ змясціць, бадай, гэты 14-ты раздзел з першага ліста св. Паўла да карынфян. У гэтым раздзеле Апостал шырока і глыбока тлумачыць, якое мае месца і значэнне родная, зразумелая мова ў навучанні слова Божага, у жыцці духовым агулам. Вось што гаворыць аб гэтым Апостал народаў:

«Ідзіце за міласцю, здабывайце дары духовыя, але найбольш, каб прарaкавалі. Бо хто гаворыць мовай (нязнанай), не людзям гаворыць, але Богу, бо ніхто не слухае, духам жа гаворыць ён таямніцы. Бо хто прарaкуе, гаворыць людзям, каб збудаваць іх, і напомніць, і пацешыць. Хто гаворыць мовай — сабе будуе, а хто прарaкуе — Касцёл Божы будуе. Я ж жадаю, каб усе вы гаварылі мовамі, але яшчэ больш, каб прарaкавалі. Бо большы, што прарaкуе, як той, што гаворыць мовамі, хіба што тлумачыў бы, каб Касцёл атрымаў збудаванне. Цяпер жа, браты, калі я да вас прыйду і буду гаварыць (нязнанымі) мовамі, чым карысны вам буду, калі не буду вам гаварыць або праз аб'явы, або праз пазнанне, або праз прароцтва, або праз навуку? Таксама тое, што жыцця не мае, а выдае голас, як жалейка, або цытра, калі б яны не выдавалі розных тонаў, то як можна было б пазнаць тое, што на жалейцы або на цытры іграецца? Таксама, калі б труба давала голас няведама які, хто ж будзе прыгатаўляцца да бітвы? Таксама і вы, калі б праз мову не далі яснай навукі, як будзе пазнана тое, што гаворыцца? Бо гаварыць будзеце на вецер. Так многа, напрыклад, ёсць розных моваў на гэтым свеце і ніякай няма без слоў. Дык калі б я не ведаў значэння слова, чужынцам буду таму, каму гавару і каторы гаворыць — мне будзе чужынцам.

Так і вы, здабываючы духовыя дары, старайцеся ўзбагаціцца для збудавання Касцёла. І затым, хто гаворыць мовай, няхай моліцца, каб зразумелі яго. Бо калі б я малюся мовай (нязнанай), моліцца дух мой, але розум мой астаецца без карысці. Дык што ж? Маліцца буду духам, маліцца буду і розумам; пяяць буду духам, пяяць буду і розумам. Урэшце, калі б ты славіў Бога духам, як скажа: амін на тваё бласлаўленне, хто з простага народу? Бо не ведае, што гаворыць. Ты, праўда, добра падзяку чыніш, але другі не карыстае. Богу майму дзякую, што [да] ўсіх вас мовай гавару. Але ў Касцёле валей мне пяць слоў сказаць у маім зразуменні, каб і другіх навучыць, як дзесяць тысяч слоў мовай (незразумелай). Браты, не будзьце розумам дзеці, але злосцю будзьце дзеці, розумам жа дасканальныя будзьце. У законе напісана: чужымі мовамі і чужымі вуснамі буду гаварыць гэтаму народу, ды і так мяне не паслухаюць, кажа Госпад. Дык мовы ёсць знакам не для верных, але для няверных, а прароцтвы не для няверных, але для верных. Дык калі б увесь Касцёл сабраўся разам і ўсе гаварылі б мовамі, калі б увайшлі простыя людзі або няверныя, ці ж не сказалі б, што вы адышлі ад розуму? А калі б усе прарака-

валі, ды ўвайшоў бы хто няверны або просты чалавек, — яго ўсе пераконваюць, яго ўсе асуджаюць, скрытасці сэрца яго становяцца яўнымі і так упаўшы на твар паклоніцца Богу, вызнаючы, што сапраўды Бог ёсць у вас. Дык што ж, браты? Калі вы збіраецеся і ў кожнага з вас ёсць песня, ёсць навука, ёсць аб'ява, ёсць мова, ёсць тлумачэнне, усё для збудавання няхай будзе. Калі гаворыць хто (чужой) мовай, няхай па двух, або найбольш па трох, і кожны паасобку, а адзін няхай тлумачыць. А калі б не было каму тлумачыць, няхай маўчыць у Касцёле, а гаворыць самому сабе і Богу. Прарокі ж няхай гавораць па двух або па трох, а іншыя няхай разважаюць. Калі б што іншаму з сядзячых аб'яўлена было, першы няхай замоўкне. Бо можаце ўсе па адным праракаваць, каб усе вучыліся і ўсе былі напомнены, і духі прарокаў падданыя ёсць прарокам. Бо не ёсць Бог нязгоды, але супакой... І так, браты, старайцеся праракаваць, але і мовамі гаварыць не забараняйце. А ўсё няхай адбываецца прыстойна і паводле парадку» (1 Кар. 14, 1–33; 39–40).

З усяго вышэй сказанага бачым, як адно з жарол нашага духовага жыцця, Святое Пісанне, вучыць нас аб карыстанні ў святыні і агулам у набажэнстве роднай мовай кожнага народа. Астаецца нам толькі, пры помачы св. Касцёла, як найвышэйшага нашага вучыцеля, добра пазнаваць Божую навуку Св. Пісання і карыстацца з яе ўва ўсім жыцці нашым.

## IV. РОДНАЯ МОВА Ў СВЯТЫНЯХ І КАСЦЁЛ КАТАЛІЦКІ

*Агульны характар Касцёла. Атокар Прогаска. Св. Ян Хрызостан. Св. Сава. Св. Баніфацый. Касцельныя Сіноды. Саборы агульныя: IV Лятэранскі і Трыдэнскі. Кодэкс Кананічнага Права. Каталонцы. Касцёл у місійных краінах.*

Пазналі мы ўжо, як на справу ўжывання роднай мовы ў жыцці рэлігійным глядзіць Св. Пісанне. Даведаліся мы, што гэтае жарало Божай праўды не толькі заклікае да Бога ўсе краі і народы, але часта, як гэта рабіў св. Павал апостал, заклікае перадусім пастыраў карыстацца ў выкладанні Хрыстовай навукі мовай, зразумелай слухачам, мовай роднай кожнага народа.

Але ведаем мы таксама, што разумець Св. Пісанне маем не так, як нам здаецца, а так, як вучыць найвышэйшы вучыцельскі ўрад Хрыстоў на зямлі, св. Касцёл Каталіцкі. Ён ёсць адзіным вучыцелем і выкладнікам навукі Божай.

Такім чынам належыць нам цяпер запазнацца аб справе ўжывання роднай мовы ў святынях з навукай Касцёла.



Касцёл наш святы, апрача яго розных іншых прыметаў, ёсць каталіцкім, што значыць паўсюдным. Галоўная мэта яго — гэта пацягнуць пад сцяг свой не толькі ўсіх людзей, як адзінак, але таксама ўсе грамадзянствы, усе народы. *«Ідучы навучайце ўсе народы»...* казаў Хрыстус апосталам, пасылаючы іх на свет апавяшчаць там Божую сваю навуку.

Дык ужо з гэтага агульнага характару Касцёла відаць, што ён не можа адкідаць аніякай мовы, але мовай кожнага народа мае карыстацца для пашырэння на свеце навукі нашага Збаўцы.

А калі бліжэй прыгледзімся да гэтай справы, дык лёгка пераканаемся, што так ёсць сапраўды. У гісторыі Касцёла знойдзем нямала фактаў, якія ясна сведчаць аб тым, што Касцёл Каталіцкі прызнае мове кожнага народа права ўжывання ў святынях. Такую навуку Касцёла ў сільных і выразных словах выказаў нядаўна памёршы выбітны каталіцкі біскуп вугорскі Атокар Прогаска. *«Любімо валадарства Божае!* — казаў ён. — *У ім знаходзяцца народы, расы і мовы; шануймо іх. Прамаўляймо такой мовай, у якой нас разумеюць. Станьмо на вышыні Касцёла Апостальскага».* У гэтых словах, што да права роднай мовы ў святыні, маем навуку і практыку каталіцкага Касцёла ад пачатку яго існавання аж да сённяшняга дня.

Яшчэ на зары Касцёла, падчас зыходу на апосталаў Святога Духа, калі прамаўляць яны пачалі рознымі мовамі, калі кожны *«чуў іх гаворачых у сваёй мове»*, ужо ясна бачым, якія маюць быць адносіны Касцёла да мовы кожнага народа. Ужо з гэтага найдаўнейшага факта гісторыі Касцёла бачым, што адносіны яго да роднай мовы народаў маюць быць адносінамі маці да дзяцей сваіх.

Вось жа прыпомнім тут тыя здарэнні з жыцця Касцёла, у парадку храналагічным, якія датыкаюць справы ўжывання ў святынях роднай мовы розных народаў.

І так, вялікі айцец Касцёла, св. Ян Хрызостан (Залатавуст) († 407), арцыбіскуп Царградскі, готам, якіх тады было нямала ў сталіцы, прызначыў асобную святыню, а духоўнікамі таксама назначыў ім прыродных готаў (германцаў), каб яны маглі адпраўляць набажэнствы і прамаўляць да готаў у іх роднай мове. Гэты вялікі святы і сам таксама прамаўляў да готаў праз перакладчыка. На заканчэнне аднаго такога свайго казання ён між іншым казаў:

«Хацеў бы я, каб былі тут няверныя і пачуўшы, што тут чыталася, зразумелі сілу Укрыжаванага. Навука рыбаловаў ззяе святлей за сонца, і не толькі ў Іудзеі, але і ў гэтых чужынцаў у іх мове, як вы цяпер чулі; скіфы, фракійцы, сарматы, маўры, індыйцы і тыя, што жывуць на краі свету, разважаюць, пераклаўшы кожны на сваю мову, слова Божае».

Цікавую і важную таксама вестку аб роднай мове ў святыні спатыкаем у апісанні жыцця святога Савы († 532). Гэты святы добра разумеў, што для пашырэння на свеце Св. Евангелля, для большага і лепшага яе пазнання трэба карыстацца жывой народнай мовай. З жыцця гэтага святога даведваемся, што ён адбываў набажэнствы ў родных мовах для грэкаў, армян і грузінаў.

Многа таксама ў гэтай справе гаворыць і факт наступны. Св. Баніфацый, апостал Нямеччыны, у 743 г. у пісьме пытаўся Папежа Рыгора VII, ці важны хрост, адбыты ў мове якой паганскай? Адказ быў пацвярджаючы.

Але ідзём далей. У 794 г. у Франкфурце адбыўся касцельны сінод, які, між іншымі справамі, мусіў таксама сказаць сваё слова і аб ўжыванні роднай мовы ў Касцёле. Вось жа на гэтым сінодзе ў прысутнасці папескіх прадстаўнікоў была прынята пастанова: «Каб ніхто не верыў у тое, што Бога хваліць можна толькі ў трох мовах, бо ў кожнай мове можна маліцца Богу і чалавек будзе выслуханы, калі ён справядліва чаго просе».

Пасля гэтай важнай пастановы жывыя мовы народаў яшчэ больш знаходзілі месца ў святынях у Заходняй Еўропе. Але спатыкаем яшчэ нямала сінодаў, пастановы якіх яшчэ выразней малююць гэтую справу.

На Сінодзе ў Ахене ў 801 г. пастаноўлена, «каб кожны духоўнік штосвята і штонядзелі выясняў Евангелле народу». Аб'яснення ж гэтага, рэч зразумелая, даканаць можна толькі ў зразумелай народнай мове.

Сінод у Магунцыі ў 813 г. пастанавіў: «Няхай духоўнікі заўсёды заахвочваюць народ хрысціянскі вучыцца сімвалу і малітвы Панскай, а хто не ўмеў бы інакш, няхай гэтага вучыцца ў сваёй мове».

А Сінод 847 г. у тым жа месцы гэткі дае загад духавенству: «Каб кожны яўна стараўся перакладаць тыя самыя казанні на людовую раманскую, або нямецкую мову, каб тым лягчэй усе маглі зразумець, аб чым гаворыцца».

Мусім тут таксама прыпомніць, што ў 868 годзе, як ведаем, Папеж Адрыян II св. апосталам славян — Кірылу і Мяфодзію — дазволіў як найшырэй карыстацца ў набажэнстве народнай славянскай мовай.

Такім чынам, як бачым, за першыя VIII–IX стагоддзі па Хрыстусе жывыя мовы розных народаў як на Усходзе, так і на Захадзе, асабліва ў казаннях, мелі шырокі ўжытак у святынях з дазволу, а часта і рады Св. Касцёла і яго кіраўнікоў Папежаў.

У пазнейшым часе ў розных краёх спатыкаем яшчэ больш выразныя пастановы Касцёла ў гэтай справе. З 1217 г. ёсць пастанова біскупаў у Трэвіры, якая вымагае ад духоўнікаў, каб яны пры хросце карысталіся краёвай мовай, залежна ад мясцовых варункаў, у жыцці касцельным мовай французскай і нямецкай.



Сінод Кульмскі 1583 г. пастанавіў: «Кожны пробашч, у парафіі каторага ўжываюць мовы, якой ён не разумее, абавязаны, пад карай утраты парафіі, пастарацца духоўніка добра знаючага гэту мову».

Яшчэ раней, у 1467 г., такую ж пастанову прыняў Сінод Вармійскі.

Найбольш дакладна абрысаваў адносіны Касцёла да народных моваў правінцыйны Кангрэс у Літве (Перу) у 1582 г., каторы ў § 6 другога раздзела кажа даслоўна:

«Найбольш істотнай і сапраўды рачовай мэтай хрысціянскай навукі або катэхэты ёсць прадстаўленне навукі аб веры: вера ў сэрцы вядзе да адпушчэння грэху, а вуснае вызнанне да збаўлення. Дзеля гэтага патрэба вучыць кожнага так, каб уцяміў духова: іспанца ў іспанскай, індыйца ў індыйскай мове... Нявольна таксама змушаць кожнага індыйца вучыцца прыказанняў ці катэхізмаў па лаціне; даволі, ды нават лепш, калі адмаўляе малітвы і адказвае на пытанні ў матчынай мове; мовай іспанскай, каторая для многіх індыйцаў ёсць ужо даволі зразумелая, можна карыстацца толькі як сродкам дапамагальным».

Зноў жа трэці мексіканскі сабор правінцыйны ў 1585 г. дамагаецца, каб «біскуп экзаменаваў ксяндзоў краёўцаў, ці ў дастатковай меры валодаюць мовай краёвай».

Пастановы гэтыя так выразна гавораць аб роднай мове ў Касцёле, што не патрабуюць яны ніякага блізшага выяснення або тлумачэння.

Але не толькі мясцовае касцельнае права адносна права моваў у жыцці рэлігійным спатыкаем мы ў гісторыі; спатыкаем мы таксама ў гэтай справе і права агульнае, адносна ўсяго Касцёла на ўсім свеце.

Так, напрыклад, IV агульны Сабор Лятэранскі ў 1215 г. цвёрда пастанаўляе, што дзеля рознасці ў Касцёле абрадаў і моваў біскупы павінны ўсюды мець такіх людзей, якія «могуць адпраўляць службу Божую ў розных абрадах і мовах».

Агульны Сабор Трыдэнскі, які адбыўся ў XVI в., пастанавіў, каб духавенства па касцёлах гаварыла навукі ў роднай мове народаў.

Новы Кодэкс Касцельнага Права таксама гэтай справы маўчком не мінуў. Канон 1332 вымагае ад душпастыраў, каб яны ў дні нядзельныя і святочныя выяснялі народу праўды веры мовай дастасаванай да яго паняцця. А якая ж мова, калі не родная, найбольш дастасаваная да паняцця народа? Ясна, што мова родная.

Нельга тут не ўспомніць яшчэ найнавейшай пастановы правінцыйнага Сінода ў Іспаніі ў м. Тарагоне, які адбыўся ў астатніх гадох. Вось жа пастаноўлена там, каб на землях каталонцаў у катэхізацыі і казаннях карыстацца мовай каталонскай. Між іншым, пастанова гэта паклікаецца на пастанову з г. 1591 у тым жа месцы такога ж сабору, які яшчэ і тады прызнаў права ў Касцёле роднай мове.

Гэтых усіх вышэй вылічаных пастановаў Касцёла што да роднай мовы ў Касцёле аж надта нам хопіць, каб пераканацца, што Касцёл сапраўды шануе і прызнае ў святыні права кожнай мове.

Зноў жа ў астатніх гадох Св. Айцец у Індыі, Хінах, Японіі кіраўніцтва Касцёла даручае тамтэйшым біскупам і місіянерам, якія роднай мовай лягчэй могуць трапіць да сэрцаў сваіх братоў.

Усё гэта для нас, беларусаў, ёсць парукай, што і наша мова беларуская мае права ўжыцця ў Касцёле, абы мы самі разумелі патрэбу гэтага і выказалі сапраўднае жаданне. Пад высокім міжнародным сцягам Св. Касцёла ёсць месца і нашай мове, і нашай культуры, і нашаму народу.

## V. БЕЛАРУСКАЯ МОВА<br>Ў СВЯТЫНЯХ ДА КАНЦА XVIII СТ.

*Хрысціянства ў Беларусі. Мова старабалгарская. Паўстанне мовы беларускай і карыстанне ёй у жыцці рэлігійным. Беларусы-каталікі славянскага і лацінскага абрадаў. Унія 1596 г. Беларуская мова ў Царкве уніяцкай на працягу XVI–XVII стагоддзяў. Беларуская мова ў Касцёле лацінскім. Заняпад гэтай мовы ў жыцці рэлігійным у веку XVIII. Арцыбіскуп Сестранцэвіч. Арцыбіскуп Мартусевіч.*

Пазнаёміўшыся ў папярэдніх раздзелах з роднай мовай у святынях агулам і пазнаўшы адносіны да яе Святога Пісання і Каталіцкага Касцёла, належыць нам перайсці да разгляду справы ўжывання мовы *беларускай* у каталіцкіх касцёлах, як лацінскіх, так і ўсходнеславянскіх ці уніяцкіх на нашых землях.

Святло навукі Хрыстовай дасталося ў Беларусь праз паўдзённых славян у IX–X стагоддзях. Першымі апосталамі агульнаславянскімі з'яўляюцца святыя Кірыл і Мяфодзій. Яны, выдумаўшы, ці толькі папраўіўшы ўжо існуючы алфавіт для славянскай пісьменнасці, пералажыўшы Святое Пісанне і кнігі літургічныя на славянскую мову, палажылі моцныя асновы для пашырэння навукі Хрыстовай і агулам прасветы па ўсіх славянскіх землях.



Мова, у якой св. апосталы тлумачылі святыя кнігі, завецца царкоўнаславянская. Гэта дзеля таго, што яна з часам сталася мовай памёршай і агранічылася толькі да ўжывання ў Літургіі. Але ў навуцы прынята сёння мову гэту называць старабалгарскай. Гэта затым, што мова, якой святыя славянскія апосталы карысталіся, найбольш была зближана да мовы тагачаснай балгарскай.

Мова гэта ў той час мала розьнілася ад моваў, якімі гаварылі ўсе іншыя славяне і агулам была для іх зразумелай. Праз кірыла-мяфодзійскую працу сталася яна мовай літаратурнай для ўсіх славян. Пры помачы гэтай мовы хрысціянства ў IX–X в. дасталося да ўсіх славянскіх народаў: да мараваў, да балгараў, сербаў, харватаў, чэхаў, украінцаў, беларусаў, расейцаў, а магчыма, што да палякаў, славенцаў.

Вось жа гэтая старабалгарская мова і ўжывалася на пачатку хрысціянства па святынях і ў Беларусі. Але ў меру таго, як паўставала і расла мова беларускага народа, а мова гэта літаратурная, агульнаславянская ставалася ўсцяж менш зразумелай, з'яўлялася патрэба ўжывання жывой народнай мовы. Дык і ўжывалі яе перадусім перапісчыкі святых кніг: або свядома, уводзячы зразумелыя словы з жывой беларускай мовы, пішучы аб'ясненні на бачынах кніжак, або несвядома, дапускаючыся памылак на карысць жывой мовы, а таксама святары ў святынях, паясняючы верным Божую навуку ў жывой народнай мове.

Ад пачатку прыняцця хрысціянства аж да канца XIV веку ўсе беларусы былі ўсходняга абраду і да веку XI–XII належалі да Каталіцкага Касцёла. Калі ж у XI в. грэкі адарваліся ад гэтага Касцёла, праз Расею пацягнулі за сабой таксама і Беларусь[3].

Пачатак у нашым краі беларусаў-каталікоў лацінскага абраду вядзецца ад 1386 г., калі Ягайла, стаўшыся каралём Польшчы і вялікім князем Літоўскім, загадваў хрысціць разам з літвінамі і беларусаў дагэтуль няхрышчаных. Каб падабацца ўладзе і мець больш правоў, нямала таксама беларусаў праваслаўных прымала каталіцтва ў форме лацінскай. Лік, ведама, беларусаў-лацініікаў яшчэ тады не быў вялікі.

Апостальская Сталіца адарваных ад еднасці касцельнай нашых продкаў не пераставала клікаць да павароту. Заклік гэты ўрэшце знайшоў свой адгалосак, бо ў 1596 г. у Берасці, з невялікімі вынняткамі, беларусы прыступілі зноў да Каталіцкага Касцёла.

У той час, калі была асягнута рэлігійная унія ў Берасці, мова беларуская была ўжо мовай самастойнай, мовай культуры, навукі, мовай дыпламацыі, сойму, суду, адміністрацыі.

Мова царкоўнаславянская, ці лепш мова старабалгарская ўжо для народа мала была зразумелай і была ўжо мовай нежывой, мо-

вай агранічанай, бадай, выключна да Літургіі, да службы Божай. А ўсё, па-цяперашняму назваўшы, дадатковае набажэнства, перадусім казанні, само жыццё змушала адбываць у жывой мове народа. Дык так яно і было. Праз увесь час існавання Уніі, праз увесь час еднасці беларускага народа з Каталіцкім Касцёлам беларуская мова ў жыцці рэлігійным была паўнапраўнай. Агранічэнні яе пачаліся, як убачым ніжэй, толькі ў канцы XVII ст.

Ужо з веку XV спатыкаем нямала беларускай каталіцкай літаратуры; успомнім хоць найбольш ведамую, як: аб Муцы Хрыстовай, Повесць аб Трох каралёх, плач Маткі па Сыне, Аб уваскрашэнні Хрыстовым, Бяседы Рыгора Папы Рымскага, Імша ў чэсць Маці Божай з тлумачэннем. Кніжкі гэтыя пісаны рукой, славянскімі літарамі. Мова іх жывая, абразовая і чыста беларуская.

У 1517–1519 гг. у Празе вялікі беларускі вучоны др. Фр. Скарына 22 кнігі Бібліі Старога Закону, а ў 1525 г. у Вільні «Апостальскія Дзеі» з Новага Закону пералажыў на жывую беларускую мову[4].

Навучанне, малітвы, усё жыццё рэлігійнае, апрача Літургіі, адбывалася тады ў беларускай мове. Шмат маем гістарычных, культурных здабыткаў, асабліва ў форме кніг, якія аж надта выразна аб гэтым сведчаць. Ды інакш і быць не магло тады, калі мова беларуская ў Вялікім Княстве Літоўскім згодна з пастановай Літоўскага Статуту (1588) была мовай урадавай.

Словам, Касцёл Уніяцкі беларускай мовай карыстаўся як мовай роднай. Не інакш спярша паступаў і Касцёл Лацінскі, дзе спатыкаў беларусаў-лацціннікаў.

У кнізе «Materjały do dziejów Akademji Połockiej i szkół od niej zależnych» спатыкаем вестку, што адзін з полацкіх езуітаў у другой палове XVI стагоддзя, айцец І. Алянд, навучыўшыся мовы беларускай, гаварыў у гэтай мове народу казанні і катэхізаваў яго.

Гісторыкі школ у нашым краі Лукашэвіч і Харлламповіч, апіраючыся на штогодніх справаздачах езуітаў аб іх установах («Litterae annuae» з XVI–XVII стст.), у сваіх працах цвердзяць, што ў езуіцкіх школах вучылі мовы народнай, што ў гэтай мове пялі рэлігійныя гімны і што сярод беларускага народа па касцёлах карысталіся мовай беларускай.

У Віленскай Езуіцкай Акадэміі, як відаць з апісання 1645 г. езуітам у Вільні жыцця і смерці св. Ёзафата, вучылі мовы беларускай.

Існавалі ўжо катэхізмоўкі як падручнікі для навучання каталіцкай рэлігіі па-беларуску. І так, у 1585 г. у Вільні быў выданы катэхізм, пераложаны з лацінскай на беларускую мову. Езуіт Пасэвін, які ў Беларусі і ў Расеі працаваў над спалучэннем праваслаўя з Каталіцкім Касцёлам, у 1587 г. пісаў да Папежа, што абавязкова трэба ператалмачыць рэлігійныя кнігі на родную мову народа, аб выданні каторых ён сам будзе старацца ў Вільні. Вось жа, відаць, успомнены катэхізм і быў надрукаваны, як вынік захадаў Пасэвіна і прызначаны як для абслугі беларусаў-каталікоў, так і для пашырэння каталіцтва сярод праваслаўных. Катэхізм гэты пісаны кірыліцай.



Да канца веку XVI належыць таксама нямала беларускіх кніг палемічных у абароне Уніі, выдаваных, а часта і пісаных езуітамі ў Вільні, як, напр., «Unija, albo wykład predniejszych artykułów ku zjednoczeniu hrekow s kośtiełom rymskim należaščych» (1595 г.), «Opisanje i oborona soboru ruskogo bierestiejskaho» (1597 г.) і інш.[5].

Былі таксама уніяцкія катэхізмоўкі веку XVII і веку XVIII.

У XVI ст., з невялікімі выняткамі, блізу ўсе вышэйшыя пасады ў Каталіцкім (лацінскім) Касцёле ў нашым краі (у Віленскай дыяцэзіі) пераважна займалі беларусы і літоўцы. Ад пачатку існавання ў нас Касцёла аж да XVII ст. усіх каталіцкіх біскупаў у Вільні было 18 чалавек; з іх: першы, трэці і чацвёрты — палякі, а рэшта літвіны і беларусы.

У канцы XVI ст. Віленская Капітула (Біскупская рада) спрацівілася каралю і Папежу з прычыны назначэння на Віленскага біскупа паляка Б. Мацеўскага. Справа цягнулася ад 1591 да 1600 г. У 1600 г. назначаны быў краёвец Война. Гавораць аб гэтым акты Віленскай Капітулы. З тых жа актаў відаць, што на сойме ў Вільні 1597 г. паслы нашага краю (літвіны і беларусы) баранілі права мець біскупам у Вільні чалавека сваёй народнасці.

Праз XVI і пач. XVII ст. каталіцкае духавенства ў Беларусі, як лацінскае, так і уніяцкае, у ўрадавай і прыватнай перапісцы карысталася мовай беларускай. Каралеўскі прывілей, у 1567 г. дадзены Віленскай Капітуле, напісаны па-беларуску.

Але пасля расцвету беларускай культуры агулам і культуры рэлігійнай, дзякуючы шырокаму ўжыванню ў жыцці рэлігійным беларускай народнай мовы, асабліва ў XVI ст., пад канец XVII ст. наступіў заняпад. Пасля уніі нашага краю з Польшчай у 1569 г. уплыў польскай культуры паволі да таго здужаў у нас, што мова польская ўсё больш і больш выціскала як з публічнага жыцця агулам, так і з Касцёла лацінскага ці уніяцкага беларускую мову. Дайшло ўрэшце да таго, што пастанова нашых законаў з 1588 г. аб тым, што ўрадавай мовай у краі з'яўляецца мова беларуская, была скасавана і ў 1697 г. выданы новы закон, што такой мовай ужо мае быць мова польская.

У гэтым часе ўжыванне беларускай мовы аслабла вельмі ў Касцёле лацінскім, а таксама значна памалела і ў Касцёле уніяцкім.

Яшчэ ў 1636 г. у Вільні адбылася нарада так званай Кангрэгацыі Уніяцкага Касцёла, на якой, з прычыны частай замены ў святынях мовы беларускай мовай польскай, было пастаноўлена, каб казанні па уніяцкіх святынях у нашым краі духоўнікі гаварылі па-беларуску.

Ад канца XVII ст., асабліва ж у ст. XVIII, мова беларуская і далей у жыцці рэлігійным усцяж агранічваецца, усцяж спыняецца на карысць мовы чужой народу польскай, але цалком з святыняў не выводзіцца і астаецца там надалей.

1682 г. Віленскі біскуп Ст. Пац загадаў у нядзелі і святы выясняць Евангелле, або выкладаць катэхізм «папросту». А лёгка дадумацца, што вучыць папросту — гэта значыць па-беларуску і па-літоўску.

1742 г. Папеж Бенядыкт XIV булай «Etsi Minime»[6] загадаў духавенству звярнуць асаблівую ўвагу на навучанне народу праўдаў св. веры. У звязку з гэтым загадам Віленскі біскуп Зянковіч склікаў дыяцэзальны Сінод, які адбыўся ў Віленскай Кафедры 10.II і 12.II. Сінод, між іншым, пастанавіў гаварыць да народа навукі паводле старога звычаю ў народнай мове.

З другой паловы XVIII в. дайшлі да нас таксама беларускія рэлігійныя паасобныя песні, як «О, мой Божа, веру Табе», а таксама зборнік такіх песняў пад загалоўкам «Kantyčka, abo nabožne pieśni w narzeczu połockim» (Połock, w drukarni Soc. Jezu, 1774), уложаная, як відаць, і выданая полацкімі езуітамі.

З канца XVIII в. спатыкаем яшчэ катэхізмоўку, выданую уніятамі ў беларускай мове, друкаваную лацінскімі літарамі. Цікавая і цэнная гэта катэхізмоўка перахоўваецца ў Беларускім музеі ў Вільні. Гэтая катэхізмоўка сведчыць, што Уніяцкі Касцёл у канцы XVIII ст. яшчэ не пакідаў цалком роднай мовы народа ў жыцці рэлігійным.

Але ёсць аб гэтым яшчэ выразнейшыя доказы. Полацкія уніяцкія біскупы ў канцы XVIII і ў пач. XIX ст. рассылалі загады парафіяльным ксяндзом, каб па-беларуску гаварылі казанні і беларускай мовай карысталіся пры катэхізацыі. Да нашага часу захаваліся:

«Odezwa Jaśnie Wielmożnego Jakóba Martusewicza Łuckiego Unickiego Djecezjalnego Biskupa i administratora Połockiej Archidyecezii do urzędników onej w 1824 r. miesiąca października Okolnie rozesłanej dla nieodmiennego spełnienia». У гэтай адозве між іншым біскуп кажа: «Obowiązać podpiskami każdego z kapłanów curam animarum utrzymującego (маючага пастырскія абавязкі. — *Прып. рэд.*), iż by ci w nauczaniu parochwijan swych wiary Chrystusowej zasilali ją słowem Bożem językiem zrozumiałym przemawiając».

З гэтага бачым, што уніяцкае духавенства, паддаючыся паланізацыі, пакідала ўжо родную мову народа і да ўжывання гэтай мовы было змушана афіцыяльнымі загадамі вышэйшай духоўнай уніяцкай улады. З гэтай таксама адозвы бачым, што яшчэ на пач. XIX в. мова беларуская ў Касцёле Уніяцкім мела мейсца.



Не была таксама яшчэ цалком выведзена з ўжыцця беларуская мова і з лацінскага Касцёла. У канцы XVIII в., ужо пасля падзелаў Польшчы (1772, 1793, 1795)[7], калі Беларусь адышла да Расеі, у 1794 г. Магілёўскі лацінскі арцыбіскуп Богуш-Сестранцэвіч выдаў да падуладнага сабе духавенства ліст, у якім кажа: «Wszystkim w Archidyecezji plebanom zalecić i zaleca się, aby ludowitym jęjaki on rozumie, po skończonym nabożeństwie z ambon po kościołach kazania miewali».

Такім чынам, як бачым, ад пачатку ў Беларусі хрысціянства, то ў большай меры, то ў меншай, аж да канца XVII веку, беларуская мова ў каталіцкіх святынях, як уніяцкіх, так і лацінскіх, ужывалася даволі шырока. Ужывалася яна таксама, як трэба судзіць з загадаў тагачаснай духоўнай улады, у тых жа святынях уніяцкіх і лацінскіх і праз увесь XVIII век, хоць ужо ў агранічанай меры.

Век жа XIX агулам для мовы беларускай ў святынях — асабліўшы. У ім вялася заядлая барацьба палітыкі польскай і расейскай за ўплывы на беларускую мову, беларускую душу і культуру. Але аб гэтым у наступным раздзеле.

## VI. БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СВЯТЫНЯХ У XIX СТАГОДДЗІ

*Характарыстыка Уніі. Асаблівы характар XIX веку адносна беларускай мовы. Расейска-польскае змаганне на грудзях Беларусі. Аружжа барацьбы палякаў і расейцаў. Пагляды на Беларусь і беларусаў адных і другіх. Скасаванне Уніі. Характарыстыка Сямашкі і яго таварышаў. Кс. Магнушэўскі і біскуп Мартусевіч. Сямашка, беларуская мова і культура. Беларусы-каталікі. Каталіцкасць і польскасць. Польскасць каталіцтва і расейская палітыка. Касцёл Каталіцкі, польская, расейская і беларуская мова. Забарона беларускага друку лацінскімі літарамі. Ксяндзы з Магілёўшчыны і беларуская мова. Юбілей 1826 г. і беларуская мова. Каталіцкая беларуская літаратура. Санчыкоўскі, расейская і беларуская мова. Беларускія казанні ў рукапісе 1860–1872 г. Арцыбіскуп Сымон, кард. Рамролля і беларуская мова ў Касцёле. Ужыванне беларускай мовы ў Касцёле ў канцы в. XIX і ў пач. XX.*

Як толькі пачала існаваць беларуская мова (в. XIV), ужыванне яе ў святынях каталіцкіх, як лацінскіх, так і уніяцкіх, згодна з традыцыямі, правам і духам Каталіцкага Касцёла, на нашых землях,

Урэшце, у 1839 г. паўтара мільёна беларусаў-уніятаў былі залічаны праваслаўнымі. Унія афіцыяльна існаваць перастала.

Даканалі гэтага трагічнага дзела Віленскі уніяцкі біскуп Язэп Сямашка, з паходжання ўкраінец, Антон Зубко, уніяцкі біскуп Брэсцкі, і Базыль Лужынскі, уніяцкі біскуп Аршанскі — з паходжання беларусы. З лёгкім сэрцам здрадзілі яны веру і народ. Так яны і мусілі скончыць, штораз больш лгучы самі прад сабой, штораз больш адыходзячы ад народа і мала з ім маючы супольнага, штораз больш уступаючы уніяцкія родныя святыні на жыр польскай палітыкі і польскіх інтарэсаў, штораз лягчэй плывучы па паверхні палітычнай хвалі і салодкія снючы сны аб магутнасці і славе.

Раз здрадзілі свой народ, не зразумелі і не вычулі яго гістарычных дарог і не спрацівіліся хвалям, быт яго заліваючым, дык лёгка таксама здрадзілі і польшчыне, да якой нібы былі прывыкшы. Здрадзілі яны лёгка і веру, бо Унія ўжо не была Уніяй, яна была спольшчанай часцінай лацінскага Касцёла і то, як судзіла тагачаснае польскае грамадзянства, горшага гатунку.

Дык было ім ужо ўсё роўна, каму служыць — ці польскаму магнату, ці расейскаму цару. Важным было ім служыць таму, дзе пахвалы, сіла, слава, адзначэнні, кар'ера!..

Пэўне ж, трагічны чын гэтай тройкі: Сямашкі, Зубкі і Лужынскага, чын здрады беларускага народу, бо яго веры і народнасці, залежны быў ад тагачасных, палітычна-грамадскіх варункаў, але не цалком. Ведаючы час, у якім гэтыя ліквідатары Уніі жылі, няможна сказаць, што ў іх варунках, на іх месцы кожны так паступіў бы. Іх час — гэта час беларускага рамантызму, гэта час беларускага адраджэння. Іх час — гэта час беларускай «Энеіды», час бяздольнага беларускага сялянскага песняра Паўлюка Багрыма, якога ўзгадаваў у сваёй школе ў Крошыне слаўны кс. Магнушэўскі († 1828), што зжыўся з народам, пераняў яго мову і быў яго заступнікам прад сільнымі гэтага свету. Іх час — гэта час беларускай паэмы «Тарас на Парнасе», час творства і працы на беларускай ніве Я. Баршчэўскага, А. Рыпінскага, Я. Чачота, П. Шпілеўскага, К. Каліноўскага ды В. Дуніна-Марцінкевіча, якія працавалі на беларускай ніве, многа пісалі па-беларуску і снілі сны аб лепшай долі беларускага народа.

Аб усім гэтым не мог не ведаць інтэлігентны, дужа здольны, усім цікавячыся, стаячы на высокім грамадскім становішчы, Язэп Сямашка!

Урэшце, як прыпамінаем, уніяцкі полацкі арцыбіскуп Якуб Адам Акела-Мартусевіч († 1833) здабываецца на сілу і выдае (1824) загад выжыць у святынях народ беларускі і яго роднай мове, як бы хочучы гэтым і народ і Унію скіраваць яшчэ на яе прыродную, добрую дарогу.



Сямашку і яго таварышам нічога падобнага не прыйшло да думкі!

І так Унія існаваць перастала. Паўтара мільёна беларусаў-уніятаў, не пытаючыся іх, а часта падганяючы казацкай нагайкай, запісалі ў праваслаўе. Пытанне само стукаецца ў галаву: як жа іх вучылі ў цэрквах, ці мела там месца мова беларуская? Вось жа, як ні дзіва, а мовай нашай яшчэ па цэрквах, прынамсі пакуль што, карысталіся. Для народа яна патрэбнай была ў царкве, бо ён іншай, асабліва расейскай, з якой спаткаўся першы раз, цяміў нямнога. Расейцы гэта разумелі. 13.I.1840 г. за № 34 Язэп Сямашка разаслаў падуладнаму духавенству загад обер-пракурора Сінода, каб у праваслаўных цэрквах замест мовы польскай ужывалася мясцовая народная мова. Сінод у сваім загадзе кажа праваслаўнаму духавенству гаварыць казанні па цэрквах «на простом общепонятном языкѣ». Трэба думаць, што на думцы ён меў беларускую мову, бо якая ж іншая магла тады быць агульназразумелай, простай?

У пазнейшым часе той жа Сямашка, апіраючыся на Сінодскім гэтым загадзе, выдаў да духавенства свой загад, 23.VIII.1853 г. за № 2762, у якім, паклікаючыся на тое, што свяшчэннікі цэркваў жыжмянскай, беліцкай, лябёдскай Лідскага пав. гавораць часам казанні па-польску, а праваслаўны народ там гаворыць «мѣстнымъ русскимъ языкомъ», прыказвае гаварыць навукі ў царкве «на русскомъ языкѣ или на мѣстном русскомъ нарѣчіи».

З гэтага бачым, што Сямашка загадвае духавенству гаварыць казанні да народа па-руску або па-беларуску. Але рабілася гэта толькі да часу, пакуль народ не быў асвоены з мовай расейскай. Гэткая была думка і Сямашкі і ўрада. Народ беларускі ён ахвяраваў цалком на жыр расейшчыны.

1841 г. Сямашка для гэтых мэтаў, не маючы ніякай жаласці да беларускіх культурных здабыткаў, як сам кажа ў сваіх Запісках, спаліў *некалькі тысяч* царкоўных уніяцкіх (беларускіх і славянскіх) кніжак.

1853 Сямашка пісаў (як відаць з тых жа Запісак), што ён уважае за патрэбнае вывесці з ужыцця богаслужэбныя кнігі былых уніяцкіх друкарняў.

Словам, беларускага пачуцця ў Сямашкі не было ані трохі. Загадаваў ён гаварыць казанні па-беларуску для мэтаў русіфікатарскіх. Урад расейскі ўрэшце цалком дабіў мову нашу ў царкве, калі 1864 г. сканфіскаваў некалькі тысяч беларускіх лемантароў і малітвеннікаў.

Але не забываем, што і ў Касцёле Каталіцкім лацінскім таксама было ўжо тады нямала беларусаў. Прымалі яны каталіцтва ў лацінскай форме, як мы ўжо ўспаміналі, ад 1386 г., калі Ягайла хрысціў

Літву і калі многія беларусы пакідалі праваслаўе і пераходзілі ў каталіцтва. Далей, падчас існавання Уніі, на працягу 240 гадоў, асабліва пад канец Уніі, калі яна была спаланізавана і злацінізавана, многія з розных жыццёвых прычын, а пераважна з прычын палітычных, з уніі пераходзілі ў каталіцтва лацінскае. Асабліва ж многа пераходзіла таксама беларусаў з уніі ў лацінства пасля падзелу Польшчы, калі беларусы апынуліся пад панаваннем расейскіх цароў і калі з боку ўладаў расейскіх ішоў выразны і часта грубы націск на уніятаў з мэтай пераводжання іх на праваслаўе. І так, дзеля гэтых прычын за часаў царыцы Кацярыны II († 1796) многія беларусы-уніяты, жадаючыя захаваць веру сваіх бацькоў, пакідалі Унію і далучаліся да Касцёла лацінскага, адлучыць іх ад якога расейскім палітыкам было значна трудней, як ад Уніі. Тое ж самае было і за часаў цара Паўла, як сведчыць аб гэтым Полацкі уніяцкі арцыбіскуп Іраклій Лісоўскі.

Нямала таксама ўцякала беларусаў-уніятаў у лацінства з 1839 г., калі вышэйшае уніяцкае духавенства, здрадзіўшы Уніі, не пытаючыся верных, часта пры помачы паліцыі, перапісвала іх у праваслаўе. Не хочучы сілай быць запісанымі на праваслаўных, пераходзілі ў лацінства.

Урэшце, за часаў першых генерал-губенатараў нашага краю, жывучых у Вільні, асабліва ж за часаў ведамага сваёй жорсткасцю М. Н. Мураўёва († 1866) цэлыя масы быўшых уніятаў з праваслаўя ўцякалі ў каталіцтва.

Да гэтага часу адносяцца слаўныя словы праваслаўнага Віленскага арцыбіскупа Макарыя, сказаныя Мураўёву на яго раду арцыбіскупу знайсці спосабы ўтрымаць пераход беларусаў-праваслаўных у каталіцтва: «дзеля таго, што чыноўнікі іх паварочвалі на праваслаўе, дык няхай жа чыноўнікі знойдуць спосабы, як утрымаць іх пры праваслаўі».

Агулам лік беларусаў-католікоў у гэтым часе, аб якім гутарка, дасягаў больш менш мільёна. Словам, у другой палове і асабліва пад канец XIX ст., як бачым, Касцёл Каталіцкі ў нашым краі сярод сваіх верных меў даволі многа беларусаў. Такім чынам, патрэба ўжывання беларускай мовы ў касцёле была і надалей жывой. Аднак дапушчэнне ў касцёл гэтай мовы не было лёгкім. Дзякуючы палітычным абставінам у нашым краі, Касцёл Каталіцкі ўжо тады быў шчыльна звязаны з польскасцю і ён быў адзінай, дужа сільнай, апорай польскіх інтарэсаў у Літве і Беларусі. Гэты характар яго асабліва ўзмацаваўся за апошнія дзесяткі гадоў XIX стагоддзя. І гэта цалком зразумела. Блізарукая і грубая расейская палітыка спрыяла гэтаму як не трэба лепш.



Расейскі ўрад на працягу першай паловы, калі не больш, XIX ст. усіх каталікоў у нашым краі ўважаў за палякаў, Каталіцкі Касцёл з усімі яго вернымі называў «иноверческим и инородным». Зразумелая рэч, што ўрад гэтым яшчэ больш спрыяў да ўтрывалення польскасці ў Касцёле.

Урад гэты да таго аберагаў польскасць у Касцёле Каталіцкім, што калі ў 1848 г. пробашч Царскасельскага каталіцкага касцёла кс. Аніхамоўскі, з няведамых бліжэй прычын, сказаў казанне па-расейску, міністр унутраных спраў звярнуўся да цара, падкрэсліваючы, што дагэтуль па-расейску можна было гаварыць толькі ў пануючай Праваслаўнай Царкве, і просячы адпаведнага «высочайшаго» загаду. На гэта ў тым жа 1848 г. 15 чэрвеня цар заявіў: «Па-расейску забараніць; можа гаварыць ува ўсіх чужастранных мовах». Да чужастранных моваў, ведама, залічалася і мова польская. Ясна, што такі загад царскі меў вялікі дадатны ўплыў на польскасць у Касцёле.

Калі ж урэшце ў другой палове XIX ст., асабліва пасля польскага паўстання ў 1863 г., расейцы ўрэшце дадумаліся, што ў Каталіцкім Касцёле ёсць многа беларусаў, і калі зажадалі зрабіць з іх чыста рускіх, у грамадскай іх думцы паявілася гарачая спрэчка аб тым, ці даць супакой гэтым беларусам, дазволіць ім далей карыстацца мовай польскай у Касцёле і даць ім спакойна польшчыцца, ці наадварот — узяць іх пад высокую расейскую апеку і беларусам, як рускім, даць мову расейскую.

За польскай мовай у Касцёле былі: праф. Каяловіч, Кулін, І. С. Аксакаў і інш. Праціў: М. Н. Каткоў, П. Н. Бацюшкаў, А. П. Уладзіміраў.

Дужа цікавыя пагляды тых расейцаў, што ўважалі за патрэбнае ўжываць мову польскую ў касцёле для беларусаў. Але зацесна нам тут, каб даўжэй над імі маглі мы застанаўляцца. Даволі будзе ўспомніць, што асноўнай думкай было тое, што дапусціўшы ці агулам увёўшы мову расейскую (бо толькі аб такой, а не аб беларускай думалі) у Касцёл, каталіцтва і палякаў, якіх тады, бадай, большасць, расейцаў так ненавідзелі і баяліся, трэба будзе прыняць за раўнапраўных, што будзе не на карысць праваслаўя і расейшчыны.

Тыя ж зноў, што стаялі за распалячанне Касцёла, выказвалі свае думкі цалком іншыя, як першыя. Галоўнае з іх — што беларусы гэта тыя ж расейцы і што іх трэба захаваць ад паланізацыі і паволі прывучыць да расейшчыны і нават, як думалі многія, да праваслаўя. Урэшце, перамагла думка гэтых другіх, і 1869 г. наступіў «высачайшы» дазвол карыстацца ў Касцёле мовай расейскай. Натуральная рэч, што царскі дазвол быў тым жа, што і загад. Гэтак яго і зразумелі:

урад, чыноўнікі, паліцыя, праваслаўнае духавенства. Ад гэтага дазволу аж да 1905 г. распачалася самая гарачая, часта зусім дзікая, барацьба ўрада ў кірунку ўвядзення ў касцёлах мовы расейскай замест польскай. Рэвалюцыя 1905 г. вострасць барацьбы гэтай крыху аслабіла.

Барацьба гэта, рэч зразумелая, яшчэ больш укараніла ў касцёлах мову польскую. Для народа было ўсё роўна: чужая мова польская, чужая і расейская, але да польскай ужо ён быў прывыкшы, ды і ўсё ўціскананае, крыўджанае, як заўсёды бывае, многа ў сабе мае маральнай сілы і красы.

Дык, як бачым, лёс быў незайздросны мовы нашай у святыні. Гісторыя так непрыхільна да Беларусі пакіравала кола сваё, што, здавалася, знішчыла дазвання нашу мову і ў святыні і агулам. Царскі ўрад у барацьбе з польшчынай у касцёле да таго засляпіўся, што нават 1859 г. выдаў адміністрацыйны загад, забараняючы друкаваць кніжкі беларускія лацінскімі літарамі. Ясна, што гэта быў яшчэ адзін, дужа цяжкі ўдар па нашай мове ў святыні, бо беларускія каталіцкія кніжкі, дзякуючы гістарычным і палітычным абставінам, так, як і сёння, патрэбны былі друкаваныя лацінкай. Загад гэты адменены ў 1905 г.

1866 г., калі ўрад расейскі ўжо рабіў спробы ўвядзення ў касцёлы расейскай мовы, група ксяндзоў-беларусаў з Магілёўшчыны і Віцебшчыны звярнулася з просьбай да ўрада аб дазволеператлумачыць ім агульнаўжываныя казанні Філіпецкага і Белабрэсцкага на беларускую мову. Тагачасны генерал-губернатар нашага краю К. П. фон Каўфман (1865–66) уважаў, што казанні трэба гаварыць у касцёлах не па-беларуску, а па-расейску. Обер-пракурор Сінода граф Д. А. Талстой звярнуўся ў гэтай справе з запытаннем да праваслаўных біскупаў літоўска-беларускага краю. Сінод просьбу гэтых ксяндзоў адкінуў. Цікавыя адказы біскупаў праваслаўных Д. А. Талстой пераслаў генерал-губернатару. Найцікавейшы адказ быў русіфікатара Міхала, біскупа Менскага і Бабруйскага. Ён быў праціўнікам беларускай мовы ў касцёле дзеля таго, што, як пісаў, за часаў паншчыны ў мову беларускую закралася многа слоў і выражэнняў польскіх, дык хто заручыць, што ксяндзы будуць гаварыць па-беларуску, а пакрысе будуць адначасна падтрымліваць мову польскую ў касцёле... «Маю гістарычную падставу, — пісаў ён далей, — адносіцца з падазрэннем да просьбы лацінскіх ксяндзоўператлумачыць на мову беларускую казанні. Езуіты, асеўшы ў гэтым краі, спярша вучыліся мовы народнай і з ёй зводзілі праваслаўных...»

Такім чынам, расейская палітыка не толькі здушыла, знішчыла беларускую мову ў Царкве Праваслаўнай і агулам, але таксама свядома і несвядома, проста і ўбочна, здушыла нашу мову і ў Касцёле Каталіцкім, вымагаючы, а, прынамсі, памагаючы яму стацца польскім. Ды не трудна ўраду было гэтага даканаць, калі прыпомнім тую цемру і тое падняволенне эканамічнае і палітычнае, якія ўсяўладна панавалі тады над нашым народам.



Аднак ані неспрыяючыя варункі гістарычныя, ані спрыт польскае палітыкі, ані магутнасць Расейскай імперыі не здушылі цалкам і не замарылі на смерць нашай мовы. Збярог яе ў грудзях сваіх народ наш і, колькі мог памагчы ў той час, памог захаваць яе Касцёл Каталіцкі. Ён, будучы вольны ў сваёй арганізацыі, маючы свой цэнтр на скале Пятровай у Рыме, незалежны ад усякай свецкай палітыкі, з вышыні Апостальскай Сталіцы, з міласцю Маткі, апякуецца кожным народам, кожнай душой чалавека і яго патрэбай духовай. Дык вось, у Касцёле Каталіцкім мова наша, хоць у дужа малой меры, дзеля цяжкіх варункаў палітычна-грамадскіх, аднак мела сабе яшчэ мейсца.

1825 год папеж Лявон XII абвясціў як год юбілейны. На нашых землях юбілей гэты быў святкаваны ў наступным 1826 г. Галоўным кіраўніком юбілею ў Беларусі быў дамініканін Карнелій Рапчынскі, які ўмеў па-беларуску. Юбілей гэты адпраўлялі разам лаціннікі і існуючыя яшчэ уніяты. Аб працах юбілейных агулам і аб мове, у якой гаварылі казанні, усё было запісана ў асобны дзённік (Дыярыуш), які вёў той жа кс. Рапчынскі. У Беларусі юбілей зачаўся ад Полацка 28 лютага і трываў праз цэлы сакавік. Вось жа ў Полацку ў касцёле францысканскім падчас гэтага юбілею казанні былі гавораны па-беларуску. Народу бывала гэтулькі, што, як піша кс. Рапчынскі, касцёл не змяшчаў іх.

На правінцыі падчас гэтага юбілейнага года былі таксама беларускія казанні і па-беларуску рахунак сумлення ў наступных сёлах і местах Беларусі, асабліва Віцебшчыны: у Гарбачове, у Клясіцах, у Ушачы (былі па-беларуску навукі, рахунак сумлення, а таксама чыталі катэхізм па-беларуску), у Забяле, у Тамасіне, у Халопенічах, Мікалаеве, у Таболках.

У Альбрыхтове ў касцёле, як піша той жа «Дыярыуш», па ражанцы, канторка, умеючая чытаць, напалавіну спяваючы, гаварыла з народам катэхізм па-беларуску, які ўсе добра ўмелі.

[У] 1835 г. у Вільні выходзіць «Krótkie zebranie nauki chrześcjańskiej dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego» з апрабатай віленскага каталіцкага (лацінскага) біскупа І. Б. Клангевіча і з дазволу свецкай улады. Катэхізмоўка гэта, нягледзячы на яе польскі загаловак і на некалькі польскіх малітваў і на ўспамін аб нейкай польска-рускай мове, на бачынах 24-х напісана даволі чыстай віленска-менскай беларускай мовай.

У 1845 г. у той жа Вільні зноў выйшаў «Katechizm o czci cesarza Wszech Rossyi, czyli objaśnienie czwartego przykazania Boskiego w stosunku do źwierzchności krajowej. Za Najwyższym rozkazem, dla użycia po szkołach i kościołach Rzymsko-Katolickich wiejskich wydrukowany. Nakład i druk T. Glusberga księgarza i typografa szkół białorusk. nauk. okr.». Частка гэтага катэхізму напісана па-беларуску. Бачыць яго нам не ўдалося. Судзячы з загалоўку (даволі дзіўнага) і з выдаўца, належыць думаць, што друк гэты выданы ўрадам, або блізкімі да яго людзьмі. Аднак аб патрэбе нашай мовы ў жыцці рэлігійным і аб ужывальнасці яе ў гэтым жыцці, прынамсі, у пэўнай меры, і ён гаворыць.

[У] 1862 г. выйшаў «Elementarz dla dobrych dzietok katolikoŭ», друкаваны ў Варшаве, з апрабатай духоўнай і з дазволам свецкай улады. Усе 40 старонак друкаваны па-беларуску. Апрача кароценькага лемантара змешчаны ў ім каталіцкі катэхізм, пацеры, некалькі малітваў, песня «О, мой Божа, веру Табе» і ў канцы «таблічка множання». Мова беларуская даволі чыстая, дужа падобная да мовы ў катэхізмоўцы з 1835 г., а магчыма, што тая самая.

Помнячы, што ў гэтым часе беларускіх кніжак лацінкай друкаваць няможна было, можна дагадацца, што духоўныя ўлады прапхнулі гэты «Elementarz» праз расейскую свецкую цэнзуру як польскі, друкуючы яго лацінкай.

З успомненых друкаў агулам бачым, што ў тым часе адчувалася патрэба вучыць праўдаў веры каталікоў-беларусаў у іх роднай мове. Дзеля гэтай жа мэты і былі друкаваны гэтыя катэхізмы.

[У] 1866 г. у часопісе «Вѣстник Зап. России» К. Гаворскі піша, што з беларускай літаратуры яму ведамы катэхізм, навукі парафіяльныя ды пяць-шэсць песняў рэлігійнага зместу. Пэўне ж, гутарка тут аб беларускай літаратуры каталіцкай, бо праваслаўнай падобнай па-беларуску цалком не дапускалася.

Цікава таксама адзначыць, што ў гэтым жа 1866 г. успомненыя вышэй каталіцкія ксяндзы з Магілёўшчыны і Віцебшчыны, якія прасілі ўлады дазволіць ім тлумачыць на беларускую мову казанні польскія, просьбу сваю, між іншым, падтрымліваюць тым, што ў іх часе ў нашым краі многа дзе казанні па касцёлах ксяндзы гаварылі па-беларуску.

Не адрэчы тут будзе таксама ўспомніць і аб Санчыкоўскім. Быў гэта каталіцкі (лацінскі) ксёндз у Меншчыне, з паходжання беларус, які, забыўшыся аб сваім ксяндзоўстве і аб сваім народзе, надта сардэчна дапамагаў і дараджаў на працягу пару дзесяткаў гадоў (1860–1880) царскаму ўраду ў справе замены ў Касцёле мовы польскай мовай расейскай. Праўда, з працы Жыркевіча «Изъ-за русскага языка» выглядае, што Санчыкоўскі сам сябе лічыў беларусам, з народам гаварыў па-беларуску, а таксама часта па-беларуску гаварыў казанні ў касцёле.



Магчыма, што гэта праўда. Але на нашу думку Санчыкоўскі народнай беларускай свядомасці не меў нават і зародкаў.

Быў гэта ў значнай меры кар’ерыст і заблудзіўшы самалюб, які калі і ўспамінаў аб патрэбе ў жыцці касцельным мовы беларускай і калі і сам гэтай мовай гаварыў, дык, судзячы з яго супрацоўніцтва з урадам, была гэта толькі тактыка, часовы русіфікатарскі манеўр, які недвухзначна імкнуўся да ўвядзення ў жыццё рэлігійнае каталікоў-беларусаў мовы не беларускай, а расейскай.

Санчыкоўскі — паслушнае аружжа русіфікацыі Беларусі ў руках расейскага ўрада. Дапамагалі яму стаць на гэту дарогу тагачасныя палітычна-грамадскія варункі на Беларусі. У значнай меры Санчыкоўскі — дзіця трагедыі свайго часу.

Аднак, нягледзячы на схаваныя планы ў працы Санчыкоўскага што да мовы ў касцёле, няма падстаў не верыць яму, што як ён сам, так і многія іншыя ксяндзы у ліку 46, як ён кажа, у адной толькі Менскай дыяцэзіі сапраўды шмат дзе карысталіся ў казаннях да каталікоў-беларусаў мовай беларускай. Трэба таксама думаць, што вышэйшая духоўная ўлада, калі сапраўды бачыла ўжыванне тады ў касцёлах мовы беларускай, мовы роднай народу, а не расейскай, гэтаму прынамсі афіцыйна не працівілася, як не працівіўся гэтаму, аб чым ніжэй, а нават радзіў Магілёўскі арцыбіскуп Сымон.

Тут больш праўдападобныя цверджанні аб мове беларускай у Касцёле Санчыкоўскага, бо і ў архіве канцылярыі Віленскага Генерал-Губернатарства (1867–1870) ёсць спісы ксяндзоў, гаворачых па касцёлах беларускія казанні.

Але найлепшымі гэтага довадамі служаць дакументы. Затрымаемся тут над імі бліжэй. Кс. праф. Ал. Навіцкі, цяпер інспектар Латвійскай Духоўнай Семінарыі ў Рызе, у сваім часе перадаў кс. В. Гадлеўскаму, вядомаму беларускаму дзеячу, рукапісныя беларускія каталіцкія казанні, якія цяпер знаходзяцца ў архіве пры бібліятэцы таварыства «Бел. Каталіцкае Выдавецтва» ў Вільні.

У гэтым рукапісе спатыкаем чатыры казанні ў чатырох сшытках, пісаныя на палове канцылярыйнага аркуша на абедзвюх бачынах. У адным сшытку, на 64-х бачынах памешчана навука на 17-ю нядзелю па Зялёных Святках. На першай бачыне зазначана, што навука гэта гаворана была ў 1860 і 1864 г. у Посіне, 1863 г. у Лянцкароне, 1868 г. у Савейках, 1870 і 1872 г. у Уле.

Другі сшытак на 72-х бачынах змяшчае казанне на дзень Непавіннага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Гаворана яго, як відаць з зацемак, таксама на першай бачыне: 1865 і 1867 г. у Лянцкароне, 1871 і 1972 г. у Уле.

У трэцім сшытку на 40 бачынах напісана казанне на ўрачыстасць Божага Цела, гаворана 1861 і 1863 г. у Посіне, 1866 і 1869 і Лянцкароне і ў Савейках, 1870 і 1872 г. у Уле.

Чацвёрты сшытак становіць казанне на Дзень Задушны, напісанае на 32 бачынах і гаворана ў 1862 г. у Посіне, 1868 г. у Лянцкароне, у 1870 і 1872 г. у Уле.

Усе гэтыя мясцовасці знаходзяцца ў былушай Віцебскай губерні. Вылічаныя гады, мясцовасці і дні, калі якое казанне было гаворана, надпісаны па-польску, як відаць з пісьма, пазней, але той самай рукой, што і самыя казанні.

Цытаты з Святога Пісання, з Айцоў Касцёла, ці якія іншыя, паданы таксама па-польску. Рэшта ўсё пісана па-беларуску.

Цікавыя гэтыя дакументы некалі, спадзяёмся, будуць разгледжаны належна беларускай навукай, як з боку мовы, так і агулам, як здабытак беларускай рэлігійнай каталіцкай літаратуры ў шасцідзесятых і сямідзесятых гадох мінулага стагоддзя.

Мы тут агранічымся толькі да некалькіх уваг.

Вось жа беларуская мова гэтых казанняў, на наш пагляд, мова Віцебшчыны, адкуль быў, а прынамсі, дзе працаваў, аўтар іх. У мове шмат ёсць паланізмаў і значна менш русізмаў. Пісаны казанні, ведама, лацінкай, польскай пісоўняй. Спатыкаем там нямала зваротаў і слоў даволі арыгінальных, як *шальмоўскія, праклёнскія словы, Пан Езус дужыя цуды даказваў, сягнула, людчыкі, з чыстай нявесты, вы ж тут прысягаліcь, з плачам рукі разцягнуўшы прад самым Богам, Праклёнствы* і шмат, шмат іншых.

Агулам у казаннях гэтых спатыкаем чужыя ўплывы, больш польскіх, значна менш расейскіх, у слоўніку і ў пісоўні. Затое ў будове сказаў (сінтаксіс) чужых уплываў адчуваецца агулам нямнога. Відаць, што аўтар казанняў думаў па-беларуску. Стыль казанняў просты, часта вобразны, сказ ясны, дужа даступны для простага народа.

Як бачым, былі ў Каталіцкім Касцёле на беларускіх землях праўдзівыя пастыры, якія і ў гэтыя цяжкія гады патрапілі быць блізка да народа і карыстацца яго мовай у святынях.

Патрэбу карыстання роднай мовай у Касцёле разумела не раз тады таксама і вышэйшае каталіцкае духавенства. Так, напрыклад, калі пад канец XIX ст. барацьба царскіх урадаў з польскай мовай па касцёлах дужа завастрылася, Магілёўскі каталіцкі арцыбіскуп Сымон запрапанаваў ураду згадзіцца завесці ў Касцёл у беларускіх парафіях замест расейскай мову беларускую, мову родную народу. З прычыны гэтай прапановы пачалася перапіска між урадам і Апостальскай Сталіцай. У выніку гэтай перапіскі папескі сакратар кардынал Рамполля, ад імя папежа Лявона XIII, паведаміў арцыбіскупа (ужо Казлоўскага), што Апостальская Сталіца дае яму права дазволіць пробашчам карыстацца ў казаннях мовай беларускай там, дзе карыстаецца гэтай мовай народ. Дакумент гэты падпісаны 8.V.1897 г. за № 37.522.



Праўда, з найвышэйшага гэтага дазволу мусіць мала хто скарыстаў, бо арцыбіскуп Казлоўскі, з аднаго боку, баючыся русіфікацыі і праваслаўя, а з другога — рахуючыся з напорам польскага грамадзянства і духавенства, якое агулам стаяла толькі за мову польскую ў Касцёле, не дапускаючы туды ані мовы беларускай, ані літоўскай, у жыццё гэтага дазволу Апостальскай Сталіцы не ўвёў.

Аднак дакумент гэты мае для нас вялікае значэнне. Ён яшчэ раз, ужо лішні раз, сцвярджае тую праўду, што адносіны Св. Айца да кожнага народа — гэта адносіны сапраўды бацькаўскія, што кожная мова мае поўнае права ў каталіцкай святыні і што калі дзе да гэтага не даходзе, дык гэта дзеецца з прычын пераважна палітычных, з прычын цалком незалежных ад Апост. Сталіцы.

Але маем яшчэ таксама падставу цвердзіць, што і ў апошнім дзесятку XIX ст. і па ім беларускія казанні дзе-нідзе па каталіцкіх касцёлах Беларусі былі гавораны. Цвердзіць аб гэтым Д. Н. Чыхачаў у сваёй кніжцы «Вопрос располяченія Костёла», а, урэшце, аб гэтым у беларускім народзе ёсць яшчэ жывыя традыцыі. Так, напрыклад, старэйшыя ксяндзы Магілёўскай дыяцэзіі расказваюць, што ў канцы XIX ст. і аж да часу выбуху сусветнай вайны, у некаторых парафіях беларускіх агулам, асабліва ж Віцебшчыны і Магілёўшчыны, усцяж гаварыліся беларускія казанні.

Ведамы адзін з піянераў беларускага руху кс. Фр. Будзька († 1920), з Магілёўскай дыяцэзіі, які быў дужа блізка да Магілёўскага біскупа Данісевіча, беларуса, — расказваў нам, што казанні беларускія і песні рэлігійныя беларускія былі ў Уле (Віцебшчына), у Фашчоўцы (Магілёўшчына) і ў іншых месцах Беларусі аж да апошніх дзён.

Гэта былі адны, казаў бы, з ручайкоў, якія неслі на сваіх немнагаводных хвалях нашу мову з касцельнага зацішша веку XIX у шырокія воды ўсестаронняга беларускага адраджэння веку XX.

## VII. БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СВЯТЫНЯХ АД ПАЧАТКУ XX ВЕКУ ДА РАСЕЙСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ 1917 Г.

*Век XX — гэта век свядомага змагання беларускай мовы за свае правы ў святыні. У веку XX за родную мову ў святыні змагаецца цэлы рад свядомых народнікаў ксяндзоў-беларусаў. Расейскі ўрад і Апост. Сталіца ў справе беларускай мовы ў Касцёле ў 1877, 1905, 1906 і 1907 г. Біскуп Ст. Данісевіч і беларуская мова. Кс. Фр. Будзька, яго жыццё і праца для беларускай мовы ў Касцёле. Кс. Ал. Астрамовіч (А. Зязюля), яго жыццё, праца на ніве беларускай рэлігійнай творчасці і значэнне для справы беларускай мовы ў святыні. Беларуская мова ў касцёле ў Гродзеншчыне. Квасаўка. Кс. кан. Ян Бурда, кс. Фр. Рамейка і праца яго ў Шэрашаве для справы роднай мовы у Касцёле. Беларуская мова ў касцёле у быўшай Ковенскай дыяцэзіі. Біскуп Карэвіч і адносіны яго да беларускай мовы.*

Праз увесь, як мы бачылі, XIX пераломны для Беларусі век мова беларуская ў Касцёле зберагла сабе хоць дужа скромнае мейсца, каб у наступным веку XX здабыць сабе ў тым жа Касцёле мейсца больш пачэснае, а прынамсі, каб ужо свядома і адкрыта выступіць на арэну змагання за сваё жыццё, за свае слушныя, святыя правы ў святыні.

У XX в. ужо спатыкаем свядомых ксяндзоў-беларусаў, верных сыноў Касцёла і свайго беларускага народа, як Фр. Будзька, А. Астрамовіч, К. Стаповіч, З. Якуць, Ф. Абрантовіч, В. Гадлеўскі, В. Шутовіч, П. Татарыновіч, А. Цікота, І. Рэшэць, І. Тарасевіч і многа іншых, якія на алтары Касцёла і Бацькаўшчыны Беларусі складаюць свой розум, сваё сэрца, усе свае сілы. У святле іх як жа яшчэ больш жудасныя чыны Сямашкі[9], Санчыкоўскага і інш., якія за чужацкую шачэўку прадалі сваё беларускае і каталіцкае первародства!

Дык, вось жа, і прыступім да разгляду справы ўжывання беларускай мовы ў Касцёле за трыццацігадовы час XX сучаснага веку.

Перадусім прыпомнім тыя пастановы Апост. Сталіцы, якія ў гэтай справе спатыкаем у першым дзесятку нашага веку.

Пасля рэвалюцыі ў Расеі, калі 17.IV.1905 г. была аб'яўлена вольнасць веры, царскі міністр звярнуўся да Апост. Сталіцы з просьбай скасаваць сваю забарону з 11.VII.1877 г. уводжання расейскай мовы ў Касцёлы нашага краю без згоды на гэта Св. Айца. У адказ на гэта кардынал Мэры дэль Валь ад імя Св. Айца выслаў тады два лісты да каталіцкіх біскупаў Расейскай імперыі. У першым лісце кардынал даў выясненне, што ў дадатковых набажэнствах кожнаму народу можна ўжываць у касцёле сваю родную мову і што забарона з 1877 г. уводзіць у касцёлы расейскую мову, рэч зразумелая, не датычыла каталікоў-расейцаў.



У тым жа пісьме, у канцы, кардынал пісаў даслоўна гэтак: «...Што датычыць казанняў, катэхізацыяў, малітваў, песняў набожных — тая мова мае быць ужываная, якая ёсць уласнай большасці жыхароў або прынамсі якой-небудзь групы верных, да каторых належыць касцёл. Апрача гэтага, калі б знайшоўся значны лік верных, хоць бы станавіў меншасць, якія карыстаюць іншай мовай, тым таксама катэхізм, казанні, а нават, калі б гэтага вымагалі абставіны, публічныя малітвы і набожныя песні можна мець у мове ўласнай. А калі б паўсталі ў гэтай справе сумнівы і труднасці, тады належыць звярнуцца да Апост. Сталіцы» (13.X, 1906, № 19702).

Расейскі ўрад, не здаволены з гэтага адказу, 1907 г. звярнуўся да Рыма з новым дамаганнем, каб увесці ў касцёлы ў дадатковыя набажэнствы мову беларускую і, як ён называў, маларускую, што значыць — украінскую, спадзеючыся, рэч зразумелая, праз гэтыя мовы лягчэй увесці ў касцёлы мову расейскую. На гэта дамаганне той жа кардынал Мэры дэль Валь выслаў другі ліст да каталіцкіх біскупаў Расеі, у якім выясніў, дзе і калі можна ўжываць у касцёлах мову беларускую і ўкраінскую. У лісце гэтым кардынал між іншым пісаў: «...Цяпер расейскі ўрад прадставіў новую падобную справу што да жыхароў тых правінцыяў, якія завуцца Беларуссю і Малярусіяй, каб гэтыя таксама ў дадатковым набажэнстве маглі карыстацца сваім дыялектам (гутаркай). Вось жа, у якіх парафіях мае быць ужываная беларуская, ці маларуская, гутарка, з волі самых жыхароў трэба даведацца, такім аднак спосабам, што калі паўстане непаразуменне між духавенствам і вернымі, каб справа была пераданай найвышэйшаму суду Апост. Сталіцы» (29.VI.1907, № 24,489).

З усяго вышэйшага бачым, як справядліва адносіцца Апост. Сталіца і да нашай мовы ў Касцёле. Паводле выясненняў кардынала Мэры дэль Валь з волі Св. Айца на пачатку нашага стагоддзя мова беларуская ў касцёле ў дадатковых набажэнствах мае поўнае права, абы толькі гэтага народ пажадаў і дамагаўся.

Але, каб снаваць нашу думку далей, вернемся крыху назад. На пераломе між векам XIX і XX спатыкаем светлую постаць Стафана Данісевіча, біскупа-суфрагана архідыяцэзіі Магілёўскай. Тыя ўсе расткі беларускага касцельнага жыцця, якія асталіся жывымі пад навалай бураў XIX в., біскуп С. Данісевіч агледзеў, дапусціў да іх касулькі сонца і, як сапраўдны пастыр, усей сілай свайго добрага сэрца заапекаваўся далейшым іх лёсам.

Біскуп С. Данісевіч паходзіў з Магілёўшчыны, з дробнай беларускай шляхты. Па сканчэнні Менскай Духоўнай Семінарыі, а пасля Акадэміі ў Пецярбурзе як ксёндз працаваў у апошнія гады XIX ст. у розных месцах Беларусі, як Орша, Магілёў, Смаленск. Ад 1905 г. да 1908 г. Данісевіч быў прэлатам і адміністратарам Магілёўскай архідыяцэзіі. У гэтым часе, калі дзякуючы вольнасці рэлігійнай рады беларусаў-каталікоў у 1905–1909 г. павялічыліся на 232 705 душ, бо многія даўнейшыя уніяты з праваслаўя варочаліся да Каталіцкага Касцёла, і калі была адменена забарона беларускіх друкаў лацінікай, — прад беларускім каталіцкім і народным жыццём адкрыліся светлыя магчымасці прыгожага развіцця яго. Вось жа прэлат С. Данісевіч у меру сіл сваіх і прыступае тады да працы на гэтай ніве. Ён, ведаючы добра, якую прыносе шкоду Касцёлу і беларускаму народу карыстанне па святынях Беларусі чужой польскай мовай, у 1906 г. у Пецярбурзе выдае «Elementarz dla dobrych dzietok katolikoŭ» з сваёй уласнай апрабатай. Гэты «Elementarz» як не трэба лепш лучыць мінуўшчыну з будучынай. Гэта ёсць новае выданне «Elementarza» з 1862 г., аб якім была гутарка вышэй. «Elementarz» Данісевіча розніцца ад гэтага даўнейшага толькі чысцінёй беларускай мовы. Значна менш у ім спатыкаем русізмаў і паланізмаў, як у даўнейшым. На канцы таксама выкінута «табліčка множання».

Шмат было пасля на Данісевіча за гэта напасці ад тых, каму вера патрэбна толькі дзеля шырэння польскай народнасці сярод беларускага народа. Але ён на гэта не зважаў, бо моцна быў пераканаты, што мова беларуская мае права ўжывання яе ў святыні і, як мова родная, дужа карыстаная беларусу ў справе пазнання праўдаў веры яго. Дзеля гэтага заахвочваў пісаць і выдаваць рэлігійныя кніжкі па-беларуску і сам нават некаторыя з іх цэнзураваў прад тым, як даць дазвол друкаваць іх, як напр., «Кароткі катэхізм» (1907) і «Кароткая Гісторыя Святая» (1914).

Будучы ўжо біскупам-суфраганам ад 1909 г., падчас адведзінаў архідыяцэзіі, у Фашчоўцы, напрыклад, не толькі ксяндзом загадваў гаварыць казанні па-беларуску, але таксама і сам іх гаварыў. Як расказваюць навочныя сведкі, радасць народу была неапісаная. Карыстаўся таксама бп. Данісевіч у казаннях беларускай мовай і ў другіх парафіях Беларусі. Памёр 3.XII.1913 г.

Годным наследнікам біскупа Данісевіча ў справе праводжання беларускай мовы ў касцёл быў кс. Фр. Будзька, адзін з піянераў як рэлігійнага, так і агулам народнага беларускага сучаснага адраджэння.

Родам ён з вёскі Вознаўшчына, Парфенаўскай парафіі, Вілейскага павета. Вучыўся спярша ў Будслаўскай народнай школе, пасля



ў Вілейцы ў школе павятовай, тады ў Вільні, адкуль падаўся ў Каталіцкую Духоўную Семінарыю ў Пецярбург, якую скончыў на самым пачатку нашага веку. Ужо будучы клерыкам, быў, бадай, свядомым беларусам і прабаваў тлумачыць польскія рэлігійныя кніжкі на беларускую мову. Скончыўшы навуку ў семінарыі, ён, будучы ўжо дыяканам, перайшоў на навукі у Духоўную Акадэмію ў тым жа Пецярбурзе. Будучы ў семінарыі даходзіў да беларускай народнай свядомасці, чытаючы «Беларускую Дудку» — Мацея Бурачка (Фр. Багушэвіча). Давяршыў жа сваёй народнай свядомасці ў Акадэміі пад уплывам праф. той жа акадэміі (у якой быў у першых гадох нашага стагоддзя) Бр. Эпімах-Шыпілы, першага піянера беларускага сучаснага адраджэнскага руху.

Кс. Фр. Будзька, яшчэ будучы клерыкам, ужо цярпеў за беларускую справу. Як расказвае блізка знаючы кс. Фр. Будзьку, крыху ад яго малодшы беларус кс. Фр. Рамейка, які і сам ад Будзькі ўсвядоміўся, — тагачасны адміністратар Віленскай дыяцэзіі кс. Францкевіч загадаў тагачаснаму пробашчу ў Парфенаве, каб гэты стараўся не дапускаць Будзькі да катэхізавання дзяцей па-беларуску і агулам каб стараніўся яго, як шкоднага для Касцёла і грамадзянства беларуса. Не будзем уваходзіць у тыя прычыны, дзеля якіх кс. Францкевіч так адносіўся да беларусаў-каталікоў, быць можа — страх расейшчыны і праваслаўя папіхаў яго да гэтага, але цікавы сам па сабе факт астаецца фактам.

Агулам польскія каталіцкія тагачасныя ўлады глядзелі на кс. Фр. Будзьку з няпэўнасцю. Калі ён скончыў навукі, яго некаторы час не святілі на ксяндза, баючыся яго беларускасці. Удалося кс. Фр. Будзьку выбрацца з гэтых клопатаў толькі дзякуючы блізкім, сардэчным, прыяцельскім адносінам яго з біскупам Ст. Данісевічам.

Стаўшыся ксяндзом, кс. Фр. Будзька быў цэлы рад гадоў вікарыем у Полацку, адкуль любіў ездзіць у Улу (Лепельскага пав.) і ў іншыя парафіі гаварыць беларускія казанні.

У 1917 г. кс. Фр. Будзька купіў у доўг невялікі фальварак недалёка Полацка, дзе збудаваў капліцу і снуў планы аб закладзінах там самастойнай беларускай парафіі. Смерць, аднак, планы яго спыніла. Седзячы на сяле, не пераставаў працаваць дзеля адраджэння беларускага народа: гаварыў беларускія казанні, перакладаў на беларускую мову рэлігійныя кніжкі, закладаў беларускія школы.

Кс. Фр. Будзька пераклаў на беларускую мову і сваім стараннем выдаў наступныя кніжкі: «Катэхізм» — кс. Філяхоўскага, «Св. Андрэй Баболя», «Святая Гісторыя» — Шустара, «Касцельныя абрады» — кс. Банчкоўскага.

Гэтымі сваімі кніжкамі кс. Фр. Будзька справу ўжывання беларускай мовы ў жыцці рэлігійным беларусаў-каталікоў пхнуў далёка наперад. Ён прадоўжыў і дапоўніў у гэтым кірунку працу біскупа Данісевіча як не трэба лепш.

Кс. Фр. Будзька трудзіўся таксама нямала на полі працы арганізацыйнай. Ён усведамляў і лучыў між сабой каталіцкую духоўную моладзь у духоўных семінарыях у Вільні і Пецярбурзе, здальнейшых намаўляў ісці ў вышэйшыя навукі ў Акадэмію і знаходзіў для іх сродкі матэрыяльныя.

Беларуская каталіцкая газета «Biełarus», што выходзіла ў Вільні (1913–15 г.) паўстала таксама дзякуючы старанням кс. Фр. Будзькі.

Кс. Фр. Будзька — гэта выдатны піянер беларускага руху, верны сын Касцёла і народа, стойкі змагальнік за правы беларускай мовы ў святыні ад 1900 г. аж да 1920-га, у якім на Грамніцы 2 лютага расстаўся з гэтым светам.

Вялікія таксама палажыў заслугі ў справе народнага адраджэння агулам, а таксама і для беларускай мовы ў Касцёле кс. Аляксандра Астрамовіч (А. Зязюля), паэт беларускі. Радзіўся ён 26 лістапада (стар. стылю) 1878 г. у сяле Навасады Гальшанскай парафіі Ашмянскага павета. Да семінарыі вучыўся ў Ашмянскай павятовай школе і прыватна. У семінарыю ўступіў у Пецярбург 1905 г., ці 1906 г., якую скончыў 1910 г. Яшчэ будучы клерыкам, А. Астрамовіч быў ужо свядомым беларусам. Усвядоміў яго кс. Адам Лісоўскі († 9.X.29 г.), канонік капітулы Пінскай, адзін са старэйшых беларускіх адраджэнцаў, родам з той жа Ашмяншчыны, з вёскі Каранды, тады Гальшанскай, цяпер Крэўскай гміны.

Будучы клерыкам, Астрамовіч ужо пачаў пісаць беларускія вершы, якія пісаў да канца жыцця свайго пад мянушкай Андрэй Зязюля.

Разам з А. Астрамовічам у семінарыі быў таксама другі клерык, свядомы беларус, таксама пачынаючы паэт беларускі Янка Матыш, які пісаў беларускія вершы пад мянушкай Васіль Васілёк і які пераклаўшы быў на беларускую мову «Гадзінкі да Маці Божай». Рукапісу гэтага, на жаль, знайсці нам не ўдалося ды і агулам няведама, ці ён захаваўся дзе. Васіль Васілёк памёр 8.I.1913 г. А. Зязюля ў гадавіну яго смерці памяці яго пасвяціў прыгожы верш, друкаваны ў «Biełarusie» 1914 г. у № 2, які закончыў такімі словамі:

Быццам краска Ты цвіў,
Край свой шчыра любіў,
Аб красе яго сніў,
Да жыцця нас будзіў.

Хай жа гэта зямля
Будзе лёгкай Табе,
Васіля-Васілька
Хай прытуле к сабе.



Вершы свае А. Зязюля друкаваў у часопісах: «Наша ніва», «Biełarus», «Светач», «Вольная Беларусь», «Крыніца», а таксама выданы яны асобнымі кніжыцамі: «З роднага загону», «Слова праўды» і «Аленчына вяселле». Апрача гэтага многа вершаў А. Зязюлі знаходзіцца ў рукапісах, нідзе дагэтуль не друкаваных, якія чакаюць свайго выдаўца.

Успамінаем тут аб паэтычным творстве кс. А. Астрамовіча затым, што яно бадай у пераважнай меры мае характар да пашырэння і адчасці здзяйснення права беларускай мовы ў святыні.

Шырока ведамы рэлігійна-народны беларускі гімн «Божа, што калісь народы на асобкі падзяліў», які сёння шмат дзе ўжо разлягаецца па нашых святынях, ёсць плодам паэтычнай працы кс. А. Астрамовіча.

Першую св. Імшу кс. А. Астрамовіч адправіў у Трабах, даўней Ашмянскага, цяпер Валожынскага павета 2.II. (стар. стылю) 1911 года. На прыміцыйных памяткавых абразіках знаходзім яго вершыкі:

Забудзьцеся, Браця, на хвілю зямное,
Маліцеся, Вас заклінаю,
Каб гэту ахвяру, што сёння складаю,
Прыняў Бог, як жэртву ад Ноя.

Дзень гэты памятны ў Трабах і да сёння; абразкі ж і беларускія кніжкі, якія даваў кс. А. Астрамовіч людзям на памятку, у многіх перахоўваюцца і цяпер з вялікай пашанай.

Дазволю тут сабе змясціць адрывак з прыватнага да нас ліста аб кс. А. Астрамовічу трабскага парафіяніна, жыхара засценка Альтарыя. Вось што ён між іншым піша: «Кс. Астрамовіч, калі яшчэ быў у семінарыі, заўсёды прыязджаў у Трабы на вакацыі да кс. Фр. Чагліса. Вучыў ён нас пяяць беларускія песні і заўсёды прывозіў з Вільні беларускія кніжкі... Найбольшай жа памяткай па ім для Трабскай парафіі была яго першая Імша святая. Памяткавыя абразкі яго шмат у каго хаваюцца і цяпер. Многія толькі цяпер сталі ацэньваць гэтага вялікага чалавека і разумець словы яго, якія ўсім цвердзіў, што прыйдзе час, калі народ беларускі маліцца ў касцёле і вучыцца ў школе будзе ў сваёй роднай мове. Цяпер зачынаюць верыць яго словам...»

Як ксёндз працаваў Астрамовіч спярша ў Ракаве Валожынскага пав., Ганопалі пад Менскам, у Смілавічах Ігуменскага пав., у Сянно Магілёўскай губ.

Заслугі кс. А. Астрамовіча ў справе беларускай мовы ў святыні вялізарныя. Праз свае рэлігійныя вершы ён, перадусім, пака-

заў, што беларуская мова здатная цалком для жыцця касцельнага, а праз гэта значна яе прыбліжыў да Касцёла і адчасці ўвёў яе туды.

26 лістапада 1914 г. у двары Кухціцы Ігуменскага пав. на пахо-вінах князя М. Радзівіла кс. А. Астрамовіч сказаў па-беларуску жалобнае казанне.

Пасля расейскай рэвалюцыі 1917 года, менш аглядаючыся на праціўнікаў беларускай мовы ў касцёле, кс. А. Астрамовіч казанні па-беларуску гаварыў даволі часта.

За сваю беларускасць кс. А. Астрамовіч дужа шмат цярпеў ад сільных гэтага свету: два гады быў без парафіі і жыў на ласцы ў ксяндзоў-калег, аднак заўсёды аставаўся верным і Касцёлу і народу.

Астатнім месцам працы кс. А. Астрамовіча было м. Сянно ў Магілёўшчыне, дзе ён памёр і пахаваны 17 студня 1921 г.

Калі вестка аб смерці А. Зязюлі дайшла да Пецярбурга, у ка-федры адбылося жалобнае набажэнства за душу яго, якое адправіў арцыбіскуп І. Цяпляк. На набажэнстве беларус кс. Эдв. Юневіч, ведамы з бальшавіцкага суду над арц. Цепляком, сказаў адпавед-нае казанне па-беларуску.

Не адрэчы тут будзе таксама ўспомніць, што ўжыванні бела-рускай мовы ў касцёле яшчэ пад канец гадоў першага дзесятка нашага веку здараліся і на заходніх беларуска-літоўскіх землях. Так, напрыклад, у «Гомоне» з 1918 г. у № 31 пад загалоўкам «Бела-рускае казанне ў Гродзеншчыне» спатыкаем успаміны з 1908-9 г. нейкага Р. аб здарэнні быць яму з іншымі асобамі ў Квасаўцы, Гро-дзенскага пав. на беларускім казанні ў касцёле. У гэтых успамінах між іншым чытаем: «...Ад першых слоў казання ўсе мы чыста здз-меліся: *ксёндз прамаўляў да народу па-беларуску*. Гэта было для нас такой навіной, што толькі другі сказ прамоўцы пераканаў нас, што чуем добра. Ксёндз казаў аб павіннасці святіць святыя дні, устрымліваючыся ад службовых забот і слухаючы св. Імшы.

Шчыра прызнаюся, што мяне страшэнна зацікавіла, як гэта будзе і што з гэтага выйдзе? Але плыннасць вымовы, ёмкасць і яркасць сказаў, багатая абразованасць, не пазбаўленая дасціпнасці, абярнулі скора пачуццё цікавасці ў пачуццё здаволення, каторае не занікала праз увесь час казання. Усе мы слухалі так пільна, як ніколі ў жыцці... У касцёле запанавала незвычайная ціш: вочы, вушы і вусны, здаец-ца, стараліся ўлавіць кожнае слова. Калі ж казанне скончылася, цікаўна было глянуць на слухачоў: іх вочы глядзелі так, як глядзяць вочы дзяцей, калі раптам спыняецца пекная цікаўная аповесць. Удзячнасць, зацікаўленне асобай ксяндза, здаволенне пачутым змяшаліся разам на тварах гэтых шчырых жыхароў беларускай вёскі, першы раз у жыцці сваім пачуўшы гэтак паважанае слова Божае ў матчынай мове.



Запрошаныя пробашчам мы ў гэты дзень пасля Імшы зайшліся да гасціннай і мілай плябаніі, дзе пазнаёміліся з ксяндзом, казаў-шым казанне. Гэта быў пачэсны канонік кс. Ян Бурба... Мы выка-залі наша здзіўленне з прычыны сягоннашняй неспадзяванкі. — А што ж, думаеце, — адказаў ён, — дзе народ ужывае беларускай мовы, там і казання трэба казаць па-беларуску... Між быўшымі на плябаніі гасцямі з суседніх польскіх двароў і дробнай шляхты знай-шліся, аднак, такія, якія (асабліва з кабет), — шчыра ці не шчы-ра — горшыліся з прычыны беларушчыны ў касцёле. Тады ка-нонік пачаў, быццам з рукава, сыпаць чутымі з вуснаў народа, вык-рыўляннямі незразумелай для беларусаў польскае мовы ў казан-нях і катэхізме...

Вестка аб гэтым беларускім казанні, — кажа Р., канчаючы свае ўспаміны, — шыбка разышлася і па суседніх парафіях, і тамака аб ім памятаюць, бадай, і сягоння. Добрая памяць перажыла і кс. кано-ніка Бурбу, памёршага пару гадоў таму назад. А людзі ўсюды вельмі хвалілі казанне. Старыя ўспаміналі, што, як чулі ад бацькоў сваіх, у суседніх Вярэйках некалі таксама казаў беларускія казанні а. Кон-трым, дамініканін».

Апісанне гэтага ўспаміну паказвае, як мова беларуская ў роз-ным часе, у розных месцах нашага краю была ўжываная у касцёле.

У многіх жа зноў месцах, дзе дзеля розных варункаў гаварыць казанні ў касцёле па-беларуску няможна было, некаторыя ксян-дзы, не могучы сваіх парафіян чужой польскай мовай навучыць, карысталіся мовай беларускай уперамешку з польскай. Як прыпа-мінае кс. В. Гадлеўскі, навочны сведка, гэтак гаварыў кс. Клям, пробашч у Крамянцы, Ваўкавыскага пав. у г. 1911–12.

У той жа Горадзеншчыне ўжыванне ў касцёле беларускай мовы не прарывалася і далей. Так, напрыклад, кс. Фр. Рамейка[10], веда-мы стары беларус, у Шэрашэве Пружанскага пав., дзе ён быў пробашчам, ад 1916 г. на працягу колькі гадоў шмат папрацаваў для права роднай мовы ў святыні. Часопіс «Беларуская думка» за 1919 г. у № 22 у стацці пад загалоўкам: «З падарожы», аб дзейнасці кс. Фр. Рамейкі між іншым піша гэтак: «...цэнным працаўніком, шчырым сынам Беларусі, каторы ціха, без розгаласу, ужо больш як дзевяць год няўпынна працуе — ёсць кс. Фр. Рамейка.

Цяжка было працаваць кс. Рамейку аднаму, без маральнай пад-трымкі і парады з іншымі, маючы каля сябе гэтулькі ворагаў нашай справы. Столькі цяжару прыйшлося перанесці, прыкрасці перажыць! Аднак, не зважаючы на гэта, адкрываў школы, прытулкі беларус-кія, катэхізацыю дзяцей перад першай споведдзю ў беларускай вёў мове. У касцёле часта Бога хваляць песнямі ў той жа роднай мове...»

Апрача гэтага, ад сябе можам дадаць, што кс. Фр. Рамейка таксама і казанні гаварыў часам па-беларуску, як у Шэрашэве, так і ў капліцы ў Вялікім Сяле Шэрашэўскай парафіі, а таксама па-беларуску катэхізаваў дзяцей і вучыў пяяць беларускія рэлігійныя песні.

Сапраўды, па ўсіх кутках нашага краю, дзе толькі жылі беларусы, паўставала справа беларускай мовы ў касцёле.

У Ковенскай дыяцэзіі, да часу паўстання сучаснай літоўска-польскай граніцы, у сучаснай Браслаўшчыне асабліва, было даволі многа беларусаў-каталікоў. Вось жа, калі біскупам Ковенскім стаўся Карэвіч, ведамы прыяцель беларусаў, некаторыя ксяндзы-беларусы прыпомнілі біскупу аб мове беларускай у Касцёле. У 1914 г., на інгрэсе біскупа Карэвіча кс. М. Далескі сказаў прамову, у якой аб справе роднай мовы ў Касцёле нашага народа гаварыў: «У склад нашай дыяцэзіі уваходзяць апрача літоўцаў значны лік і другіх народнасцяў: палякаў, беларусаў, латышоў і немцаў. Гэтакая народная рабізна ў дыяцэзіі ёсць абразом паўсюднага Каталіцкага Касцёла, каторы абдымае ўсе народнасці на ўсёй зямлі.

Беларусаў у Жмудскай дыяцэзіі ёсць тысяч 60, а мо і болей... Беларусы — народ нямнога цямнейшы за сваіх суседзяў палякаў, а нават і літоўцаў, і культурна яны стаяць ніжэй, аднак яны маюць і добрыя стораны: дужа крэпка прывязаны да Касцёла, да веры, да духавенства, біскупаў, да Сталіцы Апостальскай.

Яны маюць душу і сэрца — казаў далей кс. Далецкі аб беларусах — і адчуваюць долю і нядолю, смутак і радасць. Сёння яны цешацца, дачакаўшы сабе новага біскупа, і спадзяюцца, што ён для ўсіх сваіх авечак, нягледзячы на народнасць, будзе праўдзівым айцом і духоўным кіраўніком...»

Надзеі беларусаў-каталікоў былі зусім слушныя, бо біскуп Карэвіч права нашай мовы ў Касцёле прызнаваў і падтрымліваў.

Калі ж лопнулі ланцугі расейскай царскай няволі ў 1917 г., справа ўжывання беларускай мовы ў Касцёле ажывілася значна.

## VIII. БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СВЯТЫНЯХ У 1917 І 18 ГГ.

*Беларускі Нацыянальны Камітэт у Менску і яго старанні што да беларускай мовы ў Касцёле. З'езд ксяндзоў беларусаў 24 і 25 траўня 1917 г. Біскуп Эдв. Роп, яго жыццё, адносіны да беларускай мовы ў жыцці рэлігійным. Беларускія казанні ў Дзісеншчыне і Вілейшчыне. Процідзейнасці беларускім казанням у Радашковічах.*



*Радасць народа, слухаючага слова Божае ў роднай мове. Пастырскі ліст біскупа Эдв. Ропа да духавенства 1917 г. аб праве ўжывання беларускай мовы ў святыні і яго гістарычнае значэнне. З'езд духавенства ў Германавічах 1918 г. і беларуская мова ў жыцці касцельным. Менскі біскуп З. Лазінскі і яго адносіны да беларускай мовы. Каталіцкая беларуская праца ў Менску кс. Фр. Абрантовіча, а ў Петраградзе кс. Л. Хвецькі.*

У гэтым часе ўжо спатыкаем арганізаванае выступленне беларускага грамадзянства ў справе правоў беларусаў-каталікоў у Касцёле. Існуючы ў пачатку рэвалюцыі Беларускі Нацыянальны Камітэт у Менску 25(12) красавіка 1917 г. праз рукі дэлегацыі падаў Магілёўскаму арцыбіскупу наступны мемарыял: «Каталіцкі Касцёл, маючы вялікае заданне навучаць усе народы, спрадвеку звярочваўся да ўсіх народаў у іх роднай мове. Патрэбы гэтага паказаў сам Бог, даючы апосталам і іх вучням дар языкоў, з каторага дару карыстаючы, пасланцы Хрыстусовыя апавяшчалі ўсяму свету Евангелле ў зразумелай для ўсіх гутарцы і такім парадкам шырылі каралеўства Божае на зямлі.

На Беларусь вера каталіцкая ў лацінскім абрадзе прыйшла з Польшчы, і разам з пашырэннем каталіцтва шырылася таксама польшчына.

Па-польску навучалі людзей разумець веру, па-польску вучылі маліцца, па-польску вучылі чытаць кніжкі касцельныя, і дзеля гэтых прычын мы бачым цяпер, што народ беларускі, гаворачы інакш у хаце, мае чужую мову ў Касцёле і ў малітве зварочваецца да Бога не па-свойму, а па-чужому.

Не даходзячы прычын, чаму гэтак зрабілася, мы бачым, што з пашырэннем народных рухаў гэтак далей быць не можа, што гэтае ненармальнае раздваенне формы адносін да Бога і людзей мусе з часам уступіць адной форме — беларускай. Да гэтага ідуць усе народы, да гэтага ідзе і народ беларускі.

Наш народ да гэтага часу быў у надта цяжкіх варунках. Даўно ўжо паўстала думка завесці беларускую мову ў Касцёле, але гэтаму стараўся перашкаджаць расейскі ўрад, каторы або проста забараняў гаварыць у касцёле па-беларуску, або, праз заводжванне сілком расейскай мовы ў Касцёле, спыняў усякія спробы завесці туды беларушчыну.

Патрэбу ўвесці беларускую мову ў касцельным жыцці ўжо людзі бачылі здаўных; яе бачылі а. езуіты, заводзячы беларускую мову ў Фашчоўцы, бачыў яе біскуп кс. Сымон, каторы ў сваёй запісцы на

імя Апостальскага Пасаду выказваў патрэбы ўвесці беларушчыну ў Касцёл і ў Магілёўскую Духоўную Семінарыю, толькі радзіў рабіць гэта асцярожна: «Урад цікуецца, каб з гэтага ўзяць повад і ўвесці ў Касцёл расейшчыну». Патрэба гэтая цяпер яшчэ большая, бо, апроч народнага беларускага руху, каторы жадае сваёй мовы ў Касцёле, а таксама апрача карысці, якую прыносе навучанне веры ў роднай мове, сюды яшчэ далучаецца патрэба несці святло веры каталіцкай тым, каторыя цяпер наварочваюцца да Каталіцкага Касцёла і да каторых цяжка зварочвацца па-польску, бо яны яе зусім не разумеюць; іншымі словамі, — польшчына ў цяперашніх варунках можа прынесці толькі шкоду Каталіцкаму Касцёлу на Беларусі, а не карысць; і дзеля гэтага духавенства на Беларусі, апіраючыся на польшчыне, не зможа зрабіць таго, што павінна зрабіць і не будзе спаўняць волі Касцёла, каторы, высылаючы місіянераў да чужых краёў, кажа ім спачатку навучыцца тамашняй мовы, а пасля ўжо ісці апавяшчаць слова Божае.

Абсудзіўшы ўсё гэта, а таксама маючы на ўвазе цяперашнюю свабоду, Беларускі Нацыянальны Камітэт зварочваецца да Яго Эксцэленцыі Магілёўскага арцыбіскупа з такімі пажаданнямі:

1. Каб завесці ад восені 1917 года ў Магілёўскай Семінарыі ў Петраградзе лекцыі беларускай мовы, літаратуры і гісторыі Беларусі.

2. Прыпомніць усяму духавенству на Беларусі яго абавязак, наколькі хопіць сіл і магчымасці, прамаўляць па-беларуску да людзей у навучанні веры ў Касцёле і школе.

3. Чытаць па касцёлах усе адозвы вышэйшага духавенства (Папежа, біскупа) між іншымі мовамі таксама і па-беларуску.

4. Аддаць беларускаму духавенству ўсе Касцёлы, якія маюць быць звернуты праз новы ўрад, з каторых можна было б без ніякіх звадак завесці беларушчыну.

5. Даручыць ксяндзом заняцца выданнем беларускіх рэлігійных кніжак для Касцёла і школы, а таксама беларускага часопіса.

6. Камітэт просіць назначаць на Беларусь ксяндзоў беларусаў або тых, каторыя знаюць беларускую мову.

7. Камітэт просе прычыніцца, каб на Беларусі быў назначаны біскуп беларус або такі, каторы ўмее па-беларуску гаварыць, знае беларускі народ і яго патрэбы» (Гомон. 1918, № 39).

Мемарыял гэты падпісалі: Раман Скірмунт, кс. В. Гадлеўскі, Эдв. Будзька і інш.; змяшчаем мы яго ўвесь дзеля таго, што ён, як бачым, справу беларускай мовы ў Касцёле абдымае глыбока і ўсестаронна.

Агулам трэба сказаць, што пасля рэвалюцыі 1917 г. справа беларускага рэлігійнага жыцця ўсцяж пашыралася і паглыблялася.



Справу гэту ўзяло ў свае рукі беларускае каталіцкае духавенства, якое на нарадах, сходах, з'ездах абгаворвала яе ўсестаронна і грунтоўна.

24 і 25 траўня 1917 г. у Менску адбыўся з'езд каталіцкага беларускага духавенства. Ініцыятарамі з'езду былі: кс. Л. Хвецька, кс. В. Гадлеўскі, кс. А. Астрамовіч, кс. Фр. Будзька і кс. А. Цыкота. На з'ездзе гэтым прысутных было да 30 ксяндзоў беларусаў.

З'езд выслухаў 5 рэфератаў, прыняўшы пасля адпаведныя пастановы. Рэфераты чыталі: кс. Ад. Станкевіч: аб беларускім руху і яго адносінах да жыцця касцельнага і да працы каталіцкай, кс. В. Гадлеўскі: аб палітычна-народнай дзейнасці каталіцкага духавенства ў Беларусі ў тых часах; кс. В. Гарасімовіч: аб дзейнасці духавенства грамадска-эканамічнай, кс. Ф. Абрантовіч: аб дзейнасці прасветнай і кс. Л. Хвецька: аб выдавецтве.

З'езд гэты меў вялізарнае значэнне. Ён разбудзіў да працы і тых з ксяндзоў, якія ўжо даўно былі забыўшыся аб сваёй беларускасці.

Пасля з'езду шмат дзе на землях беларускіх ксяндзы пачалі па касцёлах гаварыць беларускія казанні.

Таксама дзякуючы з'езду, у тым жа годзе ўвосені ў Петраградзе пачаў выходзіць шырокавядомы, выходзячы да сёння, беларускі часопіс «Крыніца».

Але падзеі з небывалай шыбкасцю развіваліся далей. Усе народы быўшай Расеі, а ў тым ліку і беларусы, вялі вялікую, кожны ў меры сіл сваіх, народна-арганізацыйную работу. Разам з гэтымі падзеямі таксама ўсцяж расла і справа беларускага касцельнага жыцця.

Як біскуп Ст. Данісевіч, пасля часовай вольнасці ў Расеі па 1905 г., скарыстаў з яе і справу нашай мовы ў касцёле значна пхнуў наперад, так біскуп Эдвард Роп пасля рэвалюцыі 1917 г., карыстаючыся з вольнасці, справу гэту яшчэ больш паглыбіў, выясніў, пашырыў і, даючы ёй, як убачым ніжэй, праўныя і практычныя падставы, стварыў як бы новую эпоху ў справе ўжывання беларускай мовы ў касцёле.

Вось жа асоба гэтага пастыра заслужвае, каб над ёй затрымацца даўжэй.

Радзіўся біскуп Эдвард Роп у 1858 г. у двары Ліксна, у Віцебшчыне. Скончыўшы права ў Пецярбургскім універсітэце, паступіў на дзяржаўную расейскую службу. Але чуючы ў сабе поклік да духоўнага стану, паступіў у Ковенскую Семінарыю, скончыўшы каторую, давяршыў сваёй і так высокай адукацыі ў Інсбруку і Фрыбургу за граніцай на тэалагічных факультэтах. Пасвечаны на ксяндза ў 1886, а на біскупа 2.V.1902 г. біскуп Роп год кіраваў дыяцэ-

зіяй Саратаўскай, а ў годзе наступным 1903 быў назначаны на чало дыяцэзіі Віленскай.

Ужо ў Вільні біскуп Эдв. Роп паказаў сябе з найлепшага боку. Ён шчыра лагодзіў польска-літоўскую нацыянальную барацьбу, стараючыся быць справядлівым, а таксама падчас рэвалюцыі 1905 г. ён павагай сваёй успакоіў народ і не дапусціў да жыдоўскага пагрому, які быў арганізаваны жандарскім палкоўнікам.

Ужо ў той час, калі справа беларускай мовы ў жыцці рэлігійным такім ці іншым чынам усплывала наверх, біскуп Роп, нягледзячы на трудныя палітычныя абставіны, умеў знайсці выхад і быць справядлівым.

Стараючыся ўвесці расейскую мову ў Касцёл, расейскі ўрад імкнуўся адначасна ўвесці гэтую ж мову і ў навучанне каталіцкай рэлігіі ў школе.

Біскуп Эдв. Роп гэтым палітычным расейскім імкненням даў рашучы адпор, як на той час і тыя варункі, даволі справядліва абходзячыя і з навучаннем рэлігіі ў нашай мове. Паслухаем, што аб гэтым гаворыць «Гомон» (1917 г., № 101) у стацці «Віленская дыяцэзія і выклад рэлігіі ў школах па-беларуску»: «Першая расейская рэвалюцыя, — кажа аўтар гэтай стацці, — знайшла на пасадзе Віленскага біскупа кс. біскупа Эдварда барона Ропа, каторы праз увесь час свайго ўпраўлення дыяцэзіяй цвёрда стаяў на краёвым становішчы, не звяртаючы ўвагі на нездавольства тых ці іншых кругоў. Кс. біскуп Роп не раз выказваў сваю прыхільнасць да беларусаў і не вагаўся называць фанатыкамі тых, што не хацелі прызнаць прыроджаных правоў беларускай мовы. Пасылаючы прадстаўнікоў духавенства ў камісію аб мове пры генерал-губернатары А. А. Фрэзэ, кс. біскуп у мандаце адзначыў гэтаксама рэлігійныя патрэбы беларускага народа. За часаў біскупа Ропа меў быць надрукаваны з яго апрабатай катэхізм па-беларуску, але варункі не далі яму споўніць гэтай думкі... У тым жа 1905 г. 22. VIII. кс. біскуп Роп выдаў за № 4339 цыркуляр, у якім гаворыцца: «...для дзяцей, якія ўжываюць беларускай мовы ў пачатковых школах, дапускаецца ў меру патрэбы тлумачэнне прадмету па-беларуску». Каб ацаніць як трэба, — гаворыцца ў той жа стацці далей, — вагу гэтага кроку, мы павінны прыпомніць, што тады ў нас толькі пачалі выяўляцца першыя праблёскі адраджэння беларускага народа».

Але такое стойкае за праўду і справядлівасць становішча біскупа Ропа сталася дужа нялюбым для расейскага ўрада, які ў 1907 г. і пазбавіў яго Віленскай біскупскай кафедры.

Пасля рэвалюцыі 1917 г., прабыўшы 10 гадоў выгнаннікам, біскуп Роп быў Св. Айцом назначаны на Магілёўскага арцыбіскупа, на якім становішчы і прыступіў да пастырскай працы з сапраўды апостальскім размахам, не памінаючы, як убачым ніжэй, і патрэб беларускай мовы ў Касцёле.



Багатая ў плады праца арцыбіскупа Ропа была, аднак, спынена бальшавікамі. Цвёрда і адкрыта, як праўдзівы Хрыстоў Апостал, бараніў ён св. веры і Касцёла ад напасцяў бальшавізму. За гэта ў 1919 г. арцыбіскуп апынуўся ў турме. Баючыся, аднак, забурэнняў верных, якія масамі выступалі ў абароне свайго пастыра, бальшавікі выслалі яго за граніцу. З канца таго ж 1919 г. арцыбіскуп Роп жыве ў Варшаве, дзе 9.VII.1927 г. шчасліва яшчэ дачакаў адсвяткаваць 25-годдзе свайго біскупства.

З прычыны гэтага юбілею выданы ілюстраваныя аб арцыбіскупе Ропе ўспаміны, у якіх усе артыкулы падкрэсліваюць вялікі яго розум, яго добрае, сапраўды хрысціянскае сэрца, а таксама яго справядлівыя адносіны да кожнай народнасці.

Звольніўшыся ад царскай няволі падчас рэвалюцыі 1917 г., біскуп Роп, яшчэ як біскуп Віленскі (бо хоць урад пазбавіў яго Віленскай біскупскай Сталіцы, але Св. Айцец далей лічыў яго біскупам Віленскім), — першым чынам паспяшыў адведаць тую часць сваёй дыяцэзіі, якая знаходзілася на ўсход ад расейска-нямецкай баявой лініі.

Першай парафіяй, ад якой біскуп пачаў свой пастырскі візіт, была Дзісна, куды ён прыбыў 20.VII.1917 г. позным вечарам. У Дзісне, чакаючы на біскупа, падчас набажэнства ў касцёле да вялізарнага натоўпу верных, якія прыбылі прывітаць пастыра-мучаніка, па-беларуску прамовіў кс. М. Пятроўскі.

На другі дзень, 21.VII., ведаючы пагляды біскупа, ксяндзыбеларусы рыхтаваліся да беларускага казання. Мясцовы дэкан кс. В. Ташкун ад імя гэтых ксяндзоў пайшоў да пастыра запытацца, ці можна сказаць казанне ў роднай мове народу? На гэта быў адказ: *«Не толькі можна, але і трэба»*.

Радасці ксяндзоў-беларусаў не было канца. Дагэтуль ім не толькі няможна было гаварыць да сваіх парафіян-беларусаў казанні ў іх роднай мове, але яны не маглі нават пачуць хоць бы ў тэорыі прызнання права беларускай мове ў Касцёле. Усякія планы і пачынанні іх у гэтым кірунку былі ўважаны за праступак, за здраду... Касцёла.

І вось пачалася галоўная біскупская Імша. Народу небывалыя натоўпы. Да гэтай вялікай урачыстасці каталікоў масава далучаюцца беларусы праваслаўныя, якія выразна маніфестуюць свае прыязныя настроі да біскупа-мучаніка. У Суме мае быць казанне папольску, а па Суме — па-беларуску. Ксяндзы-беларусы гавараць беларускае казанне даручаюць кс. Ад. Станкевічу.

Радасць мая была неапісаная. Хацелася плакаць, як малому дзіцяці, якое, згубіўшы радню сваю, доўга бадзялася па чужых руках, зносячы ўсю паняверку чужацкіх сэрцаў, аж урэшце знайшло свайго дарагога, роднага, добрага бацьку! Мне было цяжка сабраць свае думкі ў парадак і паддаць іх пад законы логікі.

Тоўпіліся яны, мітусіліся ў галаве маёй, як пчолкі ў роі сваім, а радасць балюча ціснула маё сэрца.

Гэта вялікае маё духовае ўзрушэнне ўзмаглося яшчэ больш у тую ўрачыстую хвіліну, калі пастыр ускладаў на мяне стулу, блаславяючы на беларускае казанне! Ідучы на амбону праз народ, якім біткам быў набіты касцёл і якога было поўна за касцёлам, праз адчыненыя вокны слухаючага набажэнства і слова Божага, я толькі помніў тое, што бадай нічога не помніў; я не ведаў, аб чым я гаварыць маю, бо думкі мае цалком вырваліся з панавання майго і роем мітусіліся ў галаве маёй.

Узышоўшы на амбону, я — помню — зачаў ад слоў псалмісты Божага Давіда: *«Не ўмру, але жыць буду і разглашаць буду хвалу Божую»* (Пс. 117), і астаткамі сіл пануючы над сабой, тасаваў я гэтыя словы і да свабоды, якая сапраўды была колькі месяцаў па рэвалюцыі, і да душы чалавека, які моў гэты Давід пакутнік паўстае з грэху, адраджаецца, знаходзіць Бога, і да беларускага народа, які з волі Бога, пры пасрэдстве свайго біскупа-апостала, урачыста атрымаў права для мовы сваёй у святыні і стаўся паўнапраўным грамадзянінам валадарства Хрыстовага.

Пачуўшы словы мовы роднай, так пагарджанай дагэтуль, твар слухачоў ажывіўся, заяснеў. Запанавала святая цішыня. Кожнае слова слухачы, здаецца, жыўцом глыталі. Узрушэнне маё сардэчнае хутка ўдзялілася ўсей вялізарнай грамадзе слухаючых, і нямую ціш у касцёле замяніў нічым не ўстрыманы плач галосны. Ліліся слёзы ручаём з вачэй гаротнага, паднявольнага беларуса, слёзы дзяцей пры боку свайго роднага бацькі... А бацька — біскуп, глыбока пахіліўшы дзесяцігадовай няволяй стурбаваную, сівую галаву сваю, думаў... Думаў ён аб тым, што Праўда і Дабро, як водблескі Бога самога, заўсёды на свеце перамагаюць, даюць радасць сэрцам людскім і адкрываюць новы сэнс жыцця чалавечага...

Па казанні народ прасіў біскупа, каб кс. А. Станкевіча пакінуць у Дзісне назаўсёды.

«...Вялікае свята меў Каталіцкі Касцёл на Беларусі, — слушна кажа «Гомон» 1918 г. у № 57 у стацці «Беларуская мова ў Касцёле», — асвабоджаны ад путаў польшчыны, вялікае свята мела беларуская мова — гэта летась улетку 1917 г., як Яго Эксцэленцыя біскуп Роп візітаваў касцёлы на Беларусі. Па загаду біскупа Ропа былі ўведзены беларускія казанні. Біскуп Роп, падчас сваёй візітацыі, пачынаючы ад Дзісны, загадаў гаварыць казанні па-беларуску ў імя прынцыпу Каталіцкага Касцёла, каторы ад апостальскіх часаў прамаўляе да кожнага народа ў яго роднай мове. Сваім загадам біскуп Роп таксама прызнаў права беларускага народа ўжываць у касцёле сваю мову...»



Назаўтра, 22.VII., адбылася нарада духавенства на чале з сваім пастырам аб каталіцка-грамадскай працы сярод шырокіх мас верных. Кс. А. Станкевіч запытаўся, што ў працы гэтай, на беларускіх абшарах, сярод беларускага народа, ці не варта было б карыстацца і беларускай мовай? На гэта пытанне, пэўне ж, быў адказ з боку пастыра пацвярджаючы, а адначасна пры гэтай нагодзе было тлумачэнне, што на беларусаў трэба звярнуць увагу, што яны пакрыўджаны гісторыяй, што яны мелі сваю высокую культуру, што сёння адраджаюцца і што адродзяцца напэўна...

Гэтыя справядлівыя адносіны біскупа Ропа да беларускай мовы ў Касцёле былі пераломнымі. Яны далі вялікі размах далейшаму развіццю гэтай справы.

Праз увесь час далейшай візітацыі біскупа Віленскай дыяцэзіі ўсюды адбываліся вобак з польскімі і беларускія казанні.

І так, кс. М. Пятроўскі гаварыў у Друі, Іказні, Германавічах, Шаркоўшчыне (Дзісненшчына і Браслаўшчына), у Даўгінаве Вілейскага павета. Гэты ж самы ксёндз хутка пасля гэтага стаўся пробашчам у Шаркоўшчыне і там заўсёды гаварыў беларускія казанні.

У Друі дзеці пастыра віталі беларускімі вершамі. Пастыр слухаў і са слязьмі на вачах казаў: «Ах, як люблю я гэту мову і гэты народ»...

Кс. Эйсмант, ведамы з працэсу біскупа Цепляка ў Маскве, будучы з біскупам Ропам у Ваўкалаце Пастаўскага павета, хочучы даведацца волю народа, прад казаннем звярнуўся да людзей з гэткімі словамі: «Буду мець казанне аб бежмаванні. Як хочаце, каб я гаварыў: па-польску ці па-беларуску? Хто за тое, каб па-беларуску, — няхай падыме рукі ўверх». На гэта ўвесь народ, што быў у касцёле, падняў рукі ўверх. Кс. Эйсмант гаварыў па-беларуску.

Кс. В. Гадлеўскі гаварыў тады беларускія казанні: у Будславе, Касцяневічах, у Крывічах і Радашковічах. У Крывічах народ засыпаў яго кветкамі. Усяго гэтага ворагі беларускай мовы не маглі перанесці і рашылі памсціцца ў Радашковічах, але няўдачна. Вось паслухаем, што аб гэтым гаворыць паказанне самога кс. В. Гадлеўскага з яго ўласным подпісам: «У справе казання ў Радашковічах я ніжэй падпісаны магу сцвердзіць вось што: калі Я. Э. біскуп Роп візітаваў Віленскую дыяцэзію 1917 г., то загадаў, каб былі га-

вораны казанні па-беларуску. Гэтыя казанні гаварылі ксяндзы-беларусы, якія ездзілі разам з біскупам. З калейкі мне выпала гаварыць у Радашковічах і калі я, атрымаўшы блаславенства ад біскупа, узышоў на амбону і пачаў гаварыць казанне, то спаміж народу пачаліся раздавацца галасы: «Досыць, не трэба». Я не зважаў на гэтыя галасы і далей гаварыў навуку. Тады пачуў словы: «Выходзьце, людзі, з касцёла, выходзьце!» Група людзей, так каля 40–50 чалавек, пачала выходзіць з касцёла. У касцельных дзвярах гэтая група затрымалася і, бачачы, што народ за ёю не ідзе, ізноў пачала галасіць, заклікаючы народ, каб выходзіў з касцёла. Тады ўжо біскуп устаў з трона і павольным крокам пайшоў да дзвярэй. Пагаварыўшы крыху з той групай, біскуп пайшоў да плябаніі, а група раздваілася: часць пайшла з біскупам, а часць вярнулася ў касцёл. Казанне я скончыў ужо без ніякага інцыдэнту. Пасля справа выяснілася: прычынай усяго гэтага былі палякі з рабочай дружыны, каторая стаяла ў Радашковічах, і мясцовы пан Халхоўскі. Яны агітавалі паміж народам, каб не дапусціць беларускага казання, кажучы: «Тут касцёл польскі, і мы беларускага казання не дапусцім». Гэтае ўсё сведчу і сваім подпісам сцвярджаю. Кс. В. Гадлеўскі, 15 лютага 1922 г.».

Кс. М. Шалкевіч гаварыў тады ў Красным, у Маладзечне і ў Мосары. У Красным, выйшаўшы з касцёла, прысутныя на казанні беларусы-праваслаўныя, казалі: «каталіцкі ксёндз сёння праўду сказаў».

Зноў жа ў Маладзечне кс. М. Шалкевіч, бачачы ў касцёле шмат уцекачоў з Польшчы, не ведаў, ці мае гаварыць казанне па-беларуску, і звярнуўся з запытаннем да кс. біскупа. Біскуп запытаўся, ці ёсць у касцёле беларусы-каталікі або праваслаўныя, і калі адказалі, што ёсць, загадаў гаварыць па-беларуску.

Урэшце, у Мосары народ прасіў біскупа, каб у іх парафіі пакінуў кс. М. Шалкевіча.

Кс. А. Цікота гаварыў тады беларускія казанні ў Будславе і Вілейцы.

Кс. А. Станкевіч падчас той жа візітацыі гаварыў беларускія казанні, апрача ўспомненай Дзісны, у Друі і ў Барадзенічах. У наступным жа 1918 годзе, апіраючыся на дазволе біскупа, дадзеным духавенству афіцыяльна, аб чым будзе ніжэй, гаварыў у гэткіх парафіях Дзісненшчыны і Браслаўшчыны: у Барадзенічах у нядзелю X і XII па Сёмусе, а таксама 20.VIII на 40-гадзіннае набажэнства і ў дзень Божага Цела. У Замошы на дзень Сэрца Езуса, у Далёкіх на 40-гадзіннае набажэнства, у Ёдах на нядзелю VIII па Сёмусе, у Пагосце на Св. Тройцу, у Друі на св. Роха, у Шаркоўшчыне на



40-гадзіннае набажэнства, у Германавічах на св. Антоні, у Мёрах на св. Пятра і Паўла, у Іказні — у дзень св. Дамініка 4.VIII.

Усе гэтыя беларускія казанні рабілі на народ неапісанае ўражанне. Здалёку ішлі людзі ў тую парафію, дзе спадзяваліся, што будзе беларускае казанне, а трапіўшы на такое, слухалі з захапленнем.

Глыбокае таксама ўражанне, як мы ўжо бачылі і як убачым ніжэй, зрабілі гэтыя казанні і біскуп Роп агулам на беларускую грамадзянскую думку. Вось што з прычыны першага беларускага казання ў Барадзенічах піша між іншым «Беларуская думка» 1919 г. у № 45: «...Хоць народ тутэйшы не ад цяперашняга часу жадае вучыць сваіх дзяцей і чуць казанне ў касцёле ў роднай беларускай мове, аднак толькі ад 1917 г. пачалі тут вучыць дзяцей і казаць казанне ў касцёле па-беларуску. Пачалося гэта ў 1917 г. з таго часу, як вялікі пастыр, імя каторага беларускі народ доўга будзе спамінаць з вялікаю пашанаю, Віленскі біскуп Роп візітаваў сваю дыяцэзію. Справядлівы і дальнабачны кіраўнік дыяцэзіі зразумеў, што трэба направіць несправядлівасць, зробленую беларусам, што каталіцтва ў Беларусі будзе найлепей развівацца, калі будзе ўшанавана душа і мова народа. І вось пад бласлаўленнем біскупа пачынаецца вялікая справа: спачатку рэдка, дзе-нідзе, а потым, убачыўшы вялікую, ніколі нат неспадзяваную прыхільнасць і дамаганне народа, шырэй і часцей пачалі ксяндзы-беларусы гаварыць казанні ў роднай беларускай мове. І сталася дзіва: народ, каторы, здавалася, раней быў апатычным да спраў веры, адчуў, ён стаў прымаць свядомы ўдзел ў казанні і набажэнстве...

Першае казанне сказаў тут кс. Адам Станкевіч, каторы ездзіў з біскупам падчас візітацыі. Пасля гэтага з усіх акалічных парафіяў, як толькі бываў фэст, прыязджала дэлегацыя ад сялян з просьбай сказаць у іх казанне па-беларуску...»

Урэшце, кончачы ўвосень 1917 г. свой аб'езд Віленскай дыяцэзіі, біскуп усё сваё дзела што да беларускай мовы ў Касцёле замацаваў у дакуменце, у лісце развітальным да духавенства. Вось галоўныя месцы з гэтага дакумента: «Дарагія мае браты ў Хрысце!.. Народ у нас добры і чэсны, але дужа цёмны; дык сёння, у такіх асаблівых варунках, бацькаўскія адносіны да яго тым больш канечныя і адказныя. Не можам цемнату народа цалком прыпісаць пераследу, — каб жа назаўсёды мінуламу — і труднасцям, стаўляным Касцёлу. Вінавальнікамі гэтай цемнаты ў вялікай меры з'яўляемся мы самі або нашы папярэднікі, каторыя, заражаны акружаючым іх сапсуццём, не столькі бацькаўскія ўчуцці, колькі становішча ўладароў адносна народа зазначалі.

Доказы таго, што больш працаваць над народам можна было нават у даўнейшых варунках, маем у тым, што прад тым, як некато-

рыя з духавенства суседняй нашай дыяцэзіі Ковенскай даліся заразіцца паганскім нацыяналізмам, духавенства гэта, народ літоўскі, у падобных, як у нас, на Беларусі, варунках, што да ўзгадавання рэлігійнага, патрапіла паднесці на далёка вышэйшы ступень, як у нас...

Калі чытаем у Брэвяры гаміліі Айцоў Касцёла і прыпамінаем сабе, якія былі гавораны казанні да народа гэтых часаў, якім жа стыдом павінны пачырванець, бачачы, што гэтыя казанні сёння праз народ наш былі б зусім незразумелыя! Хваліцца цывілізацыя наша сваім поступам, а пад гэтым узглядам, найважнейшым, у адносінах да Бога, ганебна ўзад падалася. І тут зноў нам, капланам, выпадае біцца ў грудзі і казаць: «mea culpa» (мая віна)...

Выходзячы з гэтых падстаў, хачу скончыць, паказваючы вам, мілыя браты, некалькі практычных вымогаў, каторыя слаўлю вам і сабе, каторыя ж значэння не трацяць, нават каб вы ўважалі, што вымагання мае адносна да вас ужо спозненыя...

3) Старайцеся, каб казанні вашы былі простыя, адчутыя і ясным тлумачэннем праўдаў Божых.

4) Старайцеся аб тое, каб, не адымаючы нічога з польскіх набажэнстваў, дадаваць казанні ў мове, даступнейшай для народа, беларускай. Дзе ёсць ксяндзы, што мовай гэтай валодаюць, няхай канечна часта, калі можна — штонядзелю, будзе катэхізмовае казанне беларускае, апрача звычайнай польскай прамовы. А дзе мясцовае духавенства не знае дастаткова народнай мовы, пробашчы сумленна павінны рупіцца аб тое, каб пры з'ездзе духавенства такія казанні былі гавораны. Гэта датычыць вёсак і малых мястэчак, бо ў большых цэнтрах трэба браць пад увагу мясцовыя варункі, каб не сеяць непаразуменняў там, дзе нам расходзіцца аб прыязнь і лучнасць народаў, наш край засяляючых. Любячы вас — Эдвард біскуп Віленскі. 1917. Восень».

З ліста гэтага, які лёг у фундамент далейшага развіцця беларускай мовы ў Касцёле, так і вее справядлівасцю і сапраўды апостальскай бесстароннасцю.

З Беларусі ў Петраград выехаў біскуп Роп, маючы ўжо ў кішэні назначэнне яго Апостальскай Сталіцай на арцыбіскупа-мітрапаліта Магілёўскага. І сапраўды, нешта ў адзін з месяцаў позняй восені таго ж 1917 г. у касцёле св. Кацярыны адбыўся яго ўрачысты інгрэс на гэта высокае становішча. І пры гэтай урачыстасці, будучы заўсёды верным сабе, арцыбіскуп Роп булу (папескі дакумент намінацыйны) загадаў адчытаць і па-беларуску. Загад гэты выканаў кс. праф. Люцыян Хвецька.

У наступным 1918 г., 6 і 7 жніўня, у Германавічах Дзісненскага пав. адбыўся дэканальны з'езд каталіцкага духавенства, які слушна трэба лічыць за прадоўжанне, развіццё далейшае, дапаўненне волі арцыбіскупа Ропа.



На з'ездзе былі прысутныя: кс. Дзекан Вінц. Ташкун, кс. Ант. Гедгоўд, кс. І. Войдаг, кс. Альбін Ярашэвіч, кс. М. Буклярэвіч, кс. М. Пятроўскі, кс. В. Шутовіч, кс. Ант. Зянкевіч, кс. Бал. Шылька, кс. В. Гедрыс, кс. К. Матуляйціс.

З'езд гэты, разважаючы справу арганізацыі працы грамадскай, у сваім пратаколе запісаў: «...Што датычыць справы дзейнасці грамадскай, уважаем, што дзе няма народнай свядомасці, там няма культуры. Пастанова: З'езд ксяндзоў дзісненскага дэканату выказваецца за тое, што абшар дзейнасці Каталіцкай Дэмакратыі ў Дэканаце ёсць беларускі».

Зноў жа што да школаў, той жа з'езд пастанавіў: «...у дзісненскім дэканаце з прынцыпу мусяць быць школы беларускія з мовай навучання беларускай, пры поўнай аўтаноміі для іншых народнасцяў».

Дзеелася гэта пад новай нямецкай акупацыяй абшараў, паложаных на ўсход ад старой баёвай расейска-нямецкай лініі.

Атрымаўшы вольнасць у першых месяцах рэвалюцыі 1917 г., Каталіцкі Касцёл зноў арганізаваў Менскую дыяцэзію, якая паўстала ў 1798 г., а якая скасавана царскім указам 1869 г. Першым біскупам у абноўленай дыяцэзіі быў кс. З. Лазінскі, цяперашні біскуп Пінскі.

Вось жа, бачачы вялікі адраджэнскі беларускі рух, Я. Э. біскуп Лазінскі ў цэнтры Беларусі, у Менску, не толькі дазволіў духавенству гаварыць беларускія казанні, але гэтую святую працу пачаў сам, гаворачы першае беларускае казанне ў Менску ў кафедры 6.XII.1918 г. Вось што піша аб гэтым важным здарэнні ў каталіцкім беларускім жыцці часопіс «Бел. думка» 1919 г. у № 19, у стацці «Справа беларускага біскупа»: «...Біскуп цікавіўся рухам беларускім і, пераканаўшыся, што гэта справа жыццёвая, паважная, зрабіў беларусам неспадзеўку. 6 снежня 1918 г. а гадзіне 8 зранку адбылася першая беларуская Імша ў Менску. Служыў сам біскуп Лазінскі, у часе Імшы пяяў хор па-беларуску рэлігійныя, старабеларускія песні пад загадам рэктара Семінарыі ксяндза Абрантовіча. Бабы, польскія дэвоткі, прабавалі заглушыць хор польскімі песнямі, але гэта ім не ўдалося. У канцы Імшы сам біскуп Лазінскі прачытаў па-беларуску Евангелле і на тэму з Евангелля сказаў казанне: горача, ад сэрца і добра па-беларуску... Цэлая Імша і казанне ўхапілі за душу не толькі беларусаў-каталікоў, але і беларусаў-праваслаўных. Усе мелі слёзы на вачах...»

Ад гэтай пары ў Менску, у капліцы Дабрачыннасці, ад 11 да 12 г[адзін] адбывалася набажэнства для беларусаў, на якім заўсёды

хор пяяў беларускія рэлігійныя песні, было чытана Евангелле і казана навука па-беларуску.

У Менску, у гадох 1916–18, прабываў кс. В. Гадлеўскі, які сваёй працай прыгатаваў там грунт для беларускай мовы ў Касцёле. 1919 года, будучы ўжо ў Нясвіжы, часта прыязджаў адтуль у Менск і гаварыў там беларускія казанні.

На змену кс. В. Гадлеўскаму прыбыў у Менск кс. др. Ф. Абрантовіч, шырока ведамы з сваёй вучонасці, які, будучы тады рэктарам Менскай Дух. Семінарыі, вёў шырокую беларускую касцельную працу, бадай штонядзелі і свята гаворачы ў капліцы Дабрачыннасці беларускія казанні, а таксама працуючы на беларускай ніве грамадскай. Працаваў ён у Менску ў 1918–20 гг.

Цяпер кс. др. Ф. Абрантовіч знаходзіцца ў Харбіне, куды назначыў яго Св. Айцец дзеля кіравання жыццём рэлігійным расейцаў каталікоў на тэрыторыі ўсяго Кітая.

Да гэтай выдатнай працы ў Менску на беларускай каталіцкай ніве далучаецца яшчэ кс. А. Цікота, які таксама часта гаварыў беларускія казанні як у капліцы Дабрачыннасці ў Менску, так часам і па правінцыі ў ваколіцах Менска.

1919 г. 14.XII. у нядзелю III адвэнту ў Менску ў той жа капліцы Дабрачыннасці сказаў таксама беларускае казанне кс. Ад. Станкевіч.

У гэтым жа часе, да рэвалюцыі бальшавіцкай, гаварыў беларускія казанні кс. Ал. Сак у ведамай нам Фашчоўцы, Магілёўскай губ., у Менскай, а таксама і ў іншых кутках Беларусі. Кс. Ал. Сак цяпер знаходзіцца пад бальшавікамі і дзеля рэлігійнага там уціску шырокай працы каталіцка-народнай весці не можа.

Зноў жа ў Петраградзе (1918–19), аж да свайго арышту бальшавікамі, гаварыў у кафедры беларускія казанні кс. Л. Хвецька. Беларускі гэты ксёндз разам з арцыбіскупам Цеплякам быў асуджаны бальшавікамі на турму і ўрэшце высланы з граніц СССР. Кс. Л. Хвецька цяпер займае становішча рэктара Папескага Місійнага Інстытута ў Любліне.

Тады, калі беларуская мова грымела па касцёлах Дзісненшчыны і Вілейшчыны, у сэрцы Беларусі ў Менску, а таксама ў Петраградзе з прычыны справядлівых да яе адносінаў арцыбіскупа Э. Ропа, пачынала яна таксама пакрысе рунець і ў Вільні, пад нямецкай акупацыяй, у жыцці беларусаў-каталікоў.

Восенню 1917 г. у Вільні адбылося ўрачыстае пасвячэнне памяшкання беларускага дзіцячага прытулку «Золак» у доме № 7 на Бернардынскім завулку. Урачыстасць гэтай даканаў шырока ведамы ў віленскім грамадзянстве бадай усіх народнасцяў кс. Ул. Талочка, сказаўшы пры гэтым адпаведную прамову па-беларуску.



26.I.1918 г. у той жа Вільні пачалася беларуская краёвая канферэнцыя. У гэты дзень нараніцы, па просьбе ўчаснікаў канферэнцыі, той жа кс. Ул. Талочка ў Кафедры ў капліцы св. Казімера адправіў Імшу св., на якой дзеці з «Золака» прыгожа і бойка пяялі беларускія калядкі, бо быў час Каляд.

Таго ж 1918 г. у той жа Вільні, на ўрачыстасць Божага Цела, дзеці таго ж «Золака» ішлі ў працэсіі і пяялі беларускія рэлігійныя песні.

Летам 1918 г. на лецішчы, дзе былі дзеці з «Золака», здарыўся пажар, у якім згінула двое дзяцей. Вось жа, калі «Золак» вярнуўся ў Вільню, у касцёле св. Яна ў капліцы Маткі Боскай кс. Ул. Талочка адправіў жалобную Імшу св., на якой, з дазволу тагачаснага пробашча касцёла св. Яна, дзеці прапялі беларускія рэлігійныя песні.

Урэшце, 21.V.1919 г. памерла ў Вільні дужа заслужаная для беларускага каталіцкага і народнага жыцця беларуская вучыцелька Тэкля Станішэўшчынка. Вось жа паховіны яе, бадай, першы раз у беларусаў, адбыліся з беларускімі рэлігійнымі песнямі.

Гаворачы аб беларускай мове ў святынях ў Вільні ў гадоў 1917–1919, належыць таксама ўспомніць у гэтай справе аб некаторых фактах, якія ў той жа Вільні здараліся раней і якія маюць вялікае значэнне для беларускай мовы ў Касцёле, а аб якіх праз недагляд мы на сваім месцы не ўспомнілі.

Вось жа ў 1913–15 гадох у Вільні выходзіла першая беларуская каталіцкая тыднёвая газета «Беларус» пад рэдактарствам Б. Пачопкі. Часопіс гэты, выдаючы беларускую рэлігійную літаратуру і ўсведамляючы беларусаў-каталікоў што да правоў іх мовы ў Касцёле, у гэтай справе аказаў Касцёлу і народу вялікую паслугу. Летам 1915 г. быў выданы ў Вільні першы беларускі каталіцкі малітоўнік «Бог з намі», апрацаваны рэдактарам «Беларуса» Б. Пачопкам.

Кніжыца гэта была тады даволі цёпла спаткана польскай віленскай каталіцкай прэсай. «Двутыгоднік Дыяцэзальны» (№ 12, 1915 г.), між іншым, гэтак аб ёй пісаў: «Толькі цяпер маладзенькая літаратура беларуская атрымала кніжкі да набажэнства. Папраўдзе, няможна гэтага малітоўніка назваць першым, бо ў палове XVIII в. у беларускай мове ўжо пачалі паказвацца падобныя кніжкі да набажэнства. Было гэта дзелам тагачасных базыльянаў, езуітаў і піяраў...»

Але найбольш цікавы і цэнны водклік на кніжыцу «Бог з намі» жмудскага біскупа Фр. Карэвіча, выражаны ў лісце на імя рэдактара Б. Пачопкі 16.VII.1915 г. Ліст гэты падаём ў цэласці:

«Цешуся, што пан выдаў беларускі малітоўнік. Расказваў я ў прошлым леце ў Рыме Яго Эмінэнцыі Кардыналу Сакратару Стану,

што маю у сваёй дыяцэзіі каля 60 тысяч беларусаў, каторыя ў касцёле казанне і дадатковае набажэнства маюць толькі ў польскай мове, каторай большая часць з іх не разумее, як гэта сведчыў Сталіцы Апостальскай праз некалькімі гадамі арцыбіскуп Сымон.

На гэта Я. Э. кардынал Мэры дэль Валь адказаў*: «Як беларусы што да сваёй народнасці ўсвядомяцца і самыя папросяць, каб у касцёле для іх казалі навукі і адпраўлялі дадатковае набажэнства ў іх роднай беларускай мове, — Касцёл, Матка ўсіх народаў, не адмовіць беларусам таго, што ім належыцца»*.

Дык ад гэтага залежыць, каб беларусы пакахалі сваю мову і прывыклі ў ёй чытаць.

Просячы ў Бога помачы для Вас у збожнай працы астаюся з паважаннем і зычлівасцю

† *Кс. Францішак Карэвіч,*
*біскуп жмудскі*».

Біскуп Фр. Карэвіч агулам дужа паважна ацэньваў патрэбу і права нашай мовы ў святыні. Аб гэтым пісаў ён таксама да тагачаснага дырэктара дэпартамента веравызнанняў у Пецярбурзе Уладзімірава.

Цікавы таксама аб гэтай кніжыцы быў голас кс. Міхала Руткоўскага, прыяцеля беларускага адраджэння, які 24.VI.1915 г. у лісце з Разані да Б. Пачопкі, просячы прыслаць яму 10 штук кніжыцы, так казаў: «Дай Бог дачакаць, каб усе беларусы маліліся па-свойму і ў касцёлах, каб мелі беларускую навуку і беларускую песню! Дай Божа!»

Яшчэ прад сусветнай вайной карыстаўся беларускай мовай у навучанні верных ведамы ў Віленскай дыяцэзіі прэлат Гарасімовіч, якога староннікі таннага жарту, а часам і звычайныя праціўнікі беларускасці аж да сёння передражніваюць, прыпамінаючы, што прэлат гэты гэтак тлумачыў таямніцу Св. Тройцы: «Бог Бацька па сабе, Бог Сын па сабе і Бог Дух па сабе».

## IX. БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СВЯТЫНЯХ У 1919–1925 ГГ.

*Новая эра ў справе беларускай мовы за часаў біскупа ў Вільні І. Матулевіча. Характарыстыка гэтага біскупа. Була па-беларуску, беларускі біскуп-суфраган. Яго адносіны да пачынанняў біскупа Э. Ропа. Кс. З. Якуць, яго характарыстыка і праца на ніве каталіцка-беларускай. З'езд дэканаў у біскупа Матулевіча 1919 г. Беларуская мова ў Лапеніцы. Беларускае грамадзянства і справа роднай мовы ў святынях. Кс. М. Пятроўскі і кс. Ч. Гурскі.*



*З'езд кс. беларусаў у Вільні 1921 г. і яго значэнне. Апостальскі Нунцыюш у Вільні 1920 г. і беларусы. Беларуская мова ў Вільні ў св. Мікалая. Польскія свецкія ўлады і беларуская мова. Лаварышкі і справа кс. І. Семашкевіча. Баруны і справа кс. М. Пятроўскага. Шаркоўшчына, свецкія польскія ўлады і кс. З. Якуць. Справа апрабаты беларускіх кніжак. Беларускі Пасольскі Клуб. Канкардат між Польшчай і Апост. Сталіцай. Беларускае Каталіцкае духавенства і Канферэнцыя польскіх біскупаў.*

Пасля арц. Эдв. Ропа, пачаўшага новую эру ў справе беларускай мовы ў Касцёле, на асаблівую таксама ўвагу ў гэтай справе заслужвае Віленскі біскуп Юры Матулевіч. Ён не толькі прызнаў усе пачынанні арц. Ропа што да мовы беларускай у Касцёле, але значна іх паглыбіў і адчасці ўняў у больш канкрэтныя, выразныя формы.

Праца біскупа Матулевіча ў Віленскай дыяцэзіі прыпадае на канец у нашым краі нямецкай акупацыі і на пачаткі польскага ў нас валадання (1918–1925). Час гэты для пастырскай працы быў небывала цяжкі, бо гэта час паваеннага здэмаралізавання, час разгару польскага нацыяналізму і фанатызму, а таксама час актыўнага змагання за свае правы ў дыяцэзіі літоўцаў і беларусаў.

Нягледзячы на гэтыя незвычайныя труднасці, біскуп Ю. Матулевіч патрапіў заўсёды быць бесстаронным, да ўсіх справядлівым. Польскі нацыяналізм, прывыкшы бачыць Касцёл Каталіцкі ў нашым краі як аружжа польскасці, пеніўся са злосці на біскупа і станавіў яму штораз труднейшыя, штораз дзічэйшыя перашкоды ў ягонай пастырскай працы. Найвялікшым з боку польскага гэтаму пастыру закідам была яго прыналежнасць да літоўскай народнасці. Біскуп Матулевіч, не хочучы дражніць сваіх ворагаў, 1925 г., нягледзячы на просьбы Св. Айца астацца на становішчы, зракаецца з Віленскага біскупства, а за сабой і надалей пакідае кіраўніцтва законам а. марыянаў, якога ён быў енералам і якім астаўся аж да смерці.

Памёр біскуп Ю. Матулевіч у Коўне ў 1927 г. з апініяй святасці[11], якую яму прызнаюць нават ворагі яго. У шырокіх кругох каталіцкага грамадзянства, без розніцы нацыянальнасці, ходзяць чуткі аб кананізацыі яго, або, прасцей гаворачы, аб прызнанні яго за святога.

Смерць біскупа Матулевіча цяжка адчула таксама і беларускае каталіцкае грамадзянства. «Беларуская крыніца» з дня 11.II.27 у № 7 памясціла стацьцю свайго карэспандэнта з Рыма пад загалоўкам «Водгукі смерці св. п. біскупа Матулевіча», аўтар якой, пад-

крэсліўшы, каго перадусім датычыць страта гэтага біскупа, так піша: «...Але быў яшчэ нехта, што цяжка, з глыбіні душы і сэрца, жалем без слёз, жаласцю нямой заплакаў, пачуўшы словы: умёр арцыбіскуп Матулевіч... Гавораць, што найбольш удзячныя нам за малітву тыя душы з чысца, аб каторых усе, а перадусім найбліжэйшыя, забыліся... Але хто ж быў тым, каторы аб нас, беларусах, запомненых у чысцу нашых бед, нядоляў, цярпенняў, мукаў успомніў, падаў нам руку, назваў нас людзьмі, прызнаў нам права да свабоды, да жыцця, да шчасця... Гэтым чалавекам быў св. п. арцыбіскуп Матулевіч... І Ён памёр? І чаму? Чаму? — Хочацца пытаць пекнага, чыстага італьянскага неба... І здаецца, чуваць адказ: такая воля Бога! І тады хочацца маліцца да Бога за Яго і да Яго...

30 студня, у нядзелю, дзякуючы захадам ксяндзоў-беларусаў у Рыме, адбылося ўрачыстае набажэнства за душу св. п. арц. Матулевіча... Пекнае было набажэнства, але надта сумнае... Калі першы раз пачулася малітва за арц. Юрага, адчувалася ў душы тое, што адчувае дзіця, калі на катафалку стаіць труна бацькі... І толькі думка, што Ён Богу прадставіць і нас і нашу справу — крыху пацешала...

На канчатку раздаўся пекны, жалосны спеў: вечная памяць... Так, вечная Табе памяць, Вялікі Змагар за вялікія ідэалы. Запіша ў сваіх летапісах на вечную памяць Твайго імя Касцёл Каталіцкі, запішуць яго тыя грамадзянствы, тыя народы, для каторых Ты працаваў пад клічам міласці і дабраты... Запішам Тваё імя ў нашых летапісах і сэрцах нашых і мы, беларусы, бо Ты хацеў і працаваў над тым, каб наш народ быў і каб быў вялікім верай, надзеяй і міласцю да Бога...»

Для поўнасці характарыстыкі біскупа Ю. Матулевіча, які сваёй справядлівасцю гэтулькі заслужыўся і прад нашым народам, прызнаючы права мове ягонай у Касцёле, належыць таксама ўспомніць, што апрача святасці жыцця адзначаўся ён вялікім розумам прыродным, а таксама вялікай інтэлігенцыяй набытай. Быў гэта выбітны тэолаг, філосаф, сацыёлаг. Словам, быў гэта чалавек вялікай святасці і веды.

Вось жа прасочым адносіны гэтага вялікага чалавека да беларускай мовы ў Касцёле.

Сваё ўступленне на Віленскую біскупскую сталіцу біскуп Ю. Матулевіч адбыў 8.XII.1918 г. Пастыр жадаў, каб папеская була была таксама прачытана на гэтую ўрачыстасць у кафедры і па-беларуску. Былі нават чуткі, што дакумент гэты ўжо быў ператалумачаны на гэту мову. Споўніць гэтыя пастырскія намеры спрацівілася капітула. «Уступаючы на Віленскую біскупскую кафедру, — кажа ведамы беларускі дзеяч і пісьменнік В. Ластоўскі ў сваёй жалобнай мове над труной біскупа (Бел. крыніца. № 11, 1927 г.), — біскуп Юры Матулевіч хацеў прачытаць папескую булу і на мове значнай большасці (беларускай. — *Прып. аўтара*) сваёй паствы. Але гэта выклікала абурэнне віленскай капітулы... У выніку була ў мове беларускай чытаная не была... У ліку вітаўшых дастойнага пастыра на віленскай біскупскай сталіцы былі дэлегацыі і ад беларускіх арганізацыяў і я быў на чале адной з іх. У сваёй прывітальнай прамове я выказаў жаль, што наша мова знаходзіцца ў такім загоне, што беларусы верныя паніжаны і пакрыўджаны. Біскуп Юры адказаў: я шкадую, што, не ўмеючы мовы беларускай, прымушаны адказваць у мове чужой беларусам, але я лічу сябе абавязаным навучыцца мовы большасці сваёй паствы.

Месяц пазней, — далей кажа В. Ластоўскі, — я быў зноў у біскупа Матулевіча, і ён радасна апавядаў, што ўжо вучыцца беларускай мовы, і цешыўся, што мог на маё прывітанне адказаць некалькімі беларускімі словамі...»

Але біскуп Матулевіч не толькі вучыўся нашай мовы. Ён значна ішоў далей. Ён, як піша тагачасны віленскі беларускі часопіс «Беларуская думка» (1919, № 19), узяўшы гэтыя весткі з краёвай тагачаснай польскай газеты «Наш край», — прасіў Апостальскага візітатара ў Варшаве, цяперашняга Св. Айца, А. Раты'ага аб назначэнні ў Вільню беларускага біскупа-суфрагана. Ведаючы проста безгранічную справядлівасць біскупа Юрага, весці гэтыя можна цалком прыняць за праўду.

Але, не могучы зрабіць таго, што дыхтавала апостальскае сумленне, біскуп Юры рабіў для нашай мовы тое, што было тады магчымым.

Біскуп Матулевіч перадусім не супраціўляўся, а прыняў да ведама тое, што ў многіх месцах яго дыяцэзіі, асабліва там, дзе пачаў біскуп Роп, адбываліся беларускія казанні. Усе пачынанні ў гэтай справе свайго папярэдніка прызнаў ён і для сябе за абавязковыя. Такім чынам, пачатыя пры біскупе Ропе і далей былі гавораны пры біскупе Матулевічу беларускія казанні ў Браслаўшчыне і Дзісненшчыне: у Ідолце за часаў пробашча кс. І. Бобіча (1917–1920) і значна пазней за часаў кс. М. Борыка (1925–27), у Барадзенічах за часаў кс. В. Шутовіча (1917–1927), у Друі (1917–1930), у Шаркоўшчыне за часаў кс. М. Пятроўскага і З. Якуця (1917–1924), у Пагосце за часаў кс. Я. Жука (1921–1924), а бывалі час ад часу беларускія казанні ў Германавічах, у Іказні, у Далёкіх, у Ёдах, у Баравых, у Навалацы, у Удзяле.

Дарэчы будзе тут успомніць аб кс. З. Якуцю, пробашчу ў Шаркоўшчыне па кс. М. Пятроўскім, дзе быў ад 1920 г. і дзе памёр

9.I.1924 г., які вялікія заслугі палажыў для справы роднай мовы ў Касцёле і аб якім гісторыя нашага культурна-рэлігійнага руху маўчаць не можа.

Кс. З. Якуць родам з Відзаў Браслаўскага пав. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі. Прыступіўшы да капланскай працы ў беларускай Шаркоўшчыне, зразу аценіў палажэнне. У дакуменце 19.XI.1921 г. за № 58, у якім апісвае фактычны стан парафіі і праўдзівасць апісанага сцвярджае пячаткай, сваім подпісам і подпісамі дзевяцёх сведкаў, кс. З. Якуць, між іншым, так піша: «Шаркаўская парафія што да народнасці бадай выключна ёсць беларускай... Усіх яе жыхароў штодзённай мовай ёсць беларуская, іншую мову, напр., польскую, яны разумеюць з вялікім трудом. Выняткі нямногія. Дзеля гэтага ўва ўсіх адносінах да парафіян, як відаць з натуры рэчаў, трэба карыстацца мовай беларускай, а таксама ў споведзі і казаннях; тым больш гэта патрэбна, бо ў касцёл ходзяць і праваслаўныя, якія мовы польскай зусім не разумеюць, а якіх наварот да праўдзівай веры Каталіцкага Касцёла ёсць пажаданы...»

Аценіўшы праўдзівы стан парафіі, кс. З. Якуць і паступаў адпаведна. Мовай беларускай у касцёле карыстаўся ён як найшырэй. Карыстаўся ж ён гэтай мовай не толькі ў сваёй парафіі і ў сваім касцёле, але бадай па ўсёй Дзісненшчыне і Браслаўшчыне, бываючы ў розных касцёлах на фэстах, заўсёды гаварыў беларускія казанні. Народ загадзя дапытваўся, дзе будзе кс. З. Якуць з беларускім казаннем, а даведаўшыся, за некалькі дзесяткаў вёрст валам валіў у тую парафію. Дый было што паслухаць. Кс. З. Якуць быў выдатны беларускі касцельны прамоўца. Яго казанні ў касцёле ў нашай жывой беларускай мове былі праўдзівым бальзамам для набалелай душы беларускай. Яго жыццёвыя прыклады пераходзілі з хаты ў хату па далёкіх вёсках і парафіях Дзісненшчыны і Браслаўшчыны. Часта былі выпадкі, што беларускае казанне адбывалася на фэстах аж па нешпары. Але людзі чакалі. Цягнуў за сабой масы кс. Якуць, бо меў незвычайную ў сабе духовую сілу.

Перадусім гэта быў праўдзівы духоўнік, праўдзівы слуга Хрыстовы. Не кланяўся ён і не плашчыўся прад сільнымі і багатымі, а гнеў іхны для яго быў не страшны. Ён быў сапраўдным апосталам праўды, шчырасці, чыстасці сумлення.

Калі ўспамінаць далей аб кс. З. Якуцю як аб беларусу, дык трэба сказаць, што быў ён ідэальным прыкладам сваім калегам ксяндзом, як незвычайна прыгожа сыходзяцца з сабой між беларускага народа духоўная пастырскасць і беларускасць. Кс. З. Якуць быў тыповы ксёндз-беларус. Ён глыбока разумеў важнасць беларускага адраджэння, цаніў яго і прыкладаў да роднай справы ўсе свае сілы.



Незвычайна высока стаяў кс. З. Якуць як чалавек. Не лёгка апісаць характар ягоны, бо людзей такіх мала ёсць на свеце. Ён заўсёды быў вясёлы; здаецца, ніякая хмарынка ніколі не пакрывала чала яго; быў добры і ўслужны, ніколі не зацямняўся гневам добры твар ягоны; ён быў суровы для сябе, а мяккі і мілы для другіх; ён быў вольны ад прагавітасці багацця, ад срэбралюбства.

Няведама, што вышэй было ў асобе кс. З. Якуця: яго пастырства духоўнае, яго беларускасць ці яго людскасць? Няведама, што больш хваліць, што больш праслаўляць. Усе гэтыя тры ўласнасці кс. З. Якуця становілі адзін суцэльны, адзін высока ідэальны характар.

Агулам трэба сказаць, што шырока развівалася наша мова ў святынях каталіцкіх яшчэ на пачатку кіравання дыяцэзіяй біскупа Матулевіча.

19 і 20 жніўня 1919 г. у біскупа Матулевіча адбываецца з'езд дэканаў, на якім прымаецца пастанова, што дзецям беларускім, дзеля лепшага зразумення, катэхізм трэба выясняць па-беларуску.

У тым жа 1919 г., калі кс. Язэп Германовіч, цяпер мар'янін у Друі, быў тады пробашчам парафіі Лапеніца Ваўкавыскага пав., ведамы наш паэт кс. К. Стаповіч (Каз. Сваяк), прабываючы ў пробашча госцем, сказаў па-беларуску казанне 27 ліпеня і 3 жніўня у тым жа парафіяльным касцёле ў Лапеніцы. Але на гэтым і скончылася, бо перашкодзіла гэтаму польскае духавенства на чале з дэканам кс. Н. Тарасевічам. Усё гэта апісвае кс. Я. Германовіч у дакуменце за № 14, 7.II.1922 г., ужо будучы пробашчам у Луконіцы Слонімскага пав. Між іншым у гэтым дакуменце аб беларускіх казаннях чытаем: «Са стараны людзей, маіх парафіян, супраціву не было. Толькі ўсе прасілі, каб была гаворана навука і па-польску.

Аднак польскае суседняе духавенства пастанавіла не дапусціць і стала байкатаваць мяне і маю парафію... Праваслаўныя спачатку вельмі ахвотна прыходзілі да Лапеніскага касцёла, пасля забароны беларускіх навук сталі ад Касцёла аддаляцца. У імя прызыву Пана нашага: *ідучы навучайце ўсе народы*, — усе ксяндзы, і беларусы і палякі, павінны апроч польскай другую навуку гаварыць па-беларуску».

У тым жа самым 1919 г. помніла аб роднай мове ў святыні і беларускае грамадзянства агулам. 8 і 9.VI.1919 г. адбыўся ў Вільні мнагалюдны беларускі з'езд, які стварыў сталую арганізацыю пад назовам «Беларуская Цэнтральная Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны», якой, між іншым, і даручыў звярнуцца да духоўнай улады агулам у справе шанавання правоў беларускай мовы. Вось жа гэта Рада падала мемарыял Віленскаму біскупу з наступнымі дамаганнямі: «1) устанавіць у Віленскай Духоўнай Семінарыі кафедру беларускай мовы, 2) завесці беларускія казанні ў беларускіх пара-

фіях, 3) старацца, каб быў біскуп суфраган беларус, 4) у капітуле, каб былі кс. беларусы, адпаведна да ліку дыяцэзанаў беларусаў».

Кароткае жыццё і цяжкія варункі, рэч зразумелая, не далі біскупу магчымасці споўніць гэтыя просьбы.

Але беларускае жыццё тым часам углыблялася і беларуская мова, не гаворачы ужо аб тых месцах, дзе была ўведзена ў касцёлы пры біскупе Ропе, сям-там уводзілася і ў месцах новых. Так, напр., 1920 г. 15.VIII, на Гаспажу, кс. Ад. Станкевіч сказаў беларускае казанне ў сваёй роднай парафіі ў Варунах, пасля, у тым жа месяцы, у Вацлавенятах пад Смургонямі, а ў 1921 г. 25.III, на свята незалежнасці Беларусі ў касцёле Баніфратарскім у Вільні. Кс. М. Пятроўскі, тагачасны пробашч барунскі (1919–1921), прамаўляў у касцёле па-беларуску да дзяцей, прыступаючых да першай Св. Камуніі, а таксама часам і да народа.

Дужа характэрнае ў гэтай справе 23.VIII.[19]19 г. напісаў пісьмо кс. Ч. Гурскі, дэкан ашмянскі, пробашчу барунскаму кс. М. Пятроўскаму, у якім між іншым чытаем: «...Прашу паслухаць маёй прыяцельскай рады і не гаварыць усцяж з народам па-беларуску... Не раджу, бо ўжо паступкамі кс. пробашча заалярмаваныя ўсе ўлады, узбуранне паўстала вялізарнае... Кс. пробашч можа дужа моцна пацярпець...»

Беларускае каталіцкае духавенства, жадаючы ўсей каталіцкай беларускай працы падаць больш арганізаваны і планавы кірунак, а таксама паглыбіць гэту працу, 1921 г. 12 і 13 ліпеня адбывае з'езд у Вільні. У склад арганізацыйнага камітэта гэтага з'езда ўваходзілі: кс. І. Бобіч, кс. Ул. Талочка і кс. А. Станкевіч. На з'ездзе былі прачытаны чатыры рэфераты на наступныя тэмы: кс. К. Стаповіч — Аб патрэбе арганізацыі ксяндзоў-беларусаў, кс. А. Станкевіч — Аб беларускай мове ў Касцёле, кс. І. Бобіч — Аб беларускім рэлігійным выдавецтве і кс. І. Германовіч — Аб Уніі. Па разглядзе рэфератаў, між іншым, былі прыняты пастановы аб захадах дзеля ўвядзення ў Віленскай Духоўнай Семінарыі беларускай мовы, а таксама пастаноўлена дабівацца ад Апост. Сталіцы біскупа суфрагана беларуса. З'езд, прымаючы гэтыя дзве пастановы, ўважаў, што без грунтоўнай веды беларускай мовы ў ксяндзоў і таксама без беларуса біскупа, хоць бы суфрагана, знаючага беларускую мову і ей карыстаючагася ў публічным жыцці касцельным, — увядзенне ў Касцёл мовы беларускай будзе няпоўным, а часта і немагчымым. Усе пастановы З'езда былі прадстаўлены біскупу Матулевічу, які прыняў іх да сэрца і абяцаў у меру сваіх магчымасцяў споўніць іх.

Як вынік гэтага З'езда паўстала арганізацыя ксяндзоў-беларусаў прад назовам «Светач». Аднак развіцца гэтай арганізацыі не ўдалося, бо Камісар Урада на м. Вільню (11.I.24 № 60) адмовіў легалізацыю статута «Светача» без права апеляцыі вышэй.



Яшчэ падчас нямецкай акупацыі, а таксама і пасля яе, у гадох 1919–[19]20, беларусы-каталікі ў Вільні часта зварочваліся да духоўнай улады з просьбай вызначыць ім асобны касцёл у Вільні, дзе яны свабодна маглі б маліцца Богу, карыстаючыся ў казаннях і агулам у дадатковых набажэнствах беларускай мовай. Аднак, дзеля палітычных прычын, просьба гэта ўсцяж аставалася не споўненай.

Падчас прыезду ў Вільню Апостальскага нунцыя з Варшавы ах. Раты'ага, цяперашняга папежа, 1920 г., усе беларускія віленскія арганізацыі праз сваю дэлегацыю ў асобах К. Дашэўскага, Мараўскай і кс. А. Станкевіча звярнуліся да яго з мемарыялам, у якім прасілі зрабіць сваёй павагай тое, каб беларусы-каталікі ў Вільні мелі свой асобны касцёл. Нунцыюш прырок узяць гэту справу да сэрца, аднак без скутку[12].

Урэшце справа гэта была развязана так, што, дзякуючы біскупу Матулевічу і літоўскаму каталіцкаму грамадзянству, 1.XI.1921 г. беларусам было дазволена карыстацца літоўскім касцёлам св. Мікалая ў вольныя ад набажэнстваў для літвінаў гадзіны. Вось жа ад гэтага часу аж да сёння ў касцёле св. Мікалая а гадз. 10 раніцы адбываюцца набажэнствы, на якіх заўсёды бывае беларускае казанне, а таксама хор пяе беларускія рэлігійныя песні. У гэтым касцёле, апрача кс. А. Станкевіча, які стала гаворыць беларускія казанні, таксама гаварылі дагэтуль час ад часу: кс. др. І. Рэшэць, кс. К. Стаповіч, кс. В. Шутовіч, кс. В. Гадлеўскі, кс. Фр. Чарняўскі, кс. П. Татарыновіч, кс. Я. Германовіч і інш. Такім чынам, як бачым, здавольваюцца рэлігійныя патрэбы ў Вільні каталікоў-беларусаў. Але трэба тут зазначыць, што гэта не ёсць развязка справы, і беларусы-каталікі і надалей робяць захады прад духоўнай уладай дзеля вызначэння ім асобнага касцёла.

У тым жа 1921 г. у справе правоў беларускай мовы ў Касцёле, ад імя ўсіх беларускіх арганізацыяў у Вільні, быў зложаны мемарыял на імя Апостальскага нунцыя ў Варшаве. У гэтым мемарыяле, як і ў папярэдніх беларускіх выступленнях прад духоўнымі уладамі, былі наступныя дамаганні: беларусазнаўства ў Духоўнай Семінарыі ў Вільні, біскуп суфраган беларус, беларускія казанні па касцёлах у беларускіх парафіях, асобны касцёл у Вільні.

У меру таго, як сярод шырокіх слаёў беларускага народа расла свядомасць патрэб роднай мовы ў святыні і зазначалася дамаганне там правоў для гэтай мовы, з боку польскага таксама раслі перашкоды, якія выступалі не толькі з кругоў грамадскіх і духавенства, але таксама з боку свецкай улады. Так, напрыклад, дайшло ў

той час да ведама віленскага старасты, што кс. Я. Семашкевіч, пробашч у Лаварышках, пры катэхізацыі дзяцей карыстаецца таксама і мовай беларускай. Вось жа, стараста 1921 г. 13.V. паперай за № 84 загадвае начальніку II рэйону Віленскага пав. Эмілю Нарвойшу зрабіць у гэтай справе тайнае дазнанне. 28 траўня таго ж года той жа начальнік спісвае паказанні чатырох парафіян лаварыскіх з чатырох вёсак. У адным паказанні чытаем толькі сцверджанне факта, што кс. Семашкевіч вучыць дзяцей і па-польску і па-беларуску. Тры ж астальныя сцвярджаюць свой пратэст проціў беларушчыны. У канцы сваіх «доследаў» гэты начальнік робе дужа характэрны вывад на тых жа паказаннях пазнейшай датай 1.VI.21 г.: «Я, начальнік II рэйону пав. Віленскага, зрабіўшы следства і сабраўшы ад парафіян подпісы, дзеці каторых лаварыскі пробашч кс. Семашкевіч хоча выгадаваць на беларусаў, *паміма яўна выражанага нездаваленьня ўсей парафіі* (падкрэслена аўтарам), прыйшоў да перакананьня, што кс. Семашкевіч пашырае беларушчыну сярод сваіх парафіян. Нарвойш, начальнік II рэйону Віленскага пав. За згоднасць Баброўскі, начальнік канцылярыі». Словам, ад трох асоб начальнік рэвіру даведаўся, што беларускай мовы ў катэхізацыі не хоча *ўся парафія*. Гэткі «бесстаронны» вывад гаворыць сам за сябе!

8.VI.1921 г. за № 110 віленскі павятовы стараста піша да біскупа такую паперу: «Прадстаўляючы пры гэтым адпісы пратаколаў разам з залучнікамі ў справе беларускай агітацыі, праводжанай лаварыскім пробашчам кс. Семашкевічам, прашу зрэагаваць адпаведна. А. Рэзен, стараста Віленскага пав.». З гэтых пратаколаў і залучнікаў бачым, што паліцыі ўдалося знайсці праціўнікаў беларускай катэхізацыі ў паўпяцітысячнай парафіі лаварыскай толькі 132 асобы, з якіх 10 асоб прыслалі да біскупа просьбу подпісы іх выкасаваць, бо яны не ведалі, што падпісвалі. Усё гэта надта выразна паказвае на тое, якія труднасці напаткала беларуская мова, шукаючы сабе належнага месца ў жыцці касцельным.

Нягледзячы, аднак, на гэтыя паліцэйскія захады, што да беларускай мовы ў лаварыскім касцёле, 12.III.25 на імя біскупа была падана просьба лаварыскіх парафіян аб допушчэнні ў іх касцёле беларускай мовы. На гэтай просьбе знаходзіцца 120 подпісаў; з яе відаць, што з падобнай просьбай лаварыскія парафіяне зварочваліся яшчэ ў 1921 г. Вось даслоўны змест гэтай просьбы: «Мы, пакорныя Твайму сэрцу авечкі, пагарджаныя праз векі, перанесшыя розны ўціск і дзеля гэтага замкнуўшыся самі ў сабе, дасюль не выказвалі нікому нідзе сваіх пажаданняў, апроч аднаго разу сваёй просьбы да Цябе, дарагі Пастыр наш, у 1921 г. Цяпер, калі ўціск як быццам упаў, не адважна, але з вялікай пэўнасцю звяртаемся да Цябе, дарагі наш Пастыр, з гарачай просьбай сагрэць нашы сэрцы святой навукай Хрыстуса ў зразумелай і роднай нам матчынай мове беларускай, а здаволенні гэтых нашых пажаданняў вельмі лёгкія: адно толькі дазволіць нашаму пробашчу кс. Я. Семашкевічу, знаючаму добра сваіх парафіян, сэрцам і душою прыхільнаму да нас, казаць казанні святой навукі Хрыстуса ў нядзелі і святы ў роднай і зразумелай нам матчынай мове беларускай. Падаючы да ног Тваіх, Дарагі Пастыр наш, аб вышэйпісаным горача просім».



Гаворачы аб гэтых заслугах кс. Я. Семашкевіча для роднай мовы ў Касцёле, трэба тут зазначыць, што мае ён іх значна больш. Кс. Я. Семашкевіч, адзіны дагэтуль беларускі байкапісьменнік, свой паэтычны талент пасвячае таксама і для роднай мовы ў святыні. У гэтым кірунку ёсць ён сёння, таксама адзіным у беларусаў, годным наступнікам св. пам. кс. Стаповіча (Каз. Сваяка). Усё, што сёння паказваецца ў свет з галіны беларускай рэлігійнай паэзіі, — гэта плод творства кс. Я. Семашкевіча.

Дарэчы тут будзе таксама ўспомніць яшчэ справу кс. М. Пятроўскага. Гэты ксёндз, беларускі народнік, горача дапамагаў беларускаму адраджэнскаму руху агулам, а таксама часта гаварыў беларускія казанні. Вось жа, калі ён быў пробашчам у Барунах, прэзэс тымчасовай урадавай Камісіі енерал Макрэцкі пераслаў біскупу выпіску з пратакола з'езду сяброў польскай партыі «Odrodzenie» з дн. 16.II.1921 г. у Вільні, а таксама выпіску рапарту «Dowództwa Etapowego powiatu Oszmiana». У пратаколе «Odrodzenia» чытаем нараканне, што ў справе польскай у нашым краі перашкаджаюць некаторыя духоўныя адзінкі. У рапарце ж вайсковым знаходзім выразнае падазрэнне, што кс. М. Пятроўскі быў блізкі да бальшавікоў, хоць яго бальшавікі арыштавалі, то ўсё ж, патрымаўшы крыху ў Лідзе, выпусцілі і нават далі яму чырвонаармейца да помачы занесці рэчы да плябаніі ў Лідзе, і інш. падобныя ім знаходзім там «закіды».

Закіды гэтыя біскуп прадставіў кс. М. Пятроўскаму, які даў адпаведныя выясненні. Аднак справа на гэтым не скончылася. 28.VI.1921 г. кс. М. Пятроўскі быў у Барунах арыштаваны і пасаджаны ў Лукішскі астрог у Вільні. Вінавацілі яго па 129 арт. К. К.[13]. У турме не дазволілі адпраўляць св. Імшы нават у нядзельныя і святыя дні. Урэшце, не могучы знайсці ніякага праступку і зважыўшы на слабасць сэрца, 13.VII таго ж года кс. М. Пятроўскага пад вартай адправілі да пробашча св. Якуба, адтуль 15.VII, таксама пад вартай, перавялі да рэктара касцёла св. Стафана ў Вільні. У адным пакоі разам з кс. М. П. быў памешчаны і ўзброены паліцыянт. Урэшце, дзякуючы пратэсту духоўнай улады, 17.VII паліцыянт быў з пакоя вы-

ведзены і пастаўлены пры браме. 22.X. страж была зусім знята, кс. М. П. апынуўся на свабодзе, але без права вярнуцца ў сваю парафію ў Баруны. Як пасля аказалася, улады так званай «Сярэдняй Літвы» арыштавалі кс. М. Пятроўскага, каб не перашкаджаць палякам рабіць выбары ў Сойм віленскі дзеля далучэння Віленшчыны да Польшчы і агулам, каб адхацелася яму бараніць беларускі народ і правы яго мовы, як у жыцці агульным, так і ў касцельным.

Для ілюстрацыі адносінаў тагачасных польскіх уладаў да беларускай мовы ў святыні далучыць яшчэ трэба паказанне аб гэтым кс. З. Якуця, пробашча ў Шаркоўшчыне. Паказанне гэта мае касцельную пячаць, подпіс пробашча і подпісы дзевяцёх чалавек сведкаў. У дакуменце гэтым, між іншым, чытаем: «...Польскія цывільныя ўлады гаварыць да парафіян беларускія казанні перашкаджаюць. Прыклад: у дзень Сёмухі 1921 г. начальнік рэйону М. Сташкевіч праз солтыса Пяткевіча прыслаў мне слоўны загад, каб беларускага казання не было. Той жа М. Сташкевіч падбураў парафіян, каб беларускага казання не слухалі. А некаторым вёскам, як Змітроўшчына, проста загадаў, каб падчас беларускага казання выходзілі з касцёла. Я на гэта не зварочваў увагі. Маючы на ўвазе духовыя патрэбы парафіян, у дзень Сёмухі адбылося казанне і па-польску і па-беларуску. Падчас беларускага казання ў гэты дзень М. Сташкевіч, увайшоўшы ў касцёл з паліцыяй, заклікаў людзей да забурэння і розныя абразлівыя словы гаварыў на біскупа і на ксяндзоў. Народ казання слухаў спакойна, і, такім чынам, М. Сташкевіч не меў прычыны арыштаваць казнадзея, чаго дужа пажадаў.

І другі магу даць факт неталеранцыі ўрадавай да нашай нацыі. Парафіяне, жадаючы слухаць казанняў у сваёй беларускай мове, уважылі да мяне просьбу, каб у нядзелі другое казанне было беларускае, і з гэтай мэтай пачалі збіраць подпісы жадаючых гэтых казанняў. Аб гэтым дайшло да паліцыі, якая просьбу з подпісамі (толькі з дзвюх вёсак больш як 50 было подпісаў) забрала, парафіянку Мальвіну Радзюк, у якой знойдзена было паданне, арыштавала і пасадзіла ў турму ў Глыбокім... Апрача гэтых апісаных фактаў, — кажа ў канцы свайго паказання кс. Якуць, — ёсць падобных многа...»

За часаў біскупа Матулевіча быў таксама зроблены першы пералом што да духоўнага дазволу (апрабаты) на беларускія рэлігійныя кніжкі. За час беларускага сучаснага адраджэння ў гэтым кірунку беларусы не раз рабілі захады, але ўсё без скутку.

Так, напрыклад, у 1911 г. па просьбе каталікоў-беларусаў В. Ластоўскі звярнуўся да віленскай духоўнай улады, просячы апрабаты на беларускую кантычку. Пасля доўгага часу кантычка была вернута назад без апрабаты.



Зноў жа другі выпадак быў такі. Эдв. Будзька, ведамы беларускі кааператар, 8.VII.1913 падаў у віленскую біскупскую канцылярыю малітвы дзеля апрабаты. Просьба гэта была звернута назад з характэрным адказам: «За недостаткомъ ксендза-цензора, знающаго въ достаточной степени бѣлорусскій языкъ, представленная при семъ молитва на бѣлорусскомъ языкѣ просмотрена быть не можетъ. — Секретарь Вил. Епископа Кс. Стецкевичъ».

Дык вось жа, зложаныя да духоўнай апрабаты ў 1921 г. «Нядзеляшнія Евангелля і Навукі» кс. Я. Бобіча напаткалі на вялізарныя, цалком нечаканыя, перашкоды. Цэнзар кс. проф. П. Краўяліс надрукаваць гэту кніжку сваю згоду даў. Тагачасны, аднак, сакратар біскупскай курыі кс. Л. Халецкі, прад тым, як даць цэнзарскі дазвол да подпісу біскупу, паслаў пісьмо ў Варшаву да езуіты кс. В. Шчапанскага, у якога, як у знаўцы, пытаўся, ці можна пусціць у свет гэтую беларускую кніжку. Адказ быў — няможна. Тады цэнзар кс. П. Краўяліс у пісьме да біскупа, грунтоўна прадставіўшы беспадстаўнасць думкі кс. В. Шчапанскага, заявіў, што ён свайго подпісу назад не бярэ і ўважае, што кніжка можа быць друкаванай. Пасля гэтага ўсяго біскуп Матулевіч прыхіліўся да думкі цэнзара і даў свой дазвол на друкаванне гэтай кніжкі, якая выйшла ў 1922 г. як першы беларускі сучасны падручнік духавенству для амбоны.

Аб патрэбах роднай мовы ў святынях помніла таксама і шырэйшае беларускае грамадзянства і рабіла адпаведныя ў гэтым кірунку старанні. Так, напрыклад, 15.VII.1925 г. беларускія паслы каталікі з беларускага Пасольскага Клуба зложылі ў Варшаве мемарыял папескаму нунцыю з адпаведнымі просьбамі.

Але час ішоў і ў меру таго, як Польшча ўмацоўвала сваё палітычнае палажэнне ў нашым краі, ужывальнасць па святынях беларускай мовы сцяснялася, курчылася і змяншалася. Асабліва гэта беларусы адчувалі пасля вясны 1923 г., калі Рада Амбасадараў у Парыжы прызнала за аканчальныя сучасныя граніцы Польшчы.

10.II.1925 г. між Польшчай і Апостальскай Сталіцай быў падпісаны Канкардат як галоўны праўны рэгулятар касцельнага жыцця на ўсіх землях Польшчы. Канкардат гэты, дзякуючы стараннямі польскай дыпламатыі і недастатковасці захадаў беларускіх, для кожнай няпольскай мовы ў касцёле, а перадусім для беларускай, аказаўся некарысным.

Перадусім арт. XI Канкардату выключае магчымасць назначэння біскупа беларуса, бо прэзідэнт Польшчы мае права запратэставаць проціў кандыдата дзеля матываў палітычных... А тым ча-

сам ясна, што самая прыналежнасць да беларускай народнасці можа стацца гэтай прычынай палітычнай.

Арт. XIX вымагае ад біскупаў, каб, назначаючы ксяндзоў на пробашчаў, пыталі раней адпаведнага міністра польскага, каб упэўніцца, ці дзейнасць кандыдата на пробашча не пярэчыць бяспечнасці дзяржавы. І тут ясна, што ў вачах міністра беларуская народная дзейнасць ксяндза можа быць уважанай за небяспечную для дзяржавы.

Урэшце, арт. XXIII гаворыць: «Ніякая змена ўжыванай мовы ў дыяцэзіях лацінскага абраду ў казаннях, дадатковых набажэнствах і ў выкладах іншых, як выклады святых навук у семінарыях, не можа быць інакш дакананай, як з адмысловага дазволу Канферэнцыі Біскупаў лацінскага абраду».

На аснове гэтага артыкула ў касцёлах на беларускіх землях пад Польшчай і далей мае быць ужывана польская мова ў казаннях, у дадатковых набажэнствах і ў свецкіх навуках у семінарыях духоўных. Беларуская ж мова магла б быць нанова ўведзенай з дазволу Канферэнцыі Біскупаў. У тых жа касцёлах, дзе беларуская мова ўведзена прад Канкардатам, праўна можа там астацца і далей. Аднак, як ніжэй убачым, і адтуль яе паволі выганяюць.

Але з гэтага ўсяго не вынікае, што пры сучасных палітычных і касцельных праўных варунках на нашых землях беларуская мова не можа здабыць належных сабе ў Касцёле ў беларускіх парафіях правоў. Калі нашых у гэтым кірунку слушных дамаганняў не споўніць Канферэнцыя Біскупаў, дык мусім памятаць, што ёсць яшчэ найвышэйшая духоўная ўлада, Апостальская Сталіца, да якой, згодна з кананічным правам, кожны каталік заўсёды можа звярнуцца. Адносіны ж гэтай улады да розных народнасцяў і моваў нам добра ведамы з папярэдніх раздзелаў гэтай працы. З нашага толькі боку астаецца выказаць свае праўдзівыя патрэбы і жыццём сваім пацвердзіць сваю каталіцкасць, сваю вернасць найвышэйшаму Пастыру хрысціянства.

Беларускае каталіцкае духавенства, як толькі даведалася аб падпісанні Канкардату, у мемарыяле 20.III.25 г. звярнулася да нунцыюша апостальскага ў Варшаве, прадстаўляючы яму свае ўвагі што да тых пунктаў Канкардату, з якіх можа быць беларусам крыўда.

У гэтым мемарыяле, між іншым, просьбамі былі: «з вышыні Апост. Сталіцы выдаць спецыяльны загад аб ужыванні беларускай мовы ў рэлігійным навучанні і ў дадатковых набажэнствах касцельных пад Польшчай, назначыць у Вільню і Пінск біскупаў-суфраганаў беларусаў, а таксама у духоўных семінарыях у тых жа месцах увесці беларусазнаўства дзеля адпаведнай падгатоўкі душпастыраў для беларусаў-каталікоў».



Зноў жа 19.V.1925 г. беларускае каталіцкае духавенства злажыла мемарыял Канферэнцыі Біскупаў. З гэтага мемарыялу даведваемся, што ўва ўсходніх ваяводствах Польшчы знаходзіцца большменш мільён каталікоў-беларусаў і што беларусы-каталікі, як значная складовая часць 10-мільённага беларускага народа, разам з беларусамі-праваслаўнымі будзіцца да свядомага жыцця, складаючы свайму народу, як цэласці, сваю працу і духовае творства, а таксама дамагаюцца права для сваёй мовы як у жыцці асветным, палітычным і грамадскім, так і ў жыцці рэлігійна-касцельным... «А мы, каталіцкія ксяндзы, — чытаем далей у мемарыяле, — духоўныя пастыры беларусаў-каталікоў, як сыны яго таксама працуем для адраджэння свайго народу, зварочваючы перадусім увагу на тое, каб вера каталіцкая, як дэпазіт і апора, мела запэўненае сабе месца ў сэрцах каталікоў-беларусаў, а таксама каб згэтуль прамянілася і на нашых братоў праваслаўных... Дык як беларусы-каталікі, так і духавенства іх, загаварылі ў справе ўжывання роднай мовы ў Касцёле толькі, ці лепш асабліва дзеля таго, што мову польскую як мову чужую агулам народ наш разумее з трудом, а часта зусім яе не разумее. Даволі паслухаць пацеры беларуса, гавораныя папольску, а бачачы, як часта да непазнання перакручваецца іх сэнс, каб пераканацца, што пастырская праца сярод беларусаў-каталікоў у чужой для яго мове дужа трудная і часта зусім бескарысная. Хвала Божая і дабро душ нашага народа вымагае, каб у рэлігійнакасцельным жыцці карыстацца яго матчынай беларускай мовай...»

Закончылі, урэшце, ксяндзы-беларусы свой мемарыял наступнымі пажаданнямі: «1. Як найхутчэй увесці ў Семінарыі духоўныя ў Вільні і Пінску навучанне беларускай мовы, літаратуры і гісторыі.

2. Выдаць нормы, якія як належыць рэгулявалі б увядзенне і ўжыванне беларускай мовы ў дадатковых набажэнствах на беларускіх землях, азначаных у гэтым мемарыяле.

3. Пры разгранічэннях і падзелах дыяцэзіяў, паложаных на землях усходніх ваяводстваў, беларускія этнаграфічныя тэрэны, гранічачыя з народам польскім ці ўкраінскім, далучыць да іх этнаграфічных асяродкаў». Мемарыял гэты падпісалі 15 ксяндзоў, як прадстаўнікі беларускага каталіцкага духавенства агулам. Вось іх імёны і прозвішчы: кс. Ф. Абрантовіч, прэлат капітулы Пінскай, кс. др. Я. Рэшэць, прафесар Віленскай Семінарыі, кс. Ант. Зянкевіч, дэкан у Глыбокім, кс. В. Гадлеўскі, пробашч у Жодзішках, кс. А. Цікота, пробашч у Друі, кс. Ф. Рамейка, пробашч у Задарожы, кс. А. Станкевіч, пасол на Сойм, кс. В. Шутовіч, пробашч

у Барадзенічах, кс. Я. Семашкевіч, пробашч у Лаварышках, кс. К. Стаповіч, пробашч у Засвіры, кс. М. Шалкевіч, пробашч у Тракелях, кс. В. Хамянок, вікарый у Друі, кс. Ф. Аляшкевіч, пробашч у Удзяле, кс. А. Аўгустыновіч, пробашч у Даўгінаве, і кс. др. Ант. Шышка, пробашч у Крошыне.

На Канферэнцыі мемарыял гэты быў разгледжаны і з яго прычыны была прынята рэзалюцыя, што духовыя патрэбы ўсіх верных без розніцы народнасці належыць здавольваць прыхільна і справядліва.

## X. БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў СВЯТЫНЯХ 1925–30 ГГ.

*Зрачэнне біскупа Ю. Матулевіча з Віленскай біскупскай сталіцы. Прыезд на гэту сталіцу Я. Э.[14] арц. Ялбжыкоўскага. Беларусы-каталікі і Рытуал. Кс. В. Шутовіч і праца яго ў Барадзенічах. Скасаванне ў Барадзеніцкім касцёле беларускай мовы ў 1927 г. і адносіны да гэтага здарэння парафіян. Кс. В. Гадлеўскі і праца яго ў Жодзішках. Скасаванне беларускай мовы ў Жодзішным касцёле ў 1927 г. і адносіны да гэтага здарэння парафіян. Кс. К. Стаповіч і яго праца для роднай мовы ў святыні. Беларуская мова ў касцёле ў Друі, у Малькаўшчыне, у Ідолце і ў Леанполі. Айцы-езуіты ў Альбэртыне і ў Сынкавічах і іх адносіны да беларускай мовы ў Касцёле.*

*Кс. Я. Рэшэць і яго праца для беларускай мовы ў касцёле ў Трычоўцы, а таксама ў іншых месцах. Беларускі Нацыянальны Камітэт і яго захады што да роднай мовы ў святыні. Новы беларускі Каталіцкі Катэхізм і Святая Гісторыя. Біскуп Пінскі Я. Э. З. Лазінскі і яго сучасныя адносіны да беларускай мовы ў Касцёле лацінскага і ўсходняга абраду. А. В. Аношка; кс. Т. Татарыновіч і беларуская мова ў святынях. Новая Мыш, Ляхавічы, Мядзведзічы.*

*Кс. Ал. Лісоўскі і беларуская мова ў Касцёле. Беларуская мова ў Касцёле ў Латвіі. Кс. Я. Тарасевіч і беларуская мова ў Касцёле ў Амерыцы. Дапаўненне. Заканчэнне.*

Біскупу Матулевічу Канкардат Польшчы з Апостальскай Сталіцай адкрыў магчымасці, якіх ён баяўся і стараніўся. Для яго было ясным, што, апіраючыся на Канкардаце, цывільныя ўлады польскія будуць яшчэ больш як раней рабіць націск у кірунку паралізавання праз Касцёл усякіх народна-рэлігійных пачынанняў каталікоў, належачых у Польшчы да нацыянальных меншасцяў. Для біскупа Матулевіча было ясным, што вытварыўшаеся палажэнне само праз сябе



ўцягне яго, як заінтарасаванага дзеля яго касцельнага становішча, у вір барацьбы між урадам і нацыянальнымі меншасцямі таксама і ў жыцці касцельным. Усякай жа барацьбы, усякага дзейнага змагання біскуп Матулевіч дзеля святасці свайго характару стараніўся, дык дзеля гэтага летам 1925 г. прасіў Св. Айца аб прыняцці яго зрачэння з Віленскай сталіцы. Просьбу біскупа Матулевіча, пасля нагавору астацца, Св. Айцец урэшце прыняў, надаючы яму адначасна тытул арцыбіскупа.

На Віленскую біскупскую сталіцу быў назначаны сучасны біскуп Я. Э. Р. Ялбжыкоўскі, які абняў кіраўніцтва Віленскай дыяцэзіяй 8.IX.1926. На моцы канкордаў дыяцэзія гэта паднесена да годнасці архідыяэцэзіі, а яе біскупы да годнасці арцыбіскупаў.

У восень таго ж года курыя арцыбіскупская атрымала цікавы дакумент, які сведчыць аб узросце патрэб беларусаў-каталікоў у жыцці касцельным. У гэтым часе вышэйшыя духоўныя ўлады рыхтавалі да друку новы Рытуал (кніга правілаў, як спраўляць сакраманты і адпраўляць некаторыя набажэнствы). У звязку з гэтым тагачасны пробашч Жодзішны кс. В. Гадлеўскі звярнуўся да курыі арцыбіскупскай Віленскай (1926.16.XI, № 131) з наступнага зместу пісьмом: «Дзеля ўзросту свядомасці беларускага народа даспела патрэба памясціць у новым Рытуале пытанні і адказы таксама пабеларуску. Патрэба гэта ёсць дужа жывой асабліва што да беларускай інтэлігенцыі, якая неахвотна глядзіць на пытанні, задаваныя ёй у чужой мове. Таксама і для людзей вясковых ёсць канечным увядзенне мовы беларускай у Рытуале і пытаннях пры хросце і шлюбе, бо яны, не разумеючы добра польскай мовы, не могуць даваць патрэбных адказаў». Далей у тым жа дакуменце кс. В. Гадлеўскі дае жыццёвы прыклад і гэтай справе і просе курыю пачыніць старанні аб увядзенні беларускай мовы ў Рытуал. Выніку, аднак, гэта справа не мела ніякага.

У гэтым часе беларуская мова была пастаянна ўжыванай у Барадзенічах, у Жодзішках і Друі, час ад часу ў Засвіры. Гэтыя парафіі ў справе беларускай рэлігійнай культуры адыгралі паважную ролю, і дзеля гэтага належыць нам над імі затрымацца шырэй.

У Барадзенічах праз дзесяць гадоў (1917–1927) быў пробашчам ведамы беларускі культурны працаўнік кс. В. Шутовіч, які праз гэтых жа дзесяць гадоў ужываў беларускай мовы як у казаннях, так і ў дадатковым набажэнстве агулам.

Кс. В. Шутовіч родам з вёскі Шутавічы Смаргонскай гміны. Пасля семінарыі, скончыўшы яшчэ два курсы Духоўнай Акадэміі ў Петраградзе і дзеля прычын матэрыяльных не могучы далей весці свае навукі, быў назначаны на пробашча ў Барадзенічы ў 1917 г.

Быў гэта час грозны. Рэвалюцыя бушавала: гарэлі двары, бандытызм і грабежніцтва шырыліся, фронт ваенны развальваўся, а жаўнеры, пакідаючы яго, з аружжам у руках, змучаныя і здэмаралізаваныя вайной, наводзілі жах на прыфрантавыя і далейшыя ваколіцы. Кс. В. Шутовіч не здрыгануўся. Сапраўды з беларускай цярплівасцю трываў ён на становішчы, часта жыццё няпэўны. Адзін на расшалелых хвалях людской заўзятасці кіраваў ён паверанай яму лодкай у прыстань супакою, развагі, парадку, вытрываласці, справядлівасці, працуючы вытрывала для роднай культуры.

Па жудасцях рэвалюцыі прыйшла акупацыя нямецкая. Наступілі безаглядныя рэквізіцыі, а за імі фармальны голад. Не перастрашыла гэта кс. В. Шутовіча. Разам з народам жыў і разам гараваў.

Урэшце надышла чырвоная армія бальшавікоў. Ксяндзы-суседзі без мала ўсе пакідалі парафіі і паўцякалі. Кс. Шутовіч не спужаўся і бальшавікоў. Меў чыстае сумленне прад Богам і прад народам.

І гэтак пражыў кс. В. Шутовіч на становішчы пробашча ў Барадзенічах дзесяць гадоў, сеючы слова Божае ў роднай мове.

Але ксёндз гэты дзейнасць сваю не абмежаваў толькі да сваёй парафіі. Ён часта гаварыў беларускія казанні і ў многіх суседніх парафіях, як Новы Пагост, Шаркоўшчына, Германавічы, Іказнь, Далёкія, Друя, Ёды, у капліцах Барадзеніцкай парафіі: Баравыя і Навалака, у Удзяле, а таксама ў Вільні і Жодзішках. Народ слухаў яго заўсёды з вялікай прыхільнасцю і радасцю і цяпер той час успамінае з любасцю.

Карыстаючыся гэтак шырока беларускай мовай, кс. В. Шутовіч апіраўся перадусім на распараджэнні бп. Ропа з 1917 г. Вось што ён аб гэтым піша да біскупа Матулевіча 3 сакавіка 1925 г. за № 35:

«Ад месяца лютага 1917 г. агляд Божы паставіў мяне пробашчам у Барадзеніцкай парафіі для працы над збаўленнем душ людскіх. Тут адразу спасцярог я многія недахваты ў святой веры і маральнасці хрысціянскай маіх парафіян, на што звярнуў сваю ўвагу і крыху перамяніў спосабу навучання іх.

Людзі, сярод каторых я працую як душпастыр, усе па народнасці беларусы і мова іх беларуская. Затым, апіраючыся на закон біскупа Ропа з 1917 г., калі-нікалі пачаў я мовіць навукі ў касцёле барадзеніцкім па-беларуску. На практыцы спосаб навучання па-беларуску паказаўся дужа добрым і адпаведным для простага селяніна. Тады штораз часцей прыходзілася ўжываць у касцёле беларускай мовы.

Ад вялікага посту 1921 г., дзякуючы дамаганням вусным і на пісьме маіх парафіян, мною заведзены былі на пастаянна беларускія навукі на першым месцы, а польскія на другім. Адразу тады



паказалася, што польскіх навук слухала людзей дужа мала. Прыходзіла да таго, што на казанні польскім аставалася да трох-чатырох чалавек. Тое, што мала аставалася слухачоў на польскія казанні, змусіла мяне па-польску гаварыць навуку толькі ў важнейшыя святы.

Парафіяне мае добра прывыклі да беларускай мовы ў касцёле. Ахвотна слухаюць беларускіх навук і пяюць беларускія касцельныя песні. Дзеці іхныя да першай споведзі і святой Камуніі прыгатаўляюцца па-беларуску і навук рэлігіі па школах пачатковых слухаюць таксама па-беларуску.

Палякоў сталых жыхароў маёй парафіі ёсць асоб якіх пяць, а польскіх урадоўцаў таксама дужа мала. У касцёл яны ўсе ходзяць досыць рэдка. Такім чынам дзеля карысці і збаўлення душаў у маёй парафіі ў навучанні людзей усталіўся гэтакі парадак: па-беларуску адбываецца навука кожнай нядзелі і свята падчас сумы, а па-польску ў важнейшыя святы, як: Каляды, Новы Год, св. Язэпа, Вялікдзень, св. Пятра і Паўла, Зыход Св. Духа, Унебаўзяцце Найсв. Дзевы Марыі і св. Роха тры дні.

Гэтым прашу Вашу Эксцэленцыю такі парадак навучання ў Барадзеніцкім касцёле зацвердзіць як сталы».

Парадак гэткі, які ўсталіла само жыццё і які адпавядаў праўдзіваму стану парафіі і сапраўдным яе патрэбам, біскуп Матулевіч пацвердзіў.

Гэта вялікая рэлігійна-культурная работа кс. В. Шутовіча была, аднак, спынена. 12 студня 1927 г. духоўнай уладай ён быў з Барадзеніч забраны і назначаны на вікарыя.

Вікарыем кс. В. Шутовіч пабыў нешта год у Лідзе і Тжцянным і выехаў у Амерыку, дзе таксама пачынае беларуска-касцельную працу сярод беларускай эміграцыі.

У Барадзенічы ў веснавых месяцах таго ж 1927 г. быў назначаны на пробашча кс. Ст. Мажэйка, які беларускія казанні скасаваў.

Парафіяне выслалі да дзесяці просьбаў з мноствам подпісаў і да арцыбіскупа і да нунцыюша ў Варшаве, просячы іх, каб у Барадзеніцкім касцёле адбываліся казанні таксама і па-беларуску. Просьбы іх дагэтуль, дзеля палітычных варункаў, асталіся, на жаль, без выніку.

Па Барадзенічах на асаблівую ўвагу ў справе роднай мовы ў святыні заслужваюць Жодзішкі Вялейскага пав. і іх пробашч, шырока ведамы сярод беларускага народа кс. В. Гадлеўскі.

Ксёндз гэты прыбыў у Жодзішкі ў 1921 годзе. Пазнаўшы як след парафію, якая ў вялізарнай сваёй большасці ёсць беларуская, а таксама паслухаўшы просьбы парафіян, як добры пастыр, прый-

шоў да пераканання аб патрэбе ў пастырскай і агульнай касцельнай працы карыстацца мовай беларускай. Вось жа 7 верасня 1924 г. Жодзішныя парафіяне пачулі ў касцёле з амбоны першае беларускае казанне.

Сярод народа з казанняў у роднай мове было здаволенне неапісанае. Касцёл заўсёды быў бітком набіты. Былі толькі не здаволены кругі дворскія і ўрадавыя.

У выніку гэтага палітычнага нездаволення дэлегат польскага ўрада ў Вільні звярнуўся да біскупа Матулевіча, каб спыніць шкодную, як казаў, для Польшчы дзейнасць кс. В. Гадлеўскага. Дамаганне гэтае біскуп II.XI.1924 г. пераслаў кс. В. Гадлеўскаму, каб гэты даў сваё тлумачэнне на пастаўленыя яму ўрадавыя закіды. У адказе кс. В. Гадлеўскага з дня 15.XI.24 г. за № 173, між іншым, чытаем:

«Прыняўшы парафію ў 1921 г., стараўся я зблізіцца да народа, каб пазнаць яго патрэбы, асабліва дзеля таго, што народ гэты па колькілетнім бадзянні на чужыне (з прычыны вайны. — *Прып. аўтара*) варочаўся дамоў здэмаралізаваны і ў жыцці рэлігійным здзічэлым. Бачачы, што ніва сэрцаў людскіх ёсць моцна парослая дзікім зеллем, а маючы заўсёды прад сабой голас Сталіцы Пятровай «усё направіць у Хрысце», а голас гэты можа найбольш тасавацца да даўнейшага фронту расейска-нямецкага, дзе была не толькі руіна матэрыяльная, але таксама і маральная, я асаблівую звярнуў увагу перадусім на слова Божае, якое Хрыстус загадаў несці ўсім народам: «Дык ідучы навучайце ўсе народы, вучачы іх спаўняць усё, што толькі я вам загадаў» (Мат. 28, 19–20).

Агляд Божы паставіў мяне капланам сярод беларускага народа і даверыў мне ў асобе Вашай Эксцэленцыі кіраўніцтва Жодзішнай парафіяй. Бачачы масы беларускага народа, масы цёмныя і апушчаныя, а разам прагнучыя праўды і справядлівасці, стараўся я ў навучанні навукі Хрыстовай дастасавацца да іх паняцця, да стану іх розуму. Я ўважаў, што поўнае дастасаванне да паняцця беларускага народа ёсць трудным, а нават немагчымым, а гэта дзеля гэтай разбежнасці, якая пануе ў душы беларуса між жыццём штодзённым і касцельным, бо навучанне слова Божага адбываецца ў нашым краю ў мове польскай, а народ ужывае мовы беларускай. Бачачы гэтую разбежнасць, я стараўся хоць адчасці яе направіць, уплятаючы не раз у польскія казанні беларускія звароты, асабліва падаючы прыклады. Здавалася тады мне, што народ будзіцца з спячкі, падносе галовы свае і адчыняе вушы, каб слухаць. Сведкам гэтага можа быць кс. др. Я. Рэшэць, праф. Сем[інарыі] Дух[оўнай] у Вільні, каторы, будучы ў Жодзішках летам сёлета, чуў расказ прыкладу ў беларускай мове...



Дайшоў я да вываду, што мова беларуская больш дастасавана да паняцця беларускага народа, як польская. Хочучы, аднак, аканчальна пераканацца ў праўдзівасці маіх доследаў, што народ больш скарыстае з беларускіх казанняў, як з польскіх, я пастанавіў сказаць на пробу казанне чыста па-беларуску. Зрабіў гэта 7.IX. бягучага года. У бліжэйшую нядзелю я спасцярог, што ўчаснікаў у набажэнстве значна больш, што народ з большым зацікаўленнем слухае слова Божага і ахватней бярэ яго да сэрца. Лік людзей у касцёле ўзрастаў з кожным тыднем, у некаторыя нядзелі касцёл не мог змяшчаць малячыхся... З другога ж зноў боку, спадзеючыся, што ёсць людзі неахвотна настроены да беларускай мовы, я азнаёміў, што тыя, якія жадаюць слухаць слова Божае па-польску, няхай збяруць подпісы, а тады, ведаючы лічбы, можна будзе ўлажыць парадак у казаннях беларускіх і польскіх. Аб гэтым усім меў я злажыць адпаведны рапарт Вашай Эксцэленцыі з просьбай аб дыяцэзію, але ўперадзіла мяне інтэрвенцыя ўлады свецкай».

Далей у тым жа дакуменце кс. В. Гадлеўскі запярэчвае ўсім закідам характару палітычнага, стаўленым яму ўрадам.

Характэрная рэч, што польская старана, аб чым успамінае ў сваім рапарце кс. В. Гадлеўскі, назбірала жадаючых казанняў па-польску подпісаў толькі да дзвюх сот у парафіі, каторая налічае 3 300 душ.

Вось жа гэтая старана нездаволеных далей шукала здаволення прад духоўнымі ўладамі.

У адказ на пробныя пачынанні кс. В. Гадлеўскага біскуп Матулевіч, відаць, пад прэсіяй з боку польскага, даў яму загад, каб зараз жа было ўведзена назад казанне польскае. На гэта кс. В. Гадлеўскі 26.II.1925 г. за № 29 злажыў біскупу наступны рапарт:

«Спаўняючы загад Вашай Эксцэленцыі з дня II.XI.24 г. за № 3687, было зараз жа ўведзена ў Жодзішны касцёл казанне ў польскай мове, пры гэтым было абвешчана з амбоны аб вышэйўспомненым загадзе Вашай Эксцэленцыі, каб усе, жадаючыя слухаць слова Божае па-польску, ведалі аб гэтым і аставаліся па суме ў касцёле. У першую нядзелю асталося слухаць польскага казання каля 40 асоб, у другую нядзелю крыху меней — асоб 25–30, гэтая лічба асоб меней-болей аставалася ў кожную нядзелю і свята аж да Каляд. На першы дзень Каляд я зрабіў публічны падрахунак асоб, слухаючых польскай навукі: было ў касцёле мужчын шэсць, а кабет пятнаццаць, разам 21 асоба. Тагды ж па казанні зрабіў я ўвагу, што гэтакая малая лічба выглядае ў касцёле надта сумна, і заахвочваў, каб стараліся ў большым ліку аставацца і збірацца на польскую навуку. Гэтае ж заахвочванне я паўтарыў на Новы Год пры поўным

касцёле народу на беларускай навуцы ў часе сумы, аднак і ў той дзень асталося слухаць польскае навукі не болей 25 асоб. Гэтая лічба слухачоў (меней-болей 20–25 асоб) ужо паказвае на сталы лік жадаючых слухаць навукі па-польску, пры гэтым мужчын астаецца заўсёды 5–7 асоб, а жанчын розна, але не болей 20–25 асоб.

Зусім інакш выглядае справа з беларускімі навукамі — тады людзей поўны касцёл, нават болей прыходзіць цяпер, чым гэта было даўней перад увядзеннем беларускай мовы ў касцёл. Яшчэ мушу адзначыць, што людзі слухаюць з большай увагай беларускай навукі, чым слухалі даўней польскай, і нават можна заўважыць адну важную і радасную праяву, што прыходзяць у вялікай лічбе слухаць беларускай навукі падлеткі па лет 14–17, каторых даўней у касцёле або зусім не было, або былі дзесь схаваўшыся па кутках, а цяпер стаяць супроць амбоны і з вялікай увагай слухаюць слова Божае ў роднай і зразумелай для іх мове. Гэты факт многа гаворыць аб будучыне веры і Касцёла ў нашым краі пры навучанні ў беларускай мове.

Зважыўшы як след усё вышэй сказанае, а перадусім беручы пад увагу: з адной стараны — лік слухачоў на беларускіх навуках, а з другой — лік слухачоў на польскіх навуках у Жодзішным касцёле, я прыйшоў да гэтакіх вывадаў: 1) што ўжо можна зрабіць сталы і афіцыяльны парадак у беларускіх і польскіх навуках у Жодзішным касцёле; 2) што польскае казанне ў кожную нядзелю не дасягае сваёй мэты пры так малым ліку жадаючых слухаць па-польску.

Дзеля гэтага я звяртаюся да Вашай Эксцэленцыі з пакорнай просьбай выдаць афіцыяльны загад у справе ўпарадкавання стасунку польскіх казанняў да беларускіх з тым, каб лічба беларускіх і польскіх казанняў адпавядала ліку слухачоў адных і другіх казанняў. Паводле прапорцыі слухачоў, польскія казанні могуць мець месца толькі ў большыя святы, далучаючы сюды дзень Св. Тройцы і Саракагадзіннае набажэнства. Выкладаючы перад Вашай Эксцэленцыяй свае меркаванні ў гэтай справе, я веру, што ваша Эксцэленцыя выдасць справядлівы распарадак, нармуючы ў будучыне лічбу як беларускіх, так і польскіх казанняў у Жодзішным касцёле».

На гэткую пастаноўку справы біскуп Матулевіч, відаць, жадаючы як след упэўніцца аб сапраўдным палажэнні ў Жодзішках, адказаў пасланнем у Жодзішкі камісіі, зложанай з трох ксяндзоў, і прытым усіх трох палякаў.

Вось жа 26 красавіка 1925 г. у Жодзішкі прыбыла камісія. Па адбытым набажэнстве на цвінтары прыступілі да галасавання, каб даведацца, колькі і якой мовы ёсць ахвотнікаў. Польская старана, чуючыся смялей, як беларуская, пачала гразіць беларусам, галасуючым за сваю мову. Пачалося змаганне. Паліцыя прыцягнула кулямёт. Народ забушаваў больш. Кс. В. Гадлеўскі супакоіў яго. Галасаванне пайшло далей, якога і пры гэткіх варунках вынік быў такі, што, як прызнала тая ж аднабокая камісія, беларускай мовы жадала 60 проц., а польскай 40 проц.



Пасля гэтага ўсяго 11.VII.1925 г. за № 2163 Віленская біскупская курыя прыслала кс. В. Гадлеўскаму наступную рэзалюцыю біскупа Матулевіча: «...Што датычыць парадку набажэнства ў Жодзішным касцёле, расследаваўшы справу, згодна з пастановай Канферэнцыі біскупаў, каб з поўнай прыязнасцю і справядлівасцю спаўняць духовыя патрэбы ўсіх верных Рэчы паспалітай Польскай без розніцы народнасці, пастанаўляем, каб у гэтым касцёле быў далей такі парадак набажэнстваў, каторы ўжо ўсталіўся, гэта значыць: каб апрача казанняў беларускіх, гавораных падчас Сумы, зараз па Суме каб былі гавораны і казанні польскія; а падчас Вялікага Посту, калі беспасярэдна па Суме адбываецца Крыжовая Дарога, польскае казанне мае быць прад Сумай».

Хутка пасля гэтага так важнага і справядлівага факта, дакананага для беларускай мовы ў касцёле, біскуп Матулевіч зрокся дыяцэзіі і выехаў з Вільні.

Беларуская мова ў Жодзішках цвіла далей. Але час ішоў і працаваў заўзята проціў беларускай мовы ў касцёле. Кс. В. Гадлеўскі 25.III.1925 г. на беларускае народнае свята Абвешчання Незалежнасці Беларусі і ў дзень 400-годдзя бел. кніжкі ў Вільні ў касцёле св. Мікалая сказаў беларускае казанне. За гэта 25.VI. таго ж года быў арыштаваны, абвінавачаны па 129 арт. К. К. і пасаджаны ў турму на Лукішках. Пасядзеўшы нядзелі дзве, быў звольнены, а справа скасавана.

З 29 па 30 верасня таго ж 1925 г. кс. В. Гадлеўскі быў зноў арыштаваны і пасаджаны ў тую ж турму. Абвінавачвалі яго па 130 арт. К. К. у тым, што ён сярод сваіх парафіян пашыраў думку, каб з усіх беларускіх этнаграфічных зямель стварыць Незалежную Беларусь. За гэту справу кс. В. Гадлеўскі, пасядзеўшы зноў дзве нядзелі на Лукішках, да суду за каўцыю быў звольнены, а 2 сакавіка 1926 г. адбыўся суд і даў яму 2 гады крэпасці. Урэшце, калі вышэйшыя інстанцыі польскіх судоў прыгавор гэты пацвердзілі, з 23 на 24 сакавіка 1927 г. кс. В. Г. быў арыштаваны і адвезены ў Варшаву ў Макатоўскую турму, з якой, дзякуючы амністыі, двух гадоў не дасядзеўшы, выйшаў 14.VII.1928 г.

За ўвесь гэты час, калі яшчэ кс. В. Гадлеўскі быў на свабодзе, беларуская мова ў Жодзішным касцёле цвіла далей. Была яна таксама ўжыванай у казаннях і за часаў кс. Р. Дроніча, новага ў Жодзішках пробашча.

Урэшце 16.X.1927 г. новы гэты пробашч гаварыць беларускія казанні перастаў. Народ абурыўся. Нават песняй перарваў пробашчу польскую навуку. У адказ на гэта паліцыя арыштавала 17 чалавек.

Народ тады пачаў прад духоўнымі ўладамі рабіць старанні аб павароце ў Жодзішны касцёл роднай мовы. Парафіяне слалі многа дэлегацыяў да духоўных уладаў і шмат пісалі просьбаў, а на просьбах гэтых часам было да тысяч двух подпісаў. Сёння ж у Жодзішным касцёле парафіяне пяюць беларускія рэлігійныя песні. На паварот роднай мовы ў казанні маюць таксама надзею, аб чым далей усцяж просяць духоўныя ўлады, якія, напэўна, справядлівых просьбаў не адкінуць.

Пасля Жодзішак і кс. В. Гадлеўскага, адыграўшых такую вялікую ролю ў гісторыі змагання беларускай мовы за свае правы ў Касцёле, заслужвае таксама на асаблівую ўвагу кс. К. Стаповіч (Каз. Сваяк), пробашч у Засвіры Свянцянскага пав.

Радзіўся ён 1890 г. 19.II. у вёсцы Барані Свянцянскага пав. Духоўную Семінарыю скончыў у Вільні. На ксяндза быў пасвечаны вясной 1915 г.

Першыя крокі пастырскай працы кс. К. Стаповіча былі ў Камаях, пасля ў роднай парафіі Клюшчаны Свянцянскага пав.

Тут застала яго нямецкая акупацыя. У родных Клюшчанах, дзе прабыў 1915 і пачатак 1916 г., кс. К. Стаповіч нямала прапрацаваў дзеля права роднай мовы ў святыні, гаворачы час ад часу беларускія казанні, а таксама складаючы беларускія рэлігійныя песні. Хворы на сухоты кс. К. Стаповіч мусіў часта пакідаць родную Беларусь і ехаць на даўжэйшы час на лекі ў далёкае Закапанае. 1919 г. па дарозе ў Закапанае затрымаўся ў Лапеніцы і, як мы ўжо казалі, гаварыў там беларускае казанне.

У 1920 г. кс. К. Стаповіч быў назначаны на пробашча ў Засвір таксама Свянцянскага пав. На гэтым становішчы прабыў ён аж да смерці 6 траўня 1926 г. Памёр у Вільні, дзе і пахаваны на могілках Роса.

Нягледзячы на свае хворыя грудзі, кс. К. Стаповіч у Засвіры гаварыў часам сам навукі па-беларуску, а таксама запрашаў на гэта іншых. Так, напр., на яго запросіны 16 лістапада 1924 г. у дзень св. Ёзафата ў Засвір прыбыў кс. В. Гадлеўскі і сказаў там беларускае казанне.

Будучы праездам у Вільні, кс. К. Стаповіч таксама колькі разоў сказаў беларускае казанне ў касцёле св. Мікалая.

Беларусы-каталікі парафіі Клюшчанскай, чуючы рост у сэрцах сваіх зярняты праўды аб роднай мове, засеянага іх аднапарафіянінам кс. К. Стаповічам, а таксама чуючы з газет аб беларускіх казаннях у розных парафіях Віленскай, Пінскай і Магілёўскай дыяцэзіяў, нешта ў 1923–1924 г. пішуць да віленскага біскупа Матулевіча просьбу з подпісамі да 100 чалавек наступнага зместу:



«Парафія нашая па сваім складзе народным здаўна беларуская, не магла як дагэтуль карыстаць з права свайго да роднай мовы ў Касцёле, бо, з аднаго боку, народ не меў ніякага голасу і ніхто з ім не лічыўся, з другой жа стараны расейцы не хацелі беларусаў прызнаць асобнай нацыяй і — правам дужага маглі б цягнуць нас на сваю расейскую веру. У гэтым, аднак, часе, калі Бог народ наш збудзіў з нядолі і процьмы, паказаўся чысцейшы шлях да ажыўлення рэлігійнае культуры ў сэрцах нашых і калі ўжо расейшчыну справядлівасць Яго скасавала, пара нам адважна і з сумленнем спакойным заявіць свету аб сваім прыродным праве да роднай мовы ў справах святой веры нашай. І вось дзеля гэтага з пакорай мы, беларусы Клюшчанскай парафіі, адважваемся прасіць Вашу Эксцэленцыю, каб нашу мову родную дапусціць у клюшчанскі касцёл хаця ў тыя фэсты, калі гаворыцца навука і па-літоўску, гэта значыць — на фэст Сэрца Езуса і на св. Яхіма... І асмяляемся дабавіць, што ў нашай старане прамовы па-беларуску ўжо здараліся і былі спатканы народам як зусім на сваім месцы...»

У 1925 г. 16.IV. за № 20 кс. К. Стаповіч у справе беларускіх казанняў у яго парафіі пісаў гэткае пісьмо да біскупа Матулевіча: «Згодна з жаданнем народа, выражаным на пісьме, а таксама згодна з маім перакананнем аб праве каталікоў да роднай мовы ў Касцёле, астатнім часам усталіўся ў парафіі Засвірскай гэткі парадак навучання верных: 1) першае казанне прад Сумай па-польску, другое казанне па-беларуску, 2) на два галоўныя фэсты парафіяльныя св. Ёзафата і Св. Тройцы на нешпарах прад працэсіяй, 3) канферэнцыі прад Велікоднай споведдзю ў посце па два разы ў тыдзень... 4) прыгатаванне дзяцей да першай споведзі і св. Камуніі, бадай, выключна па-беларуску праз увагу на поўнае няўменне дзяцей чужой мовы...»

Далей у гэтым пісьме кс. К. Стаповіч просіць біскупа прадстаўлены парадак зацвердзіць, падкрэсліваючы адначасна, што, калі які рух народны пусціць самапасам, скуткі могуць быць неаблічальныя.

На гэта пісьмо кс. К. Стаповіча біскуп Матулевіч 3 ліпеня 1925 г. адказаў: «Згодна з пастановай Канферэнцыі біскупаў з дн. 29 траўня 1925 г., каб з цэлай прыхільнасцю і справядлівасцю спаўняць духовыя патрэбы ўсіх верных Рэчы паспалітай Польскай без розніцы народнасці, прадстаўлены парадак зацвярджаем».

Але не толькі кс. К. Стаповіч гаварыў сам беларускія казанні, запрашаў на гэта іншых і шукаў для іх апору ў духоўнай улады, але таксама ён нямала працаваў пяром, высяняючы шырокім беларускім масам патрэбу навучання веры ў роднай мове і правы роднай мовы ў святынях.

Яшчэ з 1919 г. маем у рукапісе прыгожае казанне кс. К. Стаповіча на Вялікдзень, напісанае ў Закапаным.

У 1925 г. напісаў ён ведамы малітоўнік для беларусаў-каталікоў «Голас душы», надрукаваны ў 1926 г.

Будучы паэтам, кс. К. Стаповіч дужа многа пасвяціў сіл сваіх дзеля беларускай рэлігійнай літаратуры, пакідаючы нам нямала беларускіх рэлігійных песняў, якія сёння беларусы-каталікі сям-там пяюць ужо ў касцёлах.

У прыгожую форму ўбіраў кс. К. Стаповіч беларускае слова, а таксама закоўваў у яго думку рэлігійную і гэткім чынам палажыў гістарычныя заслугі для роднай мовы ў святыні.

Урэшце, заслужвае таксама на асаблівую ўвагу ў справе роднай мовы ў святыні Друя Браслаўскага павета, цяпер сяліба айцоў марыянаў.

У Друі беларускія казанні пачаліся яшчэ з 1917 г. ад слаўных часоў арцыб. Ропа. Ад гэтага года аж да года 1924 беларускія казанні бывалі ў Друі не сістэматычна, не пастаянна, а час ад часу. У годзе 1924 біскуп Юры Матулевіч Друю перадаў айцом-марыянам, якіх ён, як ведаем, быў енералам. На чале друйскага кляштара айцоў-марыянаў, прыняўшы манаства, стаў беларускі ксёндз Андрэй Цікота, які кіруе там законным жыццём і парафіяй аж да сёння.

У Друйскім касцёле беларускія казанні адбываюцца штонядзелі і штосвята па нешпары. Падчас 40-гадзіннага набажэнства, якое пачынаецца 8 снежня ў дзень Непавіннага Пачацця Маці Божай і трывае, як ведама, тры дні, беларускія казанні бываюць на раніцы а гадзіне шостай. Адбываюцца там таксама казанні ў роднай мове народа ў месяцы траўні, калі прыпадае маёвае набажэнства па вёсках Друйскай парафіі.

У граніцах Друйскай парафіі знаходзіцца мясцовасць Малькаўшчына, у якой ёсць капліца. Вось жа туды айцы-марыяне з Друі даязджаюць штонядзелі, а часам і ў свята і там таксама гавораць польскія і беларускія казанні.

У Малькаўшчыне першы раз беларускае казанне пачалося 9.VI.1924 г. У гэты дзень не абышлося тут без авантуры з боку аднаго польскага шляхціца Язэпа Яцыны. А. А. Цікота гаварыў казанне па-польску, але ў адным месцы, жадаючы лепш растлумачыць навуку для народа, перайшоў на мову беларускую. Тады гэты пан стаў крычаць: «Nam nie trzeba białoruszczyzny, tu Polska, zamknieny kościół» — «Нам не трэба беларушчызны, ту Польска, замкнены касцёл». Народ страшэнна ўзбурыўся і кінуўся на Яцыну. Сын Яцыны Вальдамар стаў бараніць бацьку, пагражаючы рэвальверам. Народ кінуўся на іх абодвух. Надбег а. Я. Германовіч, які таксама тады быў у Малькаўшчыне, а яму на падмогу падаспеў і сам а. Цікота, і Яцынаў удалося абараніць ад разгневанага народа. Пасля гэтага народ паволі супакоіўся. Тады а. А. Цікота запытаў, «як хочаце, каб была навука»? Народ аднагалосна крычаў: «па-беларуску, не разумеем па-польску». І ксёндз Цікота гаварыў ужо ўсю навуку па-беларуску.



Але не толькі ў Друі і ў Малькаўшчыне, у якіх, як мы ўспомнілі, і цяпер бываюць беларускія казанні, час ад часу гэткія казанні бывалі ў суседніх парафіях, як Леанпаль у гадох 1925–1927, а таксама ў Ідолце ў гадох 1925–1928.

Айцы марыяне гаварылі беларускія казанні ў успомненых месцах, а таксама і цяпер гавораць у Друі на выразнае жаданне народа, які агулам, трэба сказаць, казанні ў роднай мове прымае з захапленнем.

Астатнім часам таксама карыстаюцца ў жыцці рэлігійным беларускай мовай айцы езуіты ў Альбертыне і ў Сынкавічах у Слонімшчыне. Вось што аб гэтым піша карэспандэнт з Альбертына ў «Хрысціянскай думцы» з дня 25 красавіка 1929 г.: «Некаторыя (езуіты), што не зналі або зналі кепска нашу мову, прыняліся з шчырым парывам за грунтоўнае яе пазнанне, каб лепей і цэлай душой аддацца таму народу, над якім працуюць... Нават розныя сектанты, як баптысты і неахвотныя праваслаўныя, бачачы шчыры намер айцоў, намер збаўлення душ і чуючы яснае і зразумелае выкладанне рэлігійных праўдаў у роднай мове, ахвотна прыходзяць на набажэнства. Дзеля таго, што Альбертынская уніяцкая парафія складаецца не з адных толькі беларусаў, але і з вялікай часткі такіх, што лічаць сябе за расейцаў, казанні гаворацца ў царкве ў дзвюх мовах: беларускай і расейскай. Казанні па-беларуску мае амаль не заўсёды а. Ант. Дуброўскі, які цяпер добра валодае роднай мовай і якога з вялікай ахвотай слухаюць верныя.

Нават а. Уладзімер (протаігумен), хоць ужо не ў маладым веку, так адданы для нашага народа, што хоць у моладасці ніколі беларускай мовы не чуў, ужо ў адну з апошніх нядзель гаварыў казанне па-беларуску.

Апрача Альбертынскай парафіі ўспомненыя айцы маюць яшчэ такую ж самую уніяцкую парафію ўсходняга абраду ў Сынкавічах, недалёка ад Слоніма, дзе працуе а. Маркель Высакінскі. Казанні ён

гаворыць выключна мясцовай беларускай мовай... Выкладае ён у беларускай мове рэлігію ў некалькіх школах, вучыць дзяцей пяяць беларускія набожныя песні...»

Далей той жа самы карэспандэнт з Альбертына, апісваючы ўнутранае жыццё ў кляштары езуітаў ў Альбертыне, так кажа: «Ад першага погляду на прысутную тут моладзь можна пазнаць дух узаемнай міласці і пашаны чужых сабе народаў. Кожны цікавіцца тут узаемным пазнаннем звычаяў, традыцыяў і поглядаў дадзенага народа, каб як найбліжэй да яго падысці і дастасавацца да яго вымаганняў. Прыкладам — чытаецца публічна для цэлага кляштара гісторыя і геаграфія Беларусі, якімі ўсе вельмі цікавяцца. Наагул можна адзначыць, што ўсе мовы ў кляштары маюць роўныя правы, кожную можна ўжываць. За сталом Св. Пісанне чытаецца па-славянску, а іншыя разы або па-расейску, або па-беларуску... Гэтак званыя рэкрэацыі, або абавязковыя гадзінныя разгаворы па абедзе і вячэры, некалькі разоў у тыдні бываюць абавязкова па-беларуску і па-расейску, іншыя разы, як хто хоча.

Пробныя казанні, якія для практыкі гавораць навіцыюшы прад а. магістрам, звычайна бываюць у беларускай або ў расейскай мове... Кляшторная моладзь мае таксама лекцыі славянскай, беларускай, расейскай і лацінскай мовы».

Такім чынам, як бачым, езуіты, згодна з сваімі традыцыямі, несучы святло Евангелля да якога народа, вучацца яго мовы і ў меру магчымасці і патрэб карыстаюцца ёй у жыцці касцельным.

Пачынала ўжо была таксама запушчанасць у жыццё касцельнае беларуская мова на рубяжы беларуска-польскім. У Беласточчыне каля Нарвы ракі, недалёка ад станцыі Страблі, залажылі (1928) новую парафію — Трычоўку. Першым пробашчам быў назначаны кс. др. Станіслаў Глякоўскі. Быў ён дагэтуль вікарыем у Ваўкавыску, дзе зжываўся духам з народам сваім і ўносіў у гушчы вясковыя свядомасць беларускую. З Ваўкавыска ксяндза Глякоўскага назначылі ў Трычоўку.

Дзякуючы блізкаму суседству з Беластокам, навязаў кс. Глякоўскі зараз жа лучнасць з пабрацімцам сваім кс. др. Я. Рэшэцем, прэфектам вучыцельскай семінарыі, каторы ад той пары аказваўся даволі частым госцем у Трычоўцы.

Новы пробашч у адносінах да сваіх людзей стаў адразу на правільным грунце, адзываючыся да іх у роднай беларускай мове. Не трэба было доўга ламацца, бо на шчырасць свайго пробашча народ так жа шчыра адкрыў і душу сваю. Скора ўся парафія загаварыла з пробашчам адважна па-свойму, па-беларуску. Здаровы, гаспадарскі розум асіліў усе перашкоды, асабліва дурны, фальшывы стыд. Пачалі адкрыта гаварыць па-беларуску, чытаць кніжкі, выпісваць газеты, пяяць народныя песні.



Але заглянем у жыццё касцельнае. Здавалася, што касцёл — гэта месца спецыяльна для польскае мовы і што адзавацца тут па-беларуску гэта значыць зняважыць месца святое, а тым самым выклікаць слушнае абурэнне ў кожнай душы каталіцкай. Тым часам бліжэй прыглядзеўшыся, трычоўскім людзям аказалася, што жыццё рэлігійнае, канечна, дамагаецца, каб іхняй роднай мовай загаварыць і ў касцёле. Польская мова, як аказваецца, абіваецца аб вушы, але глыбей у душу беларуса не сягае. Няма што тады аглядацца на традыцыю ані на сучасную палітыку. Трэба даць доступ Богу да душы чалавечай!

Парафіяне трычоўскія, бачачы, што пробашч іх мовай беларускай не ганьбуе і што яны свабодна могуць да яго адзывацца ў сваёй мове, казаў бы, нарадзіліся на новы свет. «Ах, як добра, — казалі, — не трэба ламаць языка, як думаеш, так і гаворыш!»

Але прыйсці мусіла пара загаварыць таксама і ў касцёле. Гэта выплывае з тых самых прычын, што і ўсё іншае. Толькі справа выканання тут ужо далёка цяжэйшая. Раз, што ўлады польскія засланяюцца Канкардатам (умовай Польшчы з Папежам), паводле каторага ўводзіць мову беларускую ўзамен польскай без спецыяльнага дазволу Епіскапату польскага забараняецца; а другое, што спаміж слухачоў лёгка знайсці могуць розныя правакатары, каторым на руку выклікаць у касцёле нейкае забурэнне ды скампраметаваць ксяндза-беларуса і ўсю ягоную работу.

У Трычоўцы, аднак, з гэтым усім было лягчэй. Бо што датычыць Канкардату, кс. Глякоўскі, рэч зразумелая, ні ў чым яго не парушыў. Узамен польскай мовы ён нічога не ўводзіў, беларуская мова была толькі дапаўненнем у набажэнстве. Што зноў да правакатараў, дык сказаць трэба, што ў Трычоўцы на іх быў голад.

Ксёндз Глякоўскі, будучы сам з Поразава, не ўспеў адразу запазнацца як належыць з тамтэйшаю трычоўскай гаворкай беларускай мовы і дзеля гэтага ўва ўсіх прамовах, выступленнях выручаўся кс. Рэшэцем, сваім госцем, каторы, будучы з Беласточчыны, добра знаў усе адценкі трычоўскай беларушчыны і мог умела і ўдатна прагаварыць да мас народных.

Першае выступленне беларускае кс. Рэшэця ў касцёле трычоўскім было на маёвым набажэнстве. Народ так ужо быў падгатаваны, што прамову прыняў, як бы рэч зусім звычайную. Тое самае паўтарылася і на другі дзень. Пасля набажэнства вечарам прыйшлося ехаць ксяндзом у в. Рэпнікі, куды іх сяляне запрасілі на вясковае маёвае набажэнства. Алтарык быў зроблены на вуліцы каля

крыжа. Народу поўна. Кс. Рэшэць адазваўся і тут з беларускім словам. Гаварыў смела, адважна, бо раз што чуў, што добра робіць, а другое, што солтыс, Тарасюк, як толькі фурманка затрымалася, падышоўшы да ксяндзоў, заявіў, што вёска паслухаць хоча беларускай навукі.

Пару разоў прыйшлося таксама гаварыць ксяндзу на могілках. Пасля аднае прамовы звярнулася да яго бабулька і, цалуючы яму рукі, дзякавала за «пекную навуку», што «мы даждалі на старыя лета пачуць такое казанне ў нашай роднай мове, ах, як гэта добра нам старым!»

Неяк у пачатках ліпеня меліся адпраўляць трычоўскія тэрцыяркі аднаднёвыя рэкалекцыі. І тут тры канферэнцыі былі сказаны па-беларуску. Бо падумаць, як жа ж інакш, калі паміж тэрцыяркамі найбольш тых «старых», тых «бабулек»? Гэта ж і стыд і грэх гаварыць да іх па-польску. Назаўтра была пасля Імшы св. прафецыя. Разумеецца, што і тутка прамова была па-свойму, а яе слухалі ўжо не толькі адны тэрцыяркі, але і ўсе прысутныя ў касцёле. «Нам так і трэба», — казалі пасля «бабулькі».

Ёсць звычай па нашых вёсках беларускіх завадзіць свае вясковыя святы. Людзі збіраюцца на «сваю Імшу», а пасля набажэнства просяць пробашча пасвяціць у вёсцы іхнюю жывёлку. І пры гэтай аказіі прыйшлося кс. Рэшэцю гаварыць прамовы беларускія: адзін раз у Трычоўцы, а другі ў Клявінаве. Адзначыць трэба, што в. Клявінава, разагітаваная «Stowarzyszeniem Młodzieży Polskiej» і «Stow[arzyszeniem] Młodzieży Wiejskiej», увайшла на дарогу паланізацыі больш, як другія суседнія вёскі. Здавалася, што тут аніяк не падысці ксяндзу з беларускім словам. Тым часам выслухалі і яны навукі беларускай з поўнай увагай і зацікаўленнем. Аказалася, што ўся іхняя «польшчына» гэта нешта зусім павярхоўнае. А душа ў аснове сваёй асталася беларускай. Тая кароценькая прамова зрабіла вялікі пералом у цэлай вёсцы. Прапала недзе фанабэрыя, прапаў фальшывы стыд, усе як адзін загаварылі да свайго пробашча толькі па-беларуску.

Катэхізацыя дзяцей, на жаль, з прычыны пануючай водры, адбыцца ў шырэйшых масах не магла. Адны дзеці з Ростаўтаў успелі прыгатавацца да споведзі. Катэхізацыя вялася, зразумела, па-беларуску. Цікавы абразок пры экзаменах. Хлопчык, атрымаўшы картачку, адышоў у бок да сваіх равеснікаў і кажа: «Покуль я адказваў па-польску, ішло мне вельмі цяжка, думаў, што ўжо экзамену і не здам, тады перакінуўся я на нашу мову, і адразу пайшло мне лёгка, нідзе ані заікнуўся». На другі дзень па споведзі дзеці прыступілі да



Камуніі св., а пасля нешпараў упісваліся ў ружанец. Хоць і ў касцёле, але як жа тут гаварыць, як не па-беларуску? Што значыць родная мова, няхай скажуць тыя слёзкі на вочках дзіцячых, што значыць родная мова, няхай скажуць грамады людзей, што пры тым былі і слоў родных слухалі! Вучыцелька, каторая прывяла дзяцей у касцёл, пасля сама казала: «Nie przypuszczałam nigdy takiego efektu!» Гэтая прамова даказала зусім ясна, што ўжо смела можна ўвясці беларускую навуку па нешпарах кожнае нядзелі.

Тое, што мо найбольш дражніла польскія сферы, гэта беларуская рэлігійная песня, бо яе туды клікала патрэба душы беларускай. І трэба ж было чуць, з якой пабожнасцю і зразуменнем выказаў народ свой настрой рэлігійны ў роднай песні беларускай. Пяяліся, спачатку па «Годзінках», пасля па нешпарах, гэтакія песні: «О, Мой Божа, веру Табе; О Марыя, Матка Божа; Матанька Божая...»

На жаль, увосень 1929 г. кс. Ст. Глякоўскі з Трычоўкі быў назначаны ў Вільню на прэфекта, а кс. Рэшэць польскай свецкай уладай пазбаўлены становішча прэфекта Семінарыі ў Беластоку, а таксама пазбаўлены права атрымаць якую іншую самадзельную пасаду ў Віленскай архідыяцэзіі.

Няхай бы папрацаваў у кожнай беларускай парафіі пробашч хоць 2–3 гады гэтак, як у Трычоўцы, а ўвесь край беларускі прыняў бы скора яснае, светлае аблічча сваёй сведамасці народнай.

Калі гэта ўдалося ў Трычоўцы (як польскія газеты пісалі — пад Варшавай), то што ж гаварыць аб Віленшчыне, Наваградчыне?..

Апрача Трычоўкі той жа кс. Я. Рэшэць гаварыў беларускія казанні ў Вільні, у Жодзішках, Барадзенічах, Друі і інш.

У 1927 г. Я[го] Э[ксцэленцыя] сучасны Віленскі арцыбіскуп даў дазвол на друкаванне беларускага каталіцкага катэхізму, а таксама на свой кошт яго выдаў.

[У] 1928 г. той жа Віленскі арцыпастыр даў свой дазвол на друкаванне беларускай Гісторыі Святой Старога Закону, якую напісаў кс. В. Гадлеўскі.

Ад пачатку 1928 г. таксама з дазволу сучаснага арцыпастыра пад рэдактарствам кс. Ад. Станкевіча выходзіць у Вільні каталіцкі двухтыднёвы часопіс «Хрысціянская думка». Часопіс гэты мае сабе за мэту пашыраць і высвятляць сярод беларускіх народных мас і сярод беларускай інтэлігенцыі каталіцкую навуку, а таксама тварыць беларускую каталіцкую літаратуру.

Беларускае грамадзянства агулам справай роднай мовы ў святынях цікавіцца ўсцяж болей і робе адпаведныя захады. Так, напр., 28.XII.1927 г. Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні ў асобным

пісьме прасіў архідыяцэзіяльныя ўлады, каб у Духоўнай Семінарыі ў Вільні былі заведзены лекцыі беларускай мовы, літаратуры і гісторыі.

Для поўнасці не адрэчы будзе тут успомніць, што 1929 г. 23.VII. кс. Ад. Станкевіч, падчас прабывання ў роднай вёсцы Арляняты Ашмянскага пав. Крэўскай гміны, сказаў па-беларуску надгробную прамову на арляняцкіх могілках, хаваючы суседа. Прамову гэту народ прыняў з вялікай прыемнасцю. Пасля прамовы праваслаўныя, быўшыя тады на могілках, казалі, што каб гэтакай мовай ксяндзы па касцёлах гаварылі казанні, дык яны з ахвотай хадзілі б у касцёл, ды нават і каталіцтва прынялі б.

Умацаваўшыся ў усходняй Беларусі, камуністы ў 1921 г. спынілі там буйны рост беларускага каталіцкага жыцця. Замест дыяцэзіі Менскай паўстала дыяцэзія Пінская з сталіцай біскупскай у Пінску, пад Польшчай. На чале гэтай дыяцэзіі стаіць той жа біскуп Я. Э. З. Лазінскі.

Пастыр гэты ў сваёй дыяцэзіі ў казаннях для беларусаў-каталікоў-лацшнікаў, гавораных па-польску з прынцыпу, дазваляе па-беларуску рабіць выясненні.

Для каталікоў жа ўсходняга абраду (уніятаў), якіх у яго дыяцэзіі знаходзіцца ўжо значны лік, дазваляе гаварыць казанні чыста беларускія.

У нашы часы ў Пінскай дыяцэзіі гаворыць беларускія казанні а. В. Аношка, пробашч уніяцкай парафіі Альпень на Палессі. У той жа Альпені гаворыць беларускія казанні кс. П. Татарыновіч, выдатны прамоўца, які бывае ў а. Аношкі дзеля помачы яму ў пастырскай яго працы.

Належыць тут таксама зазначыць, што той жа а. Аношка, яшчэ будучы лаціннікам, гаварыў беларускае казанне да беларусаў-каталікоў у Рачканах Баранавіцкага пав. у 1926 г.

Летам 1929 г. Я. Э. біскуп Пінскі даў дазвол на друкаванне па-беларуску кніжыцы «Песні Жальбы» (Набожнае разважанне мукі і смерць Збаўцы нашага Езуса Хрыстуса).

Патрэба беларускай мовы ў Касцёле ў дыяцэзіі Пінскай сярод беларусаў-каталікоў адчуваецца сапраўды. Вось, 2 верасня 1929 г. многія каталікі парафіі Новая Мыш Баранавіцкага пав. біскупу пінскаму злажылі паданне, просячы яго ўвесці ў іхняй парафіі казанні і агулам дадатковыя набажэнствы па-беларуску. Даведаўшыся аб гэтай просьбе сваіх парафіян, пробашч з Новай Мышы кс. Мадалінскі пачаў востра выступаць беларускай мовы.

Падобныя паданні зложаны таму ж Пінскаму каталіцкаму біскупу з парафіяў Ляхавічы і Мядзведзічы.



Калі зайшла гутарка аб Мядзведзічах, дык трэба тут прыпомніць, што там ужо былі беларускія казанні ў 1917 г., каторыя гаварыў кс. Ант. Дземяшкевіч падчас прабывання ў тагачаснага мядзведзіцкага пробашча кс. Ал. дэ Вольдо-Хрулевіча, а таксама ў 1918 г., каторыя гаварыў кс. П. Татарыновіч, тады яшчэ субдыякан. Парафіяне слухалі гэтых казанняў з вялікім зацікаўленнем, плакалі і цешыліся. Раз толькі здарыўся малы выпадак. Адзін з парафіянаў, навучаны ворагамі беларушчыны, на Новы Год, калі кс. П. Т[атарыновіч] пачынаў казанне, нясмела, як бы не сваім голасам, дазваўся: «Па якому гэта да нас гаворыш...» Але мовы не правраў. Людзі з выразным нездаволеннем утаропіліся на яго, дык на гэтым і скончылася «опозыцыя». Пасля гэтага праз доўгі час былі ў Мядзведзічах беларускія казанні і, апрача добрага, ніхто аб іх нічога больш не казаў.

У меру сіл сваіх рупіўся таксама аб роднай мове ў святыні кс. Адам Лісоўскі, нядаўна расстаўшыся з гэтым светам. Ён ператлумачыў на беларускую мову наступныя часціны Новага Закону: Апакаліпсіс, Апостальскія дзеі, лісты св. Паўла: да рымлян, да галятаў, першы і другі да карынфіян. Праўда, тлумачэнні кс. А. Лісоўскага не такія добрыя, каб маглі быць друкаваны, але для чыей лепшай у тым жа кірунку працы могуць быць дужа карысны.

Для поўнасці нашага агляду належыць таксама слоў колькі пасвяціць Латвіі. Жыве там усіх беларусаў да ста тысяч, з якіх тысяч да пяцьдзесяці — гэта беларусы-каталікі.

Сучасны арцыбіскуп Латвійскі Спрынговіч меў думку для беларусаў-каталікоў стварыць два асобныя дэканаты з беларускім духавенствам на чале. Для няведамых нам прычын план гэты дагэтуль не здзейснены. Агулам, аднак, трэба сказаць, што беларуская мова ў Касцёле ў Латвіі, хоць дужа скромна, але аднак мае доступ. Былі, напр., выпадкі, што гаварыў там казанні па-беларуску кс. А. Навіцкі, а таксама гаварылі апошнім часам іншыя ксяндзы ў Прыдруйску, Грыве, Бальбінаве, Краслаўцы і інш. Цяпер там шырока карыстаецца беларускай мовай у касцельным жыцці латвійскіх каталікоў-беларусаў кс. Я. Гайлевіч, пробашч у Бальбінаве.

Пачаткі ўжывання роднай мовы ў Касцёле спатыкаем таксама сярод беларускай эміграцыі ў далёкай Амерыцы. Пачынальнікам гэтай справы ў Злучаных Станах Амерыкі з’яўляецца кс. праф. др. Я. Тарасевіч.

Радзіўся ён у 1897 г. у вёсцы Клешнякі, недалёка Васілішак, Лідскага пав. Скончыўшы двухкласовую расейскую школу, як сын бедных бацькоў, далей у навукі пайсці не мог. Дык выбраўся малады Тарасевіч, 16-летні хлапчук, у Амерыку, каб уласным мазалём зарабіць грошы ды далей вучыцца. У Амерыцы Янка Тарасевіч

днём працаваў на фабрыцы, а ноччу вучыўся. І гэтак свайго дапяў. Скончыўшы сярэднія навукі ў Амерыцы, паехаў у Фрыбург швейцарскі, дзе, уступіўшы ў закон і пасвечаны на ксяндза, скончыў універсітэт і дастаў вучонае званне доктара. Кс. др. Я. Тарасевіч ёсць цяпер прафесарам місіянерскай Семінарыі ў Альтамонт і Нью-Ёркскім Штаце Амерыкі. Мае напісаны навуковыя працы з галіны тэалогіі і філасофіі і ведамы даволі шырока ў каталіцкіх вучоных кругох. Ані роднай мовы, ані свайго народа кс. прафесар на чужыне не забыўся і там сярод беларускай эміграцыі будзіць беларускага духа. На яго чэсць выпала ў Амерыцы, як мы ўжо ўспомнілі, сказаць першае беларускае казанне. Вось што ён піша аб гэтым гістарычным здарэнні ў 1926 г.: «...Пад канец жніўня быў я ў Насгуо № II. у літоўскім касцёле. Там шмат ёсць беларусаў-каталікоў. Польская парахвія складаецца толькі з іх. У суботу літоўцы сказалі ім, што я буду мець казанне па-беларуску ў літоўскім касцёле ў нядзелю раніцай. Усе тыя, што пачулі гэту вестку, прыйшлі назаўтра раніцай на Суму да літоўскага касцёла. Касцёл быў перапоўнены — як біткам набіты. У Суме прачытаў я Евангелле па-ангельску і сказаў, што па Суме будзе Евангелле і казанне па-беларуску, калі хто хоча паслухаць, дык хай застанецца на мінут 25 або паўгадзінкі. Усе асталіся. Цішыня. Вялізарная цішыня панавала, калі чытаў я па-беларуску Евангелле, а пасля казаў па-беларуску казанне. Некаторыя вушы настаўлялі, каб кожнае слова добра пачуць. Мае людзі проста глыталі кожнае слоўца, прымалі яго да сваёй беларускай душы з вялікай радасцю. Гэта быў вялікі дзень для іх, дзень, калі першы раз на сваім жыцці пачулі сваё роднае слова ў касцёле, калі слова Божае тлумачылася ім у іх роднай, дарагой і зразумелай мове...»

Цяпер жа, калі ў падмогу кс. Я. Тарасевічу прыбыў у Амерыку кс. В. Шутовіч, трэба спадзявацца, што праца за беларускую мову ў святыні сярод нашай эміграцыі пойдзе ўперад у вольнай Амерыцы яшчэ шпарчэй.

Пішучы аб нашай мове ў святынях, праз недагляд, на сваім месцы не зазначылі мы яшчэ аб пару фактах, годных увагі. Недахват гэты дапаўняем тут.

Падчас слаўнай візітацыі Я. Э. арцыб. Э. Ропа ў 1917 г. яшчэ былі беларускія казанні ў Даўгінаве, якія гаварыў кс. М. Пятроўскі, і ў Будславе, дзе гаварыў кс. Я. Байка. У тым жа Будславе пасля пастырскай візітацыі праз доўгі час у касцёле пяялі беларускія песні.

Пасля той жа пастырскай візітацыі арц. Э. Ропа былі яшчэ таксама беларускія казанні ў Задарожы за часаў пробашча Фр. Рамейкі, якія гаварылі: кс. З. Якуць, кс. Я. Рэшэць, кс. Я. Германовіч.



Кс. Фр. Рамейка гаварыў беларускія казанні ў Шаркоўшчыне і ў Удзяле. Кс. З. Якуць гаварыў такія ж казанні ў Лужках.

Мусім тут таксама змясціць ліст да ўсяго каталіцкага духавенства біскупа суфрагана І. Цывінскага з 15 верасня 1845 г., які пасля смерці біскупа А. Б. Клангевіча кіраваў Віленскай дыяцэзіяй ад 1842-га да 1846 г.

Вось змест гэтага ліста:

«...Жыва разважаючы патрэбы верных, не магу не бачыць, што хлеб духовы і навука слова Божага, каторая тым ёсць для душы, чым ежа для цела, становяць для іх патрэбу найважнейшую і канечную. ...Дзеля гэтага бяда тым капланам, каторыя не стаду, паверанаю сабе, але дагэтуль найбольш самі сябе пасвілі! ...Казанні, як больш маючыя ў сабе мастацкага і штучнага ўкладу, ледзь для малой лічбы асвечанага слухача могуць быць даступнымі і карыснымі; а цэлая маса простага народа дужа мала або і цалкам нічога з іх не карыстае.

Дзеля гэтага пастанаўляем і падаём да безадкладнага выканання духавенству Віленскай дыяцэзіі:

1) Цалкам пасвяціцца гаварэнню па касцёлах будуючых духовых навук;

4) У навуках трымацца найсціслей евангелічнай простасці і яснасці што да стылю іх і ўлажэння... У навучанні, якое павінна адбывацца *не ў іншай мове, як толькі ў мове той, якую ўжываюць мясцовыя парафіяне* (падкр. аўтарам), — каб не дапускаць прастацкіх і грубіянскіх выражэнняў, якія абражаюць скромнасць і парадачнасць.

Экземпляр гэтага пастанаўлення павінен знаходзіцца пры кожным касцёле Віленскай дыяцэзіі, а ксяндзы абавязаны прачытваць яго штогоду, каб у ніякім выпадку не маглі выгаворвацца няведаннем аб ім, але каб адзін другога заахвочвалі да сціслага яго выканання. Галоўны ж надзор над гэтым усім ускладаем на адказнасць дэканаў, якіх просім адразу даносіць уладзе Дыяцэзальнай аб тых, каторыя гэтага загаду не спаўнялі б».

* * *

І так давялі мы наш агляд справы ўжывання роднай мовы ў святынях да канца. З гэтага агляду мы даходзім да наступных вывадаў:

1. Касцёл Каталіцкі ў рамах свайго права дапускае ў жыцці рэлігійным усякую мову, а таксама і беларускую.

2. Беларуская мова ў святыні ад пачатку свайго існавання і ад пачатку ў Беларусі Хрысціянства аж да нашых часаў была ўжываная, бадай, непарыўна ў жыцці рэлігійным, асабліва каталіцкім.

3. Буйны росквіт беларускага каталіцкага жыцця агулам, а таксама і беларускай мовы ў гэтым жыцці мільёна каталікоў-беларусаў пад Польшчай, быў спынены і спыняецца далей, дзякуючы цяжкім палітычным варункам.

4. Будучыня нашай мовы ў святыні залежыць ад далейшага развіцця каталіцкай і народнай свядомасці каталікоў-беларусаў і ад агулам далейшага культурнага, грамадскага і палітычнага вызвалення ўсяго 10-мільённага беларускага народа.

Канец.

*1929 г.*

# *ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ПАЛІТЫЧНАГА ВЫЗВАЛЕННЯ*

З нагоды 70-годдзя смерці Кастуся Каліноўскага,
рэд. «Mużyckaj Praŭdy»[1] († 1864), і 50-годдзя «Гомона»[2] (1884).

ПРАДМОВА

Урэшце, пасля двух гадоў друкавання ў «Шляху моладзі», кніжка «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» выходзіць у свет.

Гэтая тэма даўно мяне цікавіла і напрашалася пад пяро. Адсутнасць, аднак, магчымасцяў выдаць працу друкам устрымоўвала мяне ад пісання.

Урэшце, з нагоды 70-годдзя смерці Кастуся Каліноўскага і 50-годдзя «Гомона», надарылася магчымасць друкаваць задуманую працу ў месячніку «Шлях моладзі», рэдакцыя якога гасцінна запрапанавала мне свае бачыны.

Дзеля таго, аднак, што размер гэтага часопіса невялікі і выходзіць ён толькі раз у месяц, прыйшлося з гэтым рахавацца і адпаведна да гэтага агранічыць і размер працы.

Такім чынам, у сваёй працы я агранічыўся выключна толькі да выказання галоўных момантаў з гісторыі беларускай палітычна-вызвольнай думкі і барацьбы, а таксама да выказання генезы, вытокаў ідэі суверэннай, незалежнай Беларусі і да агульнага апісання спробаў здзяйснення гэтага ідэалу.

У дробязі, у розныя беларускія палітычныя кірункі, апрача галоўных, у працы сваёй я не ўдаваўся. Увесь час меў на воку выключна гэту асноўную думку. І гэтак сціснутая і агранічаная мая праца гасціла на бачынах «Шляху моладзі» аж два гады.

Кніжка «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» ёсць агульным нарысам, якая беларускім гісторыкам можа паслужыць матэрыялам і планам да апрацавання поўнай беларускай вызвольна-палітычнай гісторыі.

Спадзяюся, што мая гэта кніжка будзе таксама карыснай і для штодзённага практычнага ідэёвага беларускага жыцця: для моладзі, для прэсы, для інтэлігенцыі, для прасветных арганізацыяў.

Перадусім жа скромную гэту працу сваю пасвячаю беларускай моладзі на знак удзячнасці за гасціннасць у яе органе «Шлях моладзі».

*Ад. Ст.*
*1.XI.1935.*
*Вільня.*

## I. УСТУПНЫЯ ЎВАГІ

Кожны народ мае свае вялікія ідэалы, да якіх, безупынна, імкнецца, аб якіх сніць салодкія сны і якім часта пасвячае ўсё жыццё сваё.

Для паасобнага чалавека, у прыродным парадку жыцця яго, найвялікшым ідэалам з'яўляецца жаданне шчасліва ўладзіць сваё жыццё і як найдаўжэй затрымаць яго.

Кожны народ, як грамадская і свядомая сваёй грамадскасці адзінка, таксама імкнецца да магчыма найбольш памыснага і найбольш трывалага жыцця. Ідэал гэткі ў кожнага свядомага народа звычайна выяўляецца ў вольным, самастойным, незалежным жыцці яго. Палітычная незалежнасць і грамадска-эканамічная самастойнасць — гэта абавязковыя варункі памыснасці і поўнага развою кожнага народа.

Беларускі народ, падлягаючы няўхільным законам жыцця і яго логіцы, а таксама ідучы за прыкладам іншых народаў, 25.III.1918 праз лепшых сваіх сыноў усяму свету заявіў аб сваіх правох на палітычную незалежнасць і аб сваёй няўхільнай да гэтага волі.

Але ніякія вялікія ідэалы, вялікія думкі, як у адзінак, так і ў народаў, звычайна не родзяцца з нічога і раптоўна. У жыцці духовым звычайна бывае так, як і ў жыцці арганічным. Спярша паяўляюцца зародкі, якія паволі растуць і развіваюцца, а ўрэшце даспяваюць і даюць пажаданы плод.

Ад гэтага закона жыцця не быў вольны і беларускі акт 25.III.18. Акт гэты, як у некаторай меры свайго роду даспелы плод беларускай народна-палітычнай думкі, папераджала праца многіх людзей для дабра беларускага народа і розныя — большага і меншага значэння — гістарычныя здарэнні і падзеі; а ўжо з гэтых здарэнняў і падзеяў урэшце вырас і паявіўся ідэал незалежнасці беларускага народа, выяўлены актам 25.III.18.

Такімі, між іншым, прадвеснікамі акта 25.III. былі: Кастусь Каліноўскі з сваім часопісам «Mużyckaja Praŭda» і з іншымі сваімі друкамі, а таксама часопіс «Гомон» з тымі людзьмі, што яго пісалі і пускалі ў беларускі народ.



Тым больш дарэчы ўспомніць аб гэтых вясняных зорках беларускай вызвольна-палітычнай думкі сёлета, калі ў сакавіку месяцы мінула 70 гадоў (1864) ад смяротнай казні Кастуся Каліноўскага на Лукішскім пляцы ў Вільні, а ў лістападзе прыпадаюць 50-я ўгодкі (1884) другога нумара часопіса «Гомон».

Сёлета, такім чынам, прыпадае двайны юбілей, які сваім зместам у беларускай вызвольнай думцы з'яўляецца нечым адным і суцэльным. І «Mużyckaja Praŭda» з Каліноўскім і «Гомон» з Грынявіцкім — сваім ідэйным папярэднікам — гэта зародкі, з якіх вырасла буйнае зерне 25.III.1918, з каторага, у свой чарод, развіваецца плод, якому імя незалежны і шчаслівы беларускі народ.

Вось жа, хоць агульна прыпомніць і падкрэсліць гэтыя галоўныя здарэнні ў беларускай палітычна-вызвольнай гісторыі, а таксама і тое, што з імі так ці інакш звязана, — галоўная мэта гэтых нарысаў, якія пасвячаюцца беларускай моладзі, бо ж маладымі згінулі за народ і Каліноўскі і Грынявіцкі, маладыя пісалі «Гомон» і шырылі яго ў народзе, маладыя павядуць далейшую барацьбу за поўнае вызваленне беларускага народа.

## II. БЕЛАРУСКІ НАРОД ЖЫЎ, ЖЫВЕ І ЖЫЦЬ БУДЗЕ

Сёння яшчэ часта можна пачуць галасы аб тым, што ніякай Беларусі, ніякага беларускага народа ніколі не было, а з нічога, як ведама, нічога і быць не можа. Тым часам пагляд гэткі, як сёння ўжо дастаткова выказала навука, цалкам фальшывы і, як гэткі, з праўдай не мае нічога супольнага.

Кожны паасобны чалавек, як ведаем, пераражывае розныя перыяды свайго развіцця. Спярша жыве ён толькі ў зародку, пасля пераражывае час дзяцінства, пазней час моладасці, тады час даспеласці і, урэшце, старасці, а таксама час здароўя і хворасці. Гэтулькі перажывае рознага жыцця адзін і той самы чалавек.

Нешта падобнае дзеецца і з народам. І народ кожны пачынаецца ад якога племяннога зародку, перажывае час свайго дзяцінства, моладасці, даспеласці, старасці, заняпаду і адраджэння. Розніца між паасобным чалавекам і народам толькі тая, што народ, не памёршы ў першых перыядах свайго развіцця, звычайна астаецца доўга-доўга жыць. Дзеля гэтага іменна і кажуць, што народы быццам не ўміраюць, хоць фактычна ўміраюць і яны, як і кожны паасобны чалавек.

З гісторыі чалавецтва бачым, што народы імкнуцца звычайна да дзяржаўнага жыцця і што гэта дзяржаўнае жыццё яны твораць на асновах розных грамадскіх вартасцяў, якія часта з'яўляліся вартасцямі адначасна для многіх народаў. Такімі грамадскімі вартасцямі даўней былі: племяннное пачуццё сваяцкасці, а пазней рэлігія і дынастыя (род пануючых валадароў). Бывала таксама асновай для дзяржаўнасці — часта нават розных народаў — супольная тэрыторыя, гісторыя, прыродныя граніцы якога краю, заваяванне, патрэба палітычнай раўнавагі.

Класічным прыкладам, як можна будаваць дзяржаву з розных нават народаў на асновах, напр[ыклад], рэлігіі і дынастыі — каб не вылічаць іншых асноў, — служыць старадаўняя і сярэднявечная гісторыя раманскіх народаў Заходняй Еўропы. Рым заваяваным розным народам накінуў сваю старую, лацінскую мову, як мову культуры і дзяржавы, а Касцёл Каталіцкі аказаў сябе як установу наддзяржаўную. У рамах гэтай касцельнай наддзяржаўнасці розныя валадары пануючага дому гаспадарылі ў сваёй дзяржаве, як цяпер, напрыклад, гаспадарыць селянін на сваёй гаспадарцы: яны дзялілі сваю дзяржаву між сыноў, аддавалі часць дзяржавы як пасаг сваім дочкам і г. д. І ад гэткай дзяржаўнай гаспадаркі вялікай бяды дзяржаве не дзеелася, бо ўсюды аставаўся той жа наддзяржаўны Касцёл, тая ж лацінская мова і нават тыя ж самыя людзі на дзяржаўных становішчах.

Нешта падобнае ў гісторыі дзеелася і з беларускім краем і з беларускім народам.

Народ гэты, стварыўшыся з трох сваяцкіх плямёнаў: крывічоў, радзімічаў і дрыгвічоў*, ужо ў IX–XIII стст. жыў сваім самастойным дзяржаўным жыццём і з аружжам у руках бараніў сваю гэтую самастойнасць спярша ад князёў кіеўскіх (украінскіх), а пасля і літоўскіх[3]. Палітычным цэнтрам беларускага народа быў тады Полацак, а полацкія князі і агулам мясцовыя князі-роданачальнікі былі гэтага народа нацыянальнымі павадырамі. Народ беларускі ўжо тады чуў сваю асобнасць ад народаў суседніх — украінцаў** і літоўцаў, — з якімі біўся за свае землі і ад якіх бараніўся, але вонкавым знакам, як бы меркай гэтай асобнасці, было не пачуццё нацыянальнае ў сённяшнім разуменні, а мясцовыя князі і ягоныя роды, якія стаялі на чале народа і пры помачы народнага веча кіравалі ці, вярней, спаўнялі волю гэтага веча. Гэты вечавы дэмакратычны лад на беларускіх землях не дазваляў дзеіць на не карысць народу таксама і князям паходжання не мясцовага, а чужацкага. Вонкавым, такім чынам, паказальнікам жыхаром беларускай зямлі, што яны між сабой родныя, што яны сваякі, служыла дынастыя агулам мясцовых князёў, а перадусім полацкіх. Гэта ж дынастыя, апрача пачуцця племяннога сваяцтва і супольных інтарэсаў эканамічных, у той перыяд беларускай гісторыі і была тым галоўным грамадскім злучвом, якое спрыяла далейшаму развіццю пачуцця сваяцкасці між жыхарамі беларускай зямлі, а таксама была яна той грамадскай асновай, на якой будавалася беларуская дзяржаўнасць, спярша на землях Полаччыны, а пазней на ўсіх землях сённяшняй Беларусі.

Праўда, яшчэ ў гэтым перыядзе беларускай гісторыі народ наш і наш край не завецца беларускім, а пераважна крывіцкім, але назва не змяняе справы. Беларусы зваліся крывічамі, бо гэта было найвялікшае племя, з якога паўстаў цяперашні беларускі народ. Адзінства беларускай культуры «ў пісаных помніках, у малярстве, будаўніцтве і грамадскім укладзе праяўляецца на ўсім абшары ад Навагародка Наднёманскага да Навагародка Северскага і Вялікага Ноўгарада — "тудѣ жинвяху Крывічы" — як выражаецца летапісец»*. Далей, аднак, аставацца незалежным і самастойна кіраваць сваёй дзяржавай на ўсіх сваіх землях беларускаму народу не ўдалося. У XIII і XIV стст. нямала было прычын, якія дамагаліся ад беларусаў аб'яднання іх з Літвой. З усіх бакоў пачалі напіраць на беларускія землі ворагі. З паўдня ішла руіна і няволя ад татараў, з поўначы і захаду націскалі нямецкія рыцары, палонячы і сілай хрысцячы беларусаў паводле лацінскага абраду. У палове XIV ст. стала таксама напіраць на Беларусь і маладое Каралеўства Польскае, якое толькі што паўстала з развалін удзельнай эпохі. А зноў з усходу пайшлі крыўды і знішчэнні ад усцяж магутнеючага Княства Маскоўскага. Пры гэткіх варунках, рэч ясная, што новапаўстаўшаму Вялікаму Княству Літоўскаму было лёгка стацца палітычным цэнтрам, да якога сталі хінуцца беларускія землі, тым больш, што ад самага пачатку свайго існавання яно было не проста літоўскім, а літоўска-беларускім**.

---

* «Крывічы... былі прабацькамі цяперашніх беларусоў... У найбліжэйшым з імі сваяцтве знаходзіліся дрыгвічы, якія жылі паміж Прыпяццю і Бярэзінай. У цесным сваяцтве з крывічамі былі радзімічы, якія жылі па Сожы». (Праф. М. Любавскій. Основные моменты исторіи Бѣлоруссіи». Москва, 1918. Бач. 8.)

** «...Эта политика была не случайностью, не результатом какой-либо фамилійной вражды въ нѣдрахъ княжескаго рода, а диктовалась какими-то факторами, стоявшими внѣ личной воли князей и ихъ дружинъ. Мнѣ представляется, что причины этого сепаратизма коренились въ настроеніи самаго населенія Полоцкой земли, въ свою очередь созданнаго географическими условіями». (Любавскій. Тамсама. Бач. 11.)

* В. Ластоўскі. Гісторыя Беларускай (Крыўскай) Кнігі. Коўна, 1926. Бач. VII.

** Праф. М. Любавскій. Очерк Исторіи Литовско-Русскаго Государства. Москва, 1910. Бач. 33.

Гісторыя, значыць, так пакіравала лёсам беларускага народа, што ён быў змушаны злучыць свой лёс з Літвой, з якой разам збудаваў супольную беларуска-літоўскую дзяржаву, што пратрывала ад XIII да паловы XVI ст., да Люблінскай уніі з Польшчай[4].

У гэтым перыядзе, калі, як кажа Карскі*, беларускія плямёны аканчальна зліліся ў адзін беларускі народ і калі мова яго аканчальна злажылася і выдзелілася ў мову самабытную беларускую, як кажа той жа Карскі**, народ і край наш ужо суседзі нашы называлі беларускім, а ён сам, хутчэй, сябе зваў літоўскім з прычын палітычных. У гэтым перыядзе народ беларускі далей разьвіваў сваю нацыю і будаваў сваю дзяржаўнасць, але ўжо на іншых, на новых грамадскіх вартасцях, на новых асновах. А рабіў ён гэта дужа мудра і арыгінальна.

Дынастыя беларускіх князёў, родных павадыроў беларускага народа, калі не выгасла, дык так расцерушылася, што ўжо не здольнай была лучыць у цэласць і бараніць яго. Бяссільным тут ужо было і народнае веча. Вось жа на змену гэтай дынастыі роднай прыходзе чужая, прыходзе дынастыя літоўскіх князёў. Народ наш — дабравольна ці не, — але годзіцца з ёй і даручае ёй свой палітычны лёс, пакідаючы, аднак, свайму кіраўніцтву справу культуры і справу свайго ўнутрана-грамадскага ладу. Выйшла так, што палітыку тварылі прадусім літоўцы, а культуру — беларусы[5]. З гэткага даволі рэдкага ў гісторыі супрацоўніцтва двух народаў паўстала слаўная ў гісторыі літоўска-беларуская дзяржава, у якой, калі не лічыць меншых уплываў украінскіх, сапраўды панавала беларуская мова і беларуская культура. Дык хоць падзяліўся ролямі наш народ з літоўскім у гэтым перыядзе свайго палітычна-грамадскага жыцця, але бадай ні ў чым не зменшыў і не прыцьміў сваёй нацыянальнай сілы, а наадварот — зрабіў ён праз гэта вялікі шаг уперад у сваім гістарычным развіцці.

У першым перыядзе нашай гісторыі Беларусь была там, дзе панавалі беларускія князі і іх роды, а ў гэтым там, дзе разлягалася беларуская граматнасць, беларускае пісьменства.

Пасля гэтага светлага літ[оўска]-бел[арускага] перыяду беларускаму народу прыйшоў час упадку, час заняпаду і палітычна дзяржаўнага і культурнага. Быў гэта час, калі народ гэты пасля Люблінскай уніі (1569) апынуўся пад Польшчай, ужо не як палітычна самастойны, але як яе падданы[6], а пасля раздзелу Польшчы (канец

---

* Е. Карскій. Бѣлоруссы, I. Вильно, 1904. Бач. 111–112.
** Е. Карскій. Тамсама. Бач. 114–117.



XVIII ст.) апынуўся ён у такім жа палажэнні пад Расеяй. Аднак народ наш і тут жыў таксама вартасцяй грамадскай, якая яму прыпамінала яго нацыянальную асобнасць — ягоную няпольскасць і нерасейскасць. Гэтай вартасцяй, гэтым народным ідэалам была рэлігія і Царква. Праўда, рэлігійным наш народ быў заўсёды, заўсёды ён цаніў рэлігію высока, тварыў заўсёды рэлігійную культуру: пісьменства, малярства, архітэктуру і г. д., але на гэтую справу асаблівую звярнуў ён увагу ў пару свайго заняпаду, у пару сваёй палітычна-грамадскай няволі.

Калі народ наш пачуў незвычайны націск на сябе з боку Польшчы, калі пабачыў, што можа згінуць, асаблівую ўвагу у сваім жыцці грамадскім звярнуў ён на рэлігію, бо ён ведаў, што, баронячы рэлігію і Царкву, бароніць нацыю, бароніць народ. І сапраўды — у XVII і XVIII стст. толькі рэлігія была той грамадскай вартасцю[7], якая зберагала беларускую нацыю і тварыла беларускую культуру як адзнаку жыцця народа. Вось чаму беларусы часта так сапраўды гераічна бароліся з рэлігійнай уніяй, слушна бачачы ў ёй наступ польшчыны, а пасля, калі з уніяй зжыліся і ў значнай меры не дапусцілі да яе поўнага злаціншчання і спольшчання, калі унія была ўжо знакам, які розніў беларуса як ад польскага каталіцтва, так і ад маскоўскага праваслаўя, калі унія сталася адзінай апорай бел[арускай] культурнай асобнасці, адзінай апорай беларускай нацыі, — беларусы яе такжа гераічна баранілі проціў наступу маскоўскіх цароў, што сягалі па душу яго пры помачы верных слуг сваіх, здрадзіўшых унію епіскапаў Сямашкі, Лужынскага і Зубкі[8].

Цікава таксама адзначыць, што ў гэтым часе беларускі народ зваў сябе пераважна тутэйшым, рэзка гэтым аддзяляючыся ад напіраючай на сябе чужой, не тутэйшай Польшчы і Расеі.

Розна, як бачым, жыў у гісторыі беларускі народ, але жыў заўсёды, будуючы сваю дзяржаўнасць, творачы свой грамадскі лад і сваю культуру і гэтым развіваючы сваю нацыянальнасць.

Але даўней, як бачым, як народ беларускі, таксама і іншыя народы жылі інакшымі ідэаламі, як сёння. Сёння кожны народ імкнецца да еднасці і непадзельнасці сябе, да пераламання граніц дзяржавы, якая дзеліць народ і ўрэшце імкнецца да поўнай самадзельнасці палітычнай. Даўней тварыліся дзяржавы, зложаныя часта з розных народаў на асновах, на якіх сёння ўжо дзяржавы не будуюцца. Сёння ўсе дзяржавы ў Еўропе аснаваны перадусім на нацыянальнасці, гэта значыць, што кожная нацыя, кожны народ сам сабе будуе дзяржаўнае жыццё, творыць сваю ўласную нацыянальную культуру і жыве сваім уласным самастойным жыццём. Гэткія ідэалы мае сёння і народ беларускі і імкнецца да таго, каб яны сталіся чынам.

І так, калі народ беларускі быў пад Масквой[9], калі многія яго ўважалі за нябожчыка, калі на пацеху сваім ворагам, пад гнётам доўгай няволі губячы свой нацыянальны воблік, пачынаў называць сябе «польскай» і «рускай» веры, тады пачалося яго адраджэнне, пачалося прабуджэнне да новага жыцця, тады прыйшла і да яго зорка, звяшчаючая яму ідэалы жыцця нацыянальнага ў сучасным разуменні гэтага слова.

Праўда, у гэтым сваім сучасным імкненні да вольнага нацыянальнага і сацыяльнага жыцця і да эканамічнага дабрабыту народ беларускі напаткаў вялікую перашкоду з боку маскоўскага камунізму, які, сілай ломячы усебаковае беларускае нацыянальнае адраджэнне, творыць з беларусаў казённых парабкаў-пралетараў без сваёй гаспадаркі, без сваёй бацькаўшчыны і без уласнай волі. Аднак можна цвердзіць напэўна, што маскоўскі камуністычны пераслед нацыянальнага адраджэння беларускага народа і яго волі да дзяржаўнай незалежнасці можа гэтае адраджэнне і волю часова прыпыніць і нават скрывіць, але цалком здушыць не зможа. Нацыянальнае пачуццё, як грамадскую вартасць сучаснай цывілізацыі і поступу, народ беларускі мусіць перажыць для ўласнага свайго дабра, каб нічыім не аставацца парабкам. А сучасны пераслед Масквой беларускай нацыі ў апошнім сваім выніку справу поўнага адраджэння і вызвалення гэтай нацыі толькі прысьпяшыць і больш скрышталізуе.

Цікава пры гэтым, урэшце, адзначыць, што, як поўны заняпад беларускага народа прыйшоў у пач. XVII ст. з поўным пераходам асвечаных шляхоцкіх класаў у польскасць са здрадай народу[10], так адраджэнне прыйшло з паваротам да народа ад людзей з тых жа шляхоцкіх класаў, праўда, ужо абяднеўшых і зблiжаных да народа. І сапраўды, справа палітычнай і грамадскай самастойнасці нашага краю і справа самастойнасці культурнай народаў гэтага краю замёрла разам з вялікім Львом Сапегам († 1633), але замёрла часова; прайшло 230 гадоў, і гэтую справу уваскрэсіў Кастусь Каліноўскі і павіс за яе на шыбеніцы. Ён сапраўды уваскрэсіў дзяржаўніцкую федэрацыйную ідэю зямель Вялікага Княства Літоўскага, — якім яно фактычна было яшчэ пасля Люблінскае уніі за часаў Льва Сапегі, — але ён ужо перадусім зварочваў увагу сваю на народ беларускі і — можа нават несвядома — зачаў такім чынам у яго развіцці эру змагання за поўную палітычную незалежнасць Беларусі.

У пятнаццаць якіх гадоў па смерці Каліноўскага падобныя ж беларускія палітычныя ідэалы развіваў Ігнат Грынявіцкі, выйшаўшы, здаецца, таксама з абяднелай і спольшчанай беларускай шляхты, — і, урэшце, людзі, якія выдавалі для пашырэння гэтых ідэалаў адмысловы часопіс «Гомон».



## III. ПАЛІТЫЧНА-ВЫЗВОЛЬНЫЯ ІДЭІ Ў ЕЎРОПЕ XIX ст. І БЕЛАРУСЬ

К. Каліноўскі з сваім часопісам «Mużyckaja Praŭda», як сказана вышэй, І. Грынявіцкі і тыя беларускія народнікі, што выдавалі часопіс «Гомон», былі першымі ў XIX ст. пачынальнікамі палітычнага вызвалення Беларусі пасля яе доўгага заняпаду. Аднак ані гэтыя людзі, ані чыны іх не зваліліся з неба, не паявіліся ні з сяго, ні з таго на беларускіх гонях, але памог зрадзіць іх дух часу, патрэбы і ідэалы, якія тады панавалі ў Заходняй Еўропе.

У XVIII ст. у літаратуры панаваў там яшчэ, асабліва ў Францыі, пераважна так званы класіцызм. Гэта значыць, што пісьменнікі рознага роду краснага пісьменства слепа трымаліся ў сваім літаратурным творстве формаў і спосабаў старадаўніх грэкаў і рымлянаў, а не ўнікалі ў дух і глыбіню думак іх. Гэтыя новыя класікі, ці як часта звалі іх — псеўда (фальшывыя), або французскія класікі, не бралі з культуры старадаўніх грэкаў і рымлянаў веды, а бралі толькі форму, наследавалі толькі вонкавы бок іх творства. Гэта ў выніку давяло да ўпадку літаратуры, да смешнасці нават і змусіла пісьменнікаў шукаць новых дарог.

На змену — і як процівага класіцызму — прыйшоў зноў рамантызм. Рамантызмам завецца такі кірунак людской думкі, які кладзе націск пераважна на асабістасць чалавека, на пачуццё і выабражэнне яго. Кірунак гэты зварочваецца да мінуўшчыны народаў, да сярэднявечча і да хрысціянства. Рамантызм быў кірункам, які абдымаў усе галіны духовага творства чалавека, а значыць і навуку, асабліва гісторыю, філасофію і мастацтва.

Пачатак рамантызму адносіцца да таго часу, калі ў Еўропе, пасля ўпадку Зах[одняй] Рымскай Імперыі, паўставалі новыя хрысціянскія дзяржавы, аснаваныя раманскімі народамі. Тады паявілася рамантычная літаратура, або рамантызм, які фактычна азначаў сярэдневяковую літаратуру, прасякнутую містыцызмам[11].

У час гуманізму, або адраджэння (стст. XIV–XVI) рамантызм паволі быў выціснуты класіцызмам, пасля выраджэння якога ў канцы XVIII ст. прыйшоў зноў рамантызм абноўлены і адроджаны, прыносячы ўжо ў літаратуру новыя формы і пераважна новы змест. Цяпер на літаратуру пачалі глядзець як на самастойную галіну жыцця паэтаў і пісьменнікаў і як на дзейнік вышэйшых, ідэальных імкненняў чалавека. Змест свой рамантычная літаратура пачала чэрпаць з крыніц народнага жыцця, а праз гэта новы рамантызм зблізіў літаратуру з народнасцяй.

Вясна рамантызму засвяціла таксама і над галавой Беларусі, а з ім прыходзіла да беларускага народа і ягонае нацыянальнае адраджэнне. Рамантызм у літаратуры з Еўропы даходзіў і да нас. Зярняты нацыянальных ідэяў, зроджаных рамантызмам, дзякуючы стычнасці з Еўропай асвечаных класаў нашага краю, дакаціліся і да беларусаў. Дасканальным праваднікам гэтых ідэяў у нас быў да свайго закрыцця (1832) Віленскі універсітэт.

З муроў гэтага універсітэта, або пад яго ўплывам, паявіліся беларускія рамантыкі, паэты-пісьменнікі: Ян Баршчэўскі, А. Рыпінскі, Ян Чачот, а таксама і бацька беларускага краснага пісьменства Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

З муроў гэтага ж універсітэта паявіліся таксама беларускія рамантыкі і ў навуцы, якія даследжвалі беларускую гісторыю, права, мову. Да гэткіх належаць: уніяцкія свяшчэннікі праф. М. Баброўскі і Платон Сасноўскі, а таксама праф. Ігнат Даніловіч, Я. Ярашэвіч і іншыя.

У тым жа больш-менш часе, гэта значыць у канцы XVIII і ў пач. XIX ст., апрача рамантызму ў літаратуры, у мастацтве і навуцы паявіўся ў той жа Зах[одняй] Еўропе і рамантызм народна-палітычны. І гэта цалком зразумелая рэч. Калі рамантыкі ў літаратуры і навуцы апявалі і апісвалі красу жыцця народаў і іх слаўную мінуўшчыну, дык не маглі яны не ўбачыць і ад'емных бакоў гэтага жыцця як нявolі палітычнай і сацыяльнай народаў. І сапраўды, рамантызм літаратурны і навуковы лагічна вёў да рамантызму палітычна-народнага. Ад песняў аб красе і нядолі жыцця народаў, ад навуковых доследаў над гісторыяй і мовай народаў — беспасрэдны пераход да барацьбы за лепшае палітычнае і сацыяльнае жыццё іх.

XVII і XVIII стст. у жыцці палітычным — гэта час абсалютызму, сутнасць якога ў тым, што манарх, пад панаванне якога ў працягу гісторыі розным спосабам, не вылучаючы атрымання іх у спадку па жонцы, падпадалі розныя народы, быў іх неаграніччаным валадаром і панам. У ягоных руках была найвышэйшая ўлада ўставадаўчая, выканаўчая, а нават і судовая.

У канцы ж XVIII ст. у міжнародным праве ў Зах[одняй] Еўропе пачынае ўгрунтоўвацца аснова суверэннасці (поўнай незалежнасці ад пастаронняй палітычнай улады) народа, якая ёсць адной з падстаў нацыянальнасці. Паводле гэтай думкі кожны народ ёсць адзіным гаспадаром усяго таго, што ён мае*.

* «La nation etant seule maitresse des biens qu'elle possede, elle peut en disposer comme bon lui semble». «Vattel — Le droit des gens ou principes de la loi naturelle». Kn. I, b. 291. 774. (Паводле: St. Kodź. Zasady Narodowósci. 1932. Бач. 44[12]).



Магутным дзейнікам і сяўцом гэтых ідэяў была ў Еўропе Вялікая Французская Рэвалюцыя (1789), якая для гісторыі многіх народаў і іх палітычна-нацыянальнага вызвалення была сапраўды зваротным пунктам. Ідэалогія гэтай рэвалюцыі апіралася на ідэях вольнасці асабістай адзнакі народаў. Развою ідэяў Вял[ікай] Французскай Рэвалюцыі, хутка па ёй паўстаўшыя напалеонаўскія войны, не толькі не ўстрымалі, але яшчэ і дапамаглі ім, хоць уся дзейнасць Напалеона была супярэчная з прынцыпам народнасці. Напалеонаўскае войска па ўсей Еўропе разносіла ідэі Вял[ікай] Рэвалюцыі і адначасна заваёўвала іх. Вось жа гэта шырэнне нацыянальных ідэяў і адначасна гвалтаванне іх у народах паглыбляла нацыянальную свядомасць і выклікала абурэнне процiў чужацкіх акупантаў.

Урэшце, калі прыйшла ў той жа Францыі рэвалюцыя ліпнёвая (1830) і рэвалюцыя лютаўская (1848), якія гулкім рэхам пракаціліся па ўсей Еўропе, выклікаючы ў свой чарод рэвалюцыі сярод многіх народаў за свой самастойны народна-палітычны быт, прынцып палітычнага рамантызму, прынцып нацыянальны ў палітычным і сацыяльным жыцці многіх народаў Еўропы яшчэ больш умацаваўся і ўгрунтаваўся.

Слушна гэты час, асабліва год 1848, завецца ў гісторыі вясной народаў. У гэтым часе паднялі сцяг барацьбы за сваю палітычную самастойнасць і за сваё нацыянальнае аб'яднанне як народы, што самастойнасць гэту мелі і яе ўтрацілі, так і тыя, што першы раз жадалі яе здабыць. У гэтым часе спатыкаемся з вызвольным нацыянальным рухам бельгійцаў, ўграў, немцаў, палякаў, чэхаў, італьянцаў, фламандцаў, каталонцаў, грэкаў, славакаў, румынаў, харватаў, сербаў, балгараў і многіх іншых.

Разам з развоем нацыянальнай ідэі самастойнасці народаў паўстала таксама пытанне аб узаемных гэтых вольных народаў адносінах. Вось жа ў тым самым XIX ст. паўстала ідэя федэралізму. Федэрацыя (foedus — дагавор) — саюзная дзяржава. Бывае яна тады, калі паасобныя вольныя народы дабравольна твораць адну дзяржаву, на падставе дагавору між сабой. Агулам гаворачы, федэрацыя — гэта больш-менш тое самае, што самая крайняя дэцэнтралізацыя дзяржавы, самы шырокі самаўрад. У федэрацыйнай дзяржаве існуюць для паасобных народаў і краін паасобныя соймы і ўрады, якія і вядуць усе ўнутраныя справы краю. Заграні чную ж палітыку, фінансы і войска вядзе ўрад цэнтральны, агульнафедэрацыйны.

Пад уплывам гэтай агульнай федэрацыйнай ідэі паўстала тады таксама ідэя федэрацыі агульнаславянскай, ці ідэя т. зв. панславіз-

му (усеславянства), ідэя саюзу славянскіх палітычна вольных народаў. Тварцом гэтай ідэі быў славак Колярж*.

Словам, у XIX ст. нацыянальна палітычная свядомасць народаў дайшла да вялікіх размераў, кіруючы гэтыя народы да самастойнага палітычнага жыцця. Праўда, сляды такой свядомасці і такой волі народнай спатыкаем ужо ў канцы сярэднявечча, аднак дзейнік народны аж да другой паловы XVIII ст. большай ролі не адыграў. А ўжо ад канца XVIII ст. зачаўся шыбкі ўзрост народнай свядомасці ўва ўсей Еўропе. Узрост гэты яшчэ больш, як убачым ніжэй, зазначыўся па сусветнай вайне, сільна зазначаецца і дзеіць сёння.

У тым часе, калі ў Еўропе так буйна развіваўся вызвольны рух народаў, Беларусь разам з Польшчай, Літвой і Украінай — ужо належала да царскай Расеі. Сюды таксама далятталі гэтыя крылатыя народніцкія ідэі і спатыкалі тут гарачае пачуццё і захапленне перадусім сярод студэнцтва. І так, у другой палове XIX ст., пад уплывам гэтых ідэалаў Еўропы, у Расеі паўстаў палітычна-вызвольны рух, ведамы пад назовам «народничества». Пазнейшыя арганізацыі гэтага кірунку зваліся: «Земля и воля», і з яе паўстаўшыя: «Черный передѣл» і «Народная воля» (1879–1886). Клічам народнікаў было «хождение в народ», каб вучыць яго і будзіць да лепшага жыцця, да зямлі і волі. Палітычнай праграмай «землявольцаў», замест царскага неагранічанага самадурства, было «учреждение казачих кругов, т. е. вольных, автономных общин с выборными, ответственными и всегда сменяемыми исполнителями народной воли»**.

Тым часам самі тварцы расейскага «народничества» і «хождения в народ»: Бакунін (1814–1876), Герцэн (1812–1870) і інш. гэта права «вольных автономных общин» выразна прызнавалі і Беларусі. Асабліва ярка аб гэтым выражаўся Бакунін. Ён у сваёй слаўнай «Адозве да славян» пайменна вылічае ўсе народы царскай Расеі: беларусаў, палякаў, украінцаў, літоўцаў, фінаў, латышоў і інш. і прызнае ім права на самастойнасць у федэрацыйнай лучнасці між сабой, або і права на поўную незалежнасць. Бакунін дамагаецца, каб кожнаму народу была дадзена свабода ўладзіць лёс свой палітычны, як ён толькі захоча. Гэткіх самых поглядаў трымаўся і Герцэн,

* Пераняли гэтую ідэю расейцы (славянафілы) і сапсулі яе. Яны не прызнавалі асобнасці, асабліва палітычнай, іншых славянскіх народаў апрача расейцаў, і лічылі, што ўсе гэтыя народы павінны зліцца ў адзін народ расейскі і паддацца пад кіраўніцтва расейскага цара.

** С. Агурский. Очерки по истории революционнаго движения в Белоруссии (1863–1917). Минск, 1928. Бач. 26.



выказваючы іх, аднак, больш спакойна і асцярожна. Федэрацыю яны разумелі як вольны саюз вольных народаў*. Бакунін верыў, што «польскае паўстанне сапраўды падыме народы бышага Вялікага Княства Літоўскага да самаазначэння ў кірунку поўнай незалежнасці, або прынамсі да федэрацыі»**.

У імя гэткіх народніцкіх і федэрацыйных ідэалаў бароліся — за выняткам буйных паноў — і палякі. Яны, гэтыя палякі-дэмакраты, імкнуліся да незалежнай Польшчы, у складзе якой жадалі б, праўда, бачыць Літву, Беларусь і Украіну, але злучаныя між сабой вузлом федэрацыі***.

Да вольнасці палітычнай у кірунку федэрацыйным імкнуўся тады і народ украінскі. На чале гэтага руху стаялі Кастамараў і Драгаманаў.

Украінскі гісторык Мікалай Кастамараў (1817–1885) быў тварцом ідэалогіі федэрацыі славянскіх народаў на асновах хрысціянскай любові і справядлівасці. Дзеля пашырэння гэтых вялікіх ідэяў ён — разам з іншымі — заснаваў ведамае ў гісторыі Кірыла-Мяфодзіеўскае брацтва. Праграма гэтага палітычнага брацтва прадбачыла незалежнасць кожнага славянскага народа, злучанага федэрацыйна з Расеяй. Між славянскімі народамі, што мелі ўвайсці ў склад гэтай вялікай федэрацыі, пайменна быў браны пад увагу і народ беларускі. Усё правадаўства, уласнасць і асвета ў гэтай славянскай федэрацыі павінны былі апірацца на навуцы Хрыстовай****. А затым, што падобныя федэрацыйныя ідэалы, як ведаем, мела і дэмакратыя польская, прынамсі, што да Беларусі, Літвы і Украіны, жадаючы, каб гэтыя краіны ўвайшлі ў федэрацыю з Польшчай, Кастамараў уважаў, што Беларусь, Літва і Украіна самі павінны выявіць сваю волю, да якой федэрацыйнай дзяржавы яны хочуць належаць: да Расейскай ці Польскай*****.

Брацтва св. Кірыла і Мяфодзія, да якога належаў і Шаўчэнка, у 1857 г. царскай уладай было скасавана, а сябры яго арыштаваны і павысыланы ў Сібір. Ідэі, аднак, гэтага Брацтва асталіся жыць далей. Ідэі гэтыя пашыраў далей і развіваў другі ўкраінскі вучоны

* L. Kulczycki. Rewolucja Rosyjska. Lwów, 1909. T. I. 398–9.

** Писма М. А. Бакунина къ А. И. Герцену і Н. П. Огареву съ біографическимъ введеніемъ и объяснительными примѣчаніями Драгоманова», бач. 82.

*** L. Kulczycki. Тамсама, I. 393, 427.

**** L. Kulczycki. Тамсама, I. 268–269.

Ю. Охримович. Розвиток українскої нац.-пол. думки. 1922. Бач. 40 і наст.

***** L. Kulczycki. Тамсама, I. 396.

гісторык і палітык Міхал Драгаманаў (1841–1895), федэралістычныя думкі якога мелі вялікі ўплыў і на інтэлігенцыю расейскую. Быў ён, між іншым, рашучым праціўнікам, каб Літва і Беларусь, замест быць вольнымі федэрацыйнымі дзяржавамі, ды былі звычайнымі правінцыямі Польшчы, або Расеі*.

Гэтымі ідэямі кармілася і беларуская моладзь на расейскіх універсітэтах. Гэтыя ідэі радзілі сярод іх барацьбітоў за палітычную волю беларускага народа. Гэтыя ідэі зрадзілі беларускіх нарадавольцаў: Каліноўскага і яго «Mużyckuju Praŭdu», Грынявіцкага і тых барацьбітоў, што выдавалі «Гомон».

## IV. К. КАЛІНОЎСКІ — ПАЧЫНАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ПАЛІТЫЧНАГА ВЫЗВАЛЕННЯ

Аб Каліноўскім даводзілася ўжо мне пісаць даволі шырока з нагоды 70-годдзя беларускай прэсы**. Дзеля гэтага ў гэтых нарысах — з нагоды 70-годдзя яго смерці — аб Каліноўскім скажу толькі агульна і прытым пераважна толькі тое, што не было сказана аб ім у маёй працы ранейшай, і ўрэшце тое, што мае паказаць нам Каліноўскага як пачынальніка беларускага палітычнага вызвалення.

Радзіўся К. Каліноўскі ў 1838 г. у фальварку Мастаўляны, недалёка ад Ялоўкі Ваўкавыскага павета[13], гадаваўся ў фальв. Якужоўка, таго ж павета, недалёка ад Свіслачы. Бацькі яго былі каталіцкай беларускай спольшчанай шляхтай. Магчыма, што яны з уніятаў, бо Кастусь у сваёй «Mużyckaj Praŭdze» — пад мянушкай Ясько Гаспадар з-пад Вільні — у адным месцы прыпамінае беларускім сялянам, што ён фактычна такі ж самы «мужык» як і яны, «ды яшчэ і уніяцкай веры». Ведама, можа, гэта ў Каліноўскага толькі агітацыйны зварот, але, можа, гэта і адгалосак шчырай праўды. Не забываем, што сярод беларускай шляхты былі і праваслаўныя і уніяты, якія ўрэшце аканчальна папераходзілі ў лацінскае каталіцтва.

Бацька Кастуся паходзіў з Рэплі, усё таго ж Ваўкавыскага пав. Быў, як сам аб сабе кажа, «rękodzilnik», займаўся вырабам «obruzów i serwet». Граматы вучыўся дома, меў «wychowanie domowe»***.

* L. Kulczycki. Rewolucja Rosyjska. II. 253–254.
Ю. Охримович. Тамсама, бач. 88 і наст.

** Ad. Stankiewič. K. Kalinoŭski, «Mużyckaja Praŭda» i ideja Niezaležnaści Biełarusi. Wilnła, 1933.

*** Aud. Pol. T. 2. Nr. 917. Бач. 887. 1864 г. (Следчая справа Сымона Каліноўскага, бацькі Кастуся, у Дзярж. Арх. у Вільні.)



Вучыўся Кастусь спярша ў Свіслацкай гімназіі, а пасля паўгода (1855) у Маскоўскім і ўрэшце ў Пецярбургскім універсітэце, які скончыў у 1860 г. са ступенню кандыдата права.

Ва універсітэце Кастусь Каліноўскі не толькі вучыўся права, але адначасна знаёміўся з справамі грамадска-палітычнымі і належаў да народніцкіх рэвалюцыйных арганізацыяў. Выйшаў наш малады Кастусь з універсітэта ідэйным рэвалюцыянерам-народнікам. Працу сваю палітычную пачаў у роднай Горадзеншчыне сярод беларускага народа. Дзеля гэтай мэты летам 1862 г. у Беластоку наладзіў патаемную друкарню, у якой, як ужо ўспомнена, пад мянушкай Ясько Гаспадар з-пад Вільні выдаваў беларускі часопіс «Mużyckaja Praŭda».

Калі ў пачатку 1863 г. выбухла ў нашым краі польскае паўстанне[14], Каліноўскі да яго далучыўся і стаўся спярша палітычным камісарам Горадзеншчыны, а пасля, калі паўстанне ўпадала, абняў над ім дыктатарства ў Літве і Беларусі.

Праз увесь час сваёй рэвалюцыйна-вызвольнай працы Каліноўскі належаў да кірунку польскіх дэмакратаў-народнікаў і з імі супрацоўнічаў, а з польскім цэнтральным нацыяналістычна-захопніцкім камітэтам, з прычын ідэёвых розніц у паглядах, быў у пастаяннай нязгодзе.

29.I.64 Каліноўскі быў жандарамі Мураўёва злоўлены, асуджаны на смерць і 10.III старога стылю таго ж 1864 г. на Лукішскім пляцы ў Вільні павешаны, калі яшчэ меў усяго толькі 26 гадоў веку.

У гэтых нарысах ужо ўспаміналася, што беларускае палітычнае вызваленне пачалося з таго грамадскага класа, на які беларускае палітычнае жыццё заняпала. Фармальна палітычная самастойнасць нашага народа перастала існаваць на Люблінскай уніі 1569 г., а фактычна значна пазней[15]. Яшчэ праз некаторы час па Люблінскай уніі, аж да пачаткаў XVII ст., Беларусь і Літва шмат мелі палітычных і іншых правоў, якіх яны стойка баранілі. Так, напр., нягледзячы на палітычную унію з Польшчай, Беларусь і Літва мелі яшчэ сваё асобнае ад Польшчы войска, асобныя законы і некаторыя асобныя дзяржаўныя пасады. Нават грошы і тыя аж да першай паловы XVII ст. былі асобныя ў Кароне і ў Вялікім Княстве*.

Апошнім сапраўды дастойным абаронцам астаткаў палітычнай і культурнай асобнасці нашага народа і ўсіх беларуска-літоўскіх зя-

* Праф. У. Ігнатоўскі. Кароткі нарыс Гісторыі Беларусі. Вільня, 1921 г. Бач. 71.

** Украінскія землі: Валынь, Падолле, а так жа і Падляссе на Люблінскай уніі былі далучаны да Польшчы, як землі каронныя.

мель* быў слаўны канцлер Вялікага Княства Літоўскага вялікі Леў Сапега. А ўжо па ім Польшча хутка зруйнавала ўсю палітычную асобнасць Беларусі і Літвы і зраўняла іх з землямі этнаграфічнай Польшчы.

Беларускія магнаты, як бачым, былі апошнімі абаронцамі палітычных правоў беларускага народу, бо яны належалі да пануючага і кіруючага класа ў народзе. Першымі ж пачынальнікамі палітычнага адраджэння беларускага народа былі ўжо прадстаўнікі дробнай шляхты, бо абяднелай і гэтым зблізанай да народа. Гэта дробная і абяднелая, аканчальна не апалячаная шляхта была адзіным свайго роду інтэлігенцкім класам у народзе, якая зберагла памяць аб яго мінуўшчыне і аб яго нацыянальнай асобнасці ад палякаў. І трэба было толькі адпаведнага часу, аказіі, каб гэтая беларуская дробная шляхта, як асвечаны і вольны непрыгонны клас, зноў стала на чале беларускага народа.

Гэткім адпаведным часам і адпаведнай аказіяй былі тыя ідэйныя кірункі, якія панавалі ў XIX ст. у Еўропе і якія дайшлі да нас, а першай асобай, скарыстаўшай і з гэтых кірункаў і з гэтых аказій да дзейнага выступлення за волю народа, быў К. Каліноўскі, аканчальна не апалячаны беларускі шляхціц, а толькі абяднелы і сацыяльна дужа блізкі да свайго роднага брата прыгоннага селяніна.

Прыглядзімся ж бліжэй да асобы К. Каліноўскага як першага ідэйнага барацьбіта на беларускіх гонях за лепшы палітычна-сацыяльны лёс беларускага народа.

Вось жа Каліноўскі — гэта быў сапраўды першы беларускі народнік, які першы будзіў народ беларускі, пасля яго доўгай спячкі ў няволі палітычнай і сацыяльнай, да вольнага жыцця. Праўда, беларускае яго народніцтва няможна разумець так, як гэта мы разумеем сёння. Сёння беларус-народнік — гэта той, хто, разумеючы беларусаў як асобную нацыю, імкнецца не толькі да таго, каб палепшыць і зрабіць вольным эканамічна-грамадскае жыццё беларусаў, але таксама і да таго, каб народ гэты на ўсіх сваіх этнаграфічных землях дабіўся поўнай палітычнай незалежнасці і ўсё сваё эканамічнае, грамадскае і культурнае жыццё будаваў перадусім на сваіх уласных нацыянальных падставах. Гэтак шырока і поўна справы беларускага народа Каліноўскі яшчэ не разумеў. Ён яе разумеў настолькі, наколькі разумець яе дазвалялі яму тагачасныя ідэёвыя кірункі ў падобнай справе і наколькі рабіць яму гэта дазваляла і вымагала тагачаснае палітычна-сацыяльнае палажэнне беларускага народа. Нацыянальная асобнасць беларускага народа была яму яснай. Аб гэтым шмат пісалі і гаварылі лепшыя расейцы Бакунін, Герцэн і інш. у «Колоколе» (1857–

* Украінскія землі: Валынь, Падолле, а таксама і Падлессе па Люблінскай уніі былі далучаны да Польшчы як землі каронныя.



1867), а таксама ўкраінцы Кастамараў, Шаўчэнка і інш. Ідэямі ж, якія пашыралі гэтыя людзі, як сведчаць многія гісторыкі*, Каліноўскі жыў і карміўся. Але яшчэ больш ясным фактам была для яго паншчына на Беларусі, поўная сацыяльная няволя беларускага народа і поўная няволя палітычная пад ярмом расейска-царскай улады. Вось жа першай баявой задачай для Каліноўскага было не толькі скончыць аканчальна з паншчынай**, але агулам скончыць з панскай над беларусамі апекай, надзяліўшы беларусаў зямлёй на ўласнасць і зрабіўшы іх вольнымі сацыяльна і таксама скончыць з царскім уціскам палітычным, надзяліўшы беларусаў палітычна-грамадскімі правамі. Надзяліць жа гэтымі правамі беларусаў, абараніць гэтыя правы, іх угрунтаваць і павялічыць было б магчыма ў вачох Каліноўскага толькі тады, калі б народ наш не залежаў зусім ад царскай Расеі і ад польскіх паноў, будучы з Польшчай злучаны толькі федэрацыйна.

Але і тут трэба нам выяснення. У Каліноўскага не было — бо і не магло быць — беларускага нацыяналізму ў сучасным разуменні; але ў яго, як і ў многіх са шляхты, былі яшчэ жывыя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага, ці як тады казалі, проста Літвы, гэта значыць — перадусім традыцыі адзінства зямель Літвы і Беларусі. Вось жа Каліноўскі меў на мэце вызваленне ад расейцаў і паноў усяго нашага краю: Літвы і Беларусі разам. Імкнуўся ён да таго, каб літоўска-беларускія землі, ці Літва, як іх звалі і як ён іх зваў, былі фактычна палітычна незалежныя, злучаныя з Польшчай толькі на правах вольнай федэрацыі. Каліноўскага звалі сучаснікі яго таксама літоўцам, гэтакім і ён сябе называў. Палякам не называў ён сябе ніколі, бо гэткім ён не пачуваўся. Фактычна ж ён быў беларускім народнікам, бо, бадай, выключна працаваў для і сярод беларускага народа і для яго выдаваў першы ў беларускай мове часопіс «Mużyckuju Praŭdu» і іншыя беларускія друкі.

Для зямель этнаграфічна-літоўскіх у тым жа духу працаваў кс. Мацкевіч. У папярэднім раздзеле ўспомнена, што федэрацыю можна разумець як крайнюю дэцэнтралізацыю дзяржавы, як самы шырокі самаўрад. Вось жа Каліноўскі ў сваіх друках і Мацкевіч у сваіх паказаннях і выясненнях расейскім уладам па сваім арышце жадаюць для нашых зямель «самаўрадства»***. Але не думаем, што гэта «самаўрадства» надта вузка разумелася: не — у яго паняцце ўваходзіў краёвы сойм і краёвая ўлада для ўнутраных спраў краю.

* Гл.: Ad. Stankiewicz. K. Kalinoŭski.

** Трэба ведаць, што хоць цар маніфестам паншчыну скасаваў у 1861 г., аднак яна фактычна ў нас была скасавана толькі ў 1863–4 г.

*** Тэчка дакумантаў да справы кс. Мацкевіча ў Дзярж. Арх. у Вільні.

Вось у гэткім значэнні Каліноўскі быў беларускі народнік і пачынальнік беларускага палітычнага вызвалення.

Каліноўскі, як і беларускі, і літоўскі народ, і, бадай, большасць дробнай шляхты, быў фактычна проціў паўстання, бо не верыў у яго ўдачу, і было яно нязгоднае з яго ідэалогіяй. На чале паўстання сталі буйныя польскія паны, якія на Беларусь і Літву глядзелі як на звычайныя польскія правінцыі і якія яны імкнуліся далучыць да Польшчы без ніякіх засцярог. Да таго ж не было надзеі, каб паны гэтыя, здабыўшы палітычную ўладу ў краі, належна надзялілі сялян зямлёй і далі ім адпаведныя палітычныя і грамадскія правы.

Польшча хутка запалілася да паўстання — кажа Каліноўскі ў сваім уласнаручна напісаным паказанні на судовым следстве, — бо ў яе ўжо такі характар. А Літва, як больш сур'ёзная, была асцярожнай дый варожай да паўстання. А да таго Польшча не брала пад увагу інтарэсаў Літвы. Сяляне Літвы ўважалі, што зямля ўся іх і што паны яе даць ім не хочуць. Яны бачылі ў паноў яшчэ не абрэзаныя ногці і паўстанне лічылі справай панскай, што падтрымліваў і ўрад*.

Гэткіх паглядаў быў і сам Каліноўскі, але калі паўстанне сталася фактам, ён, — як сам у тым жа паказанні выражаецца, — як ураджэнец гэтага краю мусіў выступіць у імя дабра народа**.

І гэта зусім зразумела. У той час былі дзве магчымасці: або разам з народнікамі ўкраінскімі і расейскімі абярнуць царызм і стварыць федэрацыю славянскіх народаў з Расеяй на чале, або да такіх жа мэтаў імкнуцца, абапёршыся аб Польшчу.

І сапраўды, гэткія існавалі тады два палітычныя пагляды, з якімі стыкаўся Каліноўскі. Тым часам на расейскую рэвалюцыю трэба было яшчэ чакаць, а польская ўжо сталася фактам. Ясна, што Каліноўскі мусіў яе выкарыстаць. Да таго ж польскія рэвалюцыйныя арганізацыі, падтрыманыя заграніцай, былі куды сільнейшыя, як расейскія, у арганізацыях гэтых былі таксама народнікі-федэралісты, як і сам Каліноўскі, а, урэшце, ён — як і ўся тады Літва і Беларусь, — культурна ўсё ж такі быў да Польшчы недалёкі***. Як беларускі, аднак, народнік, як той, што займаў у гісторыі пасярэдняе месца між Польшчай і Расеяй, і як ідэйны дэмакрат, Каліноўскі не меў нацыянальнай нянавісці да Расеі, што асабліва ў той час так было папулярным у палякаў. «Я, — казаў ён, — не праціўнік народнага шчасця і Расеі, калі яна нам дабра жадае, а праціўнік тых бед, якія адведваюць край наш»*.

* Aud. Pol. Nr. 280. 1864.

** «Въ моемъ сознаніи я преступникъ не по убѣжденію, но по стеченію обстоятельствъ. А потому пусть и мнѣ будетъ дозволительнымъ утѣшать себя надеждою, что возсоздастся народное благо. Дай Бог только, чтобы для достиженія этого потомки наши не проливали лишней братней крови». Aud. Pol. Тамсама.

*** «Сѣть, обхватывающая насъ во всѣхъ классахъ и соединяющая съ Польшей, имѣетъ столько основаній въ традиціяхъ и даже въ предрассудкахъ, что распутать ее, уничтожить и возсоздать что-либо новое составляетъ вѣковой, систематическій и разумный трудъ» (Aud. Pol. Тамсама.)



Аднак усё прагаварвала за тым, што Каліноўскі мусіў разам выступіць з Польшчай проціў царскай і панскай няволі і папрабаваць шчасця папрацаваць для дабра беларускага паднявольнага народа. І ён выступіў, справядліва заслужваючы прад беларускім народам на пачэснае імя першага барацьбіта за палітычна-сацыяльнае вызваленне беларускага народа.

Для большай яснасці і грунтоўнасці доказы, пацвярджаючыя характар Каліноўскага, як пачынальніка беларускага палітычнага і сацыяльнага вызвалення, пастараемся прадставіць хоць коратка, але па парадку і сінтэтычна.

Сам час, у якім жыў Каліноўскі, і тыя ідэёвыя палітычна-грамадскія кірункі, якімі тады жыла інтэлігенцыя, ужо з'яўляюцца доказам, што быў ён народнік-федэраліст. Тады паступовая інтэлігенцыя, асабліва ж акадэмічная моладзь расейскіх універсітэтаў, што прымала ўдзел у тагачасным палітычным і грамадскім жыцці, агулам гаворачы, была пераважна народніцкай у справах сацыяльных і культурных і трымалася шырэйшага ці вузейшага федэралізму ў палітыцы. Ужо з гэтага відаць, што да гэтых кірункаў мусіў належаць і Каліноўскі.

Ды і гістарычным пэўным ёсць фактам, што Каліноўскі, яшчэ ў Пецярбургскім універсітэце, запазнаўшыся з тагачаснымі рэвалюцыйнымі імкненнямі расейцаў, украінцаў і палякаў, калі павёў рэвалюцыйную працу сярод беларусаў Горадзеншчыны, рабіў гэта ў сціслай лучнасці з польскімі дэмакратамі, з так званымі чырвонымі, якія сапраўды былі народнікамі-федэралістамі. Ясна, што не інакшым мусіў быць і Каліноўскі. І быў такім сапраўды ды і яшчэ ў большай меры, бо быў заўсёды варожа настроеным да польскіх панскіх арганізацыяў, якія фактычна ніколі не прызнавалі народнай волі народам нашага краю, і апрача гэтага быў ён фактычна павадыром і арганізатарам польскіх дэмакратаў народнікаў**.

* Aud. Pol. Тамсама.

** ...«Nie dbam o nic, to przez okno na dach, to inszemi sposobami zawsze szczęśliwie z rąk ich (Маскалёў. — *А. С.*) się wyślizgam. Opieka Boska czuwa nade mną, a jeśli przyjdzie się zawisnąć, to niech będzie na pociechę wszystkim szlagom (паном, што проціў яго. — *А. С.*) litewskim i prześwietnej Moskwie». (З ліста Каліноўскага да Б. Длускага. Арыгінал у бібл. Асалінскіх. Цытую з одпісу Р. Керсноўскага.)

К. Каліноўскі дзеля пашырэння сваіх ідэяў выдаваў першы беларускі часопіс «Mużyckaja Praŭda» і іншыя беларускія друкі, якія выразна пацвярджаюць народніцка-федэралістычны характар яго як палітычнага і грамадскага беларускага дзеяча.

І сапраўды, спатыкаем між іншым там гэткія выражэнні: «O zahrymić nasza (мужыцкая. — *А. С.*) praŭda i jak małanka pralacić pa świecie»... «Ad maskala i panoŭ niema czeho spadziawacisia, bo jany nie wolności a hłumu i zdzierstwa naszeho choczuć... No niedoŭho jany nas buduć abdziraci, bo my paznali, hdzie siła i praŭda i budziem wiedać jak rabić treba kab dastać **ziamlu i wolu**» (падкр. — *А. С.*)*. ...«Kab narod nasz na wiek wiekaŭ byŭ wolny i szczaśliwy». ...«Czaławiek wolny, kali maje kusok swajej ziamli, za katoru ani czynszu i abroku nie płacić, ani panszczyny nia służyć». «Nam wolnaśći treba nie takoj, jakuju nam car schoča daci, no jakuju my sami mużyki pamiż saboju zrobimo». «U nas adno wuczać pa szkołach, kab ty znaŭ czytaci pa maskoŭsku, a to dla taho, kab ciabie saŭsim pierarabili na maskala».

Краю нашага і нашага народа Каліноўскі ў «Muż[yckaj] Pr[aŭdzie]» ніколі не называе польскім, а наадварот — заўсёды яго Польшчы процістаўляе. Ад Масквы адгароджваецца выразна. З Польшчай, праўда, цалком не зрывае, разам з ёю кліча народ наш да паўстання, але за сваю вольнасць: «Stańmo drużna razom za naszuju wolnaść... A budzie u nas wolnaść, jakoj nia było naszym dziedam i baćkam».

Беларускі народніцкі характар Каліноўскага пацвярджае таксама і факт яго адносінаў да рэлігіі. Ён у « Muż[yckaj] Pr[aŭdzie]»** горача выступае ў абароне Уніі. І гэта зразумела; праваслаўе было тады, як і цяпер, аружжам маскоўшчыны, а лацінскае каталіцтва — аружжам польскасці. Адно і другое было сімвалам народнага ўціску. Унія ж — наадварот: гэта была фактычна мужыцкая народная вера, пагарджаная панующымі, як і сам мужык беларускі.

У іншых беларускіх друках Каліноўскі аказваецца нам яшчэ выразней, як беларускі народнік і федэралісты. «Kali rąd polski, — кажа ён у пісьме з-пад шыбеніцы***, — usim bratnim narodam daje samauradstwa, maskal mała taho, szto hetak nia robić, no jaszcze tam, hdzie żyli palaki, litoŭcy i biełarusy, zawodzić maskoŭskija szkoły, a u hetych szkołach uczuć pa maskoŭsku, hdzie nikoli nie paczujesz i słowa pa polsku, pa litoŭsku da i pa biełarusku, jak narod taho chocze». У тым жа пісьме Каліноўскі вылічае ўсе тыя здзекі, якіх народ дазнаваў ад царскіх уладаў, і ўрэшце так кажа: «Oś to dla czaho każem, szto polskaje dzieło — heto nasze dzieło, heta wolnaśći dzieło».

* «Mużyckaja Praŭda». Nr 1–4, 7.

** «Mużyckaja Praŭda». Nr. 6.

*** Piśmy z pad szybienicy.



І сапраўды, палякі ў 1863 г. ужо былі прызнаўшы нашым землям гэта свайго роду «самаўрадства».

«Narodzie, — дзеля гэтага ўрэшце піша Каліноўскі, — jak tolki paczujesz, szto braty twaje z pad Warszawy bjucca za praŭdu i swabodu, tahdy i ty nie astawajsia zzadu, no uchapiŭszy za szto zmożesz — za kasu, siakieru i cełaj hramadoj idzi wajawaci za swajo czaławieczaje i narodnaje prawa, za swaju ziamlu rodnuju*.

Калі ж, урэшце, ідзе нам аб Каліноўскага выключна як федэраліста, дык гэта дастаткова выказана галасамі сучасных яму гісторыкаў, у маёй аб ім кніжыцы** і тут гэтага ўсяго паўтараць не буду. Аб тым, што Каліноўскі змагаўся за свайго роду палітычную самастойнасць зямель Беларусі і Літвы, дапушчаючы іх сужыццё з Польшчай толькі на асновах федэрацыі, аб гэтым — кажу — для навукі сёння няма ніякага сумніву. Існуюць толькі сумнівы што да сутнасці гэтай федэрацыі, гэта значыць — паўстае пытанне, у чым іменна мела праяўляцца і як далёка сягаць гэтая залежнасць Беларусі і Літвы ад Польшчы і іхнае з ёй палітычнае супрацоўніцтва. К. Каліноўскі занадта быў малады і занадта хутка расстаўся з гэтым светам і занадта хутка развіваліся крывавыя падзеі на беларуска-літоўскіх землях, каб ён змог і каб патрабаваў дакументальна апрацоўваць і сістэму федэрацыі Беларусі і Літвы з Польшчай. Гэткай дакументальнай сістэмы сваіх федэрацыйных паглядаў Каліноўскі пісанай не пакінуў. Аб гэтым, як і аб самым факце федэралізму Каліноўскага, даведваемся ад бліжэйшых і ад далейшых да яго гісторыкаў. Вось жа гэтыя гісторыкі блізкія цалкам і да часу і часта да асобы Каліноўскага (Гейштар, Ратч, Пшыбароўскі, Яноўскі, Ліманоўскі і інш.), — аб чым шырэй у той жа маёй кніжыцы — сцвярджаюць бадай аднагалосна, што Каліноўскі фактычна жадаў Беларусь і Літву бачыць незалежнай дзяржавай, злучанай з Польшчай толькі вольным саюзам, дагаворам. Апіраючыся на гэтым, можна цвердзіць, што Каліноўскі быў крайнім федэралістам, ці лепш: канфедэраліст, бо Беларусь, Літву і Польшчу ён разумеў як незалежныя дзяржавы, злучаныя між сабой саюзнымі дагаворамі і палітычнай дружбай.

* Ad. Stankiewicz. K. Kalinoŭski, «Mużyckaja Praŭda» i ideja Niez. Biełarusi: VIII. K. Kalinoŭski — zmahar za palityčnuju samastojnaść Biełarusi i Litwy. 45–52.

** Надзяленне сялян зямлёй. Роўнасць усіх. Злучаным з Польшчай братнім народам Літвы і Русі прызнанне найшырэйшага развіцця нацыянальнасці і мовы. (Dekret Tymczas[owy] Rzą Narodowego z 10.V.1863.)

І цікава тут адзначыць, што ў польскай літаратуры, у меру таго, як яна аддаляецца ад часу Каліноўскага, гэты ягоны незалежніцкі характар заціраецца на карысць Польшчы. Так, напрыклад, нехта Licz аб Каліноўскім выражаецца даслоўна гэтак: «Ideałem jego, do którego dążył, byla Polska ludowa, oparta na zasadach federacyjnych»*. Тым часам на падставе ўсяго таго, што аб Каліноўскім ведаем з яго друкаў і з галасоў аб ім сучасных яму гісторыкаў, належыць сказаць, што ідэалам яго былі не «ludowa Polska, oparta na zasadach federacyjnych, а «ludowa» Беларусь і Літва, абапёртая на асновах федэрацыйных.

На заканчэнне астаецца нам яшчэ хоць коратка затрымацца над некаторымі да сёння няяснымі пытаннямі што да асобы Каліноўскага. Сучасны бальшавіцкі гісторык рэвалюцыйнага руху ў Беларусі ад 1863 да 1917 г. С. Агурскі, мімаходам толькі ўспамінаючы Каліноўскага, прытым дужа павярхоўна, аднабока і варожа, — паддае, аднак, пад сумніў бліжэйшую лучнасць яго з «Mużyckaj Praŭdaj». Сумнівы свае ён апірае на тым, што, як відаць з некаторых крыніц расейскай рэвалюцыйнай літаратуры («Колокол», «Вперед», «За 100 лет» і «Былое»), блізкімі былі да ««Muż. Praŭdy» польскія паўстанцы: Урублеўскі, Тамашэўскі і Пятроўскі. Гэтыя асобы, як відаць з гэтых крыніц, «Mużyckuju Praŭdu» распаўсюджвалі, выдавалі і былі за гэта суджаны**.

---

* Licz — Konstanty Kalinowski. «Gazeta Wileńska». 1906, Nr. 17.

** «Следующие источники указывают на Врублевскаго і Томашевскаго, как на издателей «Muż. Praŭdy».

а) В «Колоколе» № 162, 1863 г. описвается процесс Томашевскаго и Петровскаго, происходивший в Вильно в мае 1863 г. Они обвинялись в распространении «Muż. Praŭdy». Петровский был осужден к 6-ти годам каторжных работ с конфискацией имущества, а Томашевский — к 4 годам каторжных работ.

б) В «Вперед» № 40 на стр. 670 указывается, что «Muż. Praŭda», выходившая в 1862-63 г. в Гродненской губ., издавалась при участии Врублевскаго.

в) В книге «За 100 лет», часть 2, изданной Степняком и Бурцевым, указывается на стр. 55, что издателями «Muż. Pr.» являлись генерал Парижской Коммуны Врублевский и Томашевский.

г) Во втором выпуске заграничнаго журнала «Былое», выпущеннаго в 1906 г. Донской Речью в России на стр. 126 указывается, что издателями «Muż. Pr.» были Врублевский и Томашевский.

Во всех этих источниках совершенно не фигурирует имя Кастуся Калиновскаго» (С. Агурский — Очерки по истории революционнаго движения в Белоруссии. 1863–1917. Минск, 1928. Бач. 20, дапісак). Зазначаем адначасна, што ў гэтай кнізе знаходзіцца перадрук усіх сямёх нумароў «Mużyckaj



Вось жа маглі гэтыя асобы, а таксама і розныя іншыя, пашыраць «Muż. Praŭdu» і даваць грошы на яе выдавецтва, а з гэтым адначасна Каліноўскі, як народнік і знаўца беларускай мовы, мог быць яе душой і рэдактарам. З усяго, што аб Каліноўскім і «Muż. Praŭdze» ведаем, гэтак і выглядае. Асобы ж, аб якіх успамінае Агурскі, звязаныя так ці інакш з «Muż. Praŭdaj», сталіся ведамымі толькі прыпадкам, асабліва калі злавіла іх у лучнасці з «Muż. Pr.» паліцыя, бо ж быў гэты часопіс сцісла канспірацыйны. Дзеля гэтых прычын у гэтых успомненых расейскіх крыніцах не ўспамінаецца нічога аб Каліноўскім. А што Валеры Урублеўскі прынамсі да выдавецтва некаторых нумароў «Muż. Praŭdy» сапраўды належаў, расказваў мне аб гэтым ведамы, сёння ўжо памёршы, адвакат Тад. Урублеўскі, якому Валеры прыходзіўся родным дзядзькам.

У іншай жа савецкай крыніцы, іменна — у Энцыклапедыі, якая выйшла двума гадамі пазней ад працы Агурскага, Каліноўскі прадстаўлены як барацьбіт за нацыянальную і сацыяльна-эканамічную і палітычную самастойнасць Беларусі і Літвы*.

Урэшце яшчэ адзін сумніў што да асобы Каліноўскага, як беларускага народніка і рэвалюцыянера. Маем на ўвеце адозву: «Да мужыкоў зямлі польскай», падпісаную ягонай мянушкай «Ясько Гаспадар з-пад Вільні», якая, напісаная па-беларуску, заклікае народ на паўстанне разам з Польшчай і за Польшчу, бо «мы — чытаем там — спрадвеку палякі, на польскай зямлі жывём і польскі хлеб ямо». Што гэта за адозва і да каго яна прызначана, — згадаць трудна, ды наўрад ці разгадаецца калі. Аднак калі дапусціць, што гэта адозва не падробленая, дык на нешта ж і яна была Каліноўскаму патрэбнай. Можа, праз яе зварочваўся ён спецыяльна да спольшчаных беларусаў-каталікоў, якія яшчэ ўжывалі беларускай мовы, а можа, зусім што іншае меў на ўвазе. Але найхутчэй — на нашу думку — адозва гэта выдана палякамі імперыялістымі, так зв. «белымі», для якіх усе нашы землі і наш народ былі польскімі і якія падпісалі яе папулярным у народзе

---

Praŭdy». Спатыкаецца таксама зацемка (бач. 17), што ўсіх нумароў «Muż. Praŭdy» было выпушчана дзевяць.

* Первые попытки социального и национального освобождения Белоруссии были сделаны во время польского восстания 1863 г. За освобождение белорусских крестьян из-под власти польского помещика и русского царя, за создание самостоятельного государства Литвы и Белоруссии и за передачу земли крестьянам без выкупа боролись «красные» (обедневшая шляхта, учащаяся молодежь) во главе с известным белорусским революционным народником Кастусем Калиновским» (Малая Советская Энциклопедия, 1930. Т. 1. Белоруссия.)

на маўклівы і замкнуты ў сабе; быў ён чалавек чыну; ідэалам яго было служэнне народу, служэнне не словам, а дзелам; называў сябе Ігнат літвінам.

Гэтулькі даведваемся аб біяграфіі Грынявіцкага ў апісанні др. Т. Грыба. Ужо з гэтых, хоць даволі скупых, вестак можам зрабіць некаторыя, патрэбныя нам вывады.

Перадусім мусім сцвердзіць, што Грынявіцкі сапраўды быў годным спадкабернікам беларуска-вызвольных ідэяў, пакінутых Каліноўскім. Для гэтых ідэяў ён працаваў, развіваў іх далей, тасуючыся да варункаў свайго часу. Сапраўды, унікаючы ў працу Грынявіцкага, спатыкаем шмат у яго падобнага, а крыху і рознага з Каліноўскім.

Грынявіцкі, як аб гэтым можна судзіць з яго біяграфіі, паходзіў так жа, як і Каліноўскі, з беларускай абяднелай шляхты. Аб гэтым гаворыць яго прозвішча, а таксама фальварак ягонага бацькі ў Гарадзеншчыне. Такім чынам, Ігнат наш таксама выйшаў з таго беларускага грамадскага класа, які яшчэ не цалком спаланізаваўся, які, будучы сам вольны ад паншчыны, быў найбліжэй да народа і які яшчэ перахоўваў у сабе традыцыі аб мінуўшчыне беларускага народа ў складзе аднаго суцэльнага палітычнага цела — Вялікага Княства Літоўскага. Вось чаму Грынявіцкі, як і Каліноўскі, будучы беларусам і працуючы для Беларусі, цалком не знаючы літоўскай мовы, зваў сябе літвінам.

Каліноўскі першы падняў сцяг барацьбы за волю беларускага народа, а Грынявіцкі яго панёс далей, кладучы сваё за народ жыццё, як і яго папярэднік. Думаецца нам, што Грынявіцкі многа чуў і ведаў аб Каліноўскім. Трэба ведаць, што калі слаўны наш Кастусь паміраў на шыбеніцы — Ігнат меў ужо 8 гадоў і мусіў нямала чуць аб Каліноўскім, імя якога было шырока ведама па ўсей Гарадзеншчыне. А зноў, калі Ігнат ужо быў барацьбітом у радох нарадавольцаў у Пецярбурзе, ад смерці Кастуся было гадоў толькі 15. Памяць яшчэ аб ім у народзе была свежай, і Грынявіцкі, дапаўняючы свае дзіцячыя аб Кастусю ўспаміны, меў чым карыстацца і мог такім чынам здабыць аб ім поўнае паняцце. Надта магчыма, што смерць Каліноўскага і яго праца была адной з галоўных прычын, якая фармавала палітычныя пагляды Грынявіцкага і якая папіхала яго на рашучую барацьбу за народ.

Шмат, як бачым, было супольнага між Каліноўскім і Грынявіцкім, але было ўжо ў гэтага апошняга і нешта цалком новае, асобнае. Абодва яны ідуць за волю беларускага народа, безумоўна, успамінаючы слаўную нашу мінуўшчыну падчас Вялікага Княства Літоўскага, — дзеля ж гэтага нат завуць сябе літоўцамі, — але ідуць яны да гэтага рознымі дарогамі: Каліноўскі апіраецца аб



Польшчу, а Грынявіцкі — калі ўжо на Польшчу не было ніякай надзеі, — на Расею, у якой адбываўся вялікі рэвалюцыйна-народніцкі вызвольны рух, імкнучыся да перабудовы яе на падставах вольнай федэрацыі народаў.

І сапраўды, расейскія нарадавольцы імкнуліся да стварэння з Расеі вольнай федэрацыі вольных народаў, бо ж дзеля гэтага ў радох сваіх мелі арганізацыі, часта больш-менш аўтаномныя, нарадавольцаў украінскіх, а таксама і беларускіх. Найлепшым гэтага доказам з'яўляецца часопіс «Гомон», які выдавала група беларускіх нарадавольцаў, да якіх — як гэта відаць з апошняга артыкула № 2 «Гомона» — да сваёй смерці належаў і Грынявіцкі. «Гомон» выйшаў на трэцім-чацвёртым годзе па смерці яго. Ігнат наш такім чынам быў неразарвальным злучвом вызвольнай беларускай традыцыі між Каліноўскім і ягонай «Mużyckaj Praŭdaj» і між «Гомоном», які становіць новы, далейшы этап у развіцці беларускай вызвольнай барацьбы і думкі.

## VI. «ГОМОН» І ЯГО БЕЛАРУСКІЯ ВЫЗВОЛЬНЫЯ ІМКНЕННІ

«Гомон» — гэта часопіс беларускіх рэвалюцыянераў. Выдаваўся ён шапіраграфскім спосабам, пісаны па-расейску, фармату больш-менш нармальнага сшытка; дзе выходзіў — няведама; часопіс гэты, ясная рэч, выходзіў нелегальна, а дзеля гэтага не мог падаваць свайго адрасу. Можна дагадвацца, што выходзіў ён у Пецярбурзе, дзе быў галоўны цэнтр беларускай студэнцкай моладзі.

Ведамы «Гомона» № 2. Сам розум кажа, што калі быў № 2, дык мусіў быць і першы. Гаворыць аб гэтым таксама і № 2, у якім на пачатку першага артыкула «Бѣлорусское революціонное обозрѣніе» з датай 15 лістапада 1884 г. чытаем даслоўна: «Прошло около года с тѣх пор, как появился первый № «Гомона»; мы вовсе не думали обрекать себя на столь долгое молчаніе, всему причиной «независящія от нас обстоятельства», слишком измѣнчивыя в наши дни». Успамінаецца таксама аб № 1 «Гомона» і ў артыкуле другім гэтага часопіса: «Внутреннее обозрѣніе». З гэтага выглядае, што мусіў быць «Гомона» і нумар першы. Аднак покуль няма зусім пэўных вестак, што ён сапраўды быў, што хоць яго і няма цяпер нідзе, але што нехта яго бачыў, датуль абсалютнай пэўнасці аб яго выхадзе няма, бо ж, не забываем, што «Гомон» — часопіс рэвалюцыйны, антыдзяржаўны, падпольны, дык надта магчыма, што рэвалюцыянеры нашы выдалі адразу нумар другі, а аб першым ус-

помнілі, каб нарабіць больш клопатаў і загадак паліцыі. 50-годдзе, такім чынам, «Гомона» ў сёлетнім 1934 годзе больш мае падстаў, як бы мела ў мінулым, калі б мы хацелі гэты юбілей датарнаваць да часу выхаду «Гомона» нумара першага[18].

Адзін арыгінальны экземпляр «Гомона» нумару другога, а таксама адзін экземпляр одпісу з яго знаходзіцца ў Беларускім музеі ў Вільні. Для гэтай працы карыстаўся я одпісам.

Пасля гэтых агульных уваг аб «Гомоне» прыступім да бліжэйшага разгляду яго паводле таго парадку, у якім разложаны ў ім матэрыял.

**§ 1. «Бѣлорусское революціонное обозрѣніе».**

Гэтак названы першы артыкул «Гомона». Падаём ніжэй галоўны змест яго, галоўныя месцы цытуючы даслоўна па-расейску.

— У грамадскім жыцці Расейскай імперыі, — чытаем у гэтым артыкуле, — заўважаецца няўхільнае імкненне да рэвалюцыі. Урад сваім гнётам гэтай рэвалюцыйнасці толькі памагае. Апазіцыя, да якой належаць групы ліbeралаў аж да тэрарыстаў, расце і развіваецца. Адчуваецца патрэба супольнага гэтых груп фронту. Аднак трэба жадаць не толькі супольнага фронту апазіцыйных да цара груп, але таксама і самастойнасці гэтых груп: «...приходится пожелать очень и очень многаго не только в отношеніи совмѣстной борьбы, но и по отношенію к самостоятельному начинанію».

Да апошняга часу, праўду кажучы, сапраўды барацьбу з царызмам праводзіць адна партыя «Народнай волі», а іншыя групы толькі займаюцца гутаркай і крытыкай. Павінны існаваць партыі самастойныя, але яны павінны бароцца толькі разам усе. Дзеля гэтага вітаем «присоединеніе польской партіи «Пролетаріата» к организаціи «Народнай волі» в их заимных оффиціальных об'ясненіях в 10 № «Народнай волі». Мы сацыялісты-беларусы імкнемся заняць у гэтай адзінай актыўнай партыі адпаведнае да сілы нашай групы месца, каб бароцца для справы так важнай для самай Беларусі. Апрача нашай помачы «Нар. волі» для барацьбы з урадам «мы внесем в сознаніе членов этой партіи практическую возможность федеративной самостоятельности Бѣлоруссіи в будущем и необходимость подготовки этой самостоятельности в настоящее время».

У прынцыпе і цяпер гэта партыя стаіць «за федеративность областей Россіи», што яна не раз выказвала; але фактычна на такую самастойнасць можа разлічаць «только та из областных груп», каторая будзе рука аб руку ісці ў барацьбе з «дѣйствующей партіей» і мець сваіх прадстаўнікоў, дастаткова азнаёмленых з мясцовымі патрэбамі. Наколькі мала адно прынцыповае прызнанне «самостоятельности областей» можа гарантаваць яе на практыцы, гэта паказвае выступленне Ціхамірава ў № 2 «Вѣстника «Нар. волі»[19], дзе ён гаворыць аб «неумѣстности» і «искусственности» тварэння новых нацыянальнасцяў. Так мала яшчэ свядомасці аб практычнай неабходнасці палітычнай і эканамічнай самастойнасці «областей», што аўтар гэты не пастараўся нават даказаць гэту «неумѣстность» і «искусственность», загадзя, відаць, разлічваючы на ціхую згоду чытачоў.

Мы, ведама, за гэта на Ціхамірава не наракаем, бо ён у федэрацыйных імкненнях бачыць аслабленне палітычнай проціцарскай барацьбы ў цэнтры. Тым больш гэта яму можна дараваць, што самы гарачы прапаведнік нацыянальнай федэратыўнасці Драгаманаў апошнім часам многа папрацаваў для пашырэння гэткага пагляду на федэралістаў. Але ўсё ж такі Ціхаміраў не мае падстаў паклікацца на «искусственность», як на доказ непатрэбнасці стварэння федэрацыяў, бо ўсе формы грамадскага жыцця творыць чалавек. Тым больш не мае рацыі Ціхаміраў, калі Бакунін, Драгаманаў і іншыя, гаворачы аб раздзеле Расейскай імперыі на натуральныя федэрацыі, разам з Польшчай і «Малороссіей», ставяць таксама і Беларусь. Нават урад «преслѣду идеал казарменнага единообразія, считается с ней (з Беларусяй. — *А. С.*), как с областью своеобразной и существует целый ряд экономических и административных мѣр, касающихся специально Бѣлоруссіи. Конечно, в народѣ пока еще нѣт сознательнага стремленія к федеративной независимости в том ея видѣ, как это понимает інтеллигенція, но необходимость этой независимости вытекает из сознанія народом своей розни от сосѣдей, эта самостоятельность вытекает из экономических и климатических условій Бѣлоруссіи, много отличных от условій других областей Россіи, из оригинальности характера самого народа». Расейскі народ таксама несвядомы важнасці палітычнай свабоды і таксама не разумее вымогаў навуковага сацыялізму, а, нягледзячы на гэта, нарадавольцы дабіваюцца аднаго і другога пад сцягам народнай волі іменна затым, што глядзяць шырэй на патрэбы народа і разумеюць лепей сродкі іх здаволення.

«Но если практическое подготовленіе почвы для федеративной самостоятельности важно для каждой области вообще, то для Бѣлоруссіи эта необходимость является еще болѣе настоятельной и неизбѣжной».

Для Польшчы і Украіны гэта не столькі патрэбна. Для сваей самастойнасці яны маюць прыгатаваны грунт. У Беларусі з гэтым дрэнна, «что и заставляет бѣлорусскую интеллигенцію заранѣе позаботиться о приготовленіи условій для самостоятельности страны». Асабліва трэба старацца ўзгадаваць народную інтэлігенцыю, бо цяперашняя наша інтэлігенцыя звычайна выходзіць «из паразит-

нага класса поляков помѣщиков или из бюрократіи». Нідзе, як ведама, няма такой розніцы між народам і інтэлігенцыяй, як у Беларусі. Вось жа інтэлігенцыя, якая была б блізкай да паняцця́ў і патрэб народа, аказала б вялікую паслугу пры новых варунках грамадскага жыцця, якое наступіць пасля перавароту.

Ды і для самай цэнтральнай партыі мясцовыя арганізацыі маюць вялікае значэнне. Пасля перавароту першай для яе задачай будзе забяспечыць рэформы, патрэбныя для народаў усіх «областей» без вынятку. Яна павінна будзе дапасавацца да абычаяў, а таксама да эканамічных і іншых асаблівасцяў кожнай вобласці. Паляк, украінец, велікарус, прымаючы ўдзел у цэнтральнай барацьбе з урадам, у пэўнай меры ўжо гэтым самым з'яўляецца прадстаўніком інтарэсаў свайго народа з увагі на сваю рэальную блізкасць да яго. Тым часам беларус можа быць прасякнуты народнымі сімпатыямі толькі ідэйна і наўрад ці без свядомай падгатоўкі можа лічыцца пажаданым прадстаўніком сваёй бацькаўшчыны і выклікаць да сябе большы давер, як цяперашняе чынавецтва. Ведама, што ўсё ідэйнае толькі тады сапраўды прыгожае і творчае, калі яно зыходзіць на зямлю, калі яно бліжэй да рэальнага здзяйснення ў штодзённым жыцці. «Адмысловы план дзеяння павінен быць дзелам мясцовых арганізаваных групаў, якія зорка сочаць за ўсімі зменамі і эканамічнымі фактамі», — кажа Лаўроў. Зусім справядліва і неабходна выбраць для сваёй дзейнасці месца, народ і мову, дзе можна дапусціцца найменш абмылак і найбольш зрабіць добрага, гэта значыць — сваю бацькаўшчыну, — кажа той жа Лаўроў[20].

Зусім ясна, такім чынам, што стараннае пазнанне мясцовых асаблівасцяў Беларусі, зразуменне практычных інтарэсаў народа будзе карысна не толькі для Беларусі, але і для цэнтральнай партыі, з якой беларуская інтэлігенцыя будзе арганічна звязана пры помачы арганізацыі.

Мы знаем некалькі спробаў з боку цэнтральнай партыі арганізаваць у многіх гарадох Беларусі свае мясцовыя групы і нават друкарні. Пры гэткай пастаноўцы справы ўсе знаёмствы, усе звязкі цэнтральнай партыі павінны перайсці пад загад мясцовай беларускай партыі. Дзеля лепшага знаёмства з мясцовымі варункамі, функцыі мясцовых арганізацыяў цэнтральнай партыі будуць выконвацца лепш, бо мясцовая інтэлігенцыя, апрача планаў цэнтральнай партыі, будзе ажыўлена свядомасцю інтарэсаў Беларусі і, дзякуючы адзыўчывасці беларускай арганізацыі, ні адзін месны рух, ні адзін удар пульсу народнага жыцця не згіне дарма для барацьбы. Гэткая пастаноўка дзейнасці беларускай групы тым больш з'яўляецца магчымай, што цэнтральная група партыі «На-



роднай волі» дае месным арганізацыям поўную самадзейнасць у галіне дзеяння гэтай групы, наколькі яна не перашкаджае свабоднай дзейнасці ў цэнтры.

Адгэтуль, аднак, не вынікае, каб усе сілы беларускай арганізацыі кіраваць выключна дзеля працы ў Беларусь. Тут зважаць трэба, з аднаго боку, на здольнасці самых сяброў арганізацыі, а з другога — на патрэбы барацьбы ў цэнтры. Само сабой зразумела, што тыя людзі, якія дастатковыя пусцілі карэнні ў Беларусі і дзеля тых ці іншых прычын не могуць прыняць беспасрэднага ўдзелу ў цэнтральнай барацьбе, астануцца на бацькаўшчыне, дзе ў меру сваіх сіл будуць падгатаўляць грунт для грамадскага абнаўлення краю, а не здавольвацца, злажыўшы рукі, адной толькі спагадай, як гэта было дагэтуль.

«Вот основные пункты нашей программы, деталичныя подробности которой не замедлят появиться в особом йзданіи. В послѣднее время возникло много своеобразных и произвольных толкованій нашей програмы; кромѣ того, среди самой бѣлорусской интеллигенціи образовалось много кружков, а вмѣстѣ с тѣм столько же практических рѣшеній бѣлорусского вопроса. Радуясь такому возбужденію вниманія к участіи родины, мы тѣм не менѣе должны заявить, во избѣжаніе всяких недоразумѣній, что всѣ они пока имѣют мало общаго с нами. Вслѣдствіе этаго мы просили бы не судить о нашей программѣ на основаніи толков лиц, не принадлежащих к нашей организаціи. Мы отвѣчаем лишь за то, что будет появляться в нашем органѣ или в особом изданіи от групы «Гомона». Что же касается наших отношеній к бѣлорусским кружкам, образовавшимся, как нам извѣстно, в нѣкоторых университетских центрах среди молодежи, то они опредѣляются нашей программой. Так как главной задачей бѣлорусов является пропаганда федеративной самостоятельности Бѣлоруссіи, то, полагая, что лучшая часть этих кружков неизбѣжно должна будет примкнуть к нашей постановкѣ дѣла, мы постараемся завести самыя тѣсныя сношенія для болѣе близкаго знакомства з нашей программой.

В заключеніе скажем, что наша задача представляет для своего существованія много трудностей, которыя нам предстоят как со стороны инертности бѣлорусской интеллигенціи, так и со стороны косности ходячих понятій і мнѣній о федерализмѣ. Но как бы ни велики были эти трудности, мы, насколько это будет в наших силах, положим первый камень для фундамента федеративной самостоятельности Бѣлоруссіи. Был бы сдѣлан первый шаг, для продолженія же дѣла выступят, несомнѣнно, новыя силы с большей энергіей и увѣнчают дѣло успѣхом».

Гэтак выглядае змест першага артыкула «Гомона». Далей будзем знаёміцца з артыкуламі наступнымі.

**§ 2. «Внутреннее обозрѣніе».**

Наступны артыкул «Гомона» «Внутреннее обозрѣніе» пасвечаны, як сам загаловак яго кажа, агляду ўнутранай царскай палітыкі ў Беларусі і таксама для нас дужа цікавы. Гаворыцца ў ім аб той шалёнай русіфікацыі нашага краю, якую праводзілі ў нас розныя так званыя начальнікі краю — віленскія генерал-губернатары.

Агульны змест гэтага артыкула выражаны ясна ў падзагалоўку: «Новый начальник края. Искорѣненіе полонизма. Пробужденіе народнаго сознанія. Безцеремонность продажнаго писаки и новые всходы». Бліжэй змест выглядае ў скарачэнні гэтак.

— Тотлебен* з свайго становішча адкліканы. І добра. У сваёй тупой стараннасці ён не ведаў, што і як «искоренять». Прыехаў новы. Сказаў мову, якіх у нас за апошніх 20 гадоў гаварылася многа. Усе яны прыракалі выкараняць у краі нашым польскасць і насаджаць расейскасць. Мэты, аднак, сваёй гэтыя начальнікі краю не дапіналі, бо рабілі гэта пераважна грубай сілай. Асабліва ў гэтым адзначаўся Тотлебен, аб дзейнасці якога «нѣкоторое понятіе может дать хотя бы корреспонденція из Вильны, помѣщенная в № 1 нашего органа». Пасля Тотлебена прыйшоў Каханоў, які таксама сказаў праграмную мову, каторая «дышит солдатским жаром» і таксама прыракае праводзіць русіфікацыю краю. Мова Каханова дае нам перадусім паняцце аб ступені ўлады, «какой пользуются начальники Западнаго Края». З гэтай мовы мы бачым, што ў Беларусі для вышэйшага начальства «закон не писан».

Гэткім спосабам русіфікацыя ў нас адбываецца ўжо 20 гадоў, але вынікі яе негатыўныя. Скіраваная процiў паланізма, яна яго не толькі не выкараніла, «но напротив, дала еще большій толчек его развітію. Католичество в этом отношеніи обнаружило необыкновенную живучесть и упорность». Не давяла да пажаданых мэтаў ані русіфікацыйная палітыка зямельная, ані школьная. Агулам — да чаго датыкалася рука абрусіцеляў, тое ставалася нежывым, і такім чынам усе спробы русіфікацыі Беларусі на кожным шагу цярпелі няўдачы, не знаходзячы для сябе адпаведнага грунту. Ясная рэч, што ўся культурная барацьба, якая вядзецца ў нашым краі, датычыць, перадусім, інтэлігенцыі; народная ж гушча, замкнуўшыся сама ў сабе, астаецца, бадай, раўнадушнай і глухой да

* Віленскі генерал-губернатар († 1884).



тых спроб, якія над ёй хочуць даканаць абедзве стораны, што вядуць векавую барацьбу за панаванне над гэтай гушчай. «Народ не воспринимает всего того, что ему навязывают, а ревниво оберегает от чужих вліяній основныя черты своего быта, ожидая того момента, когда откроется возможность для широкаго развитія всѣх начал его жизни». Але гэта можа наступіць толькі тады, калі перастане барацьба верхніх слаёў і будзе магчымасць шырокага развою народнага жыцця. Тым часам урад да народа тасуе толькі сілу. Гэткае палажэнне зачынае выводзіць з цярпення сялян-беларусаў, каторыя гэтулькі працярпелі ў працягу ўсяго свайго гістарычнага жыцця.

Праўда, зямельная рэформа 1863 г., а таксама абяцанкі розных палёгкаў і прывілеяў праз некаторы час у народзе падтрымоўвалі надзею на расейскі ўрад, але пасля таго, калі ні адно з прырачэнняў урадавых не было споўнена і калі беззямельным бедняком прыйшлося ўміраць з голаду, аб ранейшай сваёй пашане да ўладаў народ стаў забывацца і адносіны яго да гэтых уладаў сталі штораз больш завастрацца. Доказам гэтага служаць сялянскія супраціўленні процiў улады ў розных месцах Беларусі. Да цара народ адносіцца таксама непрыхільна. Урад жа на ўсё мае адно лякарства — уціск, якім яшчэ больш павялічвае цяжкое палажэнне народа.

Беручы гэта ўсё пад увагу, няможна не цешыцца з выступленняў тых людзей, што імкнуцца сказаць слова праўды аб Беларусі. Такім, напр., ёсць «Первое письмо о Бѣлоруссіи» у заграничным «Вѣстникѣ «Народной воли». Да гэткіх выступаў можна залічыць нядаўна паявіўшаеся «Посланіе к Землякам Бѣлорусам», у якім дужа ўдатна апісаны здарэнні нашых дзён. Але ўсё гэта толькі спробы. Больш акуратна гэта зробіць наш орган, які сябе пасвяціў выясненню крычачых патрэб нашага няшчаснага краю.

Далей у «Гомоне» йдзе аддзел карэспандэнцыяў, з якімі хоць коратка належыць нам таксама пазнаёміцца.

**§ 3 «Корреспонденціи».**

Аддзел карэспандэнцыяў «Гомона», зразумелая рэч, менш цікавы. Аднак для поўнасці нашага з гэтым часопісам знаёмства збольшага пазнаёмімся і з іх зместам.

*З Дзісенскага пав.* Завастраюцца адносіны зямельныя не толькі між абшарнікамі, але і духавенствам. Так, напр., сяляне-арандатары царкоўнай зямлі ў Друі, нягледзячы, што срок арэнды скончыўся яшчэ ў 1882 г., зямлі не пакінулі, сілай аставаліся ў фальварку, карысталіся ім далей і дамагаліся бяссрочнай арэнды. Значыць, «понятіе о собственности в народѣ еще не выдѣлилось окончательно из понятія владѣнія и что право по земельной собственности еще

до нынѣ у нас не кристаллизировалось и не отвердѣло в опредѣленных формах*.

*З Слуцкага пав.* Сяляне в. Затур'е вялі спор з Радзівілам за пасьбішча. Суд прысудзіў у карысць Радзівіла. Калі ж прыйшло да разгранічэння, сяляне сілай да гэтага не дапускалі. Прыехала рознае начальства, а сяляне стаялі пры сваім. У выніку было чал. 20 арыштаваных. Сяляне ўрэшце ўступілі.

*З Менска.* Народ распраўляецца з сваімі эксплуататарамі. У сяле Залядзе, Слуцкага пав., багацела коштам сялян сям'я Александровічаў, прыблудаў. Дзеля сваіх мэтаў карысталіся яны крадзяжом, ашуканствам, разбоем і грозьбамі. Дастаўшы таксама грозьбай ад абшарніцы лесу, Александровічы сталі гнаць сялян на работу дзеля дастаўкі дрэва. Сяляне ўзбурыліся, акружылі дом Александровічаў і разбурылі яго, а трох Александровічаў забілі. Будзе суд. Пэўне, лагодны, бо — між іншым — сяляне прасілі ўлады выселіць ад іх Александровічаў, але дарэмна.

*З Пецярбурга.* Вышэйшае начальства з скуры лезе, каб «предупредить развитіе «крамолы» і «вольнодумства», але яму гэта не ўдаецца. Рэвалюцыйнасць развіваецца. Усцяж адбываюцца арышты, часта без разбору правых ці левых. З палітычнымі вязнямі абходзяцца дужа дрэнна. Газеты і журналы закрываюцца. З грамадскай думкай улады не лічацца. Бібліятэкі і чытальні абавязваюць падпіскай не выдаваць кніжак некалькі сот лепшых і найбольш папулярных аўтараў. Гэта родзіць вялікую патрэбнасць літаратуры нелегальнай. Астаецца толькі пажадаць, каб паявіліся Герцэны, каб сталі выдавацца такія папулярныя органы, якім быў «Колокол». У верасні выйшаў нелегальна № 10 «Народной воли», у якім варта адзначыць адказ Выканаўчага К-та партыі «нарадавольцаў» польскім сацыялістам, рэвалюцыйнай партыі «Пралетарыят». «В этом отвѣтѣ с большою опредѣленностью высказвается взгляд исполнительнаго К-та на національную независимость, причем этот послѣдній вовсе не находит в самостоятельном существованіи революціонных партій отдѣльных народностей бесполезнаго дробленія и несовмѣстимости с наибольшей интенсивностью борьбы против общаго врага: обезпеченіем этой интенсивности должен служить тѣсный союз между партіями, который, по словам Исп. Комитета, в интересах революціи столь же необходим, как і точная іх самостоятельность».

* Аўтар, гэтак цвердзячы, мыляўся, бо сяляне не затым на чужой зямлі сядзелі, што не мелі пачуцця ўласнасці, а іменна затым, што такое пачуццё мелі і што такое іх пачуццё было часта і груба крыўджана і гвалчана (*А. С.*).



Урад робіць сваю работу, а рэвалюцыянеры сваю. Прыйдзе час, калі няволі настане канец.

Пасля карэспандэнцыяў ідзе вялікі неазаглаўлены артыкул, які таксама прыносіць нам шмат чаго цікавага і з якім таксама мусім пазнаёміцца.

**§ 4. Неазаглаўлены артыкул аб нацыянальным пытанні.**

Рэдакцыя «Гомона» пасля карэспандэнцыяў памяшчае безназоўны артыкул, змест якога, як убачым, пасвечаны нацыянальнаму пытанню, які папярэджваюць наступныя рэдакцыйныя ўвагі.

— Артыкул гэты ўжо даволі даўно хадзіў у рукапісе ў Пецярбурзе сярод беларусаў. Уважаючы пытанні, закранутыя аўтарам, цікавымі і важнымі, а таксама лічачы пастаноўку іх гарманізуючай у многім з уласнымі нашымі паглядамі, змяшчаем гэты артыкул у нашым органе, жадаючы такім чынам зрабіць яго больш даступным для шырэйшага круга чытачоў.

Далей ідзе гэты артыкул, якога змест у скарачэнні ніжэй падаём.

— Нацыянальнае пытанне, распрацаванае ўжо дастаткова тэарэтычна і знайшоўшае ўжо самастойнасць сярод іншых грамадскіх пытанняў, паявілася не так даўно. Практычны яго зародак адносіцца да самай глыбокай старадаўнасці, калі асобныя плямёны варожа спатыкаліся між сабой за панаванне адно над другім. Бачым мы яго і пазней у грэкаў і рымлян, каторыя ў імя перавагі «сваёй пароды» дапускаліся жудасных гвалтаў пад рознымі «барбарамі», лічачы іх пароду ніжэйшай і народжаных для нявольніцтва. У выніку гэткага пагляду была няволя, тыранія і смерць многіх нават вялікіх народаў. У барацьбе гэтай нацыянальнай свядомасці яшчэ няма. Гэта ёсць натуральная барацьба за існаванне. Мы тут бяром за пачатак нацыянальнага пытання той момант, калі ён паявіўся, як важны «общественный вопрос, уже испытавшій на себѣ попытку критики. Вопрос этот в нашем смыслѣ был выдвинут той самой вел. франц. революціей, которая претендовала на самую широкую космополитичность и которая желала облагодѣтельствовать все человѣчество невиданной свободой, выросшей на французской почвѣ». Французская нацыя першая прычынілася да паўстання сучаснага нацыянальнага пытання, якое ў найвялікшага нямецкага патрыёта Фіхтэ атрымала і тэарэтычную формулу. Нягледзячы на гэта, нац. пытанне дагэтуль мае ў сабе шмат аднастароннасці, і нам, беларусам, трэба раз назаўсёды выказацца аб ім, каб ухіліцца ад усякіх непаразуменняў і абвінавачання нас у вузкім сепаратызме.

Аднастароннасць і вузкасць разумення нац. пытання ў тым, што ў паняцце нацыянальнасці заўсёды ўносілася тэндэнцыя гвалту адной нацыі над другой і замкнёнасць нацыяў у сваіх асабістых, часта

адсталых, інтарэсах. Лічачы чужыя нацыі «ніжэйшай расай», кожная нацыя звычайна гаворыць толькі аб сваёй уласнай дасканаласці: немцы аб «нямецкім духу», палякі аб «польскім духу», велікаросы аб «рускім духу» і г. д. А гвалт называецца ўласным імем толькі тады, калі ён датычыць уласнай нацыі. Гэткае разуменне нац. пытання змусіла сацыялізм да яго адносіцца адмоўна. Крытыкуючы сучасны эканамічны і палітычны строй, сацыялізм лагічна дайшоў да пярэчання нац. пытання, вырасшага на грунце буржуазнай свабоды: «Зачѣм политическая свобода, когда ею пользуются тѣ, кто угнетает націю. Зачѣм національный патріотизм, когда им пользуются для лучшей эксплотаціи народных масс... Зачѣм во імя патріотизма эта нація будет уничтожать другую, когда в результатѣ борьбы пострадает та или другая в лицѣ простого народа...» З адказу на гэтыя пытанні сацыялізм дайшоў да поўнай негацыі нацыянальнага пытання.

Асаблівасць, аднак, характару кожнага народа, яго эканамічнага і палітычнага палажэння, кліматычныя і этнаграфічныя асаблівасці краю змусілі сацыялізм значна змяніць сваю нацыянальную праграму. Нават сам Бакунін, спярша крайні вораг нац. пытання, у канцы канцоў прызнаваў у некаторай меры права нацыі. «Всякій народ, точно также, как всякое лицо, есть поневолѣ то, что он есть и имѣет несомнѣнное право быть самим собою. В этом заключается все так наз. національное право». Нацыянальнасць — гэта адзін з элементаў развіцця чалавецтва, наколькі адна нацыя не няволіць другой нацыі і наколькі развіццё гэта служыць матэрыяльным і духовым патрэбам дадзенай нацыі і яе свабодзе. Без свядомасці сваёй асобы ў кожнага чалавека народ быў бы стадай, без свядомасці сваіх асаблівасцяў у кожнага народа такой стадай было б усё чалавецтва.

Дзяржаўная цэнтралізацыя, што хоць і штучна звязала ўсе дробныя плямёны, аддаляючы такім чынам дужа шкодную для чалавецтва барацьбу гэтых плямён, адслужыла гістарычную службу і ў сваім часе мела сваё апраўданне. Цяпер жа, калі плямёны зжыліся між сабой да больш-менш свядомай салідарнасці, калі паўсталі нацыі ў сучасным разуменні, яны ўжо, як асобы, выйшлі з-пад апекі пут цэнтралізацыі і стараюцца заняць у грамадскім жыцці адпаведнае месца, усестаронна і свабодна развіваючы сваю індывідуальнасць. «Всякая нація, как и всякая личность, не только имѣет право, но и обязана защищать свою самостоятельность во всем, что не противорѣчит развитію человѣчества вообще и каждой чужой націи в частности. Всякая поэтому нація, как бы она слаба не была, заслуживает полнаго признанія ея самостоятельности...» Дык



няслушна цвердзяць вузкія нацыяналісты, што народ, які не можа абараніць сваю самастойнасць, павінна праглынуць іншая нацыя сільнейшая. А мы думаем, што такую нацыю трэба падтрымаць і даць ёй магчымасць стаць на ногі дзеля таго, каб свабодна праявіць сябе. Трымаючыся гэткага пагляду, мы «считаем необходимым энергично защищать Бѣлоруссію как от польскаго, так и от великороссійскаго насилія...». Наша бацькаўшчына мае ўсе арыгінальныя асаблівасці, якія прыдаюць ёй характэрную фізіяномію і самым натуральным спосабам высоўваюць яе як асобную галіну славянскага племя. Яна рэзка розніцца ад сваіх суседзяў — велікарусаў, палякаў і маларусаў. Беларускі народ на працягу доўгіх вякоў, зносячы горкі свой лёс ад палякаў і велікарусаў, чуе сваю арганічную лучнасць і адрознівае свае інтарэсы ад інтарэсаў польскіх і вялікарасейскіх.

Да ўсяго гэтага трэба прыбавіць, што Беларусь мае сваю асобную мову, якая, паводле думкі дазнаных філолагаў, мае ў сабе шмат чаго цікавага. «Развитіе языка, конечно, дѣло будущаго, когда сама Бѣлоруссія воспрянет духом, а это главным образом будет зависѣть от ея экономическаго улучшенія. Заботу о нем мы оставляем любителям-бѣлорусам.

Всѣ эти особенности Бѣлоруссіи дают право на автономную, федеративную самостоятельность в семьѣ других народностей Россіи в будущем...»

Кажуць, што Беларусі, як і іншым народам, для гэтага трэба мець свае гістарычныя традыцыі. Вось жа Беларусь і гэткія мае, а калі не гэтулькі і яны не такія слаўныя, як у іншых народаў, дык не бяда. «В Бѣлоруссіи нѣт исторических традицій славнаго прошлага и ей не приходится рядиться и прикрываться лохмотьями старины — она заживет во имя славнаго будущего и в этом ея преимущество. Народ сгруппируется около той интеллигенціи, которая будет стоять за его насущные интересы, интересы прежде всего экономическіе и на этой почвѣ приходится интеллигенціи заложить фундамент новых традицій, традицій благотворных».

Але, можа, народ так забіты, што і не патрапіць і не захоча бараніць сваіх інтарэсаў і карыстацца ў будучай федэрацыі аўтаноміяй? І гэта не. Беларусы не раз падымаліся ў абарону сваёй рэлігіі і процiў гнёту шляхецтва. Пры Аляксандру І яны пры помачы масавага руху ў Віцебскай губ. і ў інш. прабавалі асвабадзіцца ад паншчыны. Гэта ж самае яны рабілі пры Мікалаю І; пры надзеле зямлёй яны патрабавалі больш справядлівасці, былі бунты і экзекуцыі. Сёння беларусы таксама энергічную вядуць аграрную барацьбу з панамі. А гэтая вонкавая прыбітасць і незараднасць беларуса —

гэта ў яго толькі спосаб, каб скрыць свае думкі. «Всякій бѣлорус всегда старается показаться простяком и дураком только для того, чтобы вѣрнѣе угадать «тайное» намѣреніе собесѣдника».

Пераходзячы да беларускай інтэлігенцыі, трэба сказаць, што яна, як прадстаўніца народных інтарэсаў, знаходзіцца «в потенціи» і што шмат прыйдзецца працаваць, каб яна праявілася. Але яна паявіцца з тых слаёў, што стаяць блізка да народа. Гэтая бел.-нар. інтэлігенцыя будзе больш іншых здольная ўзвысіцца да сучасных здабыч агульналюдскога поступу. «Правда, у нея не будет того безсознательно узкаго націонализма, который называется обыкновенно «духом», — у нея не будет «бѣлорусскаго духа», — но зато она будет проникнута сознательным народничеством... Насколько бѣлорусская інтеллигенція, при всей своей инертности, заключает в себѣ дѣвственной силы, может служить доказательством огромный процент участников в общественной борьбѣ за лучшіе идеалы интеллигенціи в Россіи (Судзиловскій, Ковалик, Исаев, Гриневицкій и масса менѣе извѣстных в борьбѣ партіи «Народнай волі»).

Бліжэйшыя ж задачы бел[арускай] інтэлігенцыі наступныя: яна павінна развівацца ўсестаронна, тэарэтычна і практычна. Трэба працаваць для народа і ведаць, у якім кірунку. Вялікая розніца ў тым, ці народнік інтэлігент зверне ўсю сваю ўвагу на «развитіе бѣлорусскаго языка и на развитіе бѣлорусской народной гордости и сепаратизма, или он выставит на первый план экономическое улучшеніе и политическое развитіе страны... И так, теорія и практика, практика и теорія — обѣ параллельно, обѣ рука об руку».

«При такой постановкѣ бѣлорусскаго вопроса, бѣлорусов нельзя было бы назвать сепаратистами, да и самыя условія борьбы настолько сближают бѣлорусов с сосѣдями и настолько препятствуют какой бы то ни было замкнутости, что всякія сепаратистическія стремленія становятся рѣшительно немыслимы».

«И так, мы бѣлорусы, так как мы должны бороться во имя мѣстных интересов бѣл. народа и федеративной автономіи страны; мы революціонеры, потому что, раздѣляя программу борьбы «Народнай волі», считаем необходимым принять участіе в этой борьбѣ; (с «Нар. волей» мы уже связаны традиціями: Гриневицкій, бомбой котораго казнен Александр II, был одним из горячих основателей бѣл. мѣстной фракціи); мы соціалисты, потому что нашей главной цѣлью является экономическое улучшеніе страны на началах научнаго соціализма».

«Вот основныя положенія программы, которыя ясно могли бы опредѣлить отдаленныя цѣли и ближайшую практическую дѣятельность бѣлорусов».



«Нынешній историческій момент является наиболѣе удобным для пробужденія Бѣлоруссіи, которая при дружной работѣ и борьбѣ нашей интеллигенціи переродится для новой самостоятельной жизни и займет почетное мѣсто среди других федерацій Россіи на началах свободнага соглашенія с ними».

Гэта ж усё асягнецца барацьбой рука аб руку з «Нар[однай] воляй», каб не драбіць рэвалюцыйных сіл і не шкодзіць як для вызвалення Расеі, так і Беларусі. Беларусы павінны з агульным ворагам змагацца — паводле сваіх здольнасцяў — хто ў цэнтры, а хто па сёлах Беларусі.

Гэтак выглядае агульна галоўны змест гэтага безыменнага артыкула.

Канчаюць «Гомон» рэдакцыйныя ўвагі: а) праф. Каяловіч цікавіцца «Гомоном»: дзе ён выходзіць і хто ў ім працуе. Хто з ім спатыкаецца — павінен быць асцярожным.

б) Многія артыкулы і карэспандэнцыі не ўвайшлі ў гэты нумар «Гомона», бо або ўстарэлі, або проста да рэдакцыі не дайшлі. Рэдакцыя просіць сваіх супрацоўнікаў пісаць, а асабліва даваць весткі з розных канцоў нашай бацькаўшчыны.

в) Абвестка: прымаюцца ахвяры на пашырэнне выдавецтва «Гомона» і арганізаванне друкарні.

Гэтым і канчаецца другі нумар «Гомона», аб якім тут вядзецца гутарка*.

## VII. «MUŻYCKAJA PRAŬDA» І «ГОМОН»

З таго, што вышэй сказана аб «Mużyckaj Praŭdze» і аб «Гомоне», можна ўжо аб іх мець даволі поўнае паняцце. І дзеля гэтага шмат паўтарацца тут не будзем, хіба толькі ў меру канечнасці, а пераважна на падставе ведамых нам аб гэтых часопісах вестак пастараемся зрабіць сінтэтычнае між імі параўнанне.

Галоўная палітычна-грамадская мэта «Muż[yckaj] Praŭdy», да якой яна заклікае беларускіх сялян, гэта: пазбыцца расейскага цара,

* Аб «Гомоне» ўдалося мне яшчэ даведацца наступнае: Я. Цвікевіч некалькі гадоў таму ў Менску меў шмат аб «Гомоне» сабраўшы матэрыялу. Між іншым А. Цвікевіч цвердзіць, што ёсць «Гомона» таксама і № 1 у Інстытуце Леніна ў Маскве, якога ён бачыў арыгінал. Фатаграфію з арыгінала бачыў у тым жа Інстытуце Л. Мэнке. А. Цвікевіч, на падставе сабраных ім матэрыялаў, дагадваецца, што «Гомон» выходзіў у Менску. Гэтыя весткі падаў мне Л. Мэнке, якому тут за гэта выражаю сваю падзяку *(А. С)*.

пазбыцца паноў і паншчыны, здабыць для сялян зямлю на ўласнасць, не плаціць вялікіх і крыўдных падаткаў, служыць у краёвым войску і ваяваць толькі за волю свайго краю, калі хто на яго нападзе, мець вольнасць трымацца той веры, якой трымаліся продкі народа і быць вольнымі людзьмі, як гэта было ўжо ў многіх, а ў многіх заводзілася, дэмакратычных дзяржавах Еўропы.

«Muż[yckaja] Pr[aŭda]» заклікае беларускіх сялян да паўстання разам з палякамі процiў расейскага цара і процiў польскіх паноў. Палітычным сваім зместам яна такім чынам адгароджваецца ад Расеі як такой, з Польшчай жа не зрывае, а зрывае толькі з панскім, пануючым класам.

Мэта беларускага ўдзелу ў польскім паўстанні — здабыць вольнае і шчаслівае жыццё, вольнае ад паншчыны і вольнае ад палітычнага польска-дзяржаўнага цэнтралізму.

У часопісе гэтым, праўда, не спатыкаем ані разу слоў: Беларусь, беларускі народ. Гаворыцца там толькі аб «нашым народзе» агулам, гаворыцца аб «мужыкох», аб «мужыцкай долі», аб «мужыцкім народзе», аб «нашым краі». Але край гэты і народ ягоны хоць дужа агульна, дужа асцярожна, разважаецца як нешта асобнае і рознае ад Польшчы і палякаў. Заклікае гэты часопіс беларускіх сялян да паўстання разам з Польшчай, але з той, якая ідзе за «мужыкоў» і якая гарантуе вольнасць беларускаму народу і краю.

Словам, «Mużyckaja Praŭda» — гэта тыповы беларускі пачаткова-народніцкі часопіс*. Праўда, у ім яшчэ пануюць традыцыі Вял. Кн. Літоўскага, але праз гэтыя традыцыі, асабліва на тле часу яго выхаду ў свет, відацца ўжо зародкі новых беларускіх вызвольна-нацыянальных ідэяў. «Mużyckaja Praŭda» — гэта прадвесніца і пачынальніца палітычна-сацыяльнага вызвалення беларускага народа, як складовай часткі ўсебаковага нацыянальнага адраджэння ягонага, гэта ранішняя зорка на беларускім небасхіле, якая азнаямляе беларускаму народу ўсход сонца і будзіць гэты народ да долі і волі.

* * *

Думка беларускага палітычна-сацыяльнага вызвалення, засеяная «Mużyckaj Praŭdaj», марна не прапала, а жыла і развівалася далей. На дваццаць другім годзе пасля выхаду яе ў свет паявіўся

* Народніцтва развівалася на працягу 30-х гадоў: ад 1860 да 1890. (Савецк. Энцыкл.)



новы беларускі палітычны часопіс «Гомон». Часопіс гэты сапраўды ёсць прадаўжэннем «Mużyckaj Praŭdy» і яе дапаўненнем.

Ідэёвы змест «Гомона», вылажаны цалком выразна, як мы ўжо бачылі, у артыкуле першым і апошнім, — гэта барацьба за палітычную і эканамічную самастойнасць Беларусі ў агульнарасейскай федэрацыі.

Першы артыкул, абгаварыўшы тактыку барацьбы беларускіх нарадавольцаў і іх адносіны да расейскай «Народнай волі» і труднасці, якія яны ў сваіх пачынаннях напаткаюць, канчаецца гэтак: «Но как бы ни велики были эти трудности, мы, поскольку это будет в наших силах, положим первый камень для фундамента федеративной самостоятельности Бѣлоруссіи...»

Беларускія нарадавольцы, як гэта відаць з «Гомона», з боку многіх расейцаў напаткалі нямала перашкод і сумніваў у вартасць іх працы. Ужо тады яны нашых барацьбітоў за Беларусь страшылі нацыяналізмам і сепаратызмам. Вось жа артыкул аб нацыянальнай праблеме адбівае закіды, абасноўвае паняцце нацыі агулам і беларускай у асобнасці, а таксама па-свойму бароніць правоў беларускага народа на палітычную і эканамічную самастойнасць у агульнарасейскай федэрацыі. Вось хоць некаторыя даслоўныя выбаркі з апошняга — шырэйшы змест якога паданы вышэй — артыкула ў «Гомоне», які яскрава пацвярджае вышэй сказанае.

«Считаем необходимым энергично защищать Бѣлоруссію как от польскаго, так и от великороссійскаго насилія... Всѣ особенности Бѣлоруссіи дают право на автономную федеративную самостоятельность в семьѣ других народностей Россіи в будущем...»

У наваўзгаданай беларускай інтэлігенцыі «не будет того безсознательнаго узкаго націонализма, который называется обыкновенно «духом», — у нея не будет — бѣлорусскаго духа, — но зато она будет проникнута сознательным народничеством»...

Беларуская інтэлігенцыя павінна звярнуць сваю ўвагу не на «развитіе бѣлорусскага языка и на развитіе бѣлорусской народной гордости и сепаратизма», але яна павінна выставіць «на первый план экономическое улучшеніе и политическое развитіе страны... При такой постановкѣ бѣлорусскаго вопроса Бѣлорусов нельзя было бы назвать сепаратистами... Нынѣшній историческій момент является найболѣе удобным для пробужденія Бѣлоруссіи, которая при дружной работѣ и борьбѣ нашей интеллигенціи переродится для новой самостоятельной жизни и займет почесное мѣсто среди других федерацій Россіи на началах свободнаго соглашенія с ними»...

* * *

Маем мы ўжо, такім чынам, агульнае паняцце аб «Mużyckaj Praŭdzie» і аб «Гомоне». Для поўнасці нашых нарысаў дакінем слоў колькі аканчальнага параўнання між імі.

Цэнтрам і апорай імкненняў «Mużyckaj Praŭdy» была Польшча. Каля яе, як каля свайго ядра, мела тварыцца федэрацыя, — аб якой там яшчэ выразна не ўспамінаецца, — народаў быўшага Вял. Кн. Літоўскага. У «Гомоне» ўжо яўна спатыкаем ідэю федэрацыі, але ўжо з Расеяй, чаго вымагалі тагачасныя гістарычна-палітычныя варункі Беларусі.

«Mużyckuju Praŭdu» пісалі і выдавалі беларусы-каталікі польскай культуры, а сярод беларускіх нарадавольцаў-гоманцаў ужо паяўлялася беларуская інтэлігенцыя праваслаўная. Першыя яшчэ агляваліся на Польшчу і на традыцыі Вял. Кн. Літ., а другія лучылі лёс Беларусі з Расеяй і ўжо аб традыцыях Вял. Кн. Літ., калі не лічыць Грынявіцкага, бадай не помнілі нічога. Гэтыя інтэлігенты ўжо не называлі сябе літоўцамі, як гэта рабіў Каліноўскі і нават яшчэ Грынявіцкі, але выразна беларусамі. Яны ўжо перасталі жыць традыцыямі Вял. Кн. Літоўскага.

Можна смела сказаць, што на беларускіх нарадавольцах, што групаваліся каля «Гомона», ці мо яшчэ лепш: на самым «Гомоне», — традыцыі польскія, шляхоцкія і літоўскія адмерлі цалком. Такім чынам, «Гомон» — гэта сапраўды далейшы і зваротны пункт у беларускай палітычна-вызвольнай думцы. «Гомон», як мы ўжо бачылі, усе беларускія землі заве беларускімі, а ўвесь народ наш беларускім, і снуе выразныя думкі аб яго палітычнай, сацыяльнай і эканамічнай самастойнасці, чаго так выразна і ў такой меры ў «Mużyckaj Praŭdze» яшчэ не спатыкаем.

Заходзіць таксама розніца між «Гомоном» і «Mużyckaj Praŭdaj» і што да ідэалагічных асноў іх. «Mużyckaja Praŭda» — гэта часопіс, які бы можна было сёння назваць беларускім радыкальным і сялянскім, або народным радыкальна-дэмакратычным, а «Гомон» — гэта ўжо часопіс з ідэалогіяй — хоць яшчэ не марксаўскай, — але па-свойму сацыялістычнай, які ў аснову будучай Беларусі кладзе, як выразна аб гэтым сам кажа, «научный социализм».

Калі ж, урэшце, ідзе аб беларускі нацыянальны элемент, як такі, дык яго ў «Mużyckaj Praŭdzie» можна бачыць толькі ў тым, што яна была пісана па-беларуску і што бараніла палітычныя і эканамічныя правы беларускага народа.

У «Гомоне» ж шмат больш беларускага нацыянальнага «духу», хоць ад гэтага ён энергічна адкараскваецца. У «Гомоне» беларускі народ — гэта народ самастойны, розны ад іншых славянскіх народаў, а таксама мова яго, псіхіка, звычаі — усё рознае, асаблівае, беларускае. Ужо гэткі пагляд на беларускі народ сапраўды мае ў сабе нямала беларускага нацыянальнага элементу. Праўда, «Гомон» ці з пераканання, ці мо з тактычных паглядаў, каб не дражніць расейскіх патрыётаў-імперыялістаў, якія здараліся сярод нарадавольцаў, заяўляе, што Беларусь да сепаратызму не імкнецца, што справу развіцця беларускай мовы і культуры трэба пакінуць «любителям», бо галоўнай мэтай беларускіх нарадавольцаў павінна быць федэрацыйная самастойнасць Беларусі і эканамічны яе дабрабыт, — то ўсё ж такі гэта ўсё не змяншае ў ім — наадварот павялічвае — вялікую дозу беларускага нацыянальнага элементу. Сам факт разважання нацыянальнай беларускай праблемы і адгароджванне ад беларускага нацыяналізму гаворыць аб яго існаванні, аб патрэбе з ім лічыцца і аб патрэбе заняць да яго адпаведнае становішча.



* * *

Дык пытаем урэшце, што важнейшае для беларускага народа: «Mużyckaja Praŭda» ці «Гомон»? Здаецца, не памылімся, калі скажам, што абодва гэтыя часопісы важныя кожны ў сваім часе, у сваіх варунках і ў сваім значэнні. «Mużyckaja Praŭda» — гэта першае зерне, першы пачатак беларускай палітычна-вызвольнай думкі, а «Гомон» — гэта той жа думкі прадаўжэнне. Тое, аб чым «Mużyckaja Praŭda» пісала дужа агульна, імглiста, «Гомон» называў па іменні.

«Mużyckaja Praŭda» да беларускага нацыянальнага прынцыпу як такога, да паняцця бел. народа як нацыі яшчэ дужа далёка. Зусім да яго блізкі «Гомон», на які прынцып гэты ўжо насядае, хваляй сваёй яго залівае, але і «Гомон» ад яго поўнага зразумення, ад яго прыняцця ў сваю палітычную ідэалогію яшчэ ўхіляецца і адмаўляецца.

Але нядоўга ўжо прынцып беларускай нацыі дабіваўся ў дзверы беларускага вызвалення, каб даць яму новыя творчыя сілы і скіраваць беларускі народ на шлях усебаковага нацыянальнага адраджэння і сацыяльна-палітычнага вызвалення. Калі расейскія нарадавольцы, а ў іх ліку і беларускія, гінулі на царскіх шыбеніцах, тады разлягаўся новы творчы кліч да беларускага народа слаўнага Ф. Багушэвіча: «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

Кліч жа гэты якраз і выражае той нацыянальны прынцып, які лёг у аснову сучаснага адраджэння і вызвалення беларускага народа.

## VIII. НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЭЛЕМЕНТ У БЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫЧНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМЦЫ

### § 1. Ф. Багушэвіч

Разважаныя намі дагэтуль кірункі палітычнага вызвалення беларускага народа не мелі адной, дужа важнай прыкметы — гэта: беларускага нацыянальнага пачуцця. Праўда, кірункі гэтыя імкнуліся да здабыцця для беларускага народа правоў грамадска-палітычных, але правоў гэтых яшчэ яны не думалі ставіць на аснове беларускай нацыянальнасці, на асновах беларускіх, самастойных. Яшчэ гэткай свядомасці не было ані ў Каліноўскага, ані ў Грынявіцкага, ані ў тых беларускіх народнікаў, што гуртаваліся каля «Гомона».

Каліноўскі бароўся за грамадскія і палітычныя правы беларускага народа, але правы гэтыя бачыў не ў асобнай, не ў нацыянальнай самастойнасці гэтага народа на ягоных землях, але ў палітычнай самастойнасці разам усіх народаў зямель быўшага Вялікага Княства Літоўскага, а да таго, — хоць свабодна і лёзна, — але злучаных федэрацыйна з Польшчай.

Зноў жа Грынявіцкі, як мы бачылі, вырастаў ужо з гэткай ідэалогіі, пакідаў яе; ён, праўда, яшчэ адной нагой стаяў на грунце палітычнага светагляду Каліноўскага, але затое другой стаяў ужо на грунце новым, на грунце «Гомона». Але ані Грынявіцкі, ані «Гомон» у барацьбе сваёй за палітычнае вызваленне беларускага народа прынцыпу беларускай нацыянальнасці яшчэ не ўводзіць. У «Гомоне», як памятаем, ужо нічога не спатыкаем, што наводзіла б нас на ўспамін Вял. Кн. Літоўскага, а проста ў ім гаворыцца аб Беларусі і аб беларускім народзе. І гэтым «Гомон» бліжэй да беларускага народа, як «Mužyckaja Praŭda». Але прынцыпу беларускай нацыянальнасці, на якой можна будаваць беларускую волю і долю, «Гомон» яшчэ таксама ў сабе не мае. Праўда, гоманцам, хоць яны па-расейску пішуць свой часопіс, іхныя таварышы маскалі закідаюць, што яны сепаратысты, але яны горача ад гэтага бароняцца і даказваюць, што ад Расеі цалком аддзяляцца не думаюць, бо стаяць за Беларусь у федэрацыі з Расеяй і што справа беларускай нацыянальнасці агулам і беларускай нацыянальнай культуры — гэта справа, можа, якіх аматараў, а не паважных палітычных дзеячаў. І тут, як бачым, свядомасці беларускага нацыянальнага прынцыпу, на якім трэба было б будаваць самастойнасць Беларусі, яшчэ нямашака.

Вось жа, у параўнанні з беларускімі народнікамі часу Каліноўскага і часу гоманцаў, у справе беларускай агулам, а гэтым самым і ў справе беларускай палітычна-вызвольнай думкі, важны і рашучы робіць шаг наперад Ф. Багушэвіч. Гэты ягоны шаг мае пераломнае і прынцыповае значэнне.



Жадаючых бліжэй пазнаёміцца з Багушэвічам адсылаю да маёй аб ім кніжыцы*; тут жа пастараюся ў кароткіх словах сказаць аб гэтым вялікім беларусе тое, што дагэтуль аб ім не было ведама і што беспасярэдна адносіцца да гэтай маёй працы.

Радзіўся Ф. Багушэвіч у 1840 г., але не ў Кушлянах Ашмянскага пав., як дагэтуль думалася, а ў Свіранах Свянцянскага пав. Скончыў праўны Ліцэй у Нежыне, займаў праўныя пасады ў глыбіні Расеі, а каля 1884 г. асеў настала ў Вільні і займаўся адвакатурай пераважна сярод беларускага сялянства. Працаваў таксама нямала пяром. Плодам гэтай працы, апрача шырока ведамых «Дудкі» і «Смыка» і апрача дагэтуль недрукаваных: «Скрыпкі»і «Тралялёначкі»[21], меў таксама быць беларускі слоўнік, для якога Багушэвіч быў назбіраўшы шмат матэрыялу**. На вялікі жаль, гэты багаты матэрыял, сабраны Багушэвічам да беларускага слоўніка, як і іншыя яго розныя матэрыялы і дакументы, відаць, прапалі ў дзяцей яго ці мо зайздросна хаваюцца імі дзе ў куфры ад беларусаў, да якіх адносіны іх цалком іншыя, як іх вялікага ў беларускім адраджэнні бацькі.

Адносіны ж гэтыя Багушэвіча да справы беларускай сапраўды асаблівыя. Справе гэтай ён уліў душу беларускую, бо ён першы надаў ёй беларускі нацыянальны характар у сучасным разуменні. Праўда, Багушэвіч увёў гэты беларускі нацыянальны прынцып у

---

* Ad. Stankiewič. Francič Bahušewiš, jaho šyćcio i tworčašć. U tryccatyja ŭhodki śmierci (1900–1930). Wilnia, 1930.

** «Św. pam. Franciszek Bohuszewicz, dydaktyczny wierszopis białoruski, literat, ludoznawca, filantrop, ziemianin z gubernii Wileńskiej, urodził się w Swiranach w roku 1840, nauki gimnazyalne pobierał w Wilnie, z kolei studjował matematykę i przyrodnictwo we wszechnicy petersburckiej, wreszcie skończywszy świetnie liceum prawnicze w Nieżynie zajmował posady rządowe w głębi cesarstwa, a około roku 1884 osiadł w Wilnie na stałe i trudnił się adwokaturą, przeważnie w sferze ludu, dla którego mając szczegó1ną miłość bratnią, poświęcał swe wytrawne pióro. Owocem tej pracy były gawędy: «Dudka» pod pseŭdonimem Macieja Buraczka, «Smyk» pod pseŭdonimem Szymona Reŭki i «Tralalonoczka». Miał też wydać poemat «Skrypka» i inne rzeczy, a głównie «Słownik bałoruski», do czego zgromadzał obszerny materyał; lecz siły, wyczerpane pracą, nie dopisały i po ciężkich cierpieniach zgasł w Bogu 18 kwietnia 1900 r. w rodzinnym folwareczku Kuszlanach (powiat Oszmiański), pochowany na cmentarzu parafialnym w Żupranach przy wielkiem zebraniu opłakującego go ludu i licznego obywatelstwa. Aleksander Jelski». (Kalendarz 1902. R.-K. T-wo Dobroczynności w Petersburgu.)

Цэнную гэту вестку аб Багушэвічу, узятую з успомненага календара, даў мне кс. Ул. Талочка, за што яму выражаю тут падзяку. *(А. С.)*

літаратуру, бо ж ніякай беларускай палітыкай ён не займаўся, аднак значэнне гэтага яго нацыянальнага прынцыпу так вялікае і шырокае, што адносіцца яно да ўсяго беларускага адраджэння, а значыць, і да справы палітычнага вызвалення беларускага народа.

Дык прыгледзімся ж бліжэй, у чым для нас асаблівае значэнне Багушэвіча. А вось у чым. Праўда, гадоў без мала сто прад Багушэвічам ужо паявілася першая ластаўка беларускай літаратуры ў жывой мове народа, якой была «Энеіда»[22]. Пасля гэтага па-беларуску пісаў Паўлюк Багрым, паявіўся беларускі літаратурны твор «Тарас на Парнасе», пісалі па-беларуску Баршчэўскі, Рыпінскі, Чачот, Каліноўскі, Дунін-Марцінкевіч і інш. Але ў творах гэтых, пісаных сучаснай беларускай мовай, спатыкаем то жарты з беларуса, то навуковыя разважанні над беларусам, над яго бытам і мовай, то спагадлівасць беларусу ў яго цяжкім жыцці то, урэшце, некаторыя з твораў гэтых прадстаўляюцца нам як творы беларускага прыгожага пісьменства, але не было ў іх аднаго найважнейшага — гэта свядомага беларускага нацыянальнага пачуцця[23]. Гэтую часціну, цалком прынцыповую, істотную для нас, увёў у беларускую літаратуру і агулам у беларускі адраджэнскі рух — Ф. Багушэвіч. А даканаў ён гэтага першы ў сваёй слаўнай прадмове да «Дудкі» і часткова да «Смыка», зварочваючы ўвагу нашага народа на тое, што ён беларускі народ асобны ад іншых, бо беларуская яго мова і той край, дзе жыве ён, таксама Беларуссю завецца. Да новага, да свядома нацыянальнага жыцця клікаў Багушэвіч беларускі народ, намаўляючы яго трымацца пры гэтым роднай беларускай мовы, як душы нацыянальнай, як адзнакі жыцця народа. «Шмат было такіх народаў, — кажа Багушэвіч у прадмове да «Дудкі», — што страцілі найперш мову сваю, — так, як той чалавек прад скананнем, катораму мову зойме, — а потым зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Значыць, мову беларускую, як той сродак, праз які можна абудзіць увесь беларускі народ да нацыянальнага жыцця, Багушэвіч ацаніў належна. Такім чынам, Багушэвіч сваім літаратурным творствам, якое мае на мэце ўсебаковае духовае і матэрыяльнае адраджэнне беларускага народа, «кладзе магутны камень пад рух беларускі і з'яўляецца духоўным бацькам беларускага адраджэння. Ён — першы ўсенародны беларускі правадыр і першы беларускі нацыянальны пясняр рэвалюцыянер»*. «Першае сапраўднае выяўленне беларускае

* М. Гарэцкі. Гіст. бел. літаратуры. Вільня, 1920. (Гл. раздзел аб Багушэвічу.)



ідэі, — кажа А. Цвікевіч, — і свядомае зацверджанне яе, як ідэі не правінцыйна польскай і не правінцыйна расейскай, а самастойнай, незалежнай ад таго ці другога боку, адносіцца да дзейнасці Ф. Багушэвіча»*.

Зварочваючы такім чынам у сваёй літаратурнай творчасці ўвагу беларускага народа на яго нацыянальнасць, на яго нацыянальную культуру і родную мову, а таксама і на яго цяжкое сацыяльнае палажэнне, рознае ад пануючых класаў і ўрадоўцаў чужынцаў, Багушэвіч гэтым самым і справу палітычнага вызвалення беларускага народа скіраваў на новы, ужо сапраўды беларускі нацыянальны шлях. Ф. Багушэвіч скончыў назаўсёды з беларуска-польскім народніцтвам Каліноўскага і з народніцтвам беларуска-расейскім гоманцаў, а пачаў і стварыў народніцтва беларускае нацыянальнае** і паказаў самастойныя дарогі беларускага нацыянальнага адраджэння агулам і нацыянальна-палітычнага вызвалення.

**§ 2. Адам Гурыновіч**

Першым і годным спадкабернікам беларускага нацыянальнага народніцтва па Ф. Багушэвічу, а таксама далейшым колцам у ланцугу беларускай палітычна-вызвольнай думкі быў Адам Гурыновіч. Пазнаёмімся з ім крыху бліжэй.

Радзіўся ў 1869 г. у двары сваёй маткі Кавалёх Вілейскага пав.[24]. Бацька яго — беларускі апалячаны шляхціц, а матка — полька. Дом Гурыновічаў авеяны быў лібералізмам і дэмакратызмам. Вучыўся малады Адам спярша дома, а пасля ў віленскай рэальнай гімназіі, па сканчэнні якой уступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут. Пайшоў ён, як бачым, шукаючы навукі, па той жа дарозе, што і Ігнат Грынявіцкі. І той, як памятаем, спярша беластоцкі рэаліст, а пасля пецярбургскі студэнт-тэхнолаг. У інстытуце Гурыновіч спецыяльна займаўся справай палепшання паравозаў. У гэтым кірунку быў ён быццам ужо на дарозе да важных і цікаўных навуковых вынаходаў. На жаль, навуковыя яго рукапісы разам з часткай іншай літаратуры знішчаны перад адным з паліцэйскіх вобыскаў.

У 1893 г. за прыналежнасць да рэвалюцыйнага руху, за праводжанне ідэяў беларускага нацыянальнага народніцтва Гурыновіча расейскія царскія ўлады арыштавалі. Здарылася гэта ў Вільні,

* А. Цвікевіч. «Западно-Руссизм». Менск, 1929. Бач. 184–187.

** «...Идеологом освобожденія Белоруссии через национально-культурное самоопределеніе белорусов и родоначальником новейшей белорусской литературы явился сын беднаго шляхтича Богушэвич»... (Мал. Сов. Энц. 1930. Т. 1. Белоруссия.)

у ўласным Гурыновічаў доме, пры вул. Пірамонт, № 22. Пагоршылася справа, калі сярод яго папераў паліцыя знайшла напісаны Гурыновічам беларускі верш, у якім ён кліча беларускі народ прачнуцца і скінуць з сябе царскае ярмо. Арыштаваны Гурыновіч апынуўся ў Петрапаўлаўскай крэпасці ў Пецярбурзе, у якой, прабыўшы блізка год, моцна занапаў на здароўі; дзеля гэтага быў звольнены пад надзор паліцыі ў двор свайго бацькі Крыстынопаль Свянцянскага пав., дзе пасля колькіх дзён захварэў на чорную воспу, прывезеную з паўночнай сталіцы, і памёр 14 студзеня 1894 г. Паліцыя зорка сачыла Гурыновіча, не верачы, што памёр. І толькі матка Адама, як цвердзяць сваякі ягоныя, пераканала паліцыю, паказываючы на нябожчыка, як на ахвяру паліцэйскага і царскага праследу. Пахаваны Гурыновіч у Крыстынопалі, у фамілійных грабніцах.

Яшчэ ў апошняй хвіліне свайго жыцця, маючы надзею перамагчы страшэнную хваробу, снаваў Гурыновіч планы будучае працы на ніве роднага краю, з думкаю будзіць і клікаць да жыцця беларускі народ.

Гурыновіч пісаў па-беларуску вершам і прозай, перакладаў на беларускую мову вершы і прозу польскіх і расейскіх пісьменнікаў, а таксама збіраў беларускія этнаграфічныя матэрыялы. Частка літаратурнай спадчыны яго знаходзіцца ў Беларускім музеі ў Вільні, а асабістая карэспандэнцыя знаходзіцца ў сваякоў Гурыновіча*.

Шкада, што літаратурная спадчына Гурыновіча так доўга марынуецца ў Бел. музеі ў Вільні. Выданая друкам, яна ў значнай меры прыслужылася б да ярчэйшага асвятлення асобы аўтара, як барацьбіта за беларускае нацыянальна-палітычнае вызваленне згодна з думкай Багушэвіча. Аднак і з тых твораў Гурыновіча, якія ўжо надрукаваны, відаць выразна, што ён — гэта сапраўды ідэёвы наступнік Багушэвіча, цалкам пераняўшы яго думкі аб беларускім нацыянальным вызваленні.

Гісторык беларускай літаратуры М. Гарэцкі цвердзіць**, што Ад. Гурыновіч належаў да складу рэдакцыі «Гомона». А з гэтага сам сабой напрошваецца вывад, што, апрача Багушэвіча, меў на яго ўплыў таксама і «Гомон». Вось жа да рэдакцыі «Гомона» Гурыновіч належаць не мог, бо меў тады толькі 15 гадоў, але мог ён спатыкацца з гэтым часопісам, тайна пашыраным, і сапраўды мог гэтак паддавацца яго ўплыву. Зусім магчыма, што Гурыновіч стаўся нарадавольцам дзякуючы «Гомону» і тым беларусам-нарадавольцам, што каля «Гомона» групаваліся. Але той факт, што і Гурыновіч быў ужо не толькі нарадавольцам-гоманцам, але перадусім беларускім *нацыянальным* нарадавольцам, — гэта ўжо заслуга Багушэвіча.

Аб тым, што Гурыновіч сапраўды быў беларускім нарадавольцам, які ўжо апіраў сваё нарадавольства на прынцыпе беларускай нацыянальнасці, сведчыць выразна вось гэты ягоны верш «Да Мацея Бурачка»:

Дзякуй табе, браце Бурачок Мацею,
За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею.
Што між братоў нашых знаходзяцца людзі
З кахаючым сэрцам і баляшчай грудзяй.
Дзякуй табе, браце, і за тыя словы,
Што ўспомнілі звукі нашай роднай мовы.
Бяры, браце, дудку, наладзь і жалейку,
Няхай песнь смутная ідзе у калейку
І будзіць у сэрцах мысль аб лепшай долі,
Якой мы не зналі дагэтуль ніколі.

Шмат таксама ў гэтым сэнсе дае нам святла і другі, скіраваны да беларуса, верш Гурыновіча «Што ты спіш мужычок...». Тут заклікае аўтар «мужыка», за прыкладам іншых такіх жа «мужыкоў», устаць, глянуць на сябе і запытацца: хто ён, хто такі?

Наракае ў тым жа вершы Гурыновіч на маскоўскага цара за ягоныя чужацкія «Букі-азы», якіх прыказаў вучыць беларусаў «бярозкай»:

Хаця скрозь настаўляў
Вучылішч, дзе вёска,
«Букі-аз» — наказаў
Навучаць бярозкай;

А раднога слаўца
Ніхто і не чуіць,
Толькі так малайца
Саўсім ён сапсуіць.

А ў вершы «Што за звук ды так громка раздаўся» кажа Гурыновіч, што «звук» — гэта стогн і што

* Усе паданыя вышэй весткі аб Ад. Гурыновічу зачэрпнуты з наступных крыніц: «Бел. звон». № 3, 1921 г.; «Бел. крыніца». № 12, 1934; «Шлях моладзі». № 3, 1934 і «Калоссе». Кн. 1, 1935.

** М. Гарэцкі. Гісторыя беларускай літаратуры. Менск, 1924. Бач. 247.

... гэты стогн быць не можа,
Каб з грудзі ён выходзіў аднэй, —
То ўвесь *наш народ* гэтак стогне
Над няшчаснаю доляй сваей*.

Ясна, такім чынам, што Адам Гурыновіч — гэта верны паслядоўнік Багушэвіча, гэта беларускі палітычны вызваленец, які волю і долю беларускага народа за прыкладам Багушэвіча бачыць у развоі прынцыпу беларускай нацыянальнасці.

**§ 3. Беларуская Сацыялістычная Грамада.**

Узбуджаную Ф. Багушэвічам думку беларускага адраджэння і вызвалення на прынцыпе беларускай нацыянальнасці першы падхапіў, як мы бачылі, Ад. Гурыновіч, які для гэтай думкі рабіў, што мог і што рабіць у тагачасных варунках было можна. Але завялікая гэта думка, каб для яе здзяйснення ды маглі што значнае даканаць адзінкі. Тут ужо апрача свядомасці, апрача пераканання патрэбна таксама арганізаваная грамадская сіла.

Вось жа думка, зароджаная Багушэвічам, што да вызвалення народа ідзецца перадусім праз нацыянальную свядомасць, нацыянальную культуру, хутка спаткала для сваёй рэалізацыі ўжо не паасобныя адзінкі, але і арганізацыю. Першай такой арганізацыяй была Беларуская Сацыялістычная Грамада. Гісторыя яе ў агульных словах наступная.

У канцы XIX ст. у Пецярбурзе сярод студэнтаў былі свядомыя беларусы, якія ўжо думалі аб патрэбе беларускай нацыянальнай палітычнай арганізацыі. Адным з выдатных гэткіх беларусаў студэнтаў ад 1896 г. быў там Вацлаў Іваноўскі, цяперашні прафесар у палітэхніцы ў Варшаве. Ад 1896 да 1902 г. ужо ў Пецярбурзе існаваў кружок беларусаў студэнтаў, настроеных рэвалюцыйна і сацыялістычна. Кружок гэты, хоць яшчэ тады не меў формы арганізацыйнай, фактычна быў пачаткам, як убачым далей, Бел. Сац. Грамады**.

У тым жа Пецярбурзе 1902 г. студэнцкая беларуская рэвалюцыйная моладзь заснавала арганізацыю пад назовам «Круг беларускай народнай прасветы». Арганізацыя гэта займалася распаўсюджваннем друкаваных за граніцай беларускіх друкаў, а таксама рабіла ўжо пачаткі беларускага выдавецтва і ў Расеі. Гэта яе захадамі былі надрукаваны: «Вязанка», «Калядная пісанка» і адбіты на цыкластылі часопіс «Свабода».

* Усе тры ўспомненыя вершы надрукаваны ў «Беларускім звоне», № 3, 1921.

** З ліста праф. В. Іваноўскага да аўтара гэтай працы 16.XI.34.



Зімой таго ж 1902 г. частка моладзі з успомненай арганізацыі заснавала «Беларускую Рэвалюцыйную Партыю». Праграмы гэта партыя не мела. Яна займалася перадусім распаўсюджваннем сярод беларусаў па гарадох і на сяле Багушэвічавых твораў і агулам беларускіх друкаў.

У тым жа 1902 г. гэта партыя перахрысцілася на «Беларускую Рэвалюцыйную Грамаду». У 1903 г. «Грамада» адбыла першы свой з'езд, на якім пастанавіла дабівацца краёвай аўтаноміі для Беларусі, з соймам у Вільні, і перадачы сялянам без выкупу панскай, казённай і інш. зямлі. На гэтым з'ездзе Рэвалюцыйная Грамада пастанавіла ўрэшце назвацца «Беларускай Сацыялістычнай Грамадой».

У студзені месяцы 1906 г. Беларуская Сацыялістычная Грамада адбыла другі свой з'езд, на якім шырока была абгаворана справа зямельная і прынята ў гэтай справе праграма сацыяльнай дэмакратыі. У пытанні палітычным з'езд пастанавіў бароцца за перабудову Расеі на асновах федэралізму, падкрэсліваючы ў першую чаргу аўтаномную Беларусь, сфедэраваную з Літвой, Латвіяй і Украінай.

Далейшая арганізацыйная праца БСГ дзеля паліцэйскага праследу наперад фармальна, бадай, не пасунулася зусім. Затое фактычна ўнутры яе далей кіпела праца. БСГ выдавала рэвалюцыйнага і палітычнага зместу беларускія ўлёткі і брашуры і шырыла іх сярод беларускага пралетарыяту і сялянства. Захопленае рэвалюцыйным рухам беларускае сялянства, дзякуючы працы сярод яго БСГ, засыпала першую і другую Дзяржаўную Думу прыгаворамі і наказамі, патрабуючымі зямлі, аўтаноміі Беларусі, нацыяналізацыі школы і г. д. Урэшце БСГ ад працы вузка партыйнай перайшла да беларускай працы агульнанацыянальнай. Пладамі гэткай яе працы пасля «Mužyckaj Praŭdy», «Гомона» і «Свабоды» — быў чародны беларускі часопіс «Наша доля» і пасля «Наша ніва», а таксама праца агулам на грунце беларускага выдавецтва. Праца ж БСГ партыйная і рэвалюцыйная змушана была схавацца ў падполле. І гэтак працавала БСГ аж да выбуху сусветнае вайны і вялікай расейскай рэвалюцыі*.

Урэшце, у кастрычніку 1917 г. Бел. Сацыялістычная Грамада адбыла трэці з'езд. Тут ужо зазначыўся ў грамадоўцаў разлом. Левая

* А. Бурбіс. Беларуская Сацыялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы («Беларусь». Менск, 1924. Бач. 177–181). Малая Советская Энциклоп. 1930. Т. 1. Белоруссия.

часць яе адышла ў камуністы. Рэшта ж БСГ далей вяла сваю беларускую сацыяльную і палітычную працу на карысць беларускага народа, кладучы асаблівыя заслугі пры скліканні Усебеларускага Кангрэса ў 1917 г., пры абвешчанні 25.III.1918 г. незалежнасці Беларусі і пры спробах зрэалізавання гэтай незалежнасці.

Але тут мусім зазначыць, што гэтыя заслугі належаць не ўсім грамадоўцам, а толькі лепшай, патрыятычнай частцы яе.

На пункце справы суверэннай незалежнасці Беларусі ў улонні БСГ ішоў заядлы бой, які ў тым жа 1918 г. скончыўся падзелам яе на сацыялістаў дэмакратаў, на сацыялістаў рэвалюцыянераў і на сацыялістаў федэралістаў. Гэты падзел БСГ раўняўся яе ліквідацыі. Пасля гэтага падзелу БСГ існаваць перастала.

Бліжэйшых прычын паўстання Беларускай Сацыялістычнай Грамады, безумоўна, трэба шукаць, перадусім, у Багушэвіча, які сваімі беларускімі творамі, будзячымі беларускі народ да нацыянальнага жыцця, меў вялізарны ўплыў на тагачасную беларускую студэнцкую моладзь. Уплыў гэты Багушэвіча прычыніўся не толькі да паўстання «Грамады», але таксама — і, можа, перадусім — надаў ёй беларускі нацыянальны характар.

Калі ж зноў ідзе аб самую арганізацыю Бел. Сац. Грамады, дык таксама важную — калі не рашаючую — ролю ў яе лёсе адыграла ППС — Польская Партыя Сацыялістычная. Вось што аб гэтым піша сябра «Грамады», беларускі паэт Алесь Гарун (А. Прушынскі): «Праца ППС была ні зусім чужою і для беларусаў. Шмат хто, асабліва з першых яе працаўнікоў, быў родам з нашага краю. У Вільні заўсёды была арганізацыя ППС і выходзіў партыйны орган, і ў ёй жа адбыўся III з’езд партыі. *Яе працай быў паложаны пачатак беларускага сацыялістычнага руху* (падч. *А. С.*), бо, працуючы сярод нашага работніцтва і сялянства, партыя старалася разбудзіць у іх нацыянальнае самапачуццё. Гэта рабілася як на моцы пастановы III з’езда, «каб у стасунках з проціўурадавымі групамі другіх народаў... старацца будзіць у іх сепаратысцкія імкненні» для супольнай барацьбы з царызмам, так і дзеля таго, што многія члены ППС — беларусы, толькі ў яе радах пачаўшы працу, задумаўшыся мо ў першы раз над нацыянальным пытаннем, пачулі і пазналі, хто яны такія. Частка гэтых, у лоне ППС пазнаўшых сябе сацыялістаў увайшла потым у склад тых дзеячаў, каторымі заложана была першая беларуская сацыялістычная партыя Беларуская Сацыялістычная Грамада»*.

* А. Прушынскі. 25-я гадаўшчына ППС. («Вольная Беларусь». № 36, 1917.)



Як бачым, уплыў ППС на БСГ быў вялікі. І гэта зусім зразумела: пачынальнікамі беларускага адраджэнскага руху, у першую чаргу, дзякуючы гістарычным і сацыяльным варункам беларускага жыцця, былі беларусы-каталікі, беларусы, культурна зближаныя да палякаў. Вось жа гэтым перадусім, а таксама апазіцыйнасцю да царскага ўрада адных і другіх, тлумачацца гэтыя адносіны між ППС і БСГ.

Як паказвае сам назоў, БСГ трымалася ідэалогіі сацыялізму. Аднак мыляўся б той, хто ў сябрах гэтай арганізацыі жадаў бы бачыць прававерных сацыялістаў-марксістаў. Быць можа, што ў думцы, у паглядах не адзін сябра БСГ сапраўды гэткім сябе лічыў, але ў працы сваёй гэтага не паказваў, бо і не было дзе гэтага паказваць. Сацыялізм сяброў БСГ выражаўся толькі ў тым, што многія з іх былі беларускімі рэвалюцыянерамі, бароліся за сацыяльную справядлівасць і нацыянальныя правы сярод беларускага народа і ў зямельную сваю праграму ўводзілі пункты ў духу сацыяльнай дэмакратыі. У сутнасці рэчы БСГ была беларускай патрыятычнай рэвалюцыйнай арганізацыяй, а не сацыялістычнай. Гэтак характарызуюць яе Турук, Агурскі* і інш.

Але гэта ўсё між іншым. Нам тут ідзе аб асноўную характарыстыку Грамады як беларускай палітычна-вызвольнай партыі. Вось жа трэба адцеміць, што ў гэтым сэнсе Грамада на першы пагляд бадай нічым не рознілася ад беларускіх нарадавольцаў-гоманцаў, бо ж і яна, як і гэтыя, барολася толькі за федэратыўную перабудову Расеі, толькі за аўтаномію для Беларусі**. Гэтак сапраўды здаецца на першы пагляд, але калі да справы прыглядзецца бліжэй, дык лёгка кідаецца ў вочы між БСГ і гоманцамі вялікая прынцыповая розніца. Розніцай тут з’яўляецца беларускі нацыянальны элемент Грамады. Не здарма ж на рубяжы думак гоманцаў і БСГ стаў такі

* А. Турук. Белорусское движение. Москва, 1921. Агурскі, прыточваная вышэй праца: 103–110.

** Праўда, у вышэй прыточваным тут лісце праф. В. Іваноўскага спатыкаем цверджанне, што БСГ мела ўжо беларускія палітычна-незалежніцкія ідэалы. «Думка аб суверэннай незалежнасці Беларусі, — піша праф. В. І., — паўстала ў 1899–1900 г. сярод сяброў Бел. Рэвалюцыйнай, а пасля Бел. Сац. Грамады. Пашырылася гэта думка аканчальна ў 1904–5 г... Трэба сказаць, што напіралі на неабходнасць памяшчэння незалежнасці ў палітычнай праграме «Грамады» тагдышнія прыяцелі ППС. У тым ліку нябожчык М. Сулькевічу[25] Язэп Пілсудскі[26]». Усе іншыя, аднак, дадзеныя аб БСГ бачаць у ёй толькі ідэал Беларусі аўтаномнай у Расейскай федэрацыі. Надта, аднак, магчыма, што сярод сяброў БСГ былі ўжо і беларускія незалежнікі.

чалавек, як Ф. Багушэвіч. Зароджаны ім прынцып беларускай нацыянальнасці ўсей сілай адбіўся і на думках, і на працы, і на ідэалогіі БСГ, у якой беларуская нацыянальнасць мела сапраўды прынцыповае значэнне.

Перыяд Бел. Сац. Грамады, такім чынам, гэта новы вялікі шаг уперад у беларускай палітычна-вызвольнай думцы.

**§ 4. «Свабода»**

Пасля «Mužyckaj Praŭdy» і «Гомона», як ужо вышэй успаміналася, быў часопіс «Свабода». Часопіс гэты шчыльна лучыцца з дзейнасцю БСГ. Ведаем аб ім дужа мала. Вось жа затым, што сваім зместам «Свабода» з'яўляецца ўжо, як і дзейнасць БСГ, друкам беларускім нацыянальным і што дзякуючы праф. В. Іваноўскаму маю аб ім крыху нязнаных дагэтуль вестак, пасвячаю яму гэтых некалькі ўваг.

«Свабода» паўстала сярод пецярбургскай беларускай моладзі ўзімку 1899–1900 г.*. Быў адбіты толькі адзін нумар з васьмі бачынаў. Фармат вялікага (канцылярскага) аркуша паперы. Нумар гэты «Свабоды», пісаны адручна, адбіты быў на цыкластылі (прылада, падобная да сённяшняга рататара).

У рэдакцыі прымалі ўдзел: Вацлаў Іваноўскі і Іван Луцкевіч. Памагаў у выданні таксама Лявон Малецкі з Вільні, тады [сябра] ППС. Першую бачыну вельмі прыгожа напісаў ад рукі тады студэнт, а цяпер інж.-архітэкт Рамуальд Мілер, таксама [сябра] ППС. Цыкластыль быў куплены за грошы Вацлава Іваноўскага. Аддаў ён на гэта ўвесь свой летні заработак з практыкі. Памог канспірацыйна гэту прыладу купіць М. Міхаловіч, [сябра] ППС, тады студэнт, а цяпер прафесар Варшаўскага універсітэта.

Далейшыя бачыны «Свабоды» былі напісаны і адбіты ў Лябёдцы, Лідскага пав., у двары бацькоў В. Іваноўскага. Пісаў іх ад рукі Вінцук Валэйка з Лідчыны, тады гімназіст, а цяпер горны інжынер. Адбівалі два браты Іваноўскія: Тадэвуш Іваноўскі, цяпер прафесар універсітэта ў Коўні, і Вацлаў, а таксама два браты Валэйкі з Лідчыны, апроч Вінцука. Адзін з іх — Антон Валэйка — цяпер інжынер-тэхнолаг. Адбітых [асобнікаў] «Свабоды» было 200 штук.

* Гэтак цвердзіць праф. В. Іваноўскі; мне ж здаецца, што «Свабода» паўстала якімі двума гадамі пазней. Магчыма, што ў 1899–1900 выдаваць «Свабоду» паўстала толькі думка, зрэалізаванне якой пазней наступіла.



У змест гэтага часопіса між іншым уваходзілі: уступны артыкул на тэму палітычную; другі артыкул аб асобнасці беларускага народа ў параўнанні яго з народамі суседнімі. Быў таксама і вось гэткі верш «Мужыцкая доля»:

Цяжка жыць, трудзіцца,
Калі няма долі,
Жыта не радзіцца
На мужыцкім полі.

З капы умалоту
Не болей асьміны
І еш хлеб за работу,
Чорны хлеб з мякіны.

Прыйдзе восень — трэба
Заплаціць падаткі,
А тут няма хлеба
І грошаў няхваткі.

І жыві, як знаеш,
З бяды выручайся;
Калі сілу маеш,
Долі дажыдайся.

Дзе ж ты, мая доля,
Дзе ж ты — адгукніся?!

Аўтарам гэтага верша быў хлапец з Радашковіч, тады фельчар у калінкінскай бальніцы ў Пецярбурзе. Прозвішча гэтага хлапца праф. В. Іваноўскі ўжо не помніць[27].

Дзеля канспірацыі, пасля адбіцця нумара «Свабоды», усю друкарскую прыладу Тадэвуш Іваноўскі адвёз у Пецярбург, а часопіс В. Іваноўскі завёз у Варшаву, каб адтуль яго пашыраць пры помачы варшаўскіх беларусаў.

На няшчасце, якраз у той час старшы брат В. Іваноўскага, Юры Іваноўскі, [сябра] ППС, тады інжынер у фабрыцы Гондтке ў Варшаве, быў арыштаваны. Жандары прыйшлі трэсці кватэру Іваноўскіх, дзе была свежа адбітая бадай уся «Свабода». Такім чынам бязмала ўвесь лік першага — і апошняга — нумара гэтага часопіса прапаў з прычыны гэтай рэвізіі. Пасля гэтага з уцалеўшых экземпляраў ведамы быў толькі адзін у Кіркарыхі, удавы па Адаме Кіркору[28], які быў рэдактарам «Kurjera Wileńskiego».

На гэтым і скончылася выдавецкая справа «Свабоды»*, як адной з многіх праяў беларускай нацыянальна-рэвалюцыйнай дзейнасці Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

* З ліста праф. В. Іваноўскага.

## IX. СУСВЕТНАЯ ВАЙНА, ВЯЛІКАЯ РАСЕЙСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ І СПРАВА НАЦЫЯНАЛЬНА-ПАЛІТЫЧНАГА ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

### § 1. Прынцып нацыянальнасці агулам

Ужо з папярэдніх раздзелаў гэтай працы бачылі мы, як у Еўропе, пачынаючы яшчэ з канца XVIII ст., тварылася, паўставала і развівалася паняцце нацыянальнасці, як яно ўгрунтоўвалася ў псіхіцы розных народаў і панукала іх да вольнага і незалежнага жыцця. Дзякуючы гэтаму паняццю нацыянальнасці, не гаворачы ўжо аб іншых народах, наступіла аб'яднанне Італіі, Нямеччыны, паўстанне Бельгіі і дзяржаў Балканскіх.

Гэтае паняцце нацыянальнасці, як бачылі мы вышэй, дакацілася і да Беларусі і тут таксама, дзякуючы перадусім Ф. Багушэвічу, лягло ў аснову адраджэння беларускага народа. Галоўнай жа прычынай далейшага развіцця прынцыпу нацыянальнасці і далейшага яго ўваходу ў аснову жыцця розных народаў і нават у аснову адносінаў міжнародных — была Вялікая Сусветная Вайна і пазней Вялікая Расейская Рэвалюцыя.

Ужо падчас вайны ў грамадскай думцы Еўропы было даспелым перакананне, што па сканчэнні гэтай міжнароднай бойні палітычная мапа Еўропы павінна быць зменена згодна з нацыянальнымі імкненнямі народаў. Гэткая думка так была папулярнай, што старыя дыпламаты імперыялістычных дзяржаў, падпісваючы трактаты, супярэчныя з гэтай думкай, падпісвалі іх тайна.

Абедзве ваюючыя стораны таксама ўжо выразна рабілі прырачэнні, ідучыя па лініі прынцыпу нацыянальнасці. І так, дзяржавы цэнтральныя на чале з Нямеччынай абяцалі вызваленне Польшчы, а таксама Літвы, Украіны, часткова нават Беларусі і народаў надбалтыйскіх. Значна выразней і шырэй карысталіся прынцыпам нацыянальнасці дыпламаты і палітыкі другой ваюючай стараны — кааліцыі.

Асабліва ж дзейна і ўпорыста падчас вайны пашыралі прынцып нацыянальнасці прадстаўнікі народаў паднявольных. Так, напр., 26 і 27.VI.1914 г. у Парыжы адбылася канферэнцыя паднявольных народаў Еўропы. Канферэнцыя гэта 12.XI абвясціла сваю дэкларацыю, падставай якой было права народаў на палітычную незалежнасць.

Апрача гэтай канферэнцыі працавала над пытаннем нацыянальным і іншая канферэнцыя, у Гаазе, ад 7 да 10.IV.1915, якая дамагалася, каб граніцы будучых дзяржаў праводзіліся згодна з воляй народаў. Адбываўся цэлы рад і іншых розных міжнародных нарадаў, а таксама было нямала выступленняў паасобных розных кандатных палітыкаў, якія выказваліся за тое, каб па вайне народы маглі самі быць тварцамі сваёй долі на аснове сваёй нацыянальнасці.



Але асаблівай жывасці і размаху набірае прынцып нацыянальнасці ў канцы 1916 г., калі цэнтральныя дзяржавы першыя выступілі з ініцыятывай аб замірэнні. Гэтая ініцыятыва выклікала цэлы рад розных заяў характару міжнароднага ў сэнсе абароны прынцыпу нацыянальнасці. Найбольш галосным было выступленне 21.XII.1916 г. прэзідэнта Злучаных Станаў Амерыкі, слаўнага Вільсана, які за падставу да перагавораў аб міры запрапанаваў прынцып забеспячэння права і вольнасці малых і паднявольных народаў, забеспячэння іх ад несправядлівасці і гвалтаў. У гэтым жа сваім выступленні той жа Вільсан запрапанаваў стварэнне Лігі Народаў.

Найбольшым ворагам прынцыпу нацыянальнасці ў дзяржаў кааліцыйных была царская Расея, якая, маючы добрую палавіну насельніцтва не расейскага, прынцыпу нацыянальнасці дужа баялася. Але рэвалюцыя ў лютым 1917 г. і тут прынесла ў гэтай справе вялікае аблягчэнне. Ужо нават Тымчасовы Урад 17.III заявіў кааліцыі, што Расея здэцыдаваная кіравацца асновамі дэмакратызму і забеспячэння правоў усіх народаў.

Справа з гэтым яшчэ — тэарэтычна, прынамсі, — палепшала, калі ў лістападзе таго ж 1917 г. выбухла рэвалюцыя бальшавіцкая. Камуністычная ўлада ў асобе Рады Народных Камісараў абвясціла роўнасць і незалежнасць усіх народаў былой царскай Расеі, прызнаючы ім права свабоднага самаазначэння і магчымасці аддзялення ад Расеі і стварэння сваіх незалежных дзяржаў.

Міжнародная нарада ў Берасці, што трывала з перарывамі ад 3.XII.1917 да 4.III.1918 г., у якой прымалі ўдзел з аднаго боку дзяржавы цэнтральныя, разам з прадстаўнікамі Украіны, а з другога бальшавікі, — таксама за галоўную падставу замірэння прызнавала права на нацыянальнае самаазначэнне народаў. Бальшавікі, як ведама, у Берасці з цэнтральнымі дзяржавамі і з украінцамі спярша не дагаварыліся да нічога. Тады цэнтральныя дзяржавы 9.II.18 г. падпісалі дагавор з Украінай.

Пасля гэтага старшыня бальшавіцкай дэлегацыі Л. Троцкі, напісаўшы на сцяне канферэнцыйнай залі ведамы кліч: «ни мира, ни войны», — разам з сваімі дэлегатамі Берасце пакінуў. Нямецкая армія пачала займаць беларускія і ўкраінскія землі, паложаныя на ўсход ад старой баявой нямецка-расейскай лініі. Урэшце бальшавіцкая дэлегацыя вярнулася ў Берасце зноў — ужо без Троцкага — і 4.III.18 г. падпісала з цэнтральнымі дзяржавамі мір.

Дагавор між цэнтральнымі дзяржавамі і Украінай у Берасці вызначыў граніцу Украіны, якой прызнана была і часць беларускіх зямель. Аднак у дагаворы ёсць дададзены пункт, які заяўляе, што «граніцы аканчальна і падрабязна будуць усталяваны мяшанай камісіяй згодна з варункамі этнаграфічнымі і з воляй насельніцтва». У гэтым, ясная рэч, была дана магчымасць усталяваць у будучыні справядлівую граніцу, між іншым, і ўкраінска-беларускую, згодна з прынцыпам нацыянальнасці.

Урэшце, 11.XI.1918 г. наступіла спыненне барацьбы між дзяржавамі цэнтральнымі і кааліцыяй. На ўступных перагаворах прынцып нацыянальнасці прызнала вялізарная большасць міжнародных прадстаўнікоў як з аднаго, так і з другога боку. 28.VI.1919 г. быў падпісаны Версальскі трактат, які і ўстанавіў сучасны палітычны лад Еўропы.

Праўда, трактат гэты, які ў тэорыі быў будаваны на прынцыпе нацыянальнасці, у практыцы шмат у чым аказаўся з гэтым прынцыпам нязгодным. Не ўвёў ён у жыццё ў поўнасці права самаазначэння народаў, не стварыў законаў, якія належна баранілі б правы народаў, правёў граніцы дзяржаў, якія парэзалі жывыя народныя арганізмы і, урэшце, замест Лігі Народаў, як гэта праектаваў вялікі Вільсан, стварыў фактычна лігу дзяржаў.

Але ўсё ж такі, нягледзячы на гэта ўсё, з сусветнай вайны прынцып нацыянальнасці скарыстаў нямала. Паўсталі многія народы, у міжнароднае права ўведзены пункты, якія маюць на ўвазе абарону нацыянальнага прынцыпу, як правы нацыянальных меншасцяў, як правы опцыі, правы плебісцыту і г. д.

Праўда, забыліся і бальшавікі аб праве самаазначэння народаў, аб іх вольнасці і магчымасці тварыць свае нацыянальныя незалежныя дзяржавы і павялі нават барацьбу проціў самага прынцыпу нацыянальнасці, але, нягледзячы на гэта, прынцып нацыянальнасці скарыстаў і карыстае таксама нямала і з бальшавіцкай палітыкі. Спярша ўрачыстае прызнаванне правоў народам і спробы будавання бальшавіцкіх дзяржаў розных народаў быўшай Расеі, а пасля пераслед нацыянальнага элементу ў гэтым усім і ўводжанне ўрэшце дагматычнага камунізму ў палітычнае і культурнае жыццё народаў у форме ўсё ж такі нацыянальнай, бо ў роднай, хоць на бальшавіцкі лад «папраўленай», мове народаў — усё гэта разам непахісна вяло і вядзе далей да большага развіцця і ўгрунтавання ў псіхіцы народаў СССР нацыянальнага прынцыпу.

Словам, вайна і рэвалюцыя выгадавалі прынцып нацыянальнасці, прынамсі сярод народаў быўшае Расеі, а ў іх ліку і ў народзе беларускім, да размераў прад тым нязнаных.



### § 2. Прынцып нацыянальнасці ў беларускай вызвольнай справе і традыцыйная залежнасць

Нацыянальны прынцып, аб якім гаварылася вышэй, што ён у часе сусветнай вайны і расейскай рэвалюцыі ў Еўропе дужа ўрос у сілу, не быў чужым таксама і Беларусі. У гэтым часе не толькі самі беларусы, але таксама акупацыйныя нямецкія ўлады і некаторыя нашы суседзі, гаворачы аб палітычнай долі зямель быўшага Вялікага Княства Літоўскага, у сваіх гутарках часта ўжо ў дадатным значэнні гаварылі і аб Беларусі, як нацыянальнай адзінцы.

Характэрна, аднак, у гэтых выступленнях тое, што не толькі ніхто з разважаючых у гэтым часе аб Беларусі чужынцаў — што цалком зразумела — не гаварыў яшчэ аб магчымасці палітычнай суверэннай незалежнасці гэтай краіны, але не рабілі яшчэ гэтага і самі беларусы. Усе агулам розныя палітычныя выступленні не толькі небеларускія, але таксама і беларускія для Беларусі за найвышэйшы ідэал лічылі: адны федэрацыю ці таксама канфедэрацыю літоўска-беларускую, а зноў другія — расейска-беларускую федэрацыю.

Нямецкія акупацыйныя ўлады, забіраючы нашы землі і маючы свае што да іх мэты, неслі, аднак, да нас у пэўнай меры прынцып нацыянальнасці што да палякаў, літоўцаў, латышоў, а таксама і што да беларусаў. Да беларусаў гэта выявілася асабліва ў галіне мовы і культуры. Так, напр., у пачатку 1916 г. фельдмаршал Гіндэнбург у сваім загадзе аб школе даў прыказ, каб беларуская мова карысталася роўнымі правамі з іншымі краёвымі мовамі. Пазней, аднак, разгледзеўшыся ў палажэнні на месцах, гэтыя ўлады, каб не дражніць палякаў, з якімі ім прыходзілася рахавацца, адносіны свае да беларусаў змянілі на горшыя. 12.V.1916 нейкі, мусіць, палітычны нямецкі спецыяліст ад нашых зямель фон-Бэкерат піша мемарыял галоўнакамандуючаму ўсходняй нямецкай арміяй, у якім аб беларусах піша даслоўна: «Беларусы не выказвалі ніколі імкнення да дзяржаўнай самастойнасці... Некаторыя імкненні сепаратыстычныя, якія развіваюць некалькі археолагаў і літаратараў у Вільні, трэба залічыць да мясцовых спраў, не маючых палітычнага значэння...»*

Гэтак разумеючы беларускую справу, немцы да яе адносіліся так, каб не перадаць. Давалі сякія-такія магчымасці працы на культурнай ніве і толькі злёгку закідалі часам слова за беларусаў у жыцці палітычным краю. Так, напр., калі ў 1917 г. тварылася Літва,

---

* L. Abramowicz. Problemy Litwy podczas wojny. Zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t. p. Warszawa, 1918. Бач. 7–12.

нямецкія ўлады заяўлялі, што ў Тарыбу (Літоўская Дзяржаўная Рада) апрача літоўцаў павінны ўвайсці між іншымі таксама і беларусы*.

Але яшчэ прад выступленнем фон-Бэкерата, які прынцыпу беларускай нацыянальнасці недаацэньваў, выступілі іншыя людзі, на гэты раз сярод літоўцаў і латышоў, якія ўваскрашалі ідэю Вялікага Княства Літоўскага, а ў яго складзе давалі пачэснае месца таксама і беларускай нацыі.

6.I.1916 г. у Коўне адбылася нарада літоўцаў і латышоў, якія ўтварылі «Галоўны Літоўскі Народны Камітэт» і абвясцілі незалежнасць зямель быўшага Вялікага Княства Літоўскага. Вось пункты гэтага акта абвешчання:

«1. Літоўцы і латышы, будучы як сваёй нацыянальнасцяй, так і гісторыяй зусім розныя ад народаў славянскіх і германскіх, згодна з думкай самаазначэння народаў, дабравольна злучыўшыся, твораць незалежную канстытуцыйную дзяржаву з даўнейшай назвай Вялікае Княства Літоўскае. Літоўскі народ і латышскі ў гэтай дзяржаве з'яўляюцца аўтаномнымі.

2. Вялікае Княства Літоўскае складаецца з этнаграфічных літоўска-латышскіх зямель, абапёртых аб Балтыйскае мора.

3. Дзеля таго, што даўней у склад Вял. Княства Літоўскага ўваходзілі і землі беларускія, дык і беларусы, калі б прызналі гэта згодным з іх народнымі імкненнямі, маглі б таксама далучыцца як трэцяя аўтаномная складовая часць.

4. Граніцы гэтых дзвюх — ці эвентуальна трох — аўтаномных складовых часцін Вялікага Княства Літоўскага ўсталюе супольная камісія, зложаная з прадстаўнікоў іх.

5. Галоўны Літоўскі Народны Камітэт зварочваецца з гэтымі дамаганнямі да мірных кангрэсаў, якія адбудуцца па сканчэнні сусветнай вайны».

Хутка пасля абвешчання Вялікага Княства Літоўскага быў апрацаваны праект канстытуцыі і распаўсюджаны ў Літве**.

Аб гэтым, аднак, праекце федэрацыі ці канфедэрацыі Літвы, Латвіі і Беларусі літоўскія і латвійскія палітыкі хутка забыліся і прыступілі кожны паасобку да здабывання незалежнасці свайго народа на падставах сваёй нацыянальнасці.

Прынцып беларускай нацыянальнасці выражаўся ў гэтым часе ў сэнсе традыцыйнай яго залежнасці таксама і ў некаторых слаёх грамадзянства польскага. Так, напрыклад, у верасні месяцы 1915 г.

* L. Abramowicz. Problemy Litwy podczas wojny. Бач. 16.
** «Kurjer Wileński», 27.II.1933.



польскія сацыялісты, Сялянскі Звяз і Звяз Патрыётаў выдалі адозву да польскага грамадзянства на землях быўшага Вялікага Княства Літоўскага, у якой заклікаюць да федэрацыі Літвы і Беларусі з Польшчай.

У 1916 г. Ліга Польскай Дзяржаўнасці ў Варшаве выдае камунікат, у якім выказваецца за польска-літоўска-беларускую федэрацыю.

У 1917 г. адбыўся з'езд ППС. З'езд гэты прыняў пастанову ў справе Літвы і Беларусі. Змест пастановы наступны: аб усіх справах гэтых краёў рашыць устаноўчы сойм Літвы і Беларусі, а між гэтымі справамі будзе і справа федэрацыі іх з Польшчай.

У тым жа 1917 г. польская сялянская арганізацыя ў Варшаве выдала дэкларацыю, у якой сцвярджае патрэбу дабравольнага спалучэння дзвюх вольных дзяржаў: Польшчы і Літвы.

У тым жа ўсё 1917 г. 25.XII аб лёсах нашага краю выказаліся ў Варшаве: ППС, Польская Партыя Сялянская, Група Нацыянальнай Незалежнасці і Аб'яднанне Дэмакратычных Партыяў. Арганізацыі гэтыя падкрэслілі права самаазначэння Літвы і Беларусі, а таксама і тое, што адносіны свае да Польшчы ў духу федэрацыі вырашаць соймы гэтых краёў.

Прынцып нацыянальнасці, як бачым, у часе сусветнай вайны і расейскай рэвалюцыі, сапраўды быў папулярны, калі нават і ў Польшчы былі палітычныя групы, якія, замест звычайнага далучэння нашых зямель, выказваліся за палучэнне федэрацыйнае, шануючы гэтым у значнай меры палітычнае права і беларускай нацыянальнасці.

Але правы гэта яшчэ выразней прызнавалі некаторыя польскія палітычныя групы краёвыя. 23.IX.1915 г. польскія групы сацыялістычныя і дэмакратычныя Літвы і Беларусі выдалі адозву, у якой аб Беларусі гаворыцца між іншым гэтак: «...Dążąc do nadania jaknajwiększej siły i odporności przyszłej Litwie i Białej Rusi, jak również Polsce niezależnej, pragniemy łączności federacyjnej Litwy i Białej Rusi z Polską, na unji dobrowolnej opartej». Аб гэтым мае вырашыць воля народа праз сойм у Вільні, скліканы на дэмакратычных падставах: — «Tylko wolna Litwa i Białoruś i wolna Polska o związku federacyjnym stanowić może»*.

У 1917 г. паявілася праграма «Polskiego Związku Radykalno-Demokratycznego na Litwie i Białej Rusi». Вось жа арганізацыя гэта, як відаць з яе праграмы, імкнулася да незалежнасці Літвы і Беларусі, якія будуць мець краёвыя соймы; граніцы між Літвой, Бела-

* L. Abramowicz. Problemy Litwy podczas wojny. Бач. 33.

руссю і дзяржавамі суседнімі ўстановіць плебісцыт, адносіны да Польшчы і Расеі таксама рашаць краёвыя соймы Літвы і Беларусі.

У тым жа 1917 г. у Вільні адбылося веча, якое прыняло рэзалюцыю, дзе выражаецца імкненне да таго, каб з зямель гістарычнай Літвы была створана незалежная дзяржава з краёвым соймам, які вырашыць усё іншае і далейшае.

Але, зразумелая рэч, прынцып беларускай нацыянальнасці выступае найярчэй там, дзе аб лёсе свайго краю і народа выступаюць самі беларусы, хоць і яны, як убачым ніжэй, яшчэ вяжуць сваю вызвольную думку традыцыйнай федэрацыйнай залежнасцю і аб поўнай, суверэннай незалежнасці беларускага народа яшчэ не выказваюцца.

Так, напр., у канцы 1915 г. з ініцыятывы беларусаў завязалася ў Вільні т. зв. «Канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага» дзеля ўваскрашэння дзяржаўнай незалежнасці Літвы і Беларусі. Тымчасовая Рада гэтай Канфедэрацыі была выдаўшы ў чатырох краёвых мовах наступны універсал:

«Лета 1915 мес. грудня 19 дня члены літоўскіх, беларускіх, польскіх і жыдоўскіх арганізацыяў прыступілі да Канфедэрацыі Вял[ікага] Кн[яства] Літоўскага, дабіваючыся супольнымі сіламі, каб літоўскія і беларускія землі, каторыя здаўна прыналежалі да Вялікага Княства Літоўскага, а цяпер апанаваны нямецкімі войскамі, станавілі пры новых варунках гістарычных нераздзельнае цела на фундаменце незалежнасці Літвы і Беларусі, як суцэльнае дзяржавы, засцерагаючы ўсім нацыям у яе межах усе правы.

Дзеля гэтага канфедэраты звяртаюцца да ўсіх станаў, да ўсіх існуючых арганізацыяў і да ўсіх грамадзян Краю, клічучы, каб, уважаючы на важнасць вялікага гістарычнага моманту, забыўшыся крыўд узаемных, свар і недаверу, маючы на мэце адно карысць супольнае Бацькаўшчыны, прылучыліся да Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага»*.

У лютым 1916 г. выйшла адозва, якая больш падрабязна развівала палітычную праграму Канфедэрацыі. У пункце другім гэтай адозвы гаворыцца, што Канфедэрацыя імкнецца да таго, каб у склад новай літоўска-беларускай дзяржавы ўвайшлі «прынамсі землі, занятыя цяпер нямецкім войскам»**.

* Антон Навіна. Палітычныя лозунгі беларускага руху. (Зборнік «Наша ніва». Вільня, 1920.) Бач. 7.
** Тамсама. Бач. 7–8.



Такім чынам, як сам «універсал», так і адозва, як бачым, імкнецца яшчэ толькі да незалежнасці прынамсі зямель, што былі пад акупацыяй нямецкай і да таго ў суполку з літоўцамі. Гэткая пастаноўка справы тлумачыцца як тым, што была «фактычная немагчымасць для малой жмені свядомых беларусаў у межах акупацыі думаць аб сваёй асобнай дзяржаўнай рабоце для Беларусі і за ўсю Беларусь»*, а таксама і тым, што гэтая малая група свядомых беларусаў не гаварыла аб незалежнай дзяржаве, у якую ўвайшла б і тая часць Беларусі, што была пад Расеяй, дзеля страху немцаў, якія тады не ішлі на тое, каб за Беларусь ды яшчэ больш камплікаваць свае адносіны з Расеяй.

16.IX.1917 г. сацыялістычныя і дэмакратычныя групы Вільні, сярод якіх былі і беларусы, ладзілі веча, на якім дамагаюцца самастойнасці Літвы і Беларусі як дзяржаўнай адзінкі**.

Зноў жа ў снежні таго ж 1917 г. сацыялістычныя і дэмакратычныя партыі Вільні выдалі супольную дэкларацыю, у якой падкрэсліваюць права кожнаму народу на самаазначэнне, а Літву і Беларусь разважаюць як нешта і цэлае і непадзельнае. Вось даслоўны змест чатырох пунктаў гэтай дэкларацыі.

1. Przy określaniu terytorjum naszego kraju, za jądro którego dotąd należy uznać dzisiejszą część okupowanej Litwy i Białej Rusi, — granice ostateczne uzależniamy od całokształtu wspólnych potrzeb i interesów gospodarczych, społecznych i kulturalnych, które znaleść mogą swój wyraz w politycznem ciążeniu pozostałej części do zcałkowania.

2. Ustrój polityczny Litwy i Białej Rusi winien adpowiadać interesom mas ludowych z zagwarantowaniem praw mniejszości narodowościowych (autonomja personalna) i wyraz swój znaleść musi adpowiednio do swoich warunków życiowych kraju w organizacji państwowej w postaci rzeczypospolitej demokratycznej.

3. Jedynym prawomocnym wyrazicielem woli całej ludności kraju przy powzięciu decyzji o przyszłych losach, granicach, stosunkach do krajów ościennych i formie organizacji prawno-państwowej Litwy i Białej-Rusi być musi Sejm ustawodawczy, wybrany przez całą ludność kraju» на дэмократычных падставах і пасля адыходу з краю акупацыйнай улады.

4. Wszelkie układy, zabowiązania i wyrażenia woli w imieniu kraju, czynione bądź przez Radę Litewską, bądź przez inne poszczególne zrzeszenia lub instytucje, — poczytywane być winny za przywłaszczenie

* Антон Навіна. Палітычныя лозунгі беларускага руху. Бач. 8.
** L. Abramowicz. Problemy Litwy podczas wojny. Бач. 24.

nienależnych im praw, za fałszowanie opinji publicznej i akty w żadnej mierze kraj nie obowiązujące».

Ад беларусаў гэту дэкларацыю падпісалі: Беларуская Сац.-Дэм. Група і Беларуская Сацыялістычная Грамада*.

Але былі ўжо выступленні віленскіх беларусаў і за ўсю Беларусь. Так, напр., у чэрвені 1916 года беларускія дэлегаты з Вільні былі на III Канфэрэнцыі народаў у Лазане і выступілі з мемарыялам, які канчаўся гэтак: «Мы просім у цывілізаваных народаў спагаду нам і падтрымання, каб прымусіць да пашаны нашых нацыянальных і культурных правоў. Мы можам урэшце спадзявацца, што, які б ні быў канец вайны, народы Еўропы памогуць нам забяспечыць Беларусі ўсе палітычныя і культурныя правы, якія дадуць нашаму народу магчымасць вольна развіваць свае інтэлектуальныя, маральныя і эканамічныя сілы, і што гэтыя правы дадуць нам магчымасць стацца гаспадарамі на нашай уласнай зямлі»**.

Аднак усе выступленні віленскіх беларусаў, апрача гэтага мемарыялу, які аб адносінах да Літвы не ўспамінае, стаяць за Беларусь, злучаную з Літвой.

У жніўні месяцы 1917 года, ужо пасля рэвалюцыі ў Расеі, Беларускі Нацыянальны К-т у Вільні прыняў палітычную дэкларацыю, у якой, між іншым, спатыкаем гэткія пункты: «1) Незалежнасць і непадзельнасць Літвы, 2) Унутранае разгранічэнне аўтаномных Беларускай і Літоўскай зямель паводле матчынай мовы жыхароў»***.

1 верасня 1917 г. ад усяго арганізаванага беларускага грамадзянства была выслана тэлеграма ў нямецкі парламант. У тэлеграме выражана падзяка немцам за прызнанне самаўраду на беларуска-літоўска-латышскіх землях і выражана надзея, што немцы памогуць зрэалізаваць палітычныя ідэалы ўсяго беларускага народа «на падставе лучнасці з этнаграфічнай Літвой і Курляндыяй»****.

У снежні 1917 г. прадстаўнікі бел. арганізаванага грамадзянства ў Вільні пераслалі нямецкаму канцлеру тэлеграму, у якой дамагаюцца: «...Каб беларуска-літоўскія землі акупацыі станавілі незалежную суверэнную дэмакратычную дзяржаву, зложаную з дзвюх асноўных аўтаномных нацыянальных тэрыторыяў: беларускай і літоўскай, у найцяснейшай еднасці з Курляндыяй. Беларускае грамадзянства горача жадае, каб у імя права на непадзельнасць беларускага народа, разрэзанага лініяй фронту, і ў імя еднасці ўсіх беларуска-літоўскіх зямель да ўспомненай дзяржаўнай арганізацыі, заўсёды станавіўшай ядро Вялікага Княства Літоўскага, была далучана і рэшта беларускіх зямель як часць да цэлага».

* L. Abramowicz. Problemy Litwy podczas wojny. Бач. 25.
** Антон Навіна. Палітычныя лозунгі беларускага руху. Бач. 9.
*** Антон Навіна. Тамсама. Бач. 9–10.
**** L. Abramowicz. Problemy Litwy podczas wojny. Бач. 128.



Урэшце 25, 26 і 27.I.1918 г. у Вільні адбылася Канферэнцыя прадстаўнікоў усіх беларускіх палітычных кірункаў. Канферэнцыя гэта прыняла рэзалюцыю, галоўны змест якой такі ж, як і папярэдняй тэлеграмы. У канцы толькі памешчаны гэткі характэрны дадатак: «Канферэнцыя заяўляе, што яна не прызнае за голас Літоўска-Беларускага Краю пастаноў Літоўскай Рады (Тарыбы. — *А. С.*) і не прымае на сябе выданых ёю палітычных абвязацельстваў»*.

Гэтак выглядала беларуская палітычна-вызвольная думка за часоў сусветнай вайны і расейскай рэвалюцыі ў Зах. Беларусі пад нямецкай акупацыяй. У сутнасці сваёй не іншай яна была і ў Усходняй Беларусі. І там таксама яшчэ не спатыкаем ідэалу суверэннай незалежнасці Беларусі, а толькі ідэал яе вольнасці і самастойнасці ў граніцах расейскай федэрацыі.

15.III.1917 г. у Петраградзе паявілася беларускай народнай арганізацыі дэкларацыя, змест якой, між іншым, гэткі: «Верым, што Устаноўчы Сойм рашыць слушныя справы і рэарганізуе Расею на асновах Рэспублікі Федэральнай, бо толькі па гэтай дарозе магчымым ёсць правільнае развязанне грамадска-дэмакратычных пытанняў усіх народаў Расеі агулам і беларусаў у асобнасці...»**

25.III.17 г. у Менску адбылася нарада Беларускай Сацыялістычнай Грамады, на якой прыняты былі, між іншым, наступныя характэрныя пастановы:

2. «Падтрымліваючы тымчасовы ўрад, Бел. Сац. Грамада энергічна будзе рыхтавацца да ўстаноўчага сойму, агітуючы за федэральную рэспубліку, за аўтаномію Беларусі і г. д.

5. Выказваючыся за аўтаномію Беларусі ў федэральнай рэспубліцы расейскай, канферэнцыя пастанавіла падрабязна апрацаваць гэтую справу, устанаўляючы граніцы Беларусі ў згодзе з велікарусамі, літоўцамі, украінцамі, палякамі і г. д.»***.

Таго ж 25.III.17. г. у тым жа Менску адбыўся з’езд прадстаўнікоў усіх палітычных партыяў, які ад свайго імя выслаў у Петраград да тымчасовага расейскага ўрада дэкларацыю. Дэкларацыя гэта, між іншым, заявіла: «Беларускі народны з’езд шчыра жадае ўзяць удзел у супольнай справе дзяржаўнага ўпарадкавання воль-

* З уласнага архіва *(А. С.)*.
** L. Abramowicz. Problemy Litwy podczas wojny. Бач. 124.
*** Тамсама. Бач. 125.

ных народаў Расеі і ёсць пераканаными, што яго нацыянальны к-т, імкнучыся да палепшання быту ў родным краі і апіраючыся на краёвых элементах Беларусі, аддасць услугі агульнадзяржаўнаму развою ў Расеі на падставе федэрацыйнага, дэмакр.-рэспубліканскага ладу»*.

У траўні месяцы таго ж 1917 г. там жа ў Менску адбыўся з'езд беларускага каталіцкага духавенства. На гэтым з'ездзе, між рознымі іншымі справамі, былі разважаны справы палітычныя, у якіх была прынята рэзалюцыя: «З'езд дамагаецца шырокай аўтаноміі ў Расейскай федэрацыйнай дэмакратычнай Рэспубліцы»**.

Агулам, калі прагледзім беларускія газеты і іншыя друкі за ўвесь 1917 год, што выйшлі ў Усходняй Беларусі, калі не стала ў Расеі царскай улады, дык пераканаемся, што ідэал аўтаномнай Беларусі, сфедэраванай з Расеяй, быў агульны.

Такім чынам, хоць у гэтым часе прынцып нацыянальнасці глыбока пранік і ў беларускую палітычную думку, то ўсё ж такі ён яшчэ да канца тут не наспеў і не выліўся покуль што ў ідэал беларускай суверэннай дзяржаўнасці. Суверэннасць беларускага народа яшчэ да канца 1917 г. беларусы дзялілі: на захадзе — з Літвой, а на ўсходзе — з Расеяй. Але яшчэ колькі месяцаў і беларуская палітычная думка выльецца ў ідэал Беларусі незалежнай, суверэннай.

## X. НАРОДЗІНЫ ІДЭІ СУВЕРЭННАЙ БЕЛАРУСІ

### § 1. Усебеларускі Кангрэс у 1917 г.

Прад тым, як прыступіць да разгляду Усебеларускага Кангрэса і яго адносінаў да справы палітычнага вызвалення Беларусі, у кароткіх і агульных словах прыпомнім сказанае ў папярэднім раздзеле гэтай працы. Сутнасць там сказанага вось у чым.

Як некалі Вялікая Французская Рэвалюцыя, а пасля выплыўшыя з яе іншыя рэвалюцыі ў Еўропе ўзбудзілі многія еўрапейскія паднявольныя народы да палітычнага вызвалення і да будавання сваёй дзяржавы, так вялікая сусветная вайна і вялікая расейская рэвалюцыя вызвольны рух розных народаў умацавала яшчэ больш, будзячы да незалежнасці народы дагэтуль паднявольныя. Вызвольная гэта хваля дакацілася і да Беларусі, будзячы і яе да вольнага, незалежнага жыцця. Аднак ідэя вызвалення Беларусі не адразу прымае формы поўнай, суверэннай, нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасці. Беларускія і небеларускія палітыкі пад нямецкай акупацыяй у Вільні, як мы бачылі, многа ўжо дабіваюцца і прызнаюць Беларусі палітычнай самастойнасці, але аб Беларусі як незалежнай і нацыянальнай дзяржаве яшчэ не гавораць. Сутнасць іх палітычных імкненняў — гэта аўтаномная ці федэрацыйная Беларусь і такая ж Літва пад суверэннай літоўска-беларускай уладай. Дзеячы гэтыя будавання беларускай палітычнай незалежнасці на беларускім самастойным нацыянальным прынцыпе яшчэ не разумелі ці, прынамсі, цалком не ўяўлялі.

І гэта было ў беларусаў тады, калі літоўцы, усвядоміўшы сабе ўва ўсей паўнаце прынцып нацыянальны, прыступілі да будавання нацыянальнай і зусім самастойнай Літвы. У выніку беларуска-літоўскіх адносінаў было тады стварыўшыся дужа арыгінальнае палажэнне: беларусы навязвалі Літве супольную федэрацыю, намаўлялі іх узнавіць даўнейшую супольную дзяржаву, а літоўцы ад гэтага адмаўляліся. Было гэта, як бачым, прыкрае непаразуменне, якое вынікала з няроўнай ступені ўсведамлення ў беларусаў і літоўцаў прынцыпу нацыянальнасці.

Зноў жа беларускія палітыкі ў Расеі не толькі за часоў царызму, але нават у пачатку рэвалюцыі, бадай на працягу яшчэ ўсяго 1917 г., не маглі ўцяміць ідэалу Беларусі як самастойнай нацыянальнай дзяржавы і яшчэ праз некаторы час пашыралі думку аб аўтаномнай Беларусі ў федэрацыйнай лучнасці з Расеяй.

Зваротным у гэтай справе пунктам у бок беларускай суверэннай Беларусі як нацыянальнай адзінкі быў Усебеларускі Кангрэс. Так, як некалі «Гомон» зрабіў рашучы пераход ад традыцыяў Вял. Кн. Літоўскага да федэрацыі з Расеяй, так Усебеларускі Кангрэс быў пераходным пунктам ад ідэалу федэрацыі з Расеяй да ідэі незалежнай Беларусі.

У Менску ў кастрычніку месяцы 1917 г., пасля якіх 9–10 месяцаў рэвалюцыі, з розных беларускіх — цывільных і вайсковых — арганізацыяў паўстала «Вялікая Беларуская Рада», якая кіравала ўсім палітычным беларускім жыццём. Гэта ж Вялікая Рада і склікала Усебеларускі Кангрэс, які адбыўся 5–17.XII (стар. стылю) 1917 г. у Менску. Было на ім 1167 дэлегатаў з голасам рашаючым ад розных беларускіх арганізацыяў і 705 з голасам дарадчым. На Кангрэсе былі прадстаўнікі ад усей Беларусі: з губ. Менскай, Магілёўскай, Віцебскай, Смаленскай, Віленскай і Гродзенскай. Апошнія дзве губерні, якія знаходзіліся пад нямецкай акупацыяй, былі прадстаўлены бежанцамі.

Галоўны момант Кангрэса — гэта ўночы з 17 на 18 снежня (ст. стылю). У гэтым часе была ўжо апрацавана рэзалюцыя і прэзідыум

* L. Abramowicz. Problemy Litwy podczas wojny. Бач. 125–126.
** З уласнага архіва *(А. С.)*.

Кангрэса прыступіў да яе адчытання. Першы пункт рэзалюцыі, які датычыў дзяржаўнага ладу Беларусі, быў гэткага зместу: «Замацоўваючы свае правы на самаазначэнне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй, і прымаючы рэспубліканскі дэмакратычны строй на абшары Беларускай зямлі, для паратунку роднага краю і для забеспячэння яго ад раздзелу і адлучэння ад Расейскай Дэмакратычнай Федэратыўнай Рэспублікі, першы Усебеларускі З'езд ухваляе: безадкладна ўтварыць са свайго складу орган краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіравання краем, уступаючы ў дзелавыя зносіны з цэнтральнаю ўладаю»*.

Пунктаў у рэзалюцыі было 15, агаласіць і прыняць паспелі толькі гэты першы аб дзяржаўным ладзе Беларусі, бо па агалашэнні першага пункта бальшавікі, якія тады ўладу над землямі былай царскай Расеі забіралі ў свае рукі, Усебеларускі Кангрэс разагналі сілай.

Затым, што разгон гэты мае гістарычнае значэнне для беларускага народа і што беларускі народ мала дагэтуль з гэтай справай абазнаны, дазваляю сабе тут памясціць апісанне навочным сведкам акта разгону бальшавікамі Усебеларускага Кангрэса, паданае ў «Вольнай Беларусі»**.

«Каля 3 гадзіны ўначы Рада з'езда скончыла апрацоўваць рэзалюцыю. Старшыня пачаў яе чытаць перад усім з'ездам. У гэты момант падышлі да стала прэзідыуму два салдаты і, назваўшы сябе, першы — камісарам «Западнай Області», а другі — начальнікам менскага гарнізона, сказалі, што прыйшлі арыштаваць прэзідыум і разагнаць з'езд. Тады, пры іх жа, старшыня з'езда агаласіў першы пункт рэзалюцыі, дзе Беларусь абвяшчаецца Рэспублікай. Бадай што ўвесь з'езд аднастайна зацвердзіў гэты пункт.

Раптам аднекуль пачуўся голас: «Таварышы, наш дом акружаны войскам! Каля яго стаяць кулямёты і браневікі!»

У залі падняўся шум. Тагды звярнуўся да з'езда з прамовай «начальнік гарнізона» Крывашэін. Хістаючыся на нагах, крэпка выпіўшы, ён пачаў гаварыць. Але праз шум спачатку нельга было нічога разабраць. Толькі потым, як трохі пацішэла, пачуліся бяссвязныя фразы «начальніка», каторы гаварыў аб нейкіх «лайковых перчатках». Кончыў ён сваю «прамову» вось як: «А теперь я распускаю ваше собраніе».

* Зборнік «Беларусь». Менск, 1924. Бач. 199.
** «Вольная Беларусь». № 36, 1917.



Пры гэтых словах у залю ўвайшлі ўзброеныя салдаты. Агульнымі сіламі іх выцягнулі за дзверы і пасля гукаў марсельезы нехта голасна сказаў: «Браты беларусы! Мы бачылі жандараў Мікалая II, але сягоння мы ўбачылі жандараў у свабоднай рэвалюцыйнай старане, пад маскай бальшавіцкіх камісараў, на вольным з'ездзе вольнага народа!»

Ізноў уварваліся салдаты, разбіраючы барыкады з крэслаў і зэдлікаў, накіданыя дэлегатамі з'езда, сялянамі і салдатамі. Пад спевы жалобнага маршу выводзілі арыштаваны прэзідыум і шмат каго з відных працаўнікоў з'езда. Арышт цягнуўся ўсю ноч. Прыклады працавалі направа і налева. Паволі пусцела заля. Гаслі лямпы. А ў цёмным кутку сядзеў адзінока сівы дзед-селянін. Плечы яго ўздрыгвалі. Ён плакаў, як дзіця.

Назаўтра, уначы, а 4 гадзіне разагналі Вайсковую Беларускую Раду».

А вось як гэту беларускую трагедыю апісвае другі навочны сведка, сябра прэзідыума Кангрэса, П. Крэчэўскі:

«Калі бальшавікі ўбачылі, — піша ён, — што большасць з'езда стаіць за самастойную рэспубліку, рашылі з'езд разагнаць сілаю. Бальшавіцкія камісары — Крывашэін і Рэзаўскі — п'яныя (канстатую факт) з'явіліся ў залю з'езда якраз у той самы час, калі пасля доўгіх дэбатаў, прыблізна каля часу ночы, меліся прыступіць да галасавання рэзалюцыі і абвясцілі з'езд распушчаным, а прэзідыум арыштаваным. Будынак, дзе адбываўся з'езд, быў акружаны браневікамі і кулямётамі. Падняўся страшэнны гвалт, бальшавіцкія салдаты са стрэльбамі стараюцца ўварвацца ў залю з'езда, дэлегаты строяць барыкады з крэслаў і сваімі грудзьмі абараняюць з'езд і прэзідыум з'езда, які, нягледзячы на забарону камісара, вядзе далей сход і галасуе рэзалюцыю»*.

Але ў чым жа тут справа, за што бальшавікі разагналі Кангрэс, які выказаўся за Беларусь, сфедэраваную з Расеяй? Добра на гэта адказвае П. Крэчэўскі, які кажа: «Калі бальшавікі ўбачылі, што большасць з'езда стаіць за самастойную рэспубліку, рашылі з'езд разагнаць сілаю»**. Словам, для бальшавікоў было ясна, што словы аб федэрацыі ўстаўлены толькі з тактычных матываў, што федэрацыя — гэта справа зусім другарадная, а галоўнае — поўнае самаазначэнне Беларусі, згодна з лозунгамі рэвалюцыі і

* «Замежная Беларусь». Бач. 52–53.
** Тамсама.

вайны і прыкладам іншых народаў у кірунку дзяржаўнай суверэннай самастойнасці. І сапраўды, ідэя палітычнай незалежнасці Беларусі тады ўжо беларусам чужой не была, і толькі тактычныя моманты перашкаджалі, каб яе фармальна аб'явіць. «Усебеларускі з'езд, — піша Ант. Навіна*, — не давёў дзяржаўнае справы да канца: ён затрымаўся на федэрацыі з Расеяй. І хоць між павадырамі беларускага руху ўжо тады ідэя незалежнасці Беларусі мела даволі прыхільнікаў, — аднак яна была яшчэ мала спапулярызавана ў шырокіх народных масах, якія псіхалагічна не маглі зразу вызваліцца ад уроку расейскае дзяржаўнасці, тады яшчэ не ўтраціўшай сваёй сілы: на беларускай зямлі стаяла расейская армія, з каторай бароцца беларусам было бы не пад сілу, а ведама, што апавяшчэнне аддзялення ад Расеі выклікала б аружнае выступленне маскоўцаў, разагнаўшых штыхамі Усебеларускі з'езд нават за федэрацыю!»

Зноў жа П. Крэчэўскі, навочны тагачасны сведка, дзейны ўчаснік як тагачаснай беларускай палітыкі ў Менску і такі ж учаснік у скліканні і працы Кангрэса, аб гэтай справе, між іншым, піша гэтак: «На з'ездзе змагаліся дзве процілежныя групы — масквафільская і самастойна-незалежніцкая. За першай групай ішло Віцебскае і Магілёўскае зямлячаства, за другой групай — Горадзенскае, Віленскае, Менскае і Смаленскае»**.

Урэшце, той жа П. Крэчэўскі аб гэтым кажа: «Белорусскій народ, до сих пор боявшійся подумать даже о своей самостоятельности, шквалом великой россійской революціи был вынесен на вершину своего національнаго самосознанія и в порыве энтузіазма заговорил языком белоруса-гражданина, хозяина своей родной страны, еще неизуродованнаго ни польской, ни русской культурой, языком народа конституціоналиста XIV века и потребовал себѣ на Минском Всебелорусском Конгрессе с 5 по 17 декабря 1917 г. подобающаго места среди народов міра»***.

Такім чынам, як бачым, Усебеларускі Кангрэс хоць фармальна яшчэ не сказаў слоў Беларусь незалежная дзяржава, то фактычна ён выдаў першыя зародкі гэтага ідэалу. Народзіны ідэі суверэннай Беларусі, як гэта яшчэ пабачым ніжэй, безумоўна адносяцца да Усебеларускага Кангрэса 1917 г.

* Антон Навіна. Палітычныя лозунгі беларускага руху. Бач. 12.
** «Замежная Беларусь». Бач. 52–53.
*** Тры акта. (Белорусское Эхо. № 7, 1918.)



**§ 2. Рада з'езда. Выканаўчы Камітэт.**
**Народны Сакратарыят. Першая і другая ўстаўная граматы.**
**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Тое, што беларусы ў часе Усебеларускага Кангрэса ўжо не толькі думалі аб незалежнай Беларусі, але думкі свае хацелі ў чын абярнуць, ясна відаць таксама з наступнага.

Як толькі сабраўся Кангрэс, была ўтворана Рада з'езда. Звалі яе таксама Радай Старэйшых, Канвентам Сеньёраў*. Пасля разгону Кангрэса яго дэлегаты 18.XII (старога стылю, новага 31) сабраліся ў жалезнадарожным дэпо і перадалі Радзе з'езда паўнамоцтвы на далейшую барацьбу за ідэалы беларускай дзяржаўнасці. Рада з'езда выбрала Выканаўчы Камітэт, якому і даручыла ўвесь цяжар беларускай дзяржаўнай працы. Гэта было пры бальшавіках, якія 19.II.18, уцякаючы ад немцаў, пакінулі Менск. 21.II.18 Выканаўчы К-т Рады з'езда, выконваючы волю з'езда, аб'явіў сябе найвышэйшай уладай у Беларусі і звярнуўся да насельніцтва ў наступнай першай устаўнай грамаце «Да народаў Беларусі»:

«Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаім перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен здзейсніць сваё права на поўнае самаазначэнне, а нацыянальныя меншасці на нацыянальна-персанальную аўтаномію. Правы нацыі павінны знайсці сваё здзяйсненне шляхам склікання на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму. Але і да склікання Устаноўчага Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць. Выканаўчы К-т Рады першага Усебеларускага з'езда, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасцяў, здзяйсняючы мэты з'езда, абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі для кіравання краем і склікання, як можна хутчэй, Усебеларускага Устаноўчага Сойму, на аснове агульнага, простага, роўнага, тайнага і прапарцыянальнага выбарчага права для ўсякага дарослага, не лічачыся з нацыянальнасцю, вызнаннем і полам. Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацвярджэнне заваяванняў рэвалюцыі, будзе здзяйсняць створаны намі

* У Радзе было 71 месца, 27 мясцоў мелі быўшыя члены Рады з'езда, прысутныя ў Менску, 9 — прадстаўнікі правінцыі, 10 — гарады і земствы; 15 — нацыянальным меншасцям: 7 — жыдом, 4 — паляком, 2 — велікаросам, 1 — украінцам і 1 — літоўцам. (Зборнік «Беларусь». Бач. 201.)

Народны Сакратарыят Беларусі, які з гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі. Персанальны склад Сакратарыята будзе апублікаваны пасля. Дадзена ў Менску-Беларускім 21(8) лютага 1918 г. Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага з'езда».

Змест граматы і стварэнне сакратарыяту, які фактычна быў першым беларускім урадам, ясна паказвае нам, што тут ішло дзяржаўнае будаванне незалежнай Беларусі*.

25.II.18 г. Менск занялі немцы. Замест улады беларускай прызнавалі яны далей на Беларусі ўладу расейскую. З гэтай прычыны Вык. К-т Рады з'езда 9.III.18 выдаў другую ўстаўную грамату да народаў Беларусі наступнага зместу:

«У часе сусветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабаняе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцця. Пасля трох з паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь свет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі з'езд 5–17 снежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю з'езда і баронячы дзяржаўныя правы народа, Спаўняючы Камітэт Рады з'езда гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устрою Беларусі і аб правох і вольнасцях яе грамадзян і народаў:

1. — Беларусь у рубяжох рассялення і лічэбнай перавагі беларускага народа абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай.

2. — Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацвердзіць Установчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаемнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на пол, народнасць і рэлігію.

3. — Да часу, пакуль збярэцца Установчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага з'езда, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў Беларусі.

4. — Спаўняючая і адміністратыўная ўлада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю з'езда і перад ёю трымае адказ.

* У Радзе моцна пачынаюць адчувацца незалежніцкія тэндэнцыі. Народны сакратарыят складаецца амаль што выключна з незалежнікаў. Выразна незалежніцкія думкі мы бачым у нотах, якія накіравала Рада на імя Вышэйшага Польскага К-та, на імя камандзіра польскага корпуса легіёнаў Доўбар-Мусніцкага. Сувязь з Савецкай Расіяй яшчэ афіцыяльна не парвана, але яна з кожным днём змяншаецца. (Зборнік «Беларусь». Бач. 201).



5. — У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўна вольнасць сумлення, незачэпнасць асобы і памяшкання.

6. — У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі усе народы маюць права на нацыянальна-персанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. — У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, хто самі на ёй працуюць. Лясы, азёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. — У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінавы рабочы дзень.

Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады з'езда, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцця ў Рэспубліцы, сцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасць працоўнага люду. А таксама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Установчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказнай нашай працы. — Спаўняючы Камітэт Рады І-га Усебеларускага з'езда. Выдана ў Мінску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року».

Грамата гэта, як бачым, устанаўляе галоўныя пункты канстытуцыі Беларускай Народнай Рэспублікі. Грамата гэта яшчэ выразней гаворыць нам аб будове незалежнай беларускай дзяржавы. П. Крэчэўскі ў прыточваным вышэй артыкуле «Тры акты» кажа, што гэта грамата ёсць «абвешчаннем незалежнасці Бел. Нар. Рэспублікі». Так яно сапраўды і было. Няма толькі адной фармальнасці, няма яшчэ падкрэслення непрызнавання над Беларуссю суверэнітэту Расеі, да якой Беларусь дагэтуль належала. Але хутка ўжо прыйдзе і гэта фармальнасць.

Пасля гэтага так важнага палітычнага акта Вык. К-т з'езда, каб мець большую сілу, папоўніўся прадстаўнікамі земскіх і гарадскіх самаўрадаў Беларусі, аддаючы ім 30% агульнага ліку месцаў. Адначасна з гэтым было паднята пытанне аб перайменаванні Рады з'езда на Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, што і было прынята аднагалосна на адным з наступных пасяджэнняў*.

* А. Цвікевіч. Краткій очерк возникновенія БѢл. Нар. Республики. Кіев, 1918. Бач. 13–14.

### § 3. Менскае Беларускае Прадстаўніцтва і ідэя незалежнай Беларусі

Зараз, пасля прыходу немцаў, у Менску ўтварылася Беларускае Народнае Прадстаўніцтва. Складалася яно з элементаў, якія не былі ўвайшоўшы ў Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага Кангрэса і потым у Раду Бел. Народнай Рэспублікі.

Каб адказаць на пытанне, чаму гэтыя элементы, якія стварылі Прадстаўніцтва, не ўвайшлі ў Раду Рэспублікі, трэба нам глянуць назад, на падзеі з ліпеня месяца 1917 г. У гэтым месяцы на з'ездзе беларускіх арганізацыяў і партыяў дайшла да перавагі ў беларускім палітычным жыцці адна партыя — Беларуская Сацыялістычная Грамада. На гэтым з'ездзе (8–9 ліпеня) яна сарвала адны выбары, якія выпалі не па яе думцы, а зажадала новых. Не хочучы зрываць адзінага беларускага нацыянальнага фронту, усе іншыя партыі, якія былі на з'ездзе, а галоўна народныя сацыялісты і хадэкі, пайшлі на ўступкі і далі магчымасць Б. Сац. Грамадзе ўзяць павадырства ў свае рукі. Ад гэтага часу пачынаецца верхаводства Б. Сац. Грамады ў беларускім палітычным жыцці.

Гэтая ўступка з боку народнікаў і аддача павадырства ў рукі аднэй партыі была выклікана палітычнымі абставінамі тагачаснага беларускага жыцця. Трэба было тагды браць пад увагу не толькі еднасць беларускага нацыянальнага фронту, але і псіхіку расейскай рэвалюцыі. А гэта псіхіка вымагала штораз большай левасці, і тая партыя магла спадзявацца аўтарытэту і послуху ў мас, якая магла даказаць, што яна левая, ды яшчэ лявейшая за ўсе іншыя. А такою найболей леваю партыяй у беларускім палітычным жыцці была тагды якраз Б. Сац. Грамада. Апроч гэтага ў псіхіцы мас стварылася тады такое перакананне, што толькі сацыялізм можа даць шчасце народным масам і дзеля гэтага ў той час кожная партыя, нават такая, якая не мела ў сваёй ідэалогіі нічога сацыялістычнага, выступала пад фірмай сацыялізму. І так — творацца тагды (апроч сацыялістаў-рэвалюцыянераў) яшчэ іншыя «сацыялістычныя» партыі: народных сацыялістаў*, сацыялістаў-федэралістаў, сацыялістаў-аўтанамістаў, незалежных сацыялістаў і іншыя. Так і Б. Сац. Грамада не была чыста сацыялістычнай партыяй (з пункту гледжання марксізму), апіраючай сваю ідэалогію на матэрыялізме і інтэрнацыяналізме, а была партыяй, як мы бачылі аб ёй у асобным раздзеле, беларускіх патрыётаў, якія, па-свойму разумеючы сацыялізм, імкнуліся да адраджэння Беларусі пры помачы модных тагды сацыялістычных клічаў.

* Аддзел партыі беларускіх народных сацыялістых у м. Смілавічах між іншымі закладаў беларускі паэт А. Зязюля (кс. Л. Астрамовіч).



Вось у рукі такой партыі народнікі здалі павадырства ў беларускім палітычным жыцці ў ліпні 1917 г. і далей працавалі ўжо як памагальнікі. У «нагароду» за гэтую ўступку Б. Сац. Грамада не дапусціла да Выканаўчага Камітэта Рады Усебеларускага Кангрэса, а гэтым самым і да Рады Б. Нар. Рэспублікі, якая ўтварылася з Выканаўчага Камітэта Рады, ніводнага народніка, хадэка або народнага сацыяліста.

Такім чынам, Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэса, а потым Рада БНР на пачатку свайго існавання складаліся выключна з сяброў адной беларускай партыі, іменна Б. Сац. Грамады. Гэтае з'явішча было ненармальным, асабліва пасля прыходу немцаў, якія не хацелі лічыцца з такою вузкапартыйнай Радай.

Дык тыя групы, якія не былі дапушчаны да Вык. Камітэта Рады Кангрэса, разам з прадстаўнікамі насельніцтва горада Менска стварылі Менскае Беларускае Народнае Прадстаўніцтва. Складалася яно з тых элементаў, якія не ўваходзілі ў Б. Сац. Грамаду, а іменна: народнікаў агулам, народных сацыялістаў, хадэкаў і беспартыйных.

Прадстаўніцтва ўзяло на сябе абавязак, як піша яго орган «Бел[арускі] шлях» (першая беларуская штодзённая газета), «...прадстаўляць інтарэсы беларускага народа і быць нацыянальным цэнтрам, куды за ўсялякімі спраўкамі маюць зварочвацца ўсе, каму дарагая незалежнасць Беларусі, культура і самабытнасць беларускага народа... «Беларускі шлях» ставіць сабе мэтай: незалежнасць Беларусі, нацыянальную еднасць і арганізацыю, развіццё беларускай духовай і матэрыяльнай культуры... Шмат што нас можа разлучаць, але ўсіх нас яднае адно: гэта доля нашай Бацькаўшчыны Беларусі, каторая палепшыцца можа толькі праз закладзіны моцнага фундамента яе незалежнасці на грунце непадзельнасці беларускага народа ў яго этнаграфічных рубяжох; праз падняцце нацыянальнай творчай сілы народа, як духовай, так і матэрыяльнай, праз увядзенне станоўчай зямельнай рэформы ў інтарэсах дробных землясробаў і беззямельных, каб згодна з доследамі сацыяльнай навукі падняць іх дабрабыт і дапамагчы эканамічнаму развіццю краю»*.

Гэтак выяўляла свае палітычныя думкі Прадстаўніцтва ў сваім органе, які ў адным і тым жа нумары аж тры разы сцвярджае канечнасць незалежнасці Беларусі і ставіць гэту незалежнасць як га-

* Бел. шлях. № 1, 8.III.1918.

лоўную мэту тае арганізацыі, ад імя якое ён прамаўляе, г. зн. Бел. Прадстаўніцтва.

Агулам трэба адзначыць, што Прадстаўніцтва ад самага пачатку свайго існавання было за незалежнасць Беларусі. Трэба тут падкрэсліць, што калі пасярод Бел. Сац. Грамады былі да апошняга часу адзінкі, якія стаялі на грунце аўтаноміі Беларусі ў граніцах Расейскай Федэрацыі (рабілі яны гэта затым, што баяліся адкінуць ад сябе расейскую і жыдоўскую меншасці, якія былі проціў незалежнасці Беларусі, бо з расейскіх партыяў ніводная не стаяла за незалежнасць Беларусі, а з жыдоўскіх толькі Паалей-Сіён), то пасярод сяброў Прадстаўніцтва выступленняў проціў незалежнасці не было, і Прадстаўніцтва ад самага пачатку свайго існавання, гэта значыць за які месяц да абвешчання незалежнасці Беларусі Радай БНР, рашыла парваць з усякімі аўтанамічнымі канцэпцыямі ў граніцах вялікай Расейскай Федэрацыі і стала здэцыдавана на грунт незалежнасці Беларусі*.

Аднак злучэнне ўсіх беларускіх сіл у адну народную рэпрэзентацыю было тады жыццёвай канечнасцю, што хутка і сталася. 12.IV.18, ужо пасля абвешчання незалежнасці Беларусі, Прадстаўніцтва ўвайшло ў склад Рады Бел. Нар. Рэспублікі.

Нам тут найважней адцеміць, урэшце, той факт, што думка аб незалежнай суверэннай Беларусі, да свайго афіцыяльнага абвешчання, у некаторых беларускіх палітычных асоб і арганізацыяў у Менску, чаго яшчэ не было ў Вільні, існавала і ўжо яўна пашыралася.

**§ 4. Акт 25.III.1918**

З Рады з'езда і Выканаўчага К-та з'езда, як мы ўжо бачылі, у сакавіку месяцы 1918 г. утварылася Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Была яна як бы беларускім парламентам, бел. заканадаўчай установай. Выканаўчым органам Рады БНР, ці, прасцей кажучы, — Беларускім Урадам, і далей аж да 23.VII.18 г. быў Народны Сакратарыят, у склад якога ўваходзіла нешта да 15 народных сакратароў ці міністраў.

Вось жа Рада БНР разам з сваімі міністрамі, будучы ў незвычайна цяжкім палажэнні, з апошніх выбіваючыся сіл, энергічна праводзіла далей дзяржаўна-незалежніцкую ідэю, стараючыся зрэалізаваць яе.

* Кс. В. Гадлеўскі. З беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917–18 г. (Бел. крыніца. № 18, 1934).



Тым часам справа гэта была нялёгкая. Немцы і бальшавікі дзялілі Беларусь. У Берасці 9.II.18 быў падпісаны дагавор між немцамі і ўкраінцамі, на моцы якога некаторыя беларускія паветы пераходзілі да Украіны.

Немцы прызнавалі незалежнасць Літвы, у склад якой таксама мелі ўвайсці некаторыя беларускія землі. Прыступалі таксама немцы да стварэння «незалежнай» Курляндыі, да якой далучыліся б беларускія землі Віцебшчыны. Але гэта ўсё дробныя кавалкі беларускай зямлі, якой гандлявалі немцы. Бальшавікі ж для немцаў тым жа беларускім коштам былі шмат шчадрэйшыя.

4.III.18 прадстаўнікамі расейскай бальшавіцкай улады быў падпісаны мірны дагавор з немцамі, на моцы каторага «землі, ляжачыя на захад ад лініі Рыга — Дзвінск — Свянцяны — Ліда — Пружаны не будуць больш падлягаць дзяржаўнаму суверэнітэту Расеі, і будучы лёс гэтых зямель уладзіць Нямеччына з Аўстра-Венгрыяй, на моцы згоды з іх насельніцтвам»*.

Такім чынам, жывое цела Беларусі ў сакавіку 1918 г. было падзелена на часці прадстаўнікамі той улады, каторая ў снежні 1917 г. разагнала Усебеларускі з'езд. Выйшла так, што бальшавікі сілай перашкодзілі беларусам бараніць і будаваць Беларусь, а пасля самі падзяліліся ёй з Нямеччынай. Мала гэтага, пункт IX Берасцейскага дагавора кажа, што: «абедзве стораны, якія між сабой міracца (Нямеччына і Расея), адказваюцца ўзаемна ад тых убыткаў, каторыя прычыніла вайна насельніцтву гэтых дзяржаў». І гэты пункт маскоўскія бальшавікі падпісалі ў вялікай меры на кошт беларускага народа, бо ж усім ведама, колькі Беларусь ад вайны пацярпела!..

Ясная рэч, што Рада Беларускай Народнай Рэспублікі і яе ўрад не маглі згадзіцца з тым, што Берасцейскі дагавор абавязвае беларускі народ. Трэба было пратэставаць, трэба было прад усім светам заявіць, што аковаў, прыгатаваных для Беларусі бальшавікамі і нямецкімі генераламі, яна дабравольна сабе не наложыць і ад прыгавору на сябе смерці адказваецца. Святы загад, які даў свайму выканаўчаму органу Усебеларускі з'езд: «бараніць Беларусь ад раздзелаў», трэба было споўніць, нягледзячы на ніякія перашкоды.

Тым часам выканаць гэты загад у тых варунках міжнароднага характару, у якіх знаходзілася Беларусь, было немагчыма. Справа ў тым, што, згодна з міжнародным правам, дагаворы, падпісаныя ўрадам усяго краю, не могуць не прызнавацца паасобнымі яго часцямі. Дзеля гэтага БНР, покуль яна афіцыяльна не заявіла аб сваёй

* А. Цвікевіч. Краткій очерк... Бач. 14.

дзяржаўнай суверэннай незалежнасці, была ўважана за часць Расеі і дзеля гэтага мусіла маўчаць і прызнаваць тое, што рабілі бальшавіцкія камісары. Аставалася адно з двух: або адхіліцца ад наказу Усебеларускага з'езда і згадзіцца на новую палітычную смерць Беларусі, або аб'явіць Беларусь ад нікога незалежнай суверэннай дзяржавай і гэтым ураттаваць будучыню беларускага народа. Рада, як убачым ніжэй, стала на гэты другі шлях.

Як успаміналі мы вышэй, пачынаючы ад Усебеларускага з'езда, сярод беларускіх палітыкаў ужо паяўлялася думка аб ідэале незалежнасці Беларусі. Падзел Беларусі ў Берасці 4.III.18 думку гэту яшчэ больш усіліў і зактуалізаваў. Слушна кажа праф. У. Ігнатоўскі*, што ў гэтым часе «думка аб незалежнасці Беларусі ад Савецкай Расеі менскім беларускім кругом не давала спаць».

Думка аб абвешчанні беларускай поўнай незалежнасці цалком наспела і сталася канечнасцю, калі беларусы з Зах. Беларусі з-пад нямецкай акупацыі пачалі спатыкацца з беларусамі Усх. Беларусі. Беларусам з усходу трудна было парваць дзяржаўную лучнасць з Расеяй; беларусам віленскім зрабіць гэта было зусім лёгка, бо фактычна гэтага даканала нямецкая акупацыя. Бел. Канферэнцыя ў Вільні 15–17.I.1918, як мы бачылі, дамагаючыся Беларуска-Літоўскай дзяржавы з зямель з-пад нямецкай акупацыі, дамагалася, каб да гэтай дзяржавы была далучана і рэшта беларускіх зямель, што на ўсход ад лініі гэтай акупацыі. «Канфэрэнцыя горача жадае, каб у імя права на непадзельнасць беларускага народа, разрэзанага лініяй фронту, і ў імя еднасці ўсіх беларуска-літоўскіх зямель — да памянёнай гасударственнай арганізацыі, заўсёды станавіўшай ядро Вялік. Кн. Літоўскага, была далучана і рэшта беларускіх зямель, як часць да цэлага...»

Віленская Рада, выбраная на ўспомненай Канферэнцыі, на паседжанні сваім 19.II.18 прыняла пастанову, між іншым, гэткага зместу: «...Віленская Беларуская Рада абвяшчае сувязь паміж Расеяй і Беларуссю парванай... Рада звяртаецца да ўсіх заходніх дзяржаў... каб яны дапамаглі ў справе адбудовы дзяржаўнай незалежнасці колішняга Літоўска-Беларускага гаспадарства... нягледзячы на цяперашні раздзел яго мяжою фронту»**.

Характэрнае, як бачым, было стварыўшыся палажэнне ў беларускай тагачаснай палітыцы. Менскія беларусы, якім, як кажа Ігнатоўскі, думка аб незалежнасці Беларусі ад Расеі не давала спаць,

* Зборнік «Беларусь». Бач. 201.

** Тамсама.



ніяк не маглі адважыцца выявіць яе фармальна і афіцыяльна. Зноў жа віленскія беларусы, фактычна будучы ад Расеі адарваны праз некалькі гадоў, незалежнасць Беларусі ад Расеі аб'явілі афіцыяльна, але і далей гаварылі не аб Беларусі суверэннай, збудаванай на беларускім нацыянальным прынцыпе, а аб Літоўска-Беларускай дзяржаве, аб супольным дзяржаўным арганізме беларусаў і літоўцаў. І гэта было тады, як мы ўжо ўспаміналі, калі літоўцы, уцяміўшы глыбей ад беларусаў нацыянальны прынцып, ужо былі далёка зайшоўшы ў будаванні цалкам самастойнай незалежнай Літвы, аб суполцы з беларусамі не хочучы і слухаць. Такім чынам бачым, што агулам у тагачаснай беларускай палітычна-дзяржаўнай думцы, як у Беларусі заходняй, так і ўсходняй, не хапала скаардынавання, супольнай платформы выключна на нацыянальным прынцыпе і супольнага ад усей Беларусі фармальнага выступлення ў справе поўнай самастойнасці і незалежнасці Беларусі.

Урэшце сталася і гэта. У другой палове сакавіка 1918 г. у Менск прыбыла дэлегацыя ад Віленскай Беларускай Рады. Віленчукі, спаткаўшыся з мінчукамі, хутка вызбыліся сваіх неактуальных федэрацыйных ідэалаў з Літвой, а зноў мінчукі яшчэ больш набраліся рашучасці і пераканання аб патрэбе абвешчання незалежнасці Беларусі і ўжо на гэтым грунце далейшага вядзення беларускага палітычнага вызвалення. Словам, ідэя суверэннай Беларусі наспела цалком. Аставалася толькі яе выявіць. БНР папоўнілася прадстаўніцтвам ад Вільні. У БНР была выразная большасць незалежнікаў, якая на паседжанні Рады БНР уночы з 24 на 25.III.1918 прыняла рэзалюцыю аб суверэннай незалежнасці Беларусі.

Беларусь пачала новую эру. Таго ж самага дня была апублікавана ад імя Рады БНР наступная — трэцяя — устаўная грамата:

«Год таму назад народы Беларусі, разам з народамі Расеі, скінулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь; не пытаючыся народаў, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якая была накінута расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Ўстаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных звязах Беларусі.

На падставе гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя звязі, якія далі магчымасць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь Трактат у Берасці, што забівае на смерць беларускі народ, дзелячы зям-

лю яго на часткі. На падставе гэтага Урад Бел. Нар. Рэспублікі мае ўвайсці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, запрапанаваўшы ім пераглядзець тую частку Берасцейскага трактата, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную ўмову са ўсімі ваяваўшымі дзяржавамі.

БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ, а ўласна: Магілёўшчыну, беларускія часці Меншчыны, Віленшчыны, Горадзеншчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часці суседніх губерняў, заселеных беларусамі.

БНР пацвярджае ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўнай Граматай ад 9 сакавіка 1918 г.

Абвяшчаючы аб Незалежнасці БНР, яе Рада ўскладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы памогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы. 25 сакавіка 1918. Менск. Рада БНР».

У гэткіх цяжкіх патугах і болях нарадзіўся ідэал незалежнай суверэннай нацыянальнай Беларусі.

## XI. СПРОБЫ БУДАВАННЯ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ ПАСЛЯ АКТА 25.III.1918 І ЯГО ЗНАЧЭННЕ

### § 1. Рада Бел[арускай] Народнай Рэспублікі і яе ўрад

Рада Усебеларускага з'езда, як сказана вышэй, перайменавалася на Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Выканаўчым яе органам — урадам — аставаўся далей Народны Сакратарыят, які 9.X.1918 быў перайменаваны на Раду Народных Міністраў, ці Кабінет Міністраў.

Вось жа, пасля аб'яўлення Радай БНР 25.III.1918 незалежнасці Беларусі прад ёй і прад яе ўрадам стала задача рэалізавання гэтай незалежнасці. Сам факт абвешчання Беларусі суверэннай нацыянальнай дзяржавай і рэальная патрэба гэтую суверэнную Беларусь будаваць — гэта ўжо сапраўды вялікі, гістарычнага значэння, шаг уперад у беларускай палітычнай вызвольнай думцы. Сутнасць гэтага значэння ў тым, што ўжо далей аб федэрацыйнай ці якой іншай лучнасці і залежнасці Беларусі з Расеяй ці з кім іншым думаць і гаварыць не прыходзілася. Гэтыя справы ўжо сталіся другараднымі. На першы план выплыла суверэнная, ад нікога незалежная нацыянальная Беларусь. І слушна, бо «...без незалежнасці паасобных народаў няможна прыступаць да федэрацыі іх. Толькі той народ можа ўступаць у федэрацыйную лучнасць, у дагаворныя зносіны з суседзямі, каторы арганізаваўся як дзяржава і мае ўладу, якая можа заявіць, чаго гэты народ хоча і чаго не хоча... Да федэрацыі праз незалежнасць!»*.

Рада Бел. Нар. Рэспублікі ўсё гэта дужа добра ўцяміла і праз свае ўрады энергічна прыступіла да будавання незалежнасці Беларусі**. Праца была нялёгкая. На перашкодзе спярша былі немцы з



* Др.А. Цвикевичъ. Беларусь. Берлин, 1919. Бач. 21.

** Падаю тут у храналагічным парадку цэлы рад гістарычных актаў, якія, уведзеныя ў тэкст, значна яго абцяжылі б, а каторыя ведаць для яснейшага разумення беларускай незалежніцкай палітыкі трэба неабходна.

Акупацыя немцамі Зах. Беларусі: восень 1915 г. — Расейская рэвалюцыя: канец лютага і пачатак сакавіка 1917 г. — Расейская бальшавіцкая рэвалюцыя: кастрычнік 1917 г. —Усебеларускі Кангрэс у Менску: ад 5 да 18 снежня (стар. стылю) 1917 г., разгон Кангрэса бальшавікамі з 17 на 18 снежня (стар. стылю). — 18 снежня Рада Кангрэса выбрала Спаўняючы Камітэт. — 20 лютага 1918 г. утвораны першы беларускі ўрад пад назовам Народны Сакратарыят. — Перагаворы ў Берасці між бальшавікамі і цэнтральнымі дзяржавамі з перарывамі — ад 3 снежня 1917 да 4 сакавіка 1918 г. У гэтым міжчасе ў тым жа Берасці цэнтр. дзяржавы з украінцамі падпісалі дагавор — 9 лютага 1918. Беларусы на гэтыя перагаворы не былі дапушчаны. — Акупацыя немцамі далейшых беларускіх зямель і заняцце Менска аж да Воршы — 25 лютага 1918 г. — Дагавор у Берасці бальшавікоў з цэнтральнымі дзяржавамі — 3 сакавіка 1918. — У сакавіку 1918 Рада Кангрэса была перайменавана на Раду Бел. Народнай Рэспублікі. — 25 сакавіка 1918 абвешчанне Радай Рэспублікі незалежнасці Беларусі. — 9 кастрычніка 1918 г. Беларускі Народны Сакратарыят перайменаваны на Раду Міністраў — 20 лістапада 1918 г. дагавор аб палітычнай дружбе між Віленскай Беларускай Радай і Літоўскай Тарыбай. — 9 снежня 1918 г., перадаўшы ўладу бальшавіком, немцы пакінулі Менск і ўсю Беларусь. —1 студзеня 1919 г. бальшавікі, заняўшы Зах. Беларусь, абвесцілі Беларусь незалежнай рэспублікай. — 27 лютага 1919 аб'яднанне Савецкай Беларусі з такой жа Літвой (Літбел). — 19 красавіка 1919 г. палякі, прагнаўшы бальшавікоў, занялі Вільню. — 28 чэрвеня 1919 мірны дагавор у Версалі. — 1 жніўня 1919 бальшавікі зноў абвесцілі незалежную Савецкую Сацыялістычную Беларусь. — 8 жніўня 1919 палякі занялі Менск. — 13 снежня 1919 сход Рады Бел. Нар. Рэспублікі, на які сябры Рады, што арыентаваліся на Польшч, не прыйшлі і стварылі Найвышэйшую Раду. — 11 ліпня 1920 г. бальшавікі, прагнаўшы палякоў, зноў занялі Менск і пайшлі на Варшаву. — Летам 1920 г. заняцце літоўцамі Вільні. — 12 ліпня 1920 дагавор Літвы з Масквой, па якому часць Зах. Беларусі адыходзіць да Літвы. — 15 жніўня 1920 г. палякі гоняць бальшавікоў зноў на ўсход. — 11 лістапада 1920 між урадамі Літвы і Беларусі падпісаны дагавор аб узаемным падтрыманні. — 9 кастрычніка 1920 г. польскі ген. Жэлігоўскі забірае ад Літвы Вільню. Стварэнне Сярэдняй Літвы: пав.: Віленскі, Ашмянскі, Свянцянскі і часць Троцкага. 20 сакавіка 1921 Рыжскі дагавор, які ўсталіў сучасную бальшавіцка-польскую граніцу. На перагаворы беларусы дапушчаны не былі. Перагаворы цягнуліся ад восені 1920. — У канцы 1920 г. — беларускае Слуцкае паўстанне проціў бальшавікоў: арганізавала яго пры падтрыманні польскага генеральнага штаба Бел. Найвышэйшая Рада. — 25 верасня 1921 г. Усебеларуская Канфэрэнцыя ў Празе Чэш-

бальшавікамі, а пасля, калі немцы аканчальна выйшлі з Беларусі, за Беларусь пачыналася новая барацьба між бальшавіцкай Расеяй і паўстаючай да незалежнага жыцця новай Польшчай. Рада БНР мусіла будаваць незалежнасць Беларусі, маючы проціў сябе гэтыя дзве вялікія варожыя сілы. Аднак Рада БНР рабіла што магла, не апускаючы рук. 28.XI.18 яна адбыла нараду, на якой пастанавіла, дзеля захавання беларускай улады, на якую насядалі бальшавікі, пакінуць Менск. Так і сталася. 3.XII.18 частка Прэзідыума Рады БНР і ўрад пакінулі Менск і выехалі спярша ў Вільню, а пасля за граніцу. 9.XII.1918 Менск немцы перадалі бальшавіком, а самі адышлі назаўсёды.

Беларуская ўлада, хоць выгнаная з свайго краю, рабіла ўсё магчымае для збудавання незалежнай Беларусі. Праца яе ішла ў двух кірунках: у краі і за граніцай. У краі Рада БНР праз свой урад, ці, вярней, праз паасобных сяброў Рады і ўрада, што асталіся ў краі, або і так праз верных сабе людзей — рупілася будзіць шырокія беларускія масы да будавання і падтрымання сваёй незалежнасці. Дзеля гэтага яна арганізавала і падтрымлівала беларускія як пачатковыя, так і сярэднія школы, падтрымлівала кааперацыю, беларускую прэсу і розныя іншыя беларускія культурныя, эканамічныя і палітычныя арганізацыі.

Але хоць і добра ў кірунку незалежнасці Беларусі развівалася праца ў краі, яе аднэй для гэтай мэты было замала. Аставалася яшчэ неабходным заінтарэсаваць беларускай незалежніцкай справай Еўропу і зрабіць гэту справу справай міжнароднай. Вось жа, апроч дзяржаўнай працы ў краі, будуючая Беларускую Народную Рэспубліку Рада і яе ўрад праводзілі таксама шырокую працу і за граніцай. Яшчэ ўлетку 1918 г. былі ўстаноўлены дыпламатычна-консульскія прадстаўніцтвы Бел. Нар. Рэспублікі на Украіне — у Кіеве і Адэсе, на Доне — у Растове, на Паўночным Каўказе — у Стаўропалі, у Літве, Латвіі, Эстоніі, у Празе Чэшскай і ў Парыжы, а таксама нават і у Савецкай Расеі — у Маскве.

Увосень таго ж 1918 г. былі арганізаваны надзвычайныя місіі, якія зрабілі падарожжы: у Кіеў — да ўрада гетмана Скарапацкага, у Варшаву — да ўрада Рады Рэгенцыйнай, у Вільню — да Урада Літоўскай Тарыбы, у Берлін — да Германскага дзяржаўнага канцлера і да фракцый Рэйхстага, затым у Капенгаген (Данія) і ў Берн (Швейцарыя).

---

скай. — 8 студзеня 1922 г.: Віленскі Сойм, які 20 лютага 1922 Вільню далучыў да Польшчы. — 14 сакавіка 1923 г. Рада Амбасадараў прызнала сучасныя граніцы Польшчы. — У канцы 1925 г. перадача некаторымі сябрамі Бел. Нар. Рэспублікі і яе міністрамі мандатаў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы.



23 красавіка 1919 г. палякі перамаглі бальшавікоў, занялі Вільню, а пасля і Менск. Некаторыя радныя і міністры, зблізаныя да палякаў, мелі надзею, што будзе дазволена адбыць агульны сход Рады Рэспублікі. Ім паверылі і іншыя. З гэтай мэтай 1.XII.1919 усе прыбылі ў Менск, дзе, аднак, аказалася, што легальна склікаць Раду нельга. А гэта затым, што радных, якія стаялі за незалежнасць, было больш, а тых, што імкнуліся да злучэння Беларусі з Польшчай, было менш. Пры гэткім складзе і настроях Рады БНР палякі не давалі дазволу склікаць яе.

13.XII.1919 Рада адбылася нелегальна. На Раду паланафілы не прыйшлі зусім. Рада Рэспублікі выбрала новы прэзідыум, а таксама і новы ўрад. Польская ўлада некаторых радных і міністраў арыштавала. Некаторыя ж з іх паўцякалі за граніцу. Тое ж пасля зрабілі і звольненыя палякамі з турмаў.

Радныя паланафілы сабраліся асобна, адарваліся ад Рады БНР і стварылі так зв. Найвышэйшую Раду, якая трымалася польскай арыентацыі і на Польшчу ўскладала ўсе свае надзеі. Хутка паказалася, што быў гэта ход фальшывы. Палякі, атрымаўшы дзякуючы Рыжскаму міру ў 1921 г. сучасныя ўсходнія граніцы, з Найвышэйшай Радай перасталі зусім лічыцца. Пераканаліся аб гэтым і самі сябры Найвышэйшай Рады, калі ў тым жа 1921 г. свае мандаты здалі Радзе БНР.

Тварцом Найвышэйшай Рады і яе ідэолагам быў Антон Луцкевіч. Палітычны дзеяч гэты цвёрда трымаўся польскай арыентацыі і верыў, што Польшча дапаможа ў будове незалежнай Беларусі. У архіве інж. Л. Дубейкаўскага* спатыкаем лісты А. Луцкевіча, з якіх ясна відаццa палітычныя яго пагляды, абапёртыя на польскай арыентацыі.

І так, у лісце да інж. Л. Дубейкаўскага (з 8.VI.1920) А. Луцкевіч між іншым піша: «...Я хачу ехаць у Парыж праз Дзвінск — Рыгу і забраць Ладнова**, бо баюся, што ён мо сядзіць без грошы і сам не здолее выбрацца. Апрача таго, трэба яго паінфармаваць аб палажэнні справы ў краю, каб ён не папаўся на вуду Ластоўскаму і камп***... Кеніншу**** можаце ў гутарцы сказаць, што я маю на

---

* Інж. Л. Дубейкаўскі, ведамы з сваёй асабістай і палітычнай чэснасці, ад імя Бел. урада бараніў беларускай справы ў Варшаве; праканаўшыся ў негатыўных адносінах Польшчы да беларускіх палітычных незалежніцкіх ідэалаў, ад палітыкі адышоў, працуючы далей выключна на беларускай ніве культурнай і грамадскай у Вільні.

** Ладноў — давераны французаў і палякоў.

*** Ластоўскі і камп. — гэта тыя беларускія палітыкі, якія трымаліся незалежніцкай арыентацыі Рады Бел. Нар. Рэспублікі і яе ўрада.

**** Кенінш — латвійскі палітык.

мэце зрабіць умову з Латвіяй аб прызнанні Дзвінска за латышамі, бо і для нас дужа небяспечна, калі Дзвінск прыпадзе літвінам і гэтым самым станецца пунктам маскоўска-нямецкага стыку. З другога ж боку, гэта дасць нам сімпатыі латышоў, якія дзеля сваёй уласнай карысці будуць націскаць Польшчу, каб нас прызнала... У гэты момант мы павінны напружыць усе свае сілы дзеля заграмнічнае работы: найменшы цень прызнання нас за граніцай дасць цвёрды грунт дзеля прызнання нас Польшчай, каторая адна толькі і можа ў гэты момант даць нам рэальную помач...»

Ізноў жа ў іншым лісце А. Луцкевіча да таго ж Л. Дубейкаўскага (з 3.VI.21) між іншым чытаем: «Было б вельмі важна, каб Ладноў папаў у Брусель і там разбіў камбінацыю Ластоўскага: гэты бандыт праз Цвікевіча перадаў літоўскай дэлегацыі — нашым заклятым ворагам — абарону інтарэсаў Беларусі! Можаце прадставіць, якая гэта будзе абарона! Знясіцеся з Ладновым, мо яму пераслаць мемарыял Дзяржаўнага К-та*, або Нац. К-та ў справе праекта Humansa? Вельмі важна паказаць, што Віленскі кантон — не «польскі», як хочуць палякі, а ў найгоршым прыпадку «польска-беларускі». Калі б Ладноў мог дабіцца ад палякаў заняцця такой пазіцыі, то тут усе — і нават увесь Нац. К-т пайшлі бы з палякамі...»

Гэткія былі палітычныя пагляды А. Луцкевіча ў 1920 і 1921 г., калі на міжнароднай арэне рабіліся спробы вырашэння між Літвой і Польшчай справы Вільні; не іншымі, ведама, яны былі і ў 1919 г., калі ён тварыў Найвышэйшую Раду. Пагляды гэтыя ўрэшце такімі ж асталіся на працэсе Бел. Сялянска-Работніцкай Грамады ў Вільні. Будучы замешаным у гэты працэс, на допытах следаваццеля 12 кастрычніка 1927 г. Ант. Луцкевіч між іншым заявіў, што ён па нацыянальнасці «беларус-паляк»**. А гэта ўжо гавора больш, чым звычайная палітычная арыентацыя на Польшчу. Але ідзём далей.

Ад канца 1919 і пач. 1920 г. Рада БНР і беларускі ўрад знаходзіліся за граніцай — спярша ў Літве, а пасля ў Празе Чэшскай.

Вялікім падтрыманнем Рады БНР і яе працы ў кірунку будаўніцтва беларускай дзяржаўнасці была ўсебеларуская палітычная нарада ў Празе 25 верасня 1921 г. Нарада гэта, між іншым, сцвердзіла, што «адзіным заканадаўчым органам Беларусі з'яўляецца Рада БНР, маючая праемственнасць улады ад Усебеларускага Кангрэса

* Дзяржаўны К-т — гэта фактычна тая ж заканспіраваная Найвышэйшая Рада, якая фармальна ўжо не існавала.

** Акты справы Бел. Сял.-Раб. Грамады. Т. IV–F. Бач. 186 (паводле аднаднёўкі «Слова праўды». Вільня, 21 лістапада 1931).



1917 г., і што адзінай адказнай уладай Беларусі з'яўляецца ўрад БНР, маючы мандат ад Рады БНР»*.

Найвышэйшая беларуская палітычная ўлада, будучы на эміграцыі, верна бараніла ідэал незалежнасці Беларусі. Дзеля гэтай мэты яна праз сваіх агентаў рупілася аб адпаведную працу ў краі, а таксама праз розныя мемарыялы бараніла незалежнасці Беларусі на арэне міжнароднай.

Але час ішоў і працаваў не на карысць Беларусі. Аказалася, што яшчэ беларусы занадта слабыя, як у жыцці сваім культурна-нацыянальным, так эканамічным і палітычным, каб маглі абараніць Беларусь ад ворагаў і збудаваць яе незалежнасць.

Рыжскі мір 1921 г. заходнюю Беларусь украпіў за Польшчай, а ўсходнюю за Савецкай Расеяй. Радзе БНР не аставалася нічога іншага, як толькі захаваць сябе як найвышэйшую беларускую ўладу, каб прыпамінаць аб ідэалах незалежнай Беларусі як свайму народу, так і Еўропе. Гэта БНР і рабіла ў меру сіл сваіх.

Але прыйшоў урэшце цяжкі крызіс і для БНР. Сябры Рады БНР і яе ўрада апынуліся на эміграцыі ў цяжкім маральным і матэрыяльным палажэнні. Палітычнае міжнароднае палажэнне больш-менш устабілізавалася. БНР усімі была забытая і пакінута. Лёс сяброў БНР і ўрада стаўся такім, як усей беларускай інтэлігенцыі. Аставалася толькі Савецкая Беларусь, дзе да 1926 г. беларускай інтэлігенцыі была дадзена сякая-такая магчымасць працы[29]. Дык не дзіва, што і пакіравалася ў БССР усё беларускае жывое і творчае. Зачалі на БССР аглядацца і некаторыя сябры БНР. Да таго сярод іх савецкія палітыкі ўпорыста агітавалі за поўную ліквідацыю Рады БНР і яе ўрада і за поўнае аб'яднанне з БССР. Вынікі ўсяго гэтага былі тыя, што ў Берліне ў канцы 1924 года некаторыя сябры беларускага ўрада свае мандаты здалі БССР. Праўда, фармальна гэта яшчэ не была ліквідацыя беларускай суверэннай улады, бо старшыня Рады БНР гэтай перадачы мандатаў не пацвярдзіў і Рада гэта, як насіцелька суверэннай бел. улады, асталася існаваць далей, але фактычна мала што аставалася ўжо ад гэтай улады, бо ж радных ужо асталося толькі два-тры чалавекі. Ад гэтага часу ўжо фактычна можна гаварыць не аб беларускай суверэннай уладзе, але аб ідэі суверэннай Беларусі, якую верна перахавалі і пераказалі беларускаму народу гэтыя два-тры чалавекі. Слушна аб гэтым кажа апошні старшыня Рады БНР П. Крэчэўскі, што «Права не ў сіле. Часовая перамога — не ёсць закон на будучыню. Рамантызм ідэі творыць рэальнасць, а не наадварот. Рэальнасць падпарадкоўвае слабейшых, а

* Замежная Беларусь. Бач. 63.

моцны духам рамантызм змагаецца і накрэслівае новыя шляхі будучыны. Не апраўдаўшыя народнага даверу рэалісты адышлі ў старану ці перайшлі ў варожы стан, а цвёрды рамантызм ідэі незалежнасці і яе дзяржаўных устаноў жыве далей і будзе жыць, пакуль жыве сама ідэя»* .

Дзейнасць П. Крэчэўскага ў справе барацьбы за незалежнасць Беларусі настолькі выдатная і заслужаная, што варта хоць збольшага пазнаёміцца з яго біяграфіяй.

Сын дзяка сельскага прыходу Кобрынскага пав. Гродзенскай губ. Радзіўся 7.VIII.1879 г. Вучыўся ў Віленскай Духоўнай Семінарыі, якую скончыў 1902 г. Пасля займаў пасады вучыцеля і банкавага ўрадоўца. У 1914 г. быў забраны на вайну і назначаны ваенным урадоўцам. Рэвалюцыя 1917 г. застае П. Крэчэўскага на гэтай пасадзе ў Барысаве. На Усебеларускім з'ездзе 1917 г. быў ён выбраны сябрам Рады з'езда. 19.II.18 увайшоў у склад першага беларускага ўрада (Народны Сакратарыят). У траўні 1918 г. заняў становішча Старшыні Гандлёвай Палаты Беларусі. 11 кастрычніка 1918 г. выбраны сакратаром Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. 13 снежня 1919 быў выбраны старшынёй гэтай Рады. Трымаць сцяг незалежнасці Беларусі і ў Беларусі аставацца, калі там панавалі чужынцы, не было магчымым. Дзеля гэтага П. Крэчэўскі з беларускім урадам прабываў за граніцай: у Коўна, у Берліне, Рызе, зноў у Коўна і ад 1923 аж да смерці 8.III.1928 г. прабываў у Празе Чэшскай.

Па смерці П. Крэчэўскага, Старшыні Рады БНР, ягоным намеснікам стаўся В. Захарка, як жывы яшчэ сведка, дзейны ўчаснік і спадкабернік астаткаў беларускай суверэннай улады. Аб П. Крэчэўскім у лісце 2.IV.1928 да рэд. «Бел. крыніцы» піша ён між іншым гэтак: «Ворагі Беларусі не раз рабілі прапазіцыі і П. Крэчэўскаму, але ён заўсёды адкідаў з пагардай усё тое, што шкодзіла чыстаце нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасці Беларусі і ганьбіла яго ўласнае імя. Ён добра ведаў, што гэтыя прапазіцыі робяцца толькі дзеля таго, каб выбіць з яго рук штандар асвабаджэння Беларусі ад чужацкага ўціску. Цяжар жыцця П. Крэчэўскага, як Старшыні Рады БНР, найбольш павялічваўся яго расчараваннем у большасці беларускіх палітычных дзеячаў. Пераход іх на іншыя пазіцыі, часта звязаныя не толькі з падрывам становішча асоб, прадаўжаўшых служыць ідэалу беларускага народа, але і асмяяннем самога ідэалу, прыносіў найбольшую прыкрасць Крэчэўскаму і найсільней падрываў яго слабае здароўе.

* Замежная Беларусь бач. 131–132.



Пётр Антонавіч Крэчэўскі памёр у беднасці і адзіноцтве, будучы пакінутым амаль усімі беларускімі дзеячамі — былымі яго супрацоўнікамі, але аставіў па сабе багатую, крышталічную чэснасць. Надыдзе час, калі адданасць беларускаму народу будзе ацэнена гэтым народам!»

**§ 2. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка**

У меру таго, як у канцы 1918 г. нямецкая армія адыходзіла дамоў і ачышчала беларускія землі, услед за ёй ішла армія бальшавіцкая. 1 студзеня 1919 г. бальшавікі абвясцілі незалежнасць Беларусі, як Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, зазначаючы адначасна, што Рада Бел. Нар. Рэсп. і ўрад яе ўважаюцца «без абароны закону», і за першыя два з паловай месяцы 1919 г. занялі бадай усю Беларусь і часць Усходняй Літвы. У пачатку студзеня бальшавікі занялі Вільню. Літоўская Тарыба (Дзяржаўная Рада) пад націскам бальшавікоў, а таксама і палякаў, у якіх руках тады фактычна Вільня ўжо была, места гэта пакінула. Беларусь і Літву бальшавікі злучылі ўрэшце ў адну літоўска-беларускую (Літ-Бел) савецкую рэспубліку і стварылі для яе гэткага ж назову ўрад. У красавіку месяцы 1919 г. бальшавікоў з Беларусі і Літвы пачалі выганяць палякі. 19 красавіка яны занялі Вільню і паволі пасоўваліся на ўсход Беларусі. Жадаючы мець прыхільнасць для сябе беларускага народа, бальшавікі 1 жніўня таго ж года зноў Беларусь абвясцілі незалежнай савецкай рэспублікай. 8 жніўня палякі занялі Менск. Крыху менш як за год бальшавікі пачалі зноў наступленне, якое скончылася мірам іх з палякамі ў Рызе 20 сакавіка 1921 г. Заходняя Беларусь асталася за Польшчай, а рэшта, за выняткам той часці, якая апынулася ў Латвіі, адышла да Саветаў, дзе і сёння яна знаходзіцца пад назовам: Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка*.

У склад Савецкай Беларусі спярша ўваходзіла толькі некалькі паветаў Меншчыны, а пасля яе тэрыторыя была значна пашырана. Аднак і сёння Сав[ецкая] Беларусь не абдымае ўсіх беларускіх этнаграфічных земель, што знаходзяцца пад савецкай уладай. Дагэтуль туды не ўлучаны землі з выразнай беларускай большасцю насельніцтва, як Гомельшчына, павет Красны Смаленшчыны і паветы Віцеб-

* Усе беларускія этнаграфічныя землі займаюць больш 300 тысяч кв. кіламетраў прасторы. З гэтага каля 210 тыс. кв. км. з 7 мільёнамі ўсяго насельніцтва належаць да Саветаў, 107 тыс. кв. км з 3 мільёнамі насельніцтва — да Польшчы і 3,5 тыс. кв. км з 200 тыс. насельніцтва — да Латвіі. (Зборнік «Беларусь». Бач. 4.)

Усіх беларусаў як на беларускіх землях і на эміграцыі, паводле падлічэнняў саміх жа беларусаў, цяпер налічаецца больш 10 мільёнаў.

шчыны: Веліж, Невель, Себеж. Не ўлучаны, ведама, у граніцы Сав[ецкай] Беларусі і самыя ўсходнія рубяжы беларускія з гарадамі: Новазыбкаў, Старадуб, Мглін, Ельня, Смаленск, Дарагабуж, Духаўшчына, Белы. Тым часам землі гэтыя, як гэта відаць з навуковых крыніц, належаць да беларускай этнаграфічнай тэрыторыі, хоць ужо з большай, як у іншых месцах, дамешкай элемента расейскага.

Каб зашахаваць дзейнасць і павагу Рады Бел. Нар[однай] Рэспублікі, а таксама каб мець на сваёй старане беларускае насельніцтва падчас вайны Саветаў з Польшчай, Савецкая Беларусь на розных з'ездах саветаў, у прэсе, на мітынгах часта была называнай незалежнай дзяржавай, незалежнай савецкай рэспублікай. Граніцы і сутнасць гэтай незалежнасці і адносіны Беларусі да Расеі спачатку не былі адзначаны ніякім праўным дакументам. А ўжо ў 1921 г. 16 студзеня робіцца і гэта ў умове між Беларусяй і Расеяй. У гэтай умове падкрэсліваецца федэрацыйная лучнасць між абедзвюма дзяржавамі, азначаецца, што належыць да кампетэнцыі адной, а што да кампетэнцыі абедзвюх, і вырашаюцца спосабы ўзаемных адносінаў між беларускім і расейскім урадамі. Паводле гэтай умовы правы Беларусі, як дзяржавы, былі дужа скупыя і агранічваліся толькі да спраў асветы і спраў сцісла ўнутраных. Словам, Беларусь паводле гэтай умовы атрымала ад Расеі свайго роду аўтаномію.

Далейшым важнейшым актам у справе праўна-дзяржаўнага палажэння Беларусі з'яўляецца агульнасавецкая канстытуцыя з 6 ліпеня 1923 г., у якой ёсць, між іншым, раздзел аб «суверэнных правох саюзных рэспублік», а таксама пункт, які кажа, што «за кожнай Саюзнай Рэспублікай захоўваецца права вольнага выхаду з Саюза». У дакуменце гэтым тэарэтычна, як бачым, выразна падкрэсліваецца суверэнітэт савецкіх саюзных рэспублік, але практычна рэспублікі гэтыя астаюцца адзінкамі, маючымі ад Расеі свайго роду толькі самаўрад, ці аўтаномію. Гэткае ж фармальна-праўнае палажэнне савецкіх саюзных рэспублік, а ў іх ліку і Беларусі, трывае і сёння.

Савецкая Беларусь хоць і дужа агранічаныя свае аўтаномныя правы выкарыстала, аднак, даволі шырока, маючы найбольш волі ў галіне асветы і культуры; беларускі савецкі ўрад пакрыў Беларусь сеткай беларускіх школ, залажыў у Менску Беларускі універсітэт, Акадэмію навук, вышэйшыя школы спецыяльныя, а таксама падтрымліваў беларускае пісьменства, беларускіх вучоных і іх працу і г. д. За якіх больш-менш 10 гадоў (1920–1930) Савецкая Беларусь у галіне беларускай асветы, культуры і навукі зрабіла сапраўды вялікі поступ. Але поступ гэты беларускага нацыянальнага творства, урэшце, да таго перапужаў Маскву, што сёння там беларуская народна-культурная і навуковая праца прыціхла, а многія беларускія культурныя і навуковыя сілы пазбаўлены свабоды і павыселены з граніц Беларусі. Сталася гэта ў 1929-30 г. Не пашчадзіла Масква нават павадыроў «Бел. Сялянска-Работніцкай Грамады», што з блаславенства Масквы* шырока былі разгарнуўшы палітычную працу ў Беларусі пад Польшчай**, а пасля паўцякалі ў БССР. Бальшавікі паняволілі іх і павысылалі за межы Беларусі ў 1933 г. Ясна, увесь гэты вялікі паход на беларускую культуру і палітыку ёсць праявам палітычнага цэнтралізму Масквы, якая, не хочучы і баючыся беларускай незалежнасці, нішчыць усякія, хоць бы і культурныя, праявы беларускага нацыянальнага жыцця. Афіцыяльна, аднак, Масква гэта робіць пад плашчом камуністычнага прынцыпу, што культура ўсякая можа быць нацыянальнай толькі сваёй формай, мовай, а зместам пралетарская і камуністычная. І ад гэтай ідэёвай прыкрыўкі камуністаў у барацьбе з Беларуссю яўная карысць расейскаму нацыяналізму, як нацыяналізму пануючай нацыі і маючай больш выробленую і больш адпорную нацыянальную культуру. Сталін аб гэтым кажа: што камунізм імкнецца да таго, каб даць магчымасць «нацыянальным культурам развіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае патэнцыі, каб стварыць умовы для зліцця іх у адну агульную культуру, з адной агульнай мовай»***. Хіба ж лёгка дагадацца, што ў Саветах гэткай «агульнай» мовай і культурай можа быць толькі мова расейская.

Не аб чым іншым таксама сведчыць і «рэформа» бальшавікамі беларускага правапісу ў 1933 г. Сутнасць гэтай «рэформы» ў тым, што яна псуе беларускую мову, прыбліжаючы яе да мовы расейскай, бо быццам нацыянал-дэмакратызм імкнуўся ўсімі мерамі і спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, стварыў штучны бар'ер паміж беларускай і расейскай мовай і засмечваў беларускую мову рознымі сярэдневяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі****.

---

* «Грамада» (1926–27) была масавай арганізацыяй нацыянальна-вызваленчага руху на Зах. Беларусі, але яна ніколі не магла прэтэндаваць на ролю гегемона ў гэтым руху таму, што гегемонам нацыянальна-вызваленчага руху, як і ўсяго рэвалюцыйнага руху на Зах. Беларусі, была і ёсць выключна КПЗБ». (Зап. Бел. Акад. Навук, 1934, № 3. Бач. 176–177).

** Не трэба змешваць Беларускай Сацыялістычнай Грамады з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой. Першая працавала прад вайной і ў пачатку расейскай рэвалюцыі і трымалася нацыянальнага прынцыпу, а другая, хоць з прынцыпам нацыянальнасці зусім не рвала, але супольнага з ім мела нямнога, хілячыся ў бок камунізму.

*** «Полымя рэвалюцыі». Кн. 1. 1934. Бач. 137.

**** Правапіс беларускай мовы. Менск, 1934. Бач. 3.

Тым часам трэба ведаць, што развой усякай мовы не ёсць нечым штучным, але натуральным. Тварэнне ж мовы штучнай, пралетарскай і штучнае яе зблiжэнне да мовы расейскай — гэта ясна гаворыць аб праўдзівых мэтах такой работы.

Словам, цяпер у Саветах быццам у чэсць Маркса, а фактычна ў чэсць Расеі камуністы намагаюцца знішчыць розныя нацыянальнасці, а ў іх ліку і нацыю беларускую. Да гэтага прычыняецца тварэнне беларуска-расейскай мяшанкі замест беларускай мовы, вытраўліванне ў пісьменстве і ў навуцы нацыянальнага элемента, а таксама прымусовая калектывізацыя беларускіх сялянскіх гаспадарак. Прычыняецца, урэшце, да нішчання беларускай нацыі вытраўліванне з грамадскага і прыватнага жыцця агулам усякага ідэалістычнага элемента і замнога ўдзялення месца ўсякага роду негацыі. І так, замест пазітыўна-творчай рэлігіі — сілай заводзіцца там ваюючая бязбожнасць, узведзеная да павагі догмату, замест сям'і, як асноўнай грамадска-творчай ячэйкі, — расцярушаныя, пазбаўленыя дзяржавай волі, адзінкі і, урэшце, замест культурна-нацыянальнага і самастойнага дзяржаўнага ідэалу, абапёртага на свабодзе, — прымусовы матэрыялізм і дыктатура кучкі інтэлігенцкага пралетарыяту над мільённымі масамі народа. Аднак, нягледзячы на гэта ўсё, жывы народны арганізм наперакор правом жыцця знішчыць, трэба верыць, не ўдасца. Наадварот, барацьба з беларускай нацыяй, якая цяпер так шырока вядзецца ў Сав. Беларусі, нацыю гэту павінна толькі больш украпіць і скрысталізаваць.

Канчаючы, урэшце, трэба адцеміць, што тая Беларусь, якая збудавалася ў Саветах, гэта больш-менш тое самае, чаго 50–60 гадоў таму дабіваліся беларускія нарадавольцы-гоманцы. Бальшавікі тут свайго арыгінальнага ўлажылі нямнога. Значэнне, аднак, існавання Сав. Беларусі — значнае. Факт беларускай савецкай сацыялістычнай рэспублікі з асобным аўтаномным ўрадам і з дзяржаўнай формай жыцця, а таксама і культура, хоць нацыянальная толькі формай, а зместам камуністычная, — гэта вялікі і зусім канкрэтны этап да поўнай дзяржаўнай незалежнасці беларускага народа і да яго агульнанароднай культуры.

### § 3. Сутнасць Акта 25.III.18 і яго значэнне для будучыні Беларусі

Як бачым з усяго ў гэтай працы сказанага, акт 25.III.18 сапраўды займае галоўнае месца ў справе нацыянальна-палітычнага вызвалення беларускага народа. Актам гэтым беларускі народ праз вусны сваіх лепшых сыноў выявіў свой найвялікшы ідэал незалежнай Беларусі. Маючы гэты ідэал, народ наш рабіў магчымыя сабе захады, каб яго здзейсніць, каб зрабіць яго сапраўднасцю. На жаль, сілы аказаліся яшчэ заслабыя і ідэал незалежнай Беларусі покуль што так ідэалам і астаўся, заахвочваючы беларускі народ да далейшай вытрывалай працы і барацьбы за сваю незалежнасць у будучыні.

Ідэал гэты не ёсць скасцянелай формулай. Не. Ён жывы, актуальны і штораз больш захапляе масы беларускага народа. Жывучасць і актуальнасць гэтага ідэалу відацца хоць бы з таго, што, з аднаго боку, усё беларускае нацыянальнае і незалежнае грамадзянства стойка і рашуча яго бароніць і астаецца яму верным; а зноў, з другога боку, — ворагі гэтага ідэалу таксама рашуча і заядла яго ганьбяць і паборваюць. І гэта зразумела: тыя сярод беларусаў, што прызнаюць беларускі народ і для яго дабра працуюць, бароняць таксама і найвышэйшы ідэал гэтага народа, а тыя, што агулам не прызнаюць ніякай нацыі, а ў тым ліку і беларускай, ідэал гэты ганьбяць і топчуць.

Прыгледзімся да сутнасці ідэалу, абвешчанага актам 25.III.18. Камуністы цвердзяць, што ідэал гэты замест шчасця беларускаму народу вясціць у будучыні капіталістычны буржуазны грамадскі лад, а значыць, нясе з сабой крыўду і нядолю гэтаму народу. Тым часам так не ёсць. Ідэал 25.III нясе нашаму народу перадусім волю, каб ён сам сабе завёў такі грамадскі лад, які ён захоча і які будзе ўважаць за найбольш для сябе карысным.

Далей, тыя ж камуністы ганьбуюць актам 25.III за тое, што быццам нясе ён Беларусі перастарэлы і шкодны для працоўных палітычны лад, як дэмакратычная рэспубліка, прытым варожая да Расеі, а зближаная да Польшчы і да дзяржаў Заходняй Еўропы. Вось жа і тут не так. Акт 25.III.18, у сутнасці, не азначае ніякага канкрэтнага палітычнага ладу, не нясе з сабой ніякіх так званых палітычных арыентацыяў, ані, тым больш, не мае ў сабе нейкіх варожасцяў да якога-небудзь народа. Акт 25.III нясе беларускаму народу, перадусім, волю выбраць сабе такі палітычны лад, які яму найбольш даспадобы і які яму быў бы найбольш карысны. Няпраўда таксама, што акт 25.III.18 нясе з сабой шавінізм, нянавісць да іншых народаў і звярыны нацыяналізм. Не. Гэты акт нясе з сабой беларускі нацыянальны прынцып у рамках агульналюдскай справядлівасці, як сучасную і неабходную падставу культурнага развіцця, грамадскага і палітычнага вызвалення.

Сутнасць, такім чынам, ідэалу акта 25.III у тым, што ён імкнецца да таго, каб Беларусь у сваіх этнаграфічных межах была ад пастароннняй сілы незалежнай: грамадска-палітычна, культурна і эканамічна. Гэта ж бывае з якім народам тады, калі над ім ніхто не пануе, а калі ён усім сваім жыццём кіруе сам. Гэткія ж ідэалы нясе з сабой

акт 25.III і беларускаму народу. У гэтым і сутнасць гэтага ідэалу, а рэшта — пабочныя да яго дадаткі. Значыць, калі б народ беларускі стаўся незалежным, ён тады сам сабе выбраў бы грамадскі лад унутры, а таксама сам сабе выбраў бы і палітычных саюзнікаў з суседніх і далейшых народаў, бо палітычнае жыццё якога народа тады ёсць нармальным, калі народ, будучы ўжо незалежным, ідзе ў саюзы з іншымі народамі, а не наадварот.

Гэткая ў агульных словах сутнасць ідэалу акта 25.III. Сутнасць гэта апіраецца на кожнаму зразумелым праве прыроды і на справядлівасці. Незалежнасці, вынікаючай з акта 25.III, вымагае таксама і дух часу. Усе народы на ўсім свеце: белыя, чорныя, жоўтыя, чырвоныя або праз працу і барацьбу ўжо здабылі сабе незалежнасць, або для яе далей працуюць і за яе борацца, пралiваючы часта кроў сваю.

Ад людзей, урэшце, пастаронніх, нават не ворагаў нашых, можна часта пачуць закід, што ідэал незалежнасці Беларусі — гэта ўтопія, гэта ніколі не выканальная фантазія. Нічога. Гэтаксама ўтопіямі называлі незалежніцкія імкненні шмат-шмат якіх народаў. Аднак прыйшоў час, і гэтыя ўтопіі сталіся фактам. Мы верым, што так будзе і з беларускім народам. Калі толькі народ наш праймецца наскрозь ідэалам сваёй незалежнасці і як след зразумее ўсю веліч і важнасць яго і калі наступяць адпаведныя варункі, дык Незалежнасць гэту ён здабудзе напэўна. Фактам жа незапярэчным ёсць, што працэс пранікання нашага народа зместам ідэалу акта 25.III сапраўды адбываецца. А ў гэтым і значэнне яго для Беларусі як незалежнай дзяржавы ў будучыні.

## КРЫНІЦЫ, ПРАЦЫ І ЧАСОПІСЫ, ВЫКАРЫСТАНЫЯ ДЛЯ НАПІСАННЯ КНІЖКІ «ДА БЕЛАРУСКАГА ПАЛІТЫЧНАГА ВЫЗВАЛЕННЯ»

I.

Архівы: Дзяржаўны ў Вільні (Audyt. Połowy. T. 2. Nr. 917. Бач. 887. 1864. Следчая справа Сымона Каліноўскага, бацькі Кастуся. Audyt. Połowy. Nr. 280. 1864. Следчая і судовая справа К. Каліноўскага. Тэка дакумэнтаў да справы паўстанца кс. Мацкевіча.

Архіў Р. Керсноўскага: ліст К. Каліноўскага да Б. Длускага.

Архіў інж. Л. Дубейкаўскага.

Архіў кс. Ул. Талочкі і ўласны аўтара.

Архіў сваякоў Адама Гурыновіча.

«Mużyckaja Praŭda». Nr. 1–7 і Адозвы К. Каліноўскага.

«Гомон». № 2, 1884. (Бел. музей ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні.)



II.

Abramowicz L. Problemy Litwy podczas wojny światowej. Zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t. p. Warszawa, 1918.

Агурский С. Очерки по истории революционнаго движения в Белоруссии (1863–1917). Минск, 1928.

Бѣлорусская Народная Громада въ Москвѣ. Политическая платформа и уставъ. Москва, 1917.

«Белорусское эхо». № 7, 1918.

«Беларускі шлях». № 1, 1918.

«Беларускі звон». № 3, 1921.

«Беларуская крыніца». № 12, 1934.

«Беларусь» Зборнік. Менск, 1924.

Берестейський Мир. Львів — Київ, 1928 (зборнік).

Бочковський Г. Поневолені народи царської імперії. 1916.

Бурбіс А. Беларуская Сацыялістычная Грамада (зборнік «Беларусь». Менск, 1924).

Варонко Я. Беларускі рух ад 1917 да 1920 г. Коўна, 1920.

«Вольная Беларусь». № 36, 1917.

Воронко І. Я. Бѣлорусскій вопрос к моменту Версальской Мирной Конференціи. Ковна, 1919.

Гадлеўскі В. Кс. З беларускага палітычнага жыцця ў Менску ў 1917–18 («Бел. крыніца». № 18, 1934).

Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1920 і Менск, 1924.

Hryb Tamaš Dr. U 50-yja uhodki časopisi «Homon». («Iskry Skaryny». Nr. 3. Praha, 1934).

Дорошенко Д. Миколо Іванович Костомаров. Ляйпціг.

Энциклопедия: Малая Советская. Т. I. Белоруссия, 1930.

«Замежная Беларусь», зборнік гісторыі, культуры і эканомікі пад рэд. П. А. Крэчэўскага. Прага, 1926.

Засецкі М. Міністэрства беларускіх спраў (10 месяцаў існавання). Коўна, 1919.

Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Вільня, 1921.

Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пач. XX ст. Менск, 1928.

Ітогі і бліжэйшыя задачы правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР. Менск, 1934.

«Калоссе». Кн. 1, 1935.

Карскій Е. Бѣлоруссы, I. Вильно, 1904.

Kodź St. Zasady Narodowości. Wilno, 1932.

Kulczycki L. Rewolucja Rosyjska. Lwów. T. I. 1909 i t. II. 1911.

«Kurjer Wileński» z 26.II.1933.

Лёсік Я. Аўтаномія Беларусі. Менск, 1917.

Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926.

Licz — Konstanty Kalinowski («Gazeta Wileńska», 1906. Nr. 17).

Łuckiewicz Antoni. «Narodowolcy-Białorusini i ich organ «Homon» (Przyczynek do ewolucji ideologji politycznej Białorusinów) у зборніку:

Pamiętnik VI Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich w Wilnie 17–20 września 1935 r. Lwów, 1935.

Любавскій М. Очерк Исторіи Литовско-Русскаго государства. Москва, 1910.

Любавскій М. Основные моменты исторіи Бѣлоруссіи. Москва, 1918.

Милюков П. Н. Национальный вопрос. 1925.

Навіна Антон. Палітычныя лозунгі беларускага руху (Зборнік «Наша ніва». Вільня, 1920).

Охримович Ю. Розвиток українськоі нац.-політ. думки. Львів, 1922.

Правапіс беларускай мовы. Менск, 1934. (Увага: правапіс гэты зблiжае беларускую мову да расейскай.)

Полымя рэволюцыі. 1, 1934.

Прушынскі А. 25-я гадаўшчына ППС. («Вольная Беларусь». № 36, 1917.)

Соболевскій Д. М. Схема автономнаго устройства Бѣлоруссіи въ общероссійской федераціи. Витебск, 1917.

Stankiewič Ad. Fr. Bahušewič, jaho žyćcio i tvorčaść. 1930.

Stankiewič Ad. K. Kalinoŭski, «Mužyckaja Praŭda» i ideja Niezaležnaści Biełarusi. Wilnia, 1933.

Турук А. Белорусское движение. Москва, 1921.

Целевич В. Нарід, Нація і Держава. Львів, 1934.

Цвікевіч А. Др. Беларусь. Берлин, 1919.

Цвікевіч А. Краткій очерк возникновенія Бѣлорусской Народной Республики. Кіев, 1918.

Цвікевіч А. Западно-руссизм. Менск, 1929.

«Шлях моладзі». № 3, 1934.

*1934 г.*

НА II НЯДЗЕЛЮ ПА ТРОХ КАРАЛЯХ

**Жанімства — вялікі сакрамант[1].**
**Магутнасць заступніцтва прад Богам за нас Марыі. Першы цуд Хрыстусаў**

Збаўца наш Езус Хрыстус, ахрысціўшыся ў водах Іардана з рук св. Яна і адбыўшы саракадзённую пакуту на пушчы, з Іудзеі варочаўся ў Галілею. Ішлі разам з ім некаторыя вучні яго, якія таксама прабывалі пад Іарданам, дзе хрысціў прадвеснік Хрыстуса св. Ян. Падарожныя нашы, мінаючы родны Хрыстусу Назарэт, кіраваліся да м. Кафарнаум, што ляжыць над берагам возера Генезарэт, адкуль былі родам апосталы Пётр і Андрэй, ідучыя разам з Хрыстусам з Іудзеі.

Разам з падарожнымі быў таксама свежа пакліканы да Хрыстусавай аўчарні вучань Натанаэл родам з Каны Галілейскай. Ён гэта, відаць, паведаміў Хрыстуса, што мае там адбыцца вяселле і што Матка яго таксама там будзе.

Дык на трэці дзень падарожы Хрыстус з сваімі вучнямі затрымаўся ў Кане. Кана — гэта невялічкае места, існуючае да сёння, паложана між Назарэтам і Тыбэрыядай, у гарыстай і ўраджайнай ваколіцы. Сярод буйна растучых кактусаў, гранатаў, аліўкаў недалёка ад Каны з падзямелля выбіваецца крыніца, якая адна асвяжае ўсю ваколіцу і якая, пэўна, сваёю вадзіцай паслужыла для першага Хрыстусавага цуду.

*«Быў запрошаны на вяселле таксама і Езус з сваімі вучнямі».* Езусу і вучням яго, як ведаем, Кана была па дарозе. Найсвяцейшая Маці была ўжо там. Вяселле адбывалася, відаць, у блізкіх знаёмых,

а можа, і сваячных Хрыстусу асоб. Адведаць іх выпадала. Але гаспадару вяселля выпадала таксама запрасіць яго. Дык запрошаны разам з вучнямі Хрыстус прыбыў на вяселле.

Гэтым паказаў наш Божы вучыцель, што ён не пустыннік, уцякаючы ад жыцця, а што ён, валадар жыцця, сваім прыкладам, сваёй прысутнасцю жыццё папраўляе і падвышае.

Ахвотнае прыняцце Хрыстусам запросінаў на вяселле і прысутнасць на ім выказваюць усю красу характару Хрыстуса, як чалавека, які чуткасцю, прыязнасцю і дабратой свайго сэрца нясе ў жорсткасць жыцця людскога святло, цяпло і шчасце.

Але апрача ўсяго гэтага сённяшняе Евангелле суліць нам нешта яшчэ шмат іншае. Хрыстус быў у Кане не на нейкіх звычайных гасцях, але на вяселлі з прычыны жанімства двух людзей.

Жанімства з давён-даўна, ад стварэння чалавека, было ўстановай важнай і вялікай. Ад пачатку з волі Тварца была гэта лучнасць двух людзей святая, лучнасць пастаянная, неразрывальная. *«Гэта цяпер косць з касцей маіх і цела з цела майго: дык пакіне чалавек бацьку свайго і матку, ды прылучыцца да жонкі сваёй і будзе двух у адным целе»* (Быц. 2:23–24) — чытаем у Св. Пісанні. Але жанімства старадаўняе, жанімства старога Закону не было яшчэ сакрамантам і не мела ў сабе адмысловай ласкі сакрэментальнай. Ды што найгорш, што гэтае жанімства, дзякуючы грэху першароднаму, папсавалася, панізілася, адышло ад свайго першага ўзору, Богам устаноўленага. Направу жанімства, яго адраджэнне прынёс нам Хрыстус, Сын Божы. Прысутнасцю сваёй у Кане Галілейскай жанімства Старога Закону, гэты важкі і вялікі прыродны дагавор двух людзей узвялічыў Хрыстус аж да сакраманту, даючага помач Божую двум людзям для мэтаў не толькі прыродных, але таксама надпрыродных.

Узвялічыў гэтак і ўзвысіў Хрыстус жанімства для ўзаемнага жэнячыхся падтрымання ў жыцці, для ўзгадавання патомства грамадзянству, Касцёлу, небу.

Дык слушна аб жанімстве хрысціянскім казаў св. Павал Апостал: «*Сакрамант гэта вялікі, а я кажу імем Хрыстуса і Касцёла*» (Эфес. 5:32).

Так, сакрамант жанімства вялікі! Ён ёсць асновай ладу на свеце, падставай грамадскай будовы народаў. Ён ёсць, як тлумачаць айцы Касцёла, абразом жанімства, лучнасці вечнай Хрыстуса з яго ўлюбёніцай св. Касцёлам і ўсім чалавецтвам.

*«...Была тамака і Матка Езуса»*, — кажа сённяшняе Св. Евангелле. Была яна там, як ведаем, яшчэ прад тым, як быў запрошаны Езус. На вяселлі Маці Божая сваёй ветлівасцю, сваёй міласцю да



бліжняга была там прычынай прыгожай радасці і цеплыні сардэчнай. Яна на ўсё там зварочвала ўвагу, усім дагадзіць хацела. Загадзя не прадбачаная прысутнасць на вяселлі пяці-шасці асоб — Езуса з вучнямі, пэўна, прычынілася да нястачы віна, аб чым кажа Евангелле. Добраснае і зыркае вока Марыі спасцерагло гэта. І вось, каб гаспадара вяселля і маладых мінула прыкрасць дзеля нястачы віна, Марыя шукае спосабу. Як ні дзіўна, зварочваецца яна ў гэтай справе не да каго іншага, а да свайго Божага Сына. Салодкім, матчыным голасам кажа яна яму: *«Віна не маюць»*. А на гэта ёй Езус: *«Што нам да гэтага, жанчына! Яшчэ не надышла гадзіна мая!»* Адказ, як бачым, на погляд быў адмоўны і жорсткі. Але гэта толькі так здаецца. Гэтак адказаў Хрыстус Марыі не дзеля таго, што яшчэ сапраўды дужа далёка была *«гадзіна яго»*, бо быў гэта час, калі Хрыстус стаяў ужо, казаў бы, на парозе свайго публічнага жыцця. Адказаў жа Хрыстус гэтак, як бы гаворачы: тут ані месца, ані час на цуд, каб аб'явіць маё Боства і маё пасланства ад Айца Нябеснага; мы знаходзімся на прыватнай бяседзе, у цесным крузе сваякоў і знаёмых; для аб'явы магутнасці маёй Божай патрэба важнейшых прычын і абставін. Дык дзеля гэтага і адказ Хрыстуса яго Маці быў як бы адмоўны. Але, гледзячы на яе чыстае, добрае сэрца, на яе поўныя вочы мальбы, прыпамінаючы яе вялікія, дзіўныя заслугі ўва ўсім Хрыстусавым дзеле Адкуплення роду чалавечага, Хрыстус як бы казаў далей: дык не тут і не ў гэты вось час належыць мне першы раз аб'явіцца, кім ёсць я, аднак, дзеля Тваёй просьбы, мая дарагая Маці, я змяняю свой намер, на Твае просьбы я прысьпяшаю *«маю гадзіну»*.

І сапраўды, гэтак, а не інакш, трэба разумець гэты быццам адказ Хрыстуса на просьбы сваёй Маці. Гэтак, а не інакш, зразумела гэтыя словы і Найсвяцейшая Марыя, калі яна адразу, звярнуўшыся да слуг, казала: *«Што-колечы вам загадае — рабіце»*.

Дык дзіўная і вялікая магутнасць заступніцтва Найсвяцейшай Дзевы Марыі прад яе Сынам, Богам-чалавекам, Хрыстусам!

Вось жа, паслухаўшы просьбаў Марыі Маткі сваёй, Езус Хрыстус аб'явіў сваю Божую сілу, якую укрываў старанна аж трыццаць гадоў, і даканаў першы цуд свой. *«Наліце поўныя пасудзіны вады»,* — казаў Езус слугам. А як налілі, тады далей гаварыў: *«Чэрпайце ж цяпер і занясіце гаспадару вяселля»*. Той, пакаштаваўшы ваду, што сталася віном, паклікаў маладога і звярнуўшыся да яго з дакорам: *«Усякі чалавек, —* кажа ён, *— спачатку ставіць віно добрае, а калі падап'юць, тады горшае, ты ж добрае віно захаваў аж дагэтуль»*.

Такім чынам спатыкаем першы цуд Хрыстусаў. Цуд вялікі, праўдзівы, дакананы публічна, у прысутнасці вучняў, гасцей, маладых.

Усе бачылі нястачу віна. Бачылі, як пасудзіны былі напоўнены вадой чыстай, праўдзівай, без якой-колечы дамешкі. Чэрпалі ж госці і пілі замест вады віно. Словам, сама сутнасць вады, сама яе прырода была зменена на віно. Даканаць гэтага не можа ніякая людская сіла, а толькі магутнасць і воля Божая. Дакананы гэты цуд спосабам простым, ціхім. Не бачым тут ніякіх штучных, надзвычайных, розгалосных спосабаў з боку Хрыстуса, а толькі спатыкаем ціхую, чыста духовую, дзейнасць Бога. *«Гэтакі пачатак цудаў зрабіў Езус у Кане Галілейскай і аб'явіў сваю сілу, і ўверылі ў яго ягоныя вучні»,* — кажа нам Евангелле, канчаючы сваё аб гэтым цудоўным здарэнні апавяданне.

Пэўне ж, вялікі гэта цуд, які першы раз аб'яўляе нам Божства Хрыстуса. Але цуд гэты мае яшчэ большае, яшчэ дзіўнейшае значэнне. Ён, як тлумачаць айцы Касцёла, ёсць знакам, абразом — яшчэ дзіўнейшага цуду — перамены віна на кроў Хрыстусаву, якой нас ажыўляе да жыцця духовага, надпрыроднага, нябеснага!

І так канчаем наша разважанне аб вяселлі ў Кане Галілейскай. Вяселле гэта, пасвечанае самым Хрыстусам, няхай заўсёды наводзіць нас да думкі аб шчаслівасці і прыгожасці таго жанімства, якое згодна з воляй Хрыстусавай, з правам яго Касцёла святога.

Спаўненне Хрыстусам просьбы Марыі няхай усцяж прыпамінае нам магутнае заступніцтва яе за нас прад Богам, а таксама няхай узбуджае ў нас чэсць да Найсвяцейшай Дзевы і гарачыя да яе мольбы.

Урэшце, сам цуд на гэтым вяселлі няхай узмацняе у нас святую Каталіцкую Веру і няхай усё жыццё наша кіруе на шлях, паказаны нам Хрыстусам з вышыні нябеснай, Хрыстусам, які *«ўчора і сёння, які і на векі!»* (Жыд. 13:8)[3].

## НА IV НЯДЗЕЛЮ ПА ВЯЛІКАДНІ

### Чаму сама праўда на свеце не пануе[4]

*«Дух праўды навучыць вас усякай праўдзе»,* — кажа між іншым наш Збаўца ў сённяшняй Св. Евангеллі. А калі гэтак, то гэтую праўду людзі павінны пазнаць, палюбіць, праняцца ёю і паводле яе жыць.

Тым часам, як добра аб гэтым ведаем, на свеце бывае так, што людзі часта больш любяць фальш, як праўду. А гэтыя ж словы Хрыстуса адносяцца не толькі да апосталаў і да іх часаў, але да ўсіх людзей і назаўсёды. Дык чаму ж сама праўда на свеце не пануе і чаму яна не мае часта, прынамсі, хоць таго значэння, што фальш? А вось чаму.



Адны праўду ненавідзяць, бо яны *надзьмутыя пышнасцю і сапсутыя дрэнным жыццём сваім*. А праўда ж акрываецца плашчам прастаты, скромнасці і чыстасці. Жыды, напрыклад, напэўна былі б прыняўшы Хрыста, калі б ён з'явіўся ў славе і сіле і калі б замест крыжа і патрэбы барацьбы з сабой самім вучыў, як ужываць і падужываць дачаснага жыцця людскога.

Другія зноў *любяць праўду, але толькі на славах*, любяць аб ёй слухаць, але не любяць паводле праўды жыць. Гэткія падобны да Пілата, які праўдай цікавіўся і пытаў у Хрыстуса, што такое праўда, але на адказ не чакаў і не шукаў праўды, каб па праўдзе жыць, ані думаў. Такім людзям не стае адвагі і сілы расстацца з фальшам і цвёрдай стапою стаць на дарогу праўды.

Іншыя, урэшце, *любяць праўду* і шчыра жадаюць мець праўду, *але не ўмеюць шукаць яе*. Не ўмеюць, бо баяцца трудоў і клопатаў, з якімі звычайна звязана шуканне праўды, а таксама баяцца расстацца з тым фальшам, які яны ўжо прывыклі лічыць праўдай. Такія людзі належна шукаць праўды не ўмеюць, бо, шукаючы яе, мала адважныя і нерастаропныя: адной нагой стаяць на дарозе фальшу, а другой на дарозе праўды. Гэткім спосабам да праўды не ідзецца.

Дык не вінавата тут праўда, што чалавеку сілай не накідаецца, але вінават чалавек, каторы праўду або ненавідзіць, або не хоча добра пазнаць, або не так, як трэба, яе шукае.

Шукайма ж праўду шчыра, адважна, разумна, а праўда нас асвабодзіць з путаў фальшу, з няволі грэху, з падданства стварэнняў і ўзгадуе нас на вольных сыноў Божых.

## НА V НЯДЗЕЛЮ ПА ВЯЛІКАДНІ

### Добрыя ўчынкі і малітва — аздоба хрысціяніна[5]

Навука Хрыстуса, Збаўцы нашага, — гэта вялікі скарб наш. Яна абдымае ўсё жыццё нашае, асвячае яго і стройна спалучае ў адно цэлае зямлю з небам, дачаснасць з вечнасцю, веру з чынам.

О, як жа многа на свеце людзей, якія шчыра дзівяцца з гэтай глыбіні мудрасці і красы навукі Хрыстуса і залічаюць сябе да верных ягоных вызнаўцаў; але што ж з таго, калі яны робяць гэта ўсё толькі вуснамі, а не сэрцам, толькі словамі, а не чынам.

Прыгожа і глыбока вучыць нас аб гэтым святы Якуб, апостал, у сваім лісце, часціну якога Касцёл наш прызначыў на сягоннішнюю Імшу Св[ятую].

У лісце гэтым апостал імем Хрыстуса заклікае нас, каб мы былі не слухачамі толькі слова Божага, але яго выканаўцамі, не

наглядчыкамі Закону Божага, але і яго спаўніцелямі, не на словах набожнымі, але на дзеле, каб не бедавалі і не ўздыхалі над нядоляй чалавека, але каб былі дзейнымі барацьбітамі за долю яго, *«адведваць сірот і ўдоў у іх нядолі, а сябе захаваць чыстым ад гэтага свету»* — вось святы загад веры нашай.

Чалавека палавічнага, чалавека, што жыве толькі вуснамі, толькі словамі, Якуб апостал раўняе да таго, каторы праглядаецца ў люстра і, зараз адышоўшы, забываецца, якім ён быў. *«Што ж за карысць, браты мае, калі б хто гаварыў, што мае веру, а ўчынкаў бы не меў. Ці ж вера можа яго збавіць?»* (Як. 2:14) — кажа той жа апостал на іншым месцы.

Так, вера абмёршай у нас быць не павінна. Святую веру Хрыстусаву ў чын маем мы ўводзіць. Вера натхненнем мусіць быць дзейнасці нашай.

Найвышэйшы загад веры нашай — любіць Бога і бліжняга. Любоў жа гэта, моў, у водах люстраных, найлепш адбіваецца ў добрых чынах нашых.

Дык як жа смешныя і літасці годныя ў святле гэтых праўдаў Божых усе тыя, якія аж топяцца ў хвалях пустых слоў і галоснага крыку аб любасці бацькаўшчыны, народу, аб вызваленні пакрыўджаных, аб справядлівасці грамадскай, а самі пальцамі аб палец не ўдараць дзеля здзяйснення гэтых ідэалаў.

Сапраўды — *«вера без добрых чынаў нежывой ёсць»* (Як. 2:20). Так, добры чын ажыўляе нашу веру, добры чын ёсць рэлігійным абавязкам нашым, загаданым нам той жа верай, добры чын луча нас невідомымі ніткамі веры з іншымі людзьмі і ў адну стройную брацкую сям'ю валадарства Божага на зямлі.

Але яшчэ ёсць адзін дзейнік, які не менш ад чыну служыць жыццю веры нашай, служыць здзяйсненню загадаў навукі Хрыстусавай, а ёсць ім малітва, аб якой гаворыць таксама сённяшняе Св. Евангелле.

Малітва — гэта магутны лучнік душы нашай з крыніцай жыцця, з крыніцай веры нашай, з Богам. Маліцца — гэта абавязак наш, бо Бог ёсць блізкі нам, добры, мудры, усемагутны. Яму павінны адкрыцца і наша сэрца і нашы вусны. Прыкутыя да зямлі, павінны прасіць мы ласкі ягонай. Малітва — гэта родная мова душы нашай. Мовы гэтай забывацца мы не павінны ніколі.

*«...Калі вы чаго папросіце Айца майго ў імя маё, дасць Вам».* Але каго ж прасіць? Механізму свету затрымаць, яго бегу не зможам. Сонца, дажджу, здаволення наглых і важных патрэб нашых і павароту на добрую дарогу людзей нягодных таксама часта выпрасіць у Бога не зможам. Да і сам Збаўца ў садзе аліўным, з



крываваймі кроплямі на чале сваім, маліў Айца Нябеснага, каб аддаліў ад яго чару цярпенняў ягоных, але мольбы не былі выслуханы... Дык каго ж і як прасіць у малітве? Прасіць усяго таго, што не супраціўляецца святой волі Божай, адвечным, неразгаданым планам Божым, прасіць так, як прасіў Збаўца — з поўным падпарадкаваннем волі нашай волі і мудрасці Божай. Маліцца маем, узносячыся духам над усе болі, над усе няшчасці нашы, з глыбокім пераканаўнем, што калі не выпрасім у Бога сонца на сенакосы нашы і дажджу на пасевы нашы, дык душа наша атрымае гарт і сілу, каб радасна і з супакоем пакаваць тыя труднасці, якія суліць нам дачаснае жыццё наша.

Так, малітва сапраўды ёсць складовай часткай жывой веры нашай, ёсць высокім, дастойным абавязкам чалавека.

Малітва — гэта той узгорак, з якога лёгка можам бачыць свайго ворага, гэта той ручай «вады жывой», што служыць здароўю душы і цела нашага.

Добрыя ўчынкі і шчырая малітва, шчырая малітва і добрыя ўчынкі — вось непамыльныя спосабы і пэўнае аружжа чалавека ў барацьбе ягонай за шчасце сваё асабістае і за шчасце бліжняга яго. Гэтак вучыць і гэтага ад нас жадае святая вера Хрыстуса, Збаўцы нашага.

## НА IV НЯДЗЕЛЮ ПА СЁМУСЕ

### «Адплыві на глыбіню і закіньце сеці вашы на лоў!»[6]

Здарэнне, апісанае ў сённяшняй Св. Евангеллі, прыпадае на пачатак публічнай дзейнасці Езуса Хрыстуса. Яго мовы па галілейскіх бажніцах праславілі яго ўжо даволі далёка. Асабліва жыхарам паўночна-ўсходняга ўзбярэжжа возера Генезарэт, дзе найбольш Збаўца прабываў і вучыў, хутка стала ясным, што Хрыстос — гэта не звычайны вучоны ў св. Пісанні, як іншыя. Дык і не дзіва, што, пачуўшы яго раз, заўсёды хацелі яго слухаць і ісці за ім, дзе толькі яго напаткалі.

Так было і гэтым разам. Ішоў Збаўца берагам возера; зблізіўшыся да таго месца, дзе працавалі пры рыбалоўстве Пётр, а таксама Якуб і Ян, сыны Забэдэевы. А за ім ішлі вялікія грамады людзей, што прагнулі Слова Божага. Бачачы гэта, каб было выгадней павучаць, Збаўца ўступіў у Пятрову лодку, папрасіў крыху адплыць ад берага, з лодкі прамаўляў да людзей, а пасля даканаў там цуду, які апісвае сённяшняе Евангелле св[ятое].

*Цудоўнае рыбалоўства*, у якім аказалася патрэбнай Пятрова лодка, *прыпамінае нам Каталіцкі Касцёл*, яго мэты і значэнне ў духоўным жыцці чалавецтва. З блаславенства Хрыстуса апосталы ў Пятровай лодцы ловяць вялікае мноства рыбаў. І Каталіцкі Касцёл, гэта, казаў бы, Пятрова лодка, пры помачы блаславенства і ласкі таго ж Хрыстуса, усцяж ловіць людскія душы, напаўняе іх Божым святлом і вядзе іх да збаўлення.

Хрыстус, аднак, вядзе людзей да сваёй Божай праўды *не сілай, а дабравольна*. Асвячае іх, разагравае іх сэрцы, але пайсці за сабой пакідае іх добрай і вольнай волі. І вось жа многія людзі, як вядома, не слухаліся часта ані голасу яго, ані ягонага Касцёла і, як тыя рыбаловы, што без Хрыстуса, самі лавілі рыбы, скардзяцца, што дарэмна праз усю ноч працавалі. Праз усё сваё жыццё працуюць яны, трудзяцца, непакояцца, мучацца, а прыходзе смерць, і яны бачаць, што нічога сапраўды цэннага не «злавілі», нічога не зрабілі для славы Божай, нічога не зрабілі для дабра свайго бліжняга, нічога не зрабілі для дабра сваёй душы. З голымі рукамі мусяць стаць прад тронам Найвышэйшага.

Разгледзім гэтага прычыны.

Першай прычынай таго, што людзі, як тыя рыбаловы, нічога не могуць «злавіць» у сваім жыцці і жыццё гэта трацяць надарэмна, ёсць тое, што яны *«ловяць уночы»*, праводзяць сваё жыццё ў цемры грэху. Такія людзі не адрозніваюць праўду ад фальшу, дабра ад зла, працуюць і трудзяцца толькі для цялеснай сваёй карысці і гэтым губяць дарэмна свае сілы духоўныя і цялесныя, гэтым губяць усё жыццё сваё і душу сваю.

Пры беразе рыбаловы паласкалі свае сеці — чытаем у сённяшнім Евангеллі — і скардзіліся, што яны нічога праз цэлую ноч не злавілі. Вось жа, спрабаваць трэба яшчэ раз. А дзеля гэтага *ад'ехаць трэба ізноў на глыбіню*. Многія, аднак, людзі любяць стаяць на беразе жыцця свайго і наракаць, што ім нічога не ўдаецца. Вось гэта стаянне ў мелкім бродзе жыццёвым і будзе другой прычынай іх жыццёвых няўдач, прычынай таго, што яны нічога злавіць не могуць. Прыземныя справы, самалюбныя інтарэсы, забыццё аб патрэбах душы, аб цноце, аб малітве, аб святых сакрамантах не спрыяюць таму, каб чалавек трывалае штo і сапраўды цэннае мог здабыць у жыцці сваім. Каб не дарэмным быў труд наш жыццёвы, трэба нам прабываць на глыбіні праўдзівага жыцця, на глыбіні Хрыстусавай навукі і яго ласкі.

Доступ чалавеку да глыбейшай вады ў ягоным жыццёвым рыбалоўстве *загароджваюць усе тыя каменні і карчы, якія ў гэтым ён напаткае*. Гэта будуць — апрача самога грэху — розныя такса-



ма аказіі да грэху і розныя абставіны жыццёвыя, якія чалавека адводзяць ад глыбіні праўды Божай. Працай вытрывалай трэба чысціць сабе дарогу ад усякага маральнага бруду, а тады зусім іншым будзе жыццё наша, тады сапраўды шмат чаго добрага зможам злавіць у сеці жыцця нашага.

Не спрыяюць, вядома, рыбалову і *дрэнныя рыбалоўскія прылады*. Гэткімі прыладамі ў жыцці нашым ёсць улады нашай душы і цела. Каб была з іх карысць, трэба іх гадаваць, развіваць, асвятляць і агграваць святлом Праўды Божай. А тады праца наша марнай у жыцці не будзе.

«Адплыві на глыбіню і закіньце сеці вашы на лоў!»

## НА V НЯДЗЕЛЮ ПА СЁМУСЕ

### Хрысціянская справядлівасць[7]

Сёння Езус Хрыстус вучыць нас сваёй справядлівасці. *Розная яна ад справядлівасці фарысеяў і ад справядлівасці гэтага свету.* Вонкавая, зверхняя вернасць Богу, што апіралася толькі на форме рэлігіі, на абрадзе, а таксама гэткія самыя, бо толькі для людскога вока добрыя ўчынкі — вось уся справядлівасць фарысеяў.

Толькі фармальна, для вока людскога, быць добрым і сёння для многіх ёсць найвышэйшай справай іх маральнага і рэлігійнага жыцця. Зверхне парадачныя да бліжняга адносіны, а ў сэрцы самалюбства, выкананне абраду рэлігіі, а ў сэрцы холад і пустата — вось і ўся добрасць і справядлівасць многіх, душа многіх сённяшніх людзей.

Тым часам Святое Евангелле вучыць нас справядлівасці зусім іншай. Для яе мала толькі споўніць абрад рэлігіі, адбыць толькі форму, а таксама мала адносна бліжняга быць у парадку зверхне і фармальна, але яна дамагаецца чалавека, *каб яго адносіны да Бога і да бліжняга паходзілі з шчырай душы, з праўдзівай любові*. Дзеля гэтага Езус Хрыстус судзіць чалавека не толькі за яго зверхнія чыны, але таксама — і то перадусім — за ўнутраную прычыну гэтых чынаў, гэта значыць: *за ўчуцці і настроі сэрца, за імкненні і пажаданні волі*. Вось жа кожная благая думка, кожны благі намер, пачуццё нянавісці, гневу, пагарды для бліжняга, калі толькі на гэта ёсць згода волі, прад Богам ёсць праступкам, грэхам такой самай меры, як і самыя зверхнія чыны, што адпавядаюць гэтым унутраным пачуванням і настроям.

У гэткім значэнні трэба зразумець словы Збаўцы аб праступках і карах у сённяшнім Евангеллі. Ён нас вучыць, што апрача забой-

ства чалавека і гвалту над ім ёсць таксама і іншыя, таксама цяжкія адносна яго правіны, што не ёсць чынамі, а толькі благімі настроямі і пажаданнямі нашай душы. Тром родам правінаў адносна бліжняга, якія справядлівасць фарысеяў уважала за дробныя, адпавядаюць паводле Хрыстуса тры роды кары, якімі ў старым законе каралі за найцяжэйшыя крыўды і знявагі чалавека.

*За гнеў* — кажа Езус Хрыстус — чалавек вінен «суду», гэта значыць кары, якой каралі забойства, а такой карай была смерць. Зневага чалавека арамайскім словам *«ráка»*, што значыць асталоп, пусты чалавек, паводле Хрыстуса, вінаватая ёсць «рады», што значыць — ёсць праступкам, які ў жыдоў судзіў найвышэйшы суд, Сангэдрын[8]. Урэшце, пагарда бліжняга словам «глупча» ці, як іншыя тлумачаць, — нягоднік, шалёны, што значыць: Бог як бы памыліўся, творачы такога чалавека і цяпер у гэтым чалавеку няма Бога, — пагарда і абраза гэткая паводле Хрыстуса заслужвае на кару «гегенны», гэта ёсць — на кару спалення ў даліне «Гіном». За часаў Хрыстуса ў гэтай даліне палілі ўсякае бруднае шмаццё, і была яна сімвалам, знакам агню пякельнага.

*Гэткая ёсць хрысціянская справядлівасць*, гэтак Хрыстус, які бачыць таемнасці сэрца нашага, асуджае нашы правіны адносна нашага бліжняга. Многім гэта паказваецца занадта суровым і нават несправядлівым, бо ці ж можна ўважаць аднолькаваю вінай і карай за гнеў і забойства і ці ж справядлівай ёсць кара пякельнага агню, якой грозіць Хрыстус тым, што толькі зняважлівым словам «глупец» і «нягоднік» абражаюць і зневажаюць бліжняга?

Гэтак думаюць тыя, якія, згодна з вонкавай справядлівасцю гэтага свету, не прызнаюць унутраных прычын людскіх чынаў. Тое ўсё, што дзеецца на свеце, — паводле іх — ёсць вынікам дзейнасці розных зверхніх прычын. Клімат, геаграфічнае палажэнне, варункі эканамічныя і грамадскія, узгадаванне і спадкаберства — вось адзіныя прычыны, якімі справядлівасць гэтага свету тлумачыць усе чыны кожнага чалавека[9]. А ўсё тое, што ёсць чыста асабістым у чалавека, усе яго духоўныя, унутраныя настроі, усё гэта, паводле справядлівасці гэтага свету, а нават паводле думкі некаторых вучоных псіхасацыёлагаў, — ёсць праявам у чалавека паталагічным, праявам хворасці яго.

Гэткай «навуцы», падважанай нават сучаснай фізікай, адвеку пярэчыць Евангелле. Гэтай навуцы пярэчыць таксама і наш асабісты дослед, наша асабістае перакананне. Ясна, што за нашы чыны, як зверхнія, так і ўнутраныя, адказны прад усім мы, а не тое ўсё, што па-за намі. Дзеля гэтага сапраўды ёсць справядлівым аднолькава судзіць, як выкананне чыну, так і самую волю, самую пастанову даканаць гэты чын.



Вось жа, ня можна нам здавольвацца справядлівасцю гэтага свету, каторая толькі там бачыць віну, дзе сталася яўнай людская зняўвага ці крыўда. *Мы павінны выкідаць з сэрцаў сваіх і нішчыць сам зародак, самую крыніцу гневу, нянавісці і пагарды да нашага бліжняга.*

Ніякая малітва, ніякая рэлігійная практыка, не вылучаючы нават найсвяцейшай з іх, як св. Камунія[10], не звальняе ад гэтага закона хрысціянскай справядлівасці. *«Калі прыносіш мы сваю ахвяру да алтара і там прыпомніш, што брат твой мае нешта процiў цябе, пакінь там прад алтаром сваю ахвяру і ідзі перш пагадзіся з братам сваім, а тады, вярнуўшыся, палажы сваю ахвяру»*[11].

## НА IX НЯДЗЕЛЮ ПА СЁМУСЕ

### Аб патрыятызме[12]

Пан Езус, гледзячы на Іерусалім, плакаў. Плакаў над тымі ўсімі няшчасцямі, якія мелі спаткаць і гэта святое места, і ўвесь жыдоўскі народ. Плакаў, бо любіў свой народ, бо шкода было яго, бо быў, як бы па-нашаму сказаць, — патрыётам.

Патрыятызм (што азначае любоў сваёй бацькаўшчыны, любоў свайго народа) Езуса Хрыстуса павінен быць узорам і нашага патрыятызму. Дык затрымаймася крыху над гэтым.

*Не прызнае патрыятызму камунізм.* Гэта навука кожны народ уважае не як свядомую духова цэласць, але як масу людзей, зложаную з супярэчных сабе класаў. І затым камунізм не любові бацькаўшчыны навучае, а класавай барацьбе.

*Паганскі нацыяналізм*, які сёння называюць агульна фашызмам, *прызнае патрыятызм, але памылкова яго ацэньвае.* Гэткі нацыяналізм народ уважае за нейкага як бы бажка, якому павінна служыць усё: і слабейшы ад яго народ суседні, і рэлігія, і сумленне, і праца пакрыўджаных класаў.

*Ёсць яшчэ цэлы рад адметаў нібы патрыятызму*, які, аднак, патрыятызмам праўдзівым таксама не з’яўляецца. Так, напрыклад, некаторыя патрыятызмам называюць *любоў да месца свайго нараджэння* і да ўсяго таго, сярод чаго яны раслі, гадаваліся і жывуць сёння. Але гэткі патрыятызм маюць і звяраты. Праўду кажа наш вялікі Фр. Скарына: «Ад прыроды зверы, што ходзяць у пустыні, знаюць ямы свае, птушкі, што лётаюць па паветры, ведаюць гнёзды свае, рыбы, што плаваюць у морах і рэках, чуюць віры свае»[13].

Іншыя ж і зноў найлепшым *патрыятызмам уважаюць веды аб сваім народзе* (гісторыя, літаратура, мастацтва, народная сацыялогія, палітыка і г. д.) і працу для яго ў галінах той жа веды. Пэўне ж, гэткі патрыятызм вышэйшы ад папярэдняга, але не ёсць яшчэ патрыятызмам поўным і праўдзівым. Кожнаму ясна, што гэткі патрыятызм лёгка можа вырадзіцца ў шавінізм (нянавісць да іншых народаў), крыўду грамадзян і слабейшых класаў і агулам у шкоднае для грамадскага дабра самалюбства.

І толькі хрысціянства вучыць нас праўдзіва і поўна, як трэба адносіцца да сваёй Бацькаўшчыны і як яе належыць любіць.

Хрысціянства ў факце існавання кожнага народа бачыць тварэнне Бога і Богу як найвышэйшай волі і мудрасці яго падпарадкоўвае. Хрысціянства такім чынам, згодна з нашым прыродным розумам і пачуццём, прызнае і нават загадвае любоў Бацькаўшчыны, але гэта мусіць быць у згодзе з агульным Божым загадам любові Бога і бліжняга, а таксама ў згодзе з Найвышэйшай Божай справядлівасцю і мудрасцю: *suum cuique* — кожнаму сваё. Крыніцай жа гэткай праўды аб патрыятызме ёсць Евангелле і агулам хрысціянская навука.

Гэткі хрысціянскі патрыятызм не перашкаджае, а памагае пакрыўджаным адзінкам і класам у кожным народзе бароцца і здабываць свае справядлівыя правы, гэткі хрысціянскі патрыятызм не перашкаджае, а памагае розным народам развівацца, здабываць сабе самастойнасць і ўкладаць сваё сужыццё з суседнімі народамі справядліва і прыязна.

Вось жа і мы, беларусы, павінны любіць свой народ, але павінны яго любіць найлепш: так, як вучыць нас непамыльны, наймудрэйшы наш Божы Вучыцель Хрыстус...

## НА XVIII НЯДЗЕЛЮ ПА СЁМУСЕ

### Сучасныя прычыны няверы[14]

Прынеслі да Хрыстуса спаралізаванага. Прынеслі і прасілі, каб аздаравіў яго. Вера прывяла іх да Збаўцы. Так, Збаўца бачыў гэта. *«Езус, бачачы іх веру, сказаў спаралізаванаму: «Павер, сыне, адпускаюцца табе грахі твае».* Вучоныя — кніжнікі — гэтыя словы назвалі блюзнерствам, злоснай знявагай Бога. Хрыстус на гэта, аднак, сказаў, што «Сын чалавечы мае ўладу на зямлі адпускаць грахі», і аздаравіў спаралізаванага: *«Устань, вазьмі сваю пасцель і ідзі дамоў».* Хворы ўстаў і пайшоў.



Адпусціў Езус хвораму грахі і гэтым аздаравіў яго з фізічнай немачы. Што гэта значыць? Тое, што хвароба гэтага чалавека была, відаць, вынікам грэху, як гэта дужа часта бывае.

Але не ў гэтым справа. Хочам сёння звярнуць большую ўвагу на значэнне і сілу веры. Гэта вера давяла гэтых людзей да Збаўцы і дачакала цуду. Тым часам як жа многа людзей на свеце, што веры недаацэньваюць і нават выкідаюць яе з сваёй душы. Гэтак было за часаў Хрыстуса: кніжнікі з недаверствам глядзелі на яго. Гэтак жа дзеецца і сёння: і сённяшнія многія кніжнікі не маюць веры і не прызнаюць рэлігіі.

Прычын на гэта ёсць многа. Мы тут затрымаемся крыху толькі над некаторымі, над больш моднымі, сучаснымі.

Яшчэ ў мінулым стагоддзі прыродніччыя навукі пераважна былі бязбожніцкія. *Вучоныя-прыроднікі бадай у большасці трымаліся філасофіі матэрыялізму.* Такая была мода. Цяпер гэта мода перастае быць моднай. Цяпер заўважаецца вялікі зварот у прыродніччых навуках да ідэалізму, спірытызму, у бок рэлігіі і Бога. Сучасныя прыродніччыя навукі ў некаторых сваіх асновах ужо часта з'яўляюцца падтрыманнем рэлігіі і веры ў людзей. Але гэтыя асновы дагэтуль вучонымі-прыроднікамі яшчэ не распрацаваны так глыбока і ўсестаронне, як асновы фізікальныя, астранамічныя, хімічныя, біялагічныя. Значыць, атэізм, бязбожнасць можа зручней карыстацца з прыродніччых навук, як рэлігія. Але, ведама, гэта яго карыстанне ёсць аднастароннім, яно ёсць толькі псіхалагічным, толькі суб'ектыўна лагічным.

У параўнанні хоць бы з мінулым стагоддзем сёння прыродніччыя навукі зрабілі аграмадны поступ. Навукі гэтыя сваім разгонам і сваімі здабычамі захапілі вучонага чалавека і яго, можна сказаць, зусім заваражылі. А гэткі настрой вучоных лёгка ўдзяляецца і звычайным людзям. Гэтак *паўстала мода аддаленасці ад рэлігіі*. Рэлігія, такім чынам, сталася пераважна толькі традыцыйнай формай жыцця, а навука нейкай дзіўнай каралеўнай, за якой быццам выключна належыць будучыня.

З вялікім поступам прыродніччых навук *прыйшла і вялікая спецыялізацыя ў іх.* А гэта выйшла таксама не на карысць рэлігіі, бо гэта змусіла многіх забыцца аб ёй. Сёння цэлыя масы інтэлігенцыі спецыялізуюцца, робяцца адмыслоўцамі ў сваім фаху [спецыяльнасці. — *У. К.*], даходзячы ў гэтым да астатніх граніц навукі, але аб рэлігіі забываюцца. Аб рэлігіі сённяшняя інтэлігенцыя мае дужа скупую веду, а часта і зусім баламутнае і фальшывае паняцце. Ад гэткага ж стану душы чалавека толькі адзін шаг да поўнага бязбожніцтва, да атэізму. Гэтак аднабока перарослая культура робіць вялі-

кую крыўду чалавеку, бо, нішчачы рэлігію, нішчыць галоўныя асновы яго жыцця. Калі яблыня занадта ўродзіць — ломяцца яе галіны.

Касцёл мае за сабой няпоўныя дзве тысячы свайго існавання. Гэткім векам не можа пахваліцца ніякая на свеце арганізацыя, ані ўстанова. Але касцельная супольнасць — гэта людзі. *А людзі — як людзі: яны апрача дабра робяць таксама і зло*; ды зло лягчэй ім удаецца, як дабро. Упадкі, праступкі і грахі паасобных сяброў Касцёла лёгка прыпісваюцца ўсяму Касцёлу. А век Касцёла доўгі, дык многіх і дужа многіх сяброў іх жыццёвая метрыка ёсць запэцканай. Тым часам атэізм, як сталая форма грамадскага жыцця, да апошняга часу не меў сваёй гісторыі, і дзеля гэтага яму было лёгка рэлігію вінаваціць шмат у чым, а самому абяцаць завесці «рай на зямлі».

*Пакуль атэізм не ёсць цалкам рашучы і ваюючы і не паказваецца ўва ўсёй сваёй нагаце, датуль ён звычайна мае прыцягаючую сілу ў інтэлігенцыі.* А гэта затым, што ён, як сказана вышэй, у рэлігійных людзей мог шмат што бачыць благое, а аб сабе гаварыць толькі добрае. Калі ж атэізм з тэорыі пераходзе ў жыццё і калі паказвае сябе ўва ўсёй сваёй нагаце, тады ён сваю прыцягваючую сілу траціць. Вялікі, хоць балючы і трагічны, прыклад маем мы ў СССР, у Мексіцы, у Іспаніі.

Ды трэба адзначыць, што *атэізм — гэта свайго роду вера, якая поўнасцю выконваецца зараз жа і тут жа*. А гэта звычайна падабаецца чалавеку. Кожны грэх тут сільны, што ён дае карысць ці прыемнасць зараз жа і тут жа. Апрача гэтага, атэізм — гэта дужа выгадная вера: яна дае амаль самыя прыемнасці і не накладае бадай ніякіх абавязкаў. Шырокія ж масы людзей жывуць пераважна чуццём і за чуццём ахвотна ідуць.

Яшчэ адно: сёння ёсць дужа востраю так званая справа сацыяльная, справа справядлівых адносінаў між багатымі і беднымі, між маючымі дачаснае дабро і між не маючымі нічога. Тым часам многія і дужа многія хрысціяне, людзі быццам рэлігійныя, становяцца не на старане пакрыўджаных, а на старане багатых і магутных і прытым нават цвердзяць, што гэткае, а не іншае становішча дыктуе ім іх хрысціянская вера.

Вось гэткія больш-менш прычыны сённяшняга недаверства і поўнага бязбожніцтва. Прычыны гэтыя несумерныя да натуры, асноў і сілы рэлігіі, а таксама яны нявечныя і мінуючыя. Камуністы думаюць знішчыць рэлігію. Тым часам яна ў агні пераследу адсвежваецца і адраджаецца.

Словы Збаўцы да спаралізаванага *«Устань, вазьмі сваю пасцель і ідзі дамоў»* дастаюцца також і да сённяшняга хворага душой,



пазбаўленага веры чалавека і аздараўляюць яго. І, паслушны свайму Збаўцу, чалавек гэты ўстае да здароўя і праўды...

## НА НОВЫ ГОД

### Належна карыстайма з часу![15]

Стоячы на парозе новага года, кожны з нас пытае: і што нам гэты год прыносіць, з чым ён да нас прыходзіць? Адказ на гэта пытанне просты: новы год прынясе нам шмат карысці і шчасця, аж толькі тады, *калі належна будзем карыстаць з часу*.

Вось прычыны, дзеля якіх гэтак пасупаць мусім. Час дарагі. Ад яго ўжывання залежыць наша шчаслівая ці нешчаслівая вечнасць, для якой мы створаны і за якой мы плывём праз хвалі часу. Яна ёсць нашай мэтай, да якой павінны мы кіраваць жыццё наша, яна — мера чынаў нашых, паводле якой мераем іх вартасць.

Што для вечнасці жывём мы, вучыць нас гэтага наша святая вера, вучыць розум і сэрца, вучыць таксама і навука. Навука, што даследжвае матэрыю, з якой складаецца гэты наш відомы свет, адкрывае ў ёй штораз новыя праявы вечнага, чароўна-творчага руху і жыцця.

Ад ужывання часу *залежыць* і наша таксама шчаслівая ці нешчаслівая *дачаснасць*.

Гэтак ёсць сапраўды, бо час перадусім нам добра радзе. Калі мы неспакойны на душы сваёй, калі дазнаем балючай крыўду ад бліжніх сваіх, калі розум наш спавіты цемрай, а воля не мае сілы змагацца са злом — тады час сапраўды добра нам радзіць. Ён нас супакойвае, ён прасвятляе душу нашу, ён дапамагае нам адрадзіцца і набрацца свежай сілы для душы і цела.

Апрача гэтага, час яшчэ і *лечыць нас*. Калі нас спаткае якое вялікае няшчасце, якая няўдача, удар які маральны, — тады нам здаецца, што не вытрываем, не пераждывём, што сэрца наша лопне, што сілы нашы духовыя і цялесныя адмовяцца служыць нам. І вось час раны гэтыя лагодзіць, супакойвае іх боль і паволі часта бадай зусім залечвае.

Другой асаблівасцю часу ёсць тое, што ён не стаіць на месцы, а ўсцяж бяжыць, усцяж коціцца, мінае. Час — гэта тое, што хвалі рачныя, што выпушчаная страла, што віхор заўзяты. *Час бяжыць, а мы мусім лавіць яго, мусім з яго карыстаць*, мусім ткаць на ім узор добрага і прыгожага жыцця нашага, бо інакш час праміне, а мы астанёмся з пустымі рукамі, або яшчэ горш — абцяжараны грахамі. Вось чаму ад старых людзей, якія змарнавалі час свой,

жыццё сваё, прад смерцю часта пачуць можна жаданне: о, каб можна было пачаць жыць нанова, перайсці жыццё ўсё ізноў, па парадку... Як жа інакшым было б яно!..

Трэцяй асаблівасцю часу ёсць яго *беспаваротнасць*. Час мінуў, прайшоў і згінуў: яго ўжо не вернеш. Страчанае багацце, славу можна зноў здабыць; дрэннае здароўе паправіць можна, бацькаўшчыну сваю, ворагам заваяваную, адбіць можна; па пажары адбудавацца можна; але мінулага часу не вернеш, зноў яго не здабудзеш.

Дык як жа маем карыстацца з часу? Надта проста. *Нічога* мы не павінны рабіць *працівў Бога і нічога без Бога*. Усё, што на свеце праўдзівае, добрае і прыгожае, ад Бога ёсць. За гэтым уздыхае сэрца наша, ад гэтага ж і залежыць шчаслівае жыццё наша. Дык ясна, што нічога мы не павінны рабіць ані праціў Бога, ані без Бога, а толькі з Богам, бо ў ім знаходзім сваю мэту, значэнне жыцця свайго і сваё шчасце, як дачаснае, так і вечнае.

Словам, належнае і згоднае з воляй Божай і Божымі законамі жыцця карыстанне з часу няхай будзе нашай галоўнай задачай і нашым навагоднім заданнем!..

## НА ДРУГІ ДЗЕНЬ СЁМУХІ

### Навука і рэлігія[16]

І лекцыя і Евангелле сённяшнія падкрэсліваюць значэнне і патрэбу для чалавека св. веры. Тым часам людзі як жа часта дрэнна да яе адносяцца і не хочуць прызнаваць. І найдзіўней тут тое, што гэткія свае да веры, да рэлігіі адносіны апіраюць яны на навуку. Вось жа хочам сёння зазначыць, што гэткія іх паступкі шмат у чым размінаюцца з праўдай і з'яўляюцца часта толькі непаразуменнем.

Праўда, навачасныя прыроднічыя навукі шмат у чым пасабляюць бязбожнасці, залежаць ад таго, хто, як і чаго вучыць, але не ўсе і не ўва ўсім. Трэба нават сцвердзіць, што гэтыя навукі сёння больш спрыяюць і падтрымліваюць рэлігію, як бязбожнасць.

Найвялікшы старадаўні мудрэц Арыстоцель думаў, што ўвесь наш *свет і жыццё на ім — вечны і няствораны*. Тым часам сённяшнія прыроднічыя навукі зусім пэўна сведчаць, што свет не ёсць вечны, але некалі быў створаны; значыць, пачатак яго ад сілы вышэйшай, ад Бога.

Даўней вучоныя думалі, што пропасць між жывым арганізмам і матэрыяй толькі ўроеная і што *няма паміж імі істотнай розніцы*. Сучасная ж навука (біялогія) даказала, што між жывым і нежывым на свеце няма ніякага мосціка, няма пераходу з аднаго ў



другое, а згэтуль вынікае, што жыццё паўстала не з матэрыі, а з жыцця вышэйшага.

Даўней вучылі аб *самародстве* жыцця на свеце. Сёння прыроднічыя навукі выказалі, што ўсё жывое можа паходзіць толькі ад жывога і што пачатак жыцця на зямлі ад Бога.

Даўней вучылі, што *духоўнае жыццё чалавека — гэта праявы яго фізічнага*, матэрыяльнага жыцця. Сёння навука (псіхалогія) гэтаму рашуча пярэчыць.

Сённяшнія прыроднічыя навукі адкрылі дзіўны парадак і мэтазгоднасць у цэлай сістэме свету: у будове атамаў, клетак, органаў. І гэта мэтазгоднасць, гэта гармонія цалкам прыродны гэтаму свету, яе бачым нават у мёртвай матэрыі. А дзе парадак і мэта, там і розум.

Сучасная навука (фізіка) выказала, што наша дасюлешняе паняцце матэрыі, з якой збудаваны свет, ёсць ураеннем, ёсць плодам нашых змыслаў, што ў матэрыі ёсць праявы, якіх тлумачэнне трэба шукаць не ў самой матэрыі, але ў сіле духовай.

Агулам, дзякуючы сённяшняй навуцы, і будова свету і яго сілы выглядаюць штораз больш дзіўнымі і дасканалымі, штораз іншымі ад таго, аб чым сведчаць бязбожнікі. Гэта ж агулам прамаўляе не на карысць бязбожніцтва, але вымоўна гаворыць, што ёсць вялікая таямніца быту, ёсць Бог.

Словам, бязбожнасць, якая паклікаецца на навуку, паступае няслушна, аднабока. Так робяць тыя, што не знаюць ані праўдзівай навукі, ані св. веры. Стараймася пазнаваць і адну і другую, ведаючы, што праўда ёсць адна, што між праўдай ані раздваення, ані спору быць не можа, і што калі спор і раздваенне з прычыны слабасці і абмежаванасці розуму чалавека паўстае, — вышэйшай падмогай, святлом непамыльным для чалавека ў шуканні праўды ёсць св. вера, ёсць навука Збаўцы нашага Езуса Хрыстуса, бо ён «ад Бога пастаўлены ёсць суддзёй жывых і памерлых», бо «так Бог палюбіў свет, што Сына Свайго адзінароднага даў, каб кожны, хто ў яго вера, не загінуў, але меў вечнае жыццё...».

## НА ДЗЕНЬ УСІХ СВЯТЫХ

### Адна няпраўда касуе ўсе праўды[17]

«Усе Святыя» — гэта асаблівае свята. У гэты дзень Каталіцкі Касцёл моліцца разам за ўсіх святых людзей і складае ім сваю падзяку і пашану. За што? За тое, што яны ўсім сваім жыццём, вольна і непрымушана, служылі найвышэйшай праўдзе — любові

Бога і чалавека, за тое, што на практыцы свайго жыцця паказалі нам адзіную праўду, ад якой залежаць усе іншыя праўды.

«Усе Святыя» — гэта свята валадарства Духа. Вымоўна гэта гаворыць Евангелле аб нагорнай навуцы Хрыстуса: бласлаўлёныя — чытаем там — убогія духам і ціхія, а таксама, што плачуць, што прагнуць і смагнуць справядлівасці, бласлаўлёныя міласцівыя, чыстыя сэрцам і што супакой твораць, бласлаўлёныя, што церпяць пераслед дзеля справядлівасці...

Вось асновы думання і паступання чалавека — хрысціяніна, асновы, што выплываюць з найвышэйшай Божай праўды. Гэтай праўды не разумее і пярэчыць чалавек, які жыве толькі праўдай цела; гэтай праўды не разумее, не прызнае і барацца з ёй — узброены часта ў магутную сілу фізічную — матэрыялістычны камунізм. Тым часам, адкідаючы аснову Духа, як адзіную праўду, камунізм дапускае няпраўду, якая руйнуе ўсе ягоныя праўды.

Праўды ў камунізме, як слушна кажа расейскі філосаф Бярдзяеў, між іншым ёсць гэткія[18]: 1. Крытыка капіталістычнай і буржуазнай культуры і цывілізацыі, да якіх мала або зусім не маюць доступу шырокія працуючыя масы, 2. зрыванне маскі з фальшывага хрысціянства, штучна дапасаванага да інтарэсаў капіталізму, 3. ідэя планавай гаспадаркі, якая не павінна быць ігрой інтарэсаў сільных гэтага свету, 4. ідэя грамадзянства працуючых, 5. патрэба барацьбы з вызыскам аднаго чалавека другім, аднаго грамадскага класа другім, 6. патрэба барацьбы з самалюбнымі нацыяналізмамі і інш.

Але, на жаль, гэтыя ўсе праўды ў камунізме касуе адна вялікая ілжа і няпраўда. Знаходзіцца яна ў тым, што камунізм не прызнае самастойнага існавання Духа: Бога і душы людской, і барацца з ім усімі сіламі.

І што ж з гэтага выходзіць? Гэтыя праўды ў камунізме не рэалізуюцца, «слова не становіцца целам». Ды, больш таго, на месца іх прыходзяць горкія няпраўды і балючыя злыбеды. Прыкладам ёсць СССР, дзе: 1. патварыліся новыя класы ў асобе вышэйшага чынавецтва, афіцэрства, партыйных дастойнікаў і інш., якім плацяцца несумерна вялікія пенсіі[19]; вось жа для работніка няма належнага доступу да культуры, няма гэтага доступу тут больш і для селяніна, які пазбаўлены зямлі і волі, ёсць фактычна нявольнікам і адбывае паншчыну дзяржаве. 2. Замест веры ў Бога, абапёртай на вольнасці сумлення, заведзена прымусовае бязбожніцтва. 3. Замест планавай гаспадаркі ў разуменні агульнанародным паявілася гаспадарка, кіраваная адной партыяй і чынавецтвам, капіталізм не скасаваўся, але перайшоў у рукі дзяржавы. 4. Ідэя працуючага грамадзянства не здзейснілася, а прыняла выродныя формы, асабліва што для сялянства, якое забіваецца працай у калхозе, а якога плады працы, пакінуўшы толькі трошкі, забірае дзяржава. 5. Замест скасавання вызыску чалавека чалавекам[20], вызыск гэты павялічыўся, бо ў СССР чалавек пазбаўлены ўласнасці, вольнасці, рэлігіі, маральнасці, права да асабістага жыцця. 6. Замест знішчэння нацыянальных самалюбстваў вырастае расейскі заборчы нацыяналізм коштам культуры і гаспадаркі нерасейскіх народаў. Сённяшняе СССР — гэта ўжо фактычна і астрог народаў, як было да часоў царскіх.



І чаму ж так дрэнна з камунізмам дзеецца? Таму што запярэчыў найвышэйшую праўду, найвышэйшую аснову Духа і знішчыў усе магчымасці чалавеку вольна шукаць гэтай праўды і вольна служыць ёй.

«Усе Святыя»... Па хрысціянскіх святынях грымяць словы Збаўцы з ягонай нагорнай навукі аб найвышэйшай праўдзе: бласлаўлёны ўбогія духам, душа якіх ёсць вольнай ад панавання над ёй чалавека гэтага свету і яго багаццяў, бласлаўлёны чыстыя сэрцам, бласлаўлёны, што смагнуць і прагнуць справядлівасці, бласлаўлёны, што церпяць пераслед дзеля справядлівасці, бласлаўлёны, што любяць Бога і чалавека, бо... да іх належа жыццё, да іх належа перамога...

## НА ДЗЕНЬ СВ[ЯТОГА] ЁЗАФАТА

### Мучанік за еднасць хрысціянскай веры і душы беларускага народа[21]

Св. Ёзафат Кунцэвіч радзіўся 1580 г. ва Уладзіміры Валынскім. Бацькі яго былі праваслаўныя, незаможныя мяшчане. Маладыя свае гады правёў у родным Уладзіміры і ў Вільні. Калі ў 1596 г. наступіла ў нашым краі унія праваслаўя з каталіцтвам, малады Ёзафат прылучыўся да уніі. Маючы 24 гады, паступіў у манастыр айцоў базыльянаў у Вільні, які мясціўся пры царкве Св.Тройцы, дзе працаваў над святасцю сваёй душы і над навукай. У 1603 г. Ёзафат прыняў святарства, а ў 1617 — біскупства. Св. Ёзафат быў біскупам Полацкай беларускай дыяцэзіі. На гэтым становішчы заяснеў як апостал Уніі, апякун убогіх, аднавіцель хрысціянскага духу.

У 1623 г. будучы ў Віцебску, за сваю жарлівасць на ніве Уніі, быў замардаваны. Замардавалі яго праваслаўныя беларусы, падбухтораныя Масквой.

Каталіцкі Касцёл, сцвердзіўшы святасць Ёзафата і цуды, якія пасля яго смерці з яго прычыны дзееліся, залічыў яго да ліку святых.

Цела св. Ёзафата спярша было пахавана ў Полацку, пасля ў Супраслі, у Вільні і зноў у Полацку, а на пачатку XVIII ст. у Белай на Падляссі.

Калі ў 1819 г. касцёл базыльянаў у Белай занялі праваслаўныя, цела св. Ёзафата было схавана ў падзямеллі касцёла.

Падчас вайны, калі была ў нашым краі нямецкая акупацыя, цела святога знайшлі і перавезлі ў Вену і палажылі ва уніяцкім касцёле св. Барбары, дзе яно знаходзіцца і цяпер. Цела св. Ёзафата дагэтуль астаецца нятленным.

З паходжання св. Ёзафат быў украінцам. Працаваў, як апостал, выключна на Беларусі. У працы сваёй шырока карыстаўся беларускай мовай. Па-беларуску гаварыў казанні і па-беларуску пісаў для народа рэлігійныя кніжкі. Паў з рук сваіх братоў беларусаў. Было гэта вялікае непаразуменне. Беларусы, мардуючы св. Ёзафата, «не зналі, што рабілі». Ідэя, за якую памёр св. Ёзафат, ёсць для беларускага народа найвялікшай і найбольш прынцыповай. Бо што ж можа быць для гэтага народа важнейшым, як ідэя еднасці хрысціянскай веры ў ім, ідэя еднасці душы народнай, ідэя еднасці і суцэльнасці беларускай нацыі і культуры?

А за гэта ж усё св. Ёзафат праліў сваю кроў на беларускую зямельку, як сапраўды добры пастыр, які душу сваю кладзе за авечкі свае.

Дай жа, Божа, каб кроў св. Ёзафата, у якой скрыта вялікая беларуская і рэлігійная і нацыянальная праўда, марна не згінула і дала ў сваім часе належны плод!..

# КАМЕНТАР

## МАНАГРАФІІ

*Хрысціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзу (с. 25)*

Гісторыя выхаду ў свет навукова-папулярнай манаграфіі Адама Станкевіча «Хрысціянства і беларускі народ» абазначана ў аўтарскай прадмове да яе. Упершыню большая частка гэтай манаграфіі была апублікавана ў часопісе «Хрысціянская думка» (1939, №№ 1–26, 3 студз. — 1 верас.). У пачатку Другой сусветнай вайны (верасень 1939 г.) часопіс перастаў выходзіць, некалькі апошніх аркушаў былі набраны асобна для першай публікацыі кнігі, выдадзенай Беларускім каталіцкім выдавецтвам імя Ф. Скарыны (Вільня, 1940) у гонар 950-гадовага юбілею хрышчэння Беларусі і 25-х угодкаў святарства Адама Станкевіча.

Магчыма, што падчас нямецкай акупацыі гэтая манаграфія выкарыстоўвалася ў якасці дапаможніка на ўроках гісторыі, рэлігіі і культуры Беларусі ў беларускіх школах і гімназіях. Ускосным доказам гэтага меркавання служыць рукапіс незакончанай манаграфіі А. Станкевіча «Гісторыя Беларусі: Сістэматычны нарыс», у ім аўтар выкарыстаў асобныя старонкі і цэлыя раздзелы кнігі «Хрысціянства і беларускі народ». Пасля вайны гісторыка-аналітычныя матэрыялы гэтай кнігі ў перапрацаванай форме часткова выкарыстаны ў аналітычных запісках А. Станкевіча «Католицкая проблема в БССР (К сведению правительства СССР)», «Католический вопрос в БССР и проект его разрешения (К сведению Сов. правительства)» (захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі).

Ва ўмовах новай хвалі беларускага каталіцкага адраджэння (яго «знакам» стала выданне адноўленага часопіса «Хрысціянская думка» (1992–1994). Манаграфія А. Станкевіча «Хрысціянства і беларускі

народ» ды іншыя творы гэтага рыцара беларускай ідэі вызвалены з-пад спецфондаўскага арышту, сталі даступнымі для даследавання. У часопісе «Хрысціянская думка» (1992, № 1) былі перавыдадзены тры раздзелы (XII–XIV) кнігі «Хрысціянства і беларускі народ».

Усе прыжыццёвыя выданні твораў А. Станкевіча друкаваліся паводле заходнебеларускай разнавіднасці арфаграфічных нормаў так званай «тарашкевічанкі», абгрунтаваных Б. Тарашкевічам і арфіграфічнымі падручнікамі па граматыцы ў БССР. Да пастановы Савета народных камісараў БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускіх правілаў» (жнівень 1933) гэтымі правіламі карысталіся ўсе афіцыйныя выдавецтвы БССР, і ў Заходняй Беларусі і ў Беларусі пад нямецкай акупацыяй да канца Другой сусветнай вайны.

У сувязі з тым, што кнігі выдавецтва «Беларускі кнігазбор» разлічаны не толькі на даследчыкаў, але і на шырокае кола чытачоў, у тым ліку на установы адукацыі, усе апублікаваныя ў гэтай кнізе тэксты твораў А. Станкевіча прыведзіны ў адпаведнасць да сучаснай афіцыйнай арфаграфіі беларускай мовы.

За аснову нашай публікацыі ўзята аўтарскае выданне кнігі «Хрысціянства і беларускі народ». Мы захавалі ўсе асаблівасці лексікі, стылю, выправілі толькі апіскі і памылкі друку, некаторыя асаблівасці арфаграфіі і сінтаксісу, перанятыя ў былой Заходняй Беларусі з польскай мовы (напісанне прафесій, званняў, этнонімаў з вялікай літары, адсутнасць коскі перад дзеепрыметнымі зваротамі і інш.). Праведзена таксама арфаграфічная і сінтаксічная уніфікацыя тэкста першапублікацыі, якая рыхтавалася, верагодна, без дакладнай карэктарскай падрыхтоўкі. У тэксце захоўваюцца спецыфічныя для беларускай мовы «нашаніўскага» і заходнебеларускага перыяду паасобныя русізмы (*язык* поруч са словам *мова*, *гаспадарства* поруч з *гасударства*, *бароцца* ў сэнсе *змагацца* і інш.) і паланізмы. Гэтыя тэксталагічныя прынцыпы захаваны таксама пры перавыданні іншых твораў А. Станкевіча.

[1] *Толькі да таго не даступныя дары сонца, хто ад яго хаваецца.* — Погляд на сонца як крыніцу зямнога жыцця шматгранна выявіўся ў беларускай этнічнай культуры.

[2] *...адгалоскам Хрыстовага валадарства...* — Тут погляд на «летуценні марксістаў аб справядлівым, без дамешкі крыўды, сацыяльным ладзе» недакладны, бо тэарэтычны і практычны марксісцкі камунізм як ідэалогія класавай барацьбы і дыктатуры пралетарыяту атаясамліваецца з утапічным камунізмам.

[3] *Тамаш* (Фама) *Аквінскі* (1225–1274) — сярэдневяковы каталіцкі філосаф і тэолаг, манах Дамініканскага ордэна, прафесар Парыжскага, Кёльнскага і інш. універсітэтаў.

[4] *Салаўёў* Уладзімір Сяргеевіч (1853–1900) — рускі філосаф, паэт, публіцыст і багаслоў.



[5] «Фаўст» — паэма вялікага нямецкага паэта Ё. В. Гётэ. Перакладзена на беларускую мову Васілём Сёмухам (1976).

[6] Паводле сучасных ведаў, рымскі імператар Аўгуст Гай Актавіян жыў у 63 г. да н. э. — 14 г. н. э., імператарам быў з 27 г. да н. э.

[7] *...паўсталі новыя народы і новыя дзяржавы.* — Апошні імператар Заходняй Рымскай імперыі Ромул Аўгустул быў скінуты з трона кіраўніком наёмнага германскага атрада ў арміі рымскага імператара Адаакрам (433–493) у 476 г. У 493 г. Адаакр быў разбіты правадыром германскага племені остготаў Тэадорыхам, які на руінах Рымскай імперыі стварыў Каралеўства остготаў. Пасля смерці Тэадорыха і забойства яго пераемніцы-дачкі Амаласунты (536) арганізатар перавароту і віноўнік забойства каралевы Тэадат быў разбіты візантыйскім палкаводцам Велізарыем, які часова аднавіў Заходнюю Рымскую імперыю ў складзе Візантыйскай імперыі. Пасля падаўлення паўстання Тацілы візантыйскім палкаводцам Нарсісам (552) каралеўства остготаў перастала існаваць.

[8] *...тварылі ў іх дзяржаўнае жыццё.* — Сёння ў гістарычнай навуцы пераважае думка, паводле якой варажскія дружыны былі наёмнымі ваеннымі атрадамі ўсходнеславянскіх княстваў, а не іх заваёўнікамі.

[9] *...як гэта ўжо некаторыя беларускія вучоныя робяць...* — Крывіцкая канцэпцыя беларускай дзяржавы ў свой час прапанавана Вацлавам Ластоўскім, пазней Янам Станкевічам.

[10] *...слаўны Усяслаў (1101)...* — 1101 годам аўтар пазначыў смерць князя Усяслава Брачыславіча (Чарадзея).

[11] *Абэцэда*, тут — азбука, алфавіт.

[12] *Карынчыкі* — карынфіняне, жыхары Карынфа, гандлёва-рамеснага поліса (горада-дзяржавы) старажытнай Грэцыі.

[13] *...ці цяпер існуе — немаведама.* — Полацкая Спаса-Еўфрасіннеўская царква захавалася, адноўлены пры ёй жаночы праваслаўны манастыр.

[14] *Хто ж гэта згадае!..* — Мошчы св. Еўфрасінні Полацкай знаходзяцца цяпер у Полацкай Спаса-Еўфрасіннеўскай царкве.

[15] *Томашівськїй* — маецца на ўвазе ўкраінскі гісторык Ст. Тамашэўскі.

[16] Крытыка А. Станкевічам «аб'ектыўнага» погляду на сутнасць народа і нацыі недакладная. Па-першае, аўтар атаясамлівае паняцці *народ* (этнас) і *нацыя*, што не адпавядае сённяшняму ўзроўню навуковай этналогіі. Па-другое, так званыя «фактары» народа-нацыі (агульны этнагенез, раса, мова, тэрыторыя і інш.), паасобку не вызначаючы ўсю паўнату гэтага паняцця, тым не менш маюць для яго істотнае значэнне і ў сваёй сукупнасці вызначаюць самабытнасць і адметнасць народа. Што да паняцця нацыя, то яно хутчэй мае таксама духоўны, культурна-гістарычны, а не толькі этнічны сэнс. Таму для кожнай нацыі *родная мова* і *культурны кантэкст, культурна-нацыянальная традыцыя* маюць лёсавызначальнае значэнне. У сваіх

шматлікіх творах рэлігійнага і навуковага жанру А. Станкевіч кіраваўся якраз гэтым зместам паняцця нацыя.

[17] Аналогія беларуска-літоўскіх этнічных і палітычных дачыненняў з «варажскім» заваяваннем Русі і цюркска-турэцкім заваяваннем балканскіх славянаў недакладная. Летапісная Літва к сярэдзіне XIII ст., калі ўтваралася Вялікае Княства Літоўскае, была ў значнай ступені каланізавана протабеларускімі плямёнамі крывічоў і знаходзілася ў рэгіёнах сучаснага беларускага Занямоння (Гл.: Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. Мн., 1991; яго ж: Старажытная Беларусь. Полацкі і Навагародскі перыяды. Мн., 1990).

[18] Польскі даследчык Ярашэвіч, тэндэнцыйна альбо па няведанні карыстаючыся архаічным паняццем *рускі,* якое ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага і федэратыўнай Рэчы Паспалітай было імем беларусаў і ўкраінцаў, адрознівала іх ад *маскавітаў* (сучасных расейцаў), пазбягае гаварыць пра Беларусь і беларусаў, якія сфармаваліся як этнас (незалежна ад пазнейшага ўзнікнення этноніма беларус) у VI–X стст. Пазней, у XIII–XIV стст., Беларусь стала ядром утварэння Вялікага Княства Літоўскага.

[19] *...павевы гуманізму (выдавецкая і друкарская праца Скарыны).* — Недакладнасць думкі, бо «павевы гуманізму» ў Беларусі не былі варожыя хрысціянству, тым больш асветніцкая дзейнасць Ф. Скарыны.

[20] Гісторык Ярашэвіч, на якога спасылаецца А. Станкевіч, памыляўся, калі сцвярджаў, быццам бы «народныя масы», якія «ўжо былі пад паншчынай», знаходзіліся па-за правам, вызначаным Статутам Вялікага Княства Літоўскага. Далёка не ўсе народныя масы ў XVI–XVIII стст. былі пад паншчынай. Да таго ж Статуты 1529, 1566, 1588 гадоў рэгулявалі адносіны паміж феадаламі і залежнымі ад іх людзьмі. Перабольшваліся таксама ўплывы «законаў старадаўняй Украіны «Рускай Праўды» на гэты Статут.

[21] *Рыгор Цэмвляк, балгарын* — маецца на ўвазе балгарскі і беларускі пісьменнік, царкоўны дзеяч Цамблак Рыгор (каля 1365 — каля 1419).

[22] Погляд на Люблінскую унію 1569 года, у выніку якой быццам бы Вялікае Княства Літоўскае, г. зн. Беларусь, Літва і Украіна сталі «складовай часткай Польшчы і польскага народа», — памылка (а мабыць, і палітычная тэндэнцыя) польскіх і расійскіх даследчыкаў, пад уплыў якіх падпаў тут А. Станкевіч. У іншых даследаваннях Станкевіч адзначае аўтаномію ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай.

[23] Погляд на гістарычную Рэч Паспалітую як толькі польскую дзяржаву — тыповая для тагачасных і некаторых сённяшніх гісторыкаў фактычная і тэрміналагічная блытаніна. Памылковая таксама яе ідэнтыфікацыя з Рэчпаспалітай Польскай 1918–1939 гг.

[24] Погляд, паводле якога ў XVIII ст. вышэйшыя слаі беларускага грамадзянства *«аканчальна пакінулі народ і перайшлі на старану Польшчы, змяняючы нават сваю беларускую нацыянальнасць на польскую»,* не пацвярджаецца гісторыяй беларускай культуры і канкрэтна-гістарычнымі даследаваннямі, напрыклад, аналізам вынікаў усерасійскага перапісу насельніцтва 1897 года. Частка этнічна беларускай, пераважна фальваркавай і служылай (каля 35–40% ад агульнай колькасці шляхецкага саслоўя Беларусі) захавала беларускую мову. З яе асяроддзя выйшлі пачынальнікі беларускай літаратуры, дзеячы культуры і мастацтва.



[25] *...аканчальны падзел Польшчы ў 1795 г.* — тэрміналагічная памылка. Маецца на ўвазе падзел федэратыўнай Рэчы Паспалітай.

[26] Гл. заўвагу 25.

[27] *...пасля польскага паўстання ў 1863 г.* — Маецца на ўвазе паўстанне супраць Расійскай імперыі ў Польшчы, Беларусі і Літве 1863 года.

[28] *Эванэлія* — каталіцкая форма беларускага слова Евангелле.

[29] Гл. заўвагу 25.

[30] «Даручыць усім плябанам у архідыяцэзіі, каб пасля завяршэння набажэнства яны гаварылі казанні з амбона на народнай мове, якую яны разумеюць» (пераклад з польскай мовы наш).

[31] *Зялёныя Святкі* — гутарка ідзе пра Сёмуху (Духаў дзень, Тройца).

[32] *...у прадмове да сваёй «Dudki».* — Маецца на ўвазе зборнік вершаў Францішка Багушэвіча «Дудка Беларуская» (Кракаў, 1891) пад псеўданімам Мацей Бурачок.

[33] *БХД* і *БНА* — Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя (1917–1940). Са студзеня 1936 года называлася Беларускае Нацыянальнае Аб'яднанне (БНА).

[34] Цытата з невядомага твора У. Салаўёва. Такую ж думку У. Салаўёў развіваў у манаграфіі «Национальный вопрос в России». (Соловьев В. С. Сочинения в двух томах. Т. 1. М., 1989. С. 268–269).

[35] *...мітрапаліт украінскай Галіччыны...* — маецца на ўвазе Андрэй Шаптыцкі (1865–1944). Да ўступлення ў Базіліянскі ордэн (1900) — Раман Аляксандр Шаптыцкі, з вядомага ўкраінскага графскага роду Шаптыцкіх.

[36] А. Станкевіч спасылаецца на апублікаваны пад крыптонімам A. L. артыкул *«Tempora mutantur»* — скарочаная лацінская прымаўка: *«Tempora mutantur, et nos mutamur in illis»* — часы мяняюцца, і мы мяняемся з імі.

[37] «Da Złučeńnia» («Да злучэння») — беларускі штомесячнік грэка-католікаў у 1932–1937 гг. Рэдактар святар А. Неманцэвіч. А. Станкевіч перабольшвае недахопы гэтага нацыянальна-адраджэнскага выдання.

[38] *Сваяк* Казімір (Канстанцін Стаповіч, 1890–1926) — беларускі паэт, ксёндз, адзін з дзеячаў беларускага каталіцкага адраджэння.

[38] *Аўрэлій* Аўгусцін (354–430) — рымскі хрысціянскі тэолаг, прадстаўнік заходняй патрыстыкі, аўтар кніг «Пра Горад Божы» і аўтабіяграфічнай «Споведзі». Кананізаваны Каталіцкім Касцёлам.

## *Родная мова ў святынях (с. 111)*

Гэтыя нарысы А. Станкевіча спачатку друкаваліся лацінкай асобнымі часткамі ў часопісе «Хрысціянская думка» за 1929 г. і тады ж выйшлі ў свет асобным ілюстраваным (партрэты касцельных і царкоўных дзеячаў) выданнем з прадмовай аўтара. У нашым зборніку выбраных твораў А. Станкевіча друкуюцца паводле гэтага выдання, але цяпер ужо ў кірылічнай транслітарацыі.

[1] *...мова лацінская ўжо ў веку VII сталася мовай памёршай, нежывой, як габрэйская і грэцкая.* — Лацінская мова заставалася мовай літаратуры і навукі ў Заходняй і Цэнтральна-Усходняй Еўропе да сярэдзіны XVIII ст.

[2] Прыведзены тут урывак з паслання ап. Паўла да каласянаў крыху мадэрнізаваны, дапасаваны да славянскага асяроддзя. У сучасным перакладзе кс. Уладзіслава Чарняўскага: «Дзе ўжо няма грэка, юдэя, абразанага ці неабразанага, барбара, скіта [скіфа], вольнага і нявольніка, але ўсё і ва ўсім Хрыстос».

[3] Тут у аўтара — мадэрнізацыя: Расіяй ён называе Кіеўскае княства XI–XII стст.

[4] *...22 кнігі Бібліі Старога Закону ... пералажыў на жывую беларускую мову.* — Тут — недакладнасць. Ф. Скарына выдаў у Празе 23 кнігі Старога Закону.

[5] *«Унія, альбо выклад...»* (1595) — палемічны твор Іпація Пацея (1541–1613). *«Опісане і оборона собору рускаго берестейскаго»* — палемічны твор П. Скаргі, перакладзены Іпаціем Пацеем на старабеларускую мову.

[6] *«Etsi Minime»* (лацін.) — «Толькі мінімум» — була папы рымскага Бенядыкта XIV (1742).

[7] *...ужо пасля падзелаў Польшчы (1772, 1793, 1795)...* — Канцэптуальная памылка аўтара. Гутарка ідзе пра тры падзелы федэратыўнай Рэчы Паспалітай.

[8] *Увесь в.[ек] XVIII — гэта час павольнага канання беларускага народа, яго мовы і культуры.* — Канцэптуальная памылка аўтара. У XVIII ст. адбывалася развіццё сучаснай беларускай мовы ў яе гутарковых дыялектах, развівалася беларуская культура ў яе разнастайных формах, асабліва архітэктура, тэатральнае і іншыя мастацтвы.

[9] *...жудасныя чыны Сямашкі...* — Гл. заўвагу 6 да манаграфіі А. Станкевіча «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення».

[10] *Рамейка* Францішак (1885–1931) — каталіцкі святар заходняга абраду, у 1921–1928 гг. — пробашч у в. Шарашова Дзісенскага павета.

[11] *...з апініяй святасці* — ад польск. opinia — добрая рэпутацыя.

[12] *...без скутку* — без выніку, без поспеху (паланізм).

[13] *...па 129 арт. К. К.* — паводле 129-га артыкула Крымінальнага Кодэксу.

[14] *Я. Э.* — Тут — Яго Эксцэленцыя, ганаровае найменне біскупа.



## *Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення (с. 203)*

Упершыню апублікавана асобнымі часткамі ў часопісе «Шлях моладзі» (Вільня, 1929–1939) за 1934 год. Асобнае выданне кніжкі ў выдавецтве гэтага часопіса таксама пазначана 1934 годам. Але прадмова аўтара пазначана датай «1.11.1935. Вільня» і сведчыць, што кніжка выйшла ў свет гэтым годам. У нашым выданні друкуецца паводле тэксту гэтай кнігі. Аўтар прысвяціў яе 70-гoддзю з дня смерці Кастуся Каліноўскага і 50-гoддзю падпольнага часопіса «Гомон» (1884 г.).

[1] «Mużyckaja Praŭda» («Мужыцкая праўда») — нелегальная рэвалюцыйна-дэмакратычная, першая на беларускай мове газета (друкавалася лацінкай). Выдавалі ў 1862–1863 гг. К. Каліноўскі, Ф. Ражанскі, С. Сангін (Сонгін).

[2] «Гомон» — нелегальны часопіс, орган беларускай фракцыі партыі «Народная воля» ў Пецярбургу. Выдаваўся на гектографе ў 1884 г. у Пецярбургу на рускай мове.

[3] Думка, паводле якой беларускія плямёны крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў баранілі сваю незалежнасць ад «князёў літоўскіх», склалася ў А. Станкевіча пад уплывам памылковай канцэпцыі рускай гістарыяграфіі пра «літоўскае заваяванне» Беларусі. Верагодна, узята з манаграфіі М. Любаўскага «Основные моменты исторіи Бѣлоруссии» (Москва, 1918), на якую Станкевіч спасылаецца.

[4] Погляд, быццам бы беларуска-літоўская дзяржава ВКЛ *«пратрывала ад XIII да паловы XVI ст., да Люблінскай уніі з Польшчай»,* склаўся пад уплывам памылковай канцэпцыі, паводле якой Рэч Паспалітая была польскай унітарнай дзяржавай, а не канфедэрацыяй Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага.

[5] *...палітыку тварылі прадусім літоўцы, а культуру — беларусы.* — Памылковая ацэнка, якая вынікала з такой жа памылковай канцэпцыі тых расійскіх і польскіх гісторыкаў, якія адмаўлялі прыярытэт беларускіх княстваў у заснаванні ВКЛ.

[6] Гл. заўвагі 4, 5.

[7] Занадта катэгарычная і таму памылковая думка А. Станкевіча, быццам *«толькі рэлігія [...] зберагала беларускую нацыю і тварыла беларускую культуру»* ў XVII–XVIII стст.

[8] Аўтар мае на ўвазе уніяцкіх, а пасля скасавання Брэсцкай уніі (1839) праваслаўных царкоўных дзеячаў Іосіфа Сямашку (1799–1868), Васіля Лужынскага (1791–1879) і Антонія Зубко (1797–1884).

[9] *...калі народ беларускі быў пад Масквой...* — Маецца на ўвазе далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 гг.).

[10] *...поўным пераходам асвечаных шляхоцкіх класаў у польскасць...* — Аўтар памыляецца, сцвярджаючы катэгарычную думку, што беларуская шляхта ад пачатку XVII ст. была поўнасцю апалячана.

[11] Думка А. Станкевіча, што ў эпоху хрысціянскага Сярэдневякоўя *«паявілася рамантычная літаратура, або рамантызм»*, верагодна, склалася пад уплывам эстэтыкі Гегеля, паводле якой пасля класічнага мастацтва антычнасці ў хрысціянскай Еўропе дамінавала «рамантычная форма» мастацкай культуры.

[12] Пераклад з французскай.

[13] Вёска Мастаўляны цяпер належыць да Беластоцкага ваяводства Польшчы.

[14] *...выбухла ў нашым краі польскае паўстанне...* — Характэрная для А. Станкевіча і тагачасных гісторыкаў канцэптуальная недакладнасць. Маецца на ўвазе паўстанне 1863 года ў Польшчы, Беларусі і Літве.

[15] Гл. заўвага 4.

[16] Паводле сучасных даследаванняў, «Гутарка старога дзеда» — ананімны твор, які прыпісваецца В. Каратынскаму (Каратынскі В. Творы. 2-е выд. дап.— Мінск., Мастацкая літаратура, 1994. С. 346–348).

[17] Паводле сучасных даследаванняў, Ігнат Грынявіцкі нарадзіўся ў жніўні 1855 г. або восенню 1856 г. у маёнтку Басін Бабруйскага павета, цяпер в. Калінаўка Клічаўскага раёна.

[18] Першы нумар «Гомона» знойдзены сучаснымі даследчыкамі і захоўваецца ў бібліятэцы Расійскай акадэміі навук у С.-Пецярбургу.

[19] Народніцкі часопіс «Вестник "Народной воли"» выдаваў Леў Ціхаміраў (1852–1923), расійскі рэвалюцыйны народнік. У 1888 г. выракся ад рэвалюцыйных ідэй, папрасіў памілавання ў цара. Вярнуўся з эміграцыі ў Расію, рэдагаваў манархісцкі часопіс «Московские ведомости» (1909–1913).

[20] *Лаўроў* Пётр Лаўравіч (14.6.1823–6.2.1900) — рускі сацыёлаг, публіцыст, ідэолаг рэвалюцыйнага народніцтва.

[21] Маюцца на ўвазе паэтычныя зборнікі Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская» (1891), «Смык беларускі» (1894). Апавяданне «Тралялёначка» знойдзена і апублікавана (Багушэвіч Ф. Творы. — Мн., 1991. С. 114–120).

[22] *...якой была «Энеіда».* — Маецца на ўвазе беларуская паэма «Энеіда навыварат», аўтарам якой, як паказаў Г. Кісялёў, быў Вікенці Равінскі.

[23] *...не было ў іх аднаго найважнейшага — гэта свядомага беларускага нацыянальнага пачуцця.* — А. Станкевіч і некаторыя яго сучаснікі недаацэньвалі «беларускага нацыянальнага пачуцця» папярэднікаў Ф. Багушэвіча — Яна Чачота, Яна Баршчэўскага і В. Дуніна-Марцінкевіча.

[24] *Гурыновіч* Адам Гіляры (1869–1894) нарадзіўся ў фальварку Кавалькі Вілейскага павета, цяпер Мядзельскі раён.

[25] *Сулькевіч* Мацей Аляксандравіч (1865–1920) — военачальнік, дзеяч беларускага і татарскага нацыянальнага руху. З беларускіх татар, з маёнтка Камейшы Лідскага павета, цяпер вёска Воранаўскага р-на. Расстраляны бальшавікамі ў Баку за «контррэвалюцыйную дзейнасць» (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6-ці т. Т. 6. Кн. 1. Мінск, 2001. С. 443).



[26] *Пілсудскі* Язэп (Pilsudski Juzef) (1867–1935) — польскі грамадскі, палітычны і ваенны дзеяч. У канцы XIX пачатку XX ст. член Польскай сацыялістычнай партыі, выступаў за нацыянальнае самавызначэнне народаў былой Рэчы Паспалітай.

[27] Паводле сучасных даследаванняў, нелегальнае выданне на беларускай мове «Свабода» надрукавана ў снежні 1902 г., а верш «Мужыцкая доля» напісала Цётка (Алаіза Пашкевіч).

[28] *Кіркор* Адам Ганоры (1818–1886) — беларускі гісторык, этнограф, археолаг, публіцыст, выдавец, грамадскі дзеяч.

[29] *...Савецкая Беларусь, дзе да 1926 г. беларускай інтэлігенцыі была дадзена сякая-такая магчымасць працы.* — А. Станкевіч мае на ўвазе афіцыйную палітыку беларусізацыі, якая фармальна працягвалася да 1930 года, але фактычна адмянялася з 1929 года — ад пачатку бальшавіцкіх рэпрэсіяў.

## БОЖАЕ СЛОВА
### Лекцыі, Евангеллі і прамовы на нядзелі і святы *(с. 297)*

Узоры рэлігійна-асветніцкіх твораў і беларускага касцельнага красамоўства Адама Станкевіча друкуюцца паводле кнігі: Stankievič Ad. Božaje Słova. Lekcyi, Evanelii i Pramovy na Niadzieli i Śviaty. Lvoŭ — Vilnia, 1938. 372 s. Большасць змешчаных у ёй твораў упершыню апублікавана ў часопісе «Chryścijanskaja Dumka» за 1929–1936 гады. «Божае слова» друкавалася лацінікай. Узнаўляючы раздзелы гэтай кніжкі кірылічным шрыфтам, мы захавалі ўсе асаблівасці лексікі, стылю арыгінала, выправілі толькі апіскі, некаторыя асаблівасці арфаграфіі і сінтаксісу, перанятыя з польскай мовы (напісанне прафесій, званняў, этнонімаў з вялікай літары, адсутнасць коскі перад дзеепрыметнымі зваротамі і інш.).

У першакрыніцы перад кожнай лекцыяй-казаннем змешчаны перакладзеныя на беларускую мову тэксты апостальскіх і евангельскіх чытанняў, прызначаныя на адпаведную нядзелю альбо свята. Тэксты гэтыя ў нашым выданні твораў А. Станкевіча не перадрукоўваюцца, іх змест тлумачыцца ў лекцыях аўтара і ў нашых прадметных каментарах.

[1] *«Жанімства — вялікі сакрамант»* — лекцыя на тэксты апостальскага (Рым. 12:6–16) і евангельскага (Ян 2:1–11) чытанняў. У фрагменце з паслання ап. Паўла да рымлянаў гутарка ідзе пра абавязкі (прароцтвы, служэнне, настаўніцтва, дабрачыннасць) і маральныя цноты (любоў, дабро, цярплівасць, гасціннасць, аднамыснасць, пас-

лухмянасць) хрысціяніна. Змест евангельскага чытання тлумачыцца ў лекцыі А. Станкевіча.

[2] *Сакрамант* — абрад.

[3] У тэксце кнігі А. Станкевіча спасылка памылковая. Трэба: *Жыд. 12:8*.

[4] *«Чаму сама праўда на свеце не пануе»* — лекцыя на тэксты апостальскага (Як. 1:17–21) і евангельскага (Ян 16:5–14) чытанняў. Паводле саборнага паслання ап. Якава (Якуба), вечнае дабро і праўда «зыходзіць з гары, ад Айца святла», каб «сталіся мы пачаткам Яго стварэння». У 16-м раздзеле Евангелля паводле Яна Ісус Хрыстос, развітваючыся з вучнямі сваімі, кажа: «А цяпер іду да Таго, хто паслаў Мяне, і ніхто не пытаецца ў Мяне: куды ідзеш?» Абяцае пасляць сваім паслядоўнікам Суцяшальніка — Духа Праўды.

[5] *«Добрыя ўчынкі і малітва — аздоба хрысціяніна»* — лекцыя на апостальскае (Як. 1:22–27) і евангельскае (Ян 16:23–80) чытанні ў 5-ты дзень па Вялікадні. Змест апостальскага чытання тлумачыцца ў лекцыі А. Станкевіча. Евангельскі тэкст на гэты дзень развівае папярэдні фрагмент: Езус Хрыстус без прытчы абвясціў вучням: «Выйшаў Я ад Айца і прыйшоў на свет, ізноў пакідаю свет і іду да Айца». Маецца на ўвазе яго смерць і ўваскрэсенне.

[6] *«Адплыві на глыбіню і закіньце сеці вашы на лоў!»* — лекцыя на апостальскае (Рым. 8:18–23) і евангельскае (Лук. 5:1–11) чытанні. У пасланні да рымлянаў ап. Павел прарочыць пра духоўнае пераўтварэнне жыцця ў будучым Царстве Божым: «Бо мы ведаем, што ўсё стварэнне разам стогне і мучыцца дагэтуль». Змест евангельскага чытання тлумачыцца аўтарам лекцыі.

[7] *«Хрысціянская справядлівасць»* — лекцыя на апостальскае (1 Пётр 3:8–15) і евангельскае (Мат. 5:20–24) чытанні.

У першым саборным пасланні ап. Пётр кажа пра Хрыста-міралюбца: «Не аддавайце злом за зло, ні знявагай за знявагу... Ухіляйся ад зла і рабі дабро». Змест евангельскага вучэння пра адказнасць за нават нявыяўленую злую волю тлумачыцца ў тэксце лекцыі.

[8] *...паводле Хрыстуса, вінаватая ёсць «рады», што значыць — ёсць праступкам, які ў жыдоў судзіў найвышэйшы суд, Сангэдрын.* — Тут нявыпраўленая блытаніна ў тэксце. Верагодна, сэнс гэтага сказа наступны: А хто б сказаў на свайго брата «рака» (пусты чалавек), то будзе падлеглы найвышэйшаму суду — «радзе», альбо, па-яўрэйску, Сінендрыёну.

[9] *...справядлівасць гэтага свету тлумачыць усе чыны кожнага чалавека.* — Тут слова «справядлівасць» — у сэнсе мараль і права ліберальнага грамадства.

[10] *Святая Камунія* — далучэнне да веры.

[11] *Калі прыносіш мы сваю ахвяру...* — цытата з Евангелля (Мат. 5:23–24). У А. Станкевіча тут апіска: замест *ты* надрукавана *мы*.



[12] *«Аб патрыятызме»* — лекцыя на матывы апостальскага (1 Кар. 10:6–13) і евангельскага (Лк. 19:41–47) чытанняў. Ап. Павел у першым пасланні да карынфянаў перасцерагае братоў-хрысціянаў ад язычніцкіх спакусаў. У 19-м раздзеле Евангелля паводле Лукі апавядаецца пра трыумфальны ўезд Езуса Хрыста ў Іерусалім на асле, ягонае прароцтва аб разбурэнні гэтага горада («І калі наблізіўся да горада, дык, гледзячы на яго, заплакаў па ім»), урэшце, пра выгнанне гандляроў з храма. А. Станкевіч не пераказвае зместу гэтай падзеі, а развівае хрысціянска-гуманістычную канцэпцыю патрыятызму.

[13] *Ад прыроды зверы...* — цытата з прадмовы Ф. Скарыны да «Книги Іудифь вдовици» (Гл. Скарына Ф. Творы. Мн., 1990. С. 45) у перакладзе на сучасную беларускую мову. А. Станкевіч не адмаўляе гэтага «натуральнага» патрыятызму, але не лічыць яго найвышэйшай формай нацыянальнай самасвядомасці.

[14] *«Сучасныя прычыны няверы»* — лекцыя па матывах апостальскага (1 Кар. 1:4–8) і евангельскага (Мат. 9:1–8) чытанняў. У першым пасланні да карынфянаў ап. Павел просіць сваіх братоў у Хрысце жыць у добрай згодзе і верыць у Хрыста: «Бо слова пра крыж для пагібельных — юроцтва ёсць, і нам, ратаваным, — сіла Божая! [...] Дзе мудрэц? Дзе кніжнік? Ці не абярнуў Бог мудрасць свету гэтага ў неразумнасць» (1 Кар. 1:18, 20). Змест евангельскага чытання на 18-ю нядзелю па Сёмусе пераказвае А. Станкевіч, развівае на яго аснове сваю канцэпцыю сучаснага нявер'я і адраджэння веры ў асяроддзі адукаваных людзей.

[15] *«Належна карыстайма з часу!»* — лекцыя па матывах апостальскага (Ціт. 2:11–15) і евангельскага (Лк. 2–21) чытанняў. Яны прымеркаваны да свята Абрэзання Гасподняга (Новы год у грамадзянскім календары). А. Станкевіч з гэтай нагоды развівае хрысціянскую канцэпцыю часу ў зямным жыцці.

[16] *«Навука і рэлігія»* — лекцыя па матывах апостальскага (Ап. Дзеі 10:34–48) і евангельскага (Ян 3:16–21) чытанняў на 2-гі дзень Сёмухі. У 10-м раздзеле апостальскіх Дзеяў апавядаецца пра паварртанне ў хрысціянства адукаванага рымскага сотніка Карнілія ў Кесарыі, рэзідэнцыі рымскіх намеснікаў Іудзеі, яго сустрэчу з апосталам Пётрам і пра зыход дароў Св. Духа на ўсіх, хто слухаў казанне апостала пра выратавальную місію Хрыста. У 3-м раздзеле Евангеллі паводле Яна Езус Хрыстус у гутарцы з патаемна веруючым Мікадымам (Нікадзімам) абвяшчае выратавальную місію хрысціянскай веры, для якой патрэбна наноў нарадзіцца ў духу і святле: «Дух дыхае, дзе хоча, і голас яго чуеш, але не ведаеш, адкуль прыходзіць і куды сыходзіць: так бывае з кожным, народжаным ад Духа [...] А суд у тым, што святло прыйшло ў свет; але людзі больш палюбілі цемру, чым святло, бо ўчынкі іхнія былі ліхія».

[17] *«Адна няпраўда касуе ўсе праўды»* — лекцыя па матывах Апакаліпсіса (Апак. 7:2–12) і евангельскага чытання (Мат. 5:1–12), прыз-

начаная на дзень Усіх Святых. Раздзел 7-мы Апакаліпсіса прарочыць пра выратаванне вернікаў і тых, хто пакутаваў за праўду Хрыстову. («...Бо Ягня, якое пасярод трона, будзе пасвіць іх і вадзіць іх на жывыя крыніцы водаў, і вытра Бог кожную слязіну з вачэй іхных!») (Апак. 7:17). У 5-м раздзеле Евангелля паводле Матвея — Нагорнае казанне Езуса Хрыста.

[18] *Праўды ў камунізме, як слушна кажа расейскі філосаф Бярдзяеў...* — А. Станкевіч, верагодна, мае на ўвазе канцэпцыю Мікалая Бярдзяева пра адносную сацыяльна абмежаваную праўду сацыялізму, абгрунтаваную ў кнізе «Смысл творчества» (М., 1916; перавыданне ў кн.: Бердяев Н. Философия свободы. Смысл творчества. М., 1989. С. 479–498) і іншых трактатах. Але прызнанне нерэалізаваных «праўдаў камунізму» і крытыка яго бездухоўнасці ў А. Станкевіча больш глыбокая, чым у М. Бярдзяева.

[19] *...патварыліся новыя класы [...], якім плацяцца несумерна вялікія пенсіі...* — Тут пад «пенсіяй» аўтар мае на ўвазе заробкі ды шматлікія льготы савецкай партыйна-бюракратычнай наменклатуры.

[20] *Замест скасавання вызыску чалавека чалавекам...* — Тут паняцце вызыск абазначае эксплуатацыю.

[21] *«Мучанік за еднасць хрысціянскай веры і душы беларускага народа»* — казанне, прысвечанае беларускаму рэлігійнаму дзеячу, полацкаму уніяцкаму архіепіскапу Ёзафату Кунцэвічу (1580–1623), далучанаму да блажэнных пакутнікаў Касцёла (16 мая 1643 г.). Казанню пра Кунцэвіча папярэднічаюць апостальскае (Жыд. 5:1–6) і евангельскае (Ян 10:11–16) чытанні. У пасланні да яўрэяў ап. Павел гаворыць пра ахвярнасць першасвятароў, пакліканых ад Бога. У 10-м раздзеле Евангелля паводле Яна Езус Хрыстус кажа фарысеям: «Я ёсць Добры Пастыр. Добры Пастыр жыццё сваё кладзе за авечкі свае».

## АРТЫКУЛЫ І РЭЦЭНЗІІ

### *Этычныя падставы нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасцяў (с. 321)*

Навуковы даклад А. Станкевіча, перададзены ад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні на Кангрэс нацыянальных меншасцяў у Лондане 14—15.07.1937 г. Упершыню апублікаваны ў часопісе «Калоссе» (1937. Кн. 3(12). Вільня) з наступнай заўвагай рэдакцыі:

«Кс. Ад. Станкевіч, як прадстаўнік ад Бел. Нац. К-ту ў Вільні на Кангрэс Нацыянальных Меншасьцяў у Лёндане 14–15 ліпня 1937 г., дзеля незалежных ад яго прычын ня могучы там быць асабіста, пад вышэй азначаным загалоўкам прызначаны яму рэфэрат выслаў на гэны Кангрэс поштай. Выкідаючы з гэтага рэфэрату тое, што для



беларускага чытача няцікавае, галоўныя пункты яго падаём у цэласьці».

Друкуецца паводле гэтай першапублікацыі.

Ідэі гэтага даклада А. Станкевіч абгрунтаваў у сваіх шматлікіх артыкулах і ў манаграфіях.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца поўны машынапісны тэкст гэтага дакладу (5 машынапісных старонак на польскай мове). У прадмове да дакладу аўтар паведамляе, што ўсяго беларусаў на сваёй радзіме і ў расцярушанні ў эміграцыі каля 12 мільёнаў. Пасля Першай сусветнай вайны Беларусь падзялілі паміж Расіяй і Польшчай, у выніку беларусы аказаліся «нацыянальнай меншасцю» ў сваёй спрадвечнай краіне.

### *У аспекце сацыяльнай справядлівасці (с. 324)*

Гэты аналітычны артыкул пра першую публікацыю паэмы Максіма Танка «Нарач» (Вільня, 1937, 100 с.) упершыню апублікаваны ў часопісе «Калоссе» (1937. Кн. 4(13). Вільня).

Публікуецца паводле гэтага выдання.

[1] *Mens sana in corpore sano* — У здаровым целе здаровы дух. (лац.)

[2] *Праўдзівая паэзія не можа мець практычных мэтаў: этычнай, палітычнай, сацыяльнай, ні якой іншай.* — Гэтая занадта катэгарычная заява пра выключна эстэтычную мэту паэзіі часткова супярэчыць далейшым развагам крытыка пра сацыяльна-палітычны і этычны змест актуальнай паэзіі Максіма Танка, іншых беларускіх паэтаў.

[3] *Нараджаюцца* — тут у сэнсе *раяцца, сумовяцца.*

[4] *...без патрэбы дапускае ён часта паланізмы: нэндза, тлум; русізмы: алмаз, зара, а таксама [...] неалагізмаў: мяцеліць, жураўініць, крынічыць, паразвон.* — Гэтыя, на думку крытыка, паланізмы і неалагізмы М. Танка пазней трывала ўвайшлі ў беларускую паэзію.

### *Зацемкі аб П. Сергіевічу і яго творстве (з нагоды выстаўкі рысункаў і малярства) (с. 334)*

Упершыню апублікаваны ў часопісе «Калоссе», 1936. Кн. 1(5). Друкуецца паводле гэтай крыніцы. Да першапублікацыі дададзена рэпрадукцыя карціны мастака «Падарожная. Шляхам жыцця» (1934).

[1] *Прэцызыя* — дакладнасць (паланізм).

*Прамова пасла кс. А. Станкевіча*
*ў Соймавай асветнай камісіі 12.II.1924 г.*
*падчас разважання expose п. міністра асветы (с. 336)*

Друкуецца паводле час. «Крывіч» (1924, №1).

[1] *Сярэдняя Літва, або Усходняя Літва* — польская марыянетачная дзяржава на тэрыторыі Віленшчыны і Гродзеншчыны ў 1920–1922 гг. Утворана з мэтай далучэння гэтых зямель да Польшчы.


## SUMMARY

The present volume of the series is devoted to Adam Stankievich (1891–1949), a Belarusian politician and public figure, a publisher, a historian, a publicist, a literary critic and a Catholic priest, who played a considerable role in the national revival of Belarus.

Opposing the idea of the socialist revolution, he consistently asserted democratic bases in the country, supported an evolutionary way of development of the society and legal forms of struggle for the ideals. As a supporter of independent views Adam Stankievich adhered to the theory of originality of development of the Belarusian nation and awakened the national consciousness of the Belarusians on the basis of Christian ethics and democratic principles. He opposed the class approach in activity of the Communist Party of Western Belarus, condemned terror and persecutions of the Belarusian population from the Polish authorities.

The present edition of *The Selected* comprises the most considerable works by A. Stankievich including the thorough monographs *Christianity and Belarusian People*, *The Mother Tongue in Relics, To the History of Belarusian Political Emancipation* together with lectures, the gospel, speeches on Sundays and holidays and publicistic articles.

# ЗМЕСТ

БОЖАЕ СЛОВА

Лекцыі, Евангеллі і прамовы на нядзелі і святы







АРТЫКУЛЫ І РЭЦЭНЗІІ



*ПУП «Кнігазбор» выказвае падзяку выдавецтву «Про Хрысто» за чынны ўдзел у падрыхтоўцы кнігі да друку*

*Дадзеная публікацыя рэалізаваная ў рамках праграмы польскай замежнай дапамогі Міністэрства замежных спраў РП у 2008 годзе.*

*Непасрэдны выканаўца праграмы — Усходнееўрапейскі дэмакратычны цэнтр.*

**Станкевіч А.**

С 11 Выбранае / Адам Станкевіч; Уклад., прадм. і камент. Ул. Конана — Мн.: Кнігазбор, 2008. — 360 [8] с.: іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя II. Гісторыка-літаратурныя помнікі).

**ISBN 978-985-6852-66-7**

Кнігу выдатнага дзеяча беларускага адраджэння, каталіцкага святара, кандыдата багаслоўя Адама Станкевіча (1891–1949), загубленага карнымі органамі бальшавіцкай улады, склалі самыя значныя яго працы — манаграфіі, казанні, публіцыстычныя артыкулы.

Сорак чацвёрты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя II. Гісторыка-літаратурныя помнікі)

СТАНКЕВІЧ АДАМ
Выбранае

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Карэктар *Генадзь Вінярскі, Лідзія Карамазава*
Набор *Ларысы Ваўчок, Ірыны Сватко*
Вёрстка *Алега Глекава*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 22.09.2008 г.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Times New Roman. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 18,9+0,42 укл. Ул.-выд. арк. 20,62.
Наклад 1000 асобнікаў (1 з-д – 1-700). Зак. № 1126.

ПУП «Кнігазбор»
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0131712 ад 12.05.2006 г.
220112, г. Мінск, вул. Я. Лучыны, 38-93.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14**
e-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-6852-66-7

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
Ліцэнзія ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.2004 г.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы
РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць

МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае

ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы

ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы

ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае

ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае

ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе

АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае

ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае

АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы

ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік